# Іван Пташнікаў

## Том 3

АПОВЕСЦЬ
РАМАН

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1992

ББК 84Бел7
П 87

Мастак Н. У. Сустава

Третий том Собрания сочинений Ивана Пташникова составили повесть «Лонва» и роман «Мстижи».

Повесть «Лонва» посвящена послевоенному обновлению.

«Мстижи» — роман о современной белорусской деревне. Главный герой романа Андрей Величка, как и издавна его отцы и деды, трудился на земле, любил ее, защищал в Великую Отечественную войну, и он не может оставить землю, потому что связан с ней навсегда.

И «Лонва», и «Мстижи» — это глубокое раздумье о земле и природе, нашей действительности, о самой сущности человека, о его жизни в наше время, как никогда бурное и сложное.

П $\frac{4702120201-020}{М 302(03)-92}$ 102—91

ISBN 5-340-00815-0 (т. 3)
ISBN 5-340-00508-9

# ЛОНВА

## АПОВЕСЦЬ

Падзея, пра якую расказвае аповесць, адбылася ў нашых паўночных беларускіх лясах пасля вайны — у 1946 годзе. Людзі — сведкі яе — усе жывуць.

*Аўтар*

### *Раздзел першы*

## Жнівень. Ноч

Яны доўга стаялі на шашы...

Перад захадам сонца з зямлі сталі ўзлятаць вароны. Іх ганяла ветрам, чорных і лёгкіх, над раллёй, што цямнела далёка на пагорку за дарогай, аж ля маяка, куды трэба было ісці; іх прыносіла і сюды, да самай шашы, да моста, дзе тэлефонныя слупы, падымала, як шалёных, угору і шпурляла вобземлю, што леташняе збуцвелае лісце.

Сціх вецер — зніклі з вачэй вароны.

Толькі на захадзе, далёка за маяком, за рэдкі, высечаны лес апускалася сонца, памалу-памалу — зачапілася і яшчэ доўга будзе вісець там, пакуль раптам не ацяжэе, не сарвецца і не знікне за сінім краем зямлі.

Было ціха. Калі яны доўга глядзелі ад моста на гару, пачынаў дрыжаць у вачах малінавы захад і стукала ў галаве. Гэта ад цішыні. Глухой, даўкай і мяккай-мяккай... Такая цішыня настае толькі ўвосень.

Восень на Мсціжаўшчыне пачынаецца ў жніўні. Пачынаецца ў такія ціхія цёплыя яшчэ вечары захадам сонца, калі на разасланы ўдзень на лагу ля дарогі лён ападае халодная, што вада са студні, раса; калі яшчэ на старым сіўцы на сцежцы гудуць позні пчолы, цяжкія, калматыя, а за плечы крадзецца холад — пастой доўга на дарозе, далёка ад вуглоў; калі яшчэ лётаюць над зямлёй чорныя жукі, гудуць, што вясной, а ў лагчыны спаўзаецца халодны туман, баючыся яшчэ, асцярожна, ля самай зямлі крадзецца з далёкіх імшар, і здаецца тады, што ён

хоча ахутаць, схаваць ад людскіх вачэй першыя асеннія ночы...

Калі яны крануліся дарогай, убачылі, што сонца яшчэ не зайшло. Гэта яны стаялі ў лагчыне ля моста, а падняліся дарогай на горку,— яно зноў выплыла з-за рэдкага лесу, загойдалася, вялікае-вялікае і блізкае. Цераз поле толькі перабегчы — і яго дастанеш рукамі. І на яго можна глядзець не прыжмурваючы воч — не слепіць. Мусіць, недзе там, дзе яно заходзіць,— густы туман.

Сонца зноў пачынае паволі ападаць за рэдкі лес — яно барвовае толькі знізу, зверху — жоўтае і — дрыжыць. Пасля яно раптам правальваецца між дзвюх сасновых вяршалін...

Яны зноў сышлі ў лагчыну.

На захадзе цяпер невялікі край неба стаў чысты і пунсовы: на пагоду; там заружавелася і рэдзенькая далёкая дарожка ад самалёта.

Яны ўжо звыкліся, што ім трэба будзе ісці пехатой аж чатыры з добрым гакам кіламетры: цямнеецца, каго станеш чакаць,— машыны з леспрамгасаўскай аўтакалоны больш не пойдуць. Вінаваты быў ён, сам Завішнюк. Калі разабрацца — то які чорт панёс яго нанач у Лонву са Мсціжаў, дзе давялося быць увесь дзень на нагах, дзе не выпала добра прысесці перакусіць... І яго дзяўчаты — Жэнька са Светай, якія маўчаць усю дарогу, між сабой нават не гавораць,— гэтага не даруюць яму.

За плячыма ў Завішнюка трыножнік, у адной руцэ скрынка, у другой скрынка... Яго дзяўчаты нясуць свае чамаданы і ягоны рэчавы мяшок. Яны ўзялі мяшок у яго з рук... Забрала сама Жэнька,— сабе на плечы.

Дарога, падняўшыся на пагорак, агінае лагчыну і выходзіць на лажок, які парос сіўцом і пад'ялоўцам. Воддаль, пад лесам, пад'ялоўцу ўжо не відаць: ён, як чорныя копкі сена, хаваецца ў белым тумане.

Наперадзе, на далёкім пагорку ля маяка, які чарнее на зялёным небе, што сухое дрэва, рыкаюць каровы: пастухі пагналі дамоў скаціну. За ёй падымаецца на дарозе белы пыл і цягнецца полем аж у вёску.

Брэша сабака, крычаць на сутонні пастухі, галёкаюць на ўсё горла, як і сто, як і дзвесце гадоў назад у гэтым лясным краі — на Мсціжаўшчыне.

Завішнюк падумаў, што пастухоў ужо не дагоніш, і пайшоў паволі: несці скрынкі было цяжка. Дзяўчаты дык тыя даўно прысталі — спыняліся і аставаліся ззаду.

Нылі над вухам рэдкія ўжо камары — баяліся холаду. Ля бяроз, што пазаціхалі нанач ля дарогі, пырхалі сініцы. Недзе ля вёскі, за кустамі ў тумане, гагаталі гусі і крычалі дзеці. Там, дзе зайшло сонца і дзе былі відаць рэдкія сосны, пачынала цяпер бялець у цемнаце новымі стрэхамі Лонва.

Побач недзе была яшчэ дарога. Там скрыпелі калёсы: з балота калгаснікі вазілі сена. Завішнюк бачыў іх ля моста на шашы, калі яшчэ было відна. У калёсах на балота ехалі жанчыны. І цяпер далёка па лесе чуваць іхні гоман:

— Ідзі па-ма-гай!.. Кола валіцца-а-а!..

Завішнюк спатыкнуўся, выпусціў з рук скрынкі і дастаў з-пад ног кавалак гусеніцы: цяжкі, белы, вышараваны за лета аб пясок. Запахла мазутам.

Ягоныя дзяўчаты спалохаліся, але ён устояў на нагах, і дзяўчаты засмяяліся — першы раз за ўвесь вечар. Змораныя, яны засмяяліся, відаць, і ад таго, што заўважылі, як у вёсцы заблішчалі агні. Значыць, ісці было ўжо не так далёка.

Там, дзе дрыжала празрыстае неба, чарнелі хмары, гусцелі і сунуліся на вёску. Закігікалі кнігаўкі. Недзе блізка заржаў конь. Прагрукатаў па цвёрдай зямлі і празвінеў падковамі аб каменне табун. Засвісталі начлежнікі.

На ўсходзе, над цёмным лесам, пачаў выразацца з хмар блеклы, сцёрты з краю месяц. Сцямнела. У полі на дарозе яны былі цяпер адны. Цяжка ступалі па ўбітай зямлі ногі. Цяжка дыхалі дзяўчаты.

Над імі лёталі кнігаўкі.

У Завішнюка спацелі плечы і стылі на холадзе, дранцвелі ад скрынак рукі. А ён усё ішоў — упарта, наперадзе.

Ішлі бадай гадзіну і, калі падыходзілі да самай вёскі, заўважылі, што апагодзілася. Неба стала чыстае, і на ўсходзе, здавалася, якраз у тым баку, дзе яны доўга стаялі на шашы, павіс белы месяц. Начы праз дзве будзе поўня.

На грэблі блішчала на абочынах альховае лісце, а ў крыніцы, ля якой яны ішлі — дзяўчаты наперадзе, Завішнюк за імі,— дрыжала доўгая вузенькая дарожка.

На грэблі іх дагнала парожняя падвода. Змораны чорны конь, увесь мокры ад поту, ледзь перастаўляў ногі. На калёсах, недзе там, глыбока на дне, упчаміўшыся між драбін, сядзела белагаловае, малое зусім хлапчаня.

«Зноў машына... Чаркашын...» — усміхнуўся Завішнюк і, сышоўшы са сцежкі, спыніў каняку. Хлапчаня за-

чмыхала. Ён узяў яго на рукі — яно сказала пісклявым голасам, што нідзе на балоце не знайшло ні сена, ні мамкі і што конь сам пайшоў назад.

Яны паклалі на калёсы скрынкі і рэчавыя мяшкі, а Света, смеючыся, дала «шафёру» цукерак і ўсё нешта шаптала яму. Пасля яны пачалі шаптацца між сабой — Света і Жэнька. Завішнюк не любіў іхняга шэпту, ён хацеў аклікнуць іх... Але на душы ў яго пасля такой доўгай і цяжкай дарогі перад самай вёскай раптам стала пуста і трывожна. Ён змоўчаў. Чамусьці не хацелася ісці далей, у Лонву, хацелася зноў скінуць усё з калёс, вярнуцца назад, на шашу, чакаць, хоць усю ноч, машыну, каб раніцай быць у Мсціжах, у лясніцтве...

Яму зноў успомніўся Чаркашын з леспрамгасаўскай аўтакалоны. Стаяў перад вачыма — на сваёй адломанай падножцы ля кабіны. Высокі, абстрыжаны ледзь не дагала, насаты і ў чыстай беленькай сарочцы, з закасанымі па локці рукавамі.

Чаркашына ён ужо ведаў...

Вясной, калі аднойчы ўпоцемку дабіраўся да Мсціжаў з квартала, дагнала яго машына, бітком набітая жанчынамі. Сама спынілася, самі адскочылі дзверцы, і з кабіны, разгінаючыся, высунуўся чалавек, які невядома як там і тоўпіўся.

— Пяцёрку з носа. На бензін... Га-га... За «дзякуй» не падбяру. Ацямнее. Ваўкі з'ядуць. Ноч...— вышчараў ён белыя зубы.

Ад машыны, здалося Завішнюку, пахла не бензінам, а самагонкай. Тады ён тыцнуў Чаркашыну ў руку пяцёрку, новенькую, аж белую, помніць і цяпер, і, нічога не кажучы, пайшоў пехатой — сваёй дарогай...

Чаркашын тады быў адразу змоўк. Маўчалі і бабы ў кузаве. Рохкалі толькі недзе пад імі парасяты.

Пастаяўшы на дарозе, Чаркашын пасля зноў дагнаў яго, Завішнюка, падруліў да абочыны і загарадзіў сцежку...

— Што ты за балван? — гаркнуў ён цяпер ужо з кабіны, не вылазячы.

— Хачу жыць...

— А-а-а... Значыць, я п'яны за руль сеў? Значыць, я?.. Значыць, я магу машыну людзей улялюшчыць? І ў іхнія Крывічы на іхні рынак не затарабаніць? Не-е... Да поўначы будуць там, як міленькія... Я не такі. У мяне — слова. А ты, брат, мяне ўнізіў... Вазьмі грошы!..— зароў ён раптам на ўвесь лес, аж адгалоскі пайшлі.

— Не прыставай. Запішу нумар...

— Нумар? Ён нумар запіша... А на храна табе той нумар? Па нумары доўга шукаць будуць. Чаркашын я! Чаркашын! Чуў? Так і скажы. Ох, мяне знаюць...— шпурнуў ён наўздагон яму, Завішнюку, пяцёрку. Тая не адляцела далёка ад яго рукі і ўпала на пясок яму пад ногі.— Законнікі!.. Законнікі!..— Чалавек аж захліпаўся.— А я на вас... Ану, бабы,— плату! Што? Дамаўляліся не так? Чорт з ім, што дамаўляліся. Што? Не злезеце? Не-е... Так турну, што і парасят сваіх парассыпаеце. Можа, і з вас хто нумарок запіша, га? Законнікі!..

Бабы маўчалі.

Нехта дастаў з кузава рукой і пагладзіў яго па стрыжанай галаве, тады сунуў яму ў рукі грошы. Чаркашын аціх.

Людзі на машыне загаманілі, закраталіся, пачалі ўставаць.

Завішнюк больш нічога не бачыў. У Мсціжы ён тады прыйшоў позна ноччу.

Сёння Чаркашын, дагнаўшы на сваім прычэпе яго ля моста, адразу пазнаў. Не спыняючыся, адкінуў дзверцы і высунуўся з кабіны. Прытармажваючы, так каціўся і каціўся ціха з горкі.

— Адзін чалавек. У кабіну. Выбіраю сам. Ты, чорная...— кіўнуў ён галавой Жэньцы,— лезь мне за плечы. Адным вокам міргні — куды хочаш дастаўлю. Можаш і белую з сабой... калі я такі страшны. Паціснемся. Я апошні. Калона ўся ўжо на ўчастку. А я бабак быў тут падкінуў, запазніўся...— На яго, Завішнюка, ён не глядзеў.— А ён — што? Цехрук ваш? З вамі? Дойдзе. Ён добра бачыць ноччу, шчанюк...

Жэнька раптам адвярнулася ад Чаркашына, нават ён, Завішнюк, такога не чакаў.

— Нічога...— Чаркашын пацішэў і ўсміхнуўся.— Сама да мяне палезеш у кабіну. Прыйдзе час... А ты, у акулярах... Не кусай пазногці. Запішы нумар... Запішы. Акуляры толькі трымай: з носа зваляцца. Я знаю, хто ты. Смарчок... Яшчэ нам гразіць. З такімі мне ў кабіне цесна. Це-е-сна... Ну, чорная... Я цябе даўно ўгледзеў з-за дрэва ў нашым лесе. А ён не такі вялікі... Знойдземся...

Да яго падбегла была Света.

— Белых не люблю і не важу. Смятана...— Ён не даў ёй сказаць і слова.

У Завішнюка і цяпер яшчэ стаяла ў вушах, як браз-

нулі, аж трэснуўшы, дзверцы, як зазвінеў ад натугі матор і забразгаў ланцугамі, скачучы па мосце, прычэп.

Чаркашына як і не было. Доўга толькі яшчэ на шашы пахла дымам.

Пасля яны доўга стаялі і маўчалі,— мусіць, злавалі адно на аднаго. Тады забыліся на Чаркашына і на ягоны прычэп: трэба было ісці — вечарэла.

...Завішнюк і не заўважыў, як зноў спыніў каня і пачаў папраўляць хамут. Хамут быў малы, цёр каню шыю, і конь дрыжаў, калі да яе дакраналіся рукі. Пасля Завішнюк падышоў і пагладзіў «маленькага Чаркашына» па белай галоўцы. Той задзёр угору носік — у роце ў хлопчыка была цукерка: ён сядзеў, як надзьмуўшыся, і жмакаў рукамі лейчыну.

Да Завішнюка падышла Жэнька. Вочы яе, чорныя ўдзень, блішчалі цяпер, як ад агню. Гэта ад злосці.

Яна падняла руку, відаць, хочучы тузануць яго за крыліну пінжака, але толькі сказала:

— Дакуль вы будзеце нас мучыць? Эх, вы-ы...

Пасля моўчкі са Светай пайшла пасярод грэблі да вёскі.

Завішнюк пастаяў яшчэ ля воза. Хлопчык маўчаў, падымаў галаву і глядзеў усё Завішнюку ў вочы — баяўся, відаць, без маці з чужымі людзьмі ехаць дамоў.

Завішнюк правёў каня за аброць, пасля сышоў з ездавой дарогі на сцежачку ля канавы — следам за дзяўчатамі. Падумаў, што Жэнька так сказала яму другі ўжо раз. Першы — ён не помніць ужо калі — недзе на пачатку лета, калі да яго ў Мсціжаўскі лясгас прыслалі дзвюх практыкантак. Прыслалі іх з тэхнікума, дзяўчатак яшчэ зусім, памочнікамі таксатара. На ўсё лета.

— Зарабляць прыехалі?..— самае першае спытаў ён у іх — прыйшло ж у галаву! — і вось тады яна яму выпаліла... Запомніцца... Тады, мусіць, ён і пачуў гэтае: «Эх, вы-ы...» Цяпер ён ведае, што Жэнька гаворыць «Эх, вы-ы...» толькі тады, калі ад злосці больш нічога не можа сказаць. Жэнька злосная...

«Лета... Мсціжы...» — Завішнюк ішоў паволі сцежачкай ля канавы, утоптанай, белай у цемнаце ад пяску-сіпаку.

Да моста з горкі ён спускаўся разам з калясьмі, узяўшыся за ляжэйку. Калёсы тут ужо не ляскаталі, як на грэблі: калдобіны былі засыпаныя жвірам; за ракой на выгане, дзе, відаць, збіраліся начлежнікі, далёка ў тумане гарэў сляпы агеньчык — блішчаў, як жоў-

тая плямка на вялікім белым абрусе. Толькі за рэчку, у аселіцы да вёскі, туман не асмельваўся пералезці і павіс над берагам. Так, бывае, кідаюць з берага раскручанае палатно, якое прынеслі бяліць,— канцом у раку.

У вёсцы добра былі відаць чорныя ліпы над хатамі. Крычалі на ўсю вуліцу дзеці; далёка, у другім канцы, дзяўчаты спявалі штосьці працяжнае і незнаёмае. Завішнюку рабілася сумна і неяк трывожна ад таго, што ён не ведае ні гэтай песні, ні тых, хто спявае яе, што ён многа, многа чаго не ведае ў Лонве.

Чамусьці яму стала шкада сваіх дзяўчат. А яны, выходзіць, нікуды далёка ад яго і не ўцяклі. Стаяць вунь за мостам на тым беразе ракі.

— Хай ён давязе... Ну... давязе туды, дзе мы будзем начаваць. Як я хачу спаць, як хачу спаць...— Жэнька першая загаварыла да яго, і ён атрос далонямі спераду свой пінжак, нібыта выцер ад пылу. Заўсёды ён так рабіў, калі на яго раптам звальваўся клопат. І сам гэта ўжо заўважаў.

— Хай давязе...— адказаў ён Жэньцы і папраўляў усё на носе акуляры: яму здалося, што ён сёння ўвечары праз іх нічога не бачыць.

За мостам адразу пачыналася вуліца. Павярнуўшы па ёй направа, яны ціха праехалі праз канец вёскі, не сустрэўшы ні адной жывой душы.

Ужо ў вёсцы Завішнюк быў разгаварыўся з хлопчыкам. Выйшла, што той — ягоны цёзка: яго звалі, як і Завішнюка, Толя.

Завішнюк сказаў яму, куды пад'ехаць. Хлопчык добра ўсё ведаў, хоць быў зусім малы.

Яны спыніліся на вуліцы ля вялікіх, зачыненых з двара варот з новай жоўтай сасновай брамай. Склалі на лаўцы, што была ля частаколу, скрынкі і адпусцілі хлопчыка з падводай. Жэнька зноў сунула яму нешта ў рукі.

На вуліцы яны стаялі доўга: у хаце не было агню. Пасля Завішнюк ціха адчыніў вароты — яны зарыпелі, аселі і сунуліся, хоць і новыя, па зямлі. Па двары ён ішоў памалу і ўсё глядзеў у цёмнае акно. Дзверы ў сенцах былі «замкнёны»: клямка надзета на прабой, у ім — доўгі сасновы сук.

На двары было ціха і адзінока. Завішнюк зноў адчуў, што ў яго стыне мокрая спіна, бы туды закінулі друзалачак лёду, маленькі, як змылачак. Ён, Завішнюк, падумаў

яшчэ, што не чуе пад сабой ног. Здалося, што на двары па калені жвіру.

Месяц свяціў за хатай, і на двары стаяў змрок, але можна было пазнаць, што на студні новы зруб. Калі Завішнюк падышоў і апёрся на яго рукамі, адчуў, што зруб сыры і халодны. Пачуў, як на дно ў студню капала вада. Ён убачыў там краёк неба і зорку... Пасля ён глянуў на неба і ўгледзеў над фермай Вялікую Мядзведзіцу — яна паказвала сваёй доўгай худой лапай якраз на дарогу, на Мсціжы...

Ён тады апусціўся на калодку ля дрывотні: не хацелася вяртацца на вуліцу ні з чым. Сядзеў доўга, аж пакуль не ляпнулі вароты і цётка Грасыльда — ён адразу ж яе пазнаў — не загаманіла яшчэ на вуліцы:

— Каго гэта носіць поначы па чужых дварах? Адысціся няма як адной, хоць бы да Акцызніка... Хаты няма як пакінуць... Вуглы разнясуць. Прыгоніць жа бура... Лаўку абселі на вуліцы. Хто гэта? Чужы нехта? — голас у Грасыльды мякчэў, калі яна падыходзіла бліжэй.— Божачкі... Хоць ты кліч каго... Сядзіць, во, ля самай студні, галаву ашчарэпіўшы. П'яны, ці што? Вось і кінь хату адну. Яшчэ і тых панаводзіў...— Яна паказала рукой на вуліцу.

Ён маўчаў, і Грасыльда, відаць па нечым, толькі ёй знаёмым, угадала — на двары нехта не п'яны — і сціхла — думала, мусіць, што рабіць.

Дзяўчаты паўставалі з лаўкі і падышлі, абаперліся з вуліцы на вароты.

Грасыльда, нічога не кажучы, павoлі павярнулася і, ледзь перастаўляючы ногі,— думала ўсё нешта сваё,— пайшла да дзвярэй, выцягнула з прабоя сук, патрымала ў руках, пасля сунула яго недзе пад страху. Тады скінула клямку — тая глуха бразнула аб дошкі — і адхінула дзверы.

Завішнюк устаў і доўга глядзеў на Грасыльду. Твару яе цяпер ён не бачыў, але яна, відаць, зусім не змянілася. Такая ж рухавая, хоць і мажнаватая; на плечы накінуты светлы жакет — ён добра відаць у цемнаце на двары, на галаве закручана ў вузел каса. Грасыльда толькі, здалося яму, неяк паменшала ўся. А можа, гэта ён выцягнуўся за такі кароткі час — ад вясны?

Яна схавалася ў праёміне дзвярэй і доўга не паказвалася.

Ён падаўся да сяней. У хаце загарэўся агонь, праз двое адчыненых дзвярэй падаў яму на твар — нічога нельга

было ўбачыць. Завішнюк пачуў толькі, як на парозе Грасыльда пляснула ў далоні:

— Дык гэта вы... Адкуль жа гэта?..

— З дарогі... Са Мсціжаў. Зноў да вас, калі пусціце...— Ён зачыніў за сабою сенцы і доўга яшчэ стаяў на парозе.

— Калі пушчу?.. Ды я ж адна як палец...— Грасыльда памаўчала, бо была чуць не заплакала.— А я пазнала, што на двары нехта як свой. Чужы б так не сядзеў...— Яна паківала галавой і ўсміхнулася аднымі толькі вачыма. Ён убачыў, што твар яе, некалі шырокі і прыгожы, цяпер зусім пастарэў, асунуўся, выступілі скулы — вунь як знаць. Нават пры агні відаць ужо многа маршчын, глыбокіх і непрыгожых. Вочы яе блішчалі, мусіць, ад прыхаваных слёз. Блішчалі ад агню і яе белыя на галаве і ў касе на патыліцы валасы.

— А на вуліцы... жонка? — Яна спыталася і адразу ж падалася ад яго, можа, каб пабегчы да дзяўчат.

Завішнюк адчуў, што яму раптам цяжка стала гаварыць, але ён, хутчэй мо на мігі, сказаў ёй, хто там на вуліцы.

Грасыльда тады вярнулася, села ля стала, дзе гарэла лямпа, на ўслончык, глядзела на яго, Завішнюка, і маўчала. Пасля ўстала, узяла з шастка ля печы чорную хустку, ускінула на галаву — хавала валасы — і, выцершы ражкамі хусткі твар, так робяць у вёсцы жанчыны, сказала:

— Кліч тых у хату.

— Я пераначую сёння ў хляве. На сене...

— Кліч іх у хату. Што ж гэта я стаю, як дурная? Вячэраць жа што трэба. Малако ёсць кіслае, хлеб. Што ж гэта я стаю? Пліту падпаліць трэба... А спаць — і ў хаце ложкі ёсць. І табе і ім. З дарогі на дварэ... прастынеш... Я на печы лягу...

Света ўжо драмала на вуліцы, седзячы на лаўцы. Жэнька да яго, калі ён прыйшоў, нават не загаварыла. Ён тады пакратаў за плячо Свету; яна паднялася, нічога не кажучы, узяла скрынкі, піхнула вароты і пайшла на двор. Жэнька панесла за ёй чамаданы — цягнула аж па зямлі. Завішнюк узяў свае мяшкі, трыножнік і павалок на двор, як нешта зусім чужое.

Мяшкі пасля ён сартаваў адзін у сенечках. Бразджала лента, звінела і цокала нешта ў скрыначках,— ён баяўся тады, каб не пабіць тэадаліт.

Грасыльда вынесла на двор вядро з вадой і конаўку.

Яна палье яму на рукі... Але ж у хаце дзяўчаты — і ён сказаў Грасыльдзе, каб паставіла вядро на дошкі, што складзены штабяльком ля частаколу. Памыецца і сам, не зломак.

Калі ён вярнуўся ў хату, дзяўчат нідзе не было. Яшчэ стоячы ў парозе, ён падняў галаву і ўслухаўся, што робіцца за перагародкай. Грасыльда тады дала яму знак, што дзяўчаты, не вячэраўшы, пакладіся спаць, удзвюх на ложку — яна ім пасцяліла.

— Змарыліся вунь як. Па іх відаць. Усё адно як дзень памалочвалі. І яны ленту з табой цягаюць?

— Са мной. Дзень і ноч... І цяпер ад самай шашы да вёскі яе расцягвалі... Вось так...— ён усміхнуўся і размахнуў рукамі, трымаючы за канец доўгі белы ручнік, якім выціраўся яшчэ і ў хаце ля парога.— Ця-яжкая работка...

— Не смейся з іх. Яны дзяўчаткі. Худзенькія якія. А беленькая, дык зусім... Ідзе і спіць. Ногі за зямлю чапляюцца,— шаптала яму Грасыльда і, прыгнуўшыся, паказвала на занавеску, што закрывала праход у другую палавіну хаты.

Ён мог закласціся, што так зрабіла Жэнька ад злосці, і сам пачынаў злаваць на яе. Хацеў пайсці за паркалёвую занавеску, разысціся, пасцягваць іх, раздзетых ці нераздзетых, з ложка і прыгнаць за стол,— характар знайшлі дзе і каму паказваць... Але ён аціх.

«Характар дык характар. Хай гартуецца. Не пашкодзіць. Вы яшчэ зусім пісклbriefly...» — падумаў ён.

Ён вячэраў, а Грасыльда не зводзіла з яго вачэй. Сядзела на маленькім услончыку ля пліты — доўга і ціха. Яму было чуваць, як варочаліся на ложку і шапталіся дзяўчаты. Шаптала нешта адна Света.

«Мог бы ўзяць машыну заўтра ў лясніцтве. Мог бы да таго насатага ля моста падысці. Стаяў... Мучыліся гэтулькі...» — пачуў ён і хацеў ускіпець, але Грасыльда глядзела і глядзела на яго, ківаючы галавой, і ён зноў аціх. Падумаў толькі: «Каб жа мог...»

— Змардаваліся як. Мусіць, спрасоння гаворыць нейкая...— Грасыльда ўсё ківала галавой.

Ён ведаў, што ні Жэнька, ні Света яшчэ не паснулі і гаварыць спрасоння не могуць.

Калі ён устаў з-за стала, Грасыльда прыкруціла агонь у лямпе, «каб не звінелі мухі, за дзень галаву адурылі», і паклікала яго на двор. На двары, на дошках ля частаколу, ляжала белая падушка, пасцілка і дзве фуфайкі — на-

крывацца. Месяц не свяціў яшчэ з-за хаты на двор, але Завішнюк бачыў, як Грасыльда перакідвала іх з рукі на руку, пасля панесла да хлява.

— Холадна ўжо ўночы. Восень надыбае.

У хляве было аж па бэльку сена. Да яе была прыстаўлена драбіна. Ён падняўся і вобмацкам зрабіў сабе пасцель.

— Я ўжо не помню, калі ў мяне хто спаў на сене. Трактарысты залетась, ці што, як стаялі...— Грасыльда ўздыхнула.

Ён апусціўся долкі па драбіне, і яны доўга яшчэ сядзелі пад частаколам ля дошак, маўчалі. Слухалі, як на вуліцы, ідучы з фермы, гамапілі мужчыны.

— Пра што гаварыць, дык і не ведаеш,— азвалася, пачакаўшы, Грасыльда.— Думаеш адно, а слова не тое з языка скоціцца. Я ўсю ноч не засну, калі чужы чалавек у хаце... Пра сябе ўсю перадумаю. Пра сваю жызню. А ты спі. Ідзі спі. Заўтра, вунь, і мне лён трэба рана збегаць разаслаць, пакуль да малатарні ісці. А я ж і на ферме... Бабы ў нас на лён рупяцца,— сказала яна, памаўчаўшы.— А не — то пасядзі пад плотам, пакуры, камароў яшчэ паспееш накарміць. Хаця, я не бачыла нешта і перш, мусіць, не бярэш у рот папяросы... Пасядзі тады так, дзверэй у хлеў можаш не запіраць на кручок. А то рана буду ісці даіць карову — падыму. Калі ж праўда, што вы тут з дзяўчатамі доўга пабудзеце, то добра.

— Праўда...

— Я рада. Пагаворым хоць. На свеце шмат усякіх нецікавасцей, а вы ўсюды бываеце. Я табе сама многа чаго расказаць манілася яшчэ вясной. Ты мне — як сын. Так што — хай і дзяўчаты вашы будуць у нас. Месца хопіць. Мне, старой, весялей будзе... Ну ідзі, ідзі...— Грасыльда то прасіла яго яшчэ пасядзець, то тут жа гнала спаць.— Ідзі, сын. Вочы ў мяне, старой, зліпаюцца, а маладое яшчэ больш спаць хоча...

Яна паднялася і, цяжка ступаючы, пайшла да ганка. Зашчапіла за сабой у сенцах дзверы на кручок, бразнула клямкай, ідучы ў хату, і адразу ў хаце патушыла лямпу.

...Месяц ужо выплыў з-за хаты і павіс за вёскай, нізка, над самай ракой. Жаўтаваты, надкушаны, у смузе,— ён, здавалася, быў мяккі і сумны, усё роўна што добрай душы чалавек.

Узняўся начны лёгкі вецер. Шапацелі ў гародчыку дрэвы, густа і нудна — па-асенняму. На дрывотні, пад варыўнёй, хлыстала па бервяне тонкая сасновая карына. У небе гарэлі зоркі, і далёка над лесам гулі і гулі самалёты.

Вецер парой мацнеў, дзьмуў недзе зверху, з-за хаты. Бразгаў тады аб частакол асвер, тоненька звінелі за вуліцай правады — там была тэлефонная лінія, вяла гародамі на леспрамгасаўскі ўчастак, да канторы. У хляве цяжка дыхала карова; у гародчыку ў такі позні час яшчэ не спаў конік-цвыркун. Калі ён змаўкаў, тады адразу было чуваць, як булькоча ў канцы вёскі рака і брэша, глуха і працяжна, нечы стары сабака.

Пасля зноў на ўсходзе над лесам пырскалі зоркі і гулі самалёты. А над усёй Лонвай у небе панаваў Млечны Шлях.

Завішнюк доўга яшчэ сядзеў пад частаколам, аж пакуль не стала зусім цёмна. Пасля запёрся ў хляве на кручок, падняўся па драбіне, пералез цераз бэльку і, адсунуўшы пад страху белую падушку з посцілкай, зарыўся глыбока ў сена з галавой.

«Грасыльда разбудзіць рана»,— падумаў ён.

## *Раздзел другі*

# Мсціжаўскія лясы

— Рушым, ці што?.. Чаго сядзець пад плотам на сонцы?..

— Пайшлі, праўду кажаш... У лесе цень. Хлапец толькі нечага ў хаце прыкарэў. Юрка-а-а! — Акцызнік крычыць і крэкча, падымаючыся з-пад плота, усміхаецца нечага на ўвесь зубаты рот. Русыя, пажаўцелыя пад носам вусы ў яго апускаюцца канцамі ўніз. Здаецца, што Акцызнік узяў у зубы кароткі жоўты пшанічны колас. З-пад чорнай, выцвілай і зашмальцаванай ад поту кепкі на лоб у яго выбіваецца маленькая мокрая пасмачка валасоў. Пасівелых ужо, як попел ад альховых дроў. Андрэй Акцызнік — лысы.

— На слупкі адпускаю толькі адзін дзень... Заўтра — на лінію...

— Гатоў рассыпацца драбней маку, таксатар...— Акцызнік яшчэ больш усміхаецца, і пшанічны колас астаецца ў яго на верхняй губе. Ніжняя зусім адвісае, да яе — Завішнюк толькі цяпер заўважыў — прыліп чорны агарак самакруткі.

Акцызнік у гадах — яму недзе пад пяцьдзесят, а рухавы, відаць, з гумарам.

— Пілу, востры тапор-калун, скоблі...

— І каня ў аглоблі...— перабіў ён Завішнюка і, сагнуўшыся, падняў з-пад плота «свае прычындалы».— Усё пад пахай, адным махам...

З хаты ад Андрэя, смеючыся і азіраючыся на дзверы, выбег хлопец гадоў дванаццаці, перавальваўся з боку на бок і касалапіў, як мядзведзь. Гэта Юрка Даліна.

«Шанцуе мне на Юркаў,— падумаў Завішнюк.— У Мсціжах у мяне ленту цягаў такі самы Юрка...»

Юрка Даліна будзе сёння памагаць Андрэю рабіць слупкі. Дамаўляліся раніцай. Ні стары, ні малы не верылі, што ім на расцяробе лініі «гэтулькі многа» будуць плаціць. Давялося паказаць расцэнкі. Тады раптам упёрся Акцызнік: давай яму грошы цяпер, зараз жа, ну, а калі ўжо на тое пайшло — то вечарам, адразу пасля работы. Давялося яшчэ больш распінацца, што ён, Завішнюк, толькі таксатар, ніякі не казначэй, што грошы «першага чысла» будзе плаціць лясніцтва і палучаць іх трэба ў канторы. Тады Акцызнік сказаў, што падумае, ці варта звязвацца з лясніцтвам. А падумаўшы, разважыў, што на сённяшні дзень нідзе так не заробіш, каб і хацеў, і папрасіў даць «чэснае слова» і закурыць «Беламору».

«Ленту ж цягаць», як пачулі, прыбеглі дзеці з усёй вёскі.

— Сёння слупкі, слупкі і яшчэ раз слупкі...— не сціхаў Завішнюк.— А тады на лінію. Церабіць і церабіць. Заўтра ж, хоць і нядзеля. Пойдзем, відаць, з сорак восьмага квартала, старой, даваеннай лініяй. Гэта — па маім плане — ад Каралінскай пасекі на Цяні, недзе помніце. Там балота, карчы, лес-валежнік. Трэба тапары, тапары і яшчэ раз тапары. Вострыя, што нажы...

— Хе-хе-хе... Каб на яго...— смяяўся Андрэй. Можна было падумаць, што ён толькі тое і робіць — смяецца ўвесь дзень, на другое няздатны.

Яны выйшлі на развілку дарогі на ўзлессі,— да лесу ад Андрэя зусім блізка: ён жыў з самага краю Лонвы, яго хата была канцавая ў вёсцы.

Ззаду за Андрэем калдыбаў уроскідку Юрка Даліна. Махаў рукамі, аж пакуль Андрэй яго не штурхнуў. У Юркі шырокі, круглы, загарэлы за лета твар — у чорных шрамах і сіняках. Валасы — чырванаватыя, падстрыжаныя пад «вожык». Стрыгся ён даўно, і цяпер яго «вожык» тырчыць ля вушэй. Нос у Юркі шырокі, і ён шморгае і шморгае ім раз-пораз. Калі гаворыць — глядзіць толькі ў вочы. Вочы ў яго самога шэрыя, бровы светлыя, густыя, рот чуць-чуць раскрыты, і часта можна ўгледзець на дробных ніжніх зубах кончык вострага языка. Завішнюк адразу заўважыў, што Юрка робіць усё, што яму ні скажа Андрэй.

Андрэя Акцызніка Завішнюк трохі ведаў. Жыў Акцызнік у суседзях з Грасыльдай. А вясной Завішнюк сядзеў над планам лонваўскіх лясоў і стаяў у Грасыльды бадай месяц. Андрэя бачыў часта: той прыходзіў да Грасыльды па ваду — сваёй студні ў яго на двары не было — і кожны раз, начапіўшы вядро на крук, ішоў у хату да бабы хоць чаго пазычыць. Рубель грошай — хоць сам жыў на зарплаце, а Грасыльда з працадня, рэшата — пасылала жонка,— солі, нажніцы, пытаўся самагонкі.

— Згінь ты, благое, прападзі, суседка... Не бачыў ні разу, каб гнала, але можа ж... Не там куры яйкі нясуць, дзе кудахчуць... Хоць з бутэлечку. Сын з Буслава прыехаў. Хе-хе...

Акцызнік — жы́ла і п'яніца. Завішнюк гэта ўжо ведаў. Працаваў Акцызнік у леспрамгасе вартаўніком на ўчастку. Была ў яго ўжо другая жонка — Юзэфа Шульга, намнога маладзейшая за яго. Працавала яна ў аўтакалоне дарожніцай, рэдка стыкалася дома і не глядзела Андрэя. Звалі яе чамусьці ўсе толькі — Шульга. Была яна нявідная, маленькая, хадзіла вечна сагнуўшыся і шоргала нагамі па зямлі. Андрэй нідзе пра яе ніколі не гаварыў.

— Згінь ты, благое, прападзі... Дык ты ўжо, глядзі, таксатар, не падводзь. Добры пастух не пра сябе дбае, пра скаціну. Рабіць будзем на совісь...— Андрэй мог мяняцца на вачах. То толькі што смяяўся, не закрываючы рота, то так сцінаўся, што здавалася, яго вось-вось пачнуць рэзаць, як жывёлу, якую загналі на бойні ў загарадку. Такі ён рабіўся тады, калі «закідаў слова» пра грошы.— Слуп — паўтара метра, як і паложана. Аскоблены, асмалены. Дваццаць сантыметраў у таўшчыні, не змешу ні на волас. У канцы — папярэчка. Тандэту не раблю. Толькі, таксатар...

Акцызнік набіваў сабе цану, хоць і ведаў, што больш,

чым у таксе, Завішнюк не заплоціць. Але ён яшчэ ведаў і другое,— у ведамасці ўсё можна дапісаць. Граф там многа. У леспрамгасе так робяць: і прыёмшчык Альшэўскі і... Каму-каму скажы, толькі не яму, Акцызніку. Бачыў...

«Ну і на здароўе, калі здаралася...» — хацеў адказаць яму Завішнюк, але змаўчаў. Лішняя звяга.

...Сасну Завішнюк выбраў сам. Андрэй з Юркам Далінай скінулі яе з пня. Адмералі на першы слуп з камля. Завішнюк з Андрэем заразаў, зачэсваў, вышчапляў — паказваў, як трэба рабіць. Андрэй толькі ківаў галавой:

— Спрытна. Мы будзем цішэй. Цішэй едзеш — далей будзеш...

— А я нікога і не падганяю, скажы-ы-це...— адвярнуўшыся, усміхнуўся яму Завішнюк.— І, каб вам не здавалася, што ў вас нехта стаіць над каркам,— пайду. У мяне сёння работы — дзякуй богу... У вярхі не лезьце. Тонкае скора гніе. Не прыму.

Андрэй закурыў і прымасціўся на свежы пень, падаслаўшы моху.

«Гм... Няблага для сябе стары пачынае,— падумаў Завішнюк.— Але сваё ты зробіш. Ведаю. І зробіш добра. Паглядзіш яшчэ, што і як запісана ў ведамасці...»

Юрка стаяў воддаль і пераступаў з нагі на нагу. Завішнюк запусціў пальцы ў яго чырвоны «вожык» — валасы былі мяккія, што лён,— даў «ярша» і пайшоў па карэнні на пагранзастаўскую дарогу, што вяла ў сорак восьмы квартал — на Каралінскую пасеку.

Мсціжаўскія лясы пачынаюцца за Палікам на Віцебшчыне, і цягнуцца, спускаючыся з пагор'яў і падымаючыся на ўзвышшы, праз Лепельшчыну, Бегамшчыну, Плешчаніцкі кут, і спаўзаюць у нізіну, да ракі Віліі — на Мсціжы. Тут, на шырокіх грудзях Прывілля, яны роўныя, старыя і стойкія — тут не так шмат балот, як на Паліку, пад Полацкам. Мсціжаўскі масіў — самы старажытны і таму асвоены. Падсочка, пасекі, леспрамгас, лясгас, павал, вывазка, тралёўка, сплаў, лесапілка — такія словы здаўна помняць старыя жыхары Мсціжаўшчыны.

Ад Мсціжаў лес, здаецца, раскручваецца, як лента, прынаравіўшыся да ракі, пасля, ахапіўшы яе і схаваўшы ў сваёй вечнай дрымоце, пасоўваецца на захад. Там, недзе далёка,— аўгустоўскія лясы. Гэта ўжо за граніцай.

Лясы тут, на Мсціжаўшчыне, ля Лонвы, спрадвечныя,

як спрадвечныя балоты і грэблі на іх. Хто першы клаў грэблі на балотах, ніводзін чалавек у Лонве ўжо не скажа. Кладкі пасля масціліся адна на адну: новая на старую, здаровая на гнілую, спарахнелую ў балоце і высахлую на сонцы, ад якой аставаліся толькі засмалелыя сасновыя сукі, як скабы; масціліся адна на адну, як гады, як вякі. Кладкі і цяпер ляжаць на лонваўскіх грэблях: праз Цяні — балота, Карчаваткі — балота, Лукоткі — балота на Каралінскую пасеку, да Віліі і да Сырніцы. Даўно ўжо вымерла многа пакаленняў, што дыбалі на Цянях па кладках з вязкамі сена за плячыма ці валаклі на гэты бок, пад Лонву, на сухое, сасну з графскага лесу, з Каралінскай пасекі,— а кладкі ляжаць. Іх паднаўлялі і паднаўлялі нябачныя рукі — можа, нават і сама прырода. І праўда, ніхто ніколі не бачыў і не помніць — у каго ні пытайся,— каб хто клаў на балоце новыя кладкі, як ніхто не помніць, калі гэта Каралінская пасека была пасекай: на ёй цяпер самы высокі сасновы лес з апошнім годам падсочкі. Людзі тут, у Лонве, не захавалі легендаў пра лес, не перадалі з пакаленняў у пакаленні; затое лес недзе помніць усё. Гоманам, стогнам, шэптам ён перадаваў з дня ў дзень і наваколлю, і таму маладому жыццю, што кожны год параджалася ў сырой падзолістай зямлі з насеннем, якое вышчалукнулася з пераспелай шышкі, перадаваў усё: і тое, як першы раз ля балотнай рэчкі на ўзлессі, можа, вякі тры назад, а мо і больш, прыкарэла першая хатка, скіданая з дрэва адной толькі сякерай і аднымі толькі рукамі, і тое, як пасля на гэтым узлессі высыпаў людскі муравейнік, пачаў валіць з пня дрэва, церабіць дарогі і асушаць балоты з рыдлёўкамі ў руках. Тады недзе задалася Лонва... Зачалася, бо лес упадабаў першага тут чалавека, прыхінуў яго і збярог.

Мсціжаўцы, калі іх распытваць, помняць лес яшчэ і да нашага стагоддзя. Помняць і Радзівіла, Тышкевіча; яўрэяў Іцку і Бэрку, якія выразалі Ліпнікі; помняць збольшага лесніка Бялевіча, якога парвала снарадам у пятнаццатым годзе,— пасеку, дзе ён некалі, відаць, жыў, і цяпер у Лонве завуць Падбялевічам; пасля ўспамінаюць пагранічную заставу за Каралінскай пасекай на Жоўтым беразе ля Віліі.

Пагранзаставы сталі ў мсціжаўскіх лясах пасля грамадзянскай вайны. Сталі ад Польшчы. Яны ішлі берагам па рацэ: Мсціжы, Бегамля, Сакавічы, Лонва (Жоўты бераг), Караліна. Жоўты бераг ад Лонвы быў кіламетры за

чатыры — праз лес. Лонваўцы кожную ноч зімою, калі дзьмулі з поўначы, з Цянёў, вятры, чулі ў вёсцы, як на заставе брэшуць сабакі, чулі стрэлы на Каралінскай пасецы. На заставу з Лонвы не ўсіх пускалі, але затое кожную суботу пагранічнікі прывозілі ў вёску гукавое кіно і ставілі дарма. Ці ў калгаснай канцылярыі, ці ў пустой пуні на ферме — ля Андрэя Акцызніка.

У Лонве, расказвалі, раслі сыны і дочкі ад пагранічнікаў тых трыццатых гадоў. Раслі, пажаніліся, павыходзілі ўжо замуж.

У трыццаць дзевятым годзе, увосень, у мсціжаўскіх лясах за Лонвай стаяла кавалерыя і танкі — нашы ішлі на другі бок Віліі. У лесе і цяпер яшчэ знойдзеш стойбішчы і зямлянкі той пары.

Іх лёгка зблытаць з партызанскімі зямлянкамі і акопамі гэтай вайны, якімі зрыты і перакапаны мсціжаўскія лясы. Перакапаны не салдацкай сапёрнай рыдлёўкай, а вялікай і цяжкой, купленай некалі калгаснікам «у раёне» ў краме, заржавелай, вышчарбленай аб камяністую лонваўскую зямлю і асаджанай на кароткую сухую яловую ручку...

Акопы і зямлянкі рылі ў мсціжаўскіх лясах партызаны тры гады. Лясы помняць густыя і халодныя партызанскія дымы ад агнёў асенняй і зімовай пары, помняць сінюю летнюю смугу ад лёгкіх кастроў, як ад цыгарак-самакрутак з самасаду-бесарабу ці мультану, што сеялі па вёсках вайной у гародчыках пад хатай.

Сінеча — рамантыка партызанскіх часоў. Яна жыве і цяпер у лесе разам з туманам і ціхім сасновым шэптам, разам са стрэлам адзінокага паляўнічага і несціханымі выбухамі хімгасаўцаў-карчавікоў за Каралінскай пасекай, з гулам самалётаў уначы, калі, здаецца, чакаеш, што на ўзлессі на паляне загарацца кастры і самалёт скіне ў лагер парашуты. Яна жыве ў страшным гуле навальніцы над мсціжаўскімі лясамі, калі перуны выбіраюць самыя высокія дрэвы і сякуць іх на трэскі, калі ад агню і ў дождж загараецца лес. Тады ўспамінаюцца лонваўцам нямецкія блакады: паветрые — хвароба, якой ніколі дагэтуль не знаў, не ведаў ні лес, ні чалавек... Калі ў вёсках на Мсціжаўшчыне палілі жывых людзей...

Завішнюк ведаў мсціжаўскія лясы, яшчэ калі вучыўся ў інстытуце. Прыязджаў сюды, у Мсціжы, пасля вайны на практыку — памочнікам таксатара.

Тады ён быў студэнт. Пасля працаваў на Алтаі — у

лентачных лясах, далёка за Бійскам. Ён іх добра помніць: яны спускаліся з Алтайскіх гор, пераймалі сухі пясок, што ў бурапы сек у твар і кляваў вочы, і глыталі зімой ціхія, моцныя, калючыя маразы без ветру, ад якіх крышыцца жалеза і якіх не ведаюць беларускія Мсціжы.

Пасля яго, Завішнюка, закінуў лёс сюды, на Мсціжаўшчыну...

Лясы на Алтаі ён любіў... Любіў Сібір, Урал, дзе рос і вучыўся. Ён часта ўспамінае лясы, што асталіся там, дома, лясы, якія з акна вагона, як мінаеш Уральскія горы, не скінеш і вокам... Па іх у яго часта шчымела душа...

Калі запрасілі спецыялістаў у вызваленыя раёны, ён, Завішнюк, і паехаў у Беларусь. Некаму ж трэба было. Пасля, сёлетняй вясной, лежачы ў Грасыльды за дашчанай перагародкай вечарам на ложку, калі ад бегатні днём па старых даваенных лініях балелі ногі, калі цьмяна гарэла над квадратным сталом з неафарбаваных тоўстых дошак спушчаная на дроце лямпа-сямілінейка (газы цяжка было купіць у краме, Грасыльда дастала ў трактарыстаў) і не хацелася чытаць газету, якую з пошты ў хату прыносіла жанчына-пісьманоска аж на другі дзень (пошта была за пяць кіламетраў у сельсавеце), тады ён, Завішнюк, думаў, чаго яго панесла сюды, на край свету? Калі б прымушалі — адгаварыўся б, знайшоў бы прычыну...

І тады, можа, каб апраўдацца перад сабой, дарослым ужо мужчынам,— у Грасыльды за перагародкай яму стукнула дваццаць пяць,— ён думаў, што ён яшчэ хлопчык. Малы зусім, які бегаў да вайны — даўно-даўно — па Бійску, меншы за Юрку Даліну...

І тады ён верыў сабе, што яго пацягнула сюды рамантыка: дымы ад начных партызанскіх кастроў і вогнішчаў, туманы, якія хавалі лясныя дарогі і сцежкі... А на Алтаі ўсю вайну было ціха. На Алтаі — толькі маразы і мядзведзі...

Яму, Завішнюку, было парой і прыкра ад равеснікаў: ён не быў на фронце, яго не ўзялі. Усю вайну вучыўся.

Цяпер яму было смешна: ён нечым хоча зраўняцца з усімі. Смешна — а можа, яно і праўда было так. Бо што тады цягнула яго ў беларускія мсціжаўскія лясы? Росы, грыбы і ваўкі? Ваўкі, што зімою ноччу, кажуць, падыходзяць да Лонвы пад самыя хаты і выюць на ўсё поле?

А можа, гэта проста так здарылася яму ў жыцці: ступіў крок не па той дарозе — і ідзе, назад не вернецца, поз-

на. Трэба ісці памалу: раніцай уставаць, мыцца, садзіцца ў Грасыльды за стол есці, бегчы ў лес...

Калі разабрацца, то і думаць пра гэта цяпер няма калі. Хаця ягонае ўсё наперадзе. А таксатар не сядзіць ніколі на адным месцы. Сёлета Мсціжаўшчына, налета — нешта новае, незнаёмае.

...Недзе далёка ў лесе, за Цянямі, брахаў сабака. На Каралінскай пасецы былі чуваць глухія выбухі — хімгасаўцы рвалі карчы.

«Вясной яшчэ такога чуваць не было. Уручную мужчыны бралі. Палена пад пень — і — раз, два — узялі...» — падумаў Завішнюк і, зняўшы акуляры, доўга выціраў шкельцы насавой хустачкай. У лесе ад духаты вісела густая сінеча — што дым у лазні, калі яшчэ ў печы галавешкі,— ажно пацела шкло.

Стала горача. Ён расшпіліў пінжак, тады зняў, перакінуў яго цераз руку. За мастком, які ляжаў цераз балотную рачулку-крыніцу, што цякла з імшары з Сырніцы, завярнуў на шырокую, пясчаную, пароспую травой мятліцай і сіўцом, пагранзастаўскую дарогу. Некалі да вайны яна вяла на заставу Жоўты бераг. Ад Падбялевіча, дзе ён, Завішнюк, пакінуў Юрку з Акцызнікам, пагранзастаўскай дарогай далей у сорак восьмы квартал, чымся, каб прыйшлося, ісці лініяй. Але на лінію і носа не ўткнеш. На ёй зараснік са старым валежнікам-бураломам. У сорак восьмы лепш ісці дарогай...

Да старога даваеннага капца, калі ён астаўся, яшчэ далёка. На плане да яго ад мастка па лініі два кіламетры трыста метраў.

«Такая адлегласць трапілялася мне ў Мсціжах...» — падумаў ён, але дзе было,— успомніць не мог. Многа ўжо пройдзена...

На дарозе — пясок, сыпкі, непрытаптаны, але на ім расце трава. Яна здрапежана коньмі і калясьмі: у Лонве летась стаў леспрамгас са сваім абозам. Далей, за мостам, недзе з-пад Сырніцы, вядзе ўбіты след ад машын. Яго выбілі леспрамгасаўскія прычэпы, іх яшчэ ў Лонве завуць «чугрэі». Але ў вёсцы цяпер аўтакалона не стаіць, знялася і перабралася, відаць, недзе далей, пад Мсціжы. І знялася нядаўна, бо сляды ад машын яшчэ свежыя на зямлі; на абдзёртых соснах ля паваротаў яшчэ не закарэла смала — мокрая, бліпічыць здалёку, бы кроплі вады пасля дажджу. Ля балота машыны папсавалі дарогу: навыбівалі ям па калені. Шафёры грузяцца, не шкадуючы ні прычэ-

паў, ні саміх «чугрэяў». А дарогу б'юць дзень і ноч — у дзве змены. Машын, мусіць, мала, а план недзе вялікі. Лес цяпер патрэбен... А шафёры... Ён, Завішнюк, вясной некаторых шмат разоў бачыў — у Грасыльды шукалі самагонкі. Помніць нават: высокі-высокі, роўны з кабінай, «стары знаёмы» Чаркашын; маленькі, нізенькі Вярбіцкі ў жоўтай цюбецеечцы; плячысты, гарбаносы Калясень. Хаця — яны многа зарабляюць. Няма дзе дзець грошай, дык і цягне на самагонку.

За Каралінскай пасекай — Сырніца, нізіна, уся ў вадзе, куп'і і маленькім саснячку, рэдкім і нізкім, як кроп на градах у Грасыльды. Ад мастка да пагорка на Каралінскай пасецы — самым высокім месцы на Мсціжаўшчыне, дзе павінен быць стары канец,— дарога вядзе ля самага балота. Калі тут ідзеш, здаецца, сосны на балоце ідуць разам з табой, падскокваюць, нібыта пераступаюць з купіны на купіну,— на балоце ж гразь па пояс недзе будзе чалавеку; калі едзеш, далёкія сосны круцяцца на адным месцы, паварочваюцца, а бліжэйшыя — бягуць і бягуць насустрач, пускаючыся пасля наўцёкі...

За Сырніцай — густы дрымотны старадаўні ельнік, заўсёды сыры і мокры з камля да верху; і зямля пад ім заўсёды мокрая, у расе. За Сырніцай — крумкачы, вужы і дзікі. І грыбоў да гібелі...

За Сырніцай — Ямскае: партызанскія лагеры...

Па гэты бок дарогі, пад Каралінскую пасеку,— сасновы бор. Высокія, гонкія дрэвы з цёмнымі вяршалінамі, з жоўтымі ствааламі — як загарэлыя. І месца тут высокае, пясчанае; на зямлі расце сівы, сухі мох, верас; трапляецца каменне, вялікае і малое; шмат валуноў. Многія старыя ў Лонве варожаць, што тут нехта некалі знойдзе золата. Гэта самае высокае месца на Мсціжаўшчыне.

«377,7» — адзначана на карце тое Мсціжаўскае пагор'е. Амаль на паўкіламетра над узроўнем мора растуць за Лонвай сосны!

Стаіць яшчэ раніца. Яна доўжыцца ў лесе. Ля дарогі ў дробным сасняку на высокім верасе, які пачынае брацца на цвет, вісіць пляйстрамі-латочынамі павуцінне. Здалёку здаецца, што гэта сінія азяркі туману, які з начы апаў на зямлю і доўга яшчэ будзе ляжаць на доле. На павуцінні — жоўтыя сасновыя іголкі...

Тут, між Сырніцай і Каралінскай пасекай,— заўсёды цішыня. Даўкая, асенняя,— здаецца, што тут пусты лес, як ток, з якога, абмалаціўшы снапы, вывезлі ўсё да сало-

мінкі. У такой цішыні далёка чуваць, як падае долкі змерлы жоўты ліст з бярозы — нібы птушка лопае крыллем. У такой цішыні думаецца і думаецца пра ўсё на свеце. Думаецца пра жыццё, якога ў лесе не злічыць, не ўгледзець, не спомніць усяго. За якую хвіліну адміраюць тысячы хваінак і лісця і тысячы парасткаў прабіваюць цвёрдую зямлю, падымаючы мох і старое, перапрэлае лісце, цягнуцца да сонца — да жыцця. Падаюць на ляту і не падымаюцца больш з зямлі, паміраюць ці трапляюць у кіпцюры драпежнікаў сотні птушак, і тысячы іх узлятаюць першы раз з гнязда, тысячы пакідаюць гнёзды назаўсёды, каб паляцець у свет — панесці новае жыццё. Мерзнуць мільёны мурашак, і мільёны іх на лета вясной точаць зямлю,— вылазяць з норак і паўзуць з таго боку, дзе сонца, уверх па дрэве...

Кожную вясну адскоквае на пасеках і малады сасняк, што сам насеяўся за вайну,— на голае месца панаганяла ветрам насення з патрэсканых сасновых шышак. Адскоквае, шугае, што трава пасля дажджу ля ракі, што зялёпае атожылле ад падсечанага і скінутага на зямлю вербалозу...

І кожную вясну не далічышся ў лесе адной сасны, другой...

Зрэзалі яе з пня, ацерабілі, адшмулялі ад камля, колькі каму трэба было, і патарабанілі ў вёску. Не прыбралі ні верху, ні сукоў — не скідалі ў кучу. А летам тады — пажар... Гаспадараць у лесе людзі, як у вайну, а вайна даўно скончылася. Будавацца трэба, але ж і глядзець трэба, дзе казённы лес, а дзе калгасны.

У вайну шмат лесу выкацілі пажары. Немцы палілі яго ў блакады. Ад таго пажаўцеў, пасох, пагніў маладняк. Колькі гектараў трэба будзе сеяць нанава Мсціжаўскаму лясніцтву на адной толькі Каралінскай пасецы...

Першы год, калі прыйшлі немцы, расказваюць у Лонве, паліцаі гналі людзей рэзаць лес. З пня тады і пavалілі палавіну бору на Паграбішчы... Немцы думалі сплавіць мсціжаўскія лясы Віліяй на захад. Але з берага ў Вілію ля Лонвы ў вайну не ўпала ні адно бервяно. Затое пад карой у тыя гады пагніла палавіна Паграбішча — бору. Дрэва патачыў чарвяк, на хаты яно лонваўцам не згадзілася.

Дарога пачала раптам падымацца ўгору, пагусцеў бярэзнік і схаваў з вачэй імшару. Пад самым носам з дарогі ўзляцелі два цецерукі — лапаталі крыламі, як рвалі анучы. Шэрыя, цяжкія. На дарогу пасыпалася пер'е. Па-

сля ў бярэзніку — шмат дзе — доўга хлопалі крыламі спалоханыя птушкі, як бы хто ў рукавіцах біў у далоні — далёка, аж на імшары.

«За вайну развялося... Партызаны палявалі на немцаў...» — падумаў Завішнюк.

На гару, відаць, цяжка было ўзбірацца леспрамгасаўскім машынам з прычэпамі. Тут быў пясок аж па калені — белы, сухі, сыпучы, перакапаны, перамешаны з мохам, верасам і сасновай ігліцай. Відаць, пад колы шафёры кідалі і дровы-метры: машыны буксавалі ў пяску.

Недзе на той бок гары затарахцелі па карэнні калёсы. Загаманілі мужчыны:

— Глядзі!.. Глядзі!.. Нехта здаровы на дарозе...

— Не мядзведзь? Но-о, каб на цябе ваўкі!..

На самай гары раптам паказаліся дзве падводы. На калёсах-разводах у перадках, разваліўшыся, сядзелі мужчыны. Курылі.

«Гэта ж дзяржаўны лес... Чаго яны тут? Дзялянак у кварталах ніхто не адводзіў... Дзе толькі леснікі... Не-е... Мусіць, гэтыя едуць з іх ведама. Днём, смела сабе. Ва ўсіх на вачах. Ці ведаюць пра гэта ў лясгасе? Гм... Едуць, рэжуць, кураць...»

Дарогай па пяску было цяжка падымацца — Завішнюк выйшаў на абочыну, парослую сівым мохам і зялёным ягаднікам-брусьнічнікам.

На гары старога капца не было. Завішнюк спыніўся якраз на тым месцы, дзе павінен быў стаяць капец. Тут ужо зрабілі ездавую дарогу — яна ішла недзе з Каралінскай пасекі, перасякала пагранзастаўскую і цягнулася па самай гары, па старой лініі. Да вайны, знаць яшчэ і цяпер, тут, на лініі, было разор'е. Дарога ішла разорай, і ездзілі па ёй, мусіць, адтуль, з-за Віліі. Праклалі яе не сёння: ля былога капца калёсы даўно выбілі мох — пад ім жаўцеў баравы пясок.

«Браканьеры... Дарогу зрабілі... Па лініі. Стаць бы тут, ля капца, і... Калі ж яны і мядзведзя не баяцца...»

Ля самага капца, ля дарогі,— старая сасна. Нахілілася сваім разгатым верхам да імшар, задумалася. Стаяла яна воддаль ад другіх, вымкнулася наперад, да пагранзастаўскай дарогі, як завадатар. Здавалася, яна і расла толькі дзеля таго, каб залечваць усё жыццё раны. Яе абдзіралі яшчэ першыя машыны-прычэпы, якія паявіліся тут перад вайной, у трыццаць сёмым годзе, калі леспрамгасаўцы толькі пачалі выразаць сасну ў мсціжаўскіх лясах. Ад таго

на ёй асталіся — заплылі смалой — сухія чорныя плямылаточыны. Падгнілі, іх пакляваў дзяцел. У вайну, у апошнюю блакаду, тут, на пагор'і, бушаваў агонь. Камель сасны абгарэў, абвугліўся. Нечая невядомая рука счасала на ім нядаўна сякерай нагар — зняла кару. Пад ёй — чырвонае ад засмалі дрэва. Высока над залысінай, як дастаць,— калматыя, сівыя, выцвілыя на сонцы шрамы — гэта ўжо на бронзавым целе сасны — сляды ад куль і асколкаў. Каля іх цяпер ціњкаюць сініцы, пырхаюць і чысцяць аб кару дзюбкі.

Разгатая сасна ўстаяла і стаіць, абвугленая, засмаленая, закамянелая ў сваёй зацятасці і дрымоце, а капца няма. Не асталося нават і гнілога пня ад яго. Відаць, камянец нехта выцягнуў з зямлі. Можа, хто парашыў пры немцах знішчыць навек межавыя знакі, кварталы і граніцы, а можа, проста вырваў смаляны чурбалак і ўскінуў на калёсы — павёз з лесу дамоў палена на дровы.

Праз капец ідуць дзве лініі: ад вёскі, ад самай Лонвы, на Жоўты бераг і з Сырніцы — на Каралінскую пасеку. Капец сячэ іх, кроіць пад самай сасной папалам — накрыж.

Лініі зараслі за вайну маладым соснікам, ельнікам і бярэзнікам. На ўзвышшы зараснік далез старым соснам пад пахі — да першых сукоў: у цяні маладняк расце хутка. На імшарах, у балоце — лініі не знаць: сасняк тут роўны. Толькі калі глядзець на балота з узвышша, можна было ўгледзець, што і яно дзялілася на кварталы.

На поўнач і на захад сярод старога лесу ледзь свіцяцца прагалы — не ведаючы, іх не заўважыш.

На ўсход — на Сырніцу і на поўдзень — на Лонву лініі трэба весці нанава: па новаму плану.

Завішнюк доўга стаяў на пагор'і ля пагранзастаўскай дарогі. Стаяў і цёр падбародак, пасля выціраў рукі аб крылле пінжака, тады здымаў з носа акуляры і доўга цёр шкельцы. Нагінаўся над разасланымі на зямлі ля старога падгнілага пня картай і планам, згортваў алоўкам з іх жоўтыя сасновыя іголкі, што невядома кім цярусіліся і церусіліся зверху, і здзьмухваў маленькіх чорных мурашак, якія бегалі па паперы, відаць, як па бяросце. Пасля зноў падымаўся, хадзіў узбоч дарогі і думаў. Думаў: адкуль ён заўтра пачне...

Справа, на паўночным захадзе, ляжаў трыццаць восьмы квартал — сасновы бор да самай Віліі, да былой па-

гранзаставы. За трыццаць восьмым яшчэ быў пяцьдзесят шосты і пяцьдзесят дзевяты.

На паўночным усходзе — трыццаць дзевяты квартал — балота: Сырніца, за якой Ямскае — партызанскія лагеры.

Сорак восьмы квартал быў на поўдні — падступаўся пад самую Лонву, да калгаснага лесу.

На паўднёвы захад выходзіў сорак сёмы квартал, за ім ішоў шаснаццаты, дваццаць шосты, трыццаць другі, і так да самай Віліі, дзе пачыналася ўжо другая вобласць.

Калі Завішнюк доўга глядзеў на сорак сёмы квартал, на захад,— у прагале далёка-далёка, недзе як на краі свету, убачыў невялікі кавалак жоўтай зямлі. Жоўтай, барвой, ускапанай некім зямлі,— жоўтай, як часам бывае сонца за хмарай. І тады яму, Завішнюку, захацелася ісці туды, ісці лініяй праз зараснік і буралом, ісці хоць цэлы дзень да вечара... Калі ён зняў акуляры і каторы ўжо раз выцер шкельцы і зноў надзеў іх, то ўбачыў яшчэ, што кавалак далёкай зямлі мо нават белы, а над ім — густая сінеча-туман. Лес там быў сіні і зліваўся ў адну цёмную і шырокую паласу.

Завішнюк перайшоў пагранзастаўскую дарогу і доўга глядзеў на жоўта-белую палоску ўдалечыні сярод гэтага здзічэлага за вайну лесу, далёкага ад усяго свету — ад чыгункі, ад шашы, ад горада.

І тады яму, Завішнюку, падумалася, што для яго цяпер гэта светлая палоска на тым канцы лініі — ягонае прыстанішча, ягоная мара. Да яе трэба ісці праз зараснік і павал, цераз вывараткі і балота, махаць сякерай, церабіць дарогу... Пасля ж яе трэба перамераць металічнай дваццаціметровай лентай, як вяроўкай, агледзець на ёй праз акуляр тэадаліта кожную купіну, кожны куст багуну і камель сасны з белымі залысінамі ад падсочкі.

Да яе нялёгка дайсці...

І тады яму падумалася зноў, што гэта палоска для яго — самае светлае ў жыцці, ісці да яе ён будзе і будзе... Падумалася, што ён усё жыццё будзе церабіць лініі ў лесе...

Далёкая светла-жоўтая палоска цягнула яго да сябе...

Пасля ён падумаў, што заўтра перш-наперш паставіць тэадаліт тут, на старым капцы, і будзе глядзець на той далёкі краёк жоўтай зямлі; што лента перш-наперш раскруціцца і пацягнецца цераз дарогу на Каралінскую пасеку; што першы новы капец будзе ўрыты тут і што па лініі ў трыццаць дзевяты квартал дарогі больш не будзе,—

сёння туды мо апошні раз падаліся на разводах мужчыны... І што яго дзяўчаты — ні Жэнька, ні Света — не будуць ведаць, чаму ён пайшоў на захад з гэтага пагор'я.

Ён ім не скажа... Не скажа тады, калі яны запытаюць. А калі будуць маўчаць? Тады ён раскажа Жэньцы. Адной Жэньцы...

Гэтая яго лінія будзе галоўная. Ён правядзе яе з усходу на захад — ад Сырніцы на Каралінскую пасеку, а тады пачне кроіць лес на кварталы: пад Лонву і пад Вілію.

Гэта будзе яго галоўная лінія ў мсціжаўскіх лясах. А недзе ў канцы яе — яго светлая палоска. Ён дойдзе да яе...

Па твары сцёбалі лапкі маладога калючага сасняку. Калі Завішнюк браў іх у рукі, каб адхінуць ад вачэй, адчуваў, што маладая ігліца мяккая, не такая калючая, як на старой хвоі.

Калі ён спусціўся з пагор'я, лінія-расцяроб адразу знікла з воч, але ён ведаў, куды ісці. Тут, у лагчыне, пад ногі трапляласе высокая трава круглец, доўгі белы мох — яго выцягвалі з купін і пакідалі на ягадніку чаравікі,— журавіннік, бруснічнік, дурніцы. У багуне і верасе тырчалі пні і старое карэнне — трэба было высока падымаць ногі. Шапчэла пад імі сухая баравая трава сінюха, пахла грыбамі і брусніцамі.

Сонца паднялося высока і хавалася за рэдкімі вярхамі сосен. Было горача, на лбе выступаў пот, і хацелася піць.

Завішнюк ішоў на жоўтую палоску ў канцы лініі.

На захадзе, у тым баку, дзе была Лонва, чырванеў лес — там хавалася сонца. Ад Сырніцы з імшар пацягнула холадам, прэлым мохам і балотнай вадой.

Пахла сырая падзолістая зямля. Неба было чыстае; далёка на ўсходзе, можа, пад самымі Мсціжамі, вісела цяжкое белае воблака-туляг. Тут, у кутку, дзе поле і дарога падыходзілі да самай Сырніцы, пад цёмныя нізкія елкі на зямлю ляглі ўжо моракі. У лесе пачыналася ноч. Недзе далёка рыкала карова і ляскаталі калёсы.

Завішнюк выйшаў на дарогу з імшар мокры па пояс.

За дзень ён пабыў у семнаццаці кварталах.

Балелі ногі ў галёнках, хацелася піць, і ціха ныла спіна. Ён не думаў цяпер, дзе быў, а калі заплюшчваў ад стомы на хвіліну вочы, усюль калыхаліся і калыхаліся яло-

выя лапкі, якія ён рассоўваў і рассоўваў на лініях увесь дзень. Яму і самому цяпер было дзіўна, што ён прабіўся з пагор'я да Віліі...

Ад Сырніцы да Лонвы — кіламетры з чатыры. Трэба было ісці пехатою... Але ён яшчэ доўга сядзеў на шліхце бярвення, леташняга, падапрэлага, з якога пааблазіла кара. Калі зноў заплюшчваў вочы, недзе далёка, здавалася, аж там, за мсціжаўскімі лясамі, на Паліку, свяцілася жоўтая палоска... Пасля яна тухла, хавалася ў тумане...

Тады ён адплюшчваў вочы. Ля яго на шліхце бярвення скакала сарока. Не шчабятала, скакала толькі, як на адной назе. Ля яе дрыжалі камары і лётаў белы матыль. Калі ён сеў і прыцішыўся на бервяне, сарока хацела яго клюнуць, але перадумала і адвярнулася. Пасля зашчабятала і, растапырыўшы крылле, шмыгнула ў ельнік.

Завішнюк выйшаў на дарогу.

Ужо ля мастка, недалёка ад Лонвы, яго дагнала грузавая машына. У кузаве былі мужчыны. Заднія віселі аж на борце.

Завішнюк успомніў, што сёння была субота і гэта везлі леспрамгасаўскіх грузчыкаў дамоў на адзін дзень — на нядзелю. Так рабілі і ў Мсціжах.

Ён не «галасаваў», але шафёр сам спыніў машыну і кіўнуў сваёй стрыжанай галавой на кузаў. Завішнюк угледзеў, што галава ў шафёра ўся ў смале.

Мужчыны, лаючыся, «выкраілі яму шчэлку» ля борта.

Завішнюк нічога ім не адказаў, падумаў толькі, што леспрамгасаўская машына набіта мужчынамі, а ў калгасе жанчыны і дзеці малоцяць цэлы дзень і возяць нарыхтоўку.

Калі ён у кузаве ўбачыў з мужчынамі Андрэя Акцызніка, то нават не здзівіўся. Пасля падумаў, што слупкі Акцызнік яму «сарваў», што заўтра нядзеля, што баляць ногі і што ўсё роўна прыйдзецца рана ўставаць.

Шафёр імчаў, не шкадуючы ні машыны, ні грузчыкаў. Завішнюк ухапіўся абедзвюма рукамі за борт. Трэба было трымацца, бо за яго плечы ўчапіліся мужчыны.

Калі яго раптам падкінула ўгору, ударыла каленам аб кузаў і наваліліся мужчыны, ён са злосцю выпрастаўся — тады чуць-чуць параскапнела. Пасля яму здалося, што недзе ў лесе, за Сырніцай, адкуль ён толькі выйшаў, блісну-ла палоска жоўтай зямлі і зашчабятала сарока...

Ён адчуў, што ў яго, недзе глыбока ў душы, кранулася радасць.

Мужчыны ў кузаве запелі на ўвесь лес — без галасоў і без ладу.

Калі Завішнюк аглянуўся на Сырніцу, нічога не ўбачыў: за мастком на дарозе і ў ельніку вісеў пыл, як туман.

*Раздзел трэці*

## Агонь ля студні

Яшчэ добра не сцямнела, але на двары быў мрок. Полымя калыхала яго на сценах старой, скіданай пасля вайны на папялішчы хаты; на кругляках варывенькі, што цвёрда стаяла на сваім новым подрубе тут жа, блізка ля хаты; на перасыпаным і перакрытым сёлета шчапой хляве, што стаяў, расцягнуўшыся, аж у куце двара, далёка ад хаты і ад вуліцы.

Ад агню добра быў відаць гародчык: высвечваўся. Сёлетнім сухім летам гародчык-глінішча амаль апусцеў. Зімою ў ім вымерзлі Грасыльдзіны слівы — іх было тры дрэўцы,— і цяпер толькі тырчала рудаватае сухое дуддзё. Грасыльда ўсё чакала, калі яно адыдзе, не выкопвала. Так было з лонваўскімі калгаснымі садамі ў саракавым годзе, «фінскай вайной»,— яны адышлі, Грасыльда помніць.

Цяпер, на канец лета, у гародчыку забуялі вяргіні. Яны ў Грасыльды тут раслі кожны год — колькі гадоў, дык яна ўжо і не помніла; разраслася на ўвесь двор адна шапка сланечніку. Сланечнік вырас на тоўстайназе-дудцы, з шырокім цёмным лісцем і вялікай шапкай, як рэшатам-падсіткам, што, даўно парванае, вісела ў Грасыльды ў сенечках над шафарняй.

Агонь гарэў недалёка ад студні з новым сасновым зрубам. Студню правілі, відаць, зусім нядаўна. На двары пахла яшчэ смалой, ля зруба не абтаптаўся жвір — яго было высока насыпана, і ён разносіўся нагамі па ўсім двары: аж да парога ў хату і аж да хлява, куды Грасыльда насіла ваду.

Ля агню, у чорным гаршчэчку, які быў падняты з сырой зямлі на прычарнелую цагліну,— бульба. Дровы сыраватыя, не хочуць гарэць. Хоць і няма ветру — круціць дым. Ён лезе ў вочы, і тады здаецца, што зусім цесны двор.

Грасыльда сядзіць на перакуленай паламанай сталюзе, на якой «колькі вунь паразалі дроў...». Сталюга старая, разбайдаваная, ледзь ліпіць; прыйшла пара яе самую спаліць у печы, але, перакуленая, яна ніжэйшая, няцяжкая, не соваецца і служыць Грасыльдзе за добры зэдлік. А ўскінуўшы на яе старую фуфайку, можна сядзець, як на крэсле.

Завішнюк прымасціўся ля агню на калодачцы, шырокай і нізкай, на якой летам кляпалі касу,— відаць яшчэ пасярод калодкі дзірка, куды ўбівалі бабку,— выцягнуў да агню ногі. Ён у рудым спартыўным касцюме: у вузкіх штанах са складкай спераду на калошах і ў шырокай, не па яго вузкіх плячах, куртачцы на замочку-маланцы. Скінуў пасля лесу гумовыя боты, усунуў на босую нагу брызентавыя чаравікі. Увесь у тонкай і дробнай павуціне, якая з пацёртым сухім лісцем папрыліпала да калматай курткі і штаноў,— яе не ачысціш і шчоткай — пачырванелы з твару: ён сёння доўга мыўся да пояса халоднай вадой з глыбокай Грасыльдзінай студні.

Ад агню пахне дымам і лесам. Ныюць спіна і ногі. Мінула два дні, як Завішнюк ужо ўрэзаўся ў лінію, што вяла ад старога капца на Каралінскую пасеку. Два дні...

«Мала, мала прайшлі...— думае ён.— Мала працерабілі Акцызнік з Юркам Далінай, мала стараюцца дзяўчаты... Цацкаюць ленту ў руках, падпяразваюцца, вехі мераюць... Так і відаць, што ім спаць хочацца. І што яны робяць ноччу ў таго Акцызніка, куды перайшлі адразу ж на кватэру: Грасыльда сама завяла іх. Не відаць было, каб яны хадзілі куды ў вёску. Ды і куды тут пойдзеш... Мала,— думае ўсё Завішнюк.— Трэба насесці на Акцызніка. Былі б людзі — побаку такіх адразу. А так... Далінчык,— ён, Завішнюк, так зляўчыўся зваць Юрку Даліну,— стараецца, дык жа яго прыходзіла два разы адбіраць Волька Япкава. Брыгадзір. Прыйшлося і лаяцца і прасіць. Людзей няма...»

На ферме гула і гула малатарня. Яе загружалі без меры, і яна парой раўла з натугай і перахліпамі: гум-м-м-га! гум-м-м-га! Гналі, відаць, каб скарэй, як кажа Грасыльда, абабіць і сырое і мокрае і завезці на нарыхтоўку.

Калі малатарня сціхала, тады было чуваць, як гудзе трактар, роўна, што на адной струне. Да яго лягчэй прывыкала вуха, чым да малатарні. Тады Завішнюку здавалася, што на ферме ціха, а гэта далёка па Каралінскай пасецы, на пагранзастаўскай дарозе, што вядзе да Віліі, гудуць леспрамгасаўскія машыны...

Пасля зноў раўла на ферме малатарня і нехта ляпаў там, ля яе, у бляшанае вядро. Часта і дзяркатa.

— І сёння ноччу будуць малаціць... Волька Янкава — брыгадзір наш — лямпу пазычаць толькі што прыходзіла. У свірне няма што павесіць, пасвяціць няма чым, не віdaць і куды з мяшкоў дабро ссыпаць. Другую ўжо ноч запар будуць мэнчыцца адны і тыя людзі. І перадыхнуць бабам няма калі. Трэба. За нашым Кастыцкім, за старшынькам нашым, не пасядзіш. Хаця, што ён вінаваты... Нарыхтовачку не здаў яшчэ, дык сёння ўжо аж удвух з партфелямі былі. Не ведаю, што яны там яму такое гаварылі. Я не пайшла слухаць, хоць і клікалі як члена праўлення. З сабой усё яго вадзілі. Паказваў ён ім усё ўсюды і рукамі сваімі доўгімі разводзіў. А цяпер, во, зноў баб нанач дамоў не пусціў.

Грасыльда папраўіла агонь ля гаршка, дровы затрашчалі і ўзяліся шырэй гарэць. Пакраталася на сталюзе сама, пасля паднялася, схадзіла ў хату і вярнулася хутка на двор, ля ганка яшчэ накінуўшы на плечы фуфайку.

— Нешта ноч ужо халаднаватая будзе. Днём горача, ноччу холадна. Ле-е-та...— Яна зноў села на сваё месца.— Раз я пачала табе, сын, учора расказваць пра тое, што мне набалела, то кончу. Даўно манілася, яшчэ вясной, расказаць табе ўсё. Ты малады яшчэ, многа чаго не знаеш. А ў нас, у дурных баб, яно гэтак... Чужому чалавеку так і цягне чорт за язык, каб усё расказаць. Недарма часта кажуць: «За што карову б'юць? За зык. А за што бабу? За язык».— Яна ўсміхнулася, падняла на яго сумныя вочы і зноў неяк хуценька ўтаропілася ў агонь.

Угарэліся дровы, не трашчалі, на двары зусім не было дыму.

На ферме гула малатарня, за вуліцай, недзе на гародах, на загуменні, рыкала скаціна. Яшчэ больш пацямнела неба і ніжэй апусцілася над вёскай. Зор яшчэ не было.

Завішнюк адчуў, што за плечы крадзецца холад, і падсунуўся да агню.

### *Першы расказ Грасыльды*

— Пры немцах у нас, сын, дзялілі калгас. Усё дзялілі: зямлю, коней, вупраж, пуні. Дзялілі тыя і між тых, хто ўцалеў і аставаўся ў вёсцы. Не ведаю, хто так камандаваў, нашы ці немец які ў той час, але дзялілі. Адны казалі, што так усё захаваецца калгаснае, пакуль нашы

вернуцца назад, і немцам не так лёгка будзе адразу ўсё забраць і пагнаць; другія проста цмокалі, што жыць неяк трэба, шкадавалі нашых, але даставалі з куфраў старыя, зрудзелыя ўжо акты, дзе значылася, якую жывёлу і інвентар яны абагулілі ў трыццатым годзе, і гэта хацелі вярнуць зноў. Ды і не толькі гэта, бо паперамі сваімі тыкалі ў нос усёй камісіі, што дзяліла зямлю. А ў камісіі былі і члены праўлення, і я была. І дзяліла камісія справядліва... Але ўсяго было...— Грасыльда задумалася.— Дзялілі мы толькі сваім калгаснікам: хто рабіў у калгасе да самага апошняга дня, пакуль на веласіпедах не прыехалі немцы з валасці і не паставілі свайго солтыса. Солтыс быў наш чалавек — Ігнась з таго канца... Яны Ігнася адразу ж і прыбралі... Пазвалі ў воласць — і каюк... Але ж былі і такія, хто казаў: «Не хныкай... Слёзы пускае. Забудзь, якую яны і адзежу насілі...» Гэта так пра нашых, якія яшчэ доўга пры немцах адступалі праз Лонву на ўсход, на Мсціжы. Я помню, хто гэта казаў. Кастыцкі наш, Міхал. Ну і мітусіўся, як муха ў пустой мухалоўцы, калі туды першая пападзецца. У калгасе ён не быў. Як не пайшоў у трыццатым, дык і жыў сабе аднаасобна. Чаму — невядома. І з бедных быў жа. Не любіў з людзьмі, відаць, проста жыць і дзяліцца. І доўга жыў аднаасобна. Усё цярпеў, зносіў. І самую горшую зямлю, самую далёкую, пад Сырніцай, калі ведаеце, пясок адзін, яму ўсындычылі, і падатак — дай божа — даводзілі... Я тады дэпутатам ад вёскі была ў сельсавеце. Ну мы яго... А не пайшоў, скула, у калгас. Нізашто. Мы яшчэ яму — падатку... Кінуў тады наш Міхал сваё аднаасобніцтва, сагнаў некуды каня, відаць, прадаў недзе далёка ад Лонвы, і пайшоў у лес на падсочку. Да самай вайны напінаўся ў бары на Каралінскай пасецы, аж скура ў яго на жываце трашчала,— зарабляў усё, гроб пад сябе. Мала было. А пры немцах ён і вылез... Але ж тут усе свае. Абагульняў у трыццатым? Не. Быў з усімі? Не. Дык чаго ж ты хочаш? «Бацькаўшчына тут мая! Бацькаўшчына...» — крычыць. А мы яму фігу пад нос — тыц! Помню, выцягнулі на ферме на дзядзінец калёсы, сюды, дзе цяпер малатарня стаіць, усе, якія нажылі калгасам, пазадзіралі аглоблі ўверх... Плакаць хацелася, калі глядзела на іх. Ну што ж, каму якія... Па нумарках. Кастыцкі сам упрогся ў жалезны ход і пацягнуў на загуменне... А мы яму — па задніцы. Тады ён нам паперы з валасці пад нос. А падаткні ты іх... Тады ён нас, усю камісію, на паперку і ў воласць. А ў валасці, пазней я дазналася, калі парты-

запы ў нас асталяваліся,— і нашы, свае былі, дарма, што і немец сядзеў. Ды гледзячы яшчэ які і немец. Забралі нас, яго,— аж тры паліцаі на конях перад сабой пагналі ў воласць. Апыталі, што і як. Немец сам апытваў. Пасля нас адпусцілі, а яму «двадзесце пенць...». І ўсе яму ўлялюшчылі, тыя ж паліцаі, што па нас прыязджалі. За тое, што самаўпраўна расцягваў маёмасць, якая належала немцам.— Грасыльда ўздыхнула.— Толькі і вялікую пуню, што стаяла ля лесу, забараніў той немец разбіраць. Пасля ў апошнюю блакаду немцы спалілі яе...

Грасыльда змоўкла. Доўга сядзела, склаўшы па каленях свае натруджаныя гадамі рукі: гэтулькі працавалі яны для мужа, для сына, для калгаса. Усё панесла вайна. Муж не вярнуўся з фронту, «звяшчэнне», як яна кажа, прыйшло з «Васточнай Прусіі». А сын — яму было тады дванаццаць гадоў, ці што,— ён ужо не помніць з яе расказаў, відаць, быў ён тады, як цяпер Юрка Даліна,— не вярнуўся з Паліка. Пабег туды з усімі з белай торбачкай за плячыма, дзе ляжалі сухары, што яна, Грасыльда, сушыла ўсю зіму... Пабег сын і не вярнуўся... Сама яна асталася ў Сырніцы, у балоце, і асталася жыць. А пасля не вярнуўся і муж... Правяла яго на дарогу, на Мсціжы, пасля, як прыйшлі нашы, сунула ў руку белую торбачку, склала туды, што мела,— апошняе, што сабрала ў хляве, хата згарэла ў блакаду, кінулася мужу на шыю, а прачнулася на зямлі... Была ўжо ноч — праводзіла мужа вечарам. Помніць і цяпер, што было холадна і з вачэй капалі халодныя слёзы. Яна тады, мусіць, выплакала іх усе.

Асталася яна адна. Хату ёй скідалі талакой. У Лонве ўсім так рабілі. Каб не было селішча, не будавалася б яна, дажывала б, відаць, у каго кутам. А на селішчы стаяла вадарывенька, студня, хлеў; не было толькі хаты...

Завішнюк не зводзіў з Грасыльды вачэй, калі яна сядзела, не варушачыся і ўтаропіўшыся ў агонь. Думаў, колькі гора перанесла за вайну гэта добрая беларуская жанчына, якой колькі яшчэ жыць... А жыць — гэта ўспамінаць дзень і ноч вайну, на яе ёй не забыцца...

І яму стала балюча за тое, што ён нічым не можа ёй памагчы... Ён нават баяўся паспагадаць ёй увесь гэты час... Баяўся, што можа сказаць нешта не так гэтай святой на зямлі жанчыне з белымі валасамі, якія яна хавала ад людскіх воч пад хустку. Яму ўспомнілася свая маці. Якая яна была маленькая, старэнькая зусім. І як яна яго любіла...

Цямнелася паволі, як і заўсёды летам. На ферме на хвіліну пераціх трактар, і там загаманілі людзі. Грасыльда ўстала са сталюгі, пагнулася над агнём і павярнула другім бокам да жару гаршчок. Ускінула на агонь дзве шырокія сасновыя трэскі — круглыя і белыя, як пшанічныя бліны з патэльні, якія яна пякла раніцай яму, Завішнюку. Загаварыла і зноў села.

— Той год, як прыйшлі немцы, парасло проса. Той год усё радзіла, на вайну,— уздыхнула Грасыльда.— Проса ў калгасе пасеялі тады першы раз, пад нашай Сырніцай. Пясок там, а проса парасло. Шнурамі яго дзялілі летам, такой парой недзе, як цяпер. Ну і хапаў Міхал снапкі. Аб зямельку біўся. Пасля, праз год, ніхто гэтага проса ў нас і не сеяў. А ён пасеяў. І не толькі проса. Праз год да сваёй пунькі — у яго пунька стаяла на загуменні, калгас там сена з логу складаў — прыкінуў трысцень і пусціў малатарню з прыводам. Казалі, што недзе ў Палянах, за Віліяй, купіў за паўтара пуда проса. Пры немцах усе са сваіх шнуроў малацілі цапамі, на гумнах, як да калгасаў. А тут малатарня...— Грасыльда ўтаропілася некуды на ферму.— Гула, як гэта цяпер вялікая, што за трактарам цягаюць. Так усю вайну і была ў Лонве малатарня, аж пакуль, ужо ў блакаду, немцы з самалёта, калі агонь лілі на вёску, не спяклі Міхалаву пуньку з прыводам. А сёння... Душа мая, бабская, не выцерпіць... Хаця пачакайце, вы ж не ведаеце яшчэ ўсяго. Пасля немцаў усіх нашых лонваўцаў, хто быў у партызанах, пазабіралі ў армію. Ды партызаны і самі пайшлі. Пайшоў быў некуды і ён. Але скора з'явіўся, на яго звяшчэння не прынёс пісьманосец, як на майго. З'явіўся ён сам, праз тыдзень, як цяпер помню. Прывезлі яго з раёна ў легкавой машыне неяк надвечар і старшынёй паставілі. Калгас-то адразу ў нас аднавілі, летам, у сорак чацвёртым, як толькі нашы прыйшлі. Каб гэта цяпер... Наш бы Міхалка... А тады, што мы, адны бабы, глядзелі надта. У кожнай сваё гора, а мужчын — дык нікога ж і не асталося ў вёсцы. Ці Міхал, ці Шмагал за старшыню — нам было ўсё роўна. Ніхто і слова не сказаў. Прывезлі дык і прывезлі. За старшыню дык за старшыню. Прывёз тады яго з раёна ўпаўнаважаны, казалі. Высокі такі, худы, з голенай галавой,— вылез з легкавой машыны на дзядзінцы ў нашай Лонве,— вышэйшы за ўсіх быў. Як цяпер помню, чалавек той быў яшчэ ў нямецкай форме... Я ўсё баялася яго. Хаця тады ў нямецкай адзежы многа людзей хадзіла. Той чалавек і па-

кінуў нам за старшыню Міхала. Зрабіў сходку ў тым канцы вёскі, што астаўся ад немцаў, не згарэў, і назаўтра сталі звозіць снапы са шнуроў у адну пуню, як і да вайны. Пасля ўжо мы, пасля ўвідзелі, што за Міхал наш. А перш, тады, як яго толькі паставілі, быў мякутанькі, што кужаль... А мой усё роўна з фронту пісаў: «Даб'ём врага ў яго бярлозе, вярнёмся, даб'ём і дома...» Гэта ён Кастыцкага збіраўся дабіць...— Грасыльда змоўкла і ўздыхнула.— А выйшла так: майго няма, галаву паклаў у Германіі, а гэты ад смерці збярогся... Змог... Я, сын, і не хацела табе ўсяго расказваць, але як пачала спачатку... Давяла аж да сягоннішняга. Цяпер наш Міхал... Я ж і забылася... З вайны пасля хто вярнуўся з мужчын,— у нас усе ў лес пайшлі: леспрамгас якраз ля самай Лонвы пабудаваўся, там таксама мужчыны трэба былі. Калі і мы, бабы, хадзілі лес рэзаць па снягу і па марозе ўсе тыя зімы, то мужчыны не так былі патрэбны... Яны і самі туды пайшлі, там плацілі грошы. А мы зноў асталіся з Міхалам. А пакуль мужчыны былі на фронце, ён нас баяўся. Не нас, сваёй бабскай галавой думаю. Баяўся, мусіць, што калі вернуцца мужчыны,— беражыся! А тыя прыйшлі — у яго і волас з галавы не ўпаў. Тады ён і распышэў. А сёння — не падступіся ўжо. Без фігі не да носа, як у нас кажуць. Увідзеў, што ўсё сышло з рук. Начальнік. Дык вось, што сёння было... Паніха наша, што жыве аж на самым канцы, з хлеўчыка хату зрабіла, дзяцей у яе трое, муж на вайне, як і мой... Узяла яна ад малатарні ў хустку ячменю завязала, кіло так са тры,—і за пазуху. Злавіў Міхал. Сам. Людзей клікнуў, каб усе бачылі, біць хацеў яе, не далі. Крычыць: «Злавіў казу з арэхамі!» Павёў у канцылярыю, сходку адразу склікаў: «Пад суд!» Мы і маўчалі і не маўчалі, анічога ў нас не выйшла. Бабу — пад суд: дабро — калгаснае, пакараць яе трэба, каб другія не бралі... Другія... За каласы летась адной бабе з-пад Мсціжаў тры гады далі. Каласоў назразала на полі ў жыце. Ужо ўсе паперкі на Паніху Міхал сам завёз, куды трэба, у суд падаў. У суд... Тут ужо маё сэрца не вытрывала. На праўленні я маўчала. Што крычаць... Закон. А і я ж — пачальства. Праўленец. Але ж не табе судзіць, солтыса ты кавалак! Не табе... Пасля Ігнася ён солтысам у вёсцы быў, каб вы ведалі...

Колькі цяпер было ў яе, у Грасыльды, злосці па Кастыцкага.

Угарэліся дровы, ля агню стала горача, і Завішнюк ад-

сунуў калодачку далей пад самы асвер. Грасыльда ўстала, рассунула трэскай галавешкі, узяла са сталюгі чорную рымзатую анучу, падняла гаршчок з цагліны, пакруціла ў руках і паставіла яго на вуголле.

— Паднізам бульба тады будзе цвярдзейшая, калі не саставіш на жар... Я сёння ўжо гэта расказала аднаму чалавеку. Савасцянчыку. Табе другі раз кажу. І ўсім буду гаварыць, маўчаць не стану. Бабы нашы за мяне на ферме сёння рабілі, а я ў раёне была. Выйшла раніцай, калі вы ў лес пайшлі са сваімі дзяўчатамі... А адтуль пад'ехала. Падвезлі мяне, бо Савасцянчык сказаў. А я і адтуль бы прыйшла пехатой. Ногі яшчэ служаць. Савасцянчык у партызанах тут быў у нас. Яго ў раёне пакінулі. Цяпер, летась здаецца, яго сакратаром першым зрабілі, стаў на машыне да нас ездзіць. Раскажу табе, сын, як я Міхала вясной у Савасцянчыка бараніла. А мне надта трэба было гэта тады. Калі ж у нас, у баб, усякі чорт сядзіць. А страх яшчэ горшы. Са страху, мусіць, і бараніла... Даўно тут было, калі пасля трыццаць сёмага «как фамилия?!» — пыталіся, як хто з нашых баб заікаўся на сходзе. А тады: «Враг народа. Туды — дзе мужык». А дзе мужык, ніхто з баб і не ведаў, пісьмы адтуль не прыходзілі. Цяпер, сёлета, во аж у сорак шостым, некаторыя вяртацца сталі. Сталярчук наш прыйшоў. А ў мяне і цяпер пасля гэтага «как фамилия?!» шорах па спіне ідзе. А і немцаў перажыла...

Закіпела бульба, зашумела ў гаршку вада, падняла скавародку і пацякла на вуголле. Зашыпела гарачая цагліна.

— Дык пра што гэта я? — перапытала раптам Грасыльда.

— Пра Міхала...— адказаў Завішнюк, папраўляючы на сваім маленькім носе акуляры.

— Забываюся ўжо.— Грасыльда задумалася і пачала зноў, здалёку-здалёку: — Вясна сёлета была халодная, дажджы. На поле не ўзлезеш. А сеяць — сей. Не сееш — у раён. Нарада. Позву шлюць. І ездзілі. Паехалі мы туды, як цяпер помню, з Міхалам. Каня лепшага — старшынскага — запраглі, сена ў калёсах пасцілкай заслалі, села нас аж тры бабы, Міхал чацвёрты. Каню — як досыць. Я была з Волькай Япкавай — брыгадзірам. Яшчэ старая кабеціна з намі адна — да доктара. Пакуль даехалі, у раёне тым, відаць, вецер у нечых галовах у другі бок завярнуў. Прыходзім у райком да іх — не будзе, кажуць, сёння

нічога. Ну, Міхал пачуў і пабег недзе, ніхто не ведаў, куды і што. На вачах у начальства мо каб не круціцца. На дарозе, кажа, ля моста, пад вечар я вас злаўлю... А нам што рабіць? Сядзім і не ведаем, дзе рукі дзець. Людзі прыязджаюць — ад'язджаюць. А ў нас гаспадара няма, бабы распаўзліся па крамах. Сяджу я адна, сагнуўшыся, на ганку пад страхой. Пайшоў дождж. Конь адзін толькі наш стаіць на райкомаўскім двары, падструніўся, мокне. Гляджу, бразнулі дзверы, на ганак выйшаў сам Савасцянчык, белагаловы, чысты з твару, як хлапец,— ён яшчэ і цяпер малады зусім. У чорным касцюме. Савасцянчыка я ведала, мяне ён не знаў. Баба нейкая сядзіць, і ўсё. Што яму. Вылаяўся ён ціха, але, угледзеўшы мяне, змоўк. Крыкнуў некуды на двор: «Варанкевіч!..» З другога боку будынка, што быў побач, з ганка прыкалдыбаў мужчына, інвалід, у старой белай брызентавай накідцы, зарослы рыжай барадой.

— Коня, Варанкевіч,— у хлеў. І сена падкінь жывёле. Старшыні! Гаспадары! Яго б каторага на дождж выгнаць, як сабаку... Каб намок — ведаў бы. Ну і людзі! І дазнайся — адкуль конь...— Загадаў і пайшоў злосны назад, на мяне не глянуў. А я сяджу і думаю — будзе бяды каня забраць. Варанкевіч — вартаўнік іхні, ці што — адчыніў вароты і пагнаў яго туды, дзе машыны ў начальства стаялі. Дождж перастаў толькі пад вечар, калі мы ўжо сабраліся, усе бабы, ля райкома. Пара ехаць дамоў, трэба конь. А ён, як арыштаваны,— пад замком. Патрымалася я за клямку, паляпала і кажу бабам: «Пайду да Савасцянчыка...» Тыя маўчаць, як бы чаго баяцца. А Волька Янкава, маладая зусім яшчэ... Дык у яе аж зубы ляскаюць, пасінела ад холаду, глядзіць на мяне вялікімі вачыма, здаецца, аж просіць: «Схадзі, цётка...» Пайшла я. У кабінет яго не дайшла, стукнулася з ім на парозе на ганку. Відаць, праз сваё акно нас угледзеў і ішоў ужо сам. «А-а-а. Гэта вы?» — падымае свае шэрыя вочы на мяне. «Я»,— кажу. «А дзе вашы людзі? Кліч сюды». Прыйшлі нашы бабы. Усе сухія, ніхто пад дажджом не намок. «Дзе старшыня?» — «Не паехаў».— «Чаму?» — «Работы ў яго шмат,— кажу я.— Сее. Затое нас больш па калёсы пасадзіў».— «Ваш Кастыцкі сее, кажаш?» — «Сее»,— кажу. «Гм-м... А хто брыгадзір?» — «Я — брыгадзір».— «Як фамілія?» Я была здрыганулася і сказала. Волька Янкава дык ні жывая ні мёртвая. «А-а-а... Гэта так, значыць, жывём? Што там у вас за калгас, што там у вас за людзі? Брыгадзір...—

трасе ён мне галавой.— Кінуць жывёлу на дажджы... Хамут жа намокне, вы ж каня скалечыце, пакуль да сваёй Лонвы даедзеце. А з вамі мы яшчэ пагаворым,— кажа ён мне.— Брыгадзір... Я ў вас буду...» Ён зноў клікнуў Варанкевіча. Варанкевіч прыгнаў нам каня, і мы паехалі. А тады неяк скора прыехаў і Савасцянчык да нас, дазнаўся, што і Міхал быў сам у раёне, што брыгадзір не я, а Волька Янкава. Паклікалі мяне ў кантору. Пайшла. Доўга ён пальцам круціў у мяне ля носа, а я стаю і слухаю. «Гэта ж усё на сябе ўзяць! Гэта ж такіх лайдакоў, якіх судзіць даўно трэба, за сваю спіну хаваць...» — крычыць на мяне, а вочы ў яго смяюцца... Затое сёння вочы не смяяліся...—голас у Грасыльды пасуровеў.— Прыйшла я да яго, сівая баба, адчыніла дзверы, нават не стукалася. Не люблю я барабаніць у дзверы, у нас у вёсцы ніколі ніхто гэтага не рабіў. І мяне не вучылі. Расчыняю дзверы, заходжу. «Здрасце...» — «Здрасце...» Адгінаюцца яны ад стала і глядзяць адзін на аднаго. Удвух яны ў кабінеце. Пасля на мяне сталі глядзець, перакладаючы на стале паперы. Відаць, спяшаюцца некуды, думаю. Другі, што сядзіць з ім,— тоўсты, лысы, сур'ёзны — мяне ўсё з ног да галавы вачыма пераводзіць. З горада, відаць, з вобласці нехта, думаю. Савасцянчык наш толькі чырванее і чырванее. А я ім —сваё адразу. Усю дарогу, усе дваццаць вёрст, што ішла, пра гэта думала. Каб за сябе, не пайшла б, слова не сказала б. Лепш бы тры гады дзе ў Сібіры адрабляла б за тры тыя няшчасныя кіло ячменю. Не пайшла б прасіцца. Так і кажу яму ўсё адразу. «Вы сказалі, судзіць трэба яго даўно — нашага старшыню. А ён сам судзіць. Людзей, якім есці няма чаго, у якіх дзеці, у якіх замест бацькі звяшчэнне з Германіі ляжыць... Судзіць іх... За тры кіло ячменю...» Усё, усё гаварыла... Не ведаю, можа, цэлую гадзіну, а можа, мне так здалося. Яны, удвух, і на паперы свае забыліся, адклалі. І слухаў усё той, тоўсты і лысы,— павярнуўся да мяне, падпёр галаву, пасадзіў пасля ў сваё крэсла, а сам стаў хадзіць па пакоі. А я ім усё пра нашага Міхала Кастыцкага... Пра парадкі, пра тое, як людзі жывуць усе гэтыя гады, як бабы мэнчацца, і што ніхто ніколі не прыехаў, не запытаўся, што ясцё, а судзіць... Той усё гэта пасля запісваў, запісваў, а тады сказаў Савасцянчыку, каб завезлі мяне ў калгас, каб я не ішла гэтак далёка пехатой. Аж на ганак выйшаў са мной. На ганку ўжо сказаў, што Міхал пры немцах быў наш чалавек, памог многа, і солтысам ён сам яго ставіў, калі

быў у «Жалезняку»... На двары я ўгледзела, што ён не такі і тоўсты быў, як мне здалося адразу, ніжэйшы толькі за Савасцянчыка. Руку маю пацiснуў, развітваючыся, і доўга стаяў пасля на ганку і курыў... Болей, сын, я табе нічога не скажу: бульба зварылася, і ражончыкам не варта пароць, так бачу. Загаварылася я. Вячэру ж трэба ісці строіць. Э-ха-ха...

Грасыльда адсунула сталюгу да дроў, што ляжалі за асверам пад частаколам, зняла з яе фуфайку і ўскінула на дошкі ля гародчыка. Схадзіла прынесла з хаты чысцейшую анучу «з прыпечка», адцадзіла бульбу і панесла да сенечак перад сабою гаршчэчак, выцягнуўшы рукі. Дзверы і ў сенцы і ў хату стаялі адчыненыя, і, калі Грасыльда запаліла лямпу, Завішнюк угледзеў, як агонь ад яе свяціў на вымытую падлогу — яна была жоўтая.

Хутка Грасыльда вярнулася на двор з вядром у руках. Падышла да вогнішча.

— На двары суха. Пырсне іскра... Да хлева недалёка. А там іржышча, успыхне, як сярнічка...— Яна ліла з вядра ваду на чырвоныя галавешкі. Падняўся дым — повен двор. Завішнюк адышоўся ад асвера да гародчыка, дзе ляжалі дошкі, абапёрся на частакол.

— Нікуды не адлучайся, сын. Бульбу на стол сыплю...

Грасыльда дастала са студні вады, скрыпнуўшы сухім асверам, і падыбала з поўным вядром да сяней.

Завішнюку не хацелася цяпер ісці ў хату, не хацелася нават і вячэраць. Можа, ад таго, што перачакаў. У яго перад вачыма чамусьці стаяў цяпер невысокі, шырокі ў плячах чалавек з вялікімі і доўгімі рукамі, бы яны выраслі ў яго для таго, каб імі можна было заграбаць усё пад сябе. У гэтага чалавека раслі чорныя густыя валасы, нізка, ад самых, здавалася, броў, лоб пашмаравалі ўжо маршчыны. Нос у чалавека быў шырокі, і калі чалавек дыхаў, у яго хадзілі ноздры, як храпы ў каня, калі яму цяжка цягнуць калёсы. Здавалася, што чалавек хапае больш паветра. Вушы ў яго былі адтапыраны і вочы, вялікія і рудыя, ніколі не былі на месцы — бегалі. Чалавек усё прыслухоўваўся да нечага — можа, каб усё пачуць, што пра яго кажуць? Гэта і быў Міхал Кастыцкі.

— Людзей? Рабочых трэба? А яшчэ чаго ты не хочаш? Ага, прадуктаў... Ні грама нічога з калгаса ты, хлопец, не палучыш. І так вас многа навучылася калгас аб'ядаць, вас, прыезджых. А-а-а... Ты за грошы. У мяне не крама. Я не прадаю. Я здаю. Дзяржаве ўсё здаю. А ты купі ў ма-

газіне. Што? Далёка? Нічога. Сходзіш. А людзей — дудкі я табе дам. Усе і так у вас — у тым лесе. Больш ні душы не палучыш, хочаш ты ці не хочаш. Што? Плоціш многа? А хто тады, скажы, у мяне ў калгасе астанецца малаціць? Хто? Разумныя вы такія — з грашыма прыязджаеце, людзей зманьваеце, ад калгаса адбіваеце...

Завішнюк успомніў, як гэты валасаты, з доўгімі рукамі чалавек бегаў усё па канцылярыі, калі ён, Завішнюк, прыйшоў прасіць, каб адпусцілі людзей, хоць бы «дзве пары рук», чысціць лініі.

Чалавек, здалося, за калгас стаіць гарой.

Завішнюк падумаў яшчэ, што Грасыльдзе з бабамі будзе цяжка «скінуць з паста», як яна казала, старшыню. Яго нехта недзе трымае, калі пасля вайны паставіў. А Грасыльда... куды яна дойдзе і чаго даб'ецца...

Яму стала шкада яе, і ён думаў ужо, як бы ёй памагчы, але тады хацелася адразу пабегчы да гэтага Кастыцкага... А што ён зробіць яму, калі пабяжыць? З работы здыме? Ён жа, Завішнюк, да Лонвы і калгасаў ніколі не бачыў. Яму яшчэ хацелася заступіцца за Паніху, якую аддалі пад суд. Ён ведаў, што гэта несправядліва і што, калі на тое пайшло, то не такім яе судзіць, як Кастыцкі... Але ж гэта відаць недзе кожнаму. Грасыльда сваім бабскім розумам рассартавала ўсё, што да чаго. І Завішнюк падумаў тады, што ён перад нечым зусім бяссільны, што ёсць у жыцці рэчы, да якіх у яго кароткія рукі... А Грасыльда тады? Мацнейшая за яго? Выходзіць, мацнейшая... Ён добра, можа, разбіраўся ў сасне, у масівах, у дзялянках і кварталах, а ў людзях, у жыцці? У лесе, на лініі, яму прасцей... Тое, што замінае бачыць,— сячы... Сячы і адкідай прэч. Гэтак рабіў ён і яго дзяўчаты — Жэнька і Света. Гэтак рабілі ўжо і Акцызнік з Юркам Далінай. У лесе, на лініі,— навука простая. А тут, у вёсцы, дзе людзі? А калі тут ёсць замінішча?

Завішнюк пачынаў думаць пра гэта толькі цяпер, дваццаць шостым годам, пасля інстытута... Можа, так яно і трэба было. Там — вучыцца. А тут — думаць. Але думаць тут, у Лонве, было мала, тут нечым некаму трэба было памагаць, умешвацца ў нешта. А хто ён такі? І калі ён так думаў, яму было сорамна перад Грасыльдай. І тое, пра што яна расказвала ў раёне, ці пайшоў бы, ці расказаў бы ён?

У Акцызніка на двары бразнула клямка — вечарам стала ціха і далёка было чуваць,— і на ганак, смеючыся,

выбеглі дзяўчаты. Нехта іх падрушыў з хаты і паўздагон лінуў яшчэ з конаўкі вады — не было ўжо відаць хто. Дзяўчаты яшчэ больш зарагаталі і апынуліся аж на вуліцы. Завішнюк падышоў да варот, апёрся і стаў чакаць. Ішлі Жэнька са Светай, ішлі ў вёску, адразу было відаць. Параўняліся з Грасыльдзінымі варотамі — аціхлі.

— Клікні Вікенцьевіча...— загаманіла Света. Гэта яе дзяркаты голас.

— Выдумай...— Жэнька нават саступіла са сцежкі і чамусьці прайшла ля Грасыльды вуліцай аж па пяску — далей ад варот. Як ведала, што ён тут стаяў.

— Гм... Я цябе, Жэнька, не раскушу... Ніяк. То ты так пра яго, то... А на мне, то хай сабе ён качаецца на сенніку ў Грасыльды...— Ціхоня Света распускала ноччу язык, кугікала, як сава. Завішнюка гэта было зачапіла, ён хацеў кінуць ім слоўца туды, на вуліцу, але стрымаўся. Падумаў, што будзе падобны на таго, хто брэша з падваротні.

— Адстань... Света...— пачуў ён ужо здалёку — недзе аж адтуль, ад бярозавых платоў,— як злосна сказала Жэнька, і доўга думаў пра яе, стоячы ля варот.

Над Лонвай цямнела. Далёка на захадзе гарэла яшчэ, не стухала неба. Святло цадзілася на двор да Грасыльды праз дрэвы, што цямнелі на гародзе, і адсвечвала ў шыбінах акна, ад двара. З балота, з-за ракі, аж сюды на двор, несла гарам — за Лонвай гарэў каторы ўжо дзень торф. Завішнюк чуў яшчэ, што пахне зжаты бульбоўнік, які Грасыльда сёння ўдзень падняла з зямлі і павесіла на плот, што за вуліцай.

Было чуваць, як на двары ў Акцызніка яго жонка Юзэфа доіць карову: позна прыйшла з работы. Завішнюк, прыслухаўшыся, чуў, як звоняць струмені малака аб парожняе вядро. А можа, гэта звінелі над вухам камары, якія не баяліся на двары ўвесь вечар дыму, а цяпер не баяцца і холаду?..

У хляве ў Акцызніка адзываліся запёртыя нанач, мусіць, някормленыя, свінні. Па вуліцы па пяску папаўзлі з фермы, валюхаючыся, белыя гусі. У суседзяў, што жылі па другі бок вуліцы ад Грасыльды — Завішнюк іх не ведаў,— з плота здымалі бялізну. Далёка пад лесам, за Грасыльдзінай студняй, бялела яшчэ ржышча на зжатым полі. Па ім хадзілі коні: недзе там, бліжэй да рэчкі, на лагу, ціха, ледзь чутна звінеў званок — на шыі ў жара-

бяці. На выгане за ракой раскладалі нанач агонь начлежнікі.

Над вёскай праляцелі дзве зграі варання. Ціха, каб табе каркнула хоць адна. Падаліся недзе на лес. У Акцызніка на двары зноў заляпала клямка — на ўсю вёску. Недзе ў гародчыку, блізка ля Завішнюка, покнула на зямлю груша-дзічка. Праз колькі часу па пяску, сярод вуліцы, там, дзе ішлі гусі, ступаў паволі з дубцом у руках Юрка Даліна. Ішоў ад Акцызніка. Завішнюк адчуў, што яго душа неяк горнецца да гэтага няскладнага рыжага хлопца, што яму яго шкада.

На ферме заблісkалі агні — там курылі, тады загаманілі людзі, ходзячы з ліхтарамі. Пасля зараўла малатарня, застагнала на ўсю ноч. Завішнюк зноў апёрся на вароты і глядзеў на рабіну, што нагіналася над самым плотам ад вуліцы. Ягады ў вячэрняй цемнаце былі яшчэ чырвоныя. Хацелася дастаць іх рукой і пакратаць.

Ён не чуў, як Грасыльда доўга клікала яго вячэраць.

*Раздзел чацвёрты*

# Дым

Ззаду за калясьмі ўсю дарогу ад Разіна падымаўся пыл. Ветрам яго зносіла на сухое і халоднае пад вечар поле, і дзіўна было — адкуль браўся і трашчаў на зубах пясок: ён жа, Юрка Даліна, сядзеў у перадку высока на ахапку пацёртай жытняй саломы. Салому ён падсцяліў — падкінуў пад мяхі, наскубшы са стога, які ўчора за дзень скідалі на ржышчы за кароўнікам; яна пахла жытам і мышамі.

Далёка ўжо наперадзе, аж за грушамі, што ў двары ў садзе,— стары Тодарчык: схаваўся з падводай.

Валодзі Сідаркі з Валуйком даўно нідзе не відаць, хоць глядзі, стаўшы на ляжэйкі,— у іх добрыя коні. Сідарка з Валуйком першыя прыперліся ў Разіна да млына, што на беразе маленькай ракі. Млын тут быў да вайны, тады і раку застаўлялі; цяпер у будынку склады — сюды возяць нарыхтоўку з усіх калгасаў, што ля блізку, і нават з-за Віліі, з другой вобласці.

Сідарка з Валуйком першыя і разгрузіліся і цяпер «васелі» на коней. Відаць, да вечара зноў, як і ўчора, будуць вазіць Палюсе дровы, калі не наткнуцца на брыгадзіра ці на самога Міхала. Палюха ставіць самагонку. Юрка не п'е, не п'е ў яго і бацька — ён хворы. І ніхто ў іх доме не п'е, і госці рэдка ў іх бываюць.

Да саду трэба падымацца на гару па пяску. Там ужо дзірван, а тут старыя разбайдаваныя задпія колы шапаляць і аж трашчаць у густым жвіры, нібыта коціш дома па двары з хлява да студні дзежку, на якой рассохліся абручы і вось рассыплюцца клёпкі.

А Смык? Яго цадзі і цадзі сукаватым пугаўём: ледзь перастаўляе пад гару ногі. Закульгаў яшчэ. Калі зморыцца — заўсёды кульгае.

— Юрка-а!..— крычыць недзе з-за саду стары Тодарчык.

«Дзюрка-а-а!» — здаецца яму, і ён успамінае, што так яго заўсёды заве Валуёк і дражняць у вёсцы. Але яму весялей: мусіць, Волька Янкава сказала Тодарчыку не кідаць Смыка, бо ён наравісты. А знаравіцца — кладзецца ў аглоблях нават на сухім. Хоць забі яго.

Так моцна крычыць Тодарчык, кліча. Юрка падумаў, што той крычыць, стаўшы на калёсах, і сам падымаецца, каб угледзець таго, але нічога не відаць за садам. Юрка доўга ўзіраецца на дарогу, і тады яму здаецца, што ён бачыць Тодарчыка. Той стаіць у чорнай кашулі і чорных штанах на калёсах, шырокі, сагнуты, падняўшы левую руку ў плячы,— на крывых нагах і глядзіць у зямлю, як заўсёды. Не ўзнімае воч. А яны ў яго сумныя: пасля вайны ён астаўся адзін, усіх у яго спалілі... І бровы ў Тодарчыка калматыя, суровыя, і валасы бурыя, не пасівелі...

«Што мядзведзь... Касалапы...— думае Юрка, хоць ніколі мядзведзяў і не бачыў. А яны ж у вайну прыйшлі аднекуль аж у лонваўскія лясы...»

Пасля Юрка ўспамінае, што і яго Валуёк заве «касалапы». І зваць пачаў пасля таго, як раз, сеючы за гумном бульбу, яго, Юрку, усадзілі ў пусты мяшок і завязалі. Можа, ён тады, як быў у мяшку, і касалапіў, а так ён, здаецца, ступае прама і ногі ў яго не крывыя, як у Тодарчыка.

Валуёк яшчэ заве яго, Юрку,— руды мядзведзь... Ну і хай заве — Юрка не баіцца, што руды... Зусім не баіцца. Калі сад, павярнуўшыся бокам, павузеў і паменшаў, Юрка ўгледзеў далёка ля лесу на самай гары могілкі і да-

рогу, што цягнулася недзе да іх цераз белае ад іржышча поле. Там, на дарозе, здавалася, стаялі на адным месцы дзве падводы. Іх даганяў ужо і стары Тодарчык: яго кабыла бегла па чорнай дарозе.

Юрка ткнуў пугаўём пад хвост Смыку — той пачаў брыкацца: закідаў нагу і стукаў падковай аж па аглоблі. Бегчы — не бег. Спацеў раптам увесь, з-пад падсядзёлка пайшла пена. Форскаў, махаў галавою. Хапіла яму, відаць, за дзень. Трэці раз схадзіў з мяхамі ў Разіна. Недалугі ён, мусіць, яго ніхто з хлапцоў ніколі не хоча запрагаць, хапаюць лепшых. А Волька Янкава тады просіць яго, Юрку. Дзіўная яна. Брыгадзір — а ніколі на Юрку не крыкне. Яна ж магла і загадаць яму, як Міхал. Той дык толькі і загадвае, сувіраецца на баб дзень і ноч. І ў вёсцы, і на загуменні. «Лопнеш! — крычыць,— а ў мяне на работу пойдзеш! Выкуру з нары!..» А Волька не такая. Прыйдзе на двор, пакліча з хаты і глядзіць у вочы: нешта ёй трэба, ведаеш ужо. І вочы ў яе добрыя, блакітныя, як і нажутка, у якой яна заўсёды ходзіць і на якую заўсёды ў яе набіраецца асця ад ячменю. Глядзіць у вочы, пасля пакладзе руку на галаву, пагладзіць ціха — чуваць нават, што рука ў яе цёплая,— і скажа: «А Смык толькі цябе і слухае...» І, калі Юрка маўчыць, нагнецца і зашэпча на самае вуха: «Памажы, пляменнік... (Яна яму ніякая не цётка, яна і Валуйка пляменнікам заве.) Не магу баб ад малатарні зрываць. Не хапае рук».

І Юрка слухае Вольку. Шкадуе ён і Смыка. Падарвалі яго, відаць, недзе ў дарозе, бо кінулі салдаты на выганчыку, калі стаялі адразу пасля вайны ў вёсцы. Юрка знайшоў яго тады ў кустах на балоце і прыехаў на ім конна да Волькі на двор...

Калі мінуўся пясок, пачало трэсці на калдобінах. Дарога тут была цвёрдая, што камень, і Смык цокаў падковамі, зыбаючыся на нагах.

Юрка зусім адпусціў лейцы.

«Дзе ты іх дагоніш...»

Зноў схаваліся з вачэй далёкі лес і могілкі: дарога вяла ў лагчыну, у бярэзнік.

Калі нарэшце Смык патрухаў, з-пад калёс пачалі пырскаць і біць па твары дробныя каменьчыкі. Яны траплялі ў рот, тады ўспаміналася, як у пачатку лета, калі налівалася жыта і калі ў Лопве нічога не было есці, Юрка з маці рвалі каласы. Ад сырога і салодкага, як малако, жыта яшчэ больш хацелася есці і вяла́ хоць куды галава...

Цяпер у калгасе жыта многа, дзень і ноч малоцяць. І ніяк яго не перазозяць у гэта Разіпа...

Юрка любіў малаціць.

Лапоча і звініць, аж заходзіцца малатарня. Наверсе стары Тодарчык ці сама Волька Янкава кідаюць снапы ў барабан — у чорвую ляпу малатарні. Яна хапае ўсё на свеце. Толькі снапы трэба развязваць. Але раскручваць перавяслы доўга, адзін чалавек не спраўляецца. І тады прыдумалі рэзаць іх вострым нажом. Аж тры дні сядзеў ён, Юрка, ля барабана, рэзаў перавяслы і падсоўваў, а то і падкідваў снапы пад рукі старому Тодарчыку. У вочы сыпала асцё і пыл, калола ў твар вострая салома — снапы камлямі,— а ён, Юрка, глядзеў толькі, каб не разануць нажом сабе па руцэ, не чуў, што баляць паясніца і рукі ў плячах. Затое, калі пераставаў гусці трактар і трэсціся малатарня, Юрка мог адзін адваліцца на салому на малатарні, спакойна ляжаць, не кратаючыся, і глядзець у неба. Яно бывае рознае: густое, блакітнае, а то аж белае, калі свеціць сонца. У хмарныя дні яно нізкае, апускаецца над самай фермай, кладзецца аж на стрэхі кароўнікаў і сціргы саломы — яго з малатарні можна дастаць рукой. Падняцца трэба толькі. Але цяжка падняцца, каб і хацеў,— разамлелі ногі, баляць плечы, ныюць і пякуць на далонях мазалі ад нажа. Хочацца спаць, але не заплюшчваюцца вочы: пад павекі набілася пылу і асця. Яшчэ — хочацца есці. Але няма каманды знізу: «Канчай!.. Палудзень!..» Нешта, мусіць, у трактарыста заела, чуваць, як там ляпаюць у жалеза і лаюцца мужчыны. Юрка тады паварочваецца на малатарні на бок і бачыць ля кароўніка трактар «ХТЗ» з зубамі на колах. Да яго ад малатарні цягнецца шырокі пас — выслізгаўся, блішчыць на сонцы. Ля самай выхлапной трубы — чырвоныя вяргіні, гараць, што жар. Трактарыст любіць іх і кожны дзень — раніцай — прыносіць ад некага свежую густую кветку-шышку (а то і дзве) і торкае за дроцік ля выцяжной трубы. Пасля заводзіць трактар...

Зноў гудзе матор, ляскае малатарня... Юрка ўздрыгвае — гэта Смык пабег з гары, і па каменні ляскалі калёсы. Тады Юрка думае, што, каб не прыехаў у Лонву таксатар, ён, Юрка, малаціў бы ўсё лета. Сядзеў бы ля цапоў з Тодарчыкам ці Волькай і рэзаў бы перавяслы — трыбушыў снапы. Можа б, ён і астаўся пры малатарні, каб не трапіў на вочы Міхалу ў канцылярыі, калі той крычаў на таксатара. Ён на ўсіх крычыць: на сваіх і на чужых.

— Людзей? Не дам! Не дам, і ўсё. Леспрамгас, лясгас. Зімой і летам. А сеяць, а малаціць — хто? Не дам! — Міхал бегаў тады па канцылярыі, махаў рукамі і ні на кога не глядзеў. Ён ніколі ні на кога не глядзіць, калі гаворыць, Юрка гэта знае.— Кожны жук і жаба тут табе... Упаўнаважаны сам са свечкай па вёсцы людзей шукаў учора, спытайся! Знайшоў, думаеш, лішняга каго? У мяне бабы, адны бабы. Я іх сучкі абсякаць табе, хлапец, не дам. Не пашлю! Не дам! — Міхал зноў бегаў па хаце, здавалася, ніколі не ўціхамірыцца. Пасля раптам змоўк, сеў ля стала на ўслончык і доўга глядзеў у акно. Юрка тады стаяў у парозе, зайшоўшы ў канцылярыю,— Вольку шукаў. Стаяў у парозе і малады таксатар у акулярах — Завішнюк, Юрка ведае. Стаяў і таксама маўчаў. Смешны нейкі таксатар. Сагнуўся нечага. Нос у яго маленькі, і чорныя акуляры на ім вісяць, ледзь зачапіўшыся за кончык. Здаецца, яны вось-вось спаўзуць і ўпадуць на зямлю,— яму пад ногі. І валасы ў таксатара надта светлыя і доўгія, калі рассыпаюцца на лбе — хаваюць акуляры. Таксатар рэдка калі смяецца — сур'ёзны.

Міхал доўга тады сядзеў ля стала, пасля падняўся, адышоўся на сярэдзіну канцылярыі і паказаў доўгай рукой на яго, Юрку.

— Вось табе работнік! І больш ні грама не прасі. Усё. Гаварыць не стану...— і ён выбег з канцылярыі, бягом.

Таксатар толькі зірнуў на яго, Юрку, праз свае бліскучыя акуляры, не сказаў ні слова, сагнуўся і падаўся цераз парог за старшынёй...

У бярэзніку ззаду за калясьмі гнала апалае ўжо сухое лісце і сена, што валялася на дарозе: перш тут у Разіна вазілі сена на нарыхтоўку. Праз бярэзнік свіцілася поле, пустое, ціхае. Мінуўшы бярэзнік, Юрка неяк адразу падняўся на горку да могілак. Адгэтуль відаць вёска. Ён становіцца на ўзгоенай саломе на калені — падвод ужо не відаць — і глядзіць на вёску. Чорныя хаты, калі глядзіш здалёку, неяк улукаткі раскіданы за ракой. Сям-там белыя стрэхі — гэта людзі будаваліся пасля вайны. За сухой грушай ля моста, у гэтым канцы вёскі,— іхняя хата. Яе будавалі два гады, узяўшы ў раёне вялікі крэдыт — пяць тысяч. Што ім на сям'ю пяць тысяч, калі летась вясной пуд жыта быў у Даўгінаве на рынку пяцьсот рублёў, а Акцызнік прадаваў кошык бульбы за сотню. А ў яго, у Юркі, бацька хворы. Паранены ў грудзі з вайны вярнуўся — хварэе. Крэдыт ужо аддаваць трэба — фінагент па

працэнты прыходзіў, апісваў з дэпутатам швейную машыну, якая ў маці ад немцаў і ад пажару асталася,— была закапана ў зямлі.

Добра яшчэ, што хату «лёгка пажылі», як кажа бацька. Купілі ў калгасе зруб ад пуні — калгас прадаў яго за дзвесце рублёў, акт нават ёсць, у куфры ў прыскрынку ляжыць, Юрка сам яго чытаў. Зруб стары ўжо. Але калі з аднаго боку пачасалі бярвенне — ён як новы. З двара толькі стары, бо з двара — кругляк ляжыць. Хата цяпер вялікая... Юрка з бацькам вазілі ў Даўгінава на лесапілку дрэва на дошкі. Іх хапіла толькі на столь. Падлогу пасля пакладуць, а цяпер глінай выбілі. У хаце ўжо ёсць вокны і дзверы. Вокны новыя, а дзверы старыя і маленькія. Бацька іх прывёз пасля вайны з партызанскага лагера, калі па дровы ў Сырніцу ездзіў. Бацька і маці сагінаюцца на парозе, толькі ён, Юрка, яшчэ не дарос, каб гнуцца...

Смык бяжыць з гары, і падганяць не трэба. Бяжыць і кульгае. Цяпер пыл ужо засцілае ззаду ўсю дарогу, нічога не відаць. Зноў трашчыць на зубах пясок, як ля малатарні. Юрка пра малатарню больш не думае. Ён ужо два дні хадзіў у лес. Першы дзень рэзаў слупкі з дзяўчатамі, што прыехалі з таксатарам: Акцызнік збег немаведама куды, калі прыйшлі дзяўчаты. А тыя, відаць, баяцца таксатара... Другі дзень Юрка быў на лініі, з сякерай. Рукі на лініі балелі больш, чым ля малатарні. І мазалёў больш. Сёння таксатар дамоў раней адпусціў з лініі, дык Волька ўгледзела на ферме, калі ён, Юрка, з лесу ішоў, і прыбегла прасіць...

— Тыр-р-р... Драбіны растрасуцца...

З калёс спаўзала і рассыпалася салома.

Смык стаў, форскаў і круціў галавой,— ці не баўся, што яго могуць завярнуць назад: скаціна гэта чуе.

Юрка падняўся, паправіў салому, падгарнуўшы яе ў перадок, туды, дзе было дагэтуль сядзенне, хацеў ужо зноў крануць лейцы, як раптам падаўся ўвесь наперад і застыў стоячы. Адна нага ў яго была паднята на ляжэйку.

«Дым...»

Ён не бачыў, што пад'ехаў ужо да самай грэблі, што адгэтуль відаць рог аселіцы за ракой і хаты ў вёсцы. Вунь высокі асвер, здалёку тонкі, як жэрдка; здаецца, што там задзёр сваю дзюбу бусел. Гэта іхні асвер... Ён не згарэў, астаўся ў вайну ад пажару. Вунь, адгэтуль, ад рэч-

кі,— белая страха. Гэта іхняя хата... Над ёй дым. Дым белы, густы, высокі... Роўным слупком надымаецца ўгору — упоравень з асверам. Гэта іхні дым... Над іхняй страхой...

Юрка стаіць на калёсах, не здрыганецца... Пасля саскоквае на дарогу, падбягае да Смыка і папраўляе хамут, выцягвае грыву з-пад мокрага лямца, адпускае ніжэй падпінак — з вяроўкі, увесь у вузлах; тады зноў забягае Смыку наперад і гладзіць яго па шыі і па мордзе. У вялікім сінім воку на хвіліну бачыць сябе: свой доўгі нос, вунь які доўгі і гарбаты — на ўсё вока. І зубы вялікія і шырокія, як касцяныя падплятанкі, якімі ў вайну падплятал і лазовыя лапці.

Юрка смяецца. І калі ён смяецца — у яго тады яшчэ шырэйшы нос і даўжэйшыя зубы. У адным Смыковым воку і ў другім.

Пасля яму, Юрку, раптам робіцца холадна — усяму,— і яго пачынае трэсці. Ён зашпіляе на верхні гузік сваю кашулю з чорнага корту, якую маці сама шыла на швейнай машыне, купіўшы корту ў Даўгінаве, але яго, Юрку, усё роўна трасе. Тады ён становіцца нагой на вось і ўкульваецца зноў у калёсы на сядзенне, падкурчвае пад сябе босыя ногі. Ён не ведае, чаго яго схапілі дрыжыкі, і баіцца. Але яму не страшна. Дрыжыкі пройдуць. Гэта яны б'юць яго, мусіць, таму, што ён успомніў, як яны калацілі яго кожную раніцу з самай вясны, калі перайшлі з «кута» ад Акцызніка ў сваю хату, у якой былі толькі дзверы і адно зашклёнае акно. А тры астатнія прарэзаныя вокны завешвалі пасцілкамі. Ад мух і ад холаду. А ноччу тады не было чым накрыцца, і пад раніцу білі дрыжыкі пад парванай старой сівой буркай з хлясцікам, якой ён накрываўся разам з бацькам. А калі бацька сцягваў ноччу з яго бурку, раскрываў,— тады Юрку вунь як было холадна.

У хаце не было печы. Усю вясну і лета.

Цяпер у хаце ёсць печ. Яе рабіў два дні стары Кірык з Разіна. Маці з бацькам памагалі яму — мясілі гліну. Яны ўсю вясну мясілі гліну на ферме ля ямы (мясіў і Юрка) — рабілі цэглу. Хата ў іх высокая і печ высокая — цэглы на яе шмат пайшло. На комін на страсе дык і не хапіла. Але комін клалі сёння пасля полудня, калі Юрка ад'язджаў у Разіна. Клалі з цэглы-паленкі, якую бацька прывёз з партызанскіх лагераў.

З коміна валіў белы дым. Відаць, скончылі ўсё і падпалілі печ саломай. Ад саломы лепшая цяга і лепшае полы-

мя,— казаў раніцай стары Кірык з Разіна,— скарэй абсохнуць і люхты. А то на хату дым можа доўга каціцца.

Дрыжыкі не адпускалі. Але было цяплей, бо падкурчаны ногі. Яшчэ трасуцца калёсы, кідаюць ад драбіны да драбіны, грэешся.

Юрка не помніць: здаецца, Смыка ён не паганяў і за лейцы не кратаў. Той, відаць, пайшоў сам, калі ён, Юрка, узлез на калёсы.

Блізка была аселіца. Юрка цяпер глядзеў толькі на слупок дыму над сваёй хатай. Ён то быў просты і белы, то раптам нахіляўся да тонкай дзюбы асвера, тады чарнеў, гусцеў і над ім вырастала шапка, як над мухаморам. У печы, відаць, гарэла ўжо не салома, а дровы — смалянbegин трэскі і аскалёпкі, якія ляжалі ў сенечках.

Калі Юрка пераехаў уброд раку — Смык не сагнуўся нават, каб напіцца,— і падняўся ў аселіцу, убачыў, што дым ужо сцелецца па страсе ля коміна, падае зверху на двор — варожыць на дождж,— што ён цягнецца па двары ля паркана аж на вуліцу, аж сюды, на аселіцу да ракі. Юрка чуе, як пахне дымам,— гарэлымі смалякамі...

Было пад вечар, але ў вёсцы цяпер ні ў кога не палілася ў печы — вячэру варыць яшчэ рана. Юрка падумаў тады, што цяпер толькі ў іх адных паліцца ў печы, і засвістаў, рвануўшы за лейцы,— дрыжыкаў ужо не было.

Калі ён уехаў у вёску, пачуў, як нехта загаварыў да яго ад Валуйковага свірна:

— Хоць бы свістаў хлёстка, а то як баба старая. Каня запарыў, цыган...

Юрка не паглядзеў нават, хто быў ля свірна.

*Раздзел пяты*

# Каралінская пасека

Пад нагамі на сцежцы мяккі сівы мох, і ў ім хаваюцца вышчараныя шэрыя сасновыя шышкі, калі ступаеш на іх. Шышак на моху насыпана, як дробнага каменця ў лагчыне за гумнамі на полі, там адзін сіпак і нічога ніколі не расце. У маладым сосніку пачынае цвісці верас. Верас у лонваўскім лесе зацвітае ў жніўні, летам. Яшчэ не скора

загарыцца белым, а то і сінім агнём пасека пад Цянямі, праз якую яны ідуць, але ўжо лёгка пазнаць, які куст верасу якім цветам будзе цвісці. На адным, на зялёных елачках — дробненькія беленькія пупышачкі, на другім — сінія-сінія. Глянеш — аж мітусіцца ў вачах.

Яны ідуць цэлай грамадой — расцягнуліся па сцежцы на ўвесь соснік. Уперадзе Андрэй Акцызнік — ён павёў на пасеку праз Цяні-балота на кладкі, тут бліжэй, чымся праз мост па пагранзастаўскай дарозе. За Андрэем — таксатар Завішнюк, худы, сагнуты; Юрку, бывае, здаецца, што той нават гарбаты. Завішнюк у гумавых, бліскучых, добрых ботах, у рудым спартыўным касцюме. Тэадаліт нясе сам — у скрыначцы,— ніколі не аддасць несці нікому. За ім ідуць — ніяк не могуць ісці адна за адной, а ўпобачкі — Жэнька са Светай. У Жэнькі ў руках скручаная і перавязаная белай аборачкай лента — блішчыць на сонцы. Бразджаць аб ленту шпількі, жалезныя пруткі, іх ажно адзінаццаць штук, і нясе іх Жэнька ў той руцэ, што і ленту. У Светы на плячы толькі тры рабыя вешкі — белае з чырвоным. Вешкі ў яе на плячы здаюцца зусім кароценькія, як і яна сама, не такія, калі іх паставіш, уткнуўшы на лініі ў зямлю. Тады яны высокія, у два разы вышэй за Свету.

За імі, астаўшыся ззаду, топча мох Юрка, топча сваімі падранымі вялікімі чаравікамі з кірзавымі халяўкамі. У такіх вялікіх чаравіках прыйшоў з вайны ягоны бацька. У Юркі за плячыма трыножнік. «Цяжкі, каб на яго халера,— думае Юрка.— З дубу ён, ці што. Дрэва вунь якое цвёрдае, а на яго яшчэ наканечнікі панабіваны з жалеза, вострыя, блішчаць — вышараваліся аб пясок». Трыножнік рэжа плячо, цягне назад, але Юрка баіцца сказаць, што яму нязручна: скажы — засмяе Света. Жэнька, дык тая толькі можа ўсміхнуцца і паглядзець на яго сваімі вострымі чорнымі вачыма. А Света... З языка ўвесь дзень не спусціць. Света — пустабрэх. Пустабрэх і сакатуха. Ён гэта ёй некалі скажа, хай яна пачакае.

Трыножнік ад тэадаліта на брызентавым шырокім зялёным — новым — рамяні. Калі ступаеш — бразджыць недзе клямарчык па жалезе: бразь, бразь. Тады Юрку ўспамінаецца, што так насіў ручны кулямёт за плячыма Чумак з «Імсціцеля». Ніколі не скідаў: і за стол есці з кулямётам садзіўся, і спаў раз у іх у хаце з ім за плячыма. Юрка помніць, што з Чумака смяяліся партызаны, што той і ў баі не здымае кулямёта з-за плячэй. Гэта няпраў-

да, што Чумак не здымаў кулямёта, як жа ён тады біўся з немцамі? Проста Чумак вялікі — вышэйшы за ўсіх мужчын у вёсцы, Юрка такога ніколі не бачыў,— і кулямёт яму, як муха...

Юрка ўспамінае Чумака і забываецца, што за плячыма цяжкі трыножнік і яшчэ сякера пад пахай. Юрка засоўвае яе за дзягу — тады сякера цягне далоў штаны... Можа лопнуць старая дзяга. У вайну яшчэ ён зрабіў яе з падпінка, які выкінуў з шафарні бацька.

Юрка ўспамінае Чумака і забываецца, што з раніцы хочацца есці — што там надта з'еў снедаючы: маладую бульбу, адну; што ён ужо быў памкнуўся яшчэ на ўзлеску з'есці палудзень — кавалак праснака і два салёныя агуркі,— але не рашыўся: маглі ўгледзець дзяўчаты. А палуднаваць тады што, калі збяруцца ўсе ў кучу ў паўдні? Жэнька ўбачыць, што ў яго нічога няма,— разломіць напалам свой кавалак хлеба, як учора. А Завішнюк падасць друзачак белага цукру. Юрка не возьме, не. Ён і ўчора не ўзяў. Тады Света сказала, што ён шашок і дзічка. Ну і шашок,— а сама яна хто? — але ў іх ён нічога не возьме.

— Давай, давай!.. Малакасос!.. Не згубіся. Цягнецца, што цяля. У твае гады я з прыскокам...— Гэта крычыць на яго, Юрку, Акцызнік. Ён уперадзе, на самай горцы на пасецы, і яму ўсё відаць здалёку.

— Дзяўчаты, дзяўчаты... Кавалер ваш разнюніўся...— Акцызнік сёння не сціхаў усю дарогу — п'яны ён, ці што?

Юрка злуе на Акцызніка, але ступае шпарчэй і дaганяе Завішнюка.

За соснікам пачынаецца імшара — высокі верас па пояс і багун. Між маладых сасонак трапляюцца бяроза, рабіна, вольха. Тут якраз ішла лінія, якая некалі да вайны адсякала соснік — пасеку — ад Цянёў-балота. Цяпер лініі не відаць, нават цяжка пазнаць, што яна калі была тут. На лініі заўсёды было сонца, і маладняк шугануў угору — зраўняўся з соснікам на самой пасецы. Ля спежкі, дзе стаяў некалі слуп-капец у гэтым месцы, няма нават і курганка. За гэтыя гады збілі яго нагамі і зраўнялі з зямлёй і людзі і скаціна. Недалёка ад гэтага месца — глыбакаватая сухая ямка. Гэта студня. Цяпер у ёй суха: сухое лета, а ў вайну, калі сюды, пад Цяні, у зямлянкі выязджалі ад нямецкіх бамбёжак лонваўцы,— з яе бралі ваду. І нядаўна, у дажджы, пехта, відаць, сіляў яе адсюль — ля ямы на пяску валяюцца дзве парожнія «варонкі». Мусіць, прынеслі іх сюды падсочніцы.

Чуваць, як уперадзе пад нагамі ў людзей трашчаць сухія сукі і крышацца высахлыя сёлета кладкі, як шапаціць лазняк і альшэўнік, калі расхінаюць яго рукамі. Кладкі зусім зараслі. З альшэўнікам тут пасеяліся маладыя рабіны, і цяпер ім цяжка ад сваіх ягад — згінаюцца аж на кладкі, пад ногі. Ягады на іх буйныя, ліст зялёны, аж цёмны, а ў бары, у сосніку на пяску, яны сохнуць. На балоце ўжо жаўцее бярэзнік, не дачакаўшыся марозу, і абтрасае на пачарнелую траву і сівую гразь на сцежцы жоўта-белае лісце. Яно дробнае, чахлае — асыпаецца з самых нізкіх галін, што блізка ад зямлі. Высокае, што на самым версе,— зялёнае і моцнае, яно не баіцца нават першых маразоў.

На балоце жаўцее і пад'яловец, ён расце на куп'і ля старых засмаленых сасновых пнёў. Ля пад'ялоўцу — паземачнік, высокі, зялёны, на ім ёсць яшчэ і позния ягады. Але тут былі дзікі, падыходзілі з-за Цяпёў, папоркалі мох і зямлю ля паземачніку: дасталі жоўтага пяску.

Чуваць наперадзе ў кустах, як шчабеча і шчабеча Света, што сарока, пасля пачынае спяваць. Спявае яна прыгожа, але нядоўга, тады смяецца і зноў шчабеча. Каму яна што расказвае? Жэньцы? Ну і назола... Пустабрэх. Юрка яе не любіць, хоць яна і спявае прыгожа.

Ля кладак у зашыйках расла густая трава сінюха. Яе скасілі, мусіць, бабы з вёскі і вынеслі адгэтуль пасцілкамі. На выкасах — стаптаныя рудыя купінкі — торф. Ля іх пажоўклае лісце ад травы бабку, якой не дастала каса; рыжы, што лісіная поўсць, мох і сухая белая леташняя трава, прыбітая да самай зямлі. На купінах каля пнёў, дзе каса не кранула травы (яе цяжка абрэзаць ля дрэва), застылі, мусіць, мокрыя ад расы, блакітныя балотныя званочкі. На зямлі ля іх — шырокія, па далоні, грыбы рудзякі: грыбы растуць, як насеяныя, хоць касу закладвай ды рэж! Але касой тут не пацягнеш — па доле шмат такіх жа жоўтых, як рудзякі, яловых шышак. Яны доўгія, тоўстыя і цяжкія, калі сагнешся і возьмеш у руку,— намоклі ў вадзе, аж пачарнелі. І яны пахнуць грыбамі. Здаецца, што і ўсе Цяні ля кладак пахнуць рудзякамі і сыраежкамі.

Далей, дзе кладкі ляжаць ужо не ў балоце, а на ўбітым, парослым рэдкай мятліцай бары, натрэсена сена — яго вязкамі выносілі па кладках на сухое з Цяпёў. З-пад яго вылазяць белыя галоўкі чашчавікоў і чырванеюць раннія брусніцы.

Брусніц на пагорку, яшчэ зеленаватых,— што насыпана. Над імі — высокі дурнічнік, увесь у ягадах. Ягады даўно выспелі і цяпер блакітныя-блакітныя. Здаецца, калі глядзіш на гэты пагорак сярод балота, што і зямля — плямамі: то блакітная — дзе дурніцы, то чырвона-белая — гэта дзе збуяў і разросся брусні́чнік.

У халодным яшчэ ў лесе паветры чуваць, як пехта стукае далёка ззаду, ля вёскі, сякерай: бах! бах! Здаецца, і няма ветру, а ціха шумяць над галавой сосны і недзе за балотам ракоча трактар.

Людзі тут, на сухім пагорку сярод балота, спудзілі сіваваронак — тыя аж стогнуць, носячыся над галовамі. Цыльгікае дзяцел, перастаўшы стукаць па сухой і падгнілай бязверхай елцы; у альшэўніку, пад балота, заходзяцца рабыя сарокі,— відаць, ужо маладыя. Чыр-р-р... Ч-ч-чыр...— аж шыпяць. Здаецца, нехта прастуджаны ў альшэўніку чысціць нос — смаркаецца.

Лес, патрывожаны чалавекам, жыў сваім жыццём.

Пад нагамі ў Юркі аж скрыпеў сухі мох, шасцеў высокі, за калені, багун і верас, чапляўся за плячыма аб сосны ля сцежкі трыножнік. Перад тым як выйсці на Цяні-балота, Юрку давялося зняць яго з-за плячэй і несці пад пахай, ножкамі ўперад.

У гэтым месцы лаза так пераплялася над сцежкай, што Акцызнік, чуваць, абыходзіў яе далёка па балоце — лаяўся.

За лазняком — чыстае балота, сенажаць. Цяні спрадаўна — сена для лонваўцаў, і лонваўцы іх глядзелі. Высякалі бярэзнік і ніцую лазу, што сяяліся і раслі тут на балоце разам з травой рабінкай і сінюхай кожны год, як лебяда дзе ў гародзе пад хатай.

Кладкі на балоце зусім уехалі ў зямлю, зараслі белым мохам і травой — па іх мякка ступаць. Па іх ужо даўно нават косяць траву — яны пачарнелыя і гнілыя, рэдка дзе вытыркаюцца наверх.

Але калі з кладак зрываецца нага — квокча балота, бурбаліць; пырскае ўгору рэдкая чорная гразь. Можна праваліцца аж за калені. Света, відаць, ускочыла, бо стаіць, сагнуўшыся, на сухім і выцірае ногі. Варта ёй, няхай не скача, што каза.

Калі павявае вецер,— ён дзьме адтуль, з кутка, дзе пастухі са скацінай, даносячы іх галасы,— шуміць тады лаза і шапоча падсохлая не скошаная ля кустоў асака, сінюха і трава елка. Махаюць, нагінаючыся, сваімі чорнымі

галовамі кіёўкі, і пахне старым, зляжалым і ўпрэлым кіслым балотам — аж зрывае нос, як кажа Акцызнік.

На балоце — стагі. Яны стаяць адзін за адным — як у шнурок — і цягнуцца аж адтуль, дзе рыкае скаціна. Стагоў сёлета калгас у Цянях наставіў шмат: была добрая трава. Але некалі яна была, відаць, яшчэ лепшая, бо на балоце ёсць і пустыя старыя стажар'і. Абсунуліся, пачарнелі, пасохлі бярозавыя доўгія калкі-жэрдкі, ля якіх кідалі стог, нахіліліся да зямлі. Калі Юрка глядзіць на пустыя стажар'і, думае тады, што скора ўжо будзе восень...

За кладкамі Акцызнік чакаў усіх: «збіраў у кучу».

— Прайшлі-праехалі, як міленькія. І ўсе сухія. Затое зэканоміліся. Можна і пакурыць і пастагнаць, у каго забалела паясніца за дарогу...— Гэта ён гаварыў, мусіць, да Юркі, а мо і да самога Завішнюка, якога не любіў і за вочы называў «інцілігентам». А ўчора нават асмеліўся і пры ўсіх сказаць: «Вы інцілігенцыя...»

Акцызніку такое гаварыць можна; у леспрамгасе шафёры і грузчыкі, сабраўшыся з Чаркашыным, не такое гавораць, Юрка ведае.

— Можна і пераабуцца,— бубніць Акцызнік і выцірае з твару павуцінне, якое з дробным сухім лісцем вісіць у яго на носе і на вушах.— Можна і чаравічкі скінуць ды пасушыць, каб ногі не прэлі на пасецы, каб нагам здаравей было. І панчошкі памыць, хто заляпаў гразёй і хто саромеецца ў Цяні надзяваць боты ці абуваць ла-апці...

Акцызнік браўся за Свету. Яна лапатала і лапатала з ім, і ён не спускаў яе ўчора ўвесь дзень з языка і сёння ўзяўся з самай раніцы, калі яшчэ ішлі соснікам да кладак. Юрку здавалася, што яны ўжо адзін без аднаго дык і быць не могуць, хоць ведаў, што Акцызніку, як ён гаворыць, «для языка патрэбен быў падрукаянт», і той шукаў яго ўсюды: і ў вёсцы, і ў леспрамгасе па дзялянцы, і на ферме ля малатарні, і сярод таксатаравых дзяўчат.

У чалавека свярбеў язык, і той даваў яму волю.

У такіх людзей — Юрка пачуў, як сказаў раз Завішнюк,— рукі заўсёды чорт знае дзе: гультай.

За Цянямі пачыналася Каралінская пасека. Прайшоўшы краем балота па старой, парослай травою мятліцай і бярэзнікам дарозе, яны дабраліся да лініі. Прайшлі яшчэ колькі ліній, мінулі імшару-балота і Парыпанаву студню і апынуліся на ўчарашняй свежай прасецы, якую за гэтыя дні правялі аж сюды, блізка да Цянёў, ад пагранзастаўскай дарогі.

Акцызнік зноў «збіраў усіх у кучу», сеўшы на свежы лоўж сасняку, які быў скіданы ўчора абы-як на прасецы.

— Акыш, сарокі...— адагнаў ён ад сябе дзяўчат, якія хацелі прымасціцца ў яго за плячыма, і, сагнуўшыся, стаў пераабувацца. Юрка ўгледзеў, што ў Акцызніка былі тоўстыя анучы з пасцілкі ў чырвоную клетку. «Каб гадзюка не ткнула»,— успомніў ён, як казаў Акцызнік, і яму стала смешна. Пераабуўшыся, Акцызнік устаў, падняў з зямлі сякеру, якую ўткнуў быў у мох, пасля зноў кінуў яе на кучу сасняку, устаў і, падышоўшы да Завішнюка, хацеў пакласці яму руку на плячо, але перадумаў, апусціў яе і занёс сабе за спіну. Загаварыў толькі хутка і злосна:

— Мая работа табе, хлапец, відаць, не ў нос...

— Не лайцеся пры дзяўчатах, як учора...— Завішнюк, як быў нагнуўшыся над скрыначкамі, так і не падняў галавы, не паглядзеў нават на Акцызніка.

— Кгму... Глядзі, во... Так...— Акцызнік, здавалася, сумеўся. З ім гэта рэдка было.— А я дзяўчат не баюся... і яны не малыя, чулі недзе ўжо сёе-тое... Ге-ге... У нас, вунь, паслухалі б, што дзяўчаты ў вёсцы гавораць. На мужчын нават. На самога Міхала, на старшыню. У вочы. Павывучваліся за вайну, нічога не скажаш. А ты, хлапец, надта інцілігентны. Люблю і такіх, калі ўжо на тое пайшло. Толькі ты, скажу табе, залішне гэты лес, лініі гэтыя хочаш прачысціць. Абразаеш гэтыя дзялянкі, як бульбу на вячэру ўсё роўна. Ну, добра. Скажам, дагаварыліся: я з Далінчыкам будзем весці лінію... Ты плаціш — мы вядзём. І вядзём няблага. Колькі прайшлі, сам бачыш, відаць. На совісь тапаром махалі. Вам з лентай і з гэтым крываногім апаратам,— паказаў ён на тэадаліт,— лягчэй, і вы надта так не ганіцеся за намі. І слухай,— Акцызнік ступіў бліжэй да Завішнюка: яму, мусіць, было не па душы, што той на яго не падымае вачэй.— Секчы мы — сячом... А гэта нашто? Я пытаюся... У кучкі яшчэ галлё скідваць, клетачкі нейкія выдумляць і гарадзіць, падчышчаць за сабой... Тады, калі ўвесь лес павалам ляжыць! Не такія сосны трашчалі і яшчэ трашчаць у нашага лесніка... За раку ідуць на гарэлку... А ты... дубчыкі, кучкі... Э-э-эт... Тфу... А ты мне заплаці за гэтыя кучкі! Каб ведаў, што так,— плюнуў бы зразу. Хлапец Далінаў толькі дурны, дык ты яго заганяў. Стараецца, кучкі твае сартуе, а ў самога недзе толькі кішкі марш іграюць... Пасядзеў бы ціха лішні час... Тфу... Хаця слухай, ты, хлапец... Мы лес

бачылі. Раслі ў ім. Будзе па трыццаць пяць у дзень — скідаем у кучкі тваё галлё. Не — праз Цяні блізка дадому. Гм? — Акцызнік тантаўся на купіне, здзіраючы з яе мох сваімі шырокімі гумавымі ботамі,— таргаваўся. Ён таргаваўся кожны дзень, на кожнай купіне, дзе толькі было можна.

Завішнюк трохі ўжо ведаў гэтага чалавека; з кожным днём цяпер, зблізку, ён пазнаваў яго яшчэ болей. Ён зрабіў выгляд, што нічога ад Акцызніка не чуў. Адагнуўся ад скрынак, дастаў з-пад дзягі афіцэрскі планшэт, ткнуў яго пад паху, пасля зняў адной рукой акуляры, зірнуў блізарукімі прыплюшчанымі вачыма на Акцызніка і, адвярнуўшыся, гукнуў мацней, як гаварыў заўсёды:

— Трыножнік мне...

Пасля закінуў за плечы драўляныя скрыначкі, звязаныя брызентавай дзяжкай.

— Света — вехі... Жэня — ленту!.. Да ўчарашняй бярозы... Днём будзе горача — справімся загарэць...

Павярнуўшыся плячыма да Акцызніка, ён узяў з рук у Юркі трыножнік і на хаду ўжо сказаў ім, мужчынам, што аставаліся на прасецы ля абтаптанай купіны:

— Знакі мае ведаеце... Тут можна і без знаку... Па разоры... Бачыце жоўты клін? Пойдзем на яго. Шырыня — шэсць крокаў. Крок — метр. Як сабе хочаце, будзе вузей — пойдзеце яшчэ раз махаць сякерай. Мы шчэлак не любім... Норму любім...— Завішнюк націскаў на слова «норму».— А будзеце бегчы дамоў — пакіньце сякеры. Нам без іх тады не будзе чаго сёння рабіць. Да вашай купіны, дзе вы стаялі, мы прыйдзем. Можа, нават і да палудня. Ну, дзяўчаты...

І ён пайшоў лініяй, яшчэ больш сагнуўшыся пад трыножнікам і скрыначкамі. Дзяўчаты ціха падаліся за ім. Толькі Света два разы азірнулася на Акцызніка, які стаяў, нібыта нічога і не было.

Але Юрка ўбачыў, як у Акцызніка ззаду зачырванелася шыя, як той страсянуў дробненька сваёй доўгай галавой, і яму, Юрку, захацелася пайсці з Завішнюком, але гэтага нельга было зрабіць. Трэба было брацца за сякеру.

Прыгравала з-за дрэў сонца, рабілася горача, і балелі ўжо ногі...

Гах-гах!.. Лясь... Ча-а-ах-х...

Настырна, звонка, на ўсю Каралінскую пасеку стукаюць сякеры. Здаецца, аж звіняць, калі ўдараюцца дзе

аб сасновую сухастоіну на лініі, здаецца, аж скрыпіць і просіцца дрэва, калі ў яго ўядаецца наточанае ў лонваўскай кузні на тачыле і даведзенае яшчэ бруском у Акцызніка дома лязо сякеры, уядаецца ў жоўта-белае і цвёрдае, як высушаны сыр, зусім неакрэплае цела маладой сасны. Разлятаюцца трэскі з-пад сякеры, як на дрывотні, вялікія, што аскалёпкі,— на іх можна зварыць гаршчок бульбы — сыплюцца на свежы, яшчэ мокры ад ранішняй расы мох і верас дробненькія, сшаткаваныя,— як мякіна на ферме з-пад малатарні на зялёную траву.

Скрыпяць, трашчаць, енчаць бярозкі — яны цвёрдыя, караватыя. Ссячэш, здаецца, а бяроза яшчэ стаіць на адшчэпленай жыліне ці на маладой кары-бяросце. Тады бяры яе, бярэзіну, адрывай, адкручвай, калі не хочаш лішні раз падымаць руку з сякерай.

Лес стогне, просіцца... Ён малады, хоча жыць. Але прасіся не прасіся — ніхто не злітуецца. Бо вырас ён, малады і здаровы соснік, не там, дзе трэба чалавеку. Ён засланіў лінію, зраўняў лес, знішчыў мяжу, зацямніў квартал. Яму трэба было вырасці далей, на Каралінскай пасецы. Там за ім глядзелі б, аж пакуль бы ён не спатрэбіўся на цэўку, на жэрдзе, на латы, а тады на слупкі ці на перакладзіну ў хаце; пасля — на падсочку... Ён векаваў бы, аж пакуль не прыйшла б пара скінуць яго з пня, аж пакуль бы ў квартал не пад'ехалі леспрамгасаўцы з піламі, аж пакуль бы кварталы не адвялі пад вырубку...

А лінія — закон лесу, дзе гаспадарыць чалавек, закон лясніцтва, закон Завішнюка. Ён прыйшоў сюды дзеля гэтага, расставіў вехі, тэадаліт і людзей з сякерамі, пасля паставіць жоўтыя без кары сасновыя слупкі з надпісамі: «48 кв. Пл. 6,5 га. Квартал асветлен. 1946 г.» і пойдзе далей, пакінуўшы ўбаку Цяні, пойдзе на Сырніцу, на партызанскія лагеры. А сюды, на лінію, прыгоняць пасля трактар з плугамі, і ён разверне ўсё на свеце, выцягне наверх карэнне маладога саспяку, і яно будзе сохнуць на сонцы. За адзін раз трактар-трохплужнік не справіцца тут, яму трэба будзе заязджаць, браць яшчэ раз на плугі, каб зрабіць граду, дастаўшы з таго свету, з-пад моху і верасу, жоўтага пяску і навярнуўшы, наставіўшы скібаў з сівога сіпаку і дзірвану.

Гэта каб на Каралінскую пасеку ніколі не падышоў агонь.

Га-а-ах-ах!..— стукаюць сякеры, і па ўвесь лес плыве рэха, тады адгукаецца далёка, недзе аж пад Віліяй.

Чуваць яшчэ, як ля пагранзаставскай дарогі крычыць сваім густым голасам Завішнюк: «Лявей! Лявей! Яшчэ лявей!» — чуваць, як перагаворваюцца дзяўчаты. Юрку здаецца тады, што ён бачыць, як няўклюдны Завішнюк нагнуўся і прынік да тэадаліта, у які відаць галава Жэнькі, а то і ўся Жэнька з доўгай рабой вяхой у руках. Тады ў Юркі робіцца сумна-сумна на душы. Можа, хто падумае, што яму, Юрку, самому хочацца глянуць праз тэадаліт на Жэньку? Не! Юрка не хоча глядзець на яе, не хоча быць на месцы Завішнюка... Яму хочацца цяпер на ферму, да малатарні, каб рэзаць перавяслы, трыбушыць снапы і шпурляць іх Тодарчыку да барабана... Але крычыць Завішнюк, крычыць на ўвесь лес, і смяюцца дзяўчаты. А можа, гэта з яго, з Юркі, з ягоных вялікіх бацькавых чаравік? Смяецца недзе Света. Жэнька не стане...

Крычыць і крычыць Завішнюк, камандуе. Хай бы ён лепш маўчаў. Рукой паказваў бы дзяўчатам, дзе ступіць, куды адысціся.

А ён крычыць...

Падымаецца ўгору сонца — усчынаецца вецер. Шумяць над галавой вярхі сосен, пагойдваюцца на іх сукі-галіны — адтуль падаюць сырыя яшчэ шышкі. Б'юць у мох — адразу робяць сабе ямку, каб зручней легчы. Цярусяцца разам з шышкамі і сасновыя іголкі — не разбярэш, адкуль яны: са старых сосен ці з сасонак, якія трэба расхінаць, каб да іх даступіцца і ўдарыць па камлі сякерай.

Га-ах!.. Бух-бух...— не сціхае ў лесе. Нарэшце змаўкае Завішнюк; відаць, прысеў дзе на пні і паклаў на калені планшэт — падлічвае свае «шпількі і градусы»...

Юрка махае і махае цяжкай сякерай, тады адгінаецца і за адзін раз сцягвае ў кучу насечаны сасняк. Сасняк маленькі, да яго сёння не падлезці; адкуль толькі бярэцца; здаецца, і не густы надта, а колькі ён, Юрка, ужо нацягаў кучак за раніцу...

Калі Юрка адгінаецца — тады ў яго баліць сярэдзіна і хочацца піць. А дзе тут надта нап'ешся. Толькі ў Парыпанавай студні. Але туды трэба ісці адумысла. А Акцызнік узяў моду не пускаць — камандуе. Юрка глядзіць на Акцызніка. Той стаіць і цярэбіць сякерай пад'ялоўцавы разгач — ці не кій сабе робіць. Ледзь махае сёння сякерай, курыць усё, не выкідаючы самакруткі з рота, і плюецца. Ад млосці, відаць: учора недзе піў цэлы вечар.

Юрка бачыць, якая чырвоная ў Акцызніка ззаду

шыя,— здаецца, набегла крывёю. Калі той паварочваецца, Юрка бачыць яшчэ, што ў яго задрана ўгору на галаве шапка, блішчыць ад поту белы лоб — усё лета быў пад шапкай, не загарэў — і кратаюцца падстрыжаныя, «укарочаныя», жоўтыя вусы пад носам.

Акцызнік агідны; Юрка сёння глядзець на яго не можа — махае і махае сякерай, тады зноў сцягвае ў кучу голле.

— Сартуй, сартуй...— Акцызнік цэдзіць праз зубы, не гледзячы на Юрку.— Старайся дагадзіць с...най інціліген-цыі...— Пасля ён доўга маўчыць, нават не абсякае больш сучкоў на сваім кійку. Тады паварочваецца і спадылба глядзіць на Юрку.— Слухай, маць тваю за нагу... Ідзі сюды. Гляджу я на цябе ўсе гэтыя дні... Слухай, кінь на мінуту сваю сякеру. Рукі — яны не жалеза. А ты яшчэ смаркач. Я мужчына, і то... Курыць табе трэба вучыцца. Тады і адпачываць прывыкнеш. Я да цябе прыглядаўся, яшчэ калі вы кутам у мяне сядзелі... Працавіты ты хлапец расцеш. Хва-а-лю... Ну-ну... Ідзі бліжэй, садзіся...— Акцызнік сеў на купіну, уціснуўшы мох і зраўняўшы яе з зямлёю. Палез па махорку. Круціў самакрутку, пляваў і гаварыў: — На табе ж скура гарыць, на табе ж вада не ўстоіць... Ці ты ля малатарні, ці ты ў лесе. На табе ж калгас увесь трымаецца, х-хе... Брыгадзір ад цябе з хаты і не вылазіць: туды ідзі, сюды ідзі; туды бяжы, сюды ляці... І галава ў цябе ёсць, у шостую групу, відаць, сёлета пойдзеш, ці ўжо аж у сёмую. Хацеў бы я ў цябе, хлапец, запытацца. Гм... Ці ведаеш ты, чаго ты так са скуры лезеш... Чаго ты так стараешся... Ну тут, на пасецы, скажам, ведаеш... Трыццаць рублёў у дзень... не дзе валяецца. А вам жа крыдзіт за хату аддаваць трэба. Ды і на ногі няма чаго ўссунуць, зіма ідзе. Факт. А ў калгас чаго бяжыш? Ты ж яшчэ шчаня. Табе і нарад пісаць не маюць права, па-мойму. Скажы... Ці цябе так маці вучыць, ці цябе гэтак лёгка ўгаварыць?..

Акцызнік закурыў, натапырыўся і чакаў. Юрка сядзеў воддаль яго на вываратцы і маўчаў. Глядзеў у зямлю.

— Маўчыш, значыць... Баішся сказаць. А я табе скажу, не збаюся. Што цябе калгас адзеў, абуў, што ты туды ляціш? Ты, брат, канчай свае сем, ці колькі тут гэтых груп каля блізу, і да нас — у леспрамгас. Возчыкам цябе не паставяць, рэзчыкам таксама... Ды ты і сам не захочаш. Плечы дзіцячыя. А вось сукі церабіць... Сякера ў цябе ходзіць. Ці конюхам... Будзеш удзень на Выганчыку,

ноччу — спаць. Тады — ноч на Выганчыку, дзень — спаць. І чатырыста рублёў будзеш мець. А то і болей. Тут табе і чаравікі-шмаравікі і крыдзіты-сярдзіты... Магу я пахадацельстваваць, я з начальствам гаварыць умею, калі на тое пайшло. Я яшчэ з бацькам тваім пагавару. Хаця што з бацькам, з маці трэба... Яна лепш шупіць, што да чаго. Не глядзі толькі на мяне, як шашок, натапырыўшыся. Што? Не майго носа палоса? Не, брат. Слухай людзей, калі бацька цябе на пуць не наставіць. Скажам, я, Акцызнік. Быў і ў калгасе. Але дудкі, збрыў, пацалуй пад хвост Акцызніку. Ён ночку адаспаў цяпер, заваліўшыся дзе пад прамгаскую канюшню,— і ў ведамасці яму ставяць што трэба. Канчаецца месяц, і Шавельзон яму чатырыста дваццаць у рукі — сам прывозіць на машыне аж у кантору... І дзень у Акцызніка ўсягды свабодны... Тут таксатар, там шмаксатар. Баба яшчэ з паўгэтулькі прыносіць. Ты, хлапец, не ведаеш яшчэ, што такое жыць. Жыць — гэта грошы. Думаеш, я махлярствам грошы нажываю? Не такі. Грошы, нажытыя махлярствам,— на трыццаць год, а мазалём — на тысячу. Я з мазаля жыву. І я хачу жыць багата. У беднага многа ям на дарозе. А вазьмі — Міхал... Чаму ён да вайны не ішоў у калгас? Грошы шкадаваў. Жыў ён з падсочкі лепш за твайго бацьку... Ты, хлапец, яшчэ, відаць, ні чарта не шупіш... З табой ні пагаварыць, ні падурыць. Ну што ты ведаеш пра Міхала?.. А я табе скажу... У-у-у... Падзямельнік. Хі-ітры... Зямля б такіх не насіла. Але, мусіць, і будзе насіць. У начальстве ходзіць. Можа, у ім ёсць што такое, за што яго, можа, і цаніць трэба... Толькі... У-у-у... Падзямельнік, а не чалавек. Чаму толькі ён цябе ў адыходнікі пусціў, ніяк я не скумекаю. У яго ж вырвацца... Гм? — Акцызнік зноў утаропіўся на Юрку. Але той усё маўчаў, падпёршы кулаком падбародак і гледзячы на лінію ў лес, дзе перагукваліся дзяўчаты. Акцызнік тады плюнуў і ўсміхнуўся: — Я знаю. Табе не скажу, не трэба знаць. Малы зусім. Слухай, шашок. З табой я, відаць, балбачу ўхаластую... Падвярнуў шыю, як бугай... З табой гаварыць... Язык толькі труджу. Ты надта не рвіся на вачах у гэтага... Кучы, чмучы... Можа, яшчэ мох скажа драць на лініі, каб яму было цвёрда хадзіць, як па асфальце ў горадзе... Ты б драў, я ведаю. Дык вось — ніякіх куч. Мы цярэбім. Хочаш яшчэ чаго — падкінь нам. Не са сваёй кішэні. За грошы і чорта змусіш барыню пайсці... А я табе, інцілігент, дарма жорны круціць не буду... Маўчы сабе, шашок, а я

табе гавару, помні: сціску — сам напусціш кучу. У мяне, брат, пальца ў дзверы не кладзі... Стань толькі перад ім танцаваць... Што? І мне, можа, тады, на цябе гледзячы?..

Юрка глядзеў цяпер на Акцызнікавы шырокія гумавыя боты, якія прытапталі мох, прыціснулі да зямлі так, што, здавалася, з яго пырсне вада. Юрка ўспомніў, што ў ботах у Акцызніка доўгія каравыя анучы, з пасцілкі ў чырвоную клетку...

Калі Акцызнік стаў гаварыць яшчэ, Юрку здалося, што яго разуваюць, сцягваюць сілай, не расшнураваўшы, з ног бацькавы чаравікі... І тады ён успомніў, як пры немцах у вялікія маразы хадзілі па хатах паліцаі і збіралі воўну і кажухі. Нават анучы — суконкі бралі... У Юркавай маці паліцай тады здзёр з ног доўгія бабскія панчохі, якія маці сама зрабіла з воўны. Юрка нават помніць, як паліцай тады казаў: «Перарэзаць папалам, зашыць. Будзе дзве пары шкарпэтак...» Пачуў, што ў яго горка-горка ў роце. І калі Акцызнік пырснуў слінай яму ў твар — зняважыў,— Юрка падумаў, што ні слова не скажа яму цяпер... Ні слова. Хай хоць зарэжа...

Прыгравала сонца — якраз у спіну. Юрка выцер далонямі твар ад поту. Далоні былі ў смале і ліплі да шчок. Юрка падумаў, што недзе цяпер у яго на твары няма і вяснушак — усе пад смалой схаваныя. Калі ён водзіць далонню па твары, тады яму здаецца, што ў яго не такі ўжо і маленькі носік. Жэнька кажа, што ў яго носік, як у кацяняці... І яшчэ Юрка думае, што ўвосень пойдзе толькі ў шосты клас і трэба будзе зрэзаць польку. Дырэктар загадае, у таго надта не паносіш. Пакліча ў настаўніцкую і загадае... Каб і вунь як вучыўся. У сёмым класе — дык там можна ўжо насіць і польку. Як Юрку хочацца ў сёмы клас... Ён бы і вучыцца справіўся... Справіўся... каб толькі насіць польку. Пасля Юрка думае пра Жэньку... Якія ў яе густыя чорныя валасы... І вочы чорныя, і бровы чорныя. І якая яна добрая. І яна яго гладзіць па галаве, як Завішнюк... Два разы ўжо гладзіла... Што гэта ўсе яго гладзяць па галаве? Што ён — маленькі?

Юрка не скажа Акцызніку ні слова, ён яго зусім не чуе, хай той крычыць, аж апражэцца,— ён думае зусім-зусім пра другое. І цяпер ён не баіцца ніякай Акцызнікавай грозьбы. Яму вунь як хораша і хочацца нават смяяцца.

Акцызнік гэты раз доўга не ўседзеў. Не дамогшыся свайго, ён падняўся, узяў сякеру і пайшоў у цень. Пры-

пякала сонца, і Акцызніку, відаць, было горача ў ногі. Тады падхапіўся і Юрка...

Чах... Чах... Ча-ах...— адзін раз, другі, трэці. Не блішчыць ужо на сонцы сякера — яна ў смале і маладой сасновай кары; засмалілася тапарышча, стала чорнае і вуграватае; рукі ў смале аж па локці, у смале кашуля... На яе паналіпала сасновых іголак і моху.

Крopля за кропляй сцякае з ілба на бровы пот і капае тады на рукі, на тапарышча. Смыляць далоні, разгінаюцца пальцы, здаецца, што тапарышча толькі таму і трымаецца яшчэ ў руках, што прыліпае да далоняў. Каб не смала, яно даўно б ужо выслізнулася. Вунь як цяжка стала перастаўляць ногі ў чаравіках — чапляешся за кожны куст верасу. Юрка ступае асцярожна, глядзіць пад ногі, нагінае сасонку аж да зямлі, тады толькі заносіць руку з сякерай — гэта каб не махаць лішняга. Зводзіць, цісне плечы, бы гэта Акцызнік падышоў ззаду і схапіў яго за спіну; дрыжаць калені, і — чаго ніколі яшчэ не было — пачынаюць балець вочы. Тады Юрку здаецца, што ён можа зваліцца з ног... Ён вунь як баіцца цяпер зваліцца з ног... Ён баіцца нават спатыкнуцца. Бо спатыкнешся — упадзеш. А ўпадзеш — не ўстанеш ужо. Не падымешся. Так цягне зямля — цягне да сябе халодны мох, калі да яго дакранешся рукой. Здаецца, паваліўся б на яго, раскінуў рукі і толькі б дыхаў з сябе, як хворы на запаленне лёгкіх. Піць... Як хочацца цяпер піць... А з сабой нічога няма, толькі салёныя агуркі. Вада ў дзяўчат, яны панеслі з сабой дзве вялікія чорныя бутэлькі, схавалі недзе ў мох, і яна ў іх цяпер халодная... Але Юрка не пойдзе да іх. Ён лепш будзе цярпець. Цярпець да палудня, а там збегае да Парыпанавай студні. Вада там халодная-халодная, што лёд. Ён будзе піць яе прыгаршчамі, не адгінаючыся, ён будзе ліць яе сабе на галаву, на шыю, за каўнер...

Да палудня яшчэ далёка.

— Старайся... Старайся...— сапе на ўсю лінію Акцызнік.— У стаханаўцы да таго інцілігента запішашся... Усё роўна той не бачыць. Усё роўна больш як трыццаць не выкіне... А ты старайся...

Акцызнік варочаецца, як мядзведзь. Паволі заносіць сякеру, замахваецца... Га-а-ах! — ляціць на зямлю сякера, і пад ёй падскоквае ўгору ссечаная сасонка. Акцызнік адкідвае яе нагой у шырокім гумавым боце, як нешта непатрэбнае, з воч. І зноў заносіць руку, і зноў чувадь гэта:

га-а-ах!.. Юрку здаецца, што Акцызнік моцна б'е яго па патыліцы.

— Старайся, старайся, шчанюк падваротны... З мохам дзяры...

Каб хаця не паваліцца... Каб не гэты Акцызнік, Юрка адпачыў бы, прысеў бы хоць на хвіліну, каб адышлі рукі...

— Старайся, лезь са скуры... Не можаш лавіць рыбу — лаві ракаў...

Не, Юрка не адагнецца. Акцызнік толькі гэтага і хоча. Не дачакаецца.

Як далёка яшчэ да палудня.

Чах... Юрку здалося, што ён падае... Але тады ён пачуў на лініі галасы дзяўчат. Успомніў, што там Жэнька, Жэнька — з чорнымі-чорнымі вачыма... Ён такіх ніколі яшчэ і ні ў кога не бачыў...

Ён тады забываецца, што яго гне ў крук, што баліць рука, у якой цяжкая, як вялікі камень, сякера. Ён махае і махае балючай рукой. Не... Яна яму зусім не баліць. І соснік... зусім не мітусіцца...

Чах... Юрку здалося было, што ён едзе на машыне пагранзаставускай дарогай і насустрач бяжыць, бяжыць, а тады ўцякае маленькі соснік, што ў Сырніцы на імшарах...

Чах... Чах...

Зноў смяецца на лініі Жэнька... Яна далёка-далёка, і ён глядзіць на яе ў тэадаліт... У Жэнькі чорныя-чорныя вочы. І блішчаць... Не. Гэта блішчаць чорныя бутэлькі з вадой, якія Жэнька закапала ў мох у імшарыне, каб яны не грэліся...

— Старайся... Старайся...— нехта сапе далёка на лініі.

Чах... Перад вачыма ў яго паплыў соснік, сякера і Жэнька. Чарнавалосая Жэнька. Яму стала лёгка-лёгка. Здалося пасля, што ён на ферме ля малатарні ўпаў на салому, у цень, пад страху... Салома мяккая-мяккая і халодная, што мох на імшары...

Нешта балючае крапулася ў яго ў грудзях...

Завішнюк тады падняўся з-за стала, зняў з цвіка лямпу, што вісела над самым сталом на доўгім дроце, і перанёс, зачапіў яе на цвік у галовах ля ложка. Не распранаючыся, лёг да часу, падклаў пад галаву кулак — хоць падушка ляжала і высока, у яго была прывычка ўсё роўна падсоўваць пад галаву кулак — і глядзеў не адрываючыся ў столь. Яна была нядаўна чыста пабелена, а там, дзе

пачыналася ўгары сцяна, шарэў папяровы карніз — у каласах. Ніжэй, над ложкам, сцяна была ў пейкія дзіўныя раскрытыя парасончыкі. Здавалася парой, што гэта не парасончыкі, а людзі ў капелюшах, тады,— што гэта маленькія сасонкі на балоце; нарэшце перад вачыма стаў трыножнік... На зусім тоненькіх ножках, танчэйшых, чым запалкі...

Было балюча-балюча і нудна... Завішнюк не мог саўладаць з сабою, бо парой яму хацелася заплакаць... Тады ён праз сілу ўсміхаўся...

«Мужчыне плакаць?.. Што гэта за зелле — мужчынскія слёзы?»

Калі ён заплюшчваў вочы, тады адразу яго абступаў лес, абступаў з усіх бакоў... Густы, калючы, не выбрацца... Пасля лес круціўся, гнуўся да зямлі пад ветрам, шумеў, шалеў, як шалее ў самую страшную буру, калі сосны вывaрочваюцца з зямлі з карэннем. Тады сціхаў, стаяў росны і маўклівы, як раніцай на пачатку лета, калі далёка-далёка на пасецы снуецца белы туман, густы, хоць бяры яго жменяй, як першы мяккі снег увосень...

Завішнюку ўспомнілася, як ён першы раз прыехаў у мсціжаўскі лес. Прыйшоў тады ў бор адзін, раніцай пасля дажджу, вясной. Лес быў ціхі-ціхі, горды, як на Алтаі, да якога Завішнюк прывык.

Падымалася сонца, зыркае, як нагрэты ў печы камень, якім у кадзі грэюць ваду. Збіралася духата, парыла перад дажджом, падсыхала зямля... І тады Завішнюк убачыў, як па сасновых камлях з зямлі падымаецца пара і паўзе ўгору... Падымаецца, кратаецца, дрыжыць, што дым, ля кожнай сасны...

Зямля тлее, здалося яму тады. Такога ён яшчэ не бачыў...

Ён доўга ляжаў, закрыўшы рукой вочы...

Тады чамусьці ўспомніў, як у вайну ў інтэрнаце вываручваў рэчавы мяшок і вытрасаў сухія хлебныя крошкі...

Калі Завішнюк падымаў руку — агонь ад лямпы біў у вочы, і тады хацелася адвярнуцца да сцяны. Можа, лепш было б патушыць лямпу, позна ж, але ён ведаў, што ў цемнаце яшчэ цяжэй будзе аднаму, што ён не засне.

На двары ляпалі вароты, дугалі нагамі людзі, скрыпеў асвер ля студні — прыходзілі, мусіць, ад Акцызніка па ваду. Грасыльды не было дома, ці то не прыйшла яшчэ з фермы, ці, можа, проста, падаіўшы карову, заседзелася з бабамі дзе на прызбе...

У парозе бразнула недзе на судніку парожняя міска, зазвінела. Завішнюк здрыгануўся, адплюшчыў вочы і зноў доўга глядзеў у столь. Калі раптам недзе далёка па вуліцы загаманілі людзі, яму стала радасна на душы і... зноў балюча.

Калі ён зноў звёў вочы — убачыў далёка на чыстай лініі жоўты акраек зямлі і Жэньку...

Ён злавіў сябе на тым, што думае: як ён баіцца згубіць гэтага чалавека... Яшчэ не знайшоў, а ўжо баіцца згубіць? Не. Ён знайшоў, і знайшоў даўно, можа, тады, у той дзень, калі яна пераступіла першы раз парог у лясніцтве. Ціхая-ціхая — ні слова, і сарамлівая — вачэй не падымае. Яе чорныя валасы тады былі падстрыжаны — цяпер яны адраслі і закрываюць шыю — і спадалі на лоб да вачэй. Завішнюк тады падумаў, што ў дзяўчыны вузкі лоб, і яна яго хавае пад валасамі. Завішнюк не любіў, калі ў дзяўчат вузкія лбы. Смешна...

Лоб у Жэнькі не вузкі і не шырокі — прыгожы, і высока над левым брывом чорная радзімая плямка. Ён яе не скора заўважыў...

Жэнька доўга не ўзнімала на яго вачэй, і яму чамусьці сорамна было глядзець у іх. Калі ў першыя дні ён гаварыў з ёй, то стараўся глядзець паверх яе галавы — Жэнька была ніжэйшая, яму, можа, толькі і даставала да пляча, але яна была зграбная і стройная; калі хадзіла па пакоі — востра і чотка тупала абцасікамі: тук-тук, тук-тук... Завішнюк тады падумаў, што яна яшчэ дзіця, хоць і студэнтка, дзіця, і недзе зусім лёгенькая...

Ён тады, у лясніцтве, абышоўся з імі, дзяўчатамі, нядобра... Цяпер ён падумаў, што гаварыў тады, відаць, зусім не тое, што думаў...

Яму стала сорамна і крыўдна. Ён ведаў, чаму той раз так абышоўся з Жэнькай,— яна была прыгожая.

Завішнюк падняўся, крануўшы локцем лямпу,— яна занадта блізка вісела ля ложка. Зазвінеў абажур, лямпа пачала хістацца з боку ў бок, запахла газай. Ён сеў, звесіў з невысокага драўлянага ложка ногі аж на падлогу і, абхапіўшы рукамі галаву, зноў закрыў ад агню вочы. Ён часта так рабіў...

Уваччу стала цёмна-цёмна, як у вераб'іную асеннюю ноч, і балюча. Яму, мусіць, цяпер больш чым калі было цяжка за тое, што ён сутулы, што ён няўклюдны... І што з таго, калі ў яго, можа, добрая душа і сам ён добры... Ён чуў, пра яго так казалі. Ён ведаў — ад таго, што няў-

клюдны, ён і баязлівы. Уцякаў заўсёды ад дзяўчат, як мурашка, што перабягае дарогу, дзе ходзяць людзі.

Можа, таму ён так палюбіў лес і самоту... З маленства, са школы. У лесе ніхто на яго не глядзеў...

Яму ўспомнілася, што ён ужо раз кахаў. Першы раз у жыцці. Гэта — калі быў на трэцім курсе...

Звалі яе Галяй, яна была на курс ніжэй і была рослая, стройная, белавалосая, не такая, як Жэнька, зусім. І вочы ў яе былі шэрыя, вялікія, па яблыку. Якая яна была прыгожая...

Яна выйшла замуж. Яна перавялася была аднекуль у іхні інстытут, пасля, як выйшла замуж, перавялася яшчэ некуды — з'ехала.

Ён падумаў, што і Жэнька паедзе хутка вось так і — знікне. Знікне назаўсёды. Ён згубіць яе, ён вунь як баіцца згубіць яе... І ён не будзе мець ніякага права што-небудзь зрабіць...

За такі кароткі час такім дарагім для яго чалавекам стала Жэнька. І яна пра гэта не будзе ведаць. Нават не здагадаецца. Ён не выдасць сябе. Бо тады Жэнька будзе яго шкадаваць. Ён не хоча, каб яго шкадавалі. Ён ніколі не скажа ёй, што думае, што ведае пра сябе, ніколі...

А як хацелася сказаць...

Паглядзець у вочы і сказаць. Узяць ды ўскудлачыць, растрэсці яе густыя валасы, якія яна расчэсвае ў лесе кожны раз, калі можна. Яна любіць іх. Але яна не ведае, што яны пахнуць... Калі яна нагінаецца блізка да яго, Завішнюка, і глядзіць у тэадаліт,— ён чуе, як яны пахнуць, густа і даўка — аж кружыцца тады галава, калі ён дыхае; пахнуць усімі сухімі травамі, усім мсціжаўскім разнатраўем: васількамі, пшанічным коласам, сенам-травой, мятай, палыном...

Ён, Завішнюк, прывык да гэтага густога паху. Ён запомніў яго...

Ён, мусіць, кахае яе, Жэньку, як ніколі і нікога не кахаў...

Калі па двары не сталі дугаць нагамі і не скрыпеў ужо асвер, Завішнюк устаў, пахадзіў па хаце, паглядзеў у акно: ля ганка стаялі людзі, мужчыны. Ён выйшаў на двор — леспрамгасаўскія грузчыкі шукалі кватэры. Сказаў, што Грасыльды няма дома, і тыя пацягнуліся са двара.

У хату ўжо не хацелася ісці, і ён выйшаў зноў на двор — тут было холадна, не так ціха, як у хаце пры лям-

пе,— і сеў на калодачку, якая стаяла ля дошак пад частаколам.

Месяц ужо зайшоў, неба было цёмнае, у спакойных, ціхіх зорах. У ім гулі — далёка недзе — самалёты. Сціхалі, тады зноў гулі.

На ферме хадзілі людзі з ліхтарамі. Збіраліся малаціць каторую ўжо ноч запар.

Яму стала холадна, тады зноў вярнулася трывога... Успомнілася, як ён на Алтаі зімой быў змёрз. Гэта было летась. Затрымаўся позна ў лясніцтве, а трэба было дамоў. Далі каня, запрэжанага ў развалкі, кажух... Мароз стаяў вялікі, цяжка было дыхаць. Ехаць-то было недалёка, кіламетраў пятнаццаць. Пайшоў снег, пачало месці, зраўняла і дарогу, і поле... Ён не помніць, дзе ехаў, што было ў дарозе... Прачнуўся пад раніцу ў нейкай маленькай хатцы за сталом на лаве, прыкрыты кажухом... Заснуў быў, змарозіў і рукі, і ногі, і твар. Каб не конь... Конь знайшоў дарогу і прывёз яго не дамоў, а ў суседнюю вёску. Знайшлі яго на санях што карча...

У Завішнюка прабег мароз па скуры. Заляскалі зубы. Ён падняўся і пайшоў у хату. Распрануўся і лёг. Ён усё пераможа. Нічога і нікога яму не трэба. І Жэнькі не трэба. Спаць. Заўтра прыйдзецца паруніцца, каб выйсці халадком. А цяпер спаць...

Толькі лямпу яму не хацелася тушыць. Лямпа, як чалавек, з ёй можна гаварыць — моўчкі. А ў цемнаце — ты адзін.

Лямпы ён не патушыў.

Глядзеў на вазоны, на старыя, даваенныя фотакарткі Грасыльдзінай сям'і, якія былі наклеены на сцяне на рудой газеце і на якіх здалёку — з ложка — нічога нельга разабраць, і думаў. Думаў зусім пра другое: пра лес, пра Сырніцу, пра тое, што на гары па лініі ездзяць і ездзяць з-за Віліі браканьеры, вязуць некляймёнае дрэва. Думаў пра Юрку Даліну, думаў, што цяжка даводзіцца хлопцу,— зваліўся з ног, мусіць, ад голаду, а не ад сонца, як кажа Акцызнік... Яшчэ думаў, што Акцызнік — жыла з усіх жыл, якія толькі ёсць на свеце. І што лоповаўскі Міхал — яму недзе раўня. Хлапчука паслаў у лес з сякерай. Ён яшчэ пагаворыць з Міхалам, пагаворыць...

А сон не ішоў. Калі Завішнюк заплюшчыў вочы, усё пачыналася спачатку.

Тады ён зноў думаў пра Жэньку, думаў, што і яна любіць лес. Любіць, хоць ніколі пра гэта нікому — ні яму, ні

Свеце — не гаварыла. А нашто гаварыць: ён, Завішнюк, і так ведае. Адломіць яна галінку верасу і нюхае... Дзьмухае нечага на яе, перабірае сінія пупышачкі пальцамі, як пчолка сваімі ножкамі... І зноў нюхае. А той верас нічым і не пахне. Можа, толькі кіслай зямлёй і балотам. Нашто яго нюхаць. Не-е... Жэнька любіць лес.

І ён думае тады, што забярэ яе з сабой, забярэ з яе тэхнікума і павязе дамоў, на Алтай...

Яму хутчэй хацелася заснуць, каб больш ужо нічога не думаць.

А сон не ішоў. Калі Завішнюк закрыўся рукамі ад агню, падумаў, што ў хаце ціха-ціха. Чуваць было, як пяе курню — аж храпе — у нагах на ложку кот (каторую ўжо ноч спіць з ім, Завішнюком, прызнаў за свайго), як над лямпай звініць муха (сну заразе няма; лямпу трэба было патушыць), як шастаюць у пустым пакоі за перагародкай ходзікі.

Калі скрыпнулі вароты, ён адразу пазнаў, што ідзе Грасыльда. Так паволі адчыняла іх толькі яна. Яна паволі ішла і па двары, не адразу адчыняла і дзверы ў сенцы, як гэта робіць хто чужы, а згіналася на дрывотні і прымала з-пад ног то бярозавае палена дроў, якое скацілася з «вярсты» і цяпер, белае ўначы, кінулася ў вочы, то пусты кошык, які адкацілі куры ад варыўні аж да дзвярэй пад ганак, то ўносіла ў сенцы з двара парожняе вядро, якое забылася прыняць за віднам. Грасыльда гаспадарыла ўсюды, дзе толькі была.

— Не спіш, сын? — спыталася яна з першай хаты.— Агонь, бачу, гарыць.

— Зачытаўся, цётка Грасыльда... Бывае.

— Вочы псуеш, сын. Спі. І так яны ў цябе...

— Вочы маладыя, цётка Грасыльда...

— Маладыя...— Грасыльда гаварыла, стоячы ля печы.— Ведаю, якія маладыя... Хаця маладое не спіць, цягнецца то да кніжкі, то на вуліцу. Вашы дзяўчаткі яшчэ нядаўна, спаткала, у вёску пабеглі. Прычасаныя, прылізаныя, надушаныя. І ногі ім не баляць. Там жа грузчыкі леспрамгасаўскія ў вёсцы. І шафяроў панаехала... Аўтакалона. І маладзенькія ёсць. Да мяне пастаяльцы два прасіліся. Вось вашы дзяўчаткі і пабеглі. Пачулі. Ты за імі глядзі, хлапец. Я жартую, старая. І гавару, мусіць, не тое, па-бабску. О-ха-ха... Бягуць. «Куды?» — пытаюся. «Гуляць... А што наш Вікенцьевіч робіць?» — пытаюцца яны ў мяне. «Вікенцьевіч?» — думаю я, нібы не ведаю, пра

каго гаворань, а тады кажу: «Ён — не вы. Яму цаны няма. Малаціць пайшоў нанач. Мала-аціць, кажу. Не пускала, пайшоў. На ферме недзе...» — «Малоціць? Ён малоціць? Хі-хі...» — спыніліся і давай хіхікаць, што квактухі. І ўсё гэтая, з белай галавой, Света. Жэнька дык мяне ўважаецца: маўчала, зубы толькі паказвала... О-ха-ха... Што ж, маладым — маладое. І сам бы ўзяў ды ў вёску калі з дзяўчатамі схадзіў... Ці, можа, саромеешся чаго?

— Схаджу, цётка Грасыльда, схаджу.

— О-ха-ха...— Грасыльда печага ўздыхала сёння, не сціхаючы.

Пакуль яна схадзіла па нешта ў сенцы — ляпала там векам ад шафарні, на сняданне, відаць, нешта рыхтавала загадзя — ды вярнулася, Завішнюк ужо справіўся апрануцца і перанёс лямпу ў першую хату. Грасыльда стаяла ў парозе з вялікай драўлянай лыжкай у руцэ, глядзела на яго, тады не сцярпела:

— Ды ўжо ж і пойдзеш, глядзі на яго... Я пасмяялася, а ён... Відаць, зноў не тое сказала. О-ха-ха... Дык ты ўжо хоць не баўся там, сын. Запіраць сенечкі не стану, каб не ўставаць.

— Не буду, цётка Грасыльда, не буду.

Яна больш нічога не сказала, адышлася з лыжкай да судніка і забразгала пасудай.

Малатарня загула якраз тады, калі ён выйшаў на двор. На вуліцы рыпелі калёсы, хроп конь і гаманілі мужчыны. На ферме гарэлі ліхтары.

Выйшаўшы за вароты, Завішнюк завярнуў на ферму. Ішоў пасярэдзіне вуліцы, па глыбокім пяску.

Неўзабаве ён ужо з віламі на плячы сярод лонваўскіх жанчын валок салому ад малатарні за кароўнік, да сцірты. Па растрэсенай белай саломе ішоў, як па дарозе, і баяўся з яе саступіць, каб у цемнаце не спатыкнуцца і не разбіць акуляры.

## *Раздзел шосты*

# Вечарынка

Два дні ішоў дождж — сцябаў зямлю без аддухі, без літасці. Аблажыла неба над Лонвай і лясамі, найшла навальніца, грымела ад палудня да вечара, пасля бурыя

хмары сплылі на Мсціжы, неба стала шэрае, нізкае, і з яго пасыпаўся дробны дождж, як праз густое рэшата. Не сціхаў ні на хвіліну, шумеў па стрэхах, дварах, агародах роўна, нудна, прамочваючы да пясчынкі сухую зямлю і наганяючы сон.

Па вуліцы ў Лонве пабеглі ручаі, шырокія, з жоўтай ад гліны пенай, вілялі ад плота да плота на пяску, вылізвалі сабе канавы, несучы ўсё, што траплялася на дарозе,— каменьчыкі, салому, трэскі, віткі ад плота, пілавінне — туды, да новай хаты Далінаў, да моста.

Паднялася рака, вада стала густая, парудзела і несла аднекуль з-пад Мсціжаў, дзе, відаць, ліў яшчэ большы дождж, бярвенне — недзе пазмывала яго з берагоў. Тоўстае бярвенне плыло па адным, рэдка — як мядзведзі куды перапльвалі з мсціжаўскіх лясоў.

За двое сутак ля Сырніцы расквасіла пагранзастаўскую дарогу, і машыны ў начную змену не пайшлі.

Вечарам у Лонве шафёры і грузчыкі з аўтакалоны справілі вечарынку. У хату іх ніхто не пусціў: на двары такая гразь, нанясуць,— не аддзярэш тады яе і рыдлёўкай. і яны асталяваліся ў калгаснай канцылярыі. Увалілісяя гуртам, калі змяркалася,— дзверы ж у канцылярыю не запрэш, а ў хаце жыла толькі старая Палюха з дзвюма дочкамі; прынеслі аж дзве свае лямпы — забралі з катлапункта: хто не паспеў, павячэрае там упоцемку. Прывалаклі яшчэ па дажджы, не хаваючы, свой вялікі белы гармонік, які звалі баянам і да якога ў Лонве ўсе ўжо прыўклі,— і затрашчала з самага вечара падлога ў старой, але моцнай яшчэ Палюшынай хаце, некалішняй у Лонве карчме.

Завішнюк прыйшоў позна. Позна была вячэра— Грасыльда забавілася на ферме. Выйшаў на вуліцу і пайшоў каля самага плота, ступаючы па траве. Дажджу не было. Неба аблешчылася, пасля хмар здавалася цяпер ад месяца блакітна-белым, як снег зімою ў марозны дзень пад сонцам. Бліпчалі на вуліцы лужы, у Палюшыным гародзе было поўна вады, і ў ёй мітусіўся вялікі жоўты круг: то дрыжаў, то падскокваў, як на хвалях, то збіраўся ў гармонік, а тады расцягваўся ў доўгую палоску. У тым месцы якраз сцякала з высокай вуліцы вада.

За Палюшыным гародам-ямай была Скарбовая аселіца, як звалі яе ў Лонве, цягнулася ад вуліцы, ад маленькіх свіронкаў аж да ракі. Завішнюк угледзеў, што за свірнамі выстраіліся ў два роўныя і доўгія рады калёсы-раз-

воды. На белых, як срэбра, вышараваных аб пясок шынах дрыжаў халодны бляск месяца.

«Панаехала недзе і возчыкаў поўна вёска. У леспрамгасе — сіла»,— падумаў Завішнюк. Ён падумаў яшчэ, што ў леспрамгасе зарабіць можна і што кожны любым макарам стараецца вырвацца туды з калгаса, што ў леспрамгас шмат пайшло мужчын, якія вярнуліся з вайны. І ён неяк паспачуваў лонваўскаму старшыні Міхалу, гэтаму нягегламу чалавеку з доўгімі рукамі, які некалі баяўся калгаса, а цяпер — як хочаш пра яго думай — бегае дзень і ноч на гэтай нязвыклай і чужой мо для яго рабоце — старшыньстве. Як бы ён ні рабіў, але ж робіць. Трэці год у Лонве нехта ж сее, жне і малоціць. Здае дзяржаве нарыхтоўку... Завішнюк ведаў, што гэтага адзін старшыня не робіць, што гэта рукі і мазалі ўсіх лонваўцаў...

У канцылярыі ў гэты час зрабілі перапынак. У хаце на покуці — было відаць з вуліцы праз акно (вокны былі нізкія, старая карчма падгніла знізу і асела) — нечае хлапчаня, дзержачы на каленях вялікі белы гармонік і хаваючыся за ім ■ галавой, рыпала чорт ведае што, хоць затыкай вушы; па кутках і ля сцен стаялі людзі.

На вуліцу высыпалі і абселі прызбу хлопцы і мужчыны — у фуфайках, у чорных кашулях, у камбінезонах і ў плашчах, валасатыя і ў кепках, пакамечаных, мурзатых, нацягнутых на самыя вочы ці адкінутых на патыліцу, каб свабодна звісаў на лоб кучаравы чуб — гордасць леспрамгасаўскага грузчыка. Людзі курылі, аж захліпаліся, выціралі мокрыя лбы і шыі — хто хустачкай, хто рукавом кашулі,— гаманілі, стукалі адзін аднаму рукамі ў грудзі — спрачаліся, смяяліся на ўсю вёску.

— А я гавару — Чаркашын дрэнь. Калі ён такі, хай бы праз Сырніцу цяпер праехаў... А то першы здрэйфіў... Чаркашын яго... Каб у мяне не чугрэй... Каб мне хто даў такія пакрышкі на месяц, на тыдзень, па суткі... Я б Чаркашыну вашаму нос падцёр... А што чугрэй...

— А не помніш, як зімой Чаркашын на чугрэі дзве нормы вашы па снезе за пояс заткнуў?

— Дзве нормы?

— Угу.

— Па снезе?

— Угу...

— Дзве нормы? Па снезе? Ды пайшоў ты са сваім Чаркашыным знаеш куды...

— Га-га-га...

Каля шафёраў круціліся, як вераб'і ля малатарні, дзеці, падшыванцы з усёй вёскі, і лавілі кожнае слова. У кожнага лонваўскага падшыванца быў «свой» шафёр, які катаў у кабіне, браў з сабой аж на бераг на Вілію, даваў «кіраваць» машынай, пасылаў з грашыма да лонваўскіх баб па гуркі, а калі хто чапляўся за прычэп, вешаючыся на дышаль, даваў такой дзягі, што «аж скура смылела...».

Але ўсё роўна лонваўскія дзеці любілі шафёраў.

Завішнюк угледзеў, што воддаль ад усіх, ля самых леспрамгасаўскіх калёс, стаяў Юрка Даліна. Падышоў — не, не Юрка. Другі хлопец, падобны на Юрку. Тады Завішнюк падумаў, што Юрка гэтыя два дні, у дождж, хадзіў на лінію... Што ён там такое ўжо мог адзін зрабіць, але рабіў, пайшоў. Акцызніка дык і на тым вунь ланцугу, што блішчыць ля калёс, не выцягнуў бы ў лес — не пайшоў бы. Быў дома. Два дні... «Трэба, відаць, адмовіцца ад такога рабочага. Адмовіцца, і ўсё. Плюнуць, махнуць рукой... Любы пойдзе за такія грошы — знайду яшчэ. Дзяржаўная справа і дзяржава за работу плаціць, не шкадуе... Адмовіцца?..— ён стаў думаць над гэтым словам.— Не хацелася б ад такога чалавека. Здаровы, плечавень, галава на карку ёсць, толькі яе за вайну ці, можа, і трохі пазней не туды завярнула. Рабіць жа то ён можа, і трэба, каб рабіў, бо дзе знойдзеш надта другога, Міхал не дасць, а калі школьнікаў набраць — далёка не пройдзеш, па лініях за вайну лес парос... А што, калі і з ім пагаварыць? Па душах, як кажуць...» — Ён усміхнуўся, злавіўшы сябе на тым, што яму з усімі хочацца гаварыць «па душах» Толькі як ты зачэпіш гэтага «сызматага», як кажа Грасыльда, чалавека, у якога, калі на яго глянуць і паслухаць, здаецца — і душы ніякай няма. Чалавек многа пражыў і любіў толькі грошы. І яшчэ гарэлку... Ну і чорт з ім. Заўтра ж ён, Завішнюк, пойдзе да Акцызніка... Усё роўна ж трэба ісці — не гаварыць «па душах», дык гнаць к чортавай мацеры.

Ён стаяў на вуліцы ля частаколу пад самай Палюшынай рабінай. Рабіна была маладая, і за ягадамі на ёй не было відаць лісця. Пад рабінай была лавачка, мокрая яшчэ ад дажджу, не высахла, і на яе ўзбіліся дзеці — трое зусім малых, як гарбузяняты, хлапчукоў, якім яшчэ і блізка нельга было падыходзіць туды, дзе людзі праўляюць вечарынку. Ускочылі на лавачку, пастаялі.

— Каб Палюха не ўгледзела...— зусім ціха прашаптаў нейкі з іх.

— Палюха? Цяпер?..— занадта ўжо смела, як дарослы, адказаў яму той, што ўсё падцягваў штаны, яны спаўзалі ў яго і спаўзалі.

Пачакаўшы, падшыванцы палезлі на частакол. Сталі рваць рабіну і соваць за пазуху.

Хрумсь-хрумсь...— чулася на плоце: дзеці елі рабіну — гаркату — як чортведама што...

На Завішнюка з рабіны пасыпалася раса, і ён ступіў да лаўкі:

— Чые вы?

Хлапчукі замерлі, пасля — як яблыкі з яблыні: пок, пок на зямлю.

Пастаялі, адышліся далей.

Хрумсь-хрумсь...— цяпер ужо хрумсцела на ўсю вуліцу.

— Настаўнік...— пачуў Завішнюк.— Новага, мусіць, прыслалі...

— Які настаўнік... Такса-а-тар...— зноў запiскляВіў самы смелы.

— Гэ-э-э...— дзеці загалёкалі на ўсю вуліцу і памчаліся, ляпаючы сябе па сцегняках, у той канец вёскі.

І тут зайграў музыка,— адразу застагнала хата.

Дра-да-да... да! Дра-да-да...да! — неслася адтуль. Здавалася, стукалі не абцасы, а ў падлозе палезла дошка на дошку...

«І каму там было так лупіць? — падумаў Завішнюк.— Усе ж пад прызбай...»

На гармонік людзі з вуліцы павалілі ў хату. Завішнюк падумаў, што на такога музыку — а граў той, і праўда, як чорт ведае адкуль узяўшыся, такога ў вёсках рэдка знойдзеш — пойдуць усе. Яно і ішлі, ішлі з вуліцы грузчыкі і шафёры, ішлі жанчыны з таго канца вёскі, цягнуліся, як хвост, ззаду за імі дзеці. Завішнюку здалося, што і калёсы са Скарбовай аселіцы возьмуць завернуцца і пад'едуць бліжэй, аж да самай хаты, каб слухаць белы гармонік...

Калі Завішнюк зайшоў у сенцы, шафёры — тыя, што не спускалі з языка Чаркашына,— расступіліся і далі яму дарогу.

«Відаць, таму, што я ў акулярах»,— падумаў Завішнюк. Першае, што ён убачыў, стоячы на парозе,— усе дзяўчаты былі ў хаце, ніводная не выйшла на двор «халадацца».

«Баяцца, мусіць, шафярні...» — падумаў ён.

Завішнюк у Лонве на вечарынцы быў першы раз, і

яму раптам здалося, што ён дома, на Алтаі... Здалося толькі на адну якую хвіліну, а тады яго закруцілі ў парозе, падхапілі недзе ззаду, адапхнулі далёка ад сцяны, да праходу ў маленькі пакойчык за перагародкай, дзе цьмяна гарэла лямпа і сядзела з Палюхай некалькі жанчын. Жанчын ён не ведаў, бачыў першы раз.

Яму было неяк дзіўна і весела наглядаць, як з самага парога людзі ішлі ў танец па чарзе, адзін за адным, цягнуліся, а некаторыя нават рваліся, як дзе на работу, каб хаця яна не ўцякла ад іх, каб яе ніхто не вырваў з рук.

Шафёры, раскачваючыся і прытоптваючы, хто важна, стройна, як на свята, а хто сарамліва, як усё роўна ў канторы палучаў малую зарплату — Завішнюк ведаў такіх,— з парога падбіралі, падчышчалі ад сцен усіх дзяўчат і вялі ў круг.

Хутка і лавы ўсе былі чыстыя, на іх цяпер прымошчваліся і выцiралі плячыма сцены тыя, хто мо ніколі за жыццё не прытопнуў нагой нават п'яны... У іх з-за плячэй вытыркаліся стрыжаныя галовы дзяцей. І як туды пазашываліся дзеці? І тыя былі тут, што лазілі на вуліцы ў рабіны. Двое белагаловых, са шлейкамі на белых кашульках. Трэцяга Завішнюк не запомніў. Да дзвярэй з бакоўкі падышлі жанчыны, пасталі і, гледзячы на леспрамгасаўцаў, ківалі толькі галовамі. Адна з іх была сумная-сумная, пасля заплакала і пачала выціраць вочы, як гэта рабіла часта Грасыльда, ражкамі хусткі.

Завішнюк падумаў, што яна ўспомніла, гледзячы на поўную хату мужчын, сваіх такіх жа хлопцаў-танцораў, якія не прыйшлі з вайны і ніколі не прыйдуць...

Дра-да-да... Дра-да-да...— цяпер ужо, здавалася, крышыцца падлога і ляцяць з-пад кірзавых ботаў у шафёраў і грузчыкаў адны трэскі...

Пасля Завішнюк заўважыў, што ў іх з-пад ног падымаецца толькі пыл — густы і сівы. Падлога ў хаце была зліта вадой — высахла за колькі хвілін.

Калі расступаліся ў крузе пары, Завішнюк бачыў на самым покуце вялікі белы гармонік на каленях у кучаравага хлопца з кепкай на патыліцы. Гэта яго ён прыкмеціў на вуліцы. Гармонік у яго ў руках то дрыжаў, то падскокваў, расцягваўся і рабіўся доўгі-доўгі, на ўвесь покут, то сціскаўся, заміраў і толькі ледзь-ледзь варушыўся — дыхаў. Музыка лілася бадзёра, роўна, пералівалася, бы рака, у якой плёхалася тысяча рыб, шумела, як малады лес, калі на яго наляціць вецер і трэпле, трэпле, аж ломіць

сучча, пасля рабілася лагодная-лагодная, як лес летам раніцай у пагоду, калі ажывае і трапечацца, цягнецца да сонца ўсё ў ім жывое, а ты не бачыш, табе здаецца, што ўсё застыла, спавілося сінечай і спачывае, спіць, як і ўся зямля...

А за сінечай недзе далёка-далёка ў канцы лініі на Каралінскай пасецы — жоўтая палоска. Яна свіціцца і праз сінечу і праз туман... Завішнюк успомніў, што гэта града, колішняя пагранічная града, якую нааралі ў лонваўскіх лясах у дваццатым годзе і да трыццаць дзевятага па ёй не прарасло ні зярняці — усё знішчаў чалавек. Гэтулькі сасновага насення прыносіла сюды ветрам з Сырніцы, з сасновага бору, з Каралінскай пасекі, а яго выбаронвалі, выполвалі кожны дзень, каб на градзе не рос лес. Града — граніца, на градзе пазнаеш след...

Завішнюку пасля стала ад нечага аж горача ў грудзях. І лес, і сінеча, і гэта палоска-града — яны ягоныя... І Завішнюка ахапіла радасць ад таго, што яны ёсць на зямлі... Пасля было мякка на душы, здавалася, што нехта гладзіць па галаве, трэпле, растрасае валасы такой мяккай рукой і такой прыгожай. І яна пахне ўсімі сухімі травамі, якія толькі растуць на зямлі...

Яму ўспомнілася Жэнька... Здалося, што яна ціха ў лесе па мяккаму моху падкралася да яго ззаду і закрыла рукамі вочы. Ён аж уздрыгнуў; падумалася, што яна так ніколі не зробіць.

Дра-да-да... Дра-да-да...— стукалі аб сухую сукаватую і выбітую падлогу гумавыя абцасы ад кірзавых ботаў і жалезныя падкоўкі ад цяжкіх нямецкіх чаравік, якія невядома дзе дасталі аж праз колькі часу пасля вайны леспрамгасаўцы.

Было цесна аж ля сцен. Ніякага круга не было — варушылася, тоўхалася і ківала галовамі ўся Палюшына хата-канцылярыя.

Раптам захліпнуўся белы гармонік на каленях у кучаравага музыканта, які сядзеў цяпер без кепкі: яна спаўзла, відаць, у яго з галавы і звалілася недзе пад лаву. Усе спыніліся, маўчалі і не разыходзіліся — набралі былі імпэту. Толькі дзяўчаты пачалі выслізгваць з-пад рук у леспрамгасаўцаў і ціснуцца то ў пакой за перагародку, то да дзвярэй, хаваючыся за спіны тых, хто стаяў у парозе,— не ўсе дзяўчаты былі рады, калі іх валтузілі па хаце п'яныя грузчыкі. А тыя не разыходзіліся, бо не ведалі, чаму заціх гармонік.

— Чаркаш-шын!..— пранеслася раптам па хаце, як зашумеў вецер.

Завішнюк угледзеў, як праз адчыненае ад вуліцы акно ў хату на самы кут, дзе сядзеў музыкант, працягнулася доўгая ў белым рукаве рука — што бярозавае метровае палена. Працягнулася, дастала да белага гармоніка і лягла на мяхі...

І-і-іем...— енкнуў гармонік на каленях у кучаравага гарманіста і змоўк. Гарманіст тарганууся на куце і аж ускочыў з лавы. Але падняцца яму не давала рука ў белым рукаве — цяпер яна ляжала ў яго на плячы. Тады музыкант неяк вывернууся з-пад рукі і, прыціснуўшыся да сцяны, утаропіўся ў акно.

— Га-га-га... Га-а-а...— пасля заржаў ён, што конь.

І толькі тады Завішнюк угледзеў, што ў акне стаяў чалавек. Чалавек быў у белай кашулі на такіх шырокіх плячах, што яны закрывалі ўсё акно, як бы яго завесілі абрусам. І толькі ўгары над белай кашуляй у маленькай чорнай праёміне акна варочалася знаёмая галава. Доўгая, з выцягнутым тварам, коратка падстрыжаная. Чорная пасма валасоў была прылізана з правага боку лба над самым брывом, як бы там прыліп шырокі і крывы жаночы грэбень. Нос у чалавека быў тонкі, доўгі і прыгнуты ўніз. Калі чалавек загаварыў, Завішнюк спачатку ўбачыў прыгожыя белыя зубы, а пасля пачуў чысты голас-бас:

— Перакур, чумакі!.. З драматой!.. А ты-ы...— ён прыняў руку з белага гармоніка і паклаў яе, растапырыўшы пальцы, на кучаравую галаву гарманіста,— аддыхні. Разанеш барыню. Мне!..

— Давай сюды, Чаркас... Праз акно... Скакай!..— закрычалі яму аднекуль з парога.

Леспрамгасаўцы расступіліся, ціснуліся да сцен, давалі месца пасярод хаты. Відаць, хацелі паглядзець на Чаркашына — той, мусіць, умеў танцаваць,— а мо і баяліся яго. Ды і музыка ж маўчаў, не граў. Завішнюка зусім прыціснулі да сцяны, ён стараўся як-небудзь пралезці наперад, але яму не ўдавалася; ён тады стаў на дыбачкі, але замінаалі галовы на хаце. Яму нечым спадабаўся сёння ўвечары гэты вялікі чалавек — захацелася паглядзець на яго самога і на ягоны танец.

— Давай, Чаркас, праз акно!..— крычалі ўсе ў парозе і смяяліся. Завішнюк убачыў там маленькага Вярбіцкага ў цюбецеечцы і гарбаносага белагаловага Калясся.

— Карчма на плячах астанецца...— Чаркашын адхінуў

рукою кучаравую галаву музыканта і паказаў на хату: — Расступіцца! Хай падлога астыне...

Людзі расступіліся адразу і ў самым парозе. Чаркашын паявіўся ў дзвярах гэтаксама, як і ў акне. Прасунуў доўгія рукі ў белых рукавах і пачаў адчыняць другую палавіну дзвярэй — была адчынена толькі адна. Чалавек штукаваўся — любіў, відаць, гэта, і за гэта яго, мусіць, любілі, бо ў праёміну дзвярэй магла пралезці яшчэ палова такога Чаркашына, яны ў некалішняй карчме былі, як брама.

Дзверы ў яго руках адляцелі адразу, ён піхнуў іх недзе ў сенцы, дзе яны глуха стукнулі аб сцяну, і пайшоў праходам. У начышчаных ботах, у чорных штанах і белай кашулі. Высокі, аж пад столь, плячысты, што воз сена, стройны і роўны, што сасна ў бары, смуглявы і вясёлы, з усмешкай на белых зубах, як у дзіцяці, ён ішоў на круг... Усе маўчалі, маўчаў і музыкант — відаць, чакаў яго каманды.

Раптам усе зашумелі — нехта аж захліпаў ад смеху — і сталі паварочваць галовы недзе да грубкі, не глядзелі ўжо на Чаркашына. Завішнюк убачыў, як, перваліўшыся цераз парог і стараючыся ўхапіцца Чаркашыну за штаны, куляўся, што падстрэлены звер, Андрэй Акцызнік. Расхрыстаны, з мокрым тварам і бліскучай лысінай пад рэдкімі сівымі валасамі ў заляпаных аж з халявамі шырокіх гумавых ботах,— і ён цягнуўся на круг, як сабака за сваім гаспадаром, які тут яго пакорміць.

Завішнюк здагадаўся, што Чаркашын піў увесь вечар у Акцызніка і сёння зусім спаіў яго. Нашто толькі прыцягнуў на вечарынку?..

Выйшаўшы на сярэдзіну хаты, Чаркашын спыніўся і пакланіўся — нізка пакланіўся, здавалася, пераломіцца ў паясніцы, у кут, не туды, дзе сядзеў музыкант, а ў другі кут, дзе стаяла старая канцылярская шафа з паперамі наверсе... Завішнюк аж здрыгануўся: там на лаве прыхінуліся Жэнька са Светай. І як ён, Завішнюк, не ўгледзеў іх дагэтуль?

Пасля Чаркашын махнуў рукой музыканту, нібыта сыпнуў яму жменю манет, і адразу ж топнуў нагой. Пачуўся рэзкі стук, бы дзе стрэліла калясо пад прычэпам.

Гарманіст разануў такую барыню, што, здавалася, пасыпаліся з машыны на беразе Віліі аж у ваду сухія бярозавыя дровы-метры — даганялі адно адпаго і звінелі, як звон.

Чаркашын прайшоў па шырокім крузе, шырока раз-

махваючы рукамі ў такт нагам, і раптам спыніўся ля Андрэя Акцызніка — той стаяў і зыбаўся на нагах — і, паказаўшы яму на хату, закрычаў:

— Пратапчы!.. Цвёрда!..

Акцызнік адразу задраў галаву, расставіў рукі і выкінуў уперад нагу ў шырокім гумавым боце. Пасля яго страсянула ўсяго, і ён завалюхаўся па хаце, не адрываючы ног ад падлогі, кульгаючы і спатыкаючыся... Здавалася, падлогай пацягнулі мех, набіты мякінай, і яна цярусіцца праз дзіркі...

— Давай, давай!.. Тапчы-ы-ы...— Чаркашын прысядаў, пасля выпростваўся і, выцягнуўшы руку, ішоў па хаце, нібыта вёў Акцызніка на павадку.

Акцызнік топаў нагамі, бы мясіў на вуліцы гразь, згінаўся і адгінаўся, нібыта падымаў дровы і грузіў на машыну, матляў галавой з боку на бок — яго хістала. Пасля ён, мусіць, добра разабраў музыку, падскочыў, як малады бычок, якога ўкусіў авадзень, прыгладзіў дзвюма рукамі рэдкія валасы на лысіне — яшчэ помніў, што трэба рабіць,— і... грымнуўся на калені — пайшоў упрысядкі...

— Га-га-га...— аж загрымела ў хаце: Чаркашын са смеху схапіўся за жывот.— Тапчы-чы-ы... Мясі... Лысая патэльня... Раўняй, раўняй... У-у-у... звіўся...— Ён нагнуўся над Акцызнікам, пастаяў і шлёпнуў яму даланёй па лысіне.

Старая Палюшына хата стагнала ад смеху. Здавалася, падымалася і апускалася столь.

Людзі хлынулі зірнуць на Акцызніка, што ён робіць на падлозе,— Чаркашын зноў адапхнуў усіх да сцен. Завішнюк адчуў — там, дзе ён стаіць, трохі параскашнела, і злавіў сябе на тым, што падумаў: Чаркашын любуецца сабой і здзекуецца з чалавека. Спаіў і прывёў паказаць. Падумаў пасля яшчэ, што варта Акцызніку, што чалавек самахоць бразнуўся на калені і што яго цяпер трэба будзе падымаць...

— Хлопцы, хлам — з дарогі! Я еду...— Чаркашын аж дрыжаў, як перагрэты матор у машыне.

На хату выбеглі Вярбіцкі ў цюбецеечцы і Калясень, узялі Акцызніка за рукі, за ногі і павалаклі да дзвярэй — на вуліцу.

— Заснуў... Заснуў...— рагаталі ў парозе.

А Чаркашын, вялікі і прыгожы, хітры і задаволены, паплыў па хаце. Ціха-ціха, нават дзіўна было, каб такі рослы чалавек так нячутна ішоў па сукаватай і пашчапа-

най старой падлозе... Пасля ён трасянуў стрыжанай галавой — рассыпалася пасмачка валасоў на лбе, адкінуў галаву назад — надулася шыя, узмахнуў рэзка і спрытна рукамі і падскочыў угору... Тады, падаючы на адно калена, закруціўся па крузе — пайшоў, пайшоў упрысядкі.

— І-і-і-эх!..— узмахваў і ўзмахваў ён рукамі, падаў і падаў на адно калена... У белай кашулі і чорных штанах, ён цяпер быў падобны па падстрэленага на балоце пад Сырніцай жорава, які вунь як хацеў і не мог падняцца з зямлі. Было ў гэтым, здавалася Завішнюку, нешта вялікае ад разгулу чалавека, прыгожае ад яго нязмернай сілы і трагічнае ад ягонай бездапаможнасці перад самім сабою...

— І-і-і-эх!..— Усхапіўшыся, Чаркашын стаў дробненька-дробненька перабіраць абцасамі. Дробненька і ціхенька. Зноў сціхла Палюшына хата, і нехта ў парозе з мужчын прашаптаў: «Пайшоў сваю чачотку. Ну і даёць...» «Малоціць, як цапамі ў вайну...» — уздыхнула яму ў адказ Палюха з дзвярэй, што вялі ў каморку.

Чаркашын перабіраў нагамі і стаяў на месцы, як дрэва, якое падрэзалі з двух бакоў, а яно дрыжыць, нагінаецца і зноў адхінаецца назад, не падае. Вялікае дрэва цяжка скінуць з пня. Пад абцасамі ў Чаркашына, здавалася, вышчэпліваюцца са старых дошак у падлозе засмаленыя сукі і пырскаюць на застолле, да гарманіста, як іскры, як дробныя трэскі з-пад сякеры.

Людзі зноў сціснулі круг: здалёку ж не ўгледзіш, як ходзяць у чалавека ногі.

Завішнюк цяпер толькі бачыў, як матлялася над усімі галава з боку на бок, што шапка сланечніку ў гародзе ад ветру; адтапырвалася, надзімалася на спіне, што мех, белая кашуля, увачавідкі цямнеючы,— мокла ад поту; як знікалі, пасля зноў выскоквалі з грамады шырокія плечы, як пасля яны зноў пайшлі на грамаду, распіхалі людзей.

— Рас-с-ступісь!.. Кру-у-у-уг!..

Чаркашын пачаў адыходзіць спіною назад, да гарманіста, раскінуўшы рукі на ўсю хату. Усе адхіснуліся ў парог, дзе і месца там знайшлося.

Чаркашын на адну толькі якую хвіліну спыніўся, не адбіваў сваю чачотку, прыціх, справіўся нават махнуць далонню па лбе — паправіў валасы,— тады раптам з месца падскочыў вышэй лавы, дастаючы галавою аж да столі, распластаўся ў паветры, як птах, і ўпаў на рукі. Завішнюк пасля толькі ўгледзеў, як ён даткнуўся рукамі

падлогі, страпянуўся, выгнуўся, што вуж, кульнуўшыся цераз галаву, і стаяў ужо на нагах... Не стаяў, зноў пайшоў па крузе, падаючы то на адно, то на другое калена, то круцячыся ўпрысядкі, як вялікі бярозавы ваўчок...

Хата стагнала — леспрамгасаўцы лупілі ў свае суровыя ад мазалёў, агрубелыя ад шрамаў і смалы, цвёрдыя, як дуб, далоні...

— Арціст!.. Арціст!.. Давай, Чаркас, мацъ яе так!..

Хата была заварушылася, затопала, гатовая ўся пайсці ў скокі, тады раптам змоўкла, насцярожылася, бо захліпнуўся гармонік, сціснуты здзіўленымі рукамі гарманіста. Стала ціха, як пасля раптоўнага дажджу.

Гэта Чаркашын быў спыніўся, стаў як укопаны і даў музыканту знак: маленькі адбой, і пайшоў, памаленьку пайшоў у кут да шафы, дзе сядзелі Жэнька са Светай.

Завішнюк чамусьці падумаў цяпер, што Чаркашын жа яшчэ зусім малады, яму, можа, якіх толькі трыццаць гадоў. І тады стала трывожна-трывожна...

Чаркашын падышоў блізка да самай Жэнькі — Завішнюк злавіў сябе на тым, што ведаў наперад: да Жэнькі падыдзе, а не да Светы,— пакланіўся, не так, як перш, а ніжэй — нізка-нізка, сагнуўся, упіраючыся галавой у шафу, і шырока павёў рукою аж ля самай падлогі. Завішнюк угледзеў, як пальцы ягонай рукі зачапіліся былі за насок бота.

Хата зноў заварушылася і ажыла, зашумела, засмяялася. Усе былі рады, нават такога не чакалі: Чаркашын просіць Жэньку, яны будуць удваіх ісці барыню. Усе хацелі на такое паглядзець, і хутчэй.

Жэнька спачатку зірнула сваімі вялікімі чорнымі вачыма на Чаркашына — здзівілася,— тады раптам зачырванелася ўся з твару і стала спалохана зыркаць вачыма па хаце — шукала ратунку.

Чаркашын пакланіўся яшчэ раз і яшчэ раз павёў ля падлогі рукой. Тады Жэнька адхінулася назад і прыціснулася да сцяны, хаваючыся неяк бачком за Свету, як птушаня за чужое крыло. Жэнька не хацела ісці ў круг, і Завішнюк ужо ведаў, што яна і не пойдзе, нізашто не пойдзе. Не тое што Света: сядзіць, толькі зубкі свае паказвае, нахінулася ўперад і стрыжэ, стрыжэ вачыма — так любуецца Чаркашыным. Яна пайшла б, пайшла б, але яе не запрашалі.

Чаркашын раптам павярнуўся на хату і пляснуў у далоні... Тады хата так запляскала, што здалося — з'ехалася

на вуліцу аўтакалона і шафёры, згаварыўшыся, уключылі адразу ўсе маторы.

Чаркашын стаяў і ўсміхаўся. Цяпер ён рабіў тое, чаго хацелі ўсе, і быў смелы. Вунь які смелы...

— Не хочаш, знач, мая Чарнушка, ісці з намі, шафярамі?.. Чарнейшай баішся стаць? А мы папросім...— Ён яшчэ раз пакланіўся, ледзь-ледзь толькі і хуценька, і працягнуў руку.— Не хочаш? Зашываешся ў норку? Так, знач, не хочаш нясці-вязці культуру ў народ?.. Адказваешся...— Ён нават ведаў, што трэба перад усімі гаварыць.— А мы прасіць доўга не будзем. Мы — народ просты. Раз — і ў дамках...— Ён апусціў сваю доўгую і выцягнутую руку і паклаў Жэньцы на калена.— Ножкі, можа, баляць, што цыпаць не хочаш? Дык мы цябе занясём на хатку... На ручках... Сілы хопіць. Ці, можа, баішся нас, мурзатых? Прыручым... Не такім рожкі ламалі...— Ён прыняў руку з калена і тут жа з сілай зноў хлопнуў па ім.

— Пусці-і-і...— ціха, зусім ціха, відаць, сціснуўшы зубы, прагаварыла Жэнька, і яе мала хто пачуў.

— Пракатаю-ю-ю!..— гэтаксама ціха, але груба адказаў ёй Чаркашын і тут жа, схапіўшы пад пахі, падняў з лавы, як нешта лёгкае-лёгкае. Жэнька не паспела, відаць, апамятацца, хацела ўхапіцца рукамі за Свету,— тая раптам адхінулася — не дастала, і цяпер махала толькі імі ў паветры. А Чаркашын, трымаючы яе пад пахі і падняўшы яшчэ вышэй ад падлогі, нёс на хату ў круг. Цяпер Жэнька стала круціць галавой — азіралася па баках — і махаць нагамі — вырывалася. Завішнюк бачыў толькі, як яе чорныя валасы растрэсліся і закрывалі ёй твар. Тады яна стала папраўляць іх абедзвюма рукамі.

Данёсшы на сярэдзіну хаты, Чаркашын апусціў яе асцярожна на падлогу, трымаючы ўсё пад пахі,— баяўся выпусціць. Ён ужо ведаў, што яна ад яго ўцячэ. Пры ўсіх. А ад яго ніхто яшчэ не ўцякаў... Не-е...

— Слёзкі, Чарнушка, схавай... А то мы іх вытрам. Шаўковай шафёрскай кашулькай...— Ён раптам выцягнуў адной рукой з-пад дзягі падол сваёй белай кашулі, павёў ім сабе па твары — высушыў пот — і зноў запхнуў пад дзягу. Хуценька, адным махам. Быў ён цяпер злосны, радасны і настырны, як чорт.

— Польку-у-у!.. Барыню мая Чарнушка не любіць. Не па сэрцу...

Музыкант быў напагатове. Нагнуўся на хату, выцягнуў шыю і трымаў белы гармонік на самых канцах кале-

няў... Польку ён урэзаў адразу, калі Чаркашын толькі павярнуў на кут галаву.

Чаркашын, трымаючы Жэньку пад пахі, выдаў ля яе такую чачотку, што недзе за перагародкай у Палюхі зазвінелі міскі. Пасля адарваў ад падлогі маленькую, стройную і кволую Жэньку і закруціў па хаце. Здавалася, гэта ён робіць у злосці, каб размахнуцца і кінуць яе некуды прэч за тое, што яна не пайшла сама з ім у танец. Не, гэтага танца ён не хацеў, не хацеў... Усе ж бачаць, што ён сваё не ўзяў...

Завішнюк угледзеў, як Чаркашын раптам даў музыканту другі знак рукой:

— Вальс! Полькі гарадскія не любяць...— і паплыў па хаце, цягнучы за сабой Жэньку. Яна маўчала, глядзела толькі ў падлогу і нават не пераступала нагамі. Нават не вырывалася — рабі што хочаш, а танцаваць не стану, не стану... Тады Чаркашын зноў падаў музыканту знак:

— Барыню... Разагрэць яе... Халодная... Змерзла на дажджы ў лесе за дзень...— і пайшоў шырокімі крокамі па крузе, ведучы яе за руку. Яна, відаць, забыўшыся, ступіла за ім. На хаце падумалі, што яна нарэшце наважыла і пакажа Чаркашыну, як трэба танцаваць, і запляскалі ў далоні. Тады Жэнька раптам уздрыгнула, рванула ад Чаркашына і застыла, закрыўшы твар адной рукой.

У хаце перасталі пляскаць у далоні. Прыціхлі, насцярожыліся. Цяпер усе ведалі — Чаркашын сарваўся на Жэньцы. Што ж ён будзе рабіць?

Жэнька больш не чакала. Яна пачала — што мела сілы — вырываць сваю руку з рук Чаркашына. Таму цяпер было ўжо не да танцаў: хацеў утрымаць яе ў крузе, а дзеля чаго, мо і сам ужо не ведаў. Жэнька выкручвалася, як толькі магла. Яе чорныя валасы сцёбалі яе па твары, па шыі...

— Пусці-і-і... Людзі...— нарэшце аж заплакала яна і пачала аглядацца на хату, не на людзей,— людзей яна, мусіць, саромелася,— а шукала, куды б збегчы, схавацца. Праваліцца мо хацела скрозь зямлю ад сораму.

— Пусці дзяўчыну... А то я скора...— Завішнюк убачыў, як падалася ад грубкі на хату старая Палюха.

Цяпер хата загула, што дзікі вулей. Адны — на Чаркашына, другія — на Жэньку.

А Чаркашын стаяў — ні з месца, сцяў сваімі дзвюма рукамі Жэньчыну руку і нагінаўся, нагінаўся, ці не хацеў пацалаваць.

— Пусці... Пусці-і-і...— ціха галасіла Жэнька.
Завішнюк толькі пасля ўжо, калі апынуўся ў крузе, падумаў быў на якую хвіліну, што перад ім адразу расступіліся ўсе да аднаго — і грузчыкі, і лонваўцы,— як толькі ён рвануўся на хату. Далі дарогу — праход. Можа, зноў таму, што ён прыезджы і ў акулярах?
І толькі пасля ўжо, калі ў яго смылела ад болю правая далонь, а Чаркашын трымаў яго за грудзі, і душыла кашуля на шыі, не даючы дыхаць, ён падумаў яшчэ, што ледзь дастаў да гэтай бліскучай ад поту і выгаленай шчакі. Каб не падняўся на дыбкі, мусіць бы, і не дастаў...
Акуляры ў яго — ён не помніць калі — упалі недзе на падлогу і адскочылі далёка пад лаву; нехта дастаў іх і сунуў яму, Завішнюку, у кішэню, ён заўважыў. Дастаць бы іх, надзець, нічога ж не відаць, але душыць кашуля, і ён абедзвюма рукамі ўхапіўся Чаркашыну за руку.
Той глядзеў на яго не то здзіўлена, не то злосна. Вочы ягоныя наліваліся крывёю паволі-паволі, пасталі, нават не лыпалі. А рука ўсё сціскала і сціскала на шыі кашулю. Пачынала звінець у галаве...
Чаркашын раптам захрып:
— Як каршун кінуўся, га? Па мордзе мяне біць, скаціна, га? За што? На мірных танцах, інцілігенцыя мазаная? Ды я ж цябе... Ды я ж цябе — на трэскі. Пілавінне насыплецца...— Ён пачаў трэсці яго, Завішнюка, за грудзі.— Толькі я рук сваіх шафёрскіх не стану пэцкаць... Га... Га-га-га... Ых-ты... З воч маіх шафёрскіх матай скарэй... Перадумаю... Разбярэ... Тады беражыся...— Ён памаўчаў быў.— Што? За Чарнушку рашыў сваю галаву падставіць? Давай-давай... А яна, твая Чарнушка, заўтра сама ка мне ў кабіну сядзе. Прыбяжыць... Было ў нас і не так... У-у-у... скаціна. Ён мне, Чаркашыну, па мордзе?.. Вон! Вон з вечарынкі, каб і смуроду...— Ён адпусціў руку і піхнуў Завішнюка ў парог да грузчыкаў.— Хлопцы, марш яму... Сыграць...
Але ў парозе маўчалі. Маўчаў і музыкант. Тады Чаркашын раптам пераменіўся ў твары і пайшоў па крузе.
— Ну, што маўчыцё, што? Ну што я такое зрабіў, хлопцы, што? А мне па мордзе. Мне...— Ён біў сябе кулаком у грудзі.— За што? Ну што маўчыцё? Чаркашын вам ужо не Чаркашын, га? Па мордзе яму, га? По-о-ольку-у-у!..— Ён закрычаў на ўсю хату, як мог, пакрыўджаны і зняважаны, як яму недзе, мусіць, здалося. Зароў — аж звінелі ў вокнах шыбы.

Музыкант хапянуў «Чаркашынаву польку», і зноў задрыжала хата, як і напачатку. Вечарынка была ў разгары.

Не ставала на ёй толькі Жэнькі і Завішнюка. І яшчэ Акцызніка — ён п'яны спаў у Палюхі ў сенцах на голай зямлі-гліне.

Света ўвесь вечар танцавала з Чаркашыным.

Ён не ўгледзеў у хаце, куды кінулася Жэнька, убачыў толькі, як яна адкінула абедзвюма рукамі растрэсеныя валасы з твару... Толькі гэта цяпер ён і помніў...

На вуліцы ўжо не блішчалі лужы, месяц з'ехаў аж на самую вёску, пачырванеў і не свяціў. Даводзілася ступаць дзе папала. Пад нагамі чвякала гразь.

У Акцызніка ў хаце агню ўжо не было: спалі.

Завішнюк адчыніў — падняў на руках — цяжкія варотцы на двор, збітыя з новага частаколу, і пайшоў паціху ля акна. Стаяў ля дзвярэй, пераменьваўся з нагі на нагу. Як яму цяпер не хацелася стукаць... Як не хацелася спатыкацца з Жэнькай... Але пайсці назад ён не мог. На яго нахлынула нешта гарачае-гарачае.

Ён хацеў, вунь як хацеў бачыць Жэньку, зірнуць толькі на яе. А чаму цяпер? Заўтра ж ён яе ўбачыць, увесь дзень будзе разам у лесе на лініі... Як далёка да заўтра! Ён прыхінуў бы яе цяпер да сябе, толькі прыхінуў... Заўтра, ці калі яшчэ, ён гэтага ўжо не зробіць, ён ведаў. Прасіў бы, каб яна даравала яму, бо ён павінен быў адразу даць Чаркашыну па яго п'янай мордзе. Але ж чаму Жэнька сама не зрабіла гэтага? Не-е... Жэнька добрая. Яна гэтага не зрабіла б ніколі. Пры чужых людзях... Як ён вінаваты перад ёй...

Ён узяўся за клямку — дзверы былі зашчэплены з сярэдзіны, тады ён ціха пабразгаў клямкай, думаў нават, што лепш было б, каб і не пачулі. Але ў хаце адразу нешта грукнула аб падлогу і затупалі босыя і лёгкія ногі. Не спалі яшчэ ў Акцызніка, хоць і агню не было.

— Хто там? Ты, Андрэй?.. Ты-ы-ы?.. Ліха на маю галаву... Не пушчу, не пушчу. Пад плотам, пад плотам можаш... А ў хату не ступіш, не ступіш... Лайдак, лайдак... Працію ўсё, прапіў... Ню?

Завішнюк пазнаў Юзэфу Шульгу і адазваўся.

Яна доўга маўчала, тупала па хаце, тады скінула з прабоя кручок і выйшла на ганак, уся захутаная ў вялікую чорную хустку.

— Жэнька дома?

— Дома. Прыйшла ж пядаўна... Ціхенька... Адна, без Светы. Раздзелася скарэй і ў пасцель. Я загаварыла — маўчыць. Як падмянілі дзяўчыну. А тая дзе, Света? Ню?

— Скажыце, хай Жэнька выйдзе. Я пачакаю на вуліцы.

— Скажу, чаму не скажу. Хай жа выйдзе. А дзе мой? Можа, спатыкалі?

— І твой і Света на танцах у канцылярыі... Паклічце Жэньку...

— На танцах? Мой... Ай-ай-ай... Ды ўжо ж, паклічу. Яна не спіць. Ляжыць ціха.

Жанчына хутка вярнулася. Выйшла на вуліцу, абціскаючы ля шыі чорную хустку.

— Не пойдзе. Спыталася хто — і не пойдзе.

Завішнюк гэтаму паверыў адразу. Пастаяў яшчэ трохі, памаўчаў. Маўчала і Юзэфа.

— Спакойнай вам ночы, цётка,— сказаў ён і пайшоў памалу сцежачкай.

— Дзякуй, дзеткі...— няскора яшчэ адказала яму Юзэфа.

Месяц зусім ужо схаваўся за Палюшыну вялікую ліпу, і на вуліцы яшчэ больш сцямнела. Завішнюк ішоў па гразі.

## *Раздзел сёмы*

# Лімб. Алідада

«Лімб і алідада зверху закрыты металічным чахлом...»

Над Юркам шумелі сосны...

«Лімб... Алідада...» — доўга думаў ён.

Яму здавалася тады, што ён ідзе Каралінскай пасекай з трыножнікам ад тэадаліта цераз плячо. На зямлю зверху падаюць сасновыя шышкі, б'юць па ўтаптанай сцежцы, як яблыкі ў садзе. Сыплюцца сасновыя іголкі, цярусяцца за шыю і колюцца. Юрка засоўвае тады руку пад галаву і абціскае сена. Доўга пасля ляжыць не варушачыся, з заплюшчанымі вачыма на сваёй мяккай пасцелі аж пад страхой і глядзіць угору. Праз патрэсканую драніцу ў хлеў на

сена сочыцца белы месяц. З вёскі чуваць нечыя хрыпатыя галасы і нават як пяраць у Палюшынай хаце нагамі.

Недзе падыспадам шапаціць сена, асядае, і Юрку зноў здаецца, што ціха-ціха шумяць сосны і што ён ідзе з лентай па Каралінскай пасецы. Нацягнуў ленту туга-туга, як маці пражу-аснову, накручваючы на навой, калі пры немцах ткала кросны. Лента чапляецца на зямлі за сухі багун, звініць. А Юрка цягне яе, цягне — нават так не вучыў рабіць і Завішнюк. А на другім канцы ля ленты, прыпаўшы на адно калена, нагнулася Жэнька. Юрка бачыць, як яна совае і совае бліскучы жалезны прут у зямлю і ніяк не можа пракалоць яе... Відаць, на корч налучыла. Тады яна тузае ленту да сябе, паказвае Юрку, каб ён ступіў, ну хоць на паўкрока ўбок. Не, Юрка не ступіць, не адыдзе ад меткі... Не паслухае нават самой Жэнькі. Тады яна разводзіць рукамі — што ёй рабіць? Хай патрымае ленту ў руцэ... А то прыколе да зямлі, а сама гойсае па лініі...

«Лімб і алідада зверху закрыты металічным чахлом з двума аконцамі, праз якія адлічваюць лічбы на лімбе...» — стаяць у яго вушах незнаёмыя словы. Гэта Жэнька паўтарае за Завішнюком. Ён вучыць яе.

Калі Юрка не думае пра Жэньку, чуе тады, як зноў пад ім шапаціць сухое сена,— не зляглося яшчэ: нядаўна прывезлі з Цянёў з бацькам два вазы «балота», і цяпер яго ў хляве многа — аж за бэльку... І тады зноў ён ідзе праз Цяні з трыножнікам ад тэадаліта за плячыма, адзін, без Завішнюка і без Жэнькі, як Чумак з ручным кулямётам. За Цянямі, на бары, дзе да вайны рэзалі лес, хімгасцы рвуць карчы. Мусіць, прыехалі аднекуль гэтыя хімгасцы: яны — не лонваўскія. Лонваўскіх Юрка ведае, яны ў чорных фуфайках. Іх трое. А гэтыя — два мужчыны ў ваенных гімнасцёрках. І рвуць карчы не так, як лонваўцы. Лонваўцы падважваюць пні — гушкаюцца на доўгім парубні і крэкчуць, крэкчуць... А новыя — рвуць амапалам. Юрка не ведае, як яны гэта робяць. Ні разу да іх не падыходзіў. Але пасля іх на пасецы астаецца бліскучая папера і вялікія парваныя рудыя мяшкі з паперы, укачаныя ў белы пыл, мусіць, аманал. І шнуры валяюцца доўгія і чорныя — пагарэлі. Шнуры Юрка бачыў такія ў партызанаў. Гэта бікфордавікі, ён ведае. Запалі такі шнур — ён шыпіць і выкручваецца, што гадзюка, калі на яе наступіш... І дым ад яго горкі...

На пасецы пасля чужых хімгасцаў астаюцца яшчэ ямы. Глыбокія, як ад мін. І на дне ў іх — чырвоная гліна. Каля

ям пушачкі ад капсуляў, новыя, з кардону, і казлякі. Казлякоў — што насыпана, але яны ўсе старыя, белыя, пасохлі ад сонца.

На пасецы рэдкія сосны, высокія — аж сагнуліся, самотныя, сіратлівыя. Калі глядзець на іхнія вярхі здалёку,— здаецца, што гэта чорныя воблакі недзе над Віліёй. Сосны пакінулі некалі на насенне — і малады соснік ужо заслаў пасеку, схаваў з вачэй жоўты пясок, ппі і верас з сіўцом. Соснік ладны — яго падкопваюць: дзяруць карэнне на кошыкі. Жоўтае карэнне валяецца ля самай дарогі, падымеш яго — пахне смалой і зямлёю.

Юрка ўсё помніць, што бачыў за гэтыя дні на пасецы, усё ў яго стаіць у вачах. Нават ямкі і пясок, падняты на дарозе за Цянямі,— дарогу парылі краты. Учора днём над кратовымі ямкамі лёталі белыя матылькі, а па жоўтым пяску скакалі конікі-цвыркуны. А ля кратовых ямак — грыбы лісіцы выскачылі з зямлі, дробненькія яшчэ, і пабеглі дарогай, якраз там, дзе выбілі тор калёсы.

Юрка помніць, што кожную раніцу відаць сляды на пяску ля кратовых нор. Сляды тыя ад Акцызнікавых гумавых ботаў і ад ягоных, Юркавых, босых ног. Юрка пазнае кожны раз свае сляды — «босыя»: ён носіць цяпер цяжкія бацькавы чаравікі на плячы і абувае іх толькі на лініі, дзе колецца, дзе можна прасадзіць нагу, а дарогай ідзе босы — так лягчэй ступаць і здаравей нагам і абутку, як кажа Акцызнік.

Раптам Юрку робіцца балюча-балюча, і тады нехта як адганяе ад яго сон. А здавалася ўжо, што яго, Юрку, пачынала атуляць сена, падымацца з бакоў і зацягваць шчыліны ў страсе, праз якія калоўся востры месяц,— лез са сваімі белымі шпількамі проста ў вочы. А цяпер нехта ўзяў ды раскінуў зноў сена, і зноў месяц рэжа вочы, нават калі іх заплюшчыш,— трэба адварочваць да сцяны галаву.

Юрка прыўзняўся і апёрся на локаць — локаць схаваўся ў сена. Тады Юрка сеў. Яму вунь як нудна. Ён чуе, як грукаюць нагамі ў Палюшынай хаце: да яе ад іх, Далінаў, недалёка. Ён мог бы ўскочыць, ссунуцца з сена — нават не злазіць па драбіне,— адчыніць дзверы ў хляве так, каб яны не скрыпнулі, і шмыгнуць праз рассунуты ля студні паркан на агароды. Не трэба і нагамі грукаць ля акна, каб пачула маці. Але Юрка не пойдзе. Не пойдзе на вечарынку босы. Дагэтуль ён хадзіў, бегаў з Валуйком і Сідаркам па вуліцы, тырчаў пад вокнамі і нават на куце сядзеў ля

музыканта босы. А цяпер не будзе. І на вуліцы ля Палюхі блізка не пакажацца, хай там круціцца Сідарка з Валуйком. Ён мог бы і абуць вялікія бацькавыя чаравікі, якія носіць у лес. Яны стаяць на шафарні ў сенечках. Сенечкі яшчэ не запёрты на кручок — бацька не прыйшоў дадому. Але чаравікі сёння мокрыя і цяжкія. Ён забыўся іх паставіць на печ, каб падсохлі... Хаця заўтра ўсё роўна трэба лезці ў Сырніцы ў балота.

Калі ён нанава клаўся, пад ім асядала сена, шапацела і шапацела, а яму здавалася, што шумяць у Сырніцы сосны. Тады ён зноў усхопліваўся і, апёршыся на руку, падцягваўся і садзіўся вышэй. Пасля быў ссунуўся аж да самай бэлькі — ногі яго звіслі са сцірты, і ён пачуў, што ім холадна. Не. Ён не пакажацца босы нікому на вочы... Можа ўгледзець Жэнька... Тады засмяе. І так смяялася, што ён, мужчына, не выцерпеў сонца. З ног зваліўся... «Ну што гэта за мужчына?» Яна так і сказала, ён добра помніць. А хіба ён ад сонца зваліўся? Гэта Акцызнік так гаворыць. Ну хай і ад сонца. А яна? А яна што робіць? Ходзіць цэлы дзень па лініі і бубніць пад нос: «Лімб-алідада... Лімб-алідада... Лімб і алідада самі круцяцца вакол вертыкальнай асі... Вось вярчэння лімба мае адтуліну, у якой знаходзіцца вось алідады...» Падумаеш, вучыць... Ён, Юрка, і то скарэй за яе запомніў... Пачуў раз і — запомніў. І на тэадаліце пакажа, дзе лімб, а дзе алідада... Завішнюк паказаў, ён , Юрка, і запомніў адразу. А яна... алідада, алідада... Сама Алідада... Ён, Юрка, яе так і будзе зваць... Хай яна яшчэ раз яго зачэпіць, хай толькі засмяецца...

Юрка цяпер смелы. Ён нават можа і босы пайсці да Палюхі на вечарынку. Але калі ён хоча пайсці, яму тады робіцца холадна ў ногі, вунь як холадна і ўсяму, і ён адсоўваецца на старое месца і хавае ногі ў сена, як у нару. Доўга ляжыць, ні пра што не думае, пасля злуе на маці. Яна не пусціла на вечарынку. Ён пайшоў бы і без яе «пусціла», але яна вырвала з рук новыя чаравікі і замкнула ў куфры, у старым куфры, які ў апошнюю блакаду быў закапаны з жытам у гародзе. Чаравікі новыя, маці купіла іх «за грошы з крыдзіту» ў Даўгінаве ў нядзелю на рынку. Чаравікі чорныя, з сівымі брызентавымі халяўкамі, цэснаватыя. «Разносіш, як пойдзеш у школу. На большыя грошы не было»,— сказала тады маці.

А сёння яна нічога не сказала. Вырвала з рук чаравікі і замкнула. «Кавалер...» — недзе падумала. Юрку сорамна, сорамна і крыўдна. Але ён больш ужо не злуе на маці

і не будзе. Ён злосны на Жэньку. Вунь які злосны. Яна недзе думае, што ён хлапчаня, што ён ад зямлі яшчэ не падняўся, што ён... Пасля ён падумаў, што трэба было сказаць маці, што ён не будзе сёння гойсаць з Валуйком па вуліцы па гразі, не будзе «вешацца на платах» і «таптаць чужыя грады», а сядзе дзе ў куточку ці прыхінецца да сцяны і будзе ўвесь вечар глядзець, толькі глядзець, як танцуюць прамгасцы... Хіба ён сам пойдзе ў танцы?.. Людзі ж у вёсцы засмяюць...

Юрка думае, што каб ён гэта сказаў маці, яна б яго пусціла. Маці ў яго добрая... Пагладзіла б па галаве і пусціла. Нават каб і бацька «стаў перак дарогі»,— яна б заступілася і пусціла... Юрка больш не злуе на маці, не-е... А Жэньцы ён яшчэ пакажа... «Лімб-алідада...»

А што яна ведае пра яго, пра Юрку? Ён ёй раскажа. Раскажа, і ўсё. Возьме і раскажа. Калі яна не стане слухаць, будзе слухаць Света. Гэта будзе слухаць... Будзе. За рукаво нават ухопіцца і будзе трэсці руку: «Раскажы, раскажы...» І вочы ў яе, маленькія, шэрыя, адразу пабольшаюць, і носік яе, маленькі, як арэх, возьме і зморшчыцца. Света не Жэнька, не адстане, пакуль ён ёй усяго не раскажа. А калі не будзе Светы — ён раскажа ўсё Завішнюку. А Завішнюк скажа Жэньцы. Пра гэта ён не змоўчыць. Жэнька тады кіне з яго смяяцца... У вачах у яе будзе тады сум, і яна будзе гаварыць да яго мякка-мякка і ласкава. А можа, яна тады з ім будзе гаварыць, як з роўным? Ну і што з таго, што яна старэйшая? А недзе і ў сваім тэхнікуме не так ужо і добра вучыцца, калі памяць у яе такая... Лімб-алідада... Зубрылка...

Юрку хочацца быць старэйшым... Хочацца падрасці... Ён кожны дзень прымерваецца, ці высока яму яшчэ цягнуцца, каб зраўняцца з дзвярыма ў хаце. Дзверы ж нізкія. Усе ідуць — згінаюцца, а яму яшчэ расці колькі трэба.

Калі ў Палюшынай хаце сціхае грукат, тады чуваць, як на вуліцы гамоняць мужчыны. Нехта пачынае спяваць моцна-моцна, крычыць на ўсю вёску. І Юрку зноў хочацца на вуліцу...

Ён выцірае рукавом з твару мокрую пацяруху — яна прыліпла, коле...

Сон не ідзе... Заблытаўся недзе ў сене пад страхой.

Юрка больш не кратаўся, каб не спалохаць сон... Сон баязлівы... кранеш рукой — і яго няма. Дачакайся тады...

Хутчэй бы заснуць... Забыцца пра Жэньку, пра танцы

ў Палюшынай хаце, пра Завішнюка з яго ным тэадалітам, пра ўсё...

Юрка доўга ляжыць, заплюшчыўшы вочы,— не варухнецца. Пад ім шашчыць сена, недзе ля шчытоў звіняць камары. Стогне ў другой палавіне хлява карова; звалілася была з шаста і закудахкала курыца. Пасля адразу ж сціхла, як бы яе шашок лапнуў за горла. Шашок часта прыходзіць у хлеў.

Пасля над Юркам калышуцца сосны...

— Лімб-алідада... Лімб-алідада...— шэпча аднекуль Жэнька.

Зноў крадзецца сон з-пад цёмнага падстрэшка...

Шась, шась, шась...

Шорхае жоўты пясок, сыплецца і сыплецца зверху, як дождж.

Лясь, лясь...

Гэта рыдлёўка дзяўбе жвір, дзяўбе каменне, падкідае яго ўгору з ямы, і яно адкочваецца па зямлі далёка, аж да дарогі, аж да самых лонваўскіх гумнаў. А ў Лонве пажар... Заходзіць сонца і гараць хаты — ціха, роўна, як свечкі: няма ветру. Толькі дым, едкі і калючы, цягнецца аж сюды, да лесу на загуменне... Ад яго дзярэ ў горле, і тады робіцца блага...

Чах, чах...— грызе і грызе жвір і каменне рыдлёўка...

Чуваць, як у вёсцы нехта крычыць,— нема, як толькі можа... Пасля стукае кулямёт — як хто, не перастаючы, б'е каменнем у шчыты. Ад гэтага па спіне ідзе шорах і дранцвеюць рукі. Рыдлёўка робіцца цяжкой, як плуг. Яе ніяк не адарваць ад зямлі абедзвюма рукамі...

— Давай!.. Давай!.. Жыдзяне...— крычыць нехта над ім праразлівым голасам. Пасля Юрка чуе, як яго штурхаюць у плечы, мусіць, ботам... Ён падае... Як баліць спіна, здаецца — яе пераламалі ў паясніцы. Пасля на яго навальваецца нешта цяжкае-цяжкае, на самае балючае месца,— і прыціскае да зямлі. Здаецца, што на загуменні абярнуўся воз са снапамі і прыдавіў Юрку парубнём... Юрка крычыць на ўсе грудзі, але яго, мусіць, ніхто не чуе, бо ў яго поўны рот жвіру. Пасля боль у паясніцы аціхае, і Юрка здагадваецца, што гэта на ім стаяў паліцай, узбіўся з нагамі.

Той, невысокі і худзенькі, у чорнай пілотцы і ў чорным расшпіленым фрэнчы, той, што адразу тарkануў яму

вострым аўтаматным рыльцам, як ад адбітай чорнай бутэлькі, у грудзі, калі Юрка выткнуўся з кустоў на ўбітую даўнейшую сцежачку, што вяла з Белай дарогі на загуменне. Юрка лучыў якраз на самы акоп. Акопа не было відаць з-за кустоў, здаецца, не было чуваць і стрэлаў. Увесь дзень. Каб жа Юрка ведаў, што тут паліцаі... Ён бы так смела не сунуўся б... Ды і з вёскі Акцызнік прыходзіў, і Грасыльда... Усім жа казалі, што немцаў няма ўжо два дні. Палавіна ж вёскі ўчора дамоў вярнулася. Юрка, калі ўбачыў паліцаяў, не спалохаўся: паліцаі летась у блакаду нікога ў Лонве не зачапілі. Як ішлі, дык і пайшлі. Ён падумаў толькі, што калі ішоў з Цянёў Белай дарогай да загумення,— мусіць, пахнула дымам. Але ці мала дзе што магло летам у лесе гарэць... І стралялі. Юрка ўспомніў — стралялі. Толькі неяк ціха, рэдзенька, бы дзе далёка на шашы. Дык там жа не было таго дня, каб не стралялі, усю вайну.

— Давай-давай!.. Жыдзянё... Уставай, твою мать...

Ён падняўся сам і апёрся на рыдлёўку. Ручка ў рыдлёўкі была мокрая, як у гразі. Юрка ўбачыў, што пальцы ў яго ў ліпкай чырвонай гліне. Не. Гэта кроў. Ручка ад рыдлёўкі ў крыві. Кроў пайшла, мусіць, у яго з рота, калі білі ў плечы нагамі. Цяпер у роце солана-солана, здаецца — там не жвір, а соль у дробных друзалках. Калючая, шорсткая, ліпкая, яе ніяк не выплюнеш.

— Капай-капай, жыдзянё... Сабе... Га-га-га... Даўно б я цябе на той свет спраавадзіў... вырадак бандзіцкі... У лес хавацца? Да партызан? А дзе яны? Сунуліся ноччу, а цяпер як мышы ў нары... Капай, рый сабе хату. Га-га... Шчасце яшчэ маеш... Сквёрся б у агні... жыдзянё... Дзе вашы партызаны, га?!

Юрка пачуў, як зноў яму балюча ткнулі ў плечы рылам аўтамата, што тупым і цяжкім жалезным прутам.

«А чаму жыдзянё? — раптам падумаў ён.— Я ж не чорны, не. Я ж рыжы... і бацька рыжы...»

Тады яму мігнулася перад вачыма падвода... У Цянях, аж за балотам. На падводзе маці... Яна захварэла ў лесе. Яе калоціць другі дзень... Яна збіраецца з Грасыльдай панач вярнуцца ў вёску. Яна не вернецца... Пачуе стрэлы, угледзіць дым... Яна астанецца ў Цянях. Туды немцы не сунуцца...

Як Юрку хочацца цяпер у Цяні... Але ў акопе кулямёт... Доўгі, чорны... Выткнуўся з пяску, як палка, і тырчыць, скіраваны ў лес, на Белую дарогу. Не пабяжыш...

За кулямётам сядзіць яшчэ адзін паліцай, не вылазіць з ямы... Не глядзіць нават на Юрку... Сваім заняты...

Чах... Чах...— зноў сячэ зямлю рыдлёўка, зноў коле босыя ногі жвір...

Юрка не хоча капаць сабе ямы, хай хоць цяпер страляюць... Хай страляюць... Але рукі дрыжаць і дрыжаць і самі падымаюць рыдлёўку, нічога з імі не зробіш...

Чах... Чах...— яма ўжо аж па грудзі... У рыдлёўцы доўгае цаўё, і Юрку ў яме з ёй цесна... Зноў з рота пайшла кроў, капае на пальцы...

— Глыбей! Глыбей!..— Юрка чуе, як над ім дыхае паліцай, сапе. Юрка баіцца павярнуць галаву: тады яму сыплюць пясок у вочы...— Глыбей!.. Глыбей!..

Раптам у акопе затрашчаў кулямёт, аж зазвінела ў вушах... Юрка ўбачыў, як бліснула з пяску доўгае полымя...

Па лесе пайшлі адгалоскі... І тады ўсюды засакаталі кулямёты: ля фермы, ля моста, ля старога крыжа на лагу і ў канцы гумнаў. Немцы баяліся начы...

Пасля стала ціха... Юрка нават чуў, як з-пад локцяў у паліцая, што сядзеў ля кулямёта, падаюць каменьчыкі на дно акопа і бразгаюць там аб нешта жалезнае... Пасля Юрка ўгледзеў, як высока над загуменнем у чырвоным ад вячэрняга сонца небе кружыць бусел. Маленькі-маленькі. Юрка ўгледзеў яго і адразу ж згубіў з воч... З вёскі цягнуўся густы сівы дым, цягнуўся нізка над зямлёй аж сюды да лесу, на загуменне, і засцілаў неба. Гарэла ўся вёска. Юрку здавалася, што гарыць не іхняя Лонва, а проста на вялікім-вялікім агні палае доўгае-доўгае бервяно ў смале...

«Як добра, што страляюць... Кулямёт чуваць у Цянях...»

Юрка ўспамінае, што яго не пускала з Цянёў маці. Як яна не пускала! Але ж у іх не было ўжо чаго есці... Усё асталося дома. Што яны надта ўправіліся ўхапіць з сабой...

— Канчай!.. Канчай!.. Жыдзянё... Жвавей! Га-га-га...

Юрку здалося, што паліцай дурны... Ён павярнуў быў галаву, каб зірнуць на паліцая, але ў вочы паляцеў жвір.

— Жвавей, шчаня! Растапчу...

Юрка чуе, як зноў на плечы яму апускаецца цяжкі бот. Зноў повен рот жвіру, мокрага, салёнага. З рук выпадае рыдлёўка... Няма, зусім няма на што аперціся... Згінаюцца калені, і Юрка падае тварам у халодны жвір, у яму.

— Тваю маць...

Юрка ўсё чуе, да макулінкі. Чуе, як лаецца і закурвае худзенькі паліцай, як трашчыць і трашчыць у канцы вёскі кулямёт, як бразгае нечым у акопе ля кулямёта другі паліцэйскі.

На шыю сыплецца і сыплецца зверху жвір... Там топчацца паліцай, той, худзенькі, з кароценькім чорным аўтаматам.

— Падымайся... бога маць!..

Юрка чуе, як у яго на плячах, у самым балючым месцы, цвёрдая, што костка, рука зграбла кашулю, як трэснула шлейка...

Юрка тады ўстаў сам. Яму паказаў паліцай вылезці з ямы і стаць на кучку жоўтага жвіру. Юрка ўсё рабіў, што яму паказвалі. Яму здавалася, што ён цяпер не ў полі на загуменні, а ў Цянях-балоце, увесь у ліпкай чорнай гразі, якая пахне гарам. Ён ніяк не можа выбрацца з прорвы, не можа дастаць рукой да лазіны. А яна дрыжыць перад вачыма, звісла з кургана... Юрка хоча ўхапіцца за яе, але не слухаюць рукі. Здранцвелі...

— ...Убога маць, жыдзянё!.. Маліся!..

Юрка не ведае, як гэта маліцца... Ён не бачыць, хто так яму крычыць...

Перад вачыма ўсё дрыжыць лазіна, мокрая ад вады. Ведама ж, над балотам... Вада сцякае ў Юркі з ілба. Вады поўныя вочы... Яна густая, ліпкая. Нічога не бачыш...

Кроў, зноў кроў... Мусіць, Юрка, як падаў, рассек аб камень лоб...

Калі лазіна на хвіліну схінулася з воч, Юрка ўбачыў на небе чырвонае зарыва і агонь у вёсцы. Агонь быў яркі, і над ім мільгацелі цені — чорныя, вялікія. Юрку здалося, што гарыць зямля, гарыць загуменне і Цяні... Як яму хочацца ў Цяні...

Ён ступіў з халоднага жвіру... І тады яго лізнула доўгім і вострым языком балючае полымя... Дастала, мусіць, аж з вёскі... Ён адчуў, як яму стала горача-горача пад пахай... Мусіць, там загарэлася кашуля...

Ён помніў яшчэ, як моцна сціснуў зубы,— яму здалося, што ён ухапіўся імі за лазіну на кургане. Яна абарвалася. Вада ў прорве зрабілася чырвоная-чырвоная, аж белая, як полымя. І гарачая, што вар.

Нехта, мусіць, у вёсцы закрычаў Юркавым голасам... Нема-нема, як рвучы на сабе валасы.

Пажар патух. Зверху на Юрку пасыпалася чорная сажа...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Назаўтра пад вечар, калі немцаў у вёсцы ўжо не было і калі лонваўцы, хто астаўся жывы і вярнуўся з лесу, хавалі на могілках знявечаных агнём людзей, Грасыльда знайшла яго, Юрку, на загуменні, блізка ля дарогі. Ён выпаўз з ямы і яшчэ дыхаў — хрыпеў.

Грасыльда яму пра гэта расказала пасля, калі ён пачынаў ужо хадзіць і калі яны, Даліны, разам з Грасыльдай жылі ў адной зямлянцы...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

«Лімб-алідада!.. Лімб-алідада!..» — нехта крычаў над ім Завішнюковым голасам.

Юрку здалося, што ён заснуў на Каралінскай пасецы. Ён усхапіўся і сеў, утаропіўшыся ў страху, туды, дзе праз шчыліну свяцілася цьмяная ўжо чырвоная палоска ад месяца...

Юрку было здалося яшчэ, што яго нехта душыць — цісне, схапіўшыся за шыю. Мусіць, ад таго ён захроп — моцна, на ўвесь хлеў — і прачнуўся... Ныла спіна, балела шыя — адлежаў, балеў пад пахай рубец. Даўно ён ужо не ныў...

Тады Юрка ўспомніў, што, мусіць, сніў сон... Пажар і паліцая... Але чаму сон якраз такі, як усё гэта было ў блакаду? І чаму Юрка сасніў гэта першы раз за гэтулькі гадоў?.. У сне не так страшна... Тады было вунь як страшна. А можа, цяпер і не было б так страшна, Юрка ж падрос. А тады які ён быў...

Юрка пачуў, як на двары затупала маці,— ён пазнаў. Прыйшла да дзвярэй, падрагала:

— Ты спіш, сын? Га? Крычыш нема на ўвесь двор, аж я ў хаце прачнулася. Я ўжо думала, хто цябе тут душыць... І карова нешта на ланцугу тузаецца сёння. Ты спіш, сын? Ну спі...— Маці павярнулася і зноў пайшла па двары да сенцаў.— Апошнюю ноч... Больш я цябе не пушчу з хаты,— гаварыла яна ўжо сама сабе.— Днём нацягаецца па тым лесе, наморыцца і ноччу не спіць.. Дзіця яшчэ... Прывык валяцца па гэтым сене не распранаючыся... Хата ёсць... ложак...

Юрка пачуў, як у сенцах бразнула клямка: «Лімб-алідада...»

Ён тады зноў успомніў Жэньку. Не такую, як перш, а добрую, зусім добрую. Яна схілілася над ім і гладзіць яго па галаве. Яна ўсё ведае пра яго, ведае, што яго хацелі забіць паліцаі... Юрка нават чуе, як яна гаворыць,

што ён яшчэ малы зусім і гаротны... Хай хутчэй падрастае... Гэта яна зноў смяецца з яго. Не, яна не ведае, што яго расстралялі былі паліцаі, калі палілі Лонву. Ён раскажа ёй пра гэта, раскажа. Ён скіне з сябе капулю і пакажа ёй рубец. Пад левай пахай, на грудзях... Шырокі і сіні... Хай тады яна смяецца з яго, з Юркі...

Не, яна не будзе смяяцца.

Юрка зноў адваліўся на спіну. Ляжаў доўга — суцішыўся і баяўся крануцца. Шамацела сена — здавалася, што шуміць у галаве. За тынам стагнала карова, на ферме нехта ляпаў у жалеза — мусіць, вартаўнік ля малатарні ў парожнюю бочку ад газы.

Калі Юрка звёў павекі,— над ім зноў закалыхаліся сосны. Не адчэпяцца ніяк...

Пасля перад вачыма пацягнуліся доўгія старыя разоры на лініі — ад пажару. Яны жоўтыя ад пяску. На іх — воўчыя сляды, свежыя, аж цёплыя, здаецца. Мусіць, воўк прайшоў тут зусім нядаўна. Ён ходзіць — адзін — па лініі кожную раніцу, але Юрка яго ніколі не бачыў.

Ля воўчых слядоў — шырокія сляды ад Акцызнікавых ботаў і маленькія ад боцікаў Жэнькі. Побач — метачкі ад падковак, гэта чаравікі Завішнюка.

«На краі алідады два верньеры з нулявымі індэксамі...» — Юрка ўспомніў ягоныя словы.

Які добры Завішнюк. Ён усюды вучыць дзяўчат. Галаву ім, відаць, адурыў са сваім тэадалітам. Але так, мусіць, трэба. У дзяўчат — практыка.

Калі Юрка ўспамінае Свету — смяецца. Яна нічога не можа адказаць Завішнюку, калі той папытае ў яе пра тэадаліт і градусы або загадае ёй зрабіць праверку тэадаліта. Думае яна, думае доўга, круціць сваёй белай галавой з бяльматымі вочкамі, а тады як скажа што, дык Завішнюк аж заходзіцца ад смеху. І Жэнька з яе тады смяецца разам з Завішнюком.

Юрка сам бы узяў ды адказаў за яе ўсё Завішнюку, пра што ён пытаецца. Усё па тэадаліту... Бо Завішнюк запытае, пасля сам гаворыць усё. І не адзін раз. А хіба цяжка запомніць? Калі заўтра толькі не зможа адказаць Света Завішнюку, Юрка возьме ды сам адкажа. І ўсе «дэталі» пакажа на самім тэадаліце. Хай тады лыпае вачыма Света.

Хіба цяжка запомніць?

Тэадаліт — тры грэчаскія словы. Грэцыя — краіна ля мора. Юрка яе знае на карце. А «тэа» — гэта позірк, «одас» — шлях, «літас» — камень. Спачатку тэадаліт ста-

вілі не на штатыў (штатыў — гэта трыножнік), а на камень. Тэадаліты бываюць дакладныя і звышдакладныя... Юрка ўсё запомніў, слова ў слова за Завішнюком... Тэадаліт мае тры пад'ёмныя вінты — пры дапамозе іх прыводзяць лімб у гарызантальнае становішча... На падстаўках, прымацаваных да алідаднага круга, ляжыць зрокавая труба — круціцца вакол асі... У зрокавай трубе ёсць акуляр. Юрка яго пакажа, сам колькі глядзеў у той бліскучы акуляр... Што ж яшчэ? Ага-а... Завішнюк гаварыў, што прататып (што гэта? трэба ў яго самога спытацца) тэадаліта — астралябія... (Нейкае нядобрае слова. Усё роўна як Акцызнік лаецца...) Астралябія — гэта даўнейшы тэадаліт. Яго маляваў у сшытку Завішнюк і паказваў дзяўчатам. Света хіхікала... Хіхікала, а не запомніла, што «астрон» — гэта зорка, а «ламбано» — бачыць. Ды такія словы яна ніколі не запомніць, калі нават не можа запомніць «алідадны круг» і «абрысную кніжку».

Што яна тады робіць у сваім тэхнікуме? Завішнюк казаў, што тэадаліт яны павінны былі ўжо прайсці...

Юрка, каб толькі навучыўся «лічыць» градусы і мінуты, сам бы рабіў усё тое, што робіць Завішнюк. І Свету вучыў бы. Не так, як Завішнюк. Юрка прымусіў бы яе вызубрыць усё, калі ў яе такая памяць. Хай бы ночы не гайсала на вечарынках, а сядзела над кнігай...

А Жэнька...

Юрка думае, што Завішнюк менш пытаецца ў Жэнькі і не смяецца з яе, калі яна блытаецца ў градусах. А і Жэнька блытаецца... А ён, Юрка, не заблытаўся б, каб толькі разабрацца, што да чаго. А колькі тут ля таго тэадаліта пастаіш надта... Завішнюк гоніць Акцызніка на лінію... А з ім — і Юрку. «Астралябія...» — лаецца тады на ўсіх Акцызнік і цягне Юрку з сабой на пасеку.

Трэба будзе папрасіць Завішнюка, каб ён расказаў, што гэта за градусы ў тэадаліце... Але Завішнюк не раскажа, пасмяецца толькі і Жэньцы ўсё перадасць. Ну і чорт з ім... Юрка і цяпер без яго справіўся б і з тэадалітам і дзяўчат бы вучыў...

Стаў бы ля трыножніка, узяў бы ў руку абрысную кніжку, тупаў бы нагамі — таптаў мох — і гаварыў бы, расцягваючы словы і папраўляючы акуляры (а нашто Юрку акуляры?):

— Пры здымку землекарыстання (што гэта за карыстанне?) спачатку на ўсіх вонкавых граніцах устанаўліваюць межавыя знакі (хм... знакі...) — слупы з курган-

чыкамі — на ўсіх паваротах граніц — і прачышчаюць паміж імі лініі так, каб можна было прыступіць да вымярэння ліній і вуглоў... (Мусіць, сам зазубрыў усё з кніжкі, як Света, і не спатыкнецца, як гаворыць.) Пры вымярэнні вуглоў вядзецца геадэзічны (што гэта такое? трэба будзе запытацца...) журнал, пры вымярэнні ліній — абрыс... (Нейкі абрыс.) Пасля «вяха адзін», «вяха два»... (Смешна нават. Рабы кіёк, толькі што доўгі і фабрычны, а завецца «вяха адзін»...)

Пасля Завішнюк «замацоўвае праграму»:

— Жэнька! Прывесці лімб у гарызантальнае становішча.

Жэнька з падскокам, што каза, ідзе да тэадаліта.

— Жэнька! Атрымаць гарызантальную праекцыю вугла...

Тут Юрка нічога не разумее.

Калі і Жэнька і Света «прывядуць лімб у гарызантальнае становішча» і «атрымаюць праекцыю», Завішнюк пераходзіць да другога. І ўсё гэта ў полудзень, калі самы раз легчы ў цень на халодны мох ці збегаць апаласкаць пот да Парыпанавай студні.

Калі Завішнюк «пераходзіць да другой тэмы», ён кладзе на зямлю свой «абрыс» і пачынае, як настаўнік, дыктаваць — ходзіць, заклаўшы рукі за спіну, іківае галавой. Нават і акуляраў не папраўляе.

— Першае — расчыстка трасы. Другое — вешкі на лініях. Трэцяе — вымярэнне адлегласці стальной дваццаціметровай лентай. Чацвёртае — вымярэнне вуглоў нахілу і пятае — запіс і вылічэнне ў палявых журналах...

Пасля ўжо, седзячы на пні, Завішнюк разбірае самыя лёгкія пытанні.

— З чаго зроблены штатыў?

«З буку ці ясеню каб не разбухаў ад вады...» — хоча адказаць Юрка, але адказвае Жэнька. А яны са Светай маўчаць.

Завішнюк у канцы «свайго ўрока» кожны раз задае «самае лёгкае пытанне» Свеце:

— Чым змазваюць ленту?

— Вазелінам... Не дурыце мне, Анатоль Вікенцьевіч, галавы...— Яна крутне галавой, што каза, бадучыся, бы і праўда хоча паказаць: галава ў яе занята другім, не дурыце яе.

Завішнюк смяецца і кажа, што адказала яна правільна і каб гэта ў тэхнікуме, то ён, Завішнюк, паставіў бы ёй

за такі адказ пяцёрку. Света злуе і адыходзіць далёка на лінію. Жэнька тады доўга кліча яе вярнуцца назад:

— Света-а-а!.. Света-а-а!..

Голас яе ляціць па ўсёй пасецы, звонкі, чысты...

Калі яна сціхае — шумяць сосны. Не, гэта Юрка пасля работы ў Грасыльды на двары ля студні чысціць «сухой белай анучкай» — старым палатняным ручніком — ножкі, вінты, лімб, верньеры, трубы і ленту. Лента аж пішчыць пад сухім ручніком. Юрка добра яе шаруе, не шкадуючы.

Пасля лента падае ў яго з рук і звініць:

— Лімб-алідада... Лімб-алідада...

У Юркі зліпаліся павекі. Ён засынаў. Не чуў, што кончылася вечарынка і, гамонячы, па вёсцы разыходзіліся леспрамгасцы. Пачынала днець.

### *Раздзел восьмы*

## Акцызнік

«Нашто клясці цемнату? Лепш запаліць свечку...» — падумаў Завішнюк сёння за раніцу другі ўжо раз і несамахоць ляпнуў варотцамі.

На двары ў Акцызніка была Юзэфа — корпалася нечага, сагнуўшыся ля хлява на дрывотні. Калі Завішнюк ляпнуў варотцамі, яна адагнулася і пайшла да ганка, несучы ў падале трэскі. Загаварыла першая, забегшы наперад:

— Толькі што прывалокся... Відном. Я дык і не ведаю... і не ведаю, што рабіць. Ню?.. Што рабі-і-іць... Спіць. Як з ног зваліўся. Не дабудзішся, не даклічашся... Што калода. Можа, ужо і адубеў дагэтуль. Гэта ж... Усю ноч... Усю ноч з Чаркашыным... Усю ноч... Ню?.. А я... І за яго на ўчастак вартаваць бегала, і цяпер на дарогу да сябе трэба бегчы... А ён... І яму ж трэба ў лес ісці. Будзіце самі... Можа, вас, чужога чалавека, паўважаецца... Паслухае. Мо паўважаецца... Гэта ж думаць... Усю ноч з Чаркашыным...

Яна адчыніла дзверы і сама пайшла наперадзе ў хату. Высыпаўшы трэскі ля печы, абтрэсла рукамі спадніцу і піхнула маленькія дзверцы ў другі пакой — ад вуліцы.

Каб ступіць цераз парог, Завішнюку трэба было згінацца, і ён падумаў, што такі здаравіла, як Акцызнік, лазіць тут заўсёды, як крот у нару.

Другі пакойчык, як і першы, быў таксама маленькі; столь нізенькая — рукой дастанеш бэльку. Але ён быў утульны: чыста выбелены і вымыты. Пасярод яго стаяў стол — невялічкі, кругленькі, відаць, самаробны,— засланы белым абрусам. На ім у гладышы з адбітым горлам пагнулі галовы прывялыя чырвоныя вяргіні. У пакоі пахла палыном і лез у горла пыл — адкуль толькі браўся.

Акцызнік ляжаў на ложку за грубкай. Ложак быў новы, панікеляваны, шырокі — на дваіх. На ім ён раскінуўся ў адной споднян бялізне, ляжаў дагары. На жываце ў яго закасалася кашуля. Акцызнік хроп, падвярнуўшы галаву: хыр-хыр, хыр-хыр — дробненька і рэдзенька, усё роўна як учора ў Грасыльды на дрывотніку канаў недасечаны стары певень. Галава ў Акцызніка ўтапілася ў падушку, і не было відаць ні ягонай пасмы сівых валасоў, якой ён хаваў учора на вечарынцы лысіну, ні самой лысіны.

На дварэ ўжо высока над соснікам стаяла сонца — свяціла якраз у акно, Акцызніку ў вочы. Ён так зажмурыўся, што бровы яго, здавалася, прыраслі да шчок. Вачэй нідзе не было і звання.

Завішнюк падышоў да самага ложка, кашлянуў у кулак, моцна, на ўсю хату. Акцызнік ляжаў як палена.

Тады загаманіла, аж закрычала на парозе Юзэфа:

— Людзі чужыя ў хаце... Ню?.. Людзі чужыя... Паўважаўся б... Уставай. Позна як. Ню? У лес трэба ж. Нашто людзей зводзіў? Нашто зводзіў... І мне трэба ж па дарогу. Сёння пад Сырніцай робім. Дарога гразкая, балота. Дык мы і метры ў яму цягаем, і дзёран, і пясок рыдлёўкамі кідаем цэлы дзень... Машыны ж гразнуць... Позна ўжо. Пакуль дабягу. Андрэй, людзі чужыя ў хаце, паўважаўся б... Людзі чужыя... Ню?

Яна падышла і нацягнула на яго пасцілку — аж да самага падбародка. Тады пакратала за галаву. Акцызнік перастаў хыркаць, адразу неяк, як спалоханае дзіця, усхапіўся і сеў. Звесіў ногі з ложка аж на падлогу. Бровы яго адарваліся ад шчок, і недзе з-пад іх зірнулі на Завішнюка злосныя, сівыя-сівыя, што дым ад папяросы, вочы. Зірнулі і доўга не адрываліся: чалавек, мусіць, намагаўся дадумацца — дзе гэта ён.

Пасля перавёў вочы з галавы на ногі і доўга глядзеў

на іх, утаропіўшыся і зморшчыўшыся. Завішнюк здагадаўся: не выцер ад пяску ног, прынёс мокры, прыліплы да чаравік пясок з вуліцы аж у хату. Яму стала несамавіта, ён ступіў ад грубкі ў парог.

— Стой сабе... Юзэфа памые...— не падымаючы на яго вачэй, прамармытаў Акцызнік.

Завішнюк разгубіўся: Акцызнік тады не п'яны і не «калода»...

— Сеў бы, таксатар, калі ўжо да мяне парог пераступіў... А я нікуды з ложка не крануся. Штаноў нават верхніх не надзену...— Ён паправіў на каленях пасцілку, якая цяпер служыла яму за штаны.— І ты знаеш чаму. Добра знаеш. Дарма і каза ваўку не скача.

— Я прыйшоў не па гэта. Мне чалавек быў патрэбен... Рукі, якія б церабілі лінію. Вось...— Завішнюк аж задыхаўся. Нешта засела ў горле, не давала гаварыць.— Прыйшоў, думаў, можа, чалавека лячыць трэба пасля ўчарашняга... Вы ж цяпер мой рабочы... і мне за вас адказваць. Ажно ў вас галава варыць, здаро-о-вая... Дык, можа, мне заадно сказаць: ну і прахадзімец жа вы, Акцызнік?..

Завішнюк хацеў завярнуцца і адразу ж пайсці з хаты, але Акцызнік аж падскочыў на ложку, пачуўшы такое, бы яго хто ўкалоў спаднізу. Падскочыў, адхінуў з калень пасцілку і ссунуўся ў адных споднiках на падлогу да грубкі. Стаяў і махаў вялікім белым лысым ілбом, нібыта збіраўся баднуць:

— Галавы ты маёй не чапай... Не чапай. У мяне — мая на карку, у цябе — твая. Мая — мне дарага, твая — табе. Галовы ва ўсіх роўныя... Толькі, можа, у адных яны, як у мяне, трашчаць, развальваюцца раніцай ад гарэлкі, а ў другіх, як у цябе, хе, светлыя, чыстыя, вымытыя расой, разумныя... У-у-у... якія разумныя... А ты мне так: накінь пяцёрку — лінія будзе як струна праз усю Сырніцу. Пяцёрку ў дзень накінь, я помню, што гавару. Мая галава мне дарага і мая пяцёрка мне дарага, не дзе валяецца... Што круціш носам — думаеш, недзе, усё роўна прап'ю і прас... А якое твае дзела? Скажы! Вучыць жыць мяне прыйшоў? Жарабё кабылу? Што? Ты не глядзі, што язык у мяне ўпіраецца. Галава ў мяне чыстая. Чыстая і смелая. І гаворыць праўду. Не буду ж я перад табой адчытвацца — у якую дзірку ўткнуў пяцёрку... Я зарабіў — я і ўткнуў. Я нават сваёй Юзэфе не адчытваюся... Не-е... А ён... Прап'еш, прап'еш... А я рабіць чэсна буду... Чэсна, не траплюся... Ну, а калі... Хто да цябе ў нашу Лонву

прыйдзе праглядаць тваё цэтлікі? А калі і прыйдзе? Соль усюды ядуць... Што? Кінь. Ты вывеў — мы палучылі А не... дык... Хаця я цябе з вясны яшчэ запомніў... Баішся, каб і смала ў вока не капнула... Хе-хе-хе... Не п'еш. Рэдкі, рэдкі звер... Ты, брат, як сасна. Здохнеш без вады, а да ракі не нагнешся... І-і-і...

Акцызнік íкнуў, зыбнуўся на нагах і зноў апусціўся на ложак. Пад ім загулі пружыны — на ўсю хату. Недзе ў першым пакоі Юзэфа нешта секла на парозе. Ад груку звінела ў акне ля Акцызнікавага ложка шыбіна.

— Значыць, не ідзіцё? Людзі на вуліцы чакаюць...

— Не іду-у...— У Акцызніка зноў абвісла галава, і на белы лоб з лысіны з'ехала сівая пасма валасоў. Калі ён зноў захрыпеў,— на кароценькіх, абстрыжаных, як абскубленых, вусах заблішчала сліна. Акцызнік усё-такі быў п'яны. І калі Завішнюк падумаў так, адразу пачуў, як з-за грубкі, з усяго закутка, дзе стаяў панікеляваны ложак, цягне гарам, вострым і даўкім. Так учора на яго, Завішнюка, дыхаў Чаркашын у Палюшынай хаце на вечарынцы.

— Значыць, вы ўжо не наш рабочы?

— Не рабочы!.. Не рабочы!.. Не ваш...— Акцызнік закрычаў, ускочыў з ложка, стаў на ногі і пайшоў на Завішнюка. Выйшаўшы на сярэдзіну хаты, дзе ляжала скручаная і скамечаная дарожка з рудой пасцілкі, ён ухапіўся за споднікі — яны былі яму вялікія і спаўзалі,— вярнуўся на ложак, сеў і зноў накрыў калені пасцілкай.

— Сядзь унь там, таксатар. Ля стала, калі не любіш, што я на цябе дыхаю... А мне напляваць на ўсіх, хто як на мяне дыхае... Гаварыць будзем. Будзем... Не пагаварыўшы, я цябе не выпушчу... Ты мне многа чаго скажаш. Ска-а-жаш, калі ты такі чэсны і мудры... Ты за пяцёрку дрыжыш... За пяцёрку... За яе ніхто ў вёсцы і бутэльку самагонкі не прадасць, а ты дрыжыш... А чаму тады нашы, нашы леспрамгасцы... Прыёмшчык Альшэўскі... У-у-у... Усё ведаю... Ён не дрыжыць... Чаму Чаркашын грошы грабе?.. А таму, што не шкадуе іх Альшэўскаму, а Альшэўскі яму іх не шкадуе. Подпіс чыр-чырк і — усё... Хто за ім пойдзе перамяраць... А ці толькі адзін Альшэўскі... А начальнік участка... Як сплаўпікам вясной здавалі шляхты на Віліі... У-у-у... Ведаю. І рабочыя ведаюць... Пашумяць, пашумяць і маўчаць. Больш па Альшэўскага ходзяць, чым па праўду. Праўда сёння ў яго ў кішэні. Што маўчыш? Дык чаму ты толькі адзін такі чэсны? Чаму іх

у нас няма, чэсных гэтых?.. З Альшэўскім я не ўжыўся... Рукі ў мяне — калоды. А я на другіх рабіў... І не дабіўся нічога. Заехаў у морду адзін на адзін гэтаму Альшэўскаму і пайшоў вартаваць кантору. На ланцуг сеў, як сабака. Пілу кінуў... У-у-у... Я яшчэ таму Альшэўскаму... Дык дзе такія чэсныя, як ты? Дзе? У кантору ездзіў, да самога начальніка леспрамгаса... Дакажы, гаворыць... Дакажы-ы... У-у-у... Хеўра... Дакажы... Паперы ж напісаны не маёй рукой, а іхняй... Па іхніх паперах усё сходзіцца, мала што ў маёй галаве не сходзіцца... Можа, у ёй, у маёй галаве, шурум-бурум... Я ім дам шурум-бурум. Пісаць буду... Буду-у-у! І знаю куды.— Ён раптам падаўся наперад.— Напішы, калі ты такі чэсны... Напішы... А я ўсё, усё раскажу. Я ведаю... Дык жа забаішся, чэсны такі, не напішаш...

— Не...

— Сам напішу... Сам!

Завішнюк верыў, што ў чалавека, мусіць, ёсць на душы крыўда, можа, нават і вялікая, але чамусьці не было яго шкада, ніколькі.

— Многа, відаць, хацеў... дык цябе і не прынялі ў хеўру. А так бы ты быў там, разам з імі... магу залажыцца...— сказаў ён паволі і ціха ад стала, але Акцызнік пачуў усё. Пачуў і страпянуўся, бы яго зноў хто ўкалоў у зад.

— Што-о-о?..

— Тое. З адной дзялянкі дрэва...

— Ды я табе...

— Не баюся. Давай начыстату, калі за стол пасадзіў. Быў з імі?..

Акцызнік падняў галаву.

— Ну, паложым, быў?..

— Альшэўскі табе прыпісваў кубатуру і ты з палучкі даваў яму долю? Грошы?

Акцызнік падняў яшчэ вышэй галаву.

— Ну, паложым, не грошы, а бутэльку ставіў.

— Дык з гэтага, можа, і пачнём пісаць?

Акцызнік цяпер задраў галаву, аж адкінуў яе на плечы, і ўсміхнуўся, крыва і горка, хаваючы недзе пад носам падстрыжаныя вусы.

— Мне галава мая, хлапец, не так дарага, як іхнія галовы ім. У мяне кішэня пустая, а ў іх — не. А калі ў чалавека кішэня поўная, тады і галава яму даражэй, таксатар... Знай гэта. Раз на тое пайшло, то я магу пра сябе ўсё расказаць. Сазнацца... Сазнацца і пакаяцца... Мне вялікага нічога не будзе. Вартаваць кантору я астануся, калі

ўжо на тое пайшло. А яны выплывуць, разам з начальнікам участка. А ім тады пальцы накрыж... Ёсць людзі, што і ў цэтліках іхніх раскапаюцца... Ёсць. Будуць! — Акцызнік пляснуў далонямі сябе па сцегнях.— А ты мне лініі-шмыніі. Я на іх пайшоў, бо мне прыспічыла. Але я і адтуль усё бачу. Не заступіла, не-е... Дабяруся, папомняць... Расцераблю іхнюю дарожку, чысценькая будзе. Як лінія. У-у-у...

Акцызнік на некага сувіраўся, аж сціскаў кулакі. Пасля заплюшчыў вочы і пачаў ікаць. Яго хістала на ложку.

Завішнюк падумаў, што сёння Акцызніка не паставіш на ногі. Ён павярнуўся да акна. На вуліцы на белы пясок ля Акцызнікавых варот свяціла ядранае з самай раніцы сонца, і ён быў белы, як мука. У ім купаліся куры і, закасаўшыся, хадзілі, як па вадзе, не падымаючы ног, дзеці.

Загуменнем, дарогай, ля высокага зялёнага бульбоўніку, ішлі да малатарні жанчыны ў белых хустках. Аж з таго канца вёскі, ля пунь, нехта ехаў сюды, на ферму, на падводзе. Гародамі, на дарогу, што вяла ў Цяні-балота, ішлі мужчыны з косамі на плячах. На косах паблісквала сонца, бы хто высякаў іскры. Недзе за фермай рыкалі каровы.

Завішнюк убачыў, што пад сасной, на каменні (ля Акцызнікавай хаты, на дзядзінцы, за вуліцай раслі тры старыя, бусліныя, як іх звалі, сасны), сядзяць ягоныя людзі: Жэнька са Светай і Юрка Даліна. Адышліся нават ад хаты, дзе была ля частаколу лавачка,— гэта каб не чуць ні Акцызніка, ні таго, як яго «будзе цягнуць» у лес ён, Завішнюк... Гэтак Жэнька казала... Яны — яго дзяўчаты — сядзяць сабе на каменні (тут некалі быў партызанскі акоп, абкладзены вялікім каменнем; акоп дзеці, гуляючы, даўно ўжо зраўнялі з зямлёй, а каменне асталося ляжаць пры самай дарозе), гавораць пра нешта сваё, махаюць рукамі — паказваюць штосьці адна адной — і рагочуць, аж заходзяцца. Відаць, як ад смеху Света адкідвае, што бусел, галаву; смяецца і Жэнька, папраўляючы свае валасы. Нібыта нічога ўчора на вечарынцы ў Палюшынай хаце і не здарылася; не было ні танцаў, ні п'янага Чаркашына, нібыта ён, Завішнюк, нікому і не даў па мордзе. А можа, яны з яго смяюцца, з Завішнюка, прыпамінаючы ўчарашняе? Смяюцца, што ён зваў ноччу Жэньку, прыходзіў і будзіў Юзэфу?

Яму стала горка на душы, адчуў, што хочацца хутчэй выйсці з хаты, каб і не глядзець на гэтага п'янчугу Ак-

цызніка, з якім звязаўся, але ён ніяк не мог падняцца, нібыта прырос да ўслона, дзе сядзеў, нібыта яго хто прывязаў і трымае. Падумаў яшчэ, што забалела раптам паясніца. Мусіць, ляжаў недзе доўга ў лесе, разагрэўшыся, на халоднай зямлі. Успомніў, што сёння раніцай не зрабіў зарадкі... А спіна пройдзе — нацерці толькі добра спіртам ці рускагоркай... І зарадка...

А яны ўсё смяюцца. Света паказвае нешта, ходзячы па дзядзінцы... Пасля яна ўскочыла на камень...

Паказвае, мусіць, якія высокія гэты Чаркашын... Яна, недзе, рада. Танцавала з ім увесь вечар, астаўшыся. Пра што яны гаварылі? Відаць, пра гэта яна цяпер і расказвае. І зноў смяюцца... Яны заняты сваім... Для іх няма ні Завішнюка, ні Акцызніка, яны не чуюць п'янай лаянкі і не бачаць, як у Акцызніка цячэ падбародкам сліна. Аж на рукі капае, што ляжаць, як шырокія трэскі дзе на дрывотні, на сцегняках... Што ім, курапаткам, да Акцызніка. Яны на практыку прыехалі. Яны хутка паедуць адсюль, забудуцца на ўсё... Можа, калі і ўспомняць Лонву, і то, відаць, толькі тое, як ён, Завішнюк, уступіўся за Жэньку... Успомняць, раскажуць адна адной вось так, як цяпер, яшчэ раз, а можа, і каму другому, дзяўчаты такое любяць успамінаць, а тады і забудуцца... На Лонву, на яго, Завішнюка... Забудуцца наўсягды...

Яму зноў стала горка на душы, зноў свярбела далонь і перад вачыма стаяў шырокі бліскучы твар Чаркашына, як усю ноч, не даючы заснуць.

Забудуцца... А Жэнька?.. Жэнька... Няўжо яна забудзецца? Забудзе Лонву, яго... Забудзе тую жоўтую палоску зямлі на Каралінскай пасецы, якую ён ёй паказваў у тэадаліт. Паказваў і гаварыў, што яна, гэта палоска-града, значыць для яго, Завішнюка... Як тады гарэлі ў Жэнькі яе чорныя вочы, калі яна глядзела і слухала. Доўга слухала, як ён гаварыў, а пасля сказала, што бачыць у тэадаліт, як там, на градзе, па пяску поўзаюць мурашкі... Сказала, зірнула на яго неяк дзіўна, так на яго ніхто яшчэ не глядзеў, падскочыла, як каза, засмяялася і пабегла ў лес.

Яна забудзецца на ўсё: на Лонву, на лінію, на сваіх мурашак... А ён гэтых мурашак не забудзе... Ніколі... Ён і цяпер, калі глядзіць у акуляр, то бачыць, як у яго перад вачыма поўзаюць і поўзаюць мурашкі... Яе, Жэньчыны, мурашкі. Кожны раз. Хоць ты праціраў вочы...

Што гэта з ім? Ён злавіў сябе на тым, што зноў раз-

вітваецца з нечым вялікім, чаго доўга шукаў... Шукаў, не знайшоў яшчэ, а ўжо развітваецца... І гэта тут, у Акцызніка ў хаце... Тут, дзе жыве Жэнька... Тут, дзе за грубкай згорбіўся вялікі, дужы, агідны п'яны чалавек, на якога не хочацца падымаць вачэй...

Ён устаў — усхапіўся з услона, адпіхнуўшы яго нагамі аж да сцяны. Ад стуку спалохаўся Акцызнік, падаўся на ложку ўвесь наперад, нацягнуў вышэй, аж да грудзей, пасцілку і ўтаропіўся на яго, Завішнюка. Чалавек, здалося, раптам працверазеў.

Завішнюк стаяў цяпер ля акна ад вуліцы — ля самай сцяны. Калі ён ступіў да парога, пачуўся стук ад яго чаравікаў — моцны, рэзкі і гулкі. Падумалася на якую хвіліну, што ў Акцызніка пад падлогай склеп — яма, у якую можна праваліцца, паляцець з галавой... У яме цёмна, як вечарам у лесе. А недзе ў кутку гарыць ліхтарык. Газовачка... Як жоўтая палоска грады на Каралінскай пасецы...

Завішнюк успомніў, як учора вечарам ён даставаў з-пад падлогі, у Грасыльды, капусную кадушку. Грасыльда запаліла, спусціўшыся наперадзе, газовачку. Кадушка была пустая, але цяжкая, і Грасыльда памагала выцягваць сама. Яшчэ яна прасіла прынесці з лесу «кіло два» яловай смалы,— каб засмаліць дно ў кадушцы, яно, мусіць, цячэ, і перакаціць кадушку ў варыўню. Пад падлогай у хаце яна ставіць яе не будзе. Нашто тады варыўня? Склеп у хаце лішні, каб навазіць пяску, яго можна было б і засыпаць... Капалі яго, калі яшчэ не было на двары варыўні...

Калі Завішнюк зірнуў цяпер на Акцызніка, яму здалося, што чалавек сядзіць у склепе — цёмным, сырым і халодным...

І калі на вуліцы затарахцелі калёсы і моцна засмяяліся на каменні за дарогай дзяўчаты, Завішнюк глянуў у акно і ўбачыў Жэньку. Яна ішла па пяску недзе сюды — мусіць, па яго да Акцызніка. Ён ступіў да парога — не па рудой дарожцы пасярод хаты, а ля сцяны, па дошках; крокі былі гулкія, і яму цяпер здалося, што нідзе няма ніякай ямы, што ён ідзе па мосце цераз вялікую раку. Ідзе, бо на другім беразе — Жэнька...

Тады яго ахапіла радасць — раптоўная і вялікая... З ім так часта было.

Ён спыніўся, не дайшоўшы да парога. Агледзеўся — Акцызнік за грубкай на ложку ўвесь натапырыўся і па-

даўся на хату — не верыў, мусіць, што Завішнюк можа без яго пайсці з хаты. Здалося, што ён цяпер і баіцца, і не хоча гэтага.

І тады Завішнюку стала шкада яго — яму, тонкаму, худому і сагнутаму,— стала шкада гэтага вялікага, здаровага, шыракаплечага мужчыны. Чалавек прападаў і мог прапасці, тут, за сваёй грубкай, на панікеляваным ложку. Захлынуцца ад сваёй гары, злосці і скваппасці.

Завішнюку пагадалася, што ён, гэты чалавек, адным махам ссякае на лініі сасонку таўшчынёй з добрую жэрдку... Як ён, скінуўшы кашулю, астаецца ў адной майцы і доўга плюе на шырокія далоні... Тады падымае сякеру,— у яго з грудзей вырываецца: г-гах-х! — цяжкое і моцнае, што ў зморанага каня,— і махае, махае не адгінаючыся, не перадыхаючы, здаецца — перад ім рассоўваецца хмызняк, здаецца — лініяй ідзе не чалавек, а лось...

Чалавек мог рабіць, чалавек любіў работу.

Завішнюк падумаў, што яго трэба выцягнуць з-за грубкі, чаго б гэта ні абыходзіла, выцягнуць у лес з яго вымытай і бліскучай нары. У нары ён прападзе, задушыцца, а ён яшчэ можа рабіць, ён любіць рабіць.

Завішнюк падумаў яшчэ, што гэта трэба зрабіць не адкладаючы, сёння, цяпер, бо можа быць позна.

Зрабіць? Накінуць лішнюю пяцёрку? Накінуць пяцёрку можна, можна і больш, за яе Акцызнік адробіць... Але ж ён пасля прап'е яе і зноў будзе пляваць за грубкай на бліскучы ложак...

«Чорт з ёй... Пяцёрка дык пяцёрка... А тады будзе відаць... Будзе відаць... Але яго трэба выцягнуць, выцягнуць з-за грубкі ў лес»,— падумаў ён яшчэ раз і, падышоўшы да Акцызніка, паклаў яму руку на плячо. Той аж уздрыгнуў.

У гэты час бразнулі аб вушак, адхінуўшыся, дзверы, і сюды, у другую палавіну хаты, лез у вузкі праход шырокі чалавек, з вялікімі, большымі, як у Акцызніка, рукамі, у чорнай кашулі, чорных штанах-галіфэ, з чорнымі густымі валасамі на круглай галаве, якія рассыпаліся і звісалі на нізкі лоб.

Завішнюк пазнаў старшыню, Міхала. Той быў яшчэ і выгалены,— маладзейшы з твару,— свежы і падцягнуты. У яго blішчалі начышчаныя боты, хоць яму з дому трэба было прайсці і па гразі, і па пяску.

— Добры дзень, мужчыны...— Ён сказаў у парозе ціха, глянуўшы адразу за грубку. Пасля падышоў і падаў

руку Завішнюку, тады павярнуўся і працягнуў яе Акцызніку. Рабіў ён гэта спавагі, не спяшаўся,— відаць, любіў здаровацца. Акцызнік павітаўся, але вачэй на старшыню не падняў. Пакратаўся толькі,— як бы адсоўваўся і даваў яму месца на ложку.

Міхал тады стаў хадзіць па хаце, заклаўшы рукі за спіну. Хадзіў і ківаў галавой, рассыпаючы глухія словы:

— Сушыла, сушыла, а цяпер уліло. А на полі — снапы. Падол не падставіш, неба вялікае. Але аблешчылася. Як думаеце, хлопцы, зноў стане на пагодзе? Хто дасць добрага чаго закурыць?..

Завішнюк развёў рукамі, паказваючы, што не курыць, а Акцызнік, не падымаючы вачэй, буркнуў:

— Учора ўсю сасмажыў. Добры чалавек, прыйшоўшы ў хату, сам частуе... А табе і «Казбек» можна кожны дзень курыць. Начальства курыць...

— Ну-ну... начальства... Я куру толькі самасад. Прывык. А сёння папуша слабая пад рукі папалася... Закурвай, Андрэй...— Міхал працягнуў яму скураны, чорны, выцерты партабак.— І не сядзі, як сыч. Сонца ўжо над хатай. Чалавека б чужога пастыдаўся. Штаны надзень. Свінства. Учора вунь на вечарынцы з Чаркашыным што вы вытваралі? На каго ты падобны?.. Устань, пахмяліся. Пройдзе. А ўчора і я па мордзе ўляпіў бы твайму Чаркашыну. Калі самі свінні, то рохкайце на сябе, чужых людзей паважайце... А то людзі нас перастануць паважаць...

Акцызнік раптам адкінуў далёка ад сябе з калень — аж на брыж — пасцілку і стаў ля ложка хістаючыся. Падцягнуў споднікі, тады, правай рукой — далонню — закінуў з патыліцы на лоб сівую пасму валасоў — прыкрыў лысіну, пасля паказаў рукой на маленькі ўслончык, што стаяў ля акна ад двара:

— Падай штаны, старшыня... І не рохкай надта ў мяне ў хаце...

Міхал як ступаў па хаце, так і прырос да падлогі. Пачырванеў, закратаў рукамі. Тады адбегся ў парог, дастаў з кішэні расчоску і стаў прыгладжваць валасы.

— Х-хм!..— Акцызнік прашлёпаў да ўслончыка, спрытна ўхапіў штаны і панёс іх у запечак, за грубку. Надзеў і зноў сеў на ложак, паклаўшы рукі на калені.

— Цябе людзі даўно перасталі паважаць, хоць ты і камандуеш імі. Ты пра гэта не думаў? А то — свінні... па мордзе... пахмяліцца...— перадражніў ён, скрывіўшыся, старшыню.— Ці не за гэтым прыбег так раненька? Ведаў,

што я хмяліцца буду?.. А ў вёсцы, відаць, у баб ні ў кога не асталося пасля ўчарашняга, леспрамгасаўцы ўсё падчысцілі... Ге-ге-ге... Ён мяне раненька прыбег чысціць... Адмываць ад гразі, як свінню смаленую... Пры чужым чалавеку... А ты мне... А ты мне хто? Ты мне — шырака страна мая радная... Я свой карак яшчэ нікому не згінаў... Ні немцам, ні шмэнцам. А ты... Паказаць сябе цяпер захацеў. Відаць, перад начальствам прывык паказваць... І нямецкім, і савецкім. Таксатар ніякі не начальнік і не чужы чалавек. Ён мне больш свой, чым ты... А то ўжо...— Акцызнік быў памаўчаў.— Я табе вось што запяю: не можаш сякеры трымаць у руках — не бярыся і за сасну. Калені пасячэш... У-у-у... Ды я табе многа чаго сказаў бы пад гарачы язык... Сказаў бы... Свярбіць ён мне даўно... Толькі вось — хлапец у хаце...

— А ты скажы, скажы, не бойся... А можа, я і прыйшоў пагаварыць, а не хмяліцца з табой тваім паскудствам. Хто-хто, а ты ведаеш, што я даўно не п'ю, кінуў, што ў мяне жывот...— Міхал зноў супакоіўся і пачаў хадзіць па хаце, рукі за спіну.

— Кінуў... Позна. Калі спаліў яго... Хе-хе... Ну і чорт з табой. Пасля вайны, стаўшы старшынёй, ты ліў у яго, у свой жывот, як у сажалку... Сам спаліў... А мы ў гэты час кроў пралівалі на фронце. Хоць трошкі, а пралівалі... Тут-то ў цябе рукі кароткі махаць на мяне... Кароткі...

Міхал Кастыцкі, пачуўшы такое, прыціх, не хадзіў па хаце і стаў надзіва яшчэ больш спакойны.

— Вось што... Не таго я прыйшоў да цябе, мой ты Акцызнік... Не маё персанальнае дзела рашаць. Пра ўсё гэта, што ты балбочаш тут, каму трэба — ведаюць. Райком ведае. І калі на старшыню мяне ставіў — ведаў. І солтысам да немцаў, калі Ігнася расстралялі, не сам я тады пайшоў, не сам... У штабе партызанскага руху ёсць дакументы. Ды і людзі тыя жывуць. Я і тады, мой ты Акцызнік, быў наш чалавек. А што ў калгасе не быў да вайны... немцам гэта больш за ўсё падыходзіла.— Міхал памаўчаў і зноў пачаў хадзіць па хаце. Падышоў да стала, куды адступіў Завішнюк.— Я, Акцызнік, не хваліўся заслугамі нідзе і не хвалюся. І пяю гэта, можа быць, і не табе, як ты кажаш, а чужому чалавеку. Яму пра мяне ўсяго ўжо нагаварылі...

Акцызнік сядзеў на ложку і церабіў пальцамі калені — ані шманаў, бы да яго са слоў старшыні нічога зусім не далятала.

Міхал тады падышоў да самага ложка:

— Дагавор твой кончыўся даўно... Ты гэта ведаеш? Табе Волька Янкава ўжо напамінала. Пара вярнуцца ў калгас. Мы цябе пусцілі па-добраму. На год. Ды, можа, і не пусцілі б, каб з раёна не было ўказання. Сваё ты даўно адбыў. Ды і што ты там цяпер у леспрамгасе робіш? У лес ты не ходзіш...Кантору сеў вартаваць. Лёгкі хлеб. А нам людзі патрэбны. А твой дагавор кончыўся ўжо месяц назад, ці што. Будзем пісаць нарад. Варочайся, а то — вернем. Я хоць і храновы старшыня, але яшчэ старшыня. І вярну. Народ мяне ставіў, народ цяпер з мяне і патрабуе... Да малатарні патрэбны людзі... Цяні яшчэ не скошаны...

Акцызнік раптам аж падскочыў на ложку — як укусіў хто чалавека.

— Народ цябе паставіў? Народ? Хіба не помняць лонваўцы, як цябе прыязджалі ставіць? Хіба памяць у іх адсохла? Гм? Ты ўсё нейкую цёмную ноч з сябе строіш... Трэба будзе, дык і перад народам адчытаешся... Народ яго ставіў... Ты відзеў...— Акцызнік устаў і, зыбаючыся на нагах і выцягнуўшы руку, пайшоў да Міхала.— А ты кінь... Сам кінь. Не чакай справаздачнай сходкі... Адкажыся. Калгас-то давёў... Кінь сам, не чакай, пакуль народ цябе скіне. Кінь старшыньства, вазьмі ў мяне сякеру, я яе табе дам, не адбяру, як ты ў мяне хочаш адабраць... Вазьмі сякеру і — у квартал... Памахай рукамі, а не языком. Навучыўся махаць языком, што траплом, ты скажы... А да вайны — ніхто ніколі цябе не чуў. Пры немцах, мусіць, пачаў вучыцца. Што ты мне круціш. Ты ж пайшоў у солтысы. Хоць трошкі — ды пабыў, паслужыў... Я ж цябе, калі быў у партызанах, меў поўнае права сам прыйсці і прыхлопнуць. У партызаны ты нешта не пайшоў з намі. Партызанскім солтысам пасля стаў. А можа, ты ім стаў, каб грэх свой выкупіць?.. Можа, табе сказалі: ці так, ці гэтак... Коні, падводы, сена-салома, сена-салома. Мясцо ў лазенцы вэндзіў... Ну і за Вілію па сала нам ездзіў... Ездзіў, было... Помню. А вінтовачкі-то ты ў руках не патрымаў. Не патрымаў. Не ведаеш нават, ці цяжкая яна. На жывот усё свой спасылаўся. А ці была там язва ў цябе, дык адзін чорт ведае, як і адзін чорт толькі ведае, хто цябе да немцаў на службу ставіў. Нашы ці вашы... У-у-у...— Акцызнік зашлёпаў босымі нагамі па падлозе, забегаў ля акна.— Ён у мяне сякеру прыйшоў адбіраць. Ці чулі вы... Хлеб адымаць. Дагавор... Дагавор яму кон-

чыўся... З раёна далі ўказанне мяне адпусціць... А колькі я цябе папайваў, каб ты той дагавор падпісаў, га? Забыўся, скаціна? А цяпер — раён. Каб жа я тады ведаў, што раён. Не-е... Цяпер-то я гэтага табе не дарую. Будуць ведаць і ў раёне. Шпікуля-ант!.. Ён мяне без хлеба хоча пакінуць!.. А можа, я ўжо рабочы? Рабочы... Ты ведаеш, што такое рабочы... Сам быў... А можа, я хачу свой хлеб зарабляць у лесе, а не ў цябе? А можа, я на цябе глядзець не хачу!.. У-у-у...

Акцызнік забегаў па ўсёй хаце.

Завішнюк стаяў ля стала як укопаны. Не ведаў, што рабіць. Хацеў спачатку пакінуць мужчын адных, пайсці, але Міхал яго не пусціў. Значыць, без яго, Завішнюка, ён гэтага не сказаў бы Акцызніку. Цяпер жа, калі Акцызнік затупаў па хаце, як стары казёл у Грасыльды ў гародчыку, Завішнюк адышоўся ад стала і стаў сярод мужчын. Падумаў, што Акцызнік яшчэ п'яны і пад злосную руку можа кінуцца на старшыню.

Акцызнік раптам стаў, спяшаючыся, апранацца. Соваў рукі ў рукавы кашулі і ніяк не мог лучыць.

— Ён мной камандаваць прыбег... Ці чулі вы... З самай раніцы. На пуць мяне настаўляе. Як казла за рогі бярэ. Асазнаў. Вырас за вайну да начальства. На чужой крыві... калі хочаш маё знаць. Людзі кроў пралівалі, а ты адседжваўся!..— Акцызнік крычаў, крычаў на ўсю хату, нацягваючы на ногі гумавыя боты. З першай хаты выглянула Юзэфа і хуценька зачыніла дзверы, а ён усё крычаў: — Асазнаў... Нашым стаў! Нашым!.. Відзелі яго... Ласку нам зрабіў... Стаў нашым — і ў начальства. А ў калгас чаму да вайны не пайшоў з усімі? А што ты вырабляў, як зямлю пры немцах дзялілі? Асазнаў... А ці пайшоў бы ты цяпер з вінтоўкай у руках на немцаў? Ці пайшоў?.. Асазнаў... А ці пайшоў бы кроў праліваць? Не-е-е, мусіць... Язву сваю бы ў жмені панёс, у вочы б тыкаў, каб усе людзі відзелі... Вон з маёй хаты... Я хоць і п'яніца апошні, але ў мяне душа чыстая... Чыстая... Я кроў праліваў... А ён — сякеру ў мяне з рук... Дагавор... Відаць, хочаш, каб я ў цябе яшчэ адкупіўся на год?.. Гарэлкай?.. Вон з хаты! У-у-у...

Акцызнік, відаць, не пачуў, як бразнулі дзверы і выбег з хаты Міхал, бо, калі падняў галаву ад сваіх гумавых ботаў і ўбачыў, што ў парозе пуста,— злякнуўся і змоўк. Пасля падышоў да стала, да Завішнюка, змучаны, спацелы,— у яго трэсся падбародак, скакалі падстрыжаныя

вусікі разам з верхняй губой і гарэлі вочы нейкім упартым і добрым, дзіцячым бляскам.

— Што вы ад мяне хочаце?.. Адзін гоніць у лес з сякерай, другі рве яе з рук і да малатарні на ферму прэ... Нават на вялікага каня не надзенеш два сядлы... Вы гэта знаеце... Знаеце!..

Пасля ён нагнуўся над сталом, прынік да акна, доўга глядзеў недзе на ферму, тады адвярнуўся на хату. На ферме ён, мусіць, угледзеў Міхала — там былі людзі,— бо зноў да яго вярнулася ўтрапенне.

— Сякеру ён у мяне з рук... Дагавор... Ды я табе яго якраз і выставіў... Шыш! Сам, сам пайду на любую пасеку-шмасеку! На любую лінію... За любыя грошы... Галодны, не еўшы,— а сякеры сваёй табе не дам. Не дам, каб ты і хацеў. Я рабочы. Я люблю лес... Лес люблю!.. І я — не ты. Не ты... Не дам я ў твае паганыя рукі сякеры... І ніхто яе ў мяне не адыме... Сам іду, таксатар. На лінію іду. І твая пяцёрка мне не трэба. Хопіць мне і без яе... Пайду... Пайду... Мог і не пайсці, але пайду... Юзэфа-а!..— крыкнуў ён на ўсю хату, і, здавалася, гэта ад ягонага крыку самі расчыніліся дзверы.— З сабой мне чаго!.. На лінію іду. Есці не строй. Позна ўжо. Заспала. Пойдзем, таксатар. Ты, брат, відзеў, што ён за чалавек... Павесь — дык ён з пятлі выкруціцца. Не веру я ў яго байкі... Не веру... Мы з ім, брат,— «старыя друззя», як ты кажаш...

Калі яны выйшлі на двор, Завішнюк угледзеў, што ля парога, апёршыся на частакол і адвярнуўшыся спіною да хаты, глядзела недзе за гароды на раку Жэнька. Стаяла як збедніўшыся. І Света з Юркам перайшлі цераз вуліцу на гэты бок, пад частакол, на лаўку, да Акцызнікавага гародчыка.

Іх, Завішнюка і Акцызніка, прачакаліся...

Акцызнік, здавалася, аж прабег па двары да варотцаў, пасля далёка адкінуў іх ад сябе — расчыніў насцеж расчыненыя ўжо — і, перамераўшы шырокімі крокамі пясок на вуліцы, падаўся дзядзінцам да фермы. Скіраваў на загуменне — ішоў напрамую, праз Цяні, на Караліпскую пасеку.

За ім падаліся Юрка са Светай.

Калі Завішнюк быў ужо ў варотах, яго аклікнула Жэнька. Падышла, стала і стаяла, апусціўшы вочы. Не глянула ні разу на яго. Тады сказала:

— Вы на мяне не злуйце... што не выйшла ўчора. Не злуйце...

Сказала і пабегла даганяць Свету.

Завішнюк стаяў, як разгубіўшыся. Не ведаў быў адразу, што рабіць. Тады стаў зачыняць варотцы. Пасля зашчапіў іх на кручок.

«Які сёння цяжкі дзень... Які цяжкі... З самай раніцы...— падумаў ён.— А якая цяжкая была ноч...»

Ягоныя людзі ўжо міналі ферму.

«У каго тэадаліт? У Юркі? Так і забыцца можна. Трэба дагнаць іх. Хлопцу недзе цяжка...»

Неба над Лонвай стаяла чыстае і — пасля хмар — аж блішчала, усё роўна як памытыя ў хаце ў суботу вокны. Сонца было гарачае — пякло з самай раніцы.

«Які сёння цяжкі дзень...— зноў падумаў ён.— І гарачы... Цяжкі і гарачы...»

## *Раздзел дзевяты*

# Парыпанава студня —

*Другі расказ Грасыльды*

Завішнюк стаяў, апёршыся на вароты, і глядзеў на вуліцу. Вуліца была пустая, толькі ля Акцызніка на лаўцы сядзелі Юзэфа і Жэнька са Светай. Сёння яны, відаць, нікуды не хацелі ісці і, пасля вячэры, мусіць, адразу збіраліся легчы спаць. Сёння і дзяўчатам хапіла — за дзень пад сабою ніхто не чуў ног. Выйшлі з Каралінскай пасекі аж пад Сырніцу. Лінія вяла якраз самым балотам — месцамі правальваліся ў твань па пояс — і ішла на былыя партызанскія лагеры. Там яшчэ, гаварыў Акцызнік, зямлянкі не разбураны — залазь і жыві...

Вечарэла. Было ціха. На ферме сёння кончылі малаціць і пагналі трактар у другі канец вёскі па загуменню. Ля варот было чуваць, як ціха пра нешта гавораць з Юзэфай дзяўчаты. Не смяюцца і не падскокваюць на дзядзінцы, як раніцай. Завішнюку стала шкада іх. А ён сёння быў увесь дзень злосны і ганяў іх з лентай і вехамі па лініі, прымушаючы перамерваць балота дзе аж па два разы.

Што падумае Жэнька? Падумае яшчэ, што ён на яе пакрыўдзіўся за ўчарашняе... Яна ж яго перапрасіла... А ён, можа, ад гэтага быў такі ўтрапёны, што нават у акуляры тэадаліта ў яго ўвесь дзень зліваліся ў адно і паласатыя вехі, і нізкія на балоце бярозы. Ён бегаў па куп'і, як чорт, не глядзеў ні пад ногі, ні на дзяўчат.

«Вехі!.. Лявей... Правей... Перамер!..»

Збоку яму добра было відаць, дзе не нацягнута лента, дзе яна перавешвалася цераз купіну, як вужака... А купін шмат на балоце... Так бы яны, дзяўчаты, намералі яму...

Дзяўчаты ўвесь дзень былі ціхія і рабілі ўсё, што ён загадваў. Жэнька на яго не падняла ні разу вачэй, не агрызнулася ні разу і Света. Ён іх такіх бачыў першы раз і спачатку рашыў, што гэта добра,— зробяць хоць што людскае за дзень, і так адсталі праз дажджы,— пасля яму стала трывожна, але ён не кінуў свайго.

«Вехі!.. Перамер!..»

Так аж да вечара.

Цяпер у яго самога ныла шыя, балелі ногі... Ён стаяў, узлёгшыся на вароты,— адпачываў. За плячыма халаднела кашуля. Пяршыла, напіраў кашаль: па вуліцы даўно прагналі кароў, але ў густым вячэрнім паветры вісеў пыл, не апаў і лез у горла.

Хутка з вуліцы пайшлі да Акцызніка ў хату дзяўчаты з Юзэфай. Яны сёння мала сядзелі.

Завішнюк доўга яшчэ стаяў, глядзеў на вуліцу, на пясок — думаў: адкуль яго набралася гэтулькі ў Лонве, мусіць, намыла, прыгнала з вадой у дажджы ад лесу за многа гадоў; думаў яшчэ, што, як спямнее, трэба будзе запаліць лямпу і прывесці да ладу сённяшнія запісы ў абрыснай кніжцы... Пасля заўважыў, што ў яго дрыжаць рукі, падумаў, што і ён стаміўся, як і дзяўчаты,— пайсці б ды паваліцца на ложак, а заўтра ўзяць ды ўстаць раней... Але ж Грасыльда пабудзіць вячэраць, яе не ўпросіш. А калі яшчэ тая вячэра... Грасыльда позна прыйшла з фермы, бярэцца толькі раскладаць на двары ля студні агонь.

Ён чуў, як Грасыльда шчапае трэскі на дрывотні; пасля пачуў, як запахла дымам ад сухіх смаляных дроў — густым і прыемным. Тады яму захацелася пайсці і пасядзець ля агню, ля Грасыльды. Ён рабіў так кожны вечар...

Калі ён адхінуўся ад варот, пачуў, што зачапіўся курткай за кручок. Адчапіў кручок, выпусціў яго з рук, той бразнуў аб вароты, заківаўся і, падскокваючы, знайшоў

сваё месца — пазок. Пазок быў глыбокі і крываваты — дужкай. Вароты ў Грасыльды былі старыя, даваенныя яшчэ, толькі браму яна нядаўна новую паставіла. Кручком многа гадоў бразгалі муж, дзеці, суседзі, госці. Людзі да Грасыльды хадзілі часта — яна любіць гэта расказваць,— і кручок выгрыз за доўгія гады глыбокую ямку — хаваецца ўсёй дзюбай. Не хадзілі ніколі да Грасыльды на двор толькі брыгадзіры. Прасіць на работу яе не трэба было: сама бегла нарад раніцай глядзець, сама пыталася ў брыгадзіра, на якую работу ісці.

Ён зноў сеў ля агню на тую калодачку, на якой клялалі касу. Грасыльда вынесла сабе з хаты маленькі ўслончык. Сталюгу, на якой яна сядзела перш, адцягнула на дрывотню, аж пад самую варыўню.

— Рагатая. Палавіну двара займае. Ля яе не павярнуцца...

Дровы доўга не браліся гарэць. Мусіць, папаліся мокрыя трэскі пад руку Грасыльдзе. Трашчалі, сіпелі. Грасыльда падсунула пад трэскі саломы. Запахла едкім дымам, як бы за ракой дзе гарэў торф і адтуль прынесла гар.

Яны доўга сядзелі моўчкі, аж пакуль з-за лесу не паказаўся чырвоны, вялікі і круглы месяц. Здавалася, яны чакалі яго, а не пакуль угарацца дровы.

У вёсцы было ціха. Зрэдку толькі ля моста галяшылі дзеці, пасля нехта зваў гусей — далёка зайшоў ля ракі, аж пад лес... Калі ўслухацца, можна было пачуць, як на пагранзастаўскай дарозе гудуць леспрамгасаўскія машыны.

Грасыльда сядзела ў накінутай на галаву белай паркалёвай хустцы. Адной рукой прыціскала ражкі хусткі ля шыі, у другой трымала кіёк і сартавала на агні трэскі.

— Камары, глядзіце вы... Ні дыму не баяцца, ні агню. Як вы толькі там у лесе ад іх бароніцеся... Позна ж бываеце. А вечарам іх там — кучы. Спрадвеку яны ў нас...

— Так і баронімся. Рукамі махаем...

— Рука-а-мі...— Грасыльда ўсміхаецца.— Хачу я яшчэ ў вас запытацца: чаму гэта вы вады ў лес з сабой ніколі не берыцё? Такой гарачынёй... Ці, можа, з балота смокчаце пад Сырніцай? — Яна зноў усміхаецца.— Вам, відаць, дзяўчаты носяць. Толькі — якая ж? Чорная ці белая? Відаць, чорная... А не — то ў мяне біклажка ёсць, ад партызан асталася... Прычапіў — хай матляецца. Як знойдзеш, калі піць захочацца. З балота толькі не пі, сын. У нас ад-

на...— Грасыльда нешта хацела, відаць, расказаць, але змоўкла і маўчала.

— Спачатку дзяўчаты насілі,— адказаў Завішнюк,— а цяпер і яны не носяць...

— А як жа вы тады абыходзіцеся?

— А мы п'ём з Парыпанавай студні. Халодная вада, не аддыхаючы не нап'ешся. І чыстая...

— З Парыпанавай студні?..— Грасыльда раптам задумалася і доўга глядзела на соснік, туды, дзе жаўцеў месяц. Пасля спытала: — І вы ведаеце Парыпанаву студню?

Ён сказаў, што ведае, нават добра ведае, тады яна зноў доўга маўчала. Калі ўгарэліся дровы, устала, схадзіла прынесла з сенечак стары, пагнуты, руды ад сажы і агню «даваенны», як яна сказала, трыножнік. Паставіла на яго маленькі алюмініевы чыгунок з вадой — на чай. Чыгунок доўга стаяў, наліты вадою, на зрубе студні, з самага краёчку.

Сеўшы зноў на ўслончык, Грасыльда паправіла пад падбародкам ражкі паркалёвай хусткі і сказала, бы сама сабе:

— Не... Парыпанавай студні вы не ведаеце... Не ведаеце вы і Парыпана...— Грасыльда зноў памаўчала. Яна сёння часта маўчала і не падымала на яго, Завішнюка, вачэй, як хавала ўсё роўна. Ведала, мусіць, што ў іх відаць гора. Бывае ж так, што на ферме хто папярок дарогі стане, то Міхал сувірнецца, яго на такое прасіць не трэба... А цяпер, калі яна, Грасыльда, пабыла ў райкоме, ён кожны раз стаў на яе сувірацца. Злуе, а чаго? Ну няхай ён не вінаваты ні ў чым, не вінаваты, што і на солтыса пайшоў,— дык чаго тады злавацъ?.. Канец свой блізкі чуе. У старшынях усё роўна яму доўга не хадзіць. Канечне, з работы яго адразу не здымуць, будуць чакаць справаздачнай сходкі. Але ж і Волькі Панковай судзіць не будуць. У дзяцей маці астанецца. А Міхал сувіраецца цяпер. Сувірнецца — яна яго не баіцца,— успомніцца тады ёй, што яна адна ў Лонве як палец. Адна. Хлапец толькі чужы, дзякуй яму, як сын ёй...

Відаць, пра гэта яна думала і сёння, бо неяк вечарам не падымала на яго вачэй, як бы чаго баялася, а тады ўзяла і расказала ўсё...

— Парыпанаву студню ў нас кожны ведае... А на самога Парыпана забыліся...— падграбла яна кійком маленькія галавешкі, якія ад тонкіх сухіх дубчыкаў адра-

зу ж апалі на зямлю і адкаціліся ад вогнішча.— Акцызнік вам пра яго не расказваў?

— Не, не расказваў...

— Акцызнік пра Парыпана вам ніколі не раскажа...— Грасыльда падняла галаву і доўга цёрла рукамі вочы. Ад дыму.— А вы ведаеце, што яго не Парыпанам звалі? Прозвішча ў яго было Лубнеўскі. А Парыпанам звалі яго...— Яна падумала.— Мусіць, сам ён сабе такое імення даў... Вялікі быў выдумляка. Звалі яго яшчэ і Фуфцікі. Працаваў ён да вайны ўсё ў лясніцтве, як і вы. Леснікoм быў — як помню, дык усё ў лес хадзіў. За мяне ён старэйшы, а ведаю я яго з той пары, як сюды замуж зайшла. Жыў ён адзін, у старой, даўнейшай, бацькавай хаце,— у тым канцы вёскі. Ніхто не ведаў, чаму ён не ажаніўся, калі быў малады. Не ажаніўся і пазней. Пасля сталі казаць, што ў яго «няма адной клёпкі». А ў яго гэтых «клёпак», можа, нават вунь колькі было, на траіх хапіла б... Ну і выдумляка быў, на ўсё. У яго і лісафет і стрэльба была. За паляванне сваё, за воўчыя шкуры купіў. На ваўкоў дык ён толькі і паляваў адзін, усю жызню. І зімой і летам. Жыць без іх не мог. А як ён іх вабіў... Як завые ноччу на загуменні — ідуць аж у вёску. У мяне дык шорах заўсёды ішоў па спіне, калі ён выў. А балбатаў, як цецярук, ніколі ў яго рот не закрываўся. Зубы заўсёды былі наверсе, белыя, дробныя. І язык меў. Добра ён быў у яго падвешаны. Дзе нашаму Акцызніку да яго, хаця і Акцызнік па слова ў кішэню не лезе. Вёрткі і ён на язык. А сам Парыпан быў высокі, чорнавалосы, плячысты... Добры мужчына. Цяжка мне пра яго вам расказваць — усяго ж я не ведаю. А маніць чаго пра чалавека не хачу. Можа, у яго што і было з галавой, можа, яна і балела яму, толькі ён пра гэта нікому не гаварыў і ў дактароў не лячыўся. Хаця я за ім не глядзела. Але раз я на свае вушы чула, сама... Тады я толькі прыйшла сюды, у Лонву, маладая была. Запомнілася мне тое добра, бо я тады сваім Валодзем хадзіла...— Яна перавяла дух і памаўчала.— Баялася, каб ён на свет якім калекам не паявіўся. Доўга баялася; дурная, відаць, была. Бег тады пад вечар Парыпан з лесу па загуменню і, аглядаючыся, крычаў... Калі яго запынілі мужчыны, вырываўся, паказваў рукамі на лес і гаманіў усё цішэй і цішэй... Пасля шаптаў, што ён у лесе бачыў «дваццаць пяць Парыпанаў»... Яго хацелі ўсёй вёскай адправіць адразу ж да дактароў, але назаўтра раніцай ён зноў, як і заўсёды,— усходам сонца — пакалдыбаў у лес — ціха,

спавагі. Гаварыў з усімі, як бы нічога з ім не было. Відаць, забыўся на ўсё. Але пасля гэтага яго сталі зваць Парыпанам. Што за такія Парыпаны тады яго гналі з лесу, дык я і цяпер не ведаю, «аб дух свенты», як у нас адна кажа. І ніхто не ведае...

У нас у хаце ён быў толькі адзін раз, як я помню. Можа, калі ён і прыходзіў, ды мяне не было дома. Мог прыходзіць — людзей ён не цураўся.

Гэта было ў сорак трэцім, летам, за год перад той блакадай, калі нашу Лонву палілі. Майму Валодзю пайшоў ужо адзінаццаты год. І нічога з хлопцам не сталася, паявіўся на свет жывы-здаровы. А я тады так настрашылася...

У той год перакрывалі мы хату: пацякла. Салома старая, згніла... Крыць у вайну не было чым: не знайшлі цвікоў. Прывезлі тады аднекуль з Жоўтага берага, з заставы,— яе спалілі немцы, яна стаяла яшчэ ад трыццаць дзевятага года, калі нашы пайшлі за Вілію,— прывезлі два маткі калючага дроту. Дрот быў у агні, саржавеў, гнуўся, але дзе ты возьмеш што лепшае. Раскручвалі яго, секлі на цвікі. Астаўся вунь нават. На паркане вісіць на калку,— паказала яна рукой назад — недзе на асвер.— Хапіла і новую хату накрыць...

Помню, як сёння,— не то субота была тады, не то нядзеля. Дубаўцы тады ў нас нешта доўга стаялі — тыдні два. Паехалі якраз у той дзень гарнізон недзе браць за раку... Вымыла я падлогу, вышаравала дажаўта. Я любіла мыць падлогу. У хаце ў мяне, і як сям'я жыла, было чыста. Помню, сядзіць мой Валодзя на ўслончыку ля грубкі з малатком — цвікі прастае. А прасталі мы тады цвікі на пустых снарадах. Малыя такія снарады былі — ад той яшчэ нямецкай вайны асталіся ў нас пад Сырніцай,— крушняй ляжалі. Снарад такі ўгоніш у калодку абухом, а зверху на ім, на пяце, раўняй што хочаш, пляшчы канец, каб цвік той лепш у лату лез, калі ты яго не наўскос адсек.

Сядзіць мой Валодзя: цюк-цюк-цюк... Плешча малатком, у ржу рудую выпацкаў і штаны і нос... Рукі жоўтыя ад іржы, а ён завіхаецца ля калодачкі, вада на ім не ўстоіць: бацьку пераганяе. А бацька толькі ўсміхаецца мне, як сёння помню.

Мы і не пачулі, як прыйшоў Парыпан. Убачылі толькі, што стаіць на парозе, смяецца і рукамі паказвае, што мы надта ўжо вялікія ўдарнікі. Павітаўся падышоў з намі

за руку, не баяўся, што рукі нашы былі ў іржы. Мы перасталі бразгаць малаткамі, толькі Валодзя не кінуў — яму было ўсё роўна: Парыпан гэта прыйшоў, ці хто. Тады Парыпан падаў і яму руку. Валодзя павітаўся, як стары, і глядзеў усё на нас, што мы будзем рабіць. Вочы ў яго гарэлі, як вугольчыкі. Думаю, зарагоча хлапец на ўсю хату. Я тады насупілася, і ён апусціў галаву, махаў толькі малатком. Парыпан нагнуўся над ім, паклаў яму далонь на галаву.

— А ты ведаеш, як гэта цацка завецца, па якой ты малатком лупіш? Не-е? Гэта, брат, фуфцікі... Фуфцікі... Не чуў? Давай разам смяяцца. Табе, бачу, смяяцца хочацца...

І яны засмяяліся па ўсю хату. Смяяліся і мы з бацькам, як сёння помню... Валодзя мой тады аж малаток з рук выпусціў. Парыпан сагнуўся, падняў і падаў яго Валодзю.

— Пляшчы, пляшчы... Фуфцікі... Я і не ведаў, што такі ўдарнік пры немцах у вёсцы расце...

Парыпан быў добра апрануты, ва ўсё новае: у новыя чорныя картовыя штаны і ў чорны доўгі пінжак з самаробнага сукна. Кашуля белая, раскошная яму, зашпілена на ўсе гузікі. Я яго такім прыбраным ніколі не бачыла. Ды тады надта прыбрацца і не было ў што: данашвалі ўсё крамнае, калі ў каго яно яшчэ было. А Парыпан жа леснікам ужо не рабіў. Хадзіў усё па вёсках, аж за Вілію нават,— «паразаць пілы»...

— Прыйшоў да цябе, сусед,— сказаў ён бацьку — ён усіх у Лопве зваў суседзямі,— падмаладзіцца...

Бацька мой,— так Грасыльда заўсёды звала свайго мужа, Завішнюк не чуў, каб яна яго калі назвала па імені,— стрыг усіх мужчын у вёсцы. І партызаны з усяго «Жалезняка» стрыгчыся прыязджалі,— кожны дзень поўна хата...— Грасыльда ўздыхнула.— У бацькі і машынка свая была, асталася. Сагнаў ён Валодзю з услончыка, паставіў услончык пасярод хаты і пасадзіў на ім Парыпана. Парыпан зняў свой пінжак — у хаце было горача,— занёс на куфар. Сеў, папрасіў хустку «на карак ускінуць», каб валасы не сыпаліся за шыю. Я падала з цвічка ручнік, новы, дастала толькі раніцай...

Глядзела я на Парыпана і не пазнавала. Сядзіць і маўчыць, думае ўсё нешта сваё і думае. Вачэй не падымае — ні на мяне, ні на бацьку. А яны ў яго сумныя, краі яго

пальцам, здаецца,— заплача. Чалавека, бачу, нешта трывожыць, а ён маўчыць.

— Як будзем стрыгчыся, Мікола? Пад польку? — спытаўся ў яго бацька.

— Ды пад по-о-ольку...— уздыхнуў Парыпан і зноў маўчаў. І калі бацька кончыў яго стрыгчы, падняўся з услончыка, нагнуўся да самай падлогі і пачаў пальцамі збіраць валасы.

— Падмяту сама! — крычу я на яго, а ён усё роўна збірае. «Такая чыстая падлога»,— кажа мне. Тады ўжо бацька ўмяшаўся і накрычаў сам на яго.

Парыпан занёс услончык да печы, дзе на каленечках ля снарада сядзеў Валодзя і абцугамі раскручваў на пасечаным дроце калючкі.

— На, бяры, кляпі, фуфцікі...— Ён пагладзіў Валодзю па галаве.— Ударнік...

Пасля сядзеў ля акна за сталом і галіўся бацькавай брытвай. Галіўся памалу, як першы раз, нібыта баяўся парэзацца. Скончыўшы галіцца, выцер твар рукавом пінжака, склаў асцярожна брытву, занёс у парог і кінуў на прыпечак паперыну са стала, аб якую выціраў брытву. Вярнуўся, сеў зноў на сваё месца. Маўчаў, тады загаварыў, ціха, нудна, як бы адзін дзе ў лесе сам з сабой:

— У вас работа... а я адвітацца прыйшоў...— Ён зноў памаўчаў і глядзеў у запечак, на Валодзю.— Вы добрыя людзі, хай у вас будзе ўсё добра. Колькі разоў я маніўся прыйсці пагаварыць да вас, а і на двор баяўся заходзіць. Пра мяне ўсяк гаварылі...

Мы з бацькам пераглянуліся і не ведалі, што рабіць. Я дык зноў спалохалася была, як цяпер помню.

— Не бойцеся...— Парыпан падняўся быў ісці.— Галава ў мяне была і асталася на карку. І вы даруйце мне, калі што, можа, не так здаралася. Жылі мы ў адной вёсцы...

— Ды што з табой, Мікола? Гаворыш нешта...— аж захлаваўся на яго бацька.

— Не-е, сусед. Прыйшоў адвітацца. Мне ўжо тут не жыць. Не жылец я ў Лонве...— Ён уздыхнуў і нагнуўся над сталом, загаварыў цішэй.— Адхадзіў я сваё па лесе...— Зірнуў ён на мяне, і я ўбачыла, што чалавек вось-вось заплача. Заплача — і нічым яго не суцешыш...

— Ты што? Як сабраўся куды на той свет ад нас? — падняў на яго галаву бацька,— відаць, незалюбіў.

— Ды не. Пайду далёка. За Вілію...

— Што-о ты... Хітрыш, Мікола,— не адступаўся ад яго бацька.

— Ды пілы ўсё... Не вярнуся я ўжо да вас...

Тут і я ўмяшалася. «Прымы, мусіць, Мікола, недзе добрыя апытаў»,— кажу і міргаю бацьку.

— Ды апытаў, суседка. Прыляплюся. Лягчэй пражыць будзе...

Мы змоўклі. Прыціх і Валодзя, не бразгаў абцугамі — ён ужо ўсё разумеў. Сын мой...— Грасыльда цяпер сама магла заплакаць. Маўчала — выцірала толькі ражкамі паркалёвай хусткі вочы.— Каб жывы астаўся, быў бы ўжо, мажа, такі, як вы... Ён рослы быў, выцягнуўся, увесь у бацьку...

Агонь гарэў доўга і ціха. Шумела ў маленькім гаршчэчку на трыножніку вада — пачынала кіпець. Ад агню было горача і хацелася адсунуцца далей, да паркана, але Завішнюк сядзеў не здрыгануўшыся. Пасля ўжо, калі Грасыльда доўга маўчала, зняў акуляры і пачаў выціраць.

Месяц падняўся над лесам, стаў белы і ўзяўся свяціць. Павіднела ля лесу поле, за ракой парадзеў туман. У вёсцы недзе рыпелі вароты і на загуменні ляскаталі калёсы.

Грасыльда ўстала з услончыка, зняла скавародку з чыгунка, якой накрывала бульбу,— глядзела, ці кіпіць,— тады разгарнула агонь і паставіла чыгунок на жар. Стаяла, гледзячы, як дымяць галавешкі, кратала іх кійком, перакочвала і маўчала. Пасля ўздыхнула.

— Не трэба было мне пускаць дзіця на Палік... Не трэба было. Усё жыццё сябе буду праклінаць. Я яго сама загубіла. Быў бы са мной — жыў бы. Я знаю, што жыў бы...

Яна зноў села на ўслончык і падпёрла рукой шчаку.

— Дык я вам пра Парыпана і не кончыла... Сваім занялася... А Парыпан што... Мы думалі — у яго з галавой зноў нешта... А ён тады, помню, устаў з-за стала, зноў мне руку падаў, бацьку... Вачэй усё не падымае. Падышоў да печы, да Валодзі, пагладзіў яго па галаве,— па галаве ён яго тады ўвесь час гладзіў, як цяпер помню,— і сказаў уздыхнуўшы:

— Эх, фуфцікі мае, фуфцікі...

Пасля закрыў рукой вочы і пайшоў з хаты. Мусіць, плакаў...

Пайшоў, а мы ўвесь дзень не ведалі, што рабіць. Ці пайсці расказаць каму, каб, калі што якое, рады чалавеку даць, ці проста маўчаць. Я дык і цвікі тыя кінула, хадзіла

ўвесь дзень, як дурная, месца сабе нідзе не знаходзіла. Бацька толькі маўчаў. Казаў, што тут нешта другое, дагадваўся і мне загадаў, каб маўчала. Але я... Пабегла назаўтра раніцай сама праведаць Парыпана — думаю, бяда з ім, а мяне пераняла ля варот Волька Мацяёнкава — вы яе не ведаеце — белая ўся, загаварыць не можа: «Немцы ў тым канцы... З Цянёў, з балота, сыплюць...» — сіпіць баба і жагнаецца. Я яшчэ не паверыла: гэта ж учора толькі дубаўцаў была поўна вёска...

— А Парыпан? — Завішнюк адсунуўся ад агню і глядзеў толькі на Грасыльду.

— Парыпа-ан?..— перапытала яна, неяк здзівіўшыся.— Не да яго тады, сын, мне было. Бацькі дома няма: у Жукаўшчыну араць выправіла раніцай разам з усімі. Адзін Валодзя ў хаце. А немцаў... З Цянёў усё ішлі, з-за Віліі... На дварах, на вуліцы, на платах — не павярнуцца за імі. Дзверы ў хату не зачыняліся. Адзін за адным: «Масла, матка». Бралі ўсё: і з хаты, і з хлева. Людзей тады не кранулі ў нас. Партызаны каля блізку іх не зачапілі. А немцы ўсё сыпалі і сыпалі — з грэблі ўжо, цэлы дзень — на Мсціжы, на Палік. Там ужо даўно грукатала — з тыдзень. Блакада ішла... Да вечара, здаецца, усе немцы, якія дзе на свеце былі, праз нашу вёску перавалілі валам. Машыны нават гружоныя паехалі. Астаўся толькі стаяць іхні штаб у Міхала. У яго хата была вялікая пасярод вёскі. Дым з коміна чорны валіў з самай раніцы: смалілі там, пяклі. А вечарам сталі баб заганяць да яго на двор. «Дзе мужчыны?» — «Аруць у Жукаўшчыне».— «Дзе стараста?» Пра Міхала пытаюцца. Дома, кажам. «Няма!.. — крычыць на ўвесь двор перакладчык (у чорным быў мужчына).— Бандзіты... Парцізаны... Калі нанач не вернуцца мужчыны — дымам усё задыміць...» — паказвае ён на стрэхі. Не ўсе вярнуліся. Тыя, хто шкадаваў сваіх дзяцей, прыехалі. Бацька мой вярнуўся. Немцы вечарам тады нікога не зачапілі, толькі доўга яшчэ ўсё шукалі па хатах старасты. Жонку яго ў свірне асобна зaпёрлі і немца свайго ля дзвярэй паставілі. А Міхал — як у ваду... Не прыйшоў ён і назаўтра. Не было яго тады ў вёсцы, мусіць, тыдні два,— гэта я помню...— Грасыльда доўга глядзела ў агонь. Твар яе расчырванеўся ад вугалля.— Усю ноч немцы са сваім тым штабам начавалі ў Міхала ў хаце. Па загуменні хадзілі, па вуліцы... Пакладуць чорныя аўтаматы на плот і ў лес страляюць. Недзе пад дзень ужо аціхлі. Паснулі, можа.

Лета тады было, як цяпер. Ноч ціхая стаяла, туман. Веташок над лесам пад раніцу выразаўся, як цяпер помню. Свеціць, на гародзе ад яго нават відна: бела. Відаць, як нечы конь за плотам пад лог кратаецца. Я ля акна сядзела. Бацька з Валодзем на падлозе спалі. На мяне ўсё бацька крычаў, каб і я клалася, не тырчала. На падлозе не так куля дастане. Лягла я была, а калі бацька захроп, схаваўшы недзе пад паху Валодзю, я зноў падпялася і падышла да акна. Пасля села воддаль, ля стала. О-ха-ха... Гляджу на белы гарод, за рэчку. Заснуць я, сын, тады не магла. Такая мітрэнга ў вёсцы. Бацька дык змардаваўся за дзень, з ног зваліўся. Яго ў штаб да Міхала цягалі, на калені ставілі, аўтамат чорны да грудзей прыстаўлялі. Усё Міхала дамагаліся. Даўся ім той у знакі. Начальства, думалі мы, свайго немцы шукаюць... Усяк думалі... А бацька мой і праўда не ведаў, дзе Міхал. Ніхто не ведаў. Не было яго, мусіць, у вёсцы з самай раніцы, ці што... Ды і перад гэтым, учора, я яго не бачыла...

Сяджу я, сын, ля стала натапырыўшыся... Холадна ўсёй, лахман нейкі стары на плечы ўскінула... Дрыжу, дзе там той сон... Гляджу, раптам нейкі цень ад нашай варыўні на гарод паўзе. Шырокі, калышацца. Пастаіць, пастаіць на зямлі — зноў скалыхнецца, пабольшае. Жудасна стала, зубы ляскаюць. Хачу бацьку разбудзіць, а не магу крыкнуць... Не падымуся нават, як хто на плечы ўзваліўся. А цень усё бліжэй і бліжэй да акна сунецца. Пастаіць, пакратаецца і сунецца. Я ўжо думала, што заснула, працёрла вочы... Ажно нешта раптам бліснь ад месяца пад варыўнёй. Тады адразу ад сцяны чалавек адлучыўся і, узяўшы ў рукі нешта бліскучае, стаў ісці па прызбе да акна, якраз сюды, дзе я сядзела. Маленькі, як цяпер помню, у круглай кубанцы, тады такія партызаны насілі. Сэрца ў мяне маё хворае закалацілася... Падышоў ён да акна, ціха-ціха, я дык і не пачула... Галавой ледзь дастае да ніжняй шыбіны. Падняў руку і ціхенька пальцамі па шыбіне — дзын... Шыбіна была дрэнна прыстаўлена,— як зазвініць... Ён аж прыкарэў да сцяны, як муха... А ў мяне і душа замерла. Немцы ж у Міхала... Па вуліцы поўзаюць. Страляць толькі што кінулі. Холадна мне тады стала ўсёй. Пасля дрыжыкі як хто рукой зняў. Мусіць, закамянела... Направіла лахман на плячах, паглядзела на бацьку: спіць,— і выйшла ціхенька на ганак. Пастаяла па двары — нідзе нікога. Зайшла тады за сенечкі, вунь туды, сын,— Грасыльда паказала рукой на варыўню,— дзе ця-

пер драбіна стаіць. Захінулася за вугал. Стаю. Падышоў да мяне маленькі той, што ў акно стукаў. Бачу, хлапчаня зусім, як мой Валодзя. Паказаў ён мне рукамі, каб я адвязала белую хустку,— яна ў мяне на галаве была. Гэта, каб здалёку мяне не ўвідзелі... Глянула я пад варыўню і ледзь не абамлела. Там аж пяць чалавек паклалі рукі на свае аўтаматы і на мяне іх наставілі... Не па мяне, сын, Гэта мне так здалося. Немцы ж недзе на вуліцы... Пасля, гляджу, ідуць да мяне. Адзін да аднаго прыхінуўшыся. Адзін ступіць — і ўсе за ім. А па зямлі цень шырокі сунецца... Падышлі яны да мяне, сталі пад страхой, там вунь, дзе аконца ў варыўні,— пяць чалавек, ніколі не забудуся. Маленькі пры мне стаіць.

— Немцы ў вёсцы...— шапчу я і паказваю рукамі.— Штаб...

— Знамо... Гэта не штаб...— адказвае скоранька маленькі, як цяпер помню. За старшага ў іх, думаю... Пасля кажа, а я вушам сваім не веру: — **Нам нужна к Парыпанаваму калодцу.** Блуждаем усю ноч. Два разы ў баю былі...— Гэта ён мне, бабе, так і кажа пра свой бой. А сам чуць стаіць на нагах...— Нужан чалавек, хто б даставіў да Парыпанавага калодца. І скарэй... Врэмя дорага...

Я падумала была адразу: «Трэба разбудзіць бацьку...» — а тады нехта самую як за язык пацягнуў. «Ідзіце за мной, хлопцы...» — кажу яму. Маленькі той, у кубанцы, толькі паглядзеў на мае босыя ногі, пасля зрабіў нейкі знак тым, што стаялі пад варыўнёй...

Пралезла я памалу ў спрагу, вунь яна ў плоце і цяпер ёсць, і пайшла ля паркана,— да сосніку падалася, да ям,— Грасыльда кіўнула галавой, паказваючы на гароды,— тут бліжэй да лесу, думаю. Іду, а мне, бабе, бегчы хочацца — баялася, мусіць. Хутчэй бы ў лес, там — бог бацька... А малы шэпча мне, што бегчы не трэба, трэба памалу ісці і сагнуцца. Сагнулася я і пайшла наперадзе, спатыкаючыся ў бульбоўніку. А бульбоўнік тады вялікі парос за плотам, чалавека хаваў. Гляджу, і ўсе шасцёра пазгіналіся ў бульбоўніку. Ды іх ужо было і не шасцёра. Двое дык адразу недзе з-пад тыну ля вуліцы вылезлі і далучыліся,— у засадзе былі. А ля ям — яшчэ гэтулькі... І скрынкі на зямлі стаяць іхнія. Як у вас цяпер: і малыя і вялікія. Падымаюць іх адразу на плечы, як мяне ўбачылі. І ўсе яны, гляджу я на людзей, што дзеці. Ці, можа, мне поначы здалося тады так. І ўсё на іх у гразь укачанае...

Павяла я іх соснікам,— вунь там, дзе ямы, лахман

свой на плячах папраўляючы. На пагранзастаўскую дарогу выйшла. Іду, як маці з дзецьмі. А дзяцей тых... Аж дваццаць налічыла. Можа, іх і менш было. Была з імі і дзяўчынка. Адна... Беленькая, што ваша Света. Ідуць яны за мной і ні пра што не пытаюцца. Ціхенька так. Свеціць толькі ліхтарыкам з рукава той маленькі на сваю карту. Змэнчаныя, бачу, людзі. Зварыць бы ім бульбы і спаць пакласці, думаю... Пачалі ў вёсцы немцы зноў страляць. У нашым канцы... Агледзелі нешта, мусіць. Душа мая туды рвецца. Там жа Валодзя з бацькам... Доўга тады ўсё немцы стралялі ў нашым канцы. Рэха па лесе ідзе, а людзі маўчаць. Спяшацца толькі пачалі. Маленькі патушыў свой ліхтарык і сказаў, каб я хустку дзе схавала белую. Я яе ў руках несла... Тады я паклала яе за пазуху, як цяпер помню...— Грасыльда была аціхла і доўга маўчала. Угарэліся трэскі, якія яна ўзяла ўскінула на вуголле. З гаршка, дзе была вада на чай, пайшла пара.

— А што з Парыпанам? — зноў спытаўся Завішнюк, ціха, як прашаптаў.

— Парыпа-ан...— уздыхнула Грасыльда.— Я тады ўсяго не знала. Прывяла людзей да студні... Абступілі яны мяне, дзякуюць... Як зваць пытаюцца... А я дамоў рвуся... Успамінаю цяпер, сын, што тады я ўсё-такі ўгледзела, як да іх пасля мяне чалавек далучыўся. Мужчына, у чорным. Вялікі... Схаваўся быў ад мяне, ці што,— а так я яго пазнала б. Кінулася мне тады толькі ў вочы, што ён падобны на Міхала. Але хто б гэта даў веры...

Немцы раніцай павезлі свой штаб, ці што там было ў іх, з вёскі. Ціхенька, не стралялі нават. Вярнулася я з лесу, калі развіднела,— іх ужо ў вёсцы не было. Мусіць, угледзелі былі партызан... І жонка Міхалава жывая асталася. Чую вечарам: па вёсцы пагалоска пайшла... Партызаны былі... Па загуменні валам валілі. І камандзір у іх — баба. Наперадзе ішла ў чорнай скуранцы. А на мне, сын, і скуранога нічога не было, і па загуменні я не ішла. А вось людзі бачылі... Хаця не спаў у тую ноч ніхто. Пачула я ў той вечар, што немцы павесілі ў Мсціжах Парыпана. Ніхто не ведаў, дзе яго злавілі і чаму павесілі. Чуў чалавек сваю смерць... Ты скажы... Адвітацца прыйшоў...

Грасыльда апусціла галаву, глядзела ў зямлю пад ногі, і Завішнюк не бачыў яе твару. Не адрываючы вачэй ад зямлі, яна раптам сказала:

— Днём сёння прыязджаў Савасцянчык з тым тоў-

стым, што быў у яго ў кабінеце, калі я за Паніху хлапатаць хадзіла. Сходку склікалі... Якая там сходка. Сабраліся на дзядзінцы ля канцылярыі. Пра калгас наш гаварылі... Пра Міхала... І Міхал быў, стаяў, на плот апершыся. Ад слова адказаўся. Сказаў толькі: «Як народ рашыць...» Хоча ён, відаць, быць за старшыню. Савасцянчык мала гаварыў: гаварыў усё той, тоўсты. Ён, сын, і сказаў, што тады ноччу была спецгрупа. Партызаны тыя, якіх я завяла да Прыпанавай студні,— з Масквы былі. На парашутах іх не туды скінулі. На блакаду якраз... Немцы іх акружылі. І вывеў іх Парыпан... З-пад носа ў немцаў, з балота... Ля самых Мсціжаў. Заданне яму «Жалязняк» даў... А сам Парыпан папаўся: збіваў немцаў са следу. Партызаны надта вялікія былі. З нейкімі апаратамі. І немцы гэта вынюхалі. Жывых хацелі пабраць. «Жалязняк» наш прарываўся да іх,— тоўсты той сам быў у «Жалезняку»,— дык немцы аж танкі свае пусцілі. Гэтак хацелі тых партызан узяць. А Парыпан іх вывеў. І «пілы наразаць» ён, сын, за Вілію хадзіў ад «Жалезняка». Тоўсты той усё расказваў. О-ха-ха... А ля студні тады Міхал быў. Мяне ён не пазнаў. Каб пазнаў, сказаў бы дзе. Хаця ён тады не скора да партызан падышоў: на паліцыю баяўся наўрэцца. А партызан тых трэба было ў аўгустоўскія лясы за Вілію весці. Іх не ў наш лес кідалі, а туды, за раку. А за ракой — гарнізоны. Міхал і павёў тых людзей,— два тыдні яго не было. Доўга мы пра чалавека ўсяк думалі. О-ха-ха, сын... Змарылася я за дзень зусім...— Грасыльда стала гладзіць рукамі па каленях, адсунуўшыся ад агню.— А Парыпан пасля сябе памяць пакінуў — сваю студню. Калі ён жыў, ніхто надта і не ведаў, што ў лесе студня. Пасля ўжо ўгледзелі. А цяпер яна, студня тая, завалілася. Дрэва хоць і камянее ў сырой зямлі, а ўсё роўна гніе памаленьку. Парыпан, мусіць, нейкую падземную крыніцу быў апытаў. Вада адтуль і зімой і летам б'е аж наверх, на Белы лог, як мы завём той лажок на Каралінскай пасецы. І марозу не баіцца, а летам халодная-халодная. Касцы лонваўскія, калі на луг да Віліі ездзілі, заўсёды станавіліся ля лажка набраць вады ў біклажкі, бо яна лепшая, як у нас у студні. А нашу ваду хваляць. Хто ні піў, усе хваляць. І вы, во, не ганіце.

А тая студня — старая ўжо, завалілася. Ласі зімой да яе, казалі, прыходзілі піць,— сцежку вытапталі. Ласі ў нашым лесе ёсць... Партызаны з «Жалезняка», як цяпер помню, тую Парыпанаву студню хвалілі... О-хо-хо...

Закіпела вада ў чыгунку, і Грасыльда пайшла ў хату, «забылася ўзяць па судніку малінавы чай»...

Завішнюк устаў з калодкі, апёрся на паркан і доўга глядзеў на халодны белы месяц. Здалося, што на ім сёння пабольшала чорных плям.

Пастаяўшы далёка ад агню, ён пачуў, што стала холадна за плячыма, пасля — холадна ўсяму. Падумаў, што калі дасць сабе волю, то заляскае зубамі.

Туман ад ракі поўз на самыя гароды. Было ціха, здавалася,— толькі адна Грасыльда на ўсю Лонву стукае дзвярыма.

Ён зноў адчуў, што ў яго вунь як баляць ногі і рукі, ные спіна. І, мусіць, яшчэ пачынае балець галава. Не хацелася ісці ў хату, хацелася зарыцца ў хляве ў сена з галавой, як у першую ноч, і забыцца на ўсё на свеце. Заўтра ж рана ўставаць.

І калі яго клікнула Грасыльда піць чай, ён падумаў, што і чаю зусім не хоча; тады падумаў яшчэ, што пакрыўдзіў бы Грасыльду, што цяпер, каб і зарыўся вунь у якую глыбокую нару,— не засне.

Ён пайшоў у хату. У хаце ўжо гарэла лямпа.

## *Раздзел дзесяты*

# Сырніца

Калі Юрка Даліна за мастком убачыў пагорак ля балота, у пнях і ў белым верасе, успомніў, што белым цветам цвіце і дома бульба ў гародзе, а над цветам раніцай, калі ён, Юрка, ідзе ў лес, ужо лётаюць белыя матылькі. Сну ім няма. Няма сну і маці: яна капае ў гародзе маладую бульбу. Юрку тады робіцца шкода маці — яна кожны раз устае рана-рана, і спаць ёй не хочацца. Не, мусіць, і маці хочацца спаць, але ж трэба рана ўставаць — падкапаць маладой бульбы, змалоць у жорнах жыта — на праснак, нарваць у гародзе, пад рэчку, лебяды парасяці. А прагнаўшы ў поле карову, трэба ісці чытаць нарад, што Волька Янкава начапіла ля Палюшынай брамкі, бо Волька тады сама ідзе аж у хату і просіць маці ўзяць свае граблі і ісці падграбаць мякіну. Маці не любіць, каб яе Волька «гнала» на работу, маці сама ідзе. Але ж дома бы-

вае няўпраўка: есці ж нешта трэба зварыць і бацьку, і яму, Юрку. А яму, Юрку, трэба яшчэ і з сабой у лес даць...

Юрка сёння нясе толькі скрыначку з тэадалітам. Трыножнік узяў сам Завішнюк, закінуў за плечы і ад гэтага, здаецца, яшчэ больш сагнуўся. Ступае хутка-хутка, бы яго падганяе цяпер трыножнік. І чаго ён спяшае, гэты Завішнюк. І лекцый ужо не чытае дзяўчатам, толькі: «Правей!.. Правей!.. Вяху!..» Крычыць і носіцца па лініі. Дзяўчат зусім замучыў...

Сёння ён ад самай Лонвы, ад фермы, прыпусціўся — Юрку дык трэба ісці аж подбегам: адзін ён астаецца. Дзяўчаты ад Завішнюка не адсталі. Яны нічога цяжкага сёння не нясуць — Жэнька сваю ленту, Света дзве вяхі.

Ужо другі дзень, як Завішнюк не пайшоў праз Цяні — па кладках,— а кіраваў пагранзастаўскай дарогай на масток. Да Сырніцы тут, мусіць, бліжэй. Юрку дык усё роўна, ён мог ісці і на Цяні. На Цяні цяпер ходзіць адзін Акцызнік. Другі ўжо дзень адзін, як Завішнюк забраў ад яго Юрку. Забраў «толькі на пару дзён», пакуль выйдуць на сухое з Сырніцы — пад Ямскае, да партызанскіх лагераў. Акцызнік яго адпусціў, нічога не сказаў. Апошнія дні Акцызнік нешта зусім не гаворыць ні з Юркам, ні з Завішнюком — перамяніўся. Маўчыць, курыць і махае, махае сякерай цэлы дзень. Учора, казаў, нават быў без палудня. Многа ўгнаў Акцызнік за дзень. Перайшоў балота — на балоце, дык там і церабіць не было чаго,— а ў Сырніцы... Ельнік вышэй хаты парос. Ваўкі на лініі ў ім пладзіліся нядаўна, можа, нават летась,— Акцызнік вадзіў усіх логава паказваць.

За мастком — толькі падняцца на гару, а там завярнуць на лініі — Сырніца. Але Завішнюк не хоча мясіць лішне гразь — дзяўчат шкадуе,— завярнуў на старую ездавую дарогу і павядзе іх пагор'ем да самага таго месца ля рэдкага пад'ялоўцу, дзе ўчора вылезлі з балота.

Калі яны ўжо зварочвалі з пагранзастаўскай дарогі, іх нагналі два матацыклісты з ружжамі ў брызентавых чахлах за плячыма.

«На качак на Вілію...— падумаў Юрка.— Чужыя. У леспрамгасе такіх матацыклаў няма».

Матацыклы паўціскалі на дарожцы ў зямлю свежую жаўтаватую сасновую ігліцу, што ад расы і ветру апала за ноч на дол. Юрка ўгледзеў, што на дарозе ёсць яшчэ і свежы конскі след. Нехта ўжо ехаў на калёсах, мусіць, старых, разбайдаваных,— кола рабіла васьмёрку.

Стаяла гарачая летняя раніца. Сонца плыло над Сырніцай-імшарай у густой сінечы, як у тумане,— ад таго імшара здавалася вялікай і нуднай, як голае поле ўвосень. Над ёй толькі высока ў чыстым небе сонныя з начы канюхі млява прасілі піць...

«Гэтулькі вады на балоце,— падумаў Юрка,— а яны хочуць піць». Падумаў і ўспомніў, што і яму ўжо хочацца піць, што да Парыпанавай студні з Сырніцы далёка, нават у палудзень не збегаеш.

Але ён нап'ецца і ў Сырніцы, у балоце. Калі не знойдзе добрай яміны, выцісне вады прыгаршчамі з моху. Яна кіслая і халодная, яе можна піць, не раз ён піў, хоць у ёй і плаваюць маленькія чорныя парушынкі.

Ён успомніў, што сёння маці хацела яму наліць у бутэльку вады з сабой, але ён не ўзяў. Цягні яшчэ бутэльку — колькі ў яе ўлезе той вады, і яна сагрэецца адразу,— да лесу яшчэ не данясеш... Яму зноў стала шкада маці. Ён падумаў, што будзе вучыцца, вунь як будзе вучыцца, а тады стане таксатарам, як Завішнюк.

На пагор'і — старая дарога. Некалі тут ездзілі на калёсах, знаць тор — павыбіваныя калдобы. Пад нагамі шапоча і нагінаецца да зямлі верас, асморгваецца — з яго пырскаюць белыя пупышкі, што крупкі. З верасам расце сівец — цвёрдымі зялёнымі кустамі; аб іх спатыкаешся, калі наступіш нагой. Трапляецца і папараць, высокая, зялёная — па пояс. Папараць абсела мятліца, сівенькая, дробненькая — дрыжыць нават тады, калі няма ветру. Гэта ад таго — Юрка заўважыў,— што па ёй поўзаюць мурашкі, вялікія, з крыламі... Успомніў, што Света баіцца мурашак. «І-і-і!..» — крычыць яна на ўвесь лес, калі ўгледзіць, што на яе гумавы боцік ускочыла мурашка. Света яшчэ баіцца жаб. Убачыць — бяжыць па балоце, крыла ўразаючы... Света ўсяго баіцца ў лесе, не толькі мурашак і жаб. Баіцца нават птушак, дзікіх качак учора спужалася — крычала на ўсю Сырніцу. Света, мусіць, гарадская — трэба будзе ў Завішнюка спытацца. Юрка ўспомніў, што Завішнюк усё скажа, што ў яго ні запытайся. І Жэнька, мусіць, гарадская... А можа, і не гарадская, бо яна не баіцца ні качак, ні гадзюк. Але яна прыгожая... Гарадская, мусіць.

Там, дзе пагорак апускаецца да самай імшары,— бярэзнік. Лета яшчэ, а ён пажаўцеў; ля самай дарогі, дзе яны ідуць,— лучаюцца і маленькія, чырвоныя ўжо асінкі.

Ля імшары халадок, пахне балотам і вадой, але на да-

розе суха. Шашчыць пад нагамі сівы мох, і ўцякаюць з вачэй, хваста ўразаючы, маленькія, рудаватыя яшчаркі. У старых, выбітых каляськмі калдобінах тут растуць грыбы чашчавікі, на тонкіх і высокіх ножках, і зайцавы баравікі — зялёныя, як альховае лісце.

Тут сыра, і грыбы растуць усё лета, з вясны. Але іх «давяць», як Завішнюк казаў, «браканьеры». Юрка ўспомніў, што браканьеры — два мужчыны на разводах — не ездзяць болей пагор'ем у Сырніцу. Яны недзе вазілі сасну з самай Сырніцы, далёка ад людскіх вачэй. А цяпер не ездзяць. Бо Юрка з Завішнюком убілі пад старой сасной на пагранзастаўскай дарозе яловы калок. Угналі ў зямлю на самай дарозе, а да яго прыбілі кавалак фанеры — з дому прынеслі, ён, Юрка, прынёс — і напісалі на ёй вялікімі літарамі, Завішнюк сам напісаў: «Заминировано! Проезд в Сырницу закрыт!»

Юрка смяецца, калі ўспомніць фанеру з Завішнюковым надпісам. Яны ўсе смяюцца: і Света, і Жэнька, і сам Завішнюк. Смяюцца, бо Акцызнік падпільнаваў, як тыя двое мужчын на разводах завярнуліся і пагналі коней назад, на Каралінскую пасеку. Аж пыл з-пад калёс курэў...

З Сырніцы-балота, калі глядзець лініяй на пагор'е, дзе ля пагранзастаўскай дарогі пасечаная мінай сасна,— перад вачыма роўная-роўная прасека і доўгая: цягнецца, здаецца, аж за Вілію, на самы кут зямлі. Чыстая, шырокая, а там, дзе яна вузее і губляецца з воч,— жоўтая паласа грады, і над ёй кавалачак сіняга неба.

Без лініі лес быў бы нудны. Нудны і чужы... Юрка ўжо не можа нават падумаць, што на Каралінскай пасецы няма лініі...

Калі доўга глядзіш лініяй на граду — пачынаюць балець вочы, хочацца жмурыцца і круціцца галава... Тады Юрка апускае вочы і глядзіць толькі на Сырніцу, на імшары, дзе ўчора лазілі з Акцызнікам, а пад вечар Завішнюк загадаў яму, Юрку, цягаць ленту. На лініі, якраз там, дзе канчаецца імшара,— жаўцее бярозка, а за ёй — чорныя сляды на балоце. Яны цягнуцца (далёка — маленькія, а бліжэй — большыя) чародкай аж сюды, дзе цяпер Завішнюк расстаўляе ля курганчыка, на якім ссякаў учора ніцую лазу Юрка, тэадаліт. Сляды тыя ад іхніх ног — яго ных і Жэньчыных. Ён з Жэнькай пад вечар лазілі тут з купіны на купіну з лентай — Завішнюк два разы ганяў перамяраць: не сыходзілася нешта ў яго са старой кар-

тай ці планам. Ну і што, калі ў яго не сыходзіцца нешта?.. Дык праз гэта трэба ганяць дзяўчат сто разоў з лентай па адным і ты жа месцы? Усё роўна не сышлося ў яго, Завішнюка... Хай ён выкіне свой стары план... Каб узяў асмеліўся ды сказаў гэта Завішнюку... Узлаваўся б і яшчэ з лесу мог бы прагнаць... Ён бывае і злосны. Вунь як злуе на Свету, калі яна яго возьме не паслухае... Крычыць тады і на Жэньку. Ён можа прагнаць. І возьме каго другога з вёскі: Валуйка ці Сідарку...

Калі Юрка думае, што Завішнюк можа прагнаць яго дадому, яму робіцца нудна. Яму сёння і так нудна, бо Завішнюк ужо ўчора сказаў дзяўчатам, што «дзела» ідуць добра, што калі паруляцца за пагодай, пакуль не ляглі туманы, то скора здымуцца. Ён так і сказаў: скора здымуцца. А што тады рабіць яму, Юрку? Астацца аднаму, без Завішнюка, без Жэнькі? Зноў з Валуйком і Сідаркам бегаць па сціртах саломы на ферме? І па вуліцы па гразі?.. А тады хадзіць па грэблі ў школу... Аж за чатыры вярсты... Юрка не хоча ні ў школу, ні бегаць па вуліцы з Валуйком... Не хоча гуляць ні ў «немцаў», ні ў «нашых», і што гэта за гулі — кідай адзін у аднаго каменнем. Галаву разбіць можна... Вокны вунь у канцыляры, у Палюшынай хаце, павыбівалі... Паложыш камень на аборыну — на пятлю,— раскруціш і — выпусціш адзін канец аборыны з рукі... Камень ляціць тады і гудзе, як снарад, аж звініць: вум-м-м... Такая пушчалка ёсць яшчэ і цяпер у Юркі — ляжыць недзе ў сенечках за шафарняй. Даўно ўжо Юрка не кідаў камення са сваёй пушчалкі і не будзе. Яшчэ з пугі можна, калі пагоняць у Жукаўшчыну ў поле кароў. І то Юрка не будзе кідаць каменне з пугі па полі. Карове вока можна выбіць... Хіба толькі па старым маяку, калі на ім будуць сядзець груганы...

Тады Юрка думае, што ўсё роўна калі Завішнюк і не прагоніць яго з лесу, то хутка паедзе сам. Здымецца са сваімі дзяўчатамі — з Жэнькай і Светай — і пакіне яго ў Лонве аднаго. Юрка не хоча аставацца ў Лонве адзін. Ён прывык да Завішнюка, прывык да тэадаліта. Ён будзе прасіць Завішнюка, каб той узяў яго з сабой. Ён будзе з ім ездзіць усюды і хадзіць усюды, па любым балоце, з лентай — не страх. Ён будзе і церабіць лініі, каб толькі быць з Завішнюком і Жэнькай... Але ж Жэнька паедзе скора вучыцца...

— Света! Вяху! — крычыць Завішнюк сёння з самай раніцы. Сагнуўшыся, ён круціць тэадаліт; на тэадаліт няма

як глядзець — на ім блішчыць сонца, б'е якраз у вочы. А Завішнюк прынік да яго, закасаў рукавы ў кашулі і ўсё круціць за «пад'ёмныя вінты». Юрка ведае — Завішнюк прыводзіць лімб у гарызантальнае становішча... Праз акуляр яму, Завішнюку, недзе відаць уся Сырніца і нават старая лінія за Сырніцай у Ямскім, дзе партызанскія лагеры. Завішнюк недзе нават бачыць Акцызніка з сякерай на лініі. Той пайшоў сёння раней за іх, зноў «напрамую» — праз Цяні.

Чвяк, чвяк, хлюп... Чвяк, чвяк, хлюп...

Гэта Света пайшла па лініі ў сваіх гумавых боціках. Яны ў яе кароценькія, і, калі правальваюцца ў балота ногі, Света чэрпае імі ваду і гразь.

Ідзе яна з вяхой памалу, асцярожна, выбірае цвярдзейшае месца, мацае нагой купіну, перш як на яе ступіць, і — правальваецца пасля за калені. У Светы яшчэ вузенькая і кароценькая спаднічка — не дае шырока надта ступіць. Света, калі пераступае з купіны на купіну, падымае сваю спаднічку вышэй калень. Юрка тады не глядзіць на Свету, адварочваецца.

Але Света ўпартая. Злосная і ўпартая — гэта калі ёй закамандуе Завішнюк. Не любіць яна, калі ёй камандуюць. Моршчыць тады свой маленькі носік, руды ад загару, што спелы арэх. Ідзе, скача, як каза, з купіны на купіну, войкае, махае паласатай вяхой, як грабільном, але не апіраецца на яе, як баіцца ўсё роўна, каб не зламаць.

— На вяху апірайся!..— крычыць ёй здалёку Жэнька і смяецца.

Але Света нічога не адказвае Жэньцы — злуе — і ўсё роўна не апіраецца на вяху. Махае ёй і махае, як разбівае грабільном сена, аж пакуль Завішнюк не крычыць ёй: стоп! Тады Света паварочваецца да іх тварам і паказвае зубы — смяецца. Смяецца, што не надта «выкачалася ў гразі». Садзіць вяху дзе папала, кладзе руку сабе на бок і стаіць, скрывіўшыся, чакае.

— Правей! — зноў камандуе ёй Завішнюк, прынікшы да тэадаліта і махаючы рукою, у якой сціснуты скручаны ў трубку абрысны журнал. Тады Света зноў хмурыцца, Юрку відаць і здалёку, і са злосцю перастаўляе вяху ад сябе далей — у самае балота. Вяха робіцца зусім маленькая, роўная са Светай.

— Правей!.. Вышэй!.. Правей!..— зноў камандуе і камандуе Завішнюк і зноў топчацца на адным месцы Све-

та, відаць, баючыся сысці з купіны, торкае ўсё вяху ў балота, нібыта шукае цвёрдага месца, дзе можна ступіць, аж пакуль Завішнюк не скажа цішэйшым голасам: «Стоп!.. На сябе... Стоп!»

Света тады як замірае. Яна, відаць, стала на нешта цвёрдае і баіцца з яго сваступіць. Здаецца, каб і Завішнюк падаў ёй цяпер каманду,— не здрыганулася б: як прырасла да вяхі. Толькі блішчыць на сонцы яе белавалосая галава.

— Вяху-два!..— камандуе Завішнюк, ціха запісваючы нешта ў свой «абрыс».— Юрка-а!..— кліча ён Юрку, не падымаючы галавы ад журнала.— Вяху-два — Свеце. Падкінь. Света — вяху-два! Правей толькі бяры адразу... На вербалоз! На вербалоз, што ля вывараткі. Не згінайся... Журавін назбіраеш у палудні. Нідзе яны не дзенуцца, іх тут — як насыпана, не ступіць...— Завішнюк маўчыць, тады — Юрка чуе — кажа Жэньцы, зусім ціха: — А табе — што? Ногі баляць? Расцягвай ленту. Пойдзеш з Юркам... Ён спрытнейшы за тваю Свету. Не трэба будзе лішні раз перамерваць...

А Жэнька нібы не чуе. Стаіць і думае. Тады згінаецца, падымае з травы ленту і паволі адыходзіцца далей ад Завішнюка.

«Чаму яна сёння такая ціхая?» — думае Юрка. Ціхая ўсе дні пасля вечарынкі ў Палюхі... Не гаворыць з Завішнюком, нават з імі, Светай і Юркам, і то мала гаворыць. А Завішнюк на яе і не крычыць, як на Свету, ціха гаворыць з ёй, як чаго баючыся. І вачэй не падымае. Нейкі мяккі робіцца ўвесь, яшчэ больш сутуліцца і — тады непрыгожы. Акуляры свае здымае і ўсё трэ і трэ, аж, здаецца, шкло павыціскае, і валасы закідвае з ілба за вуха аднымі пальцамі.

Юрку робіцца зноў нудна... Ён нечага баіцца сёння Жэнькі... Яму зусім не хочацца цягаць з ёй ленту... Збег бы куды да Акцызніка — на лінію ў Ямскае, і махаў бы, махаў сякераю ўвесь дзень...

— Юрка! Ленту! Што гэта сёння як папрырасталі ўсе?

Завішнюк зноў пачынае махаць рукамі.

Юрка падыходзіць да Жэнькі і бярэ ў яе з рук канец раскручанай, мокрай і слізкай, як дажджавы чарвяк, бліскучай ленты. І лента сёння блішчыць на сонцы, як тэадаліт, хоць ты і на яе не глядзі...

Хлюп-хлюп... Хлюп-хлюп...— ідзе наперадзе з лентай

у руках Юрка. Чвяк-чвяк... Цяжка выцягваць вялікія бацькавы чаравікі з балота — на іх наліпае гразь, і яны тады робяцца яшчэ большыя і цяжэйшыя.

Чвяк-чвяк... Чвяк-чвяк... Калі Юрка спыняецца, чуе, як ззаду ідзе Жэнька, хуценька выцягваючы ногі ў гумавых боціках з балота, нібыта баючыся, каб яны там доўга не пабылі і не размоклі.

Жэнька ідзе хутка, хутчэй за Юрку,— ён нават выцягнуў наперад руку, а лента не напялася, цягнецца, шашчыць па траве і куп'і, чапляецца за сухую ніцую лазу і звініць. Юрка тады ступае шпарчэй, але ўсё роўна лента цягнецца па зямлі: дзе ты размахнешся ў такіх чаравіках — нават за ніцую лазу чапляюцца, як лента. Толькі б не паваліцца. Тады будзе бачыць усё Жэнька, бачыць, як ён абапрэцца, упаўшы, на локці, локці праваляцца ў мох, і ён ткнецца галавой між купін, у жоўтую лужыну, усё роўна як захацеўшы піць. Хоць бы ў чыстую лужыну, а то туды, дзе Светка, скачучы, што каза, з вяхой, разбалабошыла гразь... Жэнька будзе смяяцца, рагатаць на ўсю Сырніцу. Стане з лентай у руках, задзярэ галаву, адкіне яе аж на плечы, зажмурыцца ад сонца і будзе смяяцца не спіхаючы. Яе чорныя валасы рассыплюцца па плячах па стракатай сукенцы. Жэнька не скора супакоіцца, аж пакуль на яе не стане крычаць здалёку Завішнюк.

Юрку зноў робіцца нудна, і ён пачынае злавацца на Жэньку. Калі яна стане смяяцца з яго, ён ёй ніколі не раскажа пра сябе нічога, не раскажа, як ён капаў яму і як яго страляў паліцай.

Юрку хочацца самому пасмяяцца з Жэнькі. Вось каб яна паляцела носам у балота...

Але яна не падае. Не падае і не пішчыць, як Света. Яна ўмее хадзіць па балоце: чвяк-чвяк, чвяк-чвяк... Валюх-валюх з боку на бок, што качка... Жэнька, мусіць, зусім і не гарадская... І смяецца, Юрка ўспамінае, яна не заўсёды. І цяпер, мусіць, не стала б смяяцца з яго.

Нейкая яна сур'ёзная і ціхая. Усё пасля той вечарынкі ў Палюхі такая. Юрка ўсё ведае, што там было, уся вёска ведае. Ён, Юрка, паказаў бы таму Чаркашыну... Ён нават не ведае, што зрабіў бы... Але хай Чаркашын надта не носіцца... Юрка яму яшчэ не даруе. Ён яму зробіць «падэсце», як гаворыць Акцызнік, і будзе рабіць, аж пакуль Чаркашын не з'едзе куды са сваёй калонай. Юрка ведае, што трэба зрабіць, каб не завёўся ў машыне матор. І ён не завядзецца. І не будзе заводзіцца кожны дзень...

Юрка ведае і як страляюць колы ў машыне... Ён, Чаркашын, пазнае, хто такі Юрка... А Завішнюк добры... Добры... І ён, Юрка, гэтак бы зрабіў, як Завішнюк, каб толькі змог дастаць у Чаркашына яго доўгую морду. Зрабіў бы... Хай бы тады і Жэнька ведала, хто такі Юрка...

Але Юрка думае, што тады б Жэнька на яго злавала, яна, мусіць, за гэта злуе і на Завішнюка. Злавала б, не гаварыла. Тады Юрку нічога не хочацца рабіць Чаркашыну — ніякага «падэсця». Не хочацца і расказваць Жэньцы, як яго страляў паліцай, калі палілі вёску. Жэнька будзе тады строгая і ніколі не засмяецца з яго, Юркі. Не, хай яна лепш смяецца. Як яна добра смяецца — што бусел. Якая яна тады прыгожая, і ў яе па плячах рассыпаюцца валасы. І не відаць вачэй, зусім не відаць. Яна, мусіць, як смяецца, заўсёды іх прыжмурвае...

Юрка думае цяпер, што ён ніколі не скажа Жэньцы пра паліцая.

— Стой,— камандуе яму Жэнька, нейк зусім ціха. Ён не пачуў бы яе голасу, каб не нацягнулася лента і не тузанула за руку.

Калі ён спыніўся і агляануўся — убачыў, як Жэнька хуценька сагнулася ля прутка, за які зачэплена лента, і выставіла руку ўперад.

«Нацягвай...— значыла — і нацягвай не баючыся. Не лопне лента...»

Гэтак рукой заўсёды паказваў Завішнюк і гаварыў: «Нацягвай. Не бойся». Юрка падумаў, што і Жэнька робіць усё так, як рабіў Завішнюк. Толькі яна не дзярэ горла, яе зусім не чуваць. А Завішнюк і сёння нарабіў гоману на ўсё балота. «Вяха-два! Вяха-два! Правей!..» — крычыць ён усё на Свету. Як Міхал усё роўна на баб у вёсцы...

Сагнуўшыся, Юрка нацягвае ленту. Яна роўна кладзецца на мох і траву; тут, дзе яны прайшлі, зусім няма купін, «чыстае поле». На траве лента ўся блішчыць — роўная і доўгая, як чорт ведае якая вялікая і вострая змяя. Юрка хоча адразу ж утыркнуць у зямлю пруток, совае і совае, але той ніяк не хоча лезці, упіраецца ў нешта цвёрдае, як у палена. Разбалабошылася гразь, пруток ужо зусім не хоча трымацца, а пад рукой няма ні каложка, ні віткі — іх усе знесла з сабой Света,— не будзе чым зрабіць знак.

— Давай...— чуе ён, як падганяе яго здалёку Жэнька.

Ён тады са злосцю порхае прутком у зямлю і чуе, што прапароў свой чаравік, дастаў аж да нагі. Гэта доўгі баць-

каў чаравік у балоце здаўся паленам, і ў яго поркаў прутком Юрка. Нагу прасадзіць можна...

Юрку смешна... Ён выцягвае нагу з гразі — і пруток лезе тады ў балота,— здаецца, аж на той свет.

— Вітку!.. Дзе віткі?..— крычыць цяпер і Юрка на ўсё балота, як Завішнюк.

— На сухім віткі!.. Ля бяроз... Сам схадзі...— адказвае яму Света. Яна ўжо далёка, аж за вялікім чорным карчом-вывараткай. Стаіць з «вяхой-два» ў руках, не здрыганецца. А на тым месцы, дзе яна перш стаяла з вяхой, Завішнюк расстаўляе тэадаліт.

Але па вітку — бярозавы доўгі дубец (Юрка заве яго так, бо імі, бярозавымі дубцамі, у Лонве віталі плот) — Юрка не пойдзе. Жэнька махае рукой, паказвае, што разбярэцца, убачыць, дзе тырчыць пруток, хай Юрка здымаецца і ідзе далей, па слядах.

— Шпільку я найду... Найду...— Жэнька называе жалезны пруток шпількай, як і Завішнюк. Завішнюк, відаць, яе і навучыў так зваць.

Шпільку знойдзе Жэнька, падбярэ. Падбярэ і ўсе адзінаццаць штук. Цяпер іх ужо толькі дзевяць у Юркі на руцэ. Матляюцца, бразджаць, поруць штаны ля калена — шпількі вострыя. Іх — усе — трэба перадаць Жэньцы. Юрка ідзе першы і, напяўшы ленту, утыкае ў зямлю шпільку-пруток, прыціскаючы яе да «кручка наканечніка ленты», як кажа Завішнюк. Калі ж ён, Юрка, падаецца з лентай наперад, Жэнька забірае сваю шпільку — надзяе яе на металічнае кольца, якое ў яе на руцэ,— і ідзе за Юркам, аж пакуль не наткнецца на яго шпільку. Тады ўжо гэта шпілька не ягоная, а яе. Калі Юрка нацягне ленту і зноў пойдзе наперад, Жэнька падбярэ і гэту шпільку, начэпіць яе на кольца. Яна за ім будзе падбіраць і падбіраць шпількі, аж пакуль яны ў яе ўсе не забразджаць на руцэ ля локця. Юрка ведае, калі яна падбярэ ўсе пруткі — усе адзінаццаць,— тады яны пройдуць дзвесце метраў. Жэнька крыкне адразу Завішнюку, што ў яе ўсе шпількі; той запіша іх сабе ў журнал, запіша іх сабе ў кніжачку і Жэнька. Вечарам яны з Завішнюком сядуць на пні — бок у бок — і будуць разам падлічваць свае шпількі. А Света будзе дзе-небудзь збоку, адвярнуўшыся, прычэсваць свае кудлатыя белыя валасы і моршчыць нос.

Юрка смяецца кожны вечар са Светы. Прычэсваецца... Патрэбны каму яе валасы ў лесе...

Калі яны пройдуць дзвесце метраў — будуць далёка,

аж там, дзе цяпер Завішнюк з тэадалітам... А сёння сама цяжэй ісці балотам, яно нейкае слізкае ўсё — коўзаешся толькі па куп'і, і нейкае халоднае, як лёд. Юрка змок па калені, і яго пачынае трэсці, ляскаюць зубы. Не сагрэешся, хоць сонца проста паліць з чыстага неба. На хвіліну якую Юрка ўспамінае, як яго схапілі былі дрыжыкі, калі ён, едучы з Разіна на Смыку, убачыў дым над сваёй хатай... Тады таксама было цёпла, а яго схапілі дрыжыкі. Ён яшчэ дрыжаў і ў хляве на сене — у тую ноч, як была вечарынка ў Палюхі, калі яму сасніўся паліцай, што страляў яго на загуменні. Юрка думае тады, што, можа, ён хворы, калі яго так часта трасуць дрыжыкі... Але не, ён, Юрка, не хворы, гэта так намёрзся, калі яны жылі ў новай хаце і там не было печы... Але цяпер у хаце цёпла-цёпла, і Юрку больш не бяруць дрыжыкі. Ён нават спіць не накрываючыся, накрываецца толькі бацька. Бацька хворы.

Калі Юрка ўспомніў, што ў іх дома ў хаце печ, у якой варыць раніцай і ўвечары маці маладую бульбу і пякла нават праснакі на подзе, яму зноў стала цёпла. Тады ён паглядзеў на сонца і не зажмурыўся — яно было не такое ўжо і зыркае, толькі гарачае, аж вачам ад яго горача. Калі Юрка павёў рукамі па твары — твар быў мокры. «Вадой, мусіць, запырскаў, калі цёпкаўся нагамі па лужынах»,— падумаў ён, тады падумаў яшчэ, што яго чамусьці вунь як цягне паглядзець на сонца. Зірнуў раз — і цягне цяпер. Сонца такое — да сябе ўсё цягне.

Яно было яшчэ ранішняе, вялікае, прыгожае і — як смяялася: скакала. І адно-адно над усёй Сырніцай-балотам, над усім мсціжаўскім лесам. Коціцца, падымаецца ўгору і пячэ, смаліць адтуль, зверху, аж сохне адразу гразь на балоце і вяне прыбітая нагамі трава круглец. Раскручваюцца на купінах, расцягваюцца, як лента, і грэюцца на сонцы вужы. У Сырніцы іх не так ужо і шмат, але яны ёсць. Шваргочуць недзе, аж у куце пад Ямскім — у партызанскіх лагерах,— качкі; і высока, не ўгледзіш дзе, аж пад сонцам, просіць вады канюх. Юрка зноў успамінае, што яму хочацца піць і што да Парыпанавай студні сёння не збегаеш: далёка да яе, далёка яшчэ і да палудня, і баляць ногі. Сёння Юрка папросіць вады ў Светы з бутэлькі. У Жэнькі не будзе, а ў Светы возьме і папросіць напіцца.

Юрка думае, што ён вунь як любіць сонца... Успамінае, як у вайну і пасля вайны вясной, калі яшчэ на двары

ляжаў снег, выбегшы босы з хаты, пад прызбу, грэў на сонцы босыя ногі. А летась увосень бегаў у школу босы, калі ўжо раніцай ад марозу была белая трава на сцежцы і змярзалася ў груду гразь на грэблі. Ногі былі тады чырвоныя, што буракі. Юрка выстаўляў ногі на сонца, грэў. Яно было ўжо не гарачае, але грэла...

Ён любіў сонца...

— Цягні!.. Задумаўся... Загараеш...— здаецца, аж пад самым вухам гаворыць Жэнька, і ён уздрыгвае.

Хлюп-хлюп... Ён выцягвае ногі з ямкі, у якую набегла вады аж па калені, ступае на сухую купіну і ідзе памалу якраз на чорны корч-вываратку, куды паказала Жэнька. Ды Юрка і сам ведае, дзе ісці. Толькі Жэньцы трэба ўсё роўна «выкінуць руку ўперад», як яе вучылі...

На балоце шмат журавін. На чырвоным доўгім і тонкім журавінніку яны, тоўстыя і белыя, што боб, і маленькія, дробненькія, што чырвоны гарошак, вісяць высока аж над куп'ём, зачапіўшыся за траву круглец. Трава іх нават і не чуе, не гнецца... Але яны, як ідзеш, пырскаюць і пырскаюць з-пад ног, лучаюць аж па твары. Пырсне журавіна з купіны на шчаку, цвёрдая, што каменьчык,— і хочацца тады пацерабіць пад вокам...

— Правей, правей...

Што гэта яны сягоння як згаварыліся ўсе: правей... правей... І Завішнюк, і Жэнька. Нашто тады Жэньцы і хадзіць з лентай. Стаяла б сабе на сухім, аж там, ля капца на пагранзаставскай дарозе, і камандавала... Юрка думае пасля, што Жэнька з лентай ніколі і не стане хадзіць, яна будзе, як выўчыцца, што Завішнюк: з тэадалітам. І тады Юрку здаецца, што Жэнька гарадская. Вунь якая гарадская... І далёкая-далёкая. Чужая... Юрка баіцца яе, баіцца глядзець на яе. А калі зірне — уздрыгвае. Хоць бы яна не згледзела — смяяцца стане. І раскажа Завішнюку, калі яны сядуць на пень «падлічваць шпількі»...

Чвяк-чвяк... Калі Юрка спыняецца, чуе, што ззаду ўсё ідзе Жэнька. Не дайшла тады яшчэ да «яго» шпількі... Яму трэба ступаць далей, на гладкае. А гладкае балота ў Сырніцы — самае горшае. На ім можна праваліцца на той свет. А дзе купіны — смялей.

На гладкім нават і слядоў няма — адна рудая гразь. На ёй бліскучая, як ад бензіну, вада і маленькая-маленькая трава з зялёнымі лісточкамі, што зайцава капуста. А можа, Завішнюк са Светай абышлі гэту гладкую латочыну? Абышлі і пайшлі далей... Юрка падумаў, што ён

баіцца ступіць сюды, у рудую гразь, баіцца, бо яго пачынаюць браць дрыжыкі. Ён аглядаецца назад: хоць бы Жэнька не ішла, хоць бы яна скарэй знайшла «яго» шпільку... А можа, яна, Жэнька, перайшла, згубіла яе? Гэтулькі прайшлі ўжо... Юрка хоча крыкнуць ёй, каб лепш глядзела пад ногі.

— Правей, правей... Да шпількі недалёка. Я яе даўно ўгледзела. Вачэй не спускаю, каб не згубіць...

Юрку здаецца, што гэта над ім угары крычыць канюх, забыўшыся, што яму, канюху, трэба прасіць піць. Правей — гэта на самае роўнае месца, якраз пасярод яго трэба ісці. А там і травіца нават не расце. Юрка стаіць і, стоячы, перабірае ў пальцах, цягне ленту, скручвае ў руках, што вяроўку: не цягні, не скручвай — стане і Жэнька, будзе крычаць на ўсё балота. Лента корчыцца, бразджыць, выскоквае з рук і, як змяя, круціцца ля ног...

Юрка хоча тады крыкнуць самому Завішнюку, запытацца, дзе яны абыходзілі гэта месца... Але Завішнюк далёка, за выvараткай, яго адгэтуль зусім не відаць. Ён не пачуе. А можа, яны — Завішнюк са Светай — як ішлі, так і пайшлі праз роўнае, там, дзе няма травы, а гразь залізала іхнія сляды? Калі Юрка так думае, яму не страшна, але ён усё роўна дрыжыць. Чаму ён сёння так дрыжыць? Як апечаны ўвесь — да сябе не даткніся...

— Стой!.. Шпілька!..— Чуваць, як уздрыгнула Жэнька. Юрка бачыць, як яна сагнулася і падняла руку: цягні, не бойся...

Хлюп-хлюп... Хлюп... Вада заходзіць адразу за калені, чуваць праз картовыя штаны. Здрыганулася ўся роўная латочына, закалыхалася, што кісель, наверх на гразь выступіла чорная вада,— відаць, як намачыла галоўкі трава, што падобна на зайцаву капусту. Юрку здалося, што ён сабраўся купацца, зайшоў голы ў ваду і ніяк не асмеліцца — трэба адразу даваць нырца. Ён перакінуў ленту цераз плячо, як лейчыну, разам з пруткамі-шпількамі, і пайшоў памалу-памалу, як пераходзіў не раз у Цыбульскім бродзе Вілію, калі ішлі з маці ў Даўгінава на рынак.

Гразь была халодная, што вада ў бродзе вясной, і булькатала — наверх выходзілі маленькія бурбалкі і лопаліся, што ў запечку ў дзежачцы, дзе ўчынены хлеб.

— Цягні!.. Цяг...— пачуў ён раптам, як аціхла недзе там, ззаду, Жэнька... Ён яе ўжо не слухаў. Гразь падпялася неяк адразу аж пад пахі, і ён пачуў, што трава, якая

падобна на зайцаву капусту, пахне кропам, усё роўна як кропам... Зрабілася холадна-холадна ў ногі, бы ён стаяў цяпер босы на лёдзе; бурбалкі сталі дробненькія, іх было многа-многа, яны адразу лопаліся і пырскалі па твары маленькімі кропелькамі, што дождж-імжа. Юрка пачуў яшчэ, што паднізам па нечым цвёрдым лёгка ступаць у вялікіх і цяжкіх чаравіках, лягчэй нават, чым рассоўваць грудзьмі гразь.

«Крыніца, мусіць, пад зямлёй...— падумаў ён.— Знясе яшчэ. Хаця б не схапілі дрыжыкі...»

Але дрыжыкі не хапалі, яму — як у вадзе, калі асмелішся,— было цёпла! І стаяў ён на цвёрдым, што на дне ракі. І да купіны было ўжо зусім блізка, крокі чатыры, і гразь паменшала, даставала толькі да паясніцы. На купіне Юрка ўгледзеў здалёку абтаптаную траву і сагнутую, уторкнутую абы-як вітку. Там, мусіць, нядаўна стаяла вяха, а можа, і тэадаліт. Юрка ўбачыў яшчэ, што прорву Завішнюк са Светай абышлі бокам. Знаць іх сляды — цягнуцца ад вывараткі.

Яму захацелася цяпер адвярнуцца і паглядзець, дзе Жэнька. Крыкнула сваё «цягні» і папярхнулася, як сарока кавалачкам сала на нітцы на сметніку. У вайну Юрка так лавіў сарок...

Калі ж ён адвярнуўся, то Жэнькі на тым месцы, дзе яна была раней сагнуўшыся, не ўгледзеў. Падумаў тады, што Жэнька недзе адышлася і сядзіць на сухім курганку, чакае, покуль ён вылезе са сваёй лентай. Яны ўсе такія: і Света і Жэнька — абы прываліцца дзе ды пасядзець. Ногі ім усягды баляць!

Тады ён пачуў, што ў яго недзе збоку нехта чвякае па гразі. Ходзіць... Ён павярнуўся яшчэ. Над ім стаяла Жэнька... Яе ён не бачыў, бачыў толькі вочы... Вялікія-вялікія і чорныя. У іх быў страх. Жэнька нечага баялася, ён адразу не здагадаўся чаго. Калі ж ён вылез, увесь у твані і ў траве, што падобна на зайцаву капусту, на сухое, Жэнька падскочыла да яго. Страху ў яе чорных вачах ужо не было, можа, яго і зусім ніколі не было. У вачах была злосць. Злосць на яго, на Юрку, ён здагадаўся...

— Малі бога, што не бачыў цябе Завішнюк... Малі бога...— Жэнька аж захліпалася, трэсла галавой: адкідвала валасы назад — яны не слухаліся, падалі ёй на твар, закрывалі вочы.

«Чаму яна не адкіне іх назад рукамі?..— падумаў ён

і ўбачыў тады, што рукі ў яе аж па локці ў гразі.— Што яна дзе імі рабіла?..»

— Малі бога, што не бачыў Завішнюк...

«Няўжо яна так баіцца Завішнюка? І чаму ў яе ў гразі рукі?» — падумаў ён яшчэ і, калі яна зноў сказала «малі бога...» — усміхнуўся і, сагнуўшыся, пачаў выціскаць прыгаршчамі з моху чыстую ваду.

Яна супакоілася, стаяла і глядзела на яго. А ён, памыўшы рукі, не хацеў адгінацца, баяўся глядзець ёй у вочы. Нейкая радасць, ён не ведаў яшчэ адкуль гэта, падступіла да яго: Жэнька ўсё бачыла... Яна ратавала б яго... Тады яму зрабілася сорамна: Жэнька можа падумаць, што ён хацеў паказаць ёй, які ён смелы...

Калі ён узняў на Жэньку вочы, убачыў, як яна стаіць, развёўшы рукі і растапырыўшы чорныя ад гразі пальцы. Яе чорныя валасы зусім схавалі ёй твар, блішчалі толькі недзе з-пад іх, як у дзікай казы, вялікія вочы.

Ён тады сумеўся, і яму стала горача!

Яна падышла да яго. Блізка-блізка...

— Закінь мне за шыю валасы. Не відаць нічога...— Яна ўздыхнула. Хвалявалася, мусіць, яшчэ. Спалохалася праз яго, ці што.— У мяне рукі ў гразі... Валасы рассыпаліся... Адна бяда з імі.

Ён не ведаў, як гэта рабіць, ён ніколі гэтага не рабіў...

Ён доўга глядзеў на яе сваімі спалоханымі вачыма — недзе як звярок,— тады падняў адубелую руку — яна, мусіць, адубела ад холаду, ад таго, што ён быў у прорве,— і адкінуў ёй валасы з твару назад, за шыю... Яны рассыпаліся, чапляліся яму за пальцы, і ён думаў, што робіць гэта не так, як трэба, і зусім не так, як хацела Жэнька. Пасля ён стаяў і не апускаў рук... Убачыў, што і твар у Жэнькі ў гразі. Хацеў быў сказаць, каб яна памыла твар і рукі, можна з моху выціснуць чыстай вады, але не асмеліўся. Калі ён апусціў руку і сціснуў пальцы, яму здалося што ў яго гарачая рука. Пасля ён падумаў, што валасы ў Жэнькі мяккія, як лён. А яму здавалася, што яны шорсткія... Мусіць, так здавалася, што яны былі чорныя...

«Жэнька прыбегла ратаваць,— падумаў ён зноў,— кінула ўсё і прыбегла...»

Тады ён успомніў, што яна звала яго: «Адзін лапаць — другі бот» і «Егаза». «Адзін лапаць — другі бот»,— Юрка ведаў, што да чаго. А «Егаза» — не ведаў. Што гэта за слова: «Ега-за»... Ён многа разоў хацеў спытацца пра яго ў Завішнюка і не спытаўся.

Егаза — гэта нешта добрае. Жэнька дрэннага ніколі не скажа. Жэнька сама добрая, вунь якая добрая...

Яна адышлася ад яго, недалёка,— каб у руках была рабая «вяха», яе, Жэньку, можна было б нават дастаць,— стала, схілілася на правы бок, яшчэ больш растапырыла свае рукі ў гразі, як птушка крылы, сагнула галаву і глядзела на яго сваімі чорнымі вачыма зусім спадылба. Яны былі ў яе цяпер чорныя-чорныя — Юрка такіх не бачыў ні ў кога,— пераводзілі яго з ног да галавы і патрошачку-патрошачку пачыналі ўсміхацца. Юрка іх цяпер зусім не баяўся. Ён сачыў і сачыў за імі не адрываючыся,— здавалася, што яны большаюць і большаюць, робяцца вялікія, і шныраць, шныраць па ім... Блішчаць і смяюцца. Глядзяць на яго і смяюцца...

Юрка зірнуў на сябе — не ўбачыў ні штаноў, ні кашулі, ні вялікіх бацькавых чаравікаў — усё было заляпана гразёю, да якой паналіпала зялёнай травы, што падобна на зайцаву капусту. Гразь на сонцы хутка абсыхала і пачынала рудзець.

«На каго я цяпер падобны?..» — падумаў ён.

Калі зноў падняў вочы — угледзеў, што Жэнька вярнулася і ідзе да яго. Памаленьку перастаўляе свае бліскучыя гумавыя боцікі па рудой траве. Ідзе, а вочы яе смяюцца. І зноў робяцца вялікія...

Ён тады зжахнуўся ўвесь — ніколі яшчэ так не жахаўся — і падумаў: «Хаця б не схапілі дрыжыкі...»

Калі Жэнька была ўжо блізка ля яго,— ён нават чуў, як яна часта дыхала,— недзе там, ззаду за імі, у самым кутку Сырніцы, ужо на сухім, на Ямскім, дзе партызанскія лагеры, пачуўся Завішнюкоў голас:

— Гэй, там! На лініі!.. Дзе пахаваліся? Не бачу... Мне каб работа кіпела... Мне каб сёння на сухім былі...

Завішнюк усё крычаў і крычаў здалёку,— мусіць, праўда, не бачыў іх: яны былі за вывараткай.

— Дзе пахаваліся?! Я вам загару... Я вас разжаню... Жэ-энь-ка!..

Завішнюк крычаў, а Жэнька ўсё ішла да яго, да Юркі. Ён тады падумаў, што Жэнька зусім і не баіцца Завішнюка... І не хоча яго слухаць, не хоча...

Але яна нечага раптам спынілася — не дайшла да яго якія два крокі, спынілася ля курганка — трава на курганку даставала ёй на калені, да сукенкі,— выпрасталася, падалася неяк уся да яго, Юркі, узмахнула рукамі, як

малады бусел высока на гняздзе крыламі, і засмяялася-засмяялася... На ўсю Сырніцу.

Юрка зноў падумаў, што яна, Жэнька, зусім не баіцца Завішнюка і смяецца яна з яго, з Юркі, бо ён цяпер вунь які смешны, у гразі, і засмяяўся сам, разам з Жэнькай.

Тады яна раптам сумелася, натапырылася ў той бок, дзе крычаў Завішнюк, паслухала, зноў была засмяялася, зноў махнула рукамі і сказала зусім ціха,— мусіць, каб не пачуў Завішнюк:

— Ты харошы... І зусім не егаза, зусім не егаза...

Пасля крутанулася, скочыла недзе назад, у траву,— як спалоханая качка зляцела з курганка,— і пабегла, пабегла па балоце...

Юрка тады ўздрыгнуў.

«Што яна хацела зрабіць?.. Што?» — Яму стала ўсяму горача пад мокрай вопраткай. Ён падумаў, што ведае, што яна хацела зрабіць, і збаяўся таго. Пасля падумаў, што Жэнька зусім жа не гарадская, зусім... Як яна лёгка бегае па балоце, што каза...

А Жэнька бегла не туды, дзе тырчаў яе пруток, а да гарбатай вываратні, дзе блішчала ў яме рудая вада.

«Яна пабегла мыць рукі...» — падумаў Юрка, і яму стала тады нечага крыўдна і захацелася плакаць.

Калі ён пачуў, як усё крычыць, не сціхае Завішнюк, то падумаў, што вунь як ён злуе на яго, Завішнюка, на яго недзе цяпер злуе і Жэнька; падумаў пасля, што ніколі, ніколі не любіў Завішнюка і не будзе любіць, які б добры ён ні быў...

Ён, увесь у гразі, з лентай на плячы і пруткамі на сагнутай у локці руцэ, увесь устрывожаны і балючы, стаяў ля курганка і глядзеў на бурую ад торфу, вялікую, што стары мядзведзь, вываратку, пад якой сагнулася Жэнька.

...У бары гарачая зямля — аж гарыць, здаецца. Адкінеш рукі на сівы мох, ён — нібы толькі што падсушаны і выцягнуты з печы на вялікай шырокай блясе — коле ў далоні і крышыцца. Крышыцца на муку, на пыл. Так высыхала ў печы лісце вобаратніку, якое адразу пасля вайны насілі з балота ў кошыках і торбачках і сушылі на праснакі.

Юрку не хочацца таго ўспамінаць: не любіў ён ні вобаратніку, ні праснакоў, сухіх і калючых, што рассыпа-

ліся па зубах, як жарства; яго, Юрку, тады на балоце пад Цянямі ўкусіла гадзюка.

Калі даўжэй ляжыш на зямлі, зямля яшчэ больш здаецца гарачая. Яе тут, на ўзгорку, з самай вясны сушыць сонца. Пасох верас, парудзела папараць — маленькая, не адскочыла нават ад зямлі, асыпаўся багун і ягаднік; пачаў жаўцець знізу і малады сопнік. На ўзгорку — адзін малады соснік, толькі аж у куце, пад Ямскім, тырчаць разгатыя вярхі старых сосен — з зямлі, калі ляжыш дагары, яны добра відаць.

Смажыць. Даўно апаражнілі бутэлькі з вадой, што былі ў дзяўчат. Акцызнік не стрываў — сышоў да Парыпанавай студні. Юрка не пайшоў за ім, ён выціскаў ваду прыгаршчамі з моху і піў — адгэтуль яму сёння нікуды не хацелася ісці. Ён і кашулю апаласкаў ад гразі ў яме пад вывараткай, кашуля даўно высахла на сонцы, і цяпер ад яе пахне мохам і журавінамі; штаны ён не асмеліўся здымаць, каб памыць, ды іх усё адно заляпаў бы ў гразь, а яны высахлі, і гразь ад іх сама абсыпалася друзалачкамі...

Горача,— здаецца, і лежачы на зямлі няма чым дыхаць. Сонца даўно схілілася з паўдня, схавалася за соснамі, дало цень, а на пагорку парыць і парыць. Гарачы мох і верас — не дакрануцца. Калі прыхінеш вуха да зямлі, здаецца — недзе далёка, пад Мсціжамі, грыміць гром: гур-р... гур-р... Усё роўна як там зноў бярэ гарнізон «Жалязняк»...

Але ў тым баку неба чыстае, як вымытае: і яно высахла ад гарачыні і пабялела.

Жэнька са Светай пабеглі недзе на Карэнне — збіраць брусніцы; і ногі не баляць, нібы і не лазілі ад рання па балоце. Чуваць нават, як яны смяюцца нечага на тым Карэнні. І любяць жа брусніцы. Адна кісля, а яны ядуць. Света дык прыгаршчамі будзе ў рот сыпаць і не зморшчыцца. І ён, Юрка, любіць брусніцы, але яны яшчэ зялёныя, не паспелі.

Пасля Юрка думае, што дзяўчаты скора паедуць, і іхнія спелыя ягады астануцца некранутыя. Змерзнуць, перастаяць пад снегам зіму, а вясной будуць яшчэ чырванейшыя. І кіслейшыя — Масква відаць, кінь толькі адну ў рот.

А дзяўчаты смяюцца — пайшлі ўсё далей і далей. Смяюцца, мусіць, з Чаркашына, бо і раніцай, ідучы сюды, з яго ўсё смяяліся. Ён ужо аж дзве ночы запар прыязджаў з Мсціжаў у Лонву, адчапіўшы недзе прычэп; дзве ночы

ў дзверы ім, дзяўчатам, стукаў, ды яны не пусцілі. Света яму «нос» паказала. Мусіць, ён ёй нешта зрабіў тады, калі яны танцавалі ўсю ноч у Палюхі; пацалаваў, мусіць, ды яна не прызнаецца. А цяпер катаць прыязджаў у машыне. Ноччу. Чаркашын, як стаіць у Лонве, катае кожны раз у кабіне дзяўчат. Кожны раз. І ўдзень і ноччу, Юрка бачыў. Юрка і не гэта яшчэ бачыў, не гэта знае пра Чаркашына. Але хай той яшчэ раз паставіць машыну на дзядзінцы ля партызанскага камення, а сам хай пойдзе, сагнуўшыся, як злодзей, стукаць Акцызніку ў акно... Хай толькі пойдзе...

Калі Юрка сцішыўся і слухаў, як на Карэнні крычаць дзяўчаты, чуў яшчэ — недзе блізка ў яго над вухам шамаціць папера. Ён ведае, што гэта сеў на пні Завішнюк і «прыводзіць у парадак свой абрыс»... Скора кончыцца тады палудзень, трэба будзе зноў лезці ў балота, калі Завішнюк узяў у рукі журнал. Завішнюк, як і Юрка, ляжаў быў, раскінуўшы рукі, на імху, закурыў нават, лежачы, папяросу,— нейкую тоненькую і кароценькую, «Спорт», ці што,— і адразу патушыў. Можа, збаяўся, што ў мох агню падаткне, а можа, проста кінуў, не захацеў смактаць, як смокча Акцызнік. Што з ім стала рабіцца, з гэтым Завішнюком? Курыць пачаў. Толькі не разбярэш: не то курыць, не то — не. Крычаць яшчэ вунь як стаў і камандаваць, мудрэй за Міхала. У яго, у Завішнюка, усё разбіта па мінутах. Памыў рукі пад вывараткай, папалудняваў разам з усімі, дзе ён там палудняваў, гламзануў трохі, ваду нават сваю ўсю з бутэлькі не выпіў, адкаціўся ў цень, зняў акуляры, выцер ад поту лоб, лёг і заплюшчыў вочы. Мусіць, ён і паспаў ужо. А цяпер устаў, надзеў недзе акуляры і журнал прыводзіць у парадак... Скора закрычыць-закамандуе на ўсю Сырніцу:

— На лінію!..

Аж сінюкі спалохаюцца. Заціцькаюць, фыркнуць і палятуць на Карэнне. Сінюкоў тут, у Сырніцы, многа,— скачуць з галінкі на галінку па сосніку, клююць маладую кару — і духаты ім няма, і піць не хочацца.

Юрка думае, што ў Завішнюка асталася ў вялікай чорнай Грасыльдзінай бутэльцы вада, але ён не папросіць. Ён зноў на лініі выцісне яе прыгаршчамі з моху і нап'ецца, хоць яна цёплая, зялёная нейкая, і ў ёй плаваюць маленькія чорныя парушынкі: драбней маку.

Як хочацца піць! Над Сырніцай-балотам аж стогнуць канюхі — іх аж тры. Узрушыў іх нехта, носяцца, выпра-

стаўшы крылы, сасмяглі. Юрка, лежачы, добра бачыць іх — круцяцца адзін за адным — спуюць кросны, высока-высока, аж там, дзе белае ад смугі неба. Недзе за імі грыміць зямля — гур-р... гур-р...

Юрка зусім разамлеў, як канюхі ў небе... Не хочацца ўставаць самому, хутчэй бы Завішнюк закрычаў сваю каманду: «На лінію!» Тады б Юрка выціснуў у балоце прыгаршчамі вады... Але Завішнюк не крычыць, суцішыўся, не шастае нават сваім «абрысам». Юрка падняў галаву — угледзеў, што Завішнюк зусім не чытае свой «абрыс»,— падпёрся рукой і думае. Пра што ён думае? Крычаў бы ўжо: «На лінію!» Але Завішнюк не крычыць і, можа, будзе доўга так сядзець — як і ўчора. Сядзець і думаць... Пасля ўзарвецца са свайго пня, як утрапёны, і будзе крычаць аж да самага вечара, пакуль яны не выйдуць на Ямскае — на сухое.

Юрка вунь як чакае, калі яны выйдуць на Ямскае... Пройдуць партызанскія лагеры-зямлянкі — там Юрка быў, ведае нават «штабную» зямлянку, дзе жыў камбрыг «кутузаўцаў», яна яшчэ цэлая, толькі абгарэла ў блакаду, немцы падпалілі,— і дойдуць да Жукаўшчыны. Пойдуць самым краем, ад мастка — па дарозе. Старая лінія ідзе па самай дарозе — лінію і чысціць не трэба. Праз усю Жукаўшчыну.

Жукаўшчына — лопваўскае поле. На ім расло жыта, яго даўно звезлі на ферму — вазілі снапы дзень і ноч. Вазіў і Юрка на Смыку.

Жукаўшчына цяпер чыстая, па ёй — па ржышчы — пасуць скаціну. І калгасную і вясковую. Але Жукаўшчына чыстая толькі да бярэзніку-грады, які ля дарогі цягнецца аж да старога, даваеннага маяка. Маяк разбайдавалі ў вайну, ад яго асталіся толькі дзве «драбіны» з палкамі-ручкамі, за якія чапляешся, калі лезеш наверх. Драбіны хістаюцца. Па іх ніхто цяпер не лазіць. А ў вайну лазілі. І партызаны, калі рабілі засаду на немцаў ля мастка, і Юрка, калі гуляў «у немцаў». Аж з Лонвы сюды прыходзіў з дзецьмі гуляць. Лазіў на маяк на самы верх, бо лазілі Сідарка з Валуйком. Як тады круцілася ў галаве — усё адно як хто раскалыхаў яго ў пуні на лейцах, што былі перавешаны цераз бэльку. Хацелася адарваць рукі ад палак і закрыць далонямі вочы — тады б, здавалася, не круцілася і ў галаве. Але рукі Юрка не адарваў бы нізашто. І не закрыў бы імі вачэй. Колечка Янкаў на самым версе закрыў вочы і паляцеў на зямлю. Ляцеў і

крычаў — на ўсю Жукаўшчыну. Калі да яго падбеглі, ён ціха ляжаў на пяску, не кратаўся, а з галавы ў яго ішла кроў. Колечку пахавалі на могілках у той дзень, калі хавалі партызан, што біліся на шапы з немцамі. Мужчыны хацелі пайсці пасля і зрэзаць маяк. Але туды не пайшоў ужо ніхто гуляць. Не лазіў наверх. Садзіліся на ім толькі старыя груганы — іх у Жукаўшчыне многа.

Юрка, калі быў у полі са скацінай, пускаў у іх каменне з пугі.

Завішнюк казаў, што пойдуць з Сырніцы праз лагеры на маяк.

За бярэзнікам ля дарогі, што ідзе на мсціжаўскую шашу, яшчэ стаіць жоўты ячмень — не зжаты. Стаіць, падагнуўшы каласы, паспеў і пахне на ўсю Жукаўшчыну, як зерне ў засеках у калгасным свірне на ферме. Пахне густа і свежа, як аўсяны кісель, які толькі што знялі з агню,— выцягнулі з печы ў вялікім гаршку: на ўсю сям'ю.

Ячмень расце ля самага бярэзніку ў цяні. Рэдкі і маленькі, на пяску, ён цяпер зусім пасох і пакорчыўся. Але ў ім шалеюць баравікі — беленькія, з чорнымі галоўкамі і тоўстым карэннем. Іх кожную раніцу — што насыпана, нібыта хто насяе з начы. Яны халодныя, мокрыя ад расы, і да іх паналіпалі дробненькія смаўжы, скруціліся ад холаду, усё роўна што шэры гарошак. Калі зрэжаш баравік, з яго трэба саскрабаць смаўжоў нажом — што бульбу маладую чысціць.

Колькі Юрка перанасіў адтуль — з бярэзніку і з ячменю — баравікоў... І адзін, і з бацькам... Маці сушыла іх усё лета ў печы: і на блясе — гэта старыя, вялікія, жоўтыя; і на ражнах, нашчапаных з лучыны — гэта маладзенькія, беленькія з рудымі і чорнымі галоўкамі. Іх клалі ў печы на под, падаслаўшы жытняй саломы з кулёў... Яны хутка сохлі ў печы, калі закладала маці юшку, і пахлі на ўсю хату. Пахлі бярэзнікам, ячменем і кісялём — усёй Жукаўшчынай і Сырніцай...

Яны будуць ісці лініяй ля бярэзніку і ля ячменю аж да маяка. За маяком соснік — гэта ля самай дарогі. Соснік увесь зрыты: у ім партызанскія акопы. То вялікія, доўгія і крывыя, як бароны-зігзагі,— мусіць, кулямёты ў іх стаялі; то маленькія, вузенькія — на аднаго чалавека,— мелкія: у іх добра і не схаваешся. Акопы ўжо зацерушыліся сасновымі іголкамі і параслі мохам і ягаднікам. Але ў іх яшчэ знаходзіш пустыя патроны-гільзы. Іх хоць прыгаршчамі бяры ў вялікіх акопах, дзе стаялі кулямёты. І ад

рускіх вінтовак, і ад нямецкіх. У партызан былі ўсякія вінтоўкі. Ну і паклалі яны тут у Жукаўшчыне немцаў ноччу ў апошнюю блакаду, Чумак расказваў. Ды і Юрка сам іх здалёку бачыў: ляжалі ў жыце на полі і на дарозе, што вялікія старыя грыбы. Чумака тады параніла ў руку, і ён трымаў яе на грудзях, павязаўшы на белую Грасыльдзіну хустку. Юрка і цяпер помніць, як тырчалі ў Чумака ззаду на шыі ражкі белай хусткі — што рожкі.

Чумак і паранены кулямёта не кідаў — насіў за плячыма і не здымаў.

Дзе Чумак? Пасля апошняй блакады пра яго «ні слуху ні духу», як кажа маці.

Юрка цяпер ужо добра чуе, як грыміць гром, у тым баку, дзе крычаць канюхі, дзе маяк,— на Мсціжах. Яму зноў здаецца, што там бярэ гарнізон «Жалязняк». Тады, калі бралі гарнізон, пачало грымець з самага паўдня; грымела аж да вечара, грымела і ноччу. Ноччу яшчэ было відаць зарыва — стаяла над лесам на Жукаўшчыне, вялікае і чырвонае, і дрыжала, жахалася. Тую ноч ніхто ў Лонве не спаў, не спаў ніхто і дома ў Юркі, не распранаўся нават — ні маці, ні бацька. А ў вёсцы многа ў каго былі пазапраганы коні...

Цёмна тады было ў хаце: не палілі агню. Бацька ўсё хадзіў і хадзіў, месца сабе не знаходзіў, і маўчаў. Маці сядзела ля акна і плакала...

Тады пачыналася блакада...

Калі Юрка ўспамінае тую ноч, яму робіцца холадна ў грудзях і ўспамінаецца паліцай на загуменні...

Юрка цяпер ужо ўздрыгвае, калі грыміць гром, уздрыгвае, і яму ўжо не горача і не хочацца піць. Ён зноў баіцца, каб яго не схапілі дрыжыкі.

Суцішыўшыся, ён доўга ляжыць, ні пра што не думае. Калі ён ні пра што не думае, тады не чуе і як кашляе і шастае паперай Завішнюк, і як грыміць гром. Яму робіцца лёгка-лёгка і вунь як свежа, зусім не горача, бы ён зноў улез аж па пахі ў крыніцу, дзе расце трава, падобная на зайцаву капусту. І мякка — бы ён ляжыць не на цвёрдай баравой зямлі ў Сырніцы, а дома вечарам на сене, калі баляць зморанымя за дзень ногі, зліпаюцца вочы, а недзе на ферме рыкае не доеная яшчэ калгасная скаціна... Ныюць над вухам камары — ад іх трэба хавацца з галавой пад пасцілку,— і пахне, пахне сена.

Пасля робіцца ціха...

«На лінію!..» — крычыць недзе над самым вухам За-

вішнюк, і тады Юрка зноў адразу чуе, як грыміць на Мсціжах гром: гур-р... гур-р... Грыміць моцна і зусім не на Мсціжах, а над самай Сырніцай.

На твар раптам пырснулі халодныя-халодныя кроплі.

«Дождж...» — думае Юрка, падхопліваецца і садзіцца, праціраючы вочы.

— На лінію!.. Я вам пазабаўляюся з хлопца. Найшлі гулі. Света — вехі!.. Са мной зноў пойдзеш. Жэнька — з лентай... Я вам набегаю, я вам пазабаўляюся... Да вечара будзем ужо на сухім... Вачэй з вас не спушчу, пакуль не вылезем з балота. На лінію!..

Завішнюк крычыць, а голас у яго не злосны. Тады Юрка здагадваецца, што быў заснуў. Заснуў і спаў, пакуль не прыйшлі з ягад дзяўчаты і не пырснулі яму на твар вады. Света ўсё стаіць з вялікай чорнай Завішнюковай бутэлькай у руках і смяецца на ўвесь рот. Смяецца і Жэнька...

Тады Юрка зноў працёр вочы і сам пачаў смяяцца.

— На лінію! — строга ўжо загадаў Завішнюк, і Юрка ўсхапіўся з зямлі.

Жэнька адразу падалася за крыніцу, да чорнай вываараткі,— там яны пакінулі ленту са шпількамі.

Ён ішоў за ёй, а на душы пасля сну была трывога. Адкуль яна ўзялася і чаму не праходзіць?..

Перад вачыма ўсё стаяла тая ноч з зарывам, калі «Жалязняк» браў гарнізон і калі пачыналася блакада...

Жэнька ішла хутка — перабірала сваімі ножкамі ў бліскучых гумавых боціках,— аж бегла, як каза; ён спяшаўся, каб не астацца, а ўсярэдзіне ў яго ўсё нешта ныла і ныла. Перад вачыма стаяла зарыва — не праходзіла.

Забалеў пад левай пахай рубец...

І калі грымела, не сціхаючы, далёка на Мсціжах, ён, Юрка, уздрыгваў і са страху кідаў туды позірк, сам не ведаючы чаму.

— Света!.. Вехі!.. Не спаць...— зноў закрычаў на ўсю Сырніцу Завішнюк.

Юрка ўздрыгнуў і пабег даганяць Жэньку. Хацелася быць бліжэй да яе — бліжэй да людзей.

За вывараткай, на сушэйшым, рос круглец, і пад ім, на самай зямлі,— трава, што была падобна на зайцаву капусту. Яе мясілі з гразёю яго, Юркавы, вялікія, з бацькавых ног, чаравікі.

Ён не ведаў, чаму цяпер не мог супакоіцца, суцішыцца на хвіліну. Здавалася, калі правальваліся ногі, ляціш аж на той свет. Тады хацелася кінуць ленту і бегчы куды ў Сырніцу ці на пагранзастаўскую, убітую леспрамгасаўскімі машынамі, дарогу.

Ён думаў, што ніколі ж не баяўся балота. У Цянях касіў сёлета з бацькам і касцамі на самай Жоўтай крыніцы... А Жоўтая крыніца — не Сырніца...

Яму прыйшло было ў галаву, што ён баіцца грымот, што ўздрыгвае тады, калі па Мсціжах грукоча гром...

Ён пазіраў туды скоса, спадылба, але нічога не мог угледзець: неба ў тым баку было чыстае, зацягнутае рэдкімі белымі пісягамі.

І нылі, нылі без аддухі канюхі... Апускаліся нізка, на самы лес, пасля ўзляталі, набіраючы вышыню.

Так лёталі ў апошнюю блакаду нямецкія самалёты, калі бамбілі вёску. Па іх стралялі з фермы партызаны — самалёты тады падымаліся высока, меншалі і губляліся з вачэй.

Гур, гур...— грукоча за лесам. Чвяк, чвяк...— хлюпае пад нагамі балота.

Яны з Жэнькай ужо далёка за вывараткай. Да вечара выйдуць на сухое.

Жэнька ўжо не крычыць, не падганяе. А калі Жэнька не крычыць, не муштруе яго — значыць, ён робіць усё як трэба, і ленту нацягвае так, што не прычапіўся б Завішнюк.

Калі Жэнька не крычыць — яна тады спявае.

Якая яна сёння вясёлая! І як яна бегае. На ёй жа вада не ўстоіць...

Жэнька пяе лепш за Свету, цішэй, можа, толькі. А чаго крычаць на ўвесь лес? Ваўкоў пужаць?

Калі Юрка згінаўся і нацягваў ленту, чуў, што дрыжаць рукі. Пасля не хацелася адгінацца: балела паясніца, аж рэзалася, бы яе перацялі мокрым пяньковым путам. Трашчалі ногі ў суставах, як спіцы ў сухім коле ў калёсах.

Але трэба было пакінуць у траве пруток і, падняўшы на плячо ленту, ісці далей,— таптаць прымятую траву круглец і мясіць з гразёю зайцаву капусту.

Гур...— грукатала за лесам. У тым баку шырока пачыпала цямнець неба. З Жукаўшчыны плыла хмара, бурая і рагатая, што вялікі лось выставіў уперад рогі.

Падзьмуў халодны вецер; у Сырніцы стала свежа, здалося, што і пад нагамі пахаладнела вада.

Юрка, аглядаючыся, бачыў, як вецер рассыпае Жэньчыны чорныя валасы і як яна прыгладжвае іх рукой — гладзіць і гладзіць і ніяк не дасць рады. Можа, цяпер яна і не выстаўляе руку ўперад — не камандуе,— бо ў яе ж яна занята...

Калі круціў вецер, Юрку цяпер рабілася холадна і вунь як хацелася вылезці на сухое. Але да сухога яшчэ далёка. Далёка і да вечара. На сухім яны будуць толькі ўвечары...

— Правей!.. На сасну!.. На сасну! — крычыць недзе далёка, аж у маленькім соснічку, Завішнюк.

Зноў, відаць, вымярае свае вуглы і пагнаў Свету з вехамі на лінію...

— На сасну!.. На сасну!..

Калі сагнешся над самай зямлёй — вунь як тады чуваць гром. Грыміць — што над самай галавой.

Вецер пагнаў па балоце насенне ад кругляцу: маленькія кавалачкі ваты. Яны лезуць у вочы, іх трэба адганяць ад твару рукой, што белых мух.

Зноў лезе аж на той свет пруток... Хаваецца ў мох.

Пад нагамі латочына з журавіннікам і маленькай травіцай. Травіца парудзела, пасохла.

— Вяху!.. Вяху садзі!..— крычыць здалёку Жэнька.— Вяху... Яна ля зломанай бярозы. Вяхой адзнач! Тут пойдзе лінія ў трыццаць восьмы квартал.

Жэньку, відаць, пачуў здалёку Завішнюк.

— Гэй, там! На павароце... Кіньце вяху... Кіньце вяху... Запішыце, колькі да вяхі... Прыйду — праверу...

Завішнюк, калі ў яго з нечым не сыдзецца лента,— пагоніць перамяраць... Юрка ведае. А ён больш не палезе ў гэта балота, не палезе... Яго, Юрку, тады могуць схапіць дрыжыкі. Такі халодны вецер...

Вяха тырчала на сухім, і да яе прыступна было бегчы. Яна была лёгкая, што тонкае яловае грабільна без грабель.

— Нацягвай! Яшчэ цягні!.. Травы многа!..— крычала яму Жэнька, як ён зноў нагнуўся над лентай.

Лента, калі ён цягнуў яе, усё даўжэла і даўжэла, здавалася, яна расцягвалася, як новыя лейцы, калі імі ўціскаеш воз з сенам...

— Стоп! — закамандавала Жэнька.

Тады ён узяў вяху і хацеў утыркнуць яе побач са шпількай.

Вяха не палезла ў балота, цюкнула ў нешта цвёрдае. Ён зноў быў падумаў, што лучыў у вялікі бацькаў чаравік, і адступіўся ўбок.

Вяха не лезла ў балота, хоць ты што. Цюкала пад вадой у нешта цвёрдае, як лёд. Вясной лёд давялося дзяўбці на двары ля ганка, дзе поўна было вады.

Па скуры прабег мароз...

Гур-р-р...

Цяпер ужо грымела над партызанскімі лагерамі. Бурая хмара лезла і лезла з-за лесу, нібыта яе хто адтуль пёр і пёр без аддухі... Пацямнелі на небе ў тым баку белыя пісягі. Вецер гнаў па балоце белы пух і жоўтае лісце.

Яму было здалося, што зноў закамандавала Жэнька. Ён зірнуў — яна стаяла і паказвала рукой, каб хутчэй паставіў вяху, валаводзіцца нечага: дождж на балоце застане.

Заныў у траве вецер і з большай сілай пагнаў па балоце пух і лісце.

Гур-р!..

Цюк!.. Цюк!..

Га-ах!..

...Яму толькі на якую долю памяці мігнулася, што ён на загуменні і на яго паліцай лінуў ґарачага-гарачага полымя...

Здалося яшчэ, што паліцай падняў з зямлі і шпурнуў у вялікую, чорную, што ноч у лесе, яму...

Гур-р-р...

Недзе над самай галавой ударыў пярун...

Тады загарэлася Лонва, як у вайну... І крычалі, крычалі ў агні людзі, аж пакуль не захлынуліся...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Выбух разлёгся па ўсёй Сырніцы і пагранзаставскай дарогай паплыў на Жукаўшчыну — у Лонву.

З самага кутка балота, з ельніку, са старой, расцярэбленай Акцызнікам лініі, праваліваючыся па пояс у балота, бег да вывараткі Завішнюк...

Ён чуў, як наўздагон яму крычала Света: «Жэнька!.. Жэнька!..»

Яму здалося, што ён крычыць сам.

Над Жукаўшчынай грымела не сціхаючы. Там ліў дождж...

*Раздзел адзінаццаты*

# Зарыва над Мсціжамі

Ужо больш гадзіну, як сцямнела — пачалася ноч... Ужо больш за гадзіну ступае і ступае, упёршыся плячыма ў хамут і храпучы, чорны конь. Гэта лонваўскі Смык. Ён чорны, як жук, і калі б ноч стала што сажа, усё роўна было б відаць, як ён кратаецца ў аглоблях, махае галавой і ўпіраецца ўсімі плячыма ў хамут.

Конь чуе далёкую дарогу. Ён чуе і трывожнага ездака, хоць той ужо і не напінае лейцы, бо ідзе і ідзе, звесіўшы да зямлі галаву і выгнуўшы шыю; расцягнуўся,— здаецца, аж паўзе з усіх чатырох пад гару, каб хутчэй усцягнуць калёсы з логу на шашу.

Ён так, расцягнуўшыся, ступаў і па грэблі, па калдобах і паленні-метрах, што панакідвалі леспрамгасаўскія прычэпы (на дрывах падскоквалі калёсы, і тады аж звінела самому Завішнюку ў галаве); ён, Смык, напяўшыся, ча́паў і ча́паў па лажку, па куп'і і траве. Калёсы на лажку не дрыжалі, не ляскаталі, ехаць было лягчэй, і Завішнюк наперад думаў, што ён стане рабіць, калі падымецца на брукаваную шашу...

Ноч пасля гарачага дня бралася халодная, як пад восень. На поўначы, недзе над Сырніцай, неба асвечвалі густыя маланкі. Там дрыжала полымя, нібы хто кратаў і кратаў агонь, не даючы яму самому ўгарэцца. Грукатаў гром, глуха, як пад зямлёй.

Завішнюку здалося, што там яшчэ партызаны, блакада, вайна і гараць вёскі... Яму стала холадна ўсяму пад пінжаком, і ён адчуваў, што закамянеў і стыне. Падумаў, што гэта мо і добра — суцішыцца хоць, пасля падумаў, што гэта проста аслаблі на якую хвіліну напятыя нервы, адпусцілі, даюць адпачыць, што зноў на яго хутка ліне аднекуль варам, і ён зробіцца як апечаны, як і тады ў Сырніцы, калі прыбег да вывараткі...

Калі яму холадна і калі ён камянее, тады падымае галаву і, павярнуўшыся, з перадка, дзе сядзіць, падкурчыўшы ногі, глядзіць і глядзіць на Жэньку...

Ён бачыць толькі яе твар, белы, як вата, як пух, што днём гнала ветрам па чыстай лініі. Жэнька ўся накрыта дзвюма Грасыльдзінымі пасцілкамі; сена па калёсах заслана белым абрусам, але яго зусім не відаць, ён уехаў

у само сена. Не відаць амаль і белай падушкі, што ў Жэнькі пад галавой, і падушка, калі падскоквалі на грэблі і драгалі калёсы, зарылася ў сена.

Калі Завішнюк яшчэ больш паварочваецца да Жэнькі, бачыць рог белай падушкі ў яе пад галавой. Падушка белая-белая, упоцемку бялейшая за абрус, можа, ад таго і такі белы твар у Жэнькі?

Тады Завішнюку робіцца страшна, як і ўвечары, калі ён дабег да вывараткі і калі падняў Жэньку на рукі і ступіў па балоце да пагранзастаўскай дарогі. Твар у Жэнькі тады быў такі ж белы, як і цяпер. Не, цяпер яшчэ бялейшы, і ў цемнаце нават зблізку не відаць Жэньчыных чорных валасоў... Завішнюк успамінае, што ў Жэнькі на галаве белая хустка, якую ёй завязала Грасыльда, калі Жэнька ляжала ў яе ў хаце, у другой палавіне за перагародкай, і калі яе, Жэньку, збіраліся везці ў бальніцу. Завішнюк помніць, як Грасыльда, завязаўшы ёй хустку, гладзіла яе, Жэньку, рукою па адной шчацэ, па другой, як малое дзіця; пасля пацалавала ў лоб і сказала:

— Мая ты дачушка...— тады адвярнулася да Завішнюка і сказала яшчэ: — Вязі, сын, сам... У Акцызніка не тая галава. І не плач. Я не плачу, і ты не плач... Я многа бачыла на сваім вяку...

Грасыльда не плакала.

А ён плакаў, сам нават таго не ведаючы, што можа плакаць. Але яго тады ніхто не бачыў — на людзях ён з усёй сілы трымаў сябе, плакаў у лесе, калі нёс Жэньку на руках перад сабой на пагранзастаўскую дарогу. Якая цяжкая была Жэнька, і калі ён марыўся і задыхаўся, яна яшчэ больш рабілася цяжкая. Тады ён думаў, што яна памірае. І тады ён плакаў наўзрыд, тады яму займала дыхаць і ў вачах круцілася зямля. Каб хоць Жэнька магла ўзяцца рукамі яму за шыю, было б лягчэй ступаць, але рукі ў яе звіслі і зусім абмяклі, што вата...

Каб хоць слова сказала Жэнька, тады б яму стала лягчэй, тады ў яго ўзяліся б і сіла і ногі. Але Жэнька маўчала. Маўчала, як зазлаваўшы на ўсё на свеце: на Завішнюка, які прывёў яе ў лонваўскія лясы на лінію, на зямлю, якая ад вайны хавала аж дагэтуль смерць, на Юрку Даліну, якога панесла з вяхой якраз жа на самую пагібель і якога ўжо няма. Няма і не будзе ніколі... Таму Жэнька маўчала. Толькі трошачкі-трошачкі адкрывала вусны, мо прасіла піць, пасля іх сцяла і змоўкла, як навек.

Тады Завішнюку хацелася, каб яна хоць глянула на яго. Але яна заплюшчыла вочы... Не хацела глядзець ні на яго, Завішнюка, ні на неба, якое было чыстае і гарачае і на якое толькі далёка на Жукаўшчыне сунуліся хмары, ні на канюхоў, што круціліся, здавалася, над самай галавой і прасілі піць.

Як яны хацелі піць, як недзе хацела піць Жэнька. Але сцяла вусны, не папрасіла, заплюшчыла вочы — не хацела глядзець на ягоную рудую цёплую ваду, якую ён выціснуў рукамі з балота, каб толькі змачыць Жэньцы вусны...

Калі яму здавалася, што яна не дыхае, ён тады спыняўся, згінаючыся, клаў яе асцярожна на мох і, нахіліўшыся да самага яе носа, слухаў...

Жэнька дыхала...

Калі яму зноў здавалася, што яна не дыхае, ён нагінаўся вухам над яе грудзьмі, каб пачуць сэрца, але ніяк не мог знайсці, дзе яно... Тады шукаў пульс. Пульс біўся, але яму, Завішнюку, здавалася, што гэта дрыжаць ягоныя пальцы...

Тады ён плакаў наўзрыд...

І толькі калі Жэнька кратала вуснамі, ён верыў, што яна жыве, што яна выжыве, што трэба бегчы хутчэй з ёй у Лонву.

Калі ён адхінаў яе рассыпаныя па твары чорныя валасы, на левай белай скроні бачыў маленькую зусім ранку. З яе сачылася кроў, патрошку-патрошку, і запякалася ў дзве-тры ягады брусніцы.

Ён тады баяўся глядзець ёй на скронь. Падкошваліся ногі, займала дыхаць, было горача, як ля агню, і мярцвелі рукі,— як бы хто круціў і выцягваў іх з плячэй... Ён думаў, што выпусціць Жэньку, не ўтрымае, і яна ўдарыцца аб зямлю. Ён тады сціскаў зубы і камянеў. Рабіўся чорствы — сам не ведаў, што можа зрабіцца такі,— і тады ў яго бралася аднекуль сіла. Тады ў яго дзервянелі рукі, ён ужо іх не мог разняць...

Ён так бы нёс яе, на руках, аж у Лонву, калі б ля мастка не былі леспрамгасаўскія возчыкі... З імі яны і прыехалі да Грасыльды на двор.

Грасыльда нікога не пусціла ў хату — стаяла на двары ля сенечак і не пускала.

— Не трэба мітрэнжыць людзей... Усё будзе добра. Я не гэта відзела. Не лезьце ў хату. Жывая дзяўчына, жывая...

Завішнюк усё чуў, што гаварыла яна на двары. Ён

доўга стаяў, нахінуўшыся, над ложкам, дзе ляжала Жэнька, пасля, дастаўшы з чамадана свой новы ручнік, памачыў яго ля печы ў ваду — проста апусціў у вядро — і змыў у Жэнькі са скроні пісягі засохлай крыві. Кінуўшы ручнік на лаву за стол, ён зноў — каторы ўжо раз — шукаў у яе, у Жэнькі, пульс.

Нехта з леспрамгасаўскіх возчыкаў пабег на ўчастак у кантору, дзе быў тэлефон, званіць у раён, каб прыслалі «хуткую дапамогу». Завішнюк ужо не помніць,— мусіць, ён гэта папрасіў бегчы старога возчыка. Яшчэ ён сказаў Акцызніку запрагаць каня. Калі не прыедзе машына, Жэньку трэба будзе везці ўсё роўна... Пасля ён думаў, што яе трэба везці цяпер, зараз жа, не адкладваць... Хто ведае, што з ёй. І кляў, кляў сябе за тое, што нічога ж не ведае, як ратаваць чалавека...

У хаце, калі ён толькі пераступіў парог, адчуў, што акамянеласць, якая была на людзях, знікла — яе як хто зняў рукой. Ён хадзіў з кута ў кут, як па дрыгве на балоце. Пад ім гайдалася падлога, і плылі некуды далёка вокны і людскія галовы...

Пасля ён падумаў, што не можа доўга глядзець на Жэньку, што не вытрымае, кінецца да яе і будзе стагнаць ад болю на ўсю хату, не баючыся ні Грасыльды, ні людзей, што вешаліся на падаконне...

Тады ён перайшоў у першы пакой — тут яго ніхто не бачыў: акно было ад гарода. Падышоў, прыхінуўся галавой да шалёўкі. Глядзеў, як пад прызбай, дзе расла старая мята, у жоўтым пяску купаліся куры, клюючы жарству, і слухаў, як вецер шастаў у сухім бульбоўніку, што вісеў над хатай на плоце.

Ён доўга глядзеў на курэй... Тады неяк адразу ўспомніў жоўтую граду — краёк зямлі далёка ад пагранзастаўскай дарогі, аж у канцы лініі на Каралінскай пасецы.

Па жоўтай градзе поўзаюць мурашкі... Яны відаць у тэадаліт...

Ён тады не перамог сябе... У яго сціснула ў грудзях, перасушыла ў горле...

І тады хлынулі слёзы...

Плакаў ён ціха — стрымліваў сябе,— стагнаў, сціскаючы зубы, кусаў вусны... Яму хацелася крычаць і біць галавой аб шалёўку — ведаў, што болю ён усё роўна не пачуў бы... Хацелася бегаць па хаце ад сцяны да сцяны, як зверу ў клетцы, але ён стаяў і стаяў, ухапіўшыся рукамі за шалёўку і сціскаючы яе пальцамі...

Калі пачуў, што даўно солана на губах, падумаў, што гэта ад слёз. Падышоў тады да стала — на ім ляжала мокрая, апаласканая, не развешаная яшчэ сушыцца Грасыльдзіна бялізна,— узяў самае верхняе, што трапілася пад руку. Гэта быў вялікі палатняны ручнік з чырвонымі кветкамі ля махроў. Перакінуўшы яго цераз плячо, доўга выціраў — у дзве рукі — вышытым канцом твар. Пасля прыціскаў і прыціскаў ручнік да вачэй, пакуль у іх не закалола і яны не забалелі.

Халодны мокры ручнік зрабіўся цёплы — ад твару і ад рук.

Супакоіўшыся, Завішнюк быў падумаў, што на мокрым ручніку не відаць слёз... Пасля падумаў, што можна схаваць свае слёзы, а як схаваеш слёзы Далінаў — бацькі і маці? Яны, галосячы, пабеглі ў Сырніцу — леспрамгасаўскія возчыкі раней за яго прынеслі ўсё ў вёску. Возчыкі і цяпер прыйшлі на двор і сказалі, што Юрку, хлопца, дагэтуль яшчэ нідзе не знайшлі, што і яны памагалі шукаць і што цяпер яшчэ трэба ісці людзям з вёскі на балота...

Завішнюку тады падумалася: ад хлопца могуць нічога не знайсці... Невядома, на што ён натрапіў: ад выбуху аж застагнала была зямля, а на тым месцы, дзе стаяў Юрка, вялікая чорная яма,— калі падбег ён, Завішнюк,— дымілася яшчэ і заплывала вадой...

І калі ён цяпер зноў доўга глядзеў за акно пад прызбу на раскапаны жоўты пясок, яму ўспомнілася, як ён у першы дзень на лініі ля дарогі, недалёка ад партызанскіх лагераў, дзе ў блакаду ішлі баі, натрапіў на партызанскую магілу... Яна была агароджана, і ён, апёршыся на агароджу, доўга глядзеў на аблеглы жоўты пясок, які ўжо зарос травой сіўцом і верасам... Трава і верас хавалі маленькія жоўтыя кветкі — Завішнюк не ведаў якія, ведаў толькі, што яны не дзікія, не лясныя, іх пасадзілі чалавечыя рукі. Ён быў падумаў тады, што кветкі рваць з магілы нельга. Пасля доўга думаў пра тых, хто рана, заўчасна злёг у ляснóй зямлі...

«Хто вы, маладыя ці старыя?.. Вы жылі, працавалі, кахалі, а ваш лёс быў ужо вырашаны наперад. Двума, трыма, сотняй, а то і адным чалавекам... А пасля — куляй, бо вайна — гэта куля... Вось так і мы... Жывём, кахаем...»

Тады ён доўга думаў пра таго і пра тых, што недзе вырашаюць чалавечы лёс. А цяпер тут, ля акна, яму раптам балюча цюкнула ў галаву, што ён сам, сам, а не хто другі,

вырашыў лёс зусім жа маладых, ні ў чым не вінаватых людзей... Стала тады боязна, ён падумаў, што трэба будзе адказаць за гэта перад людзьмі, перад лонваўцамі... Перад Далінамі, бацькам і маці, у якіх быў толькі адзін сын, якога стралялі ў вайну паліцаі,— ён гэта ведае, чуў ад Грасыльды,— які тады выжыў, астаўся, уцалеў... Уцалеў тады, у вайну...

Падумаў пасля: а што ён можа сказаць Далінам — бацьку і маці Юркі? За хлапцом хадзіла па слядах вайна, як смерць, бывае, ходзіць ззаду... Хадзіла, нібы пільнавала, каб забраць. І яна яго забрала... Праз год-другі — усё роўна ўзяла, не адступілася...

Гэтак, бывае, вецер рве з высокага дрэва гняздо. Скране раз, другі з месца,— яно чапляецца за кожны сучок, ліпне кожнай саломінкай, пасля адрываецца і ляціць на зямлю разам з маладымі птушкамі...

Гэтак у Лонве скінула вясной з сасны, пакалечанай у вайну снарадам, гняздо з трыма маладымі, голымі зусім бацянамі. Яны яшчэ жылі на зямлі — шырака разяўлялі раты: дыхалі...

Доўга, цэлы тыдзень, ад раніцы да вечара над вёскай кружыліся ў небе старыя бацяны. Падымаліся высака-высака, хаваліся з воч, тады апускаліся над самымі соснамі і скупа, як асцерагаючыся, клекаталі.

У вёсцы спыняліся людзі і, закрываючы ад сонца рукамі вочы, глядзелі ў неба...

Пасля бацяны раніцай паляцелі за раку, у бок Мсціж, і больш не вярнуліся.

Калі ён успомніў старых Далінаў — бацьку і маці, падумаў, што і ў Жэнькі ёсць бацька і маці... Падумаў пасля, што не ведае, не ведае ж зусім, хто ў яе ёсць. Ён не спытаўся ў яе пра гэта, а сама яна ніколі пра сваіх бацькоў не расказвала...

У вачах у яго цяпер стаялі старыя Даліны і Жэньчыны бацькі, якіх ён ніколі не бачыў і якія цяпер былі вунь як падобны на старых Далінаў...

Спіснуўшы рукамі галаву, ён ледзь не закрычаў на ўсю хату, што ні ў чым, ні ў чым ён не вінаваты, што ён не хацеў, не хацеў жа гэтага, што вінавата вайна, вайна вінавата, а не ён, не ліпія ў Сырніцы, не лента, не тэадаліт, з якім ён, Завішнюк, прынёс у гэтую вёску, якую палілі немцы, смерць...

...Ён думаў пра тое праз увесь лог, думаў і тады, калі

чорны Смык, расцягнуўшыся, памалу-памалу падымаў калёсы на брукаваную, высокую ў гэтым месцы шашу.

На шашы ўжо ён успомніў, што Жэнька і цяпер нічога не бачыла і не чула. Ні таго, як ён закрычаў уголас, на ўсю ноч: «Тыр-р-р!» — ні таго, як ухапіўся за ляжэйкі...

Абціскаючы сена ў галовах і папраўляючы падушку, як дзе на ложку, ён падумаў, што Жэнька магла выкуліцца на зямлю... Успомніў тады, як яна ляжала на траве, на мокрай высокай траве кругляцы, ляжала, якраз як цяпер, чуць бачком, падкурчыўшы трохі пад сябе ногі і сагнуўшы ў локцях рукі... Яна яшчэ нешта шаптала... Што яна каму хацела сказаць?

Яму зноў стала горка-горка і цяжка...

Ён, злезшы долкі, абышоў ля воза, абціснуў і сена і пасцілкі, каб яны не звісалі з ляжэек і не даставалі да колаў; пайшоў паправіў каню хамут — конь быў увесь мокры ад поту,— стаяў пасля, пераступаючы з нагі на нагу, гладзіў каня па шыі, ля вушэй і думаў:

«А машыны не прыслалі... І не прышлюць, бо позна ўжо. Каб слалі, то яна ўжо была б даўно ў Лонве».

Яму стала крыўдна, і ён падумаў яшчэ, што гэты чорны Смык цяпер для Жэнькі — увесь ратунак, што яго трэба паганяць і паганяць, хоць ён ужо спацеў і храпе, хоць яго і выпраглі вечарам на ферме з воза...

Абочынай на шашы Смык пайшоў весялей, але тут трэсла — Завішнюк, седзячы, чуў, як ляскалі зубы, і думаў, што нельга паганяць каня і што ён будзе ўсё роўна яго гнаць, як толькі зможа.

На шашы ноч здавалася не такая халодная. Аднекуль з поля патыхнула цёплым паветрам, як удзень. Завішнюк убачыў, што на лагу, адкуль яны толькі што падняліся, бялеў туман. Мусіць, ад яго і кідала ў дрыжыкі.

Грукала цяпер ужо цішэй і недзе збоку, далёка за Лонвай. Толькі маланкі свяцілі і свяцілі, як тады на балоце, калі ён апошні раз убачыў здалёку з-за вывараткі Юрку з вяхой. Ад іх рабілася цямней і на дарозе, і ў полі.

Па каменні ляскалі колы, і па лесе, які быў недалёка ад дарогі, ішлі адгалоскі. У лагчынах з поля — яно было справа — на шашу пасля цяпла дыхнуў рэдзенькі, халодны вецер, прынёс пах нязжатага ячменю і сухога сена. Пахла яшчэ пылам і каланіцай — гэта з-пад калёс.

Неба над шашой было чыстае, без хмар, густое ад блакіту і цемнаты і ўсё ўсыпана дробнымі зоркамі. Яны зу-

сім не мігцелі, як прыстылі ўсё роўна да чаго далёкага-далёкага ад зямлі.

Удалечыні, пад чорным лесам і якраз над дарогай, неба было чуць святлейшае, як перад раніцай ці як ад зарыва.

Брук на дарозе ляжаў няроўны, калдобісты, месцамі яго зусім не ставала, і тор ад калёс зварочваў з абочыны на сярэдіну шашы.

След конь чуў добра сам, і яго не трэба было кратаць лейцамі.

Дарога — шаша — тут стала шырокая і падымалася высока над полем, уперадзе была прамая — яе далёка было відаць,— і таму яна здавалася бясконцай...

«Калі ты яе перакалдыбаеш вось так...»

Хроп і хроп чорны Смык, падскоквалі і ляскалі на каменні колы, рэзаліся аб атосы, трашчаў, трапіўшы на восі, жвір... І цюпаў, цюпаў конь...

Тады рабілася холадна ўсяму, холадна і нудна. Нудна, як вечарам увосень далёка ад вёскі ў вялікім полі...

Завішнюк, павярнуўшыся плячыма да Смыка, завязаў лейцы за ляжэйку — Смык сам чуў дарогу — і глядзеў на Жэньку...

Твар у яе быў белы... Завішнюк тады ўздрыгнуў, уздрыгнулі, здалося, калёсы і далёкія ціхія зоркі ў небе...

«Зоркі ў небе,— падумаў ён.— Іх жа там як насыпана... І маленькія, што іскры... Няўжо яны не для нас? Не для нас з табой?.. Скажы мне, не маўчы... Скажы. Нашто мне твая крыўда, нашто? Ты маўчыш, бо крыўдзішся на мяне...»

Ён глядзеў цяпер на яе і адчуў, што стала раптам лёгка ўсяму,— яму здалося, што ён загаварыў: сказаў гэта, і яго пачула Жэнька. Ён аж падаўся на калёсах да яе. Каб не тут, ён бы ніколі так не загаварыў бы да яе. Ён саромеўся яе і людзей. Калі ён падняў яе на балоце на рукі, калі добра ведаў, што гэта гора і што трэба быць на людзях, дзе яно заўсёды меншае, усё роўна хацеў быць адзін. І калі ззаду за ім, плачучы і дрыжучы, пайшла спалоханая і мурзатая ад балотнай гразі Света, ён сказаў ёй вярнуцца назад і сабраць прыборы. Яна стаяла — ні з месца — і ўсё дрыжала, трымаючы кулачкі ля вуснаў. Ён тады крыкнуў на яе, хоць сам ведаў, што гэтага цяпер не трэба рабіць... Крыкнуў, як крычаў і ўдзень... Калі ён адышоўся, убачыў, што Света ўсё стаяла і стаяла на адным месцы. Пасля загаласіла... Але за ім ужо не пайшла...

Ён падумаў цяпер, што крычаў на Свету яшчэ і на вуліцы ля варот, калі ад'язджаў і калі яна ішла за калясьмі і плакала. Ён не меў права таго рабіць: Жэнька са Светай дружылі.

А цяпер ён быў адзін і быў рады, што скажа ёй усё, што думае пра яе, і ад таго мо спакайнеў. Але калі бачыў далёка над дарогай зарыва і зоркі ў небе, зноў уздрыгваў,— трывожыўся, не могучы супакоіцца...

«Зарыва... Зоркі... Ты не хочаш глядзець на іх... Чаму ты не ўстанеш, не сядзеш, не засмяешся, адкінуўшы галаву? Чаму не паправіш свае чорныя валасы, якія пахнуць усімі травамі з поля... Як пахнулі яны, калі ты хадзіла па Сырніцы, калі ты нагіналася да тэадаліта і калі мы сядзелі на пні... Устань, не маўчы... Ты маўчыш, бо не хочаш са мной гаварыць... Я люблю цябе... Не адбірай гэта ў мяне... Я баюся цябе згубіць, як я баюся згубіць цябе... Чаму ты маўчыш? Ты ж усё чуеш... Не маўчы... Скажы мне што, скажы... Ты маўчыш, ты крыўдзішся на мяне... А што я мог зрабіць, што? Нашто я толькі ўзяў цябе тады ў лясніцтве з сабой? Нашто? Ты некалі была сказала, што ў мяне разумная галава... Але што я мог зрабіць адзін, што? І галава мая «разумная» развальваецца цяпер на чарапкі... Чаму ты не памагла мне? Хай бы ты не пайшла сягоння ў тую Сырніцу... Хай бы не пайшла... Я крычаў бы на цябе, я цябе праганяў бы са «сваёй экспедыцыі»... Але я цябе ніколі не прагнаў бы... І ты асталася б жыць...— Ён раптам зноў падаўся да яе.— Ну, не маўчы... Што я вінаваты? Што?..»

Ён, мусіць, быў зноў загаварыў да яе, бо раптам спалохаўся, як чыйго голасу, пачутага ўначы... Тады падумаў, што не, не загаварыў да яе, што ён маўчыць усю дарогу і ўсё гэта круціцца ў яго толькі ў галаве, і ён бы таго ніколі не асмеліўся сказаць...

Ён доўга слухаў, як барабаняць калёсы і грукае па цвёрдай зямлі капытамі конь...

Пасля ў яго халаднела ў душы, і ён зноў камянеў. Яму чамусьці здавалася, што ён трымаецца рукамі не за ляжэйкі, а за халодную цэглу. Ён падумаў быў, чаму гэта прыйшла ў галаву цэгла, і ўспомніў, што ўчора ўвечары памагаў Грасыльдзе пераносіць цэглу з хлява да варыўні, пад ганак. Грасыльда збіралася рабіць у хаце грубку.

Ён адняў рукі ад ляжэек і пачуў, што вунь як дрэнна сядзіць — перагнуўся зусім і яму забалела спіна... Але ён сядзеў, не зварухнуўся. Глядзеў і глядзеў на поле —

у цёмную ноч, і яму здавалася, што ён недзе далёка бачыць агні.

Яны мігцелі і адразу ж знікалі. Гэта, мусіць, зоркі, нізка, над зямлёй.

Ён чуў, як халаднее спіна, як згінае шыю, як астыла зусім паясніца. Сядзеў так доўга, аж пакуль не стала моцна дыхаць і стагнаць на падушцы Жэнька. Ён пачуў, як у яе захрыпела ў грудзях...

Тады ён зноў уздрыгнуў і сабраўся ў вялікі жывы і балючы камяк...

Ён баяўся, што яна хрыпіць, падумаў, што ў яе параненыя лёгкія і яна магла захліпнуцца, не даехаўшы да бальніцы.

Тады ён зноў праклінаў «хуткую дапамогу», якая не прыйшла, і леспрамгасаўскую аўтакалону з усімі яе Чаркашынымі, якая цяпер знялася з Лонвы...

Спыніўшы на дарозе каня, ён устаў, саскочыў з калёс і, падышоўшы да Жэнькі, паправіў у яе пад галавой падушку — яна з'ехала зусім да задняй драбінкі, і ў Жэнькі адкінулася галава, абціснуў сена, якое вылезла з-пад белага абруса, і накрыў Жэньку па самыя грудзі дзвюма Грасыльдзінымі пасцілкамі.

Стаяў ля калёс на дарозе, угрузшы ў пяску, аж пакуль Жэнька не перастала хрыпець і не суцішылася.

Тады ён прынік да яе твару і пачуў, што яна дыхае роўна і ціха, усё адно як спіць.

Ён крануў лейчыну — Смык зноў, выцягнуўшыся і выгнуўшы шыю, упёрся ў хамут — і пайшоў абочынай ля калёс, трымаючыся за ляжэйку.

«Як баляць ногі...» — падумаў ён.

Ён ішоў цяпер побач з Жэнькай, шаша падымалася з лагчыны ўгору, і яму цяжка было ступаць.

Удалечыні, дзе ляжала ціхае поле, зацямнелася вялікая вёска. Відаць было, як там тырчалі чорныя ўначы асверы, у канцы вёскі ў некага ў хаце бліршчаў яшчэ агонь. Брахаў сабака, нехта паціху гаманіў, і недзе гудзела ўсё роўна як машына. Услухаўшыся, Завішнюк пачуў, што стукае далёка маторчык — у вёсцы, мусіць, пускалі кіно.

Сеўшы на калёсы, ён зноў ціха думаў пра ноч, пра вёску на полі, якая жыла сваім, пра далёкія дробныя зоркі ў нізкім жнівеньскім начным небе. Яно было чыстае і над Лонвай — не дрыжала ад агню. Сціх, не грымеў гром — яго сагнала на захад. Шырокай, жоўта-белай паласой, як града на Караліноскай пасецы ля Віліі, расплыў-

ся ў небе Млечны Шлях, якому не было, няма і не будзе веку... Ён будзе жыць і жыць, ніколі не знікаючы, як і жыў дагэтуль. Як далёка да яго, і як многа ў ім жыцця... І ён — вечнасць...

Тады Завішнюк думаў, што і зямля вечная пад Млечным Шляхам, і жыццё на ёй вечнае, як чалавек. Чалавек — вечны: і калі ён памірае сваёй смерцю, і калі яго жыццё бярэ бязлітасная вайна, можа, нават на самым пачатку ягонай кароценькай на зямлі дарогі.

Чалавек заўсёды будзе жыць...

Калі ён так думаў, у яго з'яўлялася вера ў тое, што Жэнька будзе жыць...

Будзе жыць, бо без яе не хоча жыць ён, Завішнюк, бо адчуў за гэты малы час, што гэты чалавек патрэбен яму, патрэбен на ўсё жыццё. Як тады жыць, калі пра яго не думаць кожную хвіліну, кожны дзень, не рвацца да яго, дзе б ты ні быў. Хто тады ён без таго?

Калі падкідала калёсы, ён папраўляў пасцілкі ля Жэньчыных ног, пасля, учапіўшыся рукамі за ляжэйкі, глядзеў на дарогу, на брук, што шарэў збоку, на прыніклы да зямлі ў абочыне малы зусім цёмны бярэзнік.

«Калі ж кончыцца дарога... Якая яна доўгая... Як далёка зарыва. Яно зусім не большае, стаіць на адным месцы, хоць бы скалыхнулася...— Ён зноў паварочваўся да Жэнькі і папраўляў пасцілкі ля яе ног.— Не маўчы... Якая ты была прыгожая сёння ўвесь дзень... І вясёлая. Скакала з курганка на курганок... І лічыла на пальцах канюхоў, што плавалі ў небе. «Раз, два, тры, чатыры...» — загінала ты пальцы на руцэ і ўсё глядзела і глядзела ў неба, адкінуўшы аж на плечы сваю галаву. І як пахлі тады твае валасы... Якая ты была ўтрапёная. Месца сабе не знаходзіла... Ты, мусіць, чула ўсё гэта... Кажуць, што чалавек наперад чуе сваю бяду... Ты чула. Гэта я нічога не чуў... Не маўчы... Я люблю цябе... Знай гэта, знай. І буду любіць, якая б ты ні была... Не маўчы. Ты маўчыш, бо гэта я. Каб гэта быў не я, ты б гаварыла, ты б усё сказала. Я ўсё роўна буду цябе любіць, што б ты ні сказала. Буду і буду. А ты маўчыш. Усю дарогу... Не маўчы! Я баюся быць адзін... Чаму ты такая чужая? Я цябе нікому не аддам. Я дужы цяпер, дужы,— бо ў мяне ёсць ты... Ты будзеш жыць. Будзеш. Я пераґрызу цяпер горла самой смерці... Не маўчы...»

Калі ён заплюшчыў вочы, убачыў раптам, што перад ім чыстая лінія ў маладым зусім лесе... Ён быў тады за-

быўся, што на возе,— захацелася пабегчы па лініі аж туды на Каралінскую пасеку, дзе жоўтая палоска грады і дзе мурашкі. Маленькія чорныя мурашкі, якіх Жэнька ўгледзела ў тэадаліт...

Лінія ўсё большала і большала перад яго заплюшчанымі вачыма і ішла ўсё далей і далей за Каралінскую пасеку, за Вілію, за аўгустоўскія лясы — на край свету.

Усё шырэла і шырэла жоўтая палоска грады, большала, расла, нарэшце зжахнулася і занялася на цэлы край неба...

Калі ён адплюшчыў вочы, убачыў, як над лесам, там, куды вяла шаша, гарыць зарыва. Яно было ўжо яркае, і над ім нават былі знаць доўгія, выцягнутыя ў рудыя палосы, хмары.

Да бальніцы было ўжо недалёка.

Чамусьці навокал стала ціха, тады ён убачыў, што сышоў з дарогі конь. Перад самым мостам. Конь увесь блішчаў — быў мокры ад поту: прыстаў. Стрыножыўся, нагінаўся ля абочыны да травы.

Калі Завішнюк тузануў яго за лейцы, чорны Смык нават не ўздрыгнуў. Тады Завішнюк спалохаўся, саскочыў з калёс, падбег да яго, спопаразку паправіў мокры хамут і доўга гладзіў каня па шыі, па мордзе. Бачыў, як у яго дрыжыць адвіслая ніжняя губа, і думаў, што яму хапіла як досыць, што ён мокры, галодны і зацяганы за дзень... Ён доўга гладзіў яго па шыі і прасіў, прасіў зноў звярнуць на шашу.

Смык не ішоў — наравіўся.

Завішнюк у адчаі ўхапіў з воза лейцы і стаў лупіць яго, Смыка, дзе папала. Той толькі адсядаў узад і стагнаў, што чалавек, якому нешта балела.

Тады Завішнюк рашыў, што трэба пачакаць. Хоць трохі, пакуль адсапецца загнаная зусім жывёліна.

Ён паволі ўзлез на калёсы, ступіўшы на вось, і сеў у перадку, падабраўшы пад сябе ногі.

Калі захрыпела Жэнька, ён тузануў зноў за лейцы, пасля аж рваў іх, тузаючы і тузаючы. Смык яшчэ больш адсядаў у аглоблях да калёс і стагнаў.

Тады Завішнюк заплакаў наўзрыд...

Пачуў пасля ўжо, што па бруку пад ім заляскаталі колы, памалу зусім, пераскокваючы з каменя на камень. Загайдала калёсы, загайдалася на белай падушцы Жэнька.

Ён здагадаўся, што Смык пайшоў сам. Пасля агледзеўся, што Смык усцягнуў калёсы на гару, што была за мос-

там перад лесам. З гары і было добра відаць зарыва над Мсціжамі. Завішнюк успомніў, як яны — ён, Жэнька і Света — тады вечарам, ідучы ад шашы логам у Лонву, пасля захаду сонца, бачылі яшчэ раз яго, чырвонае сонца, падняўшыся на гару...

У Завішнюка зашчымела, аж забалела ўсярэдзіне.

Калі ён угледзеў, што над зарывам вісяць доўгія бурыя хмары, падумаў, што і зорак паменела раптам уверсе над галавой, і знаць па дарозе — днём тут быў лівень: стаялі лужыны і Смык цёпкаў па іх нагамі.

Калі яны спусціліся з гары, зарыва паменшала, але Завішнюк ведаў, што яно яшчэ доўга будзе то большаць, то меншаць, аж пакуль яны не выедуць з лесу.

Уязджаючы ў лес, ён прыпыніў каня.

Жэнька не храпла. Ён нагнуўся над ёй: яна зусім не дыхала, у яе былі халодныя шчокі і мокры ад поту лоб.

— Не маўчы! Жэ-энька!..— закрычаў ён і ўтаропіўся на зарыва, яно зноў расло і займала ўвесь край неба над лесам.

...Дзверы былі адчынены: адны, другія і трэція, і ён, нарабіўшы стуку, калі бег па ганку і па калідоры, апынуўся раптам у белым ад агню і чыстых сцен пакоі. Ён, мусіць, і тут нарабіў грукату, бо з канапы раптам усхапілася, прачнуўшыся, мусіць, дзяжурная сястра і, папраўляючы на галаве валасы і ўтаропіўшыся ў яго, лыпала вузенькімі ад сну вачыма.

У пакоі былі яшчэ адны дзверы — вялі ў доўгі і белы калідор; яны расчыніліся якраз у гэты час, і на парозе стала такое ж самае дзяўчо ў белым халаце, як і гэта, што ўсхапілася з канапы, і гэтаксама пачало папраўляць валасы.

«І там недзе канапа... І там спяць...» — падумаў ён раптам.

— Хутчэй! — закрычаў ён пасля і, крутнуўшыся, пусціўся бегчы на двор па тым жа калідоры, грукаючы нагамі па высокай і звонкай падлозе.

Яго адразу паслухалі: за ім тупала ножкамі медсястра, як падумаў ён,— тая, што ўскочыла была з канапы.

Выбегшы з белага ад агню пакоя на двор, ён убачыў, што там вунь як цёмна, можна спатыкнуцца і паляцець к чортавай мацеры... Лапнуў тады абедзвюма рукамі за твар, там, дзе павінны былі вісець акуляры. Акуляраў не было. Ён падумаў, што згубіў іх, трэба шукаць на возе,

пасля падумаў, што хто ведае, дзе іх згубіў,— нічога не помніць.

Сястра першая падбегла да воза і адным махам сарвала з Жэнькі абедзве пасцілкі, скінула на зямлю пад ногі. Пасля ўхапілася абедзвюма рукамі за яе руку.

— Вера! Насілкі!..— закрычала яна раптам на ўвесь двор прарэзлівым голасам. Ён, Завішнюк, аж уздрыгнуў і пахаладзеў. Не мог крануцца з месца — як прырос да зямлі. Пасля прашаптаў чамусьці за медсястрой: «Насілкі...» Пачуў, што голас у яго стаў сіпаты, пачуў яшчэ, што горка ў роце і суха — не павярнуць языком.

Вера — другая сястра, што выйшла была з калідорчыка ў белы пакой,— збегла адразу ж з ганка з насілкамі — Завішнюк нават не ўгледзеў, дзе яна іх магла ўзяць,— падскочыла, як птушка, да калёс, стаяла і дрыжала.

«Ад холаду, мусіць...» — падумаў ён.

Насілкі ляжалі на зямлі, на ўтаптанай сырой траве,— на іх падаў цень ад ліпы, за якой над дзвярыма амбулаторыі свяціла калючая лямпачка. Цень падаў і на белы твар Жэнькі — закрываў ёй вочы ад яркага агню...

Тады ў Завішнюка раптам усё скалыхнулася ў душы, усё, што было з ім у дарозе...

Ён рвануўся да калёс — можа, нават памагчы зняць Жэньку, але яго не пусцілі. Не пусціла першая медсястра, што ўсхапілася была ў пакоі з канапы. Адапхнула яго рукой — рука ў яе была моцная — і сказала злосна:

— Не замінайце!

Ён тады адышоўся, адступіўся ад калёс — адразу паслухаў яе. Падумаў, што ў яе дужыя рукі, вунь якія дужыя. Тады на якую долю часу ў яго мігнула ў галаве, што Жэнька будзе жыць, будзе, бо ў медсястры дужыя рукі... Калі ён цяпер сваімі блізарукімі вачыма глянуў на яе, убачыў, што яна немаладая ўжо і што недзе, мусіць, урач, а не сястра...

Дзве дзяўчыны ў белым хутка знялі Жэньку з калёс, лёгка, як пушынку, і паклалі на насілкі. Старэйшая, прыпаўшы на адно калена на траву, змахнула рукой у Жэнькі з сукенкі прыліплае белае сена-сівец — як яна ўсё спраўлялася рабіць? — ухапілася тады рукамі за насілкі і сказала такім жа голасам, як і Завішнюку:

— Вера!..

Жэньку хутка панеслі да ганка — подбегам. Адразу загрукалі па падлозе ў калідоры цяпер цяжкія ўжо ногі ў дзяўчат, бразнулі, зазвінеўшы шклом, дзверы...

Завішнюк раптам тады падумаў, што больш, можа, не ўбачыць Жэнькі, што яе забіраюць у яго... Ускочыўшы на ганак, ён пусціўся бегчы па калідоры, выставіўшы ўперад рукі,— баяўся наткнуцца на што: не бачыў жа без акуляраў нічога.

Дзверы ў белы пакой былі зачынены, ён піхнуў іх.

Жэнька ляжала ля сцяны на нечым невысокім, як на стале. Твар у яе быў белы-белы пры агні, што снег... На грудзях не было ўжо кофтачкі, і грудзі былі белыя...

Ён, забыўшыся на ўсё, загрукаў нагамі па падлозе — дабег аж на сярэдзіну пакоя.

На яго нават не агляну́ліся. Старэйшая дзяўчына — урач, як ён пра яе цяпер думаў,— нагнуўшыся над Жэнькай, перабірала хуценька-хуценька пальцамі нешта ў маленькай бліскучай баначцы.

— Вера! Шпрыц... Два кубікі... Шпрыц, шпрыц мне! — закрычала яна раптам мацней, чым на двары. Тады, не адварочваючыся, закрычала па яго, Завішнюка: — Не замінайце! Не замінайце! Вера! Шпрыц!

Веры нідзе не было, і Завішнюк рвануўся ў той калідорчык, адкуль яна была раней выйшла, але яму заступіла дарогу старэйшая сястра-ўрач, упёрлася сваімі дужымі рукамі ў грудзі і выпхнула за дзверы ў калідор. Ён нават не агледзеўся калі.

Узяўшыся пасля за бліскучую ручку на дзвярах, пачуў, што яны замкнёны. Працёршы вочы, ён тады паглядзеў на шкло ў дзвярах — з таго боку была фіранка.

Ён чуў яшчэ, як у пакоі за дзвярыма тупалі ногі,— мусіць, прыбегла Вера, чуў, як два разы яшчэ загаманіў знаёмы голас: «Шпрыц! Шпрыц!» — цішэй толькі: за дзвярыма ж.

«Шпрыц, шпрыц...» — калола яму ў галаве. «Два кубікі... Два кубікі...» — думаў і думаў ён.

Пасля падумаў: «А ці дыхае Жэнька? Ці дыхае?» — і зноў схапіўся за бліскучую ручку на дзвярах абедзвюма рукамі.

Але за шклом нават не ўздрыгнула фіранка.

Тады ён адчуў, што ў яго больш няма ніякай сілы, адчуў, што баляць, баляць ногі і нічога не бачыць, як аслеп.

Ён пайшоў назад па калідоры, баючыся прыхінуцца да сцяны плячом, прыхініся — не адарвешся, не хопіць сілы ступіць адгэтуль прэч.

На дварэ было холадна, стыла мокрая ля спіны кашуля. Недзе на шашы, адкуль ён прыехаў, міргалі фары:

успыхвалі — білі ў вочы — і патухалі. Гулі машыны, і далёка нешта звінела — тоненькім ціхім звонам. Неба на ўсходзе пасвятлела — шырока, на ўвесь край. На ім зусім не было зор.

Чорны Смык стаяў у цяні, што падаў ад ліпы. Цень падаў і на калёсы.

Завішнюку раптам здалося, што на калёсах у перадку сядзіць Юрка — адвярнуўся, глядзіць недзе ўбок...

Завішнюк уздрыгнуў, падышоў да калёс, падняў з зямлі пасцілкі, ускінуў на сена і, ступіўшы на вось, узлез, сеў у перадку, падкурчыўшы ногі, як і ў дарозе.

Недзе далёка нешта ўсё тоненька звінела, і ён абхапіў аберуч галаву.

«Шпрыц... Шпрыц... Два кубікі...» — стаяла ў яго ў вушах. «Два кубікі...» — падумаў ён пасля. «Два кубікі... Жэнька выжыве...» — падумаў ён яшчэ і ўспомніў, што ў старэйшай сястры-ўрача дужыя рукі.

Калі ён суцішыўся, пачуў, як нехта стогне. Ён аж уздрыгнуў, апусціў рукі і насцярожыўся. Стагнаў Смык, ціха, што чалавек.

Завішнюк тады ўспомніў — конь жа галодны. Злез з калёс, падышоў, абняў яго за шыю. Доўга гладзіў мокрую грыву ля вушэй, пасля пайшоў узяў з ляжэк ахапак сена і паклаў яму ля частаколу; адпусціў на спіне падпінак.

Узлез зноў на калёсы і зноў абхапіў рукамі галаву. Зноў нешта звінела і стагнаў Смык. Стагнаў ціха, як чалавек.

Сена не зачапіў, не нагнуўся нават, стрыножыўся і ўздрыгваў.

Завішнюк больш ужо не мог злезці з калёс. Сядзеў, падкурчыўшы ногі і ашчапіўшы галаву, і глядзеў на вокны амбулаторыі, дзе гарэў агонь. Яму здалося, што цяпер загарэўся агонь ва ўсіх вокнах у бальніцы.

Недзе далёка несціхана нешта ўсё звінела і грукацелі па бруку калёсы. Пасля закрычаў на ўсю Сырніцу Юрка...

Завішнюк тады падумаў, што гэта ў яго ў галаве, і сціснуў яе яшчэ болей.

Ён сядзеў так на калёсах не варухнуўшыся; слухаў, як стогне Смык, як гудуць на шашы рэдкія машыны; глядзеў сляпымі вачыма на вокны ў бальніцы, дзе гарэў агонь, па жоўтую зару, што бялела і бялела на ўсходзе, як град на Каралінскай пасецы...

Днела.

*Раздзел дванаццаты*

# Восень

Было ціха. Неба над Лонвай зацягнулі шэрыя, як попел, хмары. Над вёскай і туды далей, на загуменне, на Цяні, яны чарнелі і нізка звісалі над зямлёй; на ўсходзе — над Сырніцай і Ямскім, дзе партызанскія лагеры і дзе ўзышло сонца,— яны былі чырвона-белыя, з сінімі прагалінамі, а над самым лесам — аж бурыя, у вялікіх тулягах. І здаваліся цяжкія: не ўтрымаюцца над сонцам, упадуць на лес і паломяць, паваляць на зямлю мсціжаўскія старыя сосны. Пакрышанае дрэва паляжа па дол — цвёрдае, што камень, і белае, як сыр.

Цішыня плыла з усходу, з лесу, разам з хмарамі і сонцам, і хутала сабою загуменне і шырокае поле Земфонд, што ляжала ў канцы Лонвы за пагранзастаўскай дарогай і за ямамі, дзе лонваўцы спрадвеку, як зачапіліся тут, хавалі на зіму бульбу.

Адгэтуль, з дарогі ля ям, было чуваць, як далёка на Жукаўшчыне ракоча рапні трактар, як у вёсцы ў кузні пад лёгенькім малатком смяялася кавалда, а тады аж стагнала ад звону, калі па ім біў пудовы молат.

На загуменні па камяністай і ўбітай дарозе стукалі з ляскатам калёсы — былі на жалезным ходзе; там недзе ржалі коні, ціха, дробненька,— здалёку здавалася, што гэта смяюцца дзеці.

Бліжэй ля лесу стаяла яшчэ большая цішыня — чуваць было, як перасыпаецца пад нагамі на дарозе глыбокі сухі пясок: шась... шась... Усё адно як хто браў яго з сяўні і сеяў па зямлі, што жыта.

Тады здавалася, што цішыня цярусіцца з высокіх сонных жнівеньскіх хмар, як бы і яе хто сыпле і сыпле адтуль на лес, на поле, на Лонву — сее разам з расой і грыбамі.

У цішыні чуваць было, як стукае ў лесе галодны дзяцел. Калі не свяціла сонца, дыхаў з поля сухі халадок: ішла восень.

З фермы, што недалёка ад дарогі, пахла саломай, даўняй, ляжалай; з узлесся, з пасекі, несла смалой-жывіцай і рассцеленым па сіўцы льном; а з поля, з Земфонда, патыхала раллёй, цёплай, свежай і прэснай, як учынены нядаўна ў дзяжы хлеб.

Ад лесу відаць была добра ўся Лонва — стаяла на шырокіх і цвёрдых тут грудзях зямлі; здавалася, яе нішто не можа зрушыць з пагор'я і сапхнуць да ракі, дзе ніжэй, дзе лог і балота; здавалася, яна тут прырасла навек да зямлі; і зямля без яе — не зямля, і лес без яе — не лес...

За Лонвай, за ракой, пачыналася поле і цягнулася далёка на захад, дзе сінелі, заходзячы краем аж сюды, па Мсціжаўшчыну, аўгустоўскія лясы.

Можна было падумаць, што на гэтым багатым кавалку зямлі, выкраеным сярод лясоў, на яго ўлонні, і ляжала Лонва — старажытная паўночная беларуская вёска...

Завішнюку, калі ён глядзеў на яе ад лесу, доўга думалася — што значыць Лонва?

Калі ён доўга думаў, яму тады здавалася, што Лонва — гэта ранішняя зара на ўсходзе; што гэта — прастор з яго лясамі і рэкамі, з яго пагор'ямі і балотамі; што гэта — сонца на захадзе, калі барвавее ў вячэрняй летняй і асенняй цішыні ўсё неба, а далёка, як даступна вачам,— сінеча... Густая, што дым...

Як туды заўсёды хочацца ісці... Дарогай, сцежкай, полем ці лесам, але ісці і ісці... Бо ў такой сінечы, у лясах, на паўночны захад ад Лонвы,— Караліпская пасека з шырокай даваеннай градой...

Пасля Завішнюк падумаў, што трэба будзе спытацца ў людзей, у вёсцы, што значыць Лонва: спытацца ў Грасыльды, у Міхала Кастыцкага, у Акцызніка ці старога Тодарчыка...

Ён яшчэ будзе гаварыць з імі: ён доўга будзе ў Лонве.

Прайшло ўжо два дні, як ён завёз Жэньку, і сёння ўсходам сонца зноў ішоў па старой дарозе з трыножнікам за плячыма і драўлянай скрыначкай з тэадалітам у руках, ішоў у Сырніцу — на лінію, што вяла праз партызанскія лагеры на Жукаўшчыну, на маяк.

За Лонвай, ля лесу, быў той самы глыбокі пясок, па якім ён хадзіў ужо не раз, а яму здавалася цяпер, што на дарозе пяску пабольшала — аж гразнуць па калені ногі і зусім робяцца вялыя, не хочуць ісці.

Тады Завішнюк адставаў ад усіх.

Наперадзе, недалёка ішлі грамадой яго рабочыя: Акцызнік з сякерай пад пахай на руцэ, Валуёк, Сідарка і Света. Света несла на плячы дзве паласатыя вяхі. Валуёк з Сідаркам усё крычалі і крычалі Акцызніку наперабой пра тое, што іх не пускаў Міхал у лес «ні за якія грошы»

і што яны ўзялі і пайшлі самі, і ён ім нічога не зробіць, не зловіць за хвост...

Завішнюк ведаў, як усё было: сам прасіў у Міхала рабочых. Ішла восень, у лес поўз туман і віссў на лініях цэлы дзень да вечара. Трэба было спяшацца прайсці мсціжаўскі масіў...

Уперадзе ўсё крычалі і смяяліся Валуёк з Сідаркам. На іх пачынаў за нешта крычаць і сам Акцызнік.

Света маўчала, яна маўчала ўжо каторы дзень: не гаварыла нават і з ім, Завішнюком. Маўчаў пры ёй і ён — ніяк не мог адважыцца загаварыць.

Ён падумаў, што пагаворыць з ёй сёння ўвечары, пасля, як яны прыйдуць з лесу,— бо маўчаць больш нельга...

Калі наперадзе цяпер, не сціхаючы, крычаў Акцызнік, Завішнюк падумаў, што ён не можа чамусьці падымаць вачэй на таго, не можа, і ўсё. Стаяць і стаяць у вушах яго словы, калі ён, прыгнаўшы з фермы запрэжанага Смыка, крычаў гэтаксама моцна ля Грасыльдзіных варот:

— А ў раён я не паеду... Варта ў мяне ноччу, сам знаеш, таксатар. Як жа мне ехаць? Мяне з работы тады могуць... А з дзеўчынёхай нічога не будзе. Гэта з хлопцам... а-яй... бяда якая. Так галавой налажыць... Нізашто... А-яй... А з дзеўчынёхай... Можа, каго папрасіць? Мая баба каб дома была... Грасыльда, во... Але ж і яна, відаць, хату пабаіцца адну кінуць... Згінь ты, благое, прападзі... Гэтыя снарады... Папакідалі іх усюды і нашы, партызаны, і немцы...— Ён доўга кляў ля варот снарады.

Завішнюку цяпер здалося, што Акцызнік і тады таргаваўся, і ён падумаў,— відаць, не ўсяму трэба верыць, што Акцызнік верне па Міхала і на «сваіх прамгасаўцаў»... Верне, а сам думае «дабівацца праўды»...

Не хацелася цяпер з ім і гаварыць — ні пра што.

А ён лез з гутаркай, хоць ты яму ў вочы было плюнь,— не сціхаў ні пра сябе, ні пра свайго Чаркашына. З двара ў Грасыльды ўчора цэлы дзень не вылез.

— Шавельзон не прывёз зарплаты на ўчастак... Не прывёз, чорт насаты... Скула ў яго села ці якая там шмула. Я на машыну — адразу ў раён. З участка проста. А туды якраз усе нашы з'ехаліся да канторы, уся калона. Заставілі вуліцу прычэпамі...— Акцызнік на двары пра «сваю пяцёрку» ўжо не ўспамінаў, глядзеў толькі яму, Завішнюку, у вочы, як гаспадару сабака, які ведае: усё роўна ты мне нешта кінеш. Выседжу, лапамі з зямлі выдзеру... Для Завішнюка гэта значыла: табе цяпер вунь як

патрэбны рабочыя: восені баішся і спяшаешся. А ў лес прыпоўз туман. Вось мы за яго і схаваемся... А ты нідзе не дзенешся... Але Акцызнік гаварыў зусім пра другое. Гаварыў і воч не спускаў з яго, Завішнюка, як ведаў усё роўна што.— Даганяе мяне Чаркашын... Здароў... Здароў... Хмуры хлапец нейкі. Думаю — вып'ем... Адвядзём душу... Гляджу, мінае нешта «Чайку», закусачная ў нас там ёсць такая ля гасцініцы,— можа, даводзілася... Ды даводзілася...— махнуў ён рукой і паправіў пальцамі вусікі пад носам, як пыл з іх змахнуў.— Ну, мінай, думаю, чорт з табой, у мяне свае ёсць, палучыў. Клічу, сам пастаўлю, кажу,— і не чуе. Цягну — не туды тое... Упёрся, як бык. Я тады яму... А ён мне дастае дзве пачкі грошай, у жмені ў яго не тоўпяцца, і тыча ў морду, як сабаку... Я тады ўжо да яго бокам, бокам... І так і сяк, кажу, што з табой, хлопец... А ён і не хаваецца... Мы, брат, мужчыны, кажа. І многа дзе круцімся, пакуль галовы сабе не паскручваем... Ты думаеш, я да цябе праз кожную ноч так гэта прычэп свой ганяў... Бензін пёк... У мяне, брат, і вока ёсць і сэрца ёсць. Я, брат, баб перабраў... А што знайшоў? Што яна плюнула мне ў вочы? Узяла і плюнула. А не ведала, каму плюнула, не ведала... Я... я... люблю яе... Ёй цяпер цяжка. Я там быў, кажа ціха так і ў зямлю ўсё некуды глядзіць, пад ногі сабе, каб мо яшчэ раз у сваім, думаю, паганым жыцці не спатыкнуцца. А магло быць і горш, кажа... Цяжка ёй. Я быў у яе. Не пусцілі... Сказалі, што нікога не пускаюць. Ды я ім усю іхнюю бальніцу разнясу, калі другі раз не пусцяць... Я, брат... цяпер увесь увяз... Душа ўвязла...— Акцызнік аж падскокваў на Грасыльдзінай калодачцы, што стаяла пры асверы ля студні.— Вот табе і Чаркашын... Скапыціўся... На Жэньцы... Г-ге... Кінуў мяне аднаго на вуліцы і пачапаў па бруку да аўтакалоны. Ге-ге...

Завішнюк спяшыў.

Калі на ўсходзе рассоўваліся жоўтыя хмары, адтуль сыпалася на зямлю, як церусілася праз сіта, белае святло; у канцы пасекі на полі падымаўся з зямлі туман — як пара з вялікага гаршка.

Шась... Шась...— перасыпаўся пад нагамі пясок...

Цюк... Цюк...— стукаў далёка ў лесе галодны з начы дзяцел.

Было ціха, і ў цішыні нешта густа шумела, як недзе далёка раіліся пчолы,— шум ледзь лавіла вуха: трэба было доўга стаяць суцішыўшыся.

Завішнюк падумаў, што гэта шумяць раніцай мсціжаўскія лясы... Яны і без ветру шумяць, ніколі не сціхаюць...

Пасля цішыня раптам здрыганулася, і па полі, па лесе, па ўсёй Лонве пакацілася ядранае рэха. У Земфондзе, там, дзе з зямлі ўставаў туман, загудзеў трактар. На полі над чорнай раллёй падняўся сіні дым і паволі папоўз угару, як туман. Над ім закружыліся маленькія чорныя вароны — ад спалоху насіліся, як дурныя. Крычалі, мусіць, на ўсё горла, але іх не было чуваць.

З фермы на поле, нагружаныя роўна з коньмі белымі мяхамі, паехалі дзве падводы. Завішнюк угледзеў іх, калі яны былі ўжо ля ям, і пазнаў чорнага Смыка.

У яго заныла-заныла ўсярэдзіне...

Лонваўцы сеялі жыта.

Ззаду за падводамі на поле ішлі Міхал з Грасыльдай, ішлі ўпобачкі, плячо ў плячо, гаманілі моцна — на ўвесь Земфонд — і размахвалі, размахвалі рукамі.

«Многа ім яшчэ вось так ісці поплеч і даказваць адно аднаму...» — падумаў Завішнюк.

Калі ён угледзеў, што Грасыльда ў белай хустцы, успомніў, што гэта яна, Грасыльда, мігнулася ля акна на двары тады, як ён, Завішнюк, толькі яшчэ працёр вочы,— пайшла на ферму, кінуўшы яму снеданне на стале пад белым абрусам, і не вярнулася: будзе занята ўвесь дзень. Ён падумаў, што ў Грасыльды ж хворае сэрца, што яна плакала і па Жэньцы, і па Юрку, якога нідзе не знайшлі, як па сваім Валодзю, і што пра гэта ведае толькі ён, Завішнюк. Успомнілася яшчэ, як Грасыльда, калі ён крануўся ад варот з Жэнькай на калёсах, не магла ўжо стаяць на нагах — апусцілася на лаўку і сядзела, торкаючы ў зямлю кійком,— сасновым гладкім сукам,— які стаяў у яе ў сенечках ля парога. Не бачыла нават, што перакруціла кіёк і трымае востры канец у руцэ, а тупым совае ў зямлю.

Ён успомніў яшчэ, як у Жэнькі, калі яе паклалі на калёсы, вываліўся з кішэнькі на кофтачцы жолуд. Зялёны яшчэ зусім, з Грасыльдзінага маладога дуба, што рос у гародчыку; зялёны, з маленькім жоўтым лісточкам. Вываліўся, скаціўся з калёс, з пасцілак і ўпаў на зямлю. Яго адразу ўтапталі ў пясок людзі...

У Земфондзе лонваўцы сеялі жыта...

На ўсходзе раз'язджаліся хмары і жаўцела над лесам неба, як усё роўна стаяла зарыва.

Тады на Завішнюка хлынула нешта гарачае...

Ён успомніў зарыва ўначы над шашой і жоўтую пало-

ску грады на Каралінскай пасецы... Успомніў дужыя рукі сястры ў бальніцы... Успомніў Жэньку... Вясёлую, з рассыпанымі па плячах валасамі... Яна скача з курганка на курганок, смяецца, аж заліваецца, адкінуўшы галаву, і лічыць на пальцах сваіх канюхоў...

...Над трактарам у Земфондзе кружыліся вароны... А калі раз'едуцца зусім хмары і днём стане горача, у Сырвіцы ў небе зноў будуць прасіць вады канюхі...

Яны будуць лётаць высока ў небе, будуць кружыцца і кружыцца над лесам... І Жэнька будзе жыць... І гаварыць стане. І ён цяпер будзе ездзіць да яе ў бальніцу кожны раз, калі толькі выпадзе, а то будзе ездзіць і праз дзень. І паедзе заўтра: у лясгас жа трэба. Выйдзе вечарам на шашу — і пойдзе, калі не будзе машын, пойдзе пехатой. А назад раніцай пад'едзе з кім-небудзь, каб паспець на работу: раніцай лягчэй знайсці машыну.

Калі змоўк у Земфондзе трактар, над дарогай павісла яшчэ гусцейшая цішыня...

Даганяючы сваіх, Завішнюк сышоў з дарогі на пасеку і пайшоў па белым высокім і сухім сіўцы. Угледзеў, што на сіўцы шэрае павуцінне — вісіць густымі латочынкамі, не ступіць за ім, а на павуцінні — блішчыць раса. Падумаў, што і тут, на ўзлессі, ля самай Лонвы, нядаўна ляжаў туман і раса недзе ўжо была халодная з начы...

Падумаў пасля, што восень на Мсціжаўшчыне пачынаецца яшчэ ў жніўні...

*1964*

# МСЦІЖЫ

**РАМАН**

## Частка першая

### 1

Вецер зайшоў з Вострава...

Сыры і густы, ён падзьмуў па палудні з-за ракі на Выганчык, гонячы мокрыя, калючыя, наабіваныя зялёныя сасновыя іголкі, што адмерзлі за зіму ў маразы, і тонкую, як папера, жоўтую сасновую кару з верхалля, якая блішчала на зямлі, мокнучы на снезе, і чарнела ўгары над галавой, што сажа, дзе яе круціла і глытала, як у прорву.

Запахла лесам — свежым дрэвам і мокрым снегам.

Пах лесу ў Мсціжы пачынала прыносіць усягды на згон зімы, калі ў доўгія, па тыдні, адлігі адтавалі сосны і чарсцвелі, высыхаючы на калючым, суровым ветры, ад якога трэскаюцца рукі і сіверае твар.

Мсціжы — вёска на беразе Жоглаўкі. Вёску абышлі з трох бакоў балоты па звіле ракі. На поўначы за Мсціжамі пачыналася доўгае пагор'е, якое падыходзіла аж пад самую Вілію і Курачовы Цяні,— шырокае, роўнае, парослае па жоўтым пяску, які летам здалёку відаць на сонцы, маладняком і старасвецкімі рэдкімі, пакінутымі на пасеках, абгарэлымі знізу соснамі, нацягнутымі смалой і ад таго цвёрдымі, як камень, не даткпуцца тапаром. Параслі яны, не зачэпленыя падсочкай за свой век, аж у самае неба, папрысядалі ў камлях ад цяжару, каб апірацца цвярдзей на старасці.

Невядома было, адкуль яны цягнулі смалу на адным чэрствым жоўтым пяску, які выдзімала ветрам і на якім не ўсюды браўся расці мох і верас. Можа, яны даставалі

яе сваім ралатым, як сохі, карэннем глыбака з-пад пяску і гліны?

І Вілія і Жоглаўка, што ўпадала ў яе за Луськім пад Каменам, падмывалі пагор'е з двух бакоў, вылізваючы з-пад беражніц белае, чырвонае і сіняе — у розны колер — круглае і адпаліраванае чкалі каменне — гальку. Дробнае, з гарох, і буйное, па яйку, яно, падсохлае, бліпчала на сонцы і пахла востра і едка — шкіпінарам. З-пад высокіх жоўтых беражніц апаўзаў пясок, і было відаць чырвонае сасновае карэнне — ішло ў зямлю.

...Хмары адразу зрабіліся шэрыя, як попел, віселі высака над галавой, там, дзе летам хадзіла сонца, і, не баючыся ветру, паволі-паволі ехалі з-за Вострава. Здавалася, краталіся не яны, а ўсё неба сунулася над зямлёй з паўднёвага захаду на паўночны ўсход немаведама куды...

У канцы Мсціж пад Луськім, дзе, як кінуць вокам, цямнеў лес чорнымі шырокімі палосамі, адна пад адной, слалася смуга, як мокры дым, хаваючы з вачэй і неба, і зямлю.

Усё роўна як звечарэла; сонца, схіліўшыся з паўдня, пачало патухаць за хмарамі.

Пабліжэў за фермай лес, здавалася, падышоў да сілосных ям. Зрабіўся шэры снег.

Калі вецер заходзіў з Вешак — прама з поўдня, з-за балота, на Выганчык пад вёску ляцела бурае, пацёртае, як пальцамі сухая мультанка, альховае лісце, якое не лягло пад снег — было абвіта ў шмат столак ля галля хмелем і зімавала на дрэве. Яго абіваў цяпер вецер і церусіў, як хто ўмеццем з тока.

З трухой гнала шэрую, пажваканую, што ў мяліцы, выпетралую на Падбалоцці папараць; слала па снезе дубовае жоўтае лісце, якое перастояла зіму, не баючыся ветру,— шырокае, крамянае, хоць пячы на ім яшчэ хлеб.

Выганчыкам цягнула доўгую, як пуга, рудую балотную смычку і круціла белы, зматаны ў клубкі мох з чорным, вузкім і тонкім, як накрышапым, лісцем багунніку — на чыстым балоце пад Вешкамі асеў падапрэлы снег, агаліўшы курганне, і яно каторы ўжо раз ад восені высівервала на марозе.

Здалёку было чуваць, як за фермай на ўчастку стагнаў лес, трывожна, глуха, што летам, мокры ад дажджу; калыхаўся, згінаючыся, аж трашчала верхаллё. Вецер рвучыся з балота на лагі пад вёску, шалеў, ныючы ценка і калюча ў ніцай лазе і разгатым пад'ялеўцы на Падба-

лоцці ў імшарах і захліпаючыся ў сплеценым, як ператтканым, ельніку ля самай вёскі. Вырываючыся ў прагал над засыпанай снегам уровень з беражніцамі замёрзлай Жоглаўкай, ён гудзеў у камлях старасвецкай сухой альхі, што ў коміне, выючы і скуголячы на ўвесь свет; сціхаў і пачынаў нанава з самага нізу, з хрыпаты, як хто вабіў ваўкоў.

З-за ракі, з Вострава, вецер раптам пагнаў нізкія, цвёрдыя, як убітая зямля, сівыя хмары. Яны беглі над грэбляй, над голым альшэўнікам і над хатамі, над самымі стрэхамі, на Загуменне, за ферму на леспрамгасаўскі ўчастак. Абганялі, чаплялі краямі адна адну, як крыгі на вадзе, калі вясной пойдзе рака. У прагалах між імі было відаць шэрае, цяжкае неба — аблажыла надаўга, не на адну ноч...

Над Загуменнем падняліся вароны, дзвюма кучамі — высака, дастаючы да хмар, і віселі, крытаючы крыллем, на адным месцы: ляцелі проці ветру. Вецер закручваў іх і кідаў на зямлю за доўгія ля лесу кароўнікі па адной, што камень за каменем, не згледзець вокам. Пасля вароны падымаліся зноў, круцячыся і дзеручы горла.

На грэблі ля самага маста вецер адразу скінуў старую, нагнутую ўдоўж дарогі старасвецкую вольху — паклаў цераз крыніцу; на беразе ракі ля броду, недалёка ад маста за аселіцамі, куды ганялі паіць кароў з фермы і коней з участка, перакуліў карыта. Яно было відаць з вёскі, з гэтага канца,— ляжала, скінутае з асінавых плашак ля прорубкі, доўгае, абабітае ад лёду, як кавалак бярна.

У вёску вецер падзьмуў якраз у вуліцу, упіраючыся ў хату Вялічку: яна стаяла на павароце. Свістаў у платах і старых лазовых вітках, як увосень у калючай мятліцы на аселіцы; уздзіраў і гнаў санным следам стоўчаныя падковамі сена і друзалкі лёду. Скідаў снег з хат, біў у шчыты і рваў салому ў некага з пуні са страхі ў другім канцы вёскі — яе гнала па снезе па гародах стаймя, жоўтую, як са свежых кулёў, высокую, у рост чалавека; калыхаў старыя Бацяновы сосны на дзядзінцы ля фермы, гнуў да стрэх разгатыя чорныя ліпы ля вуліцы, заварочваў паднятыя дыба асверы на дварах ля студняў; асверы скрыпелі, пхчапаючы папалам ралатыя сохі і махаючы вочапамі, як цапамі...

Людзі, настаўляючы каўняры, выходзілі з хат, далучаліся адзін да аднаго і ішлі ў грамаду па вуліцы да Андрэя Вялічкі — з хаты ў яго выносілі везці хаваць Верку...

Рыкала ў хлявах скаціна, як усё роўна чуючы бяду. Гаманілі ля лесу, ля Ям, мужчыны: на ўчастак, як усё роўна ўцякаючы, пагналі возчыкі коней, запрэжаных у кары з казой.

Калі галасы сціхалі, пачыналі стагнаць ля фермы Баняновы сосны і шумеў, аж разрываючыся, вецер, несучыся праз вёску на ўчастак — у белы, затканы ля лесу шэрай смугой, свет...

Андрэй Вялічка хадзіў па хаце з адной палавіны ў другую, у ботах, у расшпіленай паддзёўцы — у чым вярнуўся з двара. Шапку, чорную, маленькую, з доўгімі вушамі, з патрэсканым сухім скураным верхам і вылінялымі белымі матузкамі, ён трымаў у руках, не лучаючы зачапіць яе ў парозе ля печы на доўгі цвік ля самай юшкі, дзе ўсягды вешаў сушыць, прыйшоўшы з дажджу. Ён не надзяваў яе на галаву з той мінуты, калі пасля палудня вынеслі ў дамаўі з хаты на вецер Верку і паклалі на сані... І на могілкі і назад праз усю грэблю ён ішоў, сціснуўшы шапку пальцамі, як у абцугі, і нядаўна стаяў ля ганка ў цямне на ветры, жмакаючы яе, аж пакуль не разышліся з двара людзі — яму трэба было ўчапіцца хоць за што рукамі. І каб адбіралі шапку — ён бы не даў: здавалася, пасля Веркі ў яго не засталося цяпер ні дачкі, ні хаты, ні двара — толькі адна шапка ў руках.

Ён падыходзіў у першай палавіне ў парог, апіраўся рукой аб нізкі вушак у дзвярах ля судніка і доўга глядзеў на падлогу, зацярушаную ад людскіх ног пяском і свежымі — яшчэ пахлі — яловымі дробненькімі, як пільсць, іголкамі: у сенцах былі пасланы пад ногі лапкі. На іголкі свяціла лямпачка са старога жоўтага абажура, і ад іх блішчала ўваччу. Пасля ён ішоў праз дзверы ў перагародцы ў другую палавіну хаты да сцяны ад вуліцы, на якой віселі ходзікі з апушчанай нізка, да самай лавы, чорнай гірай: сталі. Чуў, як ціха стукаюць аб падлогу боты, стрэпае за шафай за абоямі мыш і б'е ў вокны вецер. Балелі, рэзаліся ад агню вочы, нылі ногі да калень, а ён усё ступаў і ступаў па хаце з канца ў канец. Здавалася, ішоў бы і ішоў у чысты свет, аж пакуль бы не зваліўся з ног.

Пасля ўжо, сеўшы ў другой палавіне на лаву пад ходзікі,— пачуў, як стукнула аб сцяну гіра і ўпёрлася ў плечы,— ён паклаў на рог стала на белы абрус пад локаць

шапку. На другім канцы на стале ляжалі буханкі чорнага хлеба з магазіна. Хлебам пахла на ўсю хату.

Андрэй убачыў, як на ніжніх шыбах на акне растае шэры лёд з умёрзлымі расцягнутымі чорнымі ніткамі — перад бальніцай у вялікія маразы яшчэ шыла Верка, седзячы ля акна. З падаконніка, сабраўшыся, капала на падлогу вада. Верка ўсягды клала на мокры падаконнік анучу, хадзіла пасля ў парог і выкручвала ў цабэрак.

Вада капала і капала на падлогу. Ад сцяны пахла глінай.

Ён доўга глядзеў на сцяну ля акна, павярнуўшы набок галаву, і не пазнаваў. Пасля ўспомніў, што на сцяне вісела люстэрка, вялікае — у ім можна было нагнуўшыся ўгледзець сябе да палавіны. Люстэрка прынялі ў шафу два дні назад — прыняла Балюта ноччу, калі ў хату ўнеслі з двара з саней Верку. На тым месцы на сцяне — цёмная паласа, з шыбіну: за люстэркам не выцвілі абоі. Калі ён зірнуў у чорнае і бліскучае ад яркай лямпачкі акно ў гарод, дзе шастаў вецер,— адвярнуў вочы ад сцяны, зглядзеў адразу дзве верхнія шыбы... Адна — меншая, вузейшая, што ўсё роўна прыжмурылася. Ён уздрыгнуў: глянуў зноў на вішнёвы абажур над галавой — у другой палавіне вісеў вішнёвы абажур — і на шыбы ў акне: колькі пражыў у хаце, сам устаўляў вокны, а гэтага не знаў. Нібыта Верка глядзела на яго: у яе было адно меншае вока, як прыплюшчанае...

Андрэй тады закрыўся рукамі...

Уваччу адразу закруціліся белыя, як абрусы, скібы снегу... Глыбокі, у пахі чалавеку, снег — вярнуў усю зіму, як з шуфля,— зляжаўся ля могілак за частыя пасля Новага года адлігі і ўставаў перад бульдозерам скрылямі, што лёд на рацэ. Скрылі лезлі адзін на адзін вышэй бульдозера, крышыліся спадыспаду і, рассоўваючыся ў бакі, адкочваліся далёка па снезе дробнымі друзалкамі.

Вецер, рвучы зверху, пасыпаў іх густым сінім дымам...

На могілкі не было следу, і бульдозер рабіў дарогу нацянькі па полі. Гроб снег з самай зямлі, падчэпліваючы чорную, сухую, у грудах, раллю, і яна, паказаўшыся на вочы, абсыпалася і хавалася паміж белых скрылёў...

Андрэй падумаў, што на двары яшчэ горш шалее вецер, здавалася, аж чуваць на лаве, як ходзяць ходырам сцены. Трашчала за перагародкай ля коміна столь, вецер недзе падымае страху, аж пакуль не сарве з мачачыны: ценька, як іголкай, калола холадам у шчаку — дзьмула адне-

куль праз падвойныя вокны. Нудна, што чалавечым голасам, звінела шыба — абдзёрла недзе знадворку ветрам кіт.

Андрэю здалося, што плачуць на могілках Верчыны стрыечныя сёстры, плачуць усе тры, захінаючыся хусткамі, і іх на такім ветры зусім не чуваць: вецер — гаварыць цяжка — дзьме з усяго поля на могілкі, скідае з ног. Сёстры пазгіналіся, чуць стаяць, пабралі адна адну пад пахі.

Сёстры паехалі адразу дамоў, у Веіна — гэта аж за Вешкі — яны ўсе жылі там, жыла там да замужжа і Верка; спяшаліся, не пабаяліся і ветру: змагліся, дома скацілна на чужых астаўлена каторыя ўжо суткі, пачалося беззалоўе, вецер нарваў адлігу, пырскае дождж, можа кранушца на рацэ лёд — чуць ліпеў, калі сюды ехалі, падпарыўся пад снегам, ля берагоў выступіла наверх вада... Варочайся тады, аб'язджай кругом — на Вешкі — за блізкі свет. Дня мала...

З Верчынымі сёстрамі паехаў у грамадзе, стаўшы ззаду на сані на палазкі, Падбярэцкі з Вешак, не захацеў ісці заўтра раніцай. Хаця і ў яго балелі ногі, хапіла: кленчыў гэтулькі, пакуль рабілі дамаўё, яму біў ломам — пазбіваў аб груду рукі...

Падняўшы галаву, Андрэй як усё роўна нанава ўбачыў лямпачку над самай галавой. Яна гарэла яркім белым агнём — павінна была гарэць пасля Веркі ўсю ноч, і ад агню рабілася яшчэ большая хата. Большая і пустая...

Калі расстаўлялі ў хаце сталы, пазычыўшы ў суседзяў, выносілі ложкі. Забралі з кутка з другой палавіны і Верчын ложак — ён стаяў ля сцяны ад двара — і цяпер не ўнеслі. Ложак стаіць у варыўні ў сенцах, не дае расчыніць насцеж дзвярэй — не прайсці.

На месцы ложка ў кутку ў хаце пуста, як усё роўна там яма. Андрэй доўга глядзеў у кут на шырокую чорную паласу на сцяне ля падлогі — пад ложкам было сыра. Ён пачуў, што ў яго мокрыя ў ботах ногі. Выцягнуў іх з-пад лавы на хату, на відно, убачыў, што яны ў жоўтым пяску з могілак...

«Колькі шлэпаў, прыйшоўшы, а пясок не абцерушыўся. Прыліп...» — падумаў Андрэй.

Ён быў клікнуў Вольку, дачку; тады ўспомніў, што дачкі ў хаце няма: баялася дома спаць, і яе павяла да сябе Балюта. У хаце ён цяпер адзін як палец.

Пачуў, што холадна ад сцяны ў спіну ля самай паясніцы: дзьмула з акна. Мусіць, каб асталася адна Верка, з ёй былі б сёстры, не паехалі б адразу, ці прыйшлі б бабы

з вёскі, а ён мужчына, з ім ніхто не астаўся... Нешта гаварыла, адыходзячы, Балюта, але ён ужо не помніць...

Круціла на дварэ, вецер шорхаў па акне, як венцем саломы; пайшоў дождж, ад агню было відаць, як зацерушыла знадворку шыбы дробнымі кроплямі. Кроплі спаўзалі ў адну нітку і цяклі па шыбах, як слёзы. Пасля пайшоў снег, густы, па лапцю; здавалася, як хто за акном махаў рукамі. Снег гнала ветрам з Выганчыка з-за ракі, і ён, што матылі на агонь, ляцеў з усяго свету ў адны толькі вокны да яго, Вялічкі, у якіх сярод ночы гарэлі дзве лямпачкі — у першай і другой палавіне.

Вецер гудзеў у коміне, ныў, як увосень на гародах у плоце; бразгала юшка, што скаварада на прыпечку. Па хаце ганяла холад, аж краталіся аддзёртыя за гэтыя дні ля дзвярэй у перагародцы абоі.

Андрэй тады ўстаў з-за стала і, асцярожна ступаючы, як баючыся разбудзіць каго, пайшоў у парог да печы.

«Юшку не залажылі. Памерзнем пад раніцу...» — падумаў ён, нібыта ў хаце былі ўсёй сям'ёй: ён, дачка і Верка, як да хваробы...

«Хваробы...» — злякнуўся ён пасля і падумаў, што ніколі такой не чуў, пакуль Верка была здаровая, што яна адразу адняла ў Веркі нагу. Нагу хацелі адрэзаць вышэй калена... Верка тады хадзіла б на мыліцах. Мала, вун, людзей пасля вайны ходзіць на мыліцах? Але Верку не ўгаварылі. Угаварылі б — і цяпер, можа б, жыла...

Андрэй зноў доўга закідаў у парозе на цвік шапку, пакуль закінуў. Убачыў, што на падлозе ля печы і на прыпечку насыпана чорнай сажы — нагнала ветрам з коміна, перш не было. Печ была заслонена новай бляшанай засланкай, і на засланцы, напрыліпаўшы, дрыжалі сухія камячкі сажы.

Стаўшы нагой у падпрыпечку на нешта мяккае, мусіць, на анучы, якімі адцэджвалі гаршкі, ён узяўся зверху за цёплы комін, пасунуўшы вострую лучыну, адчыніў дзверцы і занёс у пальцах юшку — паклаў на круг. У вочы дыхнула халодным гарам ад перапаленай старой цэглы; рванула з рукі дзверцы — яны бразнулі і як прысталі да месца. Завывала ў коміне, як усягды, калі гарэла сажа.

Трашчала столь над самай галавой, як хто па ёй бегаў ад сцяны да сцяны; яшчэ горш усхадзіўся вецер, спёбаў па акне, нібыта выбівалі мех; пад бэлькай пачаў кратацца жоўты абажур, памаленьку, з боку на бок. Андрэю

здалося, што калышацца столь, сцены і падпрыпечак. Саскочыў тады на падлогу: кружылася ў галаве і як усё роўна што далёка зінела — аж на ўчастку.

Пастаяўшы, падышоў да акна. Акно было проці печы, вялікае, пад столь. Ён упёрся каленькамі ў лаву і, расставіўшы рукі, узяўся за шалёўкі, баяўся, што не ўстоіць на нагах.

Згорбілася на спіне паддзеўка, і ён пачуў, што ў яго мокрыя плечы: пачынаюць стыць.

Цёмна было ў акне, гарод пад раку быў увесь чорны, здавалася, у ім недзе глыбока на дне ляжыць белы снег — свежы, найшоў ужо звечара. І плот у гародзе ад самай варыўні аж да логу быў чорны, як абгарэў. Здалося, што яму няма канца: пералез цераз раку на Выганчык і пайшоў дарогай па грэблі на край свету...

Ля плота Андрэй кожны дзень — раніцай і ўвечары — ганяў з участка да ракі паіць леспрамгасаўскіх коней...

Пасля ён убачыў у акне, як у цьмяным старым люстэрку, свой цень, з жоўтым ад агню тварам, з раскінутымі, што распятымі, рукамі. Было нават відаць, як над круглым, з даланю, лобам рассыпаліся на рад нястрыжаныя валасы, вісеў на ўсю шыбу вузкі доўгі нос — глюгай, і блішчалі, як адкуль здалёку, круглыя вялікія вочы. Доўгая голая шыя хавалася ў паднятым каўняры ад паддзеўкі. Андрэй успомніў, што каўнер наставіў ад ветру ўжо дома, выходзячы на вуліцу, дзе ўсаджваліся на сані Верчыны стрыечныя сёстры.

Ён зноў пачуў, што яго кінула ў холад, што мокрыя плечы, і адышоўся ад акна.

«У такую буру хаваюць вісельніка... А Верка ціха жыла і памёрла ціха, намэнчыўшыся...»

Кроплі вады на шыбах сталі відаць здалёку, парабіліся па гарошыне, застывалі — змярзаліся. Вецер зрабіўся калючы і шорсткі, як усё роўна скроб па шкле.

У сенцах на страсе заляпала аб латы драніца — дагэтуль не было чуваць — і стукала без аддухі, як хто сек тапаром на дрывотні. Краталася, уздрыгваючы, за дзвярыма на кубельцы века, зазвінела парожняя вядро: стаяла высака на шафарні. Вецер шастаў у сенцах: ля клямкі калыхалася кудзеля — ён яшчэ з восені абтыкаў дзверы.

Доўга стукала ў сенцах, тады пачало стукаць на двары, ля студні. Калі рваў вецер, было відаць праз акно, як з варыўні далёка на гарод, на снег аж да яблыні, адносіла адну за адной драніцу: раскрывала страху.

Пасля раптам затрашчала на двары, як усё роўна ламала тофель, здрыганулася хата, і ў парозе пад бэлькай, над самай галавой, зашастала цыбуля — вісела ў вянках на шастку: на яе церусіўся са столі пясок. Заскакаў угары абажур, расчыніліся насцеж дзверы, у хату цераз парог на падлогу сыпанула снегу.

Ударыла ў сенцах немаведама чым. Звалілася на падлогу з шафарні вядро і прыкацілася аж да парога.

Зноў зазванілі ў вокнах шыбы і закалыхалася пад столлю лямпачка...

«Страху рве з хаты...» — падумаў Андрэй, бегучы на двор.

Дзверы ў сенцах былі не зачынены — не зачыніў, мусіць, ён сам, калі варочаўся ў хату, і аж у кут да шафарні, дзе пасля вайны стаялі жорны, нагнала свежага белага снегу, што мукі. Снег ля ганка быў мокры і слізкі, зверху браўся скарынкай, прымярзаў: чуваць было пад нагамі. У вочы зверху з хлева са страхі гнала сухі белы пыл, як дым, і ён ліп да твару. Не давала глядзець.

Расхінула паддзеўку; сцебанулі па лбе мокрыя валасы — шапка асталася ў парозе на цвіку ля юшкі; вецер упёрся і не даваў ісці, гнаў назад, у сенцы.

Стары высокі тофель, што рос у гародчыку пад хлевам, сагнуўся аж да зямлі. Ля страхі быў відаць прагал — свяцілася шэрае неба. Чорнае разгатае галлё мітусілася ў цемнаце і патрэсквала, як на агні,— намерзла.

З хаты сарвала палавіну страхі — ад двара. Задзёрла недзе, адарваўшы ад перакладзіны, і, адламаўшы старыя дубовыя крукі ў ключах, падхапіла і адкінула на гародчык пад вуліцу. Страха, перавернутая ўгару ключамі, ляжала на снезе, зачапіўшыся рогам за частакол ад вуліцы. З частакола звесіліся абламаныя латы і скрыпелі, калышучыся.

Рваў вецер. На дрывотні пад варыўнёй у вярсце бітых дроў ныла падзёртая бяроста, хлопаючы, што курыца крыллем. Крук ад асвера закінула за парканне, і ён кратаўся, нагнуўшыся на двор на дрывотню, як падсечаны. У хлеве стукала карова — рагамі ў сцяну.

Андрэй пачуў, што яго прабірае наскрозь. Зашпіліў на ўсе гузікі паддзеўку — яна была мокрая спераду і пачынала лубянець. Па ёй слізгалі рукі. Калола ў пальцы, у пупышкі, як іголкамі; пальцы рабіліся цвёрдыя, што костачкі. Ён пачуў, як у яго раптам абвялі рукі і не слухалі зусім ногі — не адарвеш ад зямлі, каб ступіць...

«Трэба клікнуць людзей... Раскідае ўсяго па бярне»,— падумаў ён, гледзячы на белую ў цемнаце матачыну над хатай, па якой стукала другая палавіна страхі — ад гарода,— і скрыпелі крукі ў ключах, суха, як хто рэзаў пілой.

Ля паркана ў канцы шліхты буркнуў сабака — Гладкага, Андрэй пазнаў. Сабака падняў галаву, сачыў. Ля яго відаць была чорная пляма, не зацярушаная снегам. Днём рэзалі цяля: пасля Веркі трэба было садзіць людзей за стол — рэзаў Падбярэцкі,— і чорная пляма асталася ад крыві. Сабака, відаць, сядзеў над кішкамі. Падбярэцкі кінуў іх пад паркан, усім на вочы, не схінуў нават за хлеў — рукі адваліліся б...

«Каб жыла Верка — гэтага б не было... Чужыя людзі...» — падумаў ён і ўспомніў, як Падбярэцкі — лысы, бліскучы і нейкі маленькі — упіўся за сталом, зачырванеўшыся, як ад палу. Выціраў падслепаватыя вочы, як усё роўна плакаў: «Яшчэ каб па адной, сусед, то і до-о было б!..» З-за стала яго вывела ў сенцы Балюта.

Пра Падбярэцкага ён думаў, ужо лезучы на страху на сенachкі па шырокіх варотах, якія служылі замест плота ў гародчык між сенцамі і варыўнёй. Вароты былі зроблены густа з дошак — не лучыць нагой у дзірку. Драбіну ад сенячак прынялі, калі выносілі з хаты Верку...

Сенячкі былі накрыты траской — абрэзкамі, што асталіся ад хаты, вузкімі, сукаватымі — пад шэрсць. Абрэзкі паскручваліся — крылі імі даўно, да вайны,— павылазілі з-пад цвікоў і, рассоўваючыся, ламаліся пад нагамі. Андрэй тады папоўз на каленях, шукаючы рукамі палкі, якія былі папрыбіваны зверху, каб зручней лазіць на гару. Палкі абмерзлі, паслізлі і вышмыкваліся з рук.

Калі ён учарэпіўся за дзядок, падумаў, што са страхой знясло і шчыт ад двара,— шчыты з аполкаў былі папрыбіваны да дзядкоў. Абхапіўшы яго рукамі, пачуў, што крытаецца і дзядок, і матачына, і верхняе вянцо пад нагамі, на якім ён стаяў з ботамі, як прыляпіўшыся.

Вецер круціў на вышках пясок і гнаў у вочы: шчыт ад вуліцы быў цэлы; упіраўся ў грудзі, нібы хацеў скінуць на двор на зямлю. Займала дыхаць, падгіналіся ў каленях ногі... Скрыпелі, не сціхаючы, крукі ў ключах — страху ад гарода падымала і падымала ветрам, і яна як усё роўна хліпала ўгары над матачынай.

«Узарве комін...— падумаў Андрэй, аж цяпер угледзеўшы пад страхой шырокі прысадзісты ляжак, пабелены,

што прысыпаны снегам.— Раскіне па цагліне, не знойдзеш...»

Скочыўшы на гару, на мох і пясок, ён наткнуўся бокам на куфар. Стары вялікі куфар усцягнулі на гару, яшчэ калі не быў забіты шчыт і не былі зроблены маленькія дзверцы, як пралезці. Верка загадала: куфар увесь час стаяў у сенцах на зямлі — гніў. На гары ў яго ссыпалі кожную восень ячмень: лазіла Верка.

«Раскідае ўсяго...» — зноў падумаў Андрэй, узлезшы на куфар з каленькамі.

Выпрастаўшыся, ён дастаў рукой да матачыны — яна была слізкая зверху, бралася лёдам,— пасля другой рукой ухапіўся за дубовы крук у ключы. Пачуў, што яго падымае на куфары разам з ключом. Можна паляцець на гарод са страхой к чорту матары! Трэба скарэй прывязаць ключы да матачыны — другога ратунку не будзе.

Перад вачыма вецер ганяў на шастку сухія венікі — яны шасталі, як папера,— і кружкі жоўтых лык: былі добра відаць у цемнаце, ківаліся.

Ён адразу ўхапіўся за кружок — шорсткае, сухое лыка калолася ў пальцы; рвануў, але кружкі былі туга звязаны. Тады яму цюкнула ў галаву, што лыка — не ратунак: парве, як саломіну...

Адшпіліўшы дзягу, ён пацягнуў з усёй сілы за спражку. Дзяга вышмаргнулася з пецель, пырснула ў шчаку дужка ад спражкі... Закінуўшы дзягу наверх на ключ, ён аперазаў матачыну і падцяў спаднізу, што сабаку пад пашчэнкі, завязаўшы на два вузлы. Страха ля коміна адразу перастала хліпаць. Тады ён стаў на край куфра — на круглым веку няёмка было стаяць — і ўхапіўся рукамі за крук у другім ключы, якраз пасярод страхі. Крук вышмыкнуўся з ключа, і Андрэй паляцеў з куфра ў пясок і мох, не ўстояў на нагах.

Упаўшы, намацаў рукой круг тоўстага тэлефоннага дроту. Дрот ляжаў на гары, ускінуты яшчэ да вайны, калі ля вёскі па гародах вялі лінію на заставу да Віліі. Дрот секлі на цвікі прыбіваць латы да ключоў, як перакрывалі перад самай вайной страху. Лежачы дагэтуль, ён паржавеў, зрабіўся шурпаты, што паклёваны.

Стаўшы на калені і знайшоўшы канец дроту, Андрэй вобмацкам адматаў яго з круга — дрот не хацеў выпроствацца, вырываўся з рук — і пачаў гнуць у пальцах, як у абцугах, з усёй сілы... Дрот гнуўся штораз у новым месцы, здавалася, яшчэ больш цвярдзеў, рабіўся што сталь-

ны; запахла ржой і грэтым жалезам, як у кузні, стала горача ў пальцы. Тады Андрэй падняў круг перад сабой — круг быў цяжкі — і, перанёсшы, паклаў на куфар. Ускочыўшы на века, тузануў за канец дроту ў дзве рукі — круг падсунуўся да ног — і, сагнуўшы, пачаў вобмацкам прасоўваць дрот між лат над ключом.

За матачыну дрот зачапіць было лягчэй, і Андрэй, злавіўшы ў рукі два хвасты, пачаў скручваць, сціснуўшы ў кулаках, як павіваў вяроўку. Круціў доўга, сцяўшы зубы, аж пакуль зноў не стала горача ў пальцы. Дрот адламаўся, выпімыкнуўшыся з пальцаў, глуха стукнуў па веку. Андрэй пачуў, як павяла галава, і ўхапіўся рукой за шасток з венікамі... Вецер рвануў з двара з усёй сілы, ударыўшы, як чым цяжкім, у шчыт ад вуліцы. Зноў натужылася над галавой страха, падымаючыся з матачыны; трашчала, грукаючы ключамі; скрыпела — соўгаліся крукі — і падскоквала, як усё роўна рвалася з ветрам у белы свет... Было чуваць, як звініць дрот на матачыне ад натугі...

«Лопне... і тады не ўстоіць комін...» — падумаў Андрэй.

Пад нагамі дрыжаў куфар; здавалася, кратаецца ўся хата, і пад ёю ходзіць зямля... Скочыўшы з куфра, Андрэй пачуў, што ззаду ўпаў круг дроту — зачапіў нагамі. Шукаў, абдзіраючы рукі. Падбегшы пасля да шчыта, ён учапіўся за дзядок і палез да матачыны. Лезці не даваў дрот, цягнуў назад — быў акручаны ў два разы ля локця.

Вецер біў цяпер у самы кут на гары — гудзеў, што ўсё роўна агонь... Андрэй абхапіў адной рукой дзядок, другой пачаў запіхаць канец дроту за ключ. Падсунуўшыся вышэй і заклаўшы ногі за падпоркі ў дзядку — рукі былі незанятыя — ён акручваў і акручваў пасля дрот ля ключа і ля матачыны, цягнучы знізу са столі, круціў ля вушэй у дзядку, пакуль зусім не абвялі рукі...

Вецер біў, упіраючыся ў шчыт, яго гнала сюды, на гару, з усяго свету. Пайшлі крупы, калючыя, што жарства. Секлі па лбе, па шчоках, адскоквалі ад страхі і сыпаліся за шыю.

Страху цяпер падкідала ля сцяны, яна стукала глуха і цвёрда, як па мёрзлай зямлі.

Андрэй падумаў, што страху ўсё роўна скіне, разам з матачынай, бо ветру не дае ходу шчыт.

Трэба зрываць шчыт...

Пад рукамі нічога не было, і Андрэй пачаў стукаць кулаком у латы ля дзядка. Стукаў і чуў толькі, як упіралася рука ў цвёрдае дрэва.

Саскочыўшы, ён поўзаў па гары, мацаючы мокры мох і пясок, пакуль ля самага коміна не лучыў пад калена паўцагелак. Паўцагелкамі закладалі пасля вайны ўжо дзірку ў коміне, прывёзшы іх з участка. Яны былі паленыя.

Б'ючы паўцагелкам у лату, Андрэй думаў, што ў сенцах за шафарняй стаіць тапор, што, каб палез па яго, то ўжо не падняўся б на гару, не змог бы.

Дрыжала лата, дрыжалі рука і галава, як усё роўна развальвалася на чарапкі, а ён біў без аддухі па лаце ў адным месцы, па самай першай, знізу, пакуль не пачуў, што яна стала ад'язджаць. Тады пачаў біць па другой, па сярэдняй, з большай сілай. Ад паўцагелка адскоквалі дробныя вострыя кавалачкі і ўпіваліся ў шчаку, як брытва. Запішчалі цвікі ў дзядку і ў ключах пад страхой, і ён убачыў, як шчыт спачатку адтапырыўся, асунуўся ўніз, скрабануўшы па застрэшку, тады яго як усё роўна хто падхапіў і кінуў на вуліцу. Ззаду за шчытам хлынуў вецер.

Андрэй падышоў да куфра, апёрся рукамі на века. Дыхаў з сябе, як пасля плачу,— доўга, з хліпаўкай. З ілба на рукі пасыпаўся цёплы пот; пацёк па шчоках на шыю. Чуваць было, змокла ўся спіна, да паясніцы.

Убачыўшы блізка ля сябе белы комін, Андрэй падумаў, што страха цяпер будзе стаяць: прывязана да матачыны трыма месцамі. Другую палавіну ўсцягнуць. Прыйдуць заўтра мужчыны, падымуць з гарода і ўсцягнуць... Падбярэцкі з братамі Канэцкімі з участка, Гладкі з вёскі, Рускі...

Не шасталі ля вуха венікі, на дварэ пацішэла; не калыхаліся, як перш, на шастку ў кружочках лыкі. Ля коміна Андрэй згледзеў два белыя касільны — краталіся, як усё роўна чые тонкія рукі,— косы віселі на ключы: на адной была яшчэ сцябачка, забыліся зняць, і цяпер, махаючыся з боку ў бок — зноў хапіў вецер,— яна стукала па касільне ля пальца, і ад таго глуха звінела ўгары каса.

Андрэю тады горача зрабілася ў грудзях... Гарачыня лезла ў горла, як усё роўна збіралася задушыць...

Калі ён заплюшчваў вочы, перад ім усё адно краталіся косы — немаведама дзе... Пасля яму здалося, што ён з Веркай на Доўгіх за ракой...

Яны ідуць адно за адным, махаючы косамі ў густой, цёмнай на крыніцы мокрай сінюсе і рабінцы. Ідуць ад лесу да самай ракі ў альшэўнік — аж за трое ганей,— вязнучы па калені ў рудзе ў крыніцы пад лесам, тупячы

косы ў цвёрдым, што пні, куп'і на сухім каля леташняга стажар'я і чуць адкідаючы з-за пляча мятліцу з канюшынай, злежаную, прыбітую дажджом, густую, не ўткнуць касы, ля самага альшэўніку ля ракі.

Ныюць пад вухам рэдкія худыя камары; пахне кіслай рудой і бабком балота; пахне прывялая ўчора за дзень у пакосах — была пагода — рабінка, і аднекуль густа патыхае кменам, што ўсё роўна з аселіцы; мусіць, з беражніцы, дзе кмен, перастояўшы, высах на сонцы.

Холадна на крыніцы ў босыя ногі, калі яны правальваюцца ў руду, і спадыспаду, з гразі, ідуць наверх вялікія, круглыя, сіняватыя, што качыныя яйкі, бурбалкі; мякка ў пяты на чорным торфе на сухім, дзе каса рэжа траву і мохам і зямлёй, і колецца ў ступні, не стаць на беражніцы пасля зрэзанай высокай, у пахі, мятліцы, што жыта... На беражніцы трэба сунуць ногі па зямлі, прыгінаючы пні з-пад травы. Успорваеш тады пальцамі мурашнікі — чорныя бугаркі торфу з шэранькімі сухімі крапінкамі пясочку,— і мурашкі паўзуць ззаду па нагах высака на лыткі і кусаюць, аж мярцвеюць ногі.

Верка ідзе спераду, становіцца часта, і тады Андрэй бярэ ў яе з рук касу і доўга водзіць бруском па клёпе — клёп зрэзаўся за дзень,— пасля махае сцябачкай, спрытна, з імпэтам, трымаючы касу за нос адным пальцам, аж у вочы пырскае сухі пясок: сцябачка вымазана ў глей. Верка мазала сцябачку глеем у бродзе ў рацэ, калі ішлі на балота. Пасля яго бруска і сцябачкі Верка лёгка ідзе наперадзе з касой — здаецца, сама стала лягчэйшая, не правальваецца ў балота, і Андрэй, закідаючы касу, бачыць толькі спадылба, як махаецца ўперадзе белае касільно, з боку на бок, з боку на бок... Чуваць нават, як востра свішча Верчына каса: жы-жык... жы-жык...

На балоце ўсюды звоняць косы і блішчаць на гарачым па паўдні сонцы; на балоце ўсюды белыя хусткі: косяць адны бабы — першы год пасля вайны. Андрэй нікога не бачыць. Верка, тонкая, лёгкая, спрытная, без хусткі, валасы ў касе на патыліцы, азіраецца з-за пляча на яго, відаць аж здалёку яе вочы, блішчаць — Верка, мусіць, смяецца... І мільгае ў яго перад вачыма новае белае касільно... Ад лесу да ракі, да беражніцы, ад ракі да лесу... Ад раніцы да самага вечара... І заўтра яно будзе стаяць у вачах, і паслязаўтра, і ўсё лета, аж пакуль у Мсціжах не справяць пакоссе...

З гары ён злазіў ціха, баючыся паслізнуцца на сенач-

нах на свежым снезе. Памякчэла шэрань, чуваць было пад нагамі: садліжыць. Вецер сыпаў зверху з-за страхі густую імжу, што праз рэшата.

У сенцах Андрэй адразу зашчапіў за сабой кручок. Дзверы ў хату былі расчынены насцеж, прываліліся да шафарні, закрыўшы куток, дзе некалі стаялі жорны. Ён намацаў клямку, пераступіўшы парог, доўга бразгаў, не мог зачыніць.

Калі сеў ля акна ад вуліцы, там, дзе сядзеў перш, і заплюшчыў вочы, паклаўшы галаву на стол на рукі, зноў у вачах пачалі пераварочвацца высокія, як пасечаныя на кавалкі, вострыя, белыя скібы. Белыя, як Верчын твар.

Ён тады застагнаў, не падымаючы са стала галавы.

Не чуў, што, даўшы волю, стогне моцна, на ўсю хату, і што на дварэ аціхае вецер.

## 2

Зайшло сонца, і праз соснік на рог канюшні, на вёску, была відаць паласа чырвонага неба, вузкая, як ручнік. Нізка, ля самай зямлі яна пералівалася і дрыжала яркім агнём, і ад таго Андрэю здавалася, што сонца зайшло зусім блізка за Луськім у канцы Загумення. У прагале над дарогай, што вяла з участка ў вёску, таўклі свежы мак камары, цэлай плоймай, як іх нагнала сюды з усяго лесу. Яны добра былі відаць здалёку на ядранай чырвані: мітусіліся чорнымі макавінамі, што ўсё роўна сыпаліся зверху, сеючыся праз сіта. Ад іх рабілася шэра ўваччу. Камары дрыжалі і ля канюшні ля дзвярэй над самай лужынай, што нацякла з-пад лёду і стаяла, запеніўшыся, як укісла. Ля дзвярэй была падсунута граблямі чорная з зімы патруха і чыста падмецена гальнікам да самай зямлі. Зямля адтавала ўвачавідкі, рабілася мокрая. Патруха і шума былі ссунуты і са сцежкі ля падстрэшніка, што вяла на дарогу цераз леташняе бульбянішча; на сцежцы быў відаць чысты, белы, як цукар, лёд — раставаў па краях і пеніўся, што мыла. Кранутая граблямі зямля пахла свежай раллёй і бульбай. Блішчала ля канюшні пераараное ўвосень мокрае бульбянішча — цьмянымі палосамі-гранкамі; ля самай дарогі яго ў паводку размыла вада, нагнаўшы свежага пяску аж да дзвярэй да канюшні. У вымытай па калені канаве ля дарогі быў відаць белы камень і высака над ім сасновае карэнне — тоўстае, па пальцу, і тонкае, як на кошыкі: зайшло ад лесу да самай канюшні. Абмытае ва-

дой, яно цяпер падсыхала ў канаве на вясновым сіверы і пахла смалой. З яго яшчэ капала вада, збіраючыся ў кроплі; на жоўтым пяску ў канаве на дне былі павыклеваны круглыя ямкі.

У лесе здалёку былі відаць латочыны белага снегу. Снег ляжаў у старых ямах і ў ламах пад соснамі, дзе зімой наганяла гурбы, і ў маладым пажаўцелым сосніку, дзе яго не даставала пад лапкамі сонца. У сосніку ля зямлі папоўз сівы туман, нават відаць, як ён падымаецца ў лагчыне за дарогай, што пара, нібы там паставілі, выняўшы з печы, гаршкі з бульбай — хай ачахне перад самай вячэрай, каб не сыпаць мокрую на стол на абрус. Далей, за канторай, туман заслаў усю пасеку: нічога не відаць — там, на імшары, яшчэ ўсюды ляжаў снег, за дзень раскіс і цяпер мок у вадзе.

Адтуль пахла прэлым мохам, сырой смалой і брусніцамі — адтавала балота.

З вышэйшага месца, ад канторы і ад кучы рудога пілавіння, дзе была перш лесапілка, сцякла вада да сушылкі і да кузні і блішчала там, пад самым лесам, як цёмнае шкло. За дзень ад сонца ачарсцвеў ля канторы дзядзінец, стаў шэры. Шэрая зрабілася і страха на канторы — доўгай новай будыніне на дзве палавіны, з жоўтага чэсанага сасновага бярвення, з доўгімі, вузкімі цёмнымі калідорамі, з ганкам, з вялікімі вокнамі аж пад страху; шэрая стала кузня за перааараным бульбянішчам і Агульніца — пасека за дарогай... Шарэла, падсыхаючы, пясчаная дарога проці кучы пілавіння, за якой ляжалі ў штабелях белыя бярозавыя метры; падсыхала шума і каменне ля кузні, дзе стаялі спягнутыя калёсы і цьмяна блішчалі здалёку не вышараваныя яшчэ пасля зімы ржавыя шыны на колах — на тралёўку на калёсах выехалі толькі тыдзень назад; шэрыя рабіліся дошкі на страсе на канюшні — сохлі, падымаючыся і карабацячыся ад сонца — на чорных суках блішчала смала.

Андрэю здавалася, што голы пасля зімы ўчастак пахне аднымі коньмі... Пахне сенам і зляжалым гноем канюшня; пахнуць потам хамуты з расчыненых дзвярэй з кладоўкі; пахне конскімі капытамі ад кузні, струганымі стадомскай і дзёртымі наждаком, дзе кожны дзень лепіць Падбярэцкі коням гарачыя, яшчэ сінія падковы, аж ідзе дым, і заганяе ў капыты, як у дрэва, мяккія бліскучыя белыя вухналі... Нават леташняе бульбянішча, збітае падковамі і размешанае на гразь ля канюшні, пахла конскім потам...

Пасля пацягнула свежасцю з Курачовых Цянёў, з імшар, нібы хто дыхаў: чуваць была смала, мокры мох і пілавінне ад лесапілкі. Зляжалае ў кучы, ад смалянога дрэва, яно пахла шкіпінарам, густа, аж лезла ў нос. Здалося, што гэта ён сам, Андрэй, пахне шкіпінарам — нацёрся дома пасля вячэры, перад печчу, кладучыся спаць. Ён усю зіму націраў плячо: яно ныла і ныла кожны раз, «на змены», як гаварыла Верка; застуджанае, балела ноччу, аж ламала — не заснуць. Ён тады ўставаў з ложка і хадзіў па хаце, натыкаючыся ў цемнаце на шафу ля сцяны, на перагародку і на ўслончык ля стала ў першай палавіне, пакуль не пачыналі балець натруджаныя за дзень на ўчастку ногі. Хадзіў і чуў, як балючае левае плячо цягне і цягне ўніз, крывячы ўсяго; кліча з ложка з другой палавіны Верка — была яшчэ дома, не ў бальніцы...

Левае плячо стала ніжэй пасля Камена, як Андрэя параніла ў блакаду ў акопе асколкамі ад міны з нямецкага мінамёта, калі ляжалі ў абароне...

Калі пачынала ныць плячо, не памагалі ні фуфайка, ні цёплыя вязанкі — Верка звязала іх аж дзве, як яшчэ была здаровая. Андрэй, калі палілася ў печы, грэў вечарам плячо перад чалеснікам, седзячы на краі ўслона, каб не замінаць Верцы, цёр нанач шкіпінарам, а не было шкіпінару — націраў самагонкай.

Цяпер, пасля Веркі, пачала аднімацца рука. Калі не пагрэе вечарам плячо, рукі не падняць, і, каб зачэрпнуць аўса і насыпаць у кармушку, доўга трэба церці руку, седзячы на мяхах у кладоўцы. Бывае, так і не дасць рады: носіць вядро з аўсом і сена адной рукой — пад пахай.

Андрэй думаў, што рука аднімаецца пасля таго, як ён прывязваў страху... Адразу тады пачуў... Не мог ужо ўзяць нічога на плечы, калі назаўтра прыйшлі мужчыны. Памагаў толькі: падпіхаў адной рукой і камандаваў — крычаў на ўвесь двор мацней за ўсіх: «Раз-два — узялі» — а ўзяць не мог. Крычаў ад злосці.

Ля кузні былі відаць белыя стружкі — там удзень Падбярэцкі часаў клён на абады і габляваў бярозавыя ляжэйкі. Стружкі ляжалі, як усё роўна зімой на двары ў Ганькі, калі памерла Верка. Ганька жыла цераз вуліцу, а ў яе рабілі дамаўё. Андрэй доўга глядзеў да кузні.

Пачуў, што ўсюды стала ціха; не чуваць было нават, як капала ў размытую канаву вада,— мусіць, падчарсцвеў пясок. І шэрая зямля, і стрэхі, і густое, як сінька, неба, і чырвоны соснік за плячыма, дзе ачахла зара,— усё было

ціхае, як застыла. Ціхае, далёкае і невядомае, нібы ўгледжанае нанава пасля доўгага часу, хоць усё было кожны дзень на вачах: і канюшня, і лес, і зямля. Зямля са снегам пад нагамі зімой; з граззю, з сыпкім сівым пяском, сасновымі шэрымі шышкамі і дробнай дзяцельніцай — летам; з цвёрдай, што камень, грудаї позна ўвосень, калі зямля грукала пад ботамі на ўвесь свет і аж звінела, як парожняя... Зямля, па якой ён ходзіць ужо скора паўвека...

Звінела ў вушах. Ён падумаў: гэта ад цішыні і спакою. Прыйшла ўжо і будзе вясна, паяўлялася яна сёлета цяжка, як дзіця на свет,— з болем і крыкам...

А можа, так ціха ад таго, што тут, на ўчастку, ён адзін. Адзін пасярод лесу... З канторы раз'ехаліся і Унук, і Шура — у раён. Паадпрагаўшы коней, разышліся возчыкі: Федзя сёння магазін не адкрываў; вартаўнік, стары Бохан, прыйдзе пазней, калі ўжо сцямнее. Коні ўсе да аднаго ля ракі...

«Скора і коней не будзе,— падумаў ён,— як прыгоняць тралёвачнікі...»

Ціха, пуста. Ідзе толькі з расчыненых дзвярэй з сушылкі, дзе вісяць хамуты, рэдкая пара. Пачынае шарэць. Пад сасной, на рог канюшні, відаць белы снег — ляжыць, як пласт, прыцярушаны зверху цёмнай карой і сенам.

Золка за плячыма, ные і ные ўсярэдзіне, як на што нядобрае.

У цішыні ля вёскі, ля ракі, заірзалі коні. Ядрана, здаецца — можна нават пазнаць якія. Рэха далёка ідзе лесам, недзе туды пад Доўгія.

Пасля робіцца яшчэ горш ціха. На паддзеўку, на плячо, са страхі з канюшні ўпалі доўгія жоўтыя сасновыя іголкі — аж чуваць, здаецца, было, як яны круціліся ўгары.

Зноў заірзалі коні. Ля сілосных ям і зусім блізка ля кузні, за дарогай у Агульніцы. Ірзалі, як усё роўна спуджаныя ноччу на начлезе, калі ціснуліся на Доўгіх пад раніцу да агню, дзе тлелі ў вогнішчы ў попеле адны галавешкі — на Доўгія з Курачовых Цянёў падыходзілі ваўкі. Андрэй натапырыўся, пастаяў, тады прайшоў дарогай пад кузню да самага склепа з бочкамі, дзе дзень і ноч парыў Падбярэцкі абады. За кузняй на дарозе ўбачыў коней — двое. Коні былі братоў Канэцкіх. Браты Канэцкія разам ездзілі адзін за адным на тралёўку, побач ставілі коней у праварынах у канюшні, і тыя, выпражаныя, усюды былі ўпобачкі. Два чорныя, рослыя, з шырокімі крыжамі і

доўгімі грывамі рысакі былі падобныя адзін на аднаго, як і самі браты Канэцкія — у братоў былі аднолькавыя вочы і голас: зблытаеш,— храплі, фыркалі, махалі галовамі і баяліся падыходзіць да кузні.

Андрэй падумаў, што коні бягуць з Доўгіх. Лучылі туды зімовай дарогай, калі выбеглі з пасекі. Распаўзліся недзе па ўсім лозе ля ракі, ідучы ад вады: цяпло пачулі. У маразы ўжо ўвосень іх ад платоў ля вёскі, каля якіх яны ішлі да ракі, на Доўгія не загнаў бы і сабакамі...

Увосень і зімой коней не трэба было і ганяць да вады, не трэба было садзіцца конна ні раніцай, ні вечарам — хадзілі самі. Толькі калі ўсё было на канюшні спарадкавана — разраўняны ў праварынах гной і закладзена за драбіны сена,— Андрэй садзіўся тады на Сібірака — шырокага, як печ, і куртатага, з зямлі нагу закінеш,— які добра бег рыссю, і на ім можна было дагнаць, не паганяючы, нават коней братоў Канэцкіх, і ехаў ззаду за ўсімі, седзячы на спіне, як дома на лаве — спусціўшы ногі на адзін бок і ківаючыся, што клюючы носам перад сном. Зімой, у вялікія маразы, трэба было прасякаць у бродзе пролабку і наліваць у карыта вады — не ўсе коні лезлі на беразе на лёд, наравіліся,— тады ён вёз з сабой тапор ззаду на спіне пад дзягай і вядро на назе, зачапіўшы валёнкам за почапку. Трухаў конь, чуваць было, як ззаду стукае яму па спіне тапарышча і бразгае ціхенька перавесла ў вядры ў вушках. Коні пасля лесу, нацягаўшыся за дзень, не хацелі піць: прыйдуць да ракі, настаяць на беразе, стрыножыўшыся і адтатурыўшы ніжнюю губу, паспяць і не нагнуцца да вады — ні ў раку, ні ў карыта. Тады ім трэба было сілязь вядром ваду і падносіць да носа. Пілі, цэдзячы праз зубы: вада была як лёд. Андрэй адучаў іх, гнаў у раку, шлеіў пугай, а калі ўжо не пілі ў рацэ, паіў тады сам. Шкадаваў: коні пасля дзялянак часта не нагіналіся і да кармушак. Стаялі і стагналі аж да поўначы, тады пачыналі хрумскаць, дастаючы з-за драбіны сена, калі ўжо мерзлі ад холаду.

Два чорныя, як смала, кані братоў Канэцкіх зрэзалі рог бульбянішча, гразнучы і падкідаючы камякамі раллю, і, спатыкаючыся на карэнні, беглі лесам да другога канца канюшні: там былі расчынены насцеж дзверы. Андрэй, вярнуўшыся, пабег ім наперад цераз канюшню — папрасаджваюцца ў праварынах, здурнеўшы. Пазнаходзіўшы праварыны ў левым кутку, коні стаялі ні жывыя ні мёртвыя, форскалі толькі, не могучы аддыхацца. Пачуўшы

Андрэя, сталі хмыліцца і круціцца ў праварынах — не надыходзь... Ён заклаў здалёку палкі, покаючы на ўсё горла — прыбягуць астатнія гуртам, счэпяцца, стануць грызці адзін аднаго і рэзаць вострымі падковамі. Коні далі закрыць за сабой праварыны, падварочвалі толькі галовы і бліскалі з куткоў з цемнаты сінімі, як шкляпымі, вачыма.

— В-воўча лыка... Стойні няма. Укусіла ўжо халерая...

Андрэй, выйшаўшы з канюшні, пастаяў ля дзвярэй, адчыніў іх шырэй, як мага, падсунуў падніз пад адну палавіну бярозавы бурвалак, аскоблены падковамі і ўкачаны ў гной. Ля другой уткнуў у зямлю вілкі, якімі насіў у яслі са сцірты з двара сена,— вілкі не палезлі глыбака ў зямлю, упёрліся ў лёд.

Коней ад ракі доўга не было. Зноў стала ціха, нават не грукала ў праварынах. Недзе блізка ў вёсцы, мусіць, на ферме, гаманілі людзі. У тым баку стукаў і стукаў глуха тапор — у некага на дрывотні. Запахла дымам з коміна — лясны дым пахне па-інакшаму. Чуваць было, як недзе ў бок Луськага гудзе трактар і шуміць на Доўгіх рака. Праляцелі вароны, кучкай, нізка, над самай страхой, аднекуль з вёскі і падаліся за кузню ў Агульніцу. Над пасекай, дзе яны схаваліся, ужо было цёмнае неба: вечарэла. Нылі камары, мітусіліся перад вачыма.

Коні зноў беглі ад кузні; не ўсе, палавіна — ён падлічыў; беглі рыссю, абганяючы адзін аднаго, круцілі галовамі, як ад аваднёў. Андрэй стаяў ля дзвярэй, і коні, мінаючы яго, лезлі аж са скуры, хоць у яго не было ніякага ўручча. Ён чуў толькі, як чвякае ў іх пад нагамі разбалабашаная свежая гразь; з гразі выткнуўся канец бомкі, якой зачынялі праварыну, на яе наступілі падковы, і яна, задраўшыся ў рост чалавека, суха стукнула па сцяне, пырснуўшы граззю.

За коньмі ў канюшню ён не пайшоў — самі пазнаходзяць праварыны — узгарэліся, як падсмаленыя...

Астатнія коні ішлі ад ракі соснікам па выбітай сцежцы, па якой хадзілі і зімой і летам. Сцежка вяла ад канюшні на шырокую пясчаную дарогу да Мсціж, паабапал якой раслі старыя сосны і бярозы-чачоткі і стаялі тэлефонныя слупы.

Зімой, калі Андрэй у маразы ехаў додніцай да ракі, правады гудзелі ў белых ад інею бярозах па розныя галасы, усё роўна як у Курачовых Цянях вылі кучай ваўкі... Аж шорах ішоў па спіне.

Правады цяпер ля дарогі віселі ціха, і коні ішлі адзін

за адным, як і кожны дзень, да вады. Чуваць было, як грукае ў іх пад нагамі зямля і трашчаць сасновыя сучкі ў валежніку.

Коні былі яшчэ мокрыя, не абсохлі пасля дзялянкі, хоць і стаялі доўга ў канюшні, пакуль ісці да вады... Усюды блішчалі мокрыя цёмныя спіны, не выліналыя яшчэ пасля зімы і нячыста выдзертыя згрэблам; шырокія, як на печ, бурыя, з чорнай паласой пасярэдзіне, крыжы, адкормленыя, мяккія, хоць кладзіся на іх без падушкі; плоскія, перахлябістыя бакі з павыдзіранай на скабах пільсцю аж да крыві — аб рагаччо ў лесе — і збітыя хамутамі на мазалі плечы. Маталіся доўгія, заплеценыя самі сабой у косы, чорныя, як смаль, і рудыя, як падпаленыя, грывы, перакінутыя між вушэй на лоб; а то, стрыжаныя, тырчалі ўгару шчоткай, калючай, не даткніся,— у іх панабіралася пылу ад старога сена з-за драбіны і патрухі ад аўса; маталіся хвасты — кароткія, абстрыжаныя, і доўгія, павыцягваныя па валасіне, рэдкія, як жыта; мільгалі і хаваліся з воч пазбіваныя аб верхаллё і пні да гузакоў калені; плоскія, шырокія і маленькія, зграбныя, як вытачаныя, капыты; і адусюль глядзелі на яго, Андрэя, вочы: сінія і вялікія — блішчалі, як шыбы ў цёмнай без агню хаце; маленькія, зыркія — пырснуць жоўтым агеньчыкам, як іскрай, і схаваюцца пад густой грывай; а то паглядалі змучаныя, хворыя ад натугі за доўгія гады, прыкрытыя зверху павекамі, вочы, што глядзяць у зямлю, пад ногі, і не хочуць глянуць на чалавека.

Гэта былі яго, Андрэевы, коні, якіх ён ведаў многа гадоў, гэтаксама як і людзей, што, прыходзячы ў канюшню, летам на зары, а зімой додніцай, пры ліхтарах, выводзілі коней з праварын на аброцях; на дварэ ля кладоўкі ўспіралі ім цераз галовы хамуты, якія высыхалі за ноч і не хацелі лезці коням цераз вочы; абцягвалі наберткамі, падкладаючы іх пад хвасты, і пасля, трымаючы ў руках фарбаваныя тоўстыя дугі, запіхалі коней задам у доўгія бярозавыя аглоблі...

Канюшня адразу пачала фыркаць, сапсці і ірзаць; грукалі аб сцяну кармушкі; звінелі бомкі пад нагамі ў коней; шапацела сена, накладзенае за драбіны на ўсю ноч; хрумсцеў на зубах авёс, прынесены пядаўна з кладоўкі, што была пасярод канюшні, і насыпаны бляшаным вядром — ладнай меркай — у кармушкі. Зазвінеў перакулены бачок — стаяў парожні ля дзвярэй ля кладоўкі: палез некатары, не дабегшы да сябе ў праварыну, шкодзіць...

Андрэй ішоў па канюшні і, падымаючы з гною бомкі, закладаў іх у праварынах у зазубні ў слупах — па дзве: і зверху і знізу. У самых памаўзлівых коней забіваў яшчэ кулаком над бомкамі ў дзіркі дубовыя калочкі, што віселі на аборках.

Бомку з-пад калочка конь ужо не выб'е ні галавой, ні нагамі — астатнія будуць спакойныя ўсю ноч. А то выганяюць з праварын адзін аднаго і ядуць чужы авёс з кармушак.

Коні аціхалі: хрумсцеў толькі на зубах авёс, шастала на ўсю канюшню сена і маталіся павыстаўленыя на праход з праварын хвасты.

Андрэю яшчэ на двары, калі ён стаяў ля паветкі, здалося, што не было Сібірака. Хаця, дзе ты іх усіх згледзіш...

Цяпер, падышоўшы да праварыны, дзе стаяў Сібірак, Андрэй убачыў, што праварына пустая. Сібірака не было. Андрэй мінуў парожнюю праварыну: Сібірак недзе ў кладоўцы. Дзверы ў кладоўку не зачынены на клямку, піхнуў і — там. Нічым не пажывіцца: авёс у мяхах. Як згрузілі, прывёзшы днём, так і ляжыць.

Дзверы ў кладоўцы былі зачынены, і Андрэй адразу пайшоў шыбчэй. Не мог жа іх конь зачыніць за сабой.

Падышоўшы да кладоўкі, убачыў, што дзверы на клямцы. Вярнуўшыся, стаў ля праварыны. Глыбокая, раскошная, дзе ўсягды кратаўся ля кармушкі нізкі і шырокі рудаваты Сібірак, як бярозавы жук у баразне, яна была пустая. Не верачы, Андрэй зайшоў усярэдзіну. У праварыне было ціха і цёпла, як у хаце. Шуршала, злягаючыся, высака ўгары за драбінай, як дастаць маломy Сібіраку, сена — доўгая сухая мятліца, як салома. Андрэй падумаў, што наклаў лішняга.

Ля кармушкі на чорным, убітым капытамі гнаі жаўцела жменька рассыпанага аўса. Свежыя зярняты — па адным — былі нацярушаны і пад кармушкай.

Зачыніўшы канюшню, Андрэй адышоўся сцежкай аж у соснік. Усюды было ціха. Пырхалі толькі сініцы, нейкія дробныя, з арэх, угары па сасне над галавой, пішчалі цененька і востра, як чаго баючыся. Зверху церусілася дробненькая труха і зялёны падсохлы мох — кавалачкамі. Было чуваць, як нехта ўсё яшчэ гамапіў па Загуменні ля вёскі, галёкаючы, і глуха грукала ў канюшні драбіна аб сцяну. На вільготнай сцежцы былі добра знаць конскія сляды — падковы секлі мох і шыллё і даставалі пяску. У ямкі ад слядоў набягала вада.

У маладым сосніку, што рос далей пад вёску, ля дарогі ляжаў снег вузкай доўгай белай паласой. Над ім вісеў густы туман, і далей не было відаць лесу. Пацягнула сырасцю і золлю.

Андрэй падумаў, што бачыў Сібірака ззаду за коньмі. Хаця ззаду Сібірак ніколі не хадзіў. Прысадзісты, рухавы і злосны, ён шнырыў, як намаўза, між усімі і грыз, каго няўзлюбліваў, і малога і старога. Цішэў толькі тады, калі чуў цуглі — белыя, шырокія, як расплясканыя, якія знайшоў недзе яму стары Шынкевіч. Стары Шынкевіч з Найдорфа, адразу, як толькі вярнуўся пасля вайны з сынам з Германіі — у вайну ў блакаду яго з сынам на Паліку злавілі немцы,— прыйшоў у леспрамгас. З сынам. У леспрамгас тады, хто быў у Германіі, ішлі ўсе. Калі на ўчастак прыгналі Сібірака, ніхто яго не браў: ламаў у возе аглоблі — не будзеш жа кожны дзень стаяць ля кузні, робячы на праграсіўку!

Стары Шынкевіч узяў — не такое бачыў. Дастаў недзе дзеля гэтага пляскатыя цуглі, як смяяліся ўсе, хоць цуглі тут нічым не памагалі: стары чалавек быў вопытны і патрафляў каню.

Шынкевіч і сам быў нечым падобны на Сібірака. Нізкі, шырокі ў плячах і рухавы, вада не ўстоіць, нават бровы ў яго хадзілі хадуном увесь час; ён усягды быў між людзей, як і Сібірак між коней.

«Сібірак згубіцца не мог...» — падумаў Андрэй. Ён яшчэ доўга стаяў, слухаючы, тады пачаў свістаць, як усягды,— клікаў. У канюшні заірзалі коні братоў Канэцкіх — ён пазнаў, і зноў зрабілася ціха.

Шарэла, пацямнела паласа снегу ля дарогі, хаваючыся ў густым, як аўсяны кісель, тумане. З лапак зверху стала капаць на зямлю пад ногі вада.

Андрэй падумаў, што дарэмна стаіць,— ідзе ноч.

«Адбіўся, падла... Ніколі такога не было...»

Вярнуўшыся на ўчастак да канюшні, Андрэй узяў у кладоўцы, дзе сохла збруя, аброць з доўгімі тасьмовымі павадкамі, што трапіла пад рукі, вывеў з канюшні каня меншага Канэцкага — конь стаяў першы ў праварыне з прыходу, зашчапіў на кручок дзверы і доўга яшчэ свістаў, стоячы ля паветкі і трымаючы каня за павад.

Па сырым лесе глуха ішлі водгаласкі; форскалі за сцяной коні. У вёсцы забрахаў сабака, як усё роўна пачуўшы свіст. Ускочыўшы на каня з зямлі — конь доўга не даваўся, круціўся на месцы,— Андрэй аб'ехаў па гразкім буль-

бянішчы канюшню і завярнуў на сцежку, якой ішлі коні ад ракі. Сцежкай няёмка было ехаць: лезлі сасновыя лапкі, і даводзілася нагінацца аж на шыю каню і адхінаць сучча рукамі — ламаць. Конь сам ішоў сцежкай, па слядах, і Андрэй не стаў выязджаць на дарогу. Падумаў, што коні не хочуць ісці дарогай, а ідуць выбітай сцежкай, якой хадзілі ўсю зіму, калі дарога была занесена снегам аж у пахі. Прывычка ў жывёлы.

Ля сілосных ям сцежка гублялася; коні тут, было відаць, рассыпаліся і гарцавалі па полі па раллі. Бегалі нават па бульбяных ямах — знаць здалёку сляды. Андрэй аб'ехаў ямы — нідзе нікога.

Ён хацеў падскочыць на ферму, але там ужо не было людзей. Ды і леспрамгасаўскія коні на калгасную ферму не хадзілі.

Ад Ям добра былі відаць Мсціжы: ферма — высокі, пад неба асвер ля студні, доўгія шэрыя будынiны — кароўнікі і канюшня; стары, даваенны яшчэ, свіран; бліжэй да лесу — цялятнік і парнік: з коміна з парніка ішоў дым; старыя сосны з бацяновым гняздом на дзядзінцы і чорныя ўроскідку хаты і хлявы ўдоўж вуліцы... З фермы, з дзядзінца, цякла ў вуліцу вада — шваргатала па каменні.

Зачвякала ў каня пад капытамі гразь — конь пайшоў навыцяжку, шукаючы цвярдзейшага месца. Андрэй пераехаў вуліцу, усю ў белым, вымытым наверх у паводку каменні, і завярнуў ля платоў да ракі па конскіх слядах.

З вёскі пахла дымам — альховымі дрыўмі, што асталіся яшчэ ад зімы на дрывотнях, і раскалочанай сырой зямлёй.

У канцы платоў на лагу конь граз па калені.

Разлілася рака, стагнала недзе далёка на Доўгіх...

Сібірака не было...

Ляжала толькі на беразе доўгае белае асінавае карыта, высака на легарах, абчарсцвела, і ад яго пахла свежым дрэвам.

І на аселіцы ля маста, і ля ракі на лагу, і на сухім буі ля лесу Сібірака не было. Андрэй падумаў, што ўсюды шэра і пуста, як у познюю восень. За ракой на Выганчыку азвалася кнігаўка, закігікала, як не ўмеючы, і сціхла.

Шваргатала ля маста ў старых застаўках рака; блізка ў вёсцы, у Балюты ці ў Гладкага, загарэўся ў хаце агонь, бляклы і цьмяна, як у слату. Краталі абчарсцвелыя за дзень пасля пагоды асверы на дварах, звінелі парожнія вёдры. Бразгаў падковамі конь аб каменне ў гразі...

За цёмным альшэўнікам за грэбляй заблішчалі, што ўсё роўна высака на гары, дробныя агні. Гэта ў Луськім. Луськае — доўгая вёска, расцягнутая ўдоўж дарогі на Вострава — у сельсавет.

Лог быў здрабежаны капытамі ад платоў аж да ракі. Ля кустоў, ля альшэўніку, было гразка. Конь правальваўся за калені, і Андрэю давялося павярнуць на буй, на белы сівец, які, падсохлы за дзень на сонцы, шастаў пад нагамі ў каня, што салома.

«Якая ведзьма пагнала іх за буй... Сляды знаць... — падумаў Андрэй.— Пусці толькі. Распаўзліся...» — Ён падумаў яшчэ, што трэба, пакуль відна, ехаць па слядах пад Доўгія. Сібірак мог там угразці на крыніцах. Вёрткі...

Але конь не пайшоў за буй на лагі. Стаў гразці ля альшэўніку ў крыніцах: лёг на жывот, спатыкнуўшыся, і, устаўшы, чуць выцягнуў з гразі заднія ногі. Дрыжаў, як чортведама чаго, не пайшоў уперад, хоць забі. Адскочыўся на сухое, атросся ад гразі і натапырыў вушы ў белы бярэзнік за крыніцу.

Андрэй падумаў, што коні перайшлі цераз крыніцу, выбраўшы месца па старой дарозе: усю зіму хадзілі сюды з участка на тралёўку ў пушчу пад Вешкі.

І другі раз конь цераз крыніцу не пайшоў, граз.

Сцямнелася. Ля лесу ядрана быў відаць леташні сухі сівец — стаў белы, як снег. Пачарнелі абсадзістыя сосны, што раслі з краю ў бярэзніку, парабіліся, як стагі сена. На Доўгіх у тумане закрычалі ўстрывожаныя кнігаўкі.

Андрэй падумаў, што на Доўгія ад вёскі ноччу не лучыш, і павярнуў каня ў соснік, які рос сярод поля і праз які ішла дарога да Ям і на ўчастак.

У лесе зусім сцямнела, угары над галавой не былі ўжо відаць тэлефонныя правады, блішчалі толькі цьмяна шкляныя кубачкі. На дарозе стаялі чорныя шырокія лужыны, ля іх яшчэ ляжаў снег.

Сляды былі толькі ля кузні, больш коні нідзе дарогі не пераходзілі.

Ля кузні Андрэй павярнуў у Агульніцу — на пасеку. Дарогу на пасецы ў паводкі прыгладзіла сівым пяском, і на ёй добра былі знаць конскія сляды — чорныя ямкі. Дарога вяла лесам пад Доўгія.

Пацела ў каня шыя — не адсопся яшчэ пасля дзялянкі; пад пахі, пад незашпіленую паддзеўку яму, Андрэю, гнала холад; было свежа і лёгка дыхаць у абсохлым лесе.

На насецы ў дробным нізкім сосніку конь стаў спатыкацца на дарозе аб пні, Андрэй тады хапаўся ў дзве рукі за грыву: нічога ўжо не бачыў уперадзе.

У Бярэзніку пад нагамі ў каня зноў зачвякала вада: пасля конь улез у гразь, як і на лагу. Падкорчыўшы ногі, адразу апусціўся на калені і клаўся на бок, каб ссадзіць ездака. Андрэй сцебануў яго шляёй. Конь, напяўшыся, рвануў з усіх чатырох, скочыў уперад і лёг у гразь на жывот. Андрэй пачуў, як сталі мокнуць ногі — набраў у боты цераз халявы вады.

Конь, перабіраючы пад сабой нагамі, граз яшчэ глыбей і біў аб зямлю галавой. Андрэй захінуўся даланёй: заляпала ўсяго — і шчокі, і вочы. Моклі ў вадзе калені, і ён, злаўчыўшыся, скочыў з каня, дастаўшы да сухога. Конь, выцягнуўшыся, зачапіўся пярэднімі нагамі за карэнне на дарозе, вылез з гразі і пачаў бегаць па сухім кругá Андрэя, атрасаючыся.

Прывязаўшы каня, Андрэй прайшоў па карэнні ў самы альшэўнік. Ногі ў ботах лезлі на той свет. Падумаў, што далей не праедзеш: цёмна, не відаць, дзе пад нагамі суха, дзе гразь, можна ўсадзіць каня.

Вярнуўшыся, ён правёў каня назад цераз гразь і сеў копна. Было мокра і холадна ў ногі. Конь увесь зрабіўся слізкі ад гразі, не даткніся.

Ад'ехаўшыся з балота ў лагчыну, Андрэй стаў і доўга слухаў.

Блізка на Доўгіх азваліся дразды, густа, як іх быў там поўны альшэўнік. На ўсходзе пабялела неба. У самым кутку ля ракі зружавеўся лес — збіралася ўсходзіць поўня.

— Гэ-гэ-э! — закрычаў Андрэй на ўвесь голас, аж скочыў пад ім, спужаўшыся, убок конь і стаў храпсці. Рэха азвалася з-пад вёскі і здалёку з-пад Вешак, дзе мігцела неба.

Зноў зрабілася ціха. Тады Андрэй пачаў свістаць. Працяжна, доўга, аж пачуў, што баляць вусны. Не ўцярпеўшы, заірзаў у яго ля самага вуха конь Канэцкага.

— Цьфу, зараза... Пужаць толькі... — плюнуў Андрэй. Пасля загаварыў да каня, як да чалавека, змучыўшыся за ўвесь вечар: — Трэба гнаць цябе ў канюшню і вярнуцца шукаць падлу. Захлынецца дзе ў гразі...

Назад па вільготным пяску конь мякка бег рыссю, апусціўшы галаву аж да зямлі...

У поўнач, калі поўня была над Вешкамі, вісела ў тумане белая і халодная, што зімой, Андрэй знайшоў Сібірака — у самым кутку на Доўгіх у жыліне пад Жоглаўкай, дзе было суха. Сібірак ляжаў недалёка ад старой яловай вывараткі ў пад'ялеўцы, закіданы з галавы да ног павыдзіранымі з зямлі куртатымі маладымі сасонкамі і ламаччам. Блішчэла толькі з-пад лапак ад месяца белая падкова — Андрэй згледзеў яе здалёку.

Ён не пайшоў бы ў жыліну пад Жоглаўку — хадзіў ля ракі па крыніцах, дзе Сібірак мог угразнуць,— каб не пачуў быў раптам, як недзе блізка пахне маладая крапіва. Што ўсё роўна дома накрышылі яе на стале на дэнку, яна ляжыць, не мытая яшчэ і не ўсыпаная ў гаршчок з варам, і пахне на ўсю хату, аж зрывае нос.

Ён тады стаў глядзець пад ногі. Згледзеў, што папарата зямля, як усё роўна цягнулі ў жыліну сукаватае дрэва. Нагнуўшыся, падняў са свежага чорнага торфу і паднёс да вачэй тонкае белае карэнне. Карэнне пахла крапівай...

Па чорным следзе ён і прыйшоў у жыліну да вывараткі.

Забегшы каню з галавы, убачыў, што ў таго перагрызена шыя ў адным і ў другім месцы. Адсоўваючы ад галавы мокрае рагачча, ён урабіў у кроў рукі. Пры месяцы яны былі чорныя, як ад торфу.

Па спіне пайшоў шорах. Горка зрабілася ў роце, адразу высах язык.

«Гэта не рысь... — падумаў ён, адыходзячыся.— Не яе знакі...»

Яму здалося пасля, што ў яго ззаду нехта стаіць.

## 3

Калі на ганку скрыпнулі пад нагамі дошкі, Андрэй падумаў, што не помніць, скрыпелі яны тут ці не,— колькі хадзіў у кантору, не чуў. Пасля, калі ён ішоў, падлога скрыпела і ў калідоры, нават угіналася пад нагамі; скрыпелі дзверы, калі ён адчыняў іх неяк спопаразку, як напужаны; скрыпела падлога і ў самой канторы, аж да парога. Вымытая, жоўтая, высокая, як здалося,— пад самыя вокны,— можа, таму, што вокны былі вялікія, на ўсю сцяну пад столь,— падлога аж блішчала, і на яе боязна было ступіць, прыйшоўшы з двара.

Андрэй выцер ногі аб вузенькі, шэры, у дробную палоску палатняны палавік, пасцелены ля самых дзвярэй, і пайшоў наўкасяк да стала, за якім сядзеў начальнік

участка Унук — адзін на ўсю вялікую і парожнюю, як пуня, кантору: Шуры — бухгалтара — за сваім сталом ля акна ад двара не было. Пад нагамі ўсё скрыпелі дошкі, ціненька і дробна: чыр-чыр, як боты на нагах.

Андрэй падумаў, што, мусіць, спяшыць, і прыцішыў хаду. Пачуў, як стукае ў грудзях,— моцна, аж аддае ў левую руку і ў плячо. І калі Унук крануўся за сталом, выціраючы скамечанай чырвонай хустачкай лысіну і адрываючыся ад папер, і пад ім заскрыпела новае, з круглым сядзеннем, крэсла, Андрэй аж уздрыгнуў. Зняў шапку:

— Здраствуйця...

Крэсла яшчэ больш заскрыпела, Унук устаў; на «здраствуйця» нічога не сказаў, кіўнуў толькі галавой — здалося, не яму, Андрэю, а некуды за вялікае акно на канюшню. Унук быў высокі, вышэй за шафу, якую ён схаваў за плячыма. Шафа была расчынена з аднаго боку, і ў ёй унізе на паліцы блішчаў з-пад папер стары сапсаваны прыёмнік. Андрэй круціў яго некалі часта сам: у вёсцы тады не было яшчэ радыё.

Унук быў у чорным шырокім і доўгім касцюме, з-пад калашын тырчалі толькі бліскучыя, загнутыя ўверх тупыя насы ад паўбацінак. Галава ў яго была сівая, лысая, стрыжаная ля вушэй і на патыліцы пад машынку. Валасы адраслі і тырчалі каля лысіны вострымі пераблытанымі іголачкамі, як у маладога вожыка. Ён глядзеў адразу і на Андрэя, і на грубку ў парозе. Андрэй падумаў, што ў канторы лішне ўжо напалена, ад грубкі нават чуваць, як ідзе дух, аж пацееш. Вочы ў начальніка былі жаўтаватыя і блішчалі; адтапыраная ніжняя вусна адцягнулася ўніз, да яе як усё роўна была прыклеена папяроса. Але Унук рэдка курыў; на вусне ў яго расла дзічка.

«Унук разнясе ў пух, калі адзін у канторы,— падумаў Андрэй.— Добра, што ён адзін. Ніхто не будзе чуць...»

— Ну, што — зарваўся?.. Зноў Унук за цябе аддувайся... — начальнік, здавалася, зусім не злаваў і гаварыў ціха, недзе сабе пад нос. У яго толькі пабольшалі вочы і яшчэ больш абвісла губа. Пасля ён, паказаўшы на крэсла, загаварыў мацней: — Садзіся. Не люблю, як перада мной тырчаць, вочы мазоляць. Такога каня запароць. Ды я цябе ў пух... — Унук быў памаўчаў: — Думаеце, што калі прыгоняць трактары, то коней ужо на мяса ваўкам? Будзеш адвічаць... Садзіся...

Андрэй не сеў. Павярнуўся толькі плячыма да акна, каб бачыць добра Унука — Унук выйшаў з-за стала. Той

паглядзеў на яго, Андрэя, усміхнуўся сам сабе, падцяўшы абвіслую вусну, і больш не прасіў садзіцца. Забегаў ад стала да шафы і назад:

— Такога каня... І маўчыць, як... І што цяпер з табой рабіць? Пад суд? Дык цябе ж нядаўна судзілі... Чым ты адчытаешся за каня, ты падумаў? Віцінар — ён так і сказаў «віцінар», як гаварылі ўсе ў Мсціжах,— тут не паможа. Акт не складзеш, не спішаш... Менінгіт мінуўся... Гэта вам не адразу пасля вайны... Што носам сапеш? Да ракі не паехаў — не. Самі коні ў нас і лес возяць, і ваду п'юць, і пад ваўкоў ідуць, пад мядзведзяў. Днём... Мы толькі ім пад хвост глядзім, і дзяржава нам за гэта зарплату плаціць... Яшчэ і ў кантору не даклікацца. Пасланцы трэба... Ты знаеш, якога каня ўгробіў? Чым я адчытаюся? — Унук з размаху ткнуў сабе доўгім пальцам у грудзі, аж хруснула: не то палец, не то ў грудзях.— Не глядзі на мяне. Збедніўся... Май ідзе. Пакуль прышлюць трактары... Конь — гэта план. А план — гэта-а... — начальнік так і не сказаў, што такое план. Прыціх, выняў руку з кішані са штаноў, стаў, не бегаў ад стала да шафы і назад, і глядзеў угару на сцяну, падняўшы галаву. На сцяне пад вокнамі ў рад віселі партрэты — пад шклом, у навенькіх жаўтаватых рамках.

Пасля ён пачаў хадзіць па канторы — наўскасяк з кута ў кут. Апусціў плечы, сагнуўся і круціў сваёй вялікай лысай галавой — глядзеў пад ногі. Насупіўся і стаў моршчыцца — відаць, не любіў скрыпу.

Андрэй падумаў, што трэба было адразу заявіць начальніку, не чакаць цэлыя суткі, пакуль ён прыедзе ў панядзелак. Конь усё роўна за гэты час не ўваскрос, а людзі даняслі. Але ж начальнік участка жыве аж у Вострава, у кантору ездзіць з дому ў брычцы, а ўчора была нядзеля, і ён не прыязджаў. Хаця трэба было сказаць адразу бухгалтару Шуры, пазваніла б у сельсавет, там бы клікнулі Унука. А можа, яна і пазваніла? Трэба было асядлаць якога ўчора раніцай ды пад'ехаць самому. Ці сягоння падпільнаваць ды першаму падысці да брычкі... Позна прыйшло ў галаву, а начальнік прыехаў рана.

Андрэй падумаў пасля, што не паехаў да Унука і не падбег да брычкі, бо не баіцца яго. А што б Унук зрабіў, учора пачуўшы? Пацалаваў мядзведзя пад хвост? Каб баяўся Унука, паехаў бы. А ён, Андрэй, яго ніколі не баяўся і цяпер не баіцца. Крычыць той, сапе недзе пад сябе ў шырокія ноздры, як конь, аж яны ходырам ходзяць, а

яму, Андрэю, хоць бы што. Рабі што хочаш. Толькі неяк пуста зрабілася ўсярэдзіне, калі Унук пачаў крычаць, пасля заныла, ціха і недзе глыбока. Здалося яшчэ яму, што ён, Андрэй, адзін. Няма ні Унука, ні канторы, ні канюшні за акном, ля якой, запрагаючыся, мітусяцца возчыкі, а ўсюды лог, чысты лог з рудой леташняй травой, і недзе далёка, аж пад Доўгімі, копі...

Зноў скрыпнула ля стала пад Унукам падлога, заірзаў на двары конь, і зноў стала ціха. Холадна зрабілася за плячыма, усё роўна як за каўнер капнула і пацякла з сырой страхі з канюшні вада... І тады яму раптам прыйшло ў галаву, што сёння яшчэ не бяда, што бяда недзе наперадзе, што яе яму не абысці...

Ён падняў галаву... Унук стаяў ля стала, абапёршыся рукой на край, і глядзеў на яго, Андрэя. Вочы ў яго паменшалі, памякчэлі, як пачыналі ўсё роўна шкадаваць. Але Андрэй яму не верыў.

Ён зноў апусціў галаву. Зглядзеў на краі стала шырокую, чырвоную пасля двара, начальнікаву руку. Рука прыціснула невялікую сінюю паперку — накладную...

Было ціха, не скрыпела падлога; ззаду за грубкай, за сцяной, стукала нечым бляшаным Шура — бухгалтар, што жыла ў маленькім пакойчыку з самага прыходу. Дзвярэй у пакойчык з цёмнага калідора ніколі не было відаць. Унук, мусіць, адправіў яе з канторы, каб астацца аднаму, не можа быць, каб Шура яшчэ спала: да Унука яна выбягала кожны раз першая. Устаўшы рана, глядзела ў акно, абапёршыся на падаконнік: чакала.

Ля канюшні крычалі возчыкі, смяяліся, нехта біў у жалеза, і яно бразгала, як парожняе вядро,— мусіць, шына на раз'езджаным коле.

Было яшчэ чуваць, як дыхае Унук, аж холад ішоў ад стала яму, Андрэю, на рукі.

Андрэй падумаў: хай бы лепш Унук крычаў. Калі ён крычаў, благога нікому не рабіў... Накрычыць — і ўсё, заўтра ўжо смяецца. А так — недзе думае, што рабіць. А калі думае, то дадумаецца. А можа, ужо ведае, толькі не рашаецца сказаць? А раз не рашаецца, то ясна. Гаварыў бы ўжо, не цягнуў.

Андрэй пачуў, як яму раптам зрабілася ўсяму горача. Стала мокрая за плячыма кашуля і цяжкая паддзеўка, хоць ты яе скідай. Па шчацэ пацёк пот, усё роўна як хто, дражнячыся, павёў тоненькай саломінкай.

Бразнулі, адчыніўшыся, у грубцы дзверцы. Андрэй

павярнуў галаву: зусім забыўся, што паліцца грубка. Стаяў чуць не прыпёршыся да яе плячыма.

— У пот кінула?.. — Унук раптам закрычаў ля стала на ўсю кантору. Андрэй ступіў яшчэ бліжэй да грубкі. Заскрыпела падлога.— То горача, то холадна?.. Знаю я вас... Натварыў, цяпер што з цябе возьмеш... Што? Можа, скажаш? Можа, скажаш яшчэ, дзе я дзену старога Шынкевіча? Стаіць, вунь, ля канюшні: глядзіць, як людзі запрагаюцца. Ён жа да мяне прыйдзе. Што я скажу? Сукі цераб'іць з тапаром выпраўлю? Дык ён не пойдзе, не хоча... Ды і як я возчыка пастаўлю з тапаром?.. А план хто мне зробіць? Трактары яшчэ не прыйшлі. А дырэктар леспрамгаса? Што ён запяе? — Андрэй згледзеў, што Унук, калі крычаў, пазіраў у акно, на двор да канюшні, дзе збіліся ў кучу возчыкі і махалі рукамі. Андрэю здалося, што яны паказваюць на кантору.— Вы хоць ведаеце... — Унук быў раптам пацішэў,— што ёсць людзі вышэй за вас?.. Вышэй за нас з табой? Што мы ім скажам? Можа, так і скажам, што план наш да мая кату пад хвост? Ды я цябе...— Унук зноў закрычаў: — Самога ў лес!.. Замест каня. Не пагляджу, што ў цябе хворае плячо. Душу з вас з усіх выню, а вывазку вы мне дасцё да мая...— начальнік зноў глядзеў у акно.— Гэта ж дадумацца... Дзе коні прападаюць. Зноў акты... Віцінара заві... Якія тут, у чорта, мядзведзі? Калі яны ў нас былі? Тут нешта ты, хлапец, гэтымі самымі круціш... Усадзіў каня ў балота... Я сам пад'еду зірну...— Унук павярнуўся ля стала і аж пабег па канторы, лёгка так, нават падлога пад ім не скрыпела.— Я чалавек кручаны, мяне на мякіне не правядзеш... Я быў і ў чорта на рагах... Думаеце, калі прыгоняць трактары, то коней ужо ў балота?

Андрэй хацеў сказаць, чуць не зляцела з языка, што ў чорта на рагах начальнік, можа, і быў, толькі гэта на дабро яму не пайшло, калі так гаворыць. Рот ужо нават раскрыў і павёў языком па вуснах. Мог нават сказаць, што начальнік ці надта разумны, ці зусім дурны. Шатун, як ён зваў цяпер мядзведзя,— звер, і галодны вясной, як чорт знае хто... «А што было б, каб ён выйшаў на дарогу, калі ты, разумны гэткі, ехаў у дзялянку? Можа б, ён цябе і не зачапіў, не рашыўся б падняць лапу, а што штаны былі б у цябе мокрыя, то ўжо былі б... Ручаюся...»

Унук зноў пацішэў, вярнуўся да стала, стаяў бачком да Андрэя, схаваўшы чырвоныя рукі ў кішэні ў штаны, і глядзеў усё на двор да канюшні:

— Ты там ішоў... Чаго яны? — кіўнуў ён галавой у акно.

— Я-а... — Андрэй заікнуўся, пачуўшы, як яму цяжка гаварыць: высахла ў роце. Каб і хацеў што сказаць — не скажа. Ён зноў змоўк і падумаў, што Унук, можа, і праўда ўсяго баіцца: план, конь, людзі рукамі махаюць...

— Ну? — Унук чакаў, глядзеў у акно і чакаў.

Сама лепш было б сказаць: «Схадзі сам і паглядзі», але Андрэй раптам падняў галаву, са злосцю, аж уздрыгнуў увесь:

— Вінаваты — адкажу... І за каня, і за мядзведзя. Не ўцяку, няма куды.

Унук не даў яму гаварыць:

— Чэсны такі... Ён адкажа... Ды ты знаеш, Вялічка, што гаворыш? Цябе ж ужо судзілі. Дык што? Мне цябе — другі раз пад суд? Ты ж знаеш, што там па галоўцы не гладзяць? Разгільдзяй... Ды я цябе вон бы... Ты мне ўсіх коней... Толькі мне не дадуць. З каго тады будуць браць па суду? З маёй, можа, кішані? Га? З тваёй інвалідскай пенсіі? Скажы, маць тваю барабан... Ён яшчэ зверам глядзіць, гаварыць не хоча. А можа, я на цябе не хацеў дзела заводзіць, можа, толькі... Конская матка не здохла, знаю. Дык ты — на дыбы. Віджу, што ў цябе ўсярэдзіне, хоць ты і вачэй не падымаеш. Дык знай: на менінгіт каня не спішу. Недагледзеў? Недагледзеў. Адвічай сам. Мог да ракі ззаду схадзіць за коньмі, сцежка ўжо сухая, калі лянішся ехаць конна. Мог праветрыцца... Званю дырэктару леспрамгаса і дакладваю... Будзеце знаць... калі я ўжо для вас...

Ён павярнуўся спіной да Андрэя і глядзеў на тэлефонны апарат. Чорны тэлефонны апарат стаяў на шырокім жоўтым падаконніку, блізка ля самага начальніка. На апараце груюнула гарбатая чорная трубка, і закалыхаўся ля сцяны скручаны шнур — начальнік, павярнуўшыся, мусіць, крануў рукой.

Андрэй толькі цяпер пачуў, як гудзяць тэлефонныя правады. Яны гудзелі кожны раз зімой у маразы, калі ён, закінуўшы коням сена, прыходзіў у кантору і сядзеў ля цёплай грубкі, падкідаючы дровы і мяшаючы Шурынай качаргой галавешкі... Сядзеў да самай поўначы. Часта да самай поўначы сядзела і Шура, стукаючы на ўсю кантору костачкамі — складала ведамасці...

Унук нагнуўся да тэлефоннага апарата і выняў з кішэні руку...

Гудзелі правады, і на дварэ гаманілі людзі, усё мацней і мацней — ішлі, мусіць, да канторы... Нехта ўскочыў на ганак: задугалі цяжкія ногі і заскрыпела падлога — было чуваць аж тут, ля стала ў канторы. Пасля на ганку доўга грукалі не сціхаючы — з усіх ног. Калідорам нехта як усё роўна бег...

Адхінуліся дзверы — іх піхнула да сцяны нечая дужая рука высака ўверсе — і ў парозе наперадзе ва ўсіх заківалася, апіраючыся на палку, Шура — невялікая, чарнявая, з круглым тварам і расчэсанымі на рад валасамі жанчына гадоў за трыццаць. Андрэй яе добра не ведаў, казалі, што яна з бежанцаў, з-пад Смаленска, асела недзе ў гэтым баку яшчэ перад прыходам нашых. Бухгалтарам робіць даўно, як толькі пабудавалі кантору.

Шура ківалася наперадзе ў возчыкаў і глядзела здалёку на Унука. Сядзела недзе ўсю раніцу ў акне, падпёршыся, сачыла за дваром, ведала, мусіць, усё, што там робіцца, і цяпер бегла бараніць начальніка.

За ёй, наступаючы на пяты, ішоў старэйшы Канэцкі. Высокі, чорны — адпусціў бараду, не галіўшыся з тыдзень,— шыракаплечы, ён быў упоравень з Унукам. Зімовая, рудая, з аўчыны, шапка ў яго была ссунута на патыліцу, і вушы, матляючыся, даставалі да плячэй. Чорная фуфайка, вынашаная да белага на жываце і на локцях, была расшпілена, пад ёй гарэла, як пер'е на грудзях у пеўня, новая, чырвоная, у клетку, рубашка, купленая тут, на ўчастку, у магазіне — такіх рубашак навязлі нядаўна. Канэцкі, здавалася, глядзеў не на Унука, а некуды ў расчыненую шафу.

Шура стаяла ўжо, прыпёршыся паясніцай да стала і падцяўшы рукі, а Канэцкі ўсё яшчэ ішоў. У шырокіх гумовых ботах, вялікіх на яго нагу, ён шлёпаў па падлозе, як на дварэ па лужыне. За ім сыпалі ў кантору ўсе возчыкі — занялі парог і кут ля грубкі. Жоўтая падлога ў іх пад нагамі адразу зрабілася шэрая ад пяску і гразі; скруціўся ў некага пад абцасамі вузкі памыты палатняны палавічок; пасля яго, зачапіўшыся, нехта пацягнуў за грубку.

Унук праўду казаў, што ён быў «у чорта на рагах»... Стаяў, адвярнуўшыся спінай, ля акна, і, здаецца, не чуў ні груку, ні гоману. Нібыта ў канторы былі, як і перш, толькі ён, Унук, і Андрэй.

— У дзялянцы гразь!.. З'ездзілі ўчора, папробавалі...

Коні гразнуць, колы гразнуць... Дзе дарожніцы?.. Чаму не далі дарожніц?..

Канэцкі гаварыў, аж крычаў, і размахваў рукамі. У парозе, ззаду за ім, загудзелі; нехта ціха вылаяўся, не ўважаўся ні Унука, ні Шуры...

Унук падняў і паклаў на тэлефонны апарат трубку, адвярнуўся ад акна. Зірнуў, прыплюшчыўшыся, здалёку ў парог, дзе вылаяліся, ступіў ад акна і падаў руку Канэцкаму, якраз на рог стала — павітаўся.

— Дык во хто рукамі махае... — сказаў, як самому сабе,— у парозе адразу ўсе сціхлі, каб чуць,— стаяў і ўсміхаўся, нібы зусім нядаўна не ён і крычаў на Андрэя, нібы не махаў рукамі ля стала Канэцкі і ў парозе ніхто не лаяўся.

Канэцкі быў змоўк, пасля зноў закрычаў:

— Дзе дарожніцы? Чаму не далі?

— Не далі, бо дырэктар леспрамгаса не даў... Паны... Ім ужо дарожніц падавай... А машыны тады ў леспрамгасе — на прастой?.. Самі будзеце масціць... Лужы ўжо не маглі аб'ехаць, з дзялянкі паварочаліся... У мяне самі будзеце і масціць, і ездзіць. І дарожніц я вам не дам. А не — прэміяльныя як карова языком зліжа... Далоў... І не дасі мне план — сам далоў. У мяне так. Скора прыйдуць на тралёўку трактары, тады хоць на ўсе чатыры стораны... Размахаліся...

Унук выйшаў з-за спіны ў Шуры; Канэцкі саступіў яму, шлёпнуўшы гумовымі ботамі і пакінуўшы доўгія і мокрыя сляды на падлозе. Але Унук ішоў не да возчыкаў, а да яго, Андрэя. Падышоў блізка, аж упёрся жыватом — ад чорнага касцюма запахла нафталінам,— і нагнуўся. Андрэй згледзеў, што ў начальніка цесная рубашка, не тоўпіцца шыя ў каўняры і гатовы вось-вось адскочыць верхні белы гузік. Калі Унук загаварыў, гузік стаў падскокваць аж уверх пад падбародак.

— Хлопчыкі... Хлопчыкі... — падымаў ён руку яшчэ на возчыкаў, як адгароджваўся. Пасля апусціў і паляпаў яму, Андрэю, па плячы: — Ідзі, Вялічка, рабі. Ваўкі, мядзведзі... Ёсць людзі вышэй нас, разбяруцца. Ідзі.

Андрэй, ідучы да парога, стараўся ступаць, каб не скрыпела падлога; ён яшчэ баяўся надзець шапку, камячыў у руках. Ён чуў: усе цяпер глядзяць на яго. Маўчаць, як вінаватыя, што ў яго бяда... Недзе шкадуюць цяпер. А ён гэтага не любіў.

Возчыкі не далі яму дайсці да дзвярэй:

— Што чалавека гоніш?..
— Памагчы трэба...
— Па дзесятцы скінем — вось табе і конь... Такія грошы палучаем...
— А што ён, Вялічка,— павінен быў кожнага каня за хвост дзяржаць?
— І адкуль падышлі мядзведзі? Не было ж...
— Цяпер, брат, ідзі і азірайся...
— Га-га-га...
— Вось жа прывыклі людзей ганяць. А куды яго гоніш? А ты нам дарожніц даў?
— Хлопчыкі... Хлопчыкі...
— Дайце прайсці чалавеку... Не стойце ў парозе. Давай дарожніц...
— Хлопчыкі... Хлопчыкі...
Крычалі ўжо ў яго ззаду: і возчыкі, і Унук.
У самых дзвярах на парозе стары Шынкевіч з ланцугом на руцэ саступіў яму з дарогі: абапёрся на грубку.
Андрэй ішоў па калідоры, а яму нікуды не хацелася адысці ад мужчын; бачыў, як адмыкаў магазін Федзя, маладый, чарнявы, у сіняй новай фуфайцы і ў зімовай шапцы са скураным жоўтым верхам — здымаў з дзвярэй шырокую, як шына ад полаза, чорную завалу. У калідоры ля сцяны — на праходзе на двор — стаяў яго веласіпед, увесь у жоўтай гразі, на рулі вісела кірзавая — у гарошак — новая чорная сумка.
У канторы крычалі на розныя галасы; крычала і Шура, прарэзліва, злосна: «знімала прагрэсіўку».
«Невядома, як яно было б, каб не ўбеглі возчыкі. Ад начальніка ўсяго можна чакаць,— падумаў Андрэй.— Пад гарачую руку аддасць і пад суд, і пад цуд... Хаця пазней пазвоніць дырэктару, калі людзі разыдуцца».
На ганку зноў скрыпелі пад нагамі дошкі, а на дварэ, калі ён ішоў, гудзелі правады. Здавалася, над самай галавой.

## 4

Пад бочкай, доўгай і чорнай, з-пад карасіны, на кучцы жару ляжалі галавешкі — хвасты ад новых абадоў з ясеню. Сырыя, яны падсыхалі на агні, і тады іх хапала полымя — бегла па кары і падымалася ўгару. Высокае, даставала аж пад бочку, роўнае і ціхае — не было ветру, яно кідала далёка ад сябе белыя водсветы, і здавалася,

што нехта вялікі калышацца ля кузні, нагінаючыся да самай зямлі.

На агні адставала ад дрэва кара; шэрая, яна корчылася, што гадзюка, і з яе капала вада, лучала на жар, пенілася і высыхала. З агню ішла цёплая пара; пахла саладухай — ад ясеню.

Вечар быў ціхі, і ноч пачалася ціхая і цёплая. З участка ўжо ўсе разышліся; у канторы гарэў агонь толькі ў Шуры ў акне — ядрана блішчаў здалёку, аж калоў у вочы. Было відаць — кратаўся чорны цень, бегаў па сцяне: па хаце хадзілі. На дарозе ў вёску бліскаў і патухаў цьмяны агонь ад фары, як з рукава,— нехта позна паехаў з участка на веласіпедзе.

Стукалі ў канюшні драбінамі коні: з'еўшы авёс, палезлі даставаць сена. Не любяць балота. Папрывыкалі да мурагу, і то — растрасі кожную каславачку ў жмені. Ляскаталі на ферме калёсы; у Луськім, ідучы на гару, гудзелі машыны.

У бочцы кіпела вада, булькала пераліваючыся; ад агню было цёпла, і Андрэй, седзячы на шырокай яловай сукаватай калодцы, на якой Падбярэцкі сек вечарам дровы, расшпіліў паддзеўку, зняў і накінуў на плечы. Яна ссунулася і ўпала ззаду на зямлю, як толькі ён крануў рукамі.

Пахла дымам, гарам ад мазуту, мусіць, ад бочкі, разагрэтай зямлёй і паранкай, усё роўна як у прысаку пяклася бульба. Ад жару высыхала зямля і побач бралася агнём — тлела — леташняе чорнае шыллё, кара і белыя пянькі сіўцу. Ад агню было горача ў шчокі, і Андрэй цёр іх цвёрдай даланёй.

У Агульніцы за кузняй збіраўся туман; густы і сіні, як дым, ён поўз палосамі цераз дарогу да канюшні — у сырое месца, дзе ляжаў лёд.

Падбярэцкі прыйшоў ад кузні, як усё роўна выпаўз з туману. Без фуфайкі — яна, перавернутая, ляжала воддаль ля агню,— у адной зімовай суконнай шапцы з завязанымі зверху вушамі і ў чорнай сапінавай доўгай рубашцы. Нёс перад сабой у ахапку дровы — як ашчапіць — адных чосаных ясеневых «хвастоў». Паднёс, пасыпаў на зямлю ля фуфайкі, згінаючыся, што ў хаце ля печы, усё роўна як баяўся нарабіць стуку. Белыя ясеневыя калодачкі грукалі адна аб адну і звінелі.

— Так во ўсю жызню... — загаварыў ён і выцерся да-

ланёй.— Ад дрэва — да кавадла, ад кавадла — да дрэва. Шмаруеш і стукаеш дзень-ноч. Добра, што хоць не г... пахне, а дрэвам... — Ён сагнууся і адной рукой ускінуў на жар па адной усе калодачкі, што прынёс. З-пад бочкі паваліў дым, белы, густы, затрашчалі калодачкі, зашыпелі і пачалі сквярціся.— Ясень... Падсохла, пыхне, што лучына... — Падбярэцкі гаварыў як сам сабе, не гледзячы на Андрэя. Пайшоў, прынёс фуфайку, ускінуў на плечы і прысеў на нагах ля самага агню, абапёршыся рукамі на калені. Моршчыўся ад дыму і дыхаў, як змарыўшыся: — А скляпок гэты... — махнуў ён рукой.— Дзелавыя людзі, называецца, вялікае начальства... А абады сваімі рукамі гнём... Не могуць гатовага прывязці. Недзе ж яны ёсць, нехта ж і яшчэ на калёсах лес возіць, не адны мы. А тут — днём ля кавадла круціся, калодкі длубай, як дзяцел, а ноч усю — «самагонку» гані... Х-хе... Я калі хонаймаўся... дык тады... А цяпер сказалі — рабі... Не хочаш — Пушкін за цябе не зробіць. Унук так і сказаў.— Падбярэцкі высмаркаўся і зноў выцерся даланёй. Ад агню зрабіўся ўвесь чырвоны, як бурак.— Рабіць я-то ўмею. Зноў жа — скляпок... Яму выкапаў... Сек рыдлёўкай, як дурны, калі зямля яшчэ была ўмерзшы. У метар дзёўб. Я-то зраблю...— Падбярэзкі зноў выцерся. Пацеў, але ад агню не адсоўваўся.— Удаўжыню — тры метры з лішнім длубаў. А бярвенне... Ачашы, прапазі, праімшы пакулай, каб ні жмені пары не вылезла. Упарыць жа ясень трэба дай бог... — Ён зыбнуўся на нагах, падумаў.— Начальства... Каб прывязці гатовыя колы з другога ўчастка... Дык мне дудкі і бочкі вазі. Усё роўна што гар гнаць. Хе-хе... А колы ў лесе на пнях трашчаць... Рвуць абады, як дурны анучы... У самом-то дзеле... План усё, план... Унуку — толькі план. Пакуль заменяць колы на трактары — загавеем. Сам не спіць, і ты не спі... Пар ясень... Шчапай калоды... — Ён устаў, падышоў да бочкі, прыклаў зверху даланю, тады ўзяў у жменю трубку — тонкую, новую — і пайшоў, як усё роўна асморгваючы яе; правяраў. Трубка была даўгая, і ён таптаўся на жоўтым пяску ў сваіх кірзавых ботах, як казёл, пакуль дайшоў да скляпка, абсыпанага зямлёй і абтаптанага нагамі. Зверху, дзе трубка хавалася ў зямлю, ён доўга пляскаў далонямі і гладзіў, як збіраўся садзіць у печ булку хлеба... Падышоў да дзверцаў, прысеў на калені і сядзеў нагнуўшыся: нюхаў. З дзверцаў ішла пара. Пасля падняўся і, стоячы, доўга глядзеў на скляпок. Вярнуўшыся на сваё месца, кінуў

на зямлю фуфайку, сеў на яе, уціснуўшы ў пясок, і плюнуў сабе пад ногі:

— Адняў гэты скляпок рукі... У самом-то дзеле...

— Ва ўсіх рукі, не ў цябе аднаго,— Андрэй сказаў, не гледзячы на Падбярэцкага. Нагнуўшыся да агню, ён павёў па хворым плячы даланёй, як усё роўна паказваў, што і ў яго ёсць рукі.

— Хе-хе... Запеў... Знаю, што ва ўсіх. І ў начальніка ж ёсць... — Падбярэцкі ўстаў і падышоў да Андрэя. Глядзеў зверху, прыплюшчыўшыся, усміхаўся і маўчаў. Пасля зноў плюнуў сабе пад ногі — цыркнуў праз зубы: — Толькі рука руцэ розніца... Для мяне ў яго рука не паднялася, каб... скажам, прагрэсіўку падпісаць за скляпок... Не захацела. Капаў зямлю? Дык у той дзень не махаў румалатком. Коратка і ясна. Каб яна яму адсохла, яго рука... Так я яму і лягу цяпер крыжам... Я то зраблю... І абады выгну і колы... Але... Я чакаў прагрэсіўку, і ён хай пачакае... Жызня, брат, такая штука. Я калодку кручу, другі мне прагрэсіўку круціць, а табе во... У самом-то дзеле... Паклікаў цябе аднаго... Гэта ён умее. Адзін на адзін што хочаш можна, а яшчэ больш можна, калі зусім адзін. Унука многія баяцца. А калі чалавека людзі баяцца, які ён чалавек...

Андрэй маўчаў: не хацелася гаварыць. Не хацелася і ісці дамоў — балелі ногі. За дзень абабіўся... Аціхла, улеглася, як усё роўна недзе на дно, трывога. Часта ён ішоў туды, куды зусім не думаў, тады доўга стаяў на адным месцы, пакуль вярнуцца... Коней ён спарадкаваў, як заўсёды. Цяпер толькі не хацелі ісці ў вёску ногі.

Калі пачаў гаварыць Падбярэцкі і паказваць галавой на кантору, выцягваючы шыю з шырокага каўняра, як адкуль з ямы, Андрэй пачуў, што ў яго зноў усё загарэлася ўсярэдзіне... Перш ён не думаў, што будзе рабіць,— само рашыцца, рашыць Унук. Пазвоніць і рашыць. Прыедзе ветэрынар, тады следчы, пачнуць дапытвацца. Спачатку ў яго, пасля — у каго скажа начальнік. Ён-то ўжо калі завядзе дзела... Пасля прышлюць позву, жоўценькую паперыну — прынясе пісьманоска з пошты, загадае распісацца і той кавалачак, дзе ты распісаўся, аддзярэ і занясе на пошту. Аддзёрты кавалачак ад позвы пойдзе назад, у суд,— на другі дзень яго завязуць на паштовай машыне з Вострава. Позвы Андрэй не баяўся, баяўся таго кавалачка, на якім распісваўся. Распісаўся — усё роўна як сам сябе ўкалоў. А як жа не распішашся, калі там

такая графа ёсць з чорнай вузенькай рыскай; і пісьманоска не пойдзе з хаты, будзе стаяць у парозе. Не распішашся — другую прышлюць, і ўчастковы можа прыехаць... Фарафонаў... Прыедзе, паставіць каня з калясьмі на вуліцы ля варот, закруціць лейцы за частаколіну, будзе ісці ў хату і глядзець з двара ў акно. Пасля адчыніць дзверы і з-за парога яшчэ засмяецца: «Дастукаўся...» Фарафонаў усягды смяецца, за кожным словам. Глядзіць у вочы, не зміргне, усё роўна як сочыць, каб ты куды не ўцёк са сваіх вуглоў...

— Ды плюнь ты і на Унука, і на гэтага каня... Жыў будзеш... Спішуць. А то сядзіш, як усё роўна зноў бабу пахаваўшы... Не шэнціць табе... У самом-то дзеле. Баба, конь... Як толькі галава яшчэ трывае... Сядзіць на карку... Я дык бы ўжо даўно запіў. Але я табе скажу без абрэзкаў: чалавек жывучы, жыў будзеш... У самом-то дзеле.

Падбярэцкі зноў крануў Андрэя за плячо. «Не прастынь, сыра»,— пасля падняў з-пад ног фуфайку сабе на плечы і сеў на зямлю. Ясень трашчаў на агні пад бочкай, шыпеў; ад бурвалкаў адставала кара, як адклейвалася, і пад ёй бегаў сіні дымок. Ад агню было цёпла і відна, як ад добрай лямпы ў хаце. Падбярэцкі задзёр галаву і, паклаўшы рукі на грудзі, церабіўся: соваў пальцамі ў прарэх у рубашцы між гузікаў. Чырвоныя, круглыя яго шчокі пачырванелі ад агню, як наліліся крывёю. Пасля ён заплюшчыўся, схаваўшы глыбака пад лоб левае вока — яно было меншае: зрабіўся што сляпы.

Андрэй раптам успомніў, што Падбярэцкага рабочыя часта звалі Камбала, не баючыся, і ў вочы і за́чы; падумаў — калі Падбярэцкі адварочвае галаву ад агню, шчака ў яго з заплюшчаным вокам робіцца шэрая, і тады ён зусім падобны на камбалу, якую прывозіць у магазін у вузкіх дашчаных скрыначках Федзя...

Ён усміхнуўся і сам заплюшчыў вочы, каб, божа барані, не згледзеў Падбярэцкі...

Здалося, што ён дома, на двары ля ганка. Стаіць на ветры, абапёршыся локцем на вушак у сенячках, без паваякана, у адной рубашцы. З сеначак на двор падае агонь і відаць прытаптаны абуткам свежы снег — у хату прыйшлі адразу бабы, як толькі ён прывёз Верку,— прывяла Балюта. Яму сказалі выйсці: бабы будуць мыць Верку. Ён сам занёс з сеначак у хату начоўкі — вялікія, ліповыя, яшчэ белыя, не пачарнелі,— у якіх Верка мыла

кожны раз адзежу, і паставіў ля печы на два ссунутыя ўслончыкі.

Верку недзе мыюць ля печы бабы, а ён стаіць на двары на ветры і не ведае, за што зачапіць рукі. Чакае, пакуль з хаты выйдзе Балюта і загадае. Балюта сёння яму ўсё загадвае, сам ён, здаецца, нічога і не думае рабіць, пакуль яна не падыдзе...

...У хлеве, чуваць, гавораць мужчыны, прыйшлі рабіць дамаўё — дастаюць дошкі з-пад сена. Крычаць нечага да Падбярэцкага. Падбярэцкі, чуваць, смяецца сабе пад нос...

Гэта было ўжо раніцай...

Андрэй уздрыгвае, трэ пальцамі вочы — рэжацца пад павечкамі...

Падбярэзкі сядзіць ля агню, ловіць пальцамі рукаво — расшпіліўся гузік і вылезла белая рука — і ніяк не можа злавіць. Гаворыць нешта і смяецца... Рука ў яго — голая па локаць — цяпер уся чырвоная; і жар пад бочкай чырвоны і густы... І гарыць, як усё роўна блішчыць плямай на шырокім двары...

Калі Падбярэцкі махнуў рукой, Андрэю здалося, што той атрасаецца ад крыві — зарэзаў цяля ў канцы двара ля паркана за асверам... Ля ног у яго нацягнуў крывёю белы снег.

Андрэю зрабілася холадна, ён аж скалатнуўся.

— Хаця ты праўду казаў... Само яно ўсё рашыцца... — Падбярэцкі злавіў рукаво за жоўты і плоскі, як капейка, гузік.— Усё рашаць вышэйшыя людзі...

Андрэй зірнуў на яго — Падбярэцкі, зашпіліўшы рукаво, зноў церабіўся і цыркаў праз зубы ў агонь. Твар у яго зноў рабіўся то шэры, то чырвоны — Падбярэцкі круціў галавой.

Андрэй пачуў, што стыне, седзячы ля агню. Апусціўшы рукі, ён падняў з зямлі паддзеўку і накінуў на плечы. Сагнуўся ў крук на калодцы і нахінуўся ўперад, да агню. На яго зноў зірнула прыплюшчанае вока.

— Усё рашаць вышэйшыя людзі... Ты то справядлівы, знаюць. А чаго даб'ешся? Клікалі цябе? Клікалі. Дык ты ж нават і не сеў на крэсла. Горды. А Унук гэтага не любіць. Гордаму тады добра быць... — Падбярэцкі памаўчаў, так і не сказаўшы, калі добра быць гордаму.— А нам, брат, з табой... Вот ты не сеў. І добра зрабіў. Я сам гэтага Унука не люблю. Але ж не сядзь, калі просяць, то ён цябе пасадзіць на такое крэсла, што мулка будзе сядзець...

Запішчыш...— На Андрэя зноў зірнула прыплюшчанае вока, усміхнуўшыся недзе з-пад самага лба. «Хай бы ён сеў да агню другім бокам»,— падумаў Андрэй.— Ты не дурны, ведаеш, што я хачу сказаць...— прыплюшчанае вока зноў павярнулася да агню.— Нам з табой, відаць, трэба садзіцца, калі просяць. Мы маленькія людзі, як гаварыў доктар Шавенка, што жыў да вайны ў Востраве. Што круціш галавой? Не мог папрасіць? У самом-то дзеле...

— Што папрасіць? — спытаўся Андрэй.

— Што, што... Я чалавек прамы... Папрасіць, каб неяк памаглі. Ну, што ты выйграў? Што выйграеш, калі не папросіш? Нам без гэтага, каб не папрасіць, няма як, я чалавек прамы. Ты папросіш, ён віцінара папросіць. Ты не вінаваты: звяры па лесе ходзяць. Але ж ты не пайшоў да ракі, распусціў коней... Ды ён, кінь ты, і прасіць не будзе. Пальцам кіўне і — будзе акт. Даўна тут пасля вайны ад мінінгіту валіліся коні, як мухі?.. А падвядуць пад суд — чым расплацішся? Цябе не апраўдаюць. Што глядзіш так? Раз Унук не за цябе... Дурны...

Падбярэцкі памаўчаў, цыркнуў праз зубы ў агонь і зноў павярнуўся да Андрэя прыплюшчаным вокам:

— Схадзі заўтра. Мне самому праціўна, але схадзі-і-і... Мы — маленькія людзі... як гаварыў доктар Шавенка.— Падбярэцкі згорбіўся і развёў рукамі.— Холадна яшчэ, маць яго так...— вылаяўся ён пасля: — Спераду пацееш, а ззаду цябе ціснe.— Падбярэцкі доўга кратаў плячыма, папраўляў фуфайку.— У нас з табой, брат, калі з'ехала адзежына з плячэй — змерзнеш. Мы — маленькія людзі, як гаварыў доктар Шавенка. Помніш ты яшчэ яго? Да вайны сына нашага вылечыў. І ў вайну ён быў першы год. Да бабы да сваёй я яго пры немцах прывозіў. Дзе ён дзеўся, ніхто не ведае. Гаварылі, паліцэйскія забралі, калі яўрэяў з Вострава ў раён вязлі. Пытаюся раз у яго: што ж гэта будзе, немцы ж аж пад Масквой? «Мы — маленькія людзі...» — сказаў ён. Аж цяпер помню...

Падбярэцкі зноў гаварыў пра Унука і «вышэйшых» людзей, і Андрэй падумаў, што Унук не «вышэйшыя» людзі. Ёсць яшчэ дырэктар леспрамгаса — яму ж званіў Унук. Бачыў Андрэй дырэктара і ў канторы на сходцы, калі той, чорненькі і маленькі, удвая меншы за Унука, лысаваценькі, выступаў, стоячы за сталом. Гаварыў моцна, дзярката і махаў рукамі. Бачыў і ў канюшні — дырэктар прыходзіў у канюшню з Унукам многа разоў, але ніколі з ім, Андрэем, не гаварыў. Яго, Андрэя, не клікалі, нічога ў

яго не пыталіся, а сам ён не падыходзіў. Чаго? Папрасіць закурыць? Дык лепш прасіць у рабочых, а то Унук як гаркне... Не-е... Да начальства ён не падыходзіў.

Дырэктара ён бачыў здалёку. Блізка бачыў толькі касіра Вулю, калі той прыязджаў з дырэктарам. Вуля не то што гаварыў усягды з ім, Андрэем, а нават вітаўся за руку. Можа, таму, што ведаў ад вайны? Але ж ён з усімі вітаўся. Вуля быў невысокі, тонкі, худы з твару, з вялікім, загнутым уніз носам, з ладнай лысінай на макаўцы і сіпаты. Гаварыў, як прастуджаны ці як у яго ўсё роўна высахла ў роце. У гадах, пачаў сівець ля вушэй.

Вуля кожны раз падыдзе і падасць руку, а не — то здалёку крыкне: «Здароў, Вялічка! Як жывеш?» Вуля ўсіх ведаў. Зарплату ён возіць з таго часу, як пасля вайны зрабілі ўчастак. Дырэктары мяняліся, а ён — не.

Вуля і «вышэйшы» за Унука. Прыязджае ён на ўчастак кожны раз з дырэктарам у брызентавым «казле», а то і аднаго, бывае, прывозіць шафёр. Машыну тоняць аж за дваццаць пяць вёрст з раёна — Вуля нагамі не ходзіць. І калі ён вылазіць з машыны, заціснуўшы скорчаны чорны вялікі партфель пад пахай, Унук адразу падбягае да яго і падае руку — згледзіць кожны раз у акно, каб і заняты быў,— пасля вядзе ў кантору. Ідзе наперадзе, адчыняе дзверы і ўсё аглядаецца назад цераз плячо — гаворыць з Вулем. І ў канторы сам вешае Вулеў плашч на цвік ля шафы і Вулю самога садзіць у сваё крэсла. І пакуль не нагаворыцца — не пускае рабочых у кантору: «Ведамасці падпісвае». Рабочыя тады згрудзжваюцца ў калідоры.

Пасля Вуля сам адчыняе дзверы і просіць ісці «распісацца за палучку».

Вуля «вышэйшы» за Унука. Унука рабочыя не слухаюць, хоць ён і крычыць на ўсіх, стоячы ззаду за Вулем ля расчыненай насцеж шафы...

Вуля наперад табе скажа, колькі налічана ў ведамасці, нават і капейкі назаве. Можаш сам і не глядзець. Вуля ніколі не ашукае. Вуля аддае да капейкі. Прывозіць у партфелі дробязь — палавіну палатнянага мяшэчка — і ставіць перад сабой на стале: «Вазьмі. Твая капейка. Мне яна не трэба». Але ніхто ніколі ў яго дробязі не бярэ, бо Вуля ўсіх помніць і з усімі вітаецца за руку. Вулю любяць...

Андрэй думае, што Вуля «вышэйшы» і за Федзю і за Унука. Можа, і над ім ёсць «вышэйшыя» людзі, дырэктар леспрамгаса ці яшчэ хто, але іх Андрэй не ведае...

Падбярэцкі ўсё гаварыў пра начальніка і пра «вышэйшых» людзей. Падгортваў шырокай ясеневай карыной вуголле пад бочку, церабіўся, цёр даланёй чырвоную шчаку, хаваючы зусім прыплюшчанае вока, і гаварыў. І ў Андрэя аднекуль пачала ісці злосць і на Падбярэцкага і на Унука... Ён аж падняўся і адсунуў далей ад агню калодачку. Усе хочуць рашаць за яго, Андрэя. І Унук, і ват Падбярэцкі рашае. Сядзіць ля бочкі, чырвоны і выпацканы ў сажу, і бубніць толькі пра адно...

«Не старайцеся,— падумаў ён.— Андрэй усё зробіць сам, зможа. Ніхто за яго не будзе рашаць: ні Вуля, ні Унук». Унук падпіша ведамасць, Вуля прывязе на «казле» і аддасць яму, Андрэю, палучку, і ўсё. Астатняе ён рашыць сам. Сам. І на судзе — сам, і ў хаце — сам, і з коньмі — сам. Ніхто за яго ім ні сена не разнясе, ні гной з-пад ног на двор да паветкі не выкіне, не ўпэцкае рукі. І ён усё рашыць сам. Ні гразіць яму не трэба, ні плакаць па ім ноччу на ўчастку ля агню, выціраючы сляпыя вочы... І прасіцца ён не пойдзе, хай хоць цяпер яго бяруць адгэтуль, садзяць на машыну і вязуць у суд.

Ён хацеў сказаць пра гэта Падбярэцкаму... Але Падбярэцкага ён знаў. «Кінь ты, Андрэй... Дурны... У самом то дзеле... Ты што, іх не ведаеш?» — Падбярэцкі другога не скажа: у яго свая мерка, як аршын, ні вышэй ні ніжэй: мы — маленькія людзі...

Зноў у душы паявілася трывога. Пасля, калі на яго лыпнула прыплюшчанае вока і зноў усміхнулася, Андрэя хапіла злосць, другі ўжо раз. І на Фарафонава — мацюкаецца ў хаце. І на Вулю. Прыязджаюць з партфелямі пад пахай на «казле», іх вядуць у кантору начальнікі, дзверы наперадзе адчыняюць. Іхніх коней звер не зарэжа. «О-ё-ёй, Вялічка... Да чаго ты дажыў... Зноў толькі распішашся за палучку».

Суду ён не баяўся. Прыйдзецца з'ездзіць у раён, калі прышлюць павестку. Самому, можа, і не трэба будзе шукаць машыны, можа, леспрамгасаўская пойдзе з участка — пад'едзе... Пасядзіць паўгадзіны перад чырвоным сталом у напаленай хаце з белымі грубкамі і пафарбаванай падлогай. Пасядзіць, паслухае... Будуць гаварыць за чырвоным сталом адно, а ты будзеш думаць пра сваё. Каб і хацеў, дык усё роўна думаеш не пра тое, пра што гавораць за сталом, а пра сваё. І зусім нічога не баішся. Чакаеш толькі, каб скарэй усё скончылася, каб вылезлі з-за чырвонага стала людзі і сказалі: можна ісці дамоў. Думаеш яшчэ

седзячы, што дамоў далёка, а на дварэ вечарэе. Але гэта ўжо не страх: адпусцілі.

Седзячы перад чырвоным сталом, не хочацца глядзець на людзей. Глядзіш у падлогу, яна выцертая нядаўна мокрай анучай, высыхае; яшчэ сям-там у ямках, дзе сукаватыя дошкі, блішчыць на фарбе вада... Ад грубкі пахне сырымі бярозавымі дрыўмі і дымком, як і ля бочкі ад агню...

Людзей многа і не прыйдзе. Ён жа нікога не забіў. На такі суд людзі не ідуць.

Падбярэцкі падняўся, падышоў да скляпка і, нагнуўшыся, зноў загрукаў кулаком па дзверцах — са скляпка пайшла белая пара. Запахла рашчынай.

— Ты нешта сягоння маўчыш і маўчыш... Зусім нос звесіў... У галаву ўзяў... Х-хе... Галава, як і бочка, во, з вадой. Падкінь агню — трашчаць будзе. Дурны чалавек. У самом-то дзеле... не такія ў людзей былі беды. І беды прайшлі, і людзей тых ужо няма... — Падбярэцкі вярнуўся ад скляпка да агню і роўненька, адну на адну, паклаў на жар галавешкі — на вугалок, як усё роўна дзіця складала «хатку»... — Нагарэла жару, цяпер трэба нясці плашкі і закладаць на ўсю ноч. Каб толькі бочкі не рванула. Ясень раніцай будзе якануча. Вузлом завяжу, маць яго барабан. А то яшчэ, можа, увесь заход пойдзе на дровы... Нічога. Хоць насіць тады не трэба будзе ад кузні. Х-хе... Дрэва — гэта табе... Яго як ні чашы, як пальцамі па ім ні стрэпай — не ўгадаеш, ці ты яго сагнеш, ці яно цябе ў дугу скруціць... Дрэва, брат, як мядзведзь. Ты яго гнеш, а яно табе па лбе — трах! І чэрап у цябе голы і скура аж на патыліцы... Я, брат, знаю: і звяроў і дрэва. Настраляўся і начасаўся. Нажыўся, нагледзеўся. У звяроў — адзін аднаго... А пасля яны ўжо разам на адных. Калі трэба бывае ваўкам абсадзіць лася — збіраюцца і ідуць, акружаюць. Аблава: як у людзей. Згаворваюцца, ці што? Рэдка гэта бывае, у вялікі голад, але людзі бачылі. Голад заստаўляе ваўка сабрацца. Праўда, звер зверам. Гэта не чалавек. Аблажылі, нажорліся — і адразу разбягаюцца. Разам жыць не хочуць... Яшчэ воўк на паскудства ў кучу бяжыць, калі прыспічыць адзін на аднаго скакаць... Тут у яго ўжо не так, як у людзей. Х-хе-хе... Звяроў я знаю... Узагнаны мядзведзь — гэта табе не воўк... Зімой яго яшчэ рэзчыкі пад Вешкамі відзелі... І на снезе задам сядзеў, як чалавек, і на асіну лазіў у дупло. Калі ж іх ганяюць, як усё роўна па пекле: і ласёў, і мядзведзяў. Каб у нас

мядзведзі вяліся. Не-е... А вось ачуліся. Помню, яшчэ мой бацька расказваў, як яны прыходзілі ў вёску і калоды з пчоламі варочалі. Эге-е... За прыгонам яшчэ было. Пасля яны ад нас сышлі: ні слыху ні дыху. Вайной іх зрушылі недзе са свайго месца, паразганялі па ўсёй зямлі. Звяры гэтага не любяць. Зверу свая хата дарага... Так не кіне, не пойдзе ў белы свет бадзяцца з месца на месца, калі не нагоняць. А калі папёр яго з дому голад — ідзе здалёку назад, у сваё гняздо... А тут. Блакады такія былі, фронт ішоў, а цяпер леспрамгас. Дзялянкі, бензапілы, чугрэі. Равуць як дурныя... Груку і стуку больш, чымся ў вайну. Скора зверу і схавацца не будзе дзе. Звер гэтага не любіць, не церпіць. А мядзведзь... Ды яшчэ ўзагнаны... Воўк спаткаўся з табой — убок, цалуй яго пад хвост. І логава кіне: бяры ваўчанят у крыло і нясі здавай у раён, палучай прэмію: і боты, і фуфайку. А мядзведзь — не воўк. Рэдка калі зад пакажа, як спудзіш. Ён-то баязлівы, пуду баіцца. А паспрабуй спудзь яго, калі ён за тры вярсты цябе добра чуе. Мядзведзь — не воўк. Спаткаўся — і фуфайка твая далоў, і боты, і скура паляціць. І косці на аскалёпкі... Мядзведзя, брат, не чапай. Ён-то на чалавека сам не нападзе. Але ж ён думае, што ты ідзеш на яго. На лбе ж у цябе не напісана, хто ты. Мядзведзь — гэта... А тут яшчэ ўзагнаны. Ён жа галодны, як сатана, і злосны. Мядзведзь, брат, дужы ад прыроды. А прырода сама яшчэ лепшых выбірае. Слабы ў звяроў дохне, а калі не дохне — яго рвуць другія.

Падбярэцкі хадзіў кругá бочкі. Зойдзе з аднаго боку, возьмецца рукой за дудку, тады абатрэ руку аб штаны і заходзіць з другога, капляючы і кашляючы ад дыму з-пад бочкі.

— У цябе будзе закурыць? А то мае недзе ў павалакане ў кузні... Не? Чорт з ім... Пайду па дровы — прынясу... — Ён зноў лапаў за дудку.— Вот ім,— паказаў ён яшчэ раз рукой на кантору,— суды, акты. А таго не ведаюць, што калі гэты звер да нас унадзіўся, то не аднаго яшчэ каня абложыць. Пакуль не ад'есца, далёка ад гэтага месца не пойдзе. У мядзведзя так. Што ён, дурней Унука? Мяса не любіць? Унук свой акт, а мядзведзь — свой. Пачакае дні са тры, пакуль мяса запахне, і ад каня толькі акт і астанецца. А можа, і больш пачакае, цяпер яшчэ халадна, не лета...

Падбярэцкі падсоўваў да агню старымі кірзавымі ботамі попел — троб разам з сырой зямлёй.

— Акты ім пісаць, акты. А гэтымі актамі... Мы ж з та-

бой не дурныя... Аа-а-акты... Калі яны хочуць што, дык тут страляць мядзведзя трэба. Што падскочыў? Ты думаеш, ён адным канём здаволіцца? Пасля зімы яму, каб ад'есціся... прорва трэба! І ты думаеш, ён пашкадуе цябе? Што на цябе Унук накрычаў?.. Унук — акт, а ён яшчэ аднаго — жах... Тады ты не так паскачаш! Маўчыш? У самом-то дзеле. Скажы хоць што... — Падбярэцкі стаяў і глядзеў на Андрэя. Адным вокам — вялікім і круглым, тады другім — вузенькім, прыплюшчаным.

— Скажу, не бойся. Нешта ты сёння размахаўся надта... Усіх да аднаго грызеш...

— Х-хе... Галодны ўсягды адразае таўсцейшую лусту хлеба...

— За мяне не кусай. Я ніколі нікога не кусаў.

— Сам ты не ўкусіш. Справядлівы... А справядлівых... Ты, брат, не ўкусіш... А каго ты ўкусіш, каб і хацеў? Унука? Мядзведзя? Хе-хе-хе... — Падбярэцкі засмяяўся і зноў схаваў вочы пад лоб.— Дык я табе скажу: хай мядзведзя Унук сам кусае. Можа, ён і аблаву захоча зрабіць, як некалі на ваўкоў. Але я не крануся. Тут, перш чымся двухстволку з запечка дастаць, трэба габляваць дошкі. А ты нядаўна іх габляваў... А тады дачка зусім сіратой астанецца...

— Не кратай ты толькі нічога... — Андрэй сказаў ціха, як ахрыпшы, і затрос рукамі, але Падбярэцкі яго не пачуў.

— А мядзведзь тут пажыве... — гаварыў ён, задзёршы на галаве шапку і выціраючы лысіну.— На Доўгіх каля Жоглаўкі. Адтуль ён у любы час падасца за Вешкі ў пушчу. Пярэйдзе раку — і цалуй яго... Але пакуль ён пойдзе — табе дык хоць ты вядром насі ў канюшню ваду. Са студні ад канторы. Ды і сам яшчэ дрыжы. Каму гэта хочацца, каб ламалі косці... Тут, брат, жарцікі малыя. Тут толькі каб хто смелы знайшоўся. І то-о... І ты страляў з ружжа, і я... Адзін раз то ты стрэліш... А можа, і ні разу. Мядзведзь, брат, жалеза чуе. Паднясі блізка — і з плячэй не справішся зняць... У самом-то дзеле... Тут, брат, ці смелы пайсці можа, ці той, каму жыць абрыдла... Не нам з табой хадзіць. Мы — маленькія людзі, як гаварыў доктар Шавенка...

Падбярэцкі зноў смяяўся.

— А што тут доктар?

— Х-хе... Без доктара не абыдзешся. Мядзведзь — не лось...

— Лася ты не чапай. Думаеш, калі я тады маўчаў, дык ужо і век не загавару,— Андрэй стаў падымацца з калодкі, памалу, як усё роўна не могучы.— Суд у мяне яшчэ адзін наперадзе...

— Ну-ну... Ды кінь ты... У самом-то дзеле. З табой па-дабру. А ты — на ражон... Было — прайшло. І нічым я табе не памагу.— Падбярэцкі памаўчаў.— Нам, брат, з табой лепш ужо на печы сядзець. За комінам. І ласі хай там самі дохнуць, і мядзведзь твой хай ідзе куды на Па-лік. Не бойся... З'есць падлу і сыдзе за Вешкі. У лесе гэ-тулькі груку. Тапары, пілы. Станцыі. А калі і яшчэ адну падлу абложыць, то воўк яе рэж. Унук па гэтым жыць будзе.— Падбярэцкі ўсміхнуўся.— Скора ўсіх гэтых ко-ней к чорту пагоняць. Прыйдуць трактары. І ўчастку ско-ра гэта самае. Гавораць ужо. Ну, колькі тут таго лесу асталося? Рэжам ужо ў Агульніцы, у сябе пад носам. А там — пад Полацк, вун... Так што і коней — воўк іх рэж. Не трэба будуць ні табе коні, ні мне кавадла.— Пад-бярэцкі плюнуў.— А ён нудзіцца. Пераждываеш — дык мякчэйшы будзь з Унукам. Во, чорт, курыць хочацца. Здохнеш без папяросы. Мякчэйшым трэба быць. А то — як вожык. Справядлівы. Аддувайся цяпер сам. Я яму як чалавек. Сам пагаварыць не можаш — я магу. Я дабро помню. Унук не такі ўжо камень, каб пад яго вада не падцякла. Знойдзем і ваду. А так — дурны ёсць, на дур-ным і паедуць. Толькі давай. Цьфу...

Падбярэцкі яшчэ раз плюнуў, абышоў бочку, падняў з зямлі фуфайку — была зваліласяу ў яго з плеч, калі ён уставаў — і, узяўшы пад паху, пайшоў па дарозе да кузні. Па плашкі. Адышоўшыся, стаў. Зняў шапку і вы-цірау лысіну. Нешта яшчэ гаварыў, бо з рота ў яго ішла пара. Зноў, мусіць, пра Унука — паказваў рукой на кан-тору.

Андрэй яго ўжо не слухаў. Калі падняўся — пачуў, як забалела глыбака пад лапаткай параненае вайной плячо, аж не давала крануць рукой. Пацяжэла паддзеўка, ля-жала на плячах, як усё роўна мех з аўсом, не даючы вы-прастацца.

Калі Падбярэцкі яшчэ раз паказаў на кантору, Анд-рэю зрабілася ўсяму горача...

Пасля ён падумаў, што гэта ад агню.

## 5

На дарозе яму доўга было цёмна ўваччу, і ён зноў падумаў, што гэта ад агню. Пасля зімы пацямнеў лес і ўсюды была чорная зямля: і пад нагамі, і ўперадзе на дарозе, і за дарогай на полі... Адышоўшыся — схаваўся ўжо ззаду агонь, не міргаў і не скакаў уваччу, калі Андрэй аглядаўся,— ён добра бачыў уперадзе дарогу: знаць былі дзве крывыя, зігзагамі, чорныя каляі ад калёс, і побач — справа — блішчала вузенькая сцежка, як усё роўна пасыпаная свежым белым пяском.

Ён баяўся сысці са сцежкі, каб не лучыць у калдобіну. На ўчастак з вёскі вяла даўнейшая дарога, па ёй яшчэ да вайны ездзілі ў дровы, мінаючы шырокую, ездавую, ля якой цяпер стаялі тэлефонныя слупы. Там, едучы ў вёску з возам, трэба паганяць пад гару, а тут роўная, цвёрдая, як убітая, зямля з дзверняком. За гэтыя гады, калі ў сосніку стаў участак, акутыя вострымі па краях шынамі колы парэзалі дзярняк на дарозе,ператапталі гарбатае сасновае карэнне, якое летам пахла смалой і трухлінай, і панавыбівалі глыбокіх, у калена, калдобін.

У калдобінах цяпер у нізкім месцы стаяла вада — роўна з берагамі.

Калі ён спатыкнуўся на сцежцы, зачапіўшыся, і стаў спопаразку, дарога раптам як усё роўна калыхнулася перад ім, і далёка наперадзе ён згледзеў падводу. Конь з калясьмі. На возе сядзіць у белай хустцы Верка, і побач з ёй у такой жа белай хусцінцы маленькая дачка. Першая... Калі ён абапёрся рукой аб сасну ля сцежкі, каб не паляцець носам, яму здалося, што ён і сам ля воза — абапёрся аб ляжэйку ў калёсах...

Яны едуць дамоў з лесу, дзе ў іх пад Курачовымі Цянямі зямлянка. Зямлянкі там не ў адных іх. Усе хаваюцца ад бамбёжкі.

Ён ідзе ля калёс, абапёршыся на ляжэйку, чуе нават, як прыціснуў рукой лейцы. У перадку, на Верчыных босых нагах, ляжыць пуга з кароткім белым пад'ялеўцавым пугаўём. Верка паганяла ёю каня, калі ехалі ў лес: спяшаліся — нехта крыкнуў на вуліцы, што гудзяць самалёты.

Верка спіць, намарыўшыся за дзень. Звесіла галаву набок, на плячо, і спіць. Кратаецца ўся разам з калясьмі на карэнні. Спіць і маленькая дачка. Прыхінулася да Веркі, падсунулася пад паху. Белая хустка з'ехала ёй на

лоб, закрыла вочы — ці, можа, Верка пасунула ад камароў? Дачка так ужо і будзе спаць, не вячэраўшы. Верка не стане яе будзіць: не дабудзішся, крыку толькі наробіш. Перанясе, узяўшы перад сабой, з калёс у хату, пакладзе на ложак у запечку і накрые дзвюма пасцілкамі. Канчаецца лета, у хаце, калі не паліць, ужо холадна ноччу.

Справіцца б толькі заўтра раніцай даць дачцэ малака з-пад каровы. Дзіцяці пяты год — са́ма расці. Трэба будзе не заспаць, пабудзіць Верку яшчэ додніцай. Пакуль дзіця раскратаеш... Можа выйсці так, што зноў паедуць пад Курачовы Цяні галодныя...

Калі ён працёр вочы, на дарозе нікога не было. Ляскаталі толькі далёка калёсы на жалезным ходзе, ціха і дробна: нехта паехаў наперадзе, паганяючы каня. Па лесе пайшло рэха — як усё роўна, хто ззаду на ўчастку кляпаў касу: стукаў часта малатком па бабцы.

Андрэй аглянуўся. Агню відаць не было. Пачуў раптам, як запахла дымам. Падумаў, што дымам пахне ён сам, абкурэў ля бочкі, седзячы з Падбярэцкім.

Зноў заляскаталі калёсы, далёка, недзе ўжо аж ля фермы, і яму зноў здалося, што наперадзе паехала Верка. Трэба дагнаць калёсы, Верка спіць. Яшчэ скіне дачку пад кола на карэнні...

Ён пайшоў быў з подбегам. Пасля прыцішыў хаду. Пачуў, як зрабіліся цяжкія ногі.

Кожны раз раніцай і вечарам ён ходзіць соснікам гэтай дарогай, якой яны ездзілі з Веркай пад Курачовы Цяні і вазілі маленькую першую дачку. Кожны раз як усё роўна даганяе калёсы з Веркай і дачкой, астаўшыся ззаду, хоць няма ўжо ні Веркі, ні першай дачкі — памёрла перад самым канцом вайны, прастудзіўшыся. Не ўберагл і.

Яшчэ больш пабялела ўперадзе сцежка, зрабілася як зацярушаная снегам: ужо добра сцямнела. Ён не помніць, доўга яны сядзелі каля агню ці не, пакуль андрымоніў Падбярэцкі. Не вернешся ж у кантору, не паглядзіш на ходзікі, што вісяць на сцяне ля шафы пад партрэтамі. Ён успомніў, як у першыя гады, калі не было з сабой сярнічак, станавіўся на лаву і пальцамі мацаў стрэлкі. Рабіў гэта часта, калі коням яшчэ далёка да додніцы трэба было даваць авёс... Бывала, што ходзікі стаялі — часта станавіліся, хоць былі і новыя, дрэнныя, мусіць, купілі,— ён званіў тады па тэлефоне ў Вострава на пошту. Знімаў трубку з тэлефоннага апарата з кручка — тады яшчэ ў канторы быў тэлефонны апарат з ручкай, вісеў на сцяне — і кру-

ціў за ручку. Доўга круціў, пакуль там, у Востраве, не будзіў тэлефаністку. І калі ў трубцы чуваць было: «Ало, я вас слушаю»,— пытаўся «врэмя». Па тэлефоне можна было пытацца «врэмя» — Андрэя ўжо ведалі дзяўчаты ў Востраве. «Зноў гэты стары»,— і казалі: «Чэцверць втарога... Ох, не мяшайце вы нам...» Званіла ў Вострава часта і Шура: «Дзевушкі, скажыце, пажалуста, врэмюшка...» Не пытаўся «врэмя» толькі Унук. Уключаў кожны дзень у шафе прыёмнік і звяраў свой наручны вялікі круглы гадзіннік, які прынёс «з партызан», «па Маскве». «Нямецкія, барахляць...— падганяў ён кожны раз стрэлкі.— Немца яшчэ таго помню...»

Было цёмна, не пасвятлела, хоць недзе ўжо ўзышла поўня. Сосны парабіліся бурыя, аж чорныя. Сярод іх былі відаць маладыя белыя, як ад снегу, бярозы — плямамі. Не ляскаталі больш калёсы, усюды было ціха, і недзе з сасновых лапак на зямлю капала вада: кап! — ядрана, са звонам — лучала ў калдобіну. Вада капнула і на руку, калі ён крануў лапку: на шыллі віселі раса, як пасля дажджу. Слізка стала пад нагамі на сцежцы.

Адышоўшыся пад самае поле да ям, ён пачуў, што пахне зямля. Сырым вільготным мохам, як у дождж, які залёг на цэлы тыдзень і імжыць дзень і ноч, прамочваючы зямлю ў штых; прэлымі старымі яловымі пнямі, якія павыгнівалі ўсярэдзіне, стаяць — адны паточаныя чэрвем адаробкі; з-за вялікай дарогі пахла нарэзанымі і пашчапанымі бярозавымі дрыўмі — метрамі, якіх накладзена ля ўчастка цэлыя шліхты, не прайсці; ад бульбяных ям несла жвіраватым пяском, як усё роўна з зямлянкі пад Курачовымі Цянямі, куды яны ўцякалі ад бамбёжкі. Жвірам патыхала і са старых даваенных разбураных зямлянак — адных ям, што ў лесе за вялікай дарогай,— якіх нарылі ў трыццаць дзевятым годзе, калі нашы пераходзілі граніцу і ў лесе стаяла кавалерыя. З поля ад Лазы пахла свежай, як нядаўна ўзоранай, раллёй і зялёнай травой, што ўсё роўна і не было зімы,— кранулася, відаць, расці рунь. Здавалася, яшчэ чуваць, як пахне аж тут, у лесе, падчарсцвелай пасля зімы вёскай: абсохлымі шэрымі хатамі і выветранымі парожнімі, без сена, хлявамі, падсмяглымі гародамі і вуліцай, на якой з раніцы да вечара бегаюць босыя дзеці з чырвонымі, што буракі, нагамі...

Угары над лесам, у прагале, блішчалі маленькія дробненькія зоркі, усё роўна як свіцілася неба. Яго зацягнулі нізкія чорныя дажджавыя хмары — хмурылася звечара;

на ўсходзе, над Доўгімі ля Жоглаўкі, хмары парабіліся бурыя, як ад пажару, і былі відаць праз лес — там недзе за імі свяціла поўня.

Калі Андрэй выйшаў на поле да бульбяных ям, калёсы былі ўжо ў вёсцы — стукалі ціха па каменні на вуліцы. На полі было відней, на ямах вісеў туман, густы, сіні, як дым на балоце за ракой, калі летам гарыць торф. Туман хаваў з воч усё поле ля фермы і цягнуўся шырокім хвастом удоўж Загумення да Лазы. Ля Лазы на руні ён вісеў у два рады: на самай зямлі і, другой паласой угары — упоравень лесу, белы, што абрус.

Неба на ўсходзе над лесам было бурае, угары над галавой дробныя зоркі ўвачавідкі зніклі — мусіць, на прагал насунулася хмара.

На дарозе ля ям была сухая, цвёрда зямля, лучалася каменне і белы, падсохлы за дзень на калючым сонцы, сівец — шамчэў пад нагамі. Было ціха і цёпла, як летам, і здавалася, што гэтай ноччу кранулася расці трава.

У вёсцы ні ў каго не было агню; не ляскалі калёсы, не скрыпелі вароты, толькі ў кароўніку на ферме кашляла карова, доўга і хрыпата, Андрэй аж спыніўся.

Уваходзячы ў вуліцу, Андрэй узяўся рукой за плот, за жэрдку, і яшчэ раз агледзеўся: на ферме ўсё яшчэ кашляла карова. Фермы відаць не было — схавалася ў тумане.

На плоце, на жэрдках, падсохла кара, пакарабацілася і трэскалася пад рукой.

Плот упіраўся ў яго, Андрэеў, хлеў. Сцены ад вуліцы ў хлеве былі яшчэ мокрыя і ў цемнаце здаваліся чорныя, як вугаль. З хлева пахла сенам, густа, як чаем. Ля самай сцяны ад вуліцы ляжаў мурог з аселіцы. Яго касілі самы першы і клалі падніз — толькі цяпер сталі даваць карове.

Блізка, ля самай сцяны, дыхала карова — мусіць, павярнуўшыся галавой да вуліцы, даставала з вышак між жэрдзя сухі бульбоўнік. Яна кожны раз, калі яе даіла Верка, задзірала пад столь галаву і даставала языком бульбоўнік. Верка тады тоўхала яе рукой — баялася, каб яна, выцягнуўшыся, не ступіла нагой і не перакуліла вядро з малаком.

Запахла сырадоем — карова, мусіць, дыхнула пад страху на вуліцу: ад яе кожны раз, калі яна дыхала, пахла сырадоем.

У Андрэя зусім падагнуліся ногі: здаецца, падоіць зараз Верка карову — чуваць, як шуміць малако ў поўным вядры,— таўхане яшчэ раз яе ў бок, каб яна саступіла з

праходу, дала прайсці з вядром да дзвярэй, і выйдзе на двор. Згледзеўшы яго, Андрэя, на вуліцы, паставіць вядро на зямлю ля ганка, ля вугла, і пойдзе адчыняць яму вароты — яна кожны раз вечарам чакала яго. Адшчэпіць кручок, адыдзецца разам з варотамі, зробіць яму, Андрэю, праход і будзе чакаць, пакуль ён зойдзе з вуліцы:

— Вот добра, што якраз на вячэру...

Ён пойдзе наперадзе і, ля ганка ўзяўшы вядро з малаком, панясе ў хату — паставіць на лаўку ў парозе пад суднікам. Верка, зачыніўшы сенцы, будзе ісці ззаду са збанкамі ў руках — возьме іх у сенцах з шафарні, дзе яны сохлі памытыя і перавернутыя ўверх дном, каб у іх не лазілі каты...

Вароты яму ніхто не адчыніў; яны, намоклыя за вясну, аселі, і, адшчапіўшы кручок, іх трэба было падымаць і нясці на руках: дзёрлі зямлю.

Ужо ля варот ён згледзеў, што ў хаце гарыць цьмяны агонь: завешана было акно — свяцілася толькі адным краем, і ў гародчык на двор, пад маладую разгатую рабіну, што расла ад вуліцы, падала вузкая жоўтая палоска. У гародчыку бліснула вада — пад рабінай доўга ляжаў лёд, не раставаў.

Андрэй падумаў, што ў вёсцы толькі ў аднаго ў яго агонь... Агонь гарэў кожны раз, калі яго чакала Верка.

Дзверы ў сенцах не былі зашчэплены з сярэдзіны на кручок, і Андрэй ціха адчыняў іх, баючыся, каб не нарабіць скрыпу. У сенцах доўга вадзіў па вушаку рукой — не мог знайсці клямкі.

Клямка была маленькая, слізкая і халодная.

У хаце ў парозе адразу запахла духам з печы — была заложана юшка, і ён пачуў, як яго страсанула: змёрз, мусіць,— яшчэ халодныя ночы. Пасля ён пачуў, як пахне з печы варанай бульбай, і падумаў, што галодны.

— Волька...— клікнуў ён ціха з парога дачку.— Дзе ж яна?..— спытаўся, як у каго чужога, і, уключыўшы ў першай палавіне агонь, пайшоў за перагародку, не знімаючы паддзеўкі.

У другой палавіне ніхто не адзыўнуўся; шасталі толькі на сцяне ад вуліцы ходзікі і на коміне кранула лучыну котка — падняла на яго, Андрэя, галаву.

Волька спала на ложку ў хустцы і ў старой Верчынай фуфайцы. Нават гумовыя Верчыны боты з ног не скінула. Чакала, мусіць, яго доўга, хадзіла па двары, тады прыйшла ў хату, прылягла і заснула.

«Дзіця ты маё, дзіця...» — падумаў ён і ўздыхнуў. Тады зноў паклікаў:

— Волька...— Ціха, як і першы раз.

Волька спала — сапла носам на ўсю хату.

«Хай спіць,— падумаў ён.— Нацягалася. Заўтра ж у школу...»

Павесіўшы паддзеўку на цвік у перагародцы ля праходу, за які была зачэплена белая тасьма ад занавескі, ён падышоў да ложка, сцягнуў у Волькі з ног боты, тады, павярнуўшы на спіну, расшпіліў фуфайку і выцягнуў з-пад плячэй. Прынёс з першай палавіны з запечка пасцілку, накрыў. Выключыў агонь. Пастаяў яшчэ ў дзвярах, паглядзеў на Вольку: «А ці вячэрала яна?..» Падумаў яшчэ, што трэба было б адвязаць хустку, але зноў пабаяўся разбудзіць.

Калі ён сядзеў за сталом, нагнуўшыся над міскай з малаком, чуў, як ціха-ціха ў хаце... З-за стала не было чуваць, як сапла Волька — лягчэй стала дыхаць, калі лягла на спіне; не пела курню котка і не шорхала лучынай — скочыла з коміна на печ, калі Андрэй, дастаючы з печы гаршчок з бульбай, бразнуў засланкай.

Ён еў — сёрбаў кіслае малако з лыжкі моцна, на ўсю хату, каб не было ціха. Ён не хацеў, каб было ціха.

Бульба ў гаршку за засланкай ужо астыла. Рассыпастая, халаднаватая і мокрая — Волька дрэнна адцадзіла,— бульба, здавалася, пахла паранкай. І малако кіслае было цёплае — стаяла на акне, прынесенае, мусіць, даўна з сяней з шафарні.

Чэрпаючы лыжкай, ён чуў, як чапляецца за нешта локцем. Павярнуў галаву — збоку на стале ляжалі Вольчыны кнігі, складзеныя на заўтра. Падумаў, што дагэтуль іх не згледзеў...

Калі ён, павячэраўшы, выключыў агонь і, распрануўшыся, лёг у запечку на ложак — у вачах адразу забегала полымя пад бочкай на ўчастку і замітусіўся Падбярэцкі... «Камбала...» — падумаў Андрэй і пацёр вочы. Агонь цяпер забегаў па сцяне і застыў угары ля печы — белай плямай з чорнымі рамамі ад акна — якраз там, дзе ў вайну ў вялікія маразы былі падвешаны палаткі і спала Верка...

Андрэй падняўся на локаць і глянуў у акно ад гарода. Было відна, і ён згледзеў адразу збанок з малаком на падаконніку і на стале Вольчыны кнігі... Пасля па вачах сцебанула калючым агнём...

«Фары...» — падумаў ён і адхінуўся.

Агонь ад фар кожны раз быў відаць з грэблі, калі з Луськага ішлі машыны: шырокая белая паласа з чорнымі рамамі ад акна доўга стаяла на сцяне, калі машыны былі ля могілак, тады рабілася ярчэйшая — машыны міналі грэблю, бегла да печы, скакала па чалесніку, вузела, як на лучыніну, і патухала — машыны паварочвалі ў вёску.

Пасля шырокая і яркая, аж белая, паласа ад акна загарэлася на дзвярах і адразу патухла пад суднікам — машыны ішлі з вёскі ля хаты... Гудзелі цяжка, аж раўлі, і ад іх звінелі шыбы ў вокнах.

«Прычэпы...— падумаў Андрэй, пачуўшы, як машыны бразгаюць ланцугамі.— Вольку ўзбудзяць...»

Волька спала, не прачнулася.

«На ўчастак ідуць так позна. Гразлі недзе на дарозе. Пойдуць, відаць, пад Вешкі па дрэва...» — падумаў ён і заплюшчыў вочы.

За перагародкай павярнулася на ложку Волька і зноў пачала сапці носам — моцна, на ўсю хату. Скочыла з печы на падлогу котка, зашлэпала ў парог. Ля судніка пад лаўкай зазвінела бляшанка з-пад малака.

Ён доўга ляжаў, заплюшчыўшы вочы, і не мог заснуць. Рэзалася пад павечкамі, сціскала галаву — у патыліцы. І дрыжала ўсярэдзіне...

Нарэшце ён адплюшчыў вочы і доўга ляжаў, гледзячы ў шэрую столь; сон — як рукой зняло. Пачынала звінець у галаве, цененька, што ўсё роўна вецер дзе кратаў шыбіну...

Ён падняўся і сеў на ложку, звесіўшы босыя ногі. Згледзеў, што павіднела ў хаце і святлей зрабілася на двары,— мусіць, ужо высака паднялася поўня і раз'ехаліся хмары.

У хлеве пачала стукаць карова, рагамі аб сцяну — ён пазнаў,— як усё роўна закруцілася за повад. Ён пачакаў, тады ўстаў, уссунуў на босыя ногі боты — яны стаялі ля печы,— ускінуў на плечы паддзеўку і пайшоў з хаты, кінуўшы расчыненыя дзверы.

Карова больш не стукала, было чуваць, як яна жве жваку. У хлеў ён не пайшоў, пастаяў толькі ля дзвярэй і вярнуўся да ганка. Не хацелася ісці ў хату, і ён зачыніў у сенцах дзверы. Падышоў да варот, што былі прывязаны між сенцамі і варыўнёй, і, абапёршыся на верхнюю дошку, глядзеў на лог за гароды. На Доўгіх ціха шваргатала рака — вярнулася ўжо ў берагі, і ззаду, на ўчастку, гудзелі машыны.

Пасля на ўчастку стала ціха. Над Доўгімі пабялела неба; з-за чорнага, падпаленага па краях воблака пиказаўся беражок поўні.

Адразу павіднела; за плотам у гародзе на чорнай раллі было відаць абсохлае белае каменне, хоць збірай яго і насі пад плот на мяжу.

Тады раптам на Доўгіх, там, дзе заружавеўся туляг, зараўло — глуха, што ў яму. Андрэй пачуў, як у яго падымаюцца дыба валасы і па спіне пабег шорах. Аж страсанула.

Пасля на Доўгіх зараўло яшчэ раз — мацней і ядраней. Ноч была ціхая, і адгалоскі аж пераліваліся: паплылі на ўчастак і за грэблю ў Луськае, адгукаючыся далёка, недзе аж пад самымі Вешкамі...

Пасля адразу ўсё сціхла, і над Доўгімі выплыла з-за туляга жоўтая поўня...

Андрэй стаяў, учарэпіўшыся за дошку ў варотах.

«Што гэта магло быць?.. Аж зямлю падымае... Ваўкі так не адзываюцца...»

Ён доўга стаяў, абапёршыся на вароты, і чакаў. Усюды было ціха: і на Доўгіх, і на ўчастку, і ў вёсцы. На двары і ў гародзе ад месяца зрабілася яшчэ відней; на лагу ля ракі пабялеў туман — вісеў доўгай, выгнутай уверх паласой.

У хляве зноў загрукала рагамі карова; падалі голас куры, як загаварылі адна да адной; захлопаў крыллем певень, што ўсё роўна біў па чым; цераз вуліцу ў Ганькі скрыпнулі дзверы...

Яму здалося, што яго кліснула з хаты Волька.

Калі ён, зашчапіўшыся ў сенячках на кручок, вярнуўся ў хату, Волька спала, як і перш, на ўсю хату.

Яго зноў хапіла стужа, і ён, не скідаючы паддзеўкі, прыхінуўся ў парозе плячыма да чалесніка.

«Што там магло быць? — зноў падумаў ён.— Гэта не ваўкі...»

Стужа не праходзіла. Сцягнуўшы з ног боты, ён лёг на ложак і накрыўся паддзеўкай.

Заснуў ён, калі поўня, выйшаўшы з-за варыўні, свяціла з гарода ў акно — якраз яму ў вочы.

## 6

Прайшло тры дні.

Дома ён збіраўся як усягды летам на начлег. Прыйшоўшы з участка яшчэ калі не зайшло сонца,— аўса

нанач у кармушкі насыпле Падбярэцкі: запазніліся прывезці, сена ён заклаў сам,— Андрэй не вячэраў — не хацелася. Стаў адразу пераабувацца. Доўга выціраў усярэдзіне гумовыя боты ад ліпкай вільгаці старой крамнай анучай; перамяніў штаны — дастаў з-за коміна з кутка вынашаныя сівыя ватовікі: учарашнюю ноч на Доўгіх было холадна ў дваіх картовых штанах — зуб на зуб не лучаў пад раніцу. Скура пад адзежай рабілася халодная, як лёд...

Паддзеўка была сухая, заляпана толькі ў падале ў гразь. Трэба ўзяць яшчэ фуфайку; цесна будзе, не крануць плячамі, затое не будуць ляскаць зубы.

У пячурцы, ля вядра з вадой, ён дастаў з-пад рукавіц карабок сярнічак, паклаў у паддзеўку, у кішаню,— паддзеўка вісела на цвіку ў нагах ля ложка; пайшоў у другую палавіну, адчыніў шафу — яна стаяла ля сцяны ад вуліцы,— у ёй цяжка, са скрыпам адчыняліся дзверы: абвіслі завесы; у шафе ўзяў з верхняй паліцы з кутка чатыры цёмныя бронзавыя патроны — тыя, што браў учора,— патрос імі ля вуха кожным — порах у патронах шастаў, як пясок; пастрэпаў ногцем жоўценькія новыя капсулі — яны блішчалі, як залатыя; пасля пайшоў паклаў патроны ў кішаню да сярнічак. Падумаў, што патронаў хопіць: нашто іх многа — у двухстволцы яшчэ два: у адным ствале і ў другім. Дрэнна, калі давядзецца страляць многа разоў. Звера б'юць адным стрэлам... Другі раз можаш ужо і не стрэліць, як гаворыць Падбярэцкі. Трэба толькі памяняць патроны з двухстволкі — дзве начы ў халодным ствале... Добра было б, каб былі жаканы. Дранкулька — яна і ёсць дранкулька. Увайшла і выйшла. Але дзе ты іх возьмеш...

Зняўшы са сцяны двухстволку — яна вісела ля самай печы, высака, дзе некалі быў палок,— ён сеў на ложак. Асцярожна, «пераламаўшы», выцягнуў ногцямі патроны са ствалоў, паклаў іх ля сябе на пасцілку; глянуў у ствалы проці акна: яны суха блішчалі, як вышараваныя. Пасля выняў новыя патроны з кішані з паддзеўкі, зноў доўга шастаў кожным ля вуха — пораху насыпаў больш, чымся на шрот, адмераў, каб толькі не парвала рулькі — і асцярожна, як баючыся, запхнуў іх у ствалы. Двухстволку зноў павесіў высака на сцяну. Трэба было б пачысціць ствалы, калі ідзеш на такое. Ствалы чысцяць кожны раз, калі выносяць ружжо з хаты, хоць і не стралялі. Але яно вісела ад учарашняга ў запечку; у запечку

суха. Ды і позна ўжо, звечарэе скора, не агледзішся. У ствол нічога не магло лучыць, раса, можа. Яна дагэтуль дзесяць разоў высахла, бяды вялікай няма. Толькі каб не падвёў капсуль і не затраслася рука. А хто ведае, руку. Яна хоць і свая, але ж яна збоку...

Трэба было б і прыстрэліцца. Хаця двухстволка свая. Не забраў Фарафонаў пасля суда — вот і думай пра яго як хочаш. Прыехаў назаўтра ў вазку, сам адчыніў вароты на двор. Адпяў каня ля асвера, пастукаўся, зайшоў у хату.

— Выйдзі мурагу падкінь пад нос майму фэрдалу... Вынесі з хлева. У мяне пад пасцілкай асака. Штаны рэжа. скаціна і не нюхае. Ды і асаку змалаціў на патруху, трасучыся за такую даль. Ездзіш усё да вас, да гэткіх... І адкуль вас набралася... Ёсць у мяне на мушцы яшчэ адзін... Ты ведаеш хто. Пакрыў... На сябе ўзяў. Ён бы цябе не пакрыў... Пападзецца ён яшчэ мне ў рукі... Сам... Я з яго вачэй не спускаю. Ну, дзе твая ламачына? Давай сюды. Суд, называецца... Па галоўцы гладзіць... У мяне б вы забыліся навек, у якім баку лось дыхае! Што той штраф. Аддасі і зноў пойдзеш з ламачынай псаваць жывёлу. У мяне б ты... вун куды закурэў... Да белых мядзвед зяў... Хаця, хто б тады перадачу насіў у бальніцу тваёй жонцы? Дзіцё адно дома. Чорт іх ведае... Дзяцей сваіх не шкадуюць. Думай за іх, ездзі па хатах. У мяне б ты гэту сваю ламачыну пёр бы перад сабой аж у раён у міліцыю як міленькі... Прынёс бы і паклаў акуратненька перада мной. Раздурылі вас гэтыя суды... Штрафуюць...

Андрэй тады стаяў у дзвярах у другую палавіну, абапёршыся рукой аб перагародку, і не кратаўся з месца. «Бяры сам,— падумаў ён,— і сена з хлева, і двухстволку са сцяны ў запечку, і хоць усё з хаты. Не гразіся толькі і не лезь у душу. Горка там і без цябе».

Фарафонаў, відаць, здагадаўся, што ён, Андрэй, думае. Усміхнуўся бліскучымі вачыма, выцер даланёй, як усё роўна ад поту, круглы чырвоны твар, паказаў яму сысці ўбок і пайшоў у другую палавіну.

Доўга хадзіў па хаце, шныраючы ўсё вачыма то па сценах, то па кутках, як шукаў чаго... Пастаяў быў ля стала, што ўсё роўна збіраючыся сесці. Тады вярнуўся і пайшоў адразу ў запечак. Ткнуў нагой пад ложак, адхінуў на вешалцы на сцяне ля печы кажух, узяўшы за палу.

— Самагонку даўно гнаў? — павярнуў ён на хату галаву; вочы ў яго ўсё яшчэ блішчалі.

— Вас чакаў. Рассядуся зараз і пачну.

— Ну-ну... Ты мне... — Фарафонаў выскачыў з запечка на хату, як абвараны. Паправіў на галаве — насунуў на вушы — чорную зімовую шапку, як усё роўна кубанку, якія насілі партызаны, суха смаргануў носам: — Яшчэ нарываешся?.. — аж закрычаў ён.— Ды я цябе... Ану, нясі здавай ружжо...

— Бярыце самі, раз вас прыслалі. Вун, на сцяне.

— Ты, гэта, дзе так навучыўся?.. — Фарафонаў падышоў бліжэй і паправіў кабуру, чорную, старую, вышмальцаваную — яна вісела ў яго збоку на кажусе на дзязе,— тады адразу аціх, вылаяўся і бліснуў вачыма, як адкуль з цемнаты. Вярнуўся ў запечак і, падняўшыся здалёку на пальчыкі,— баяўся прыхінуцца да адзежы на вешалцы,— зняў двухстволку са сцяны адной рукой. Пайшоў, паклаў на стале ля акна; яна груknула, як немаведама што цяжкое. Закалыхалася, звесіўшыся, старая вузенькая дзяга; Андрэй насіў яе яшчэ ў партызанах, падпяразваў штаны, цяпер прычапіў да двухстволкі. Адшпіліўшы сумку, Фарафонаў выцягнуў ружовую паперку і паклаў на стол побач ля ружжа. Падаў доўгі новы зялёны карандаш.

— Распішыся... І глядзі ў мяне.

Андрэй падышоў да стала і ўзяў карандаш.

— Унізе ў графе... Вун, галачка стаіць...— Фарафонаў нагнуўся над сталом, паказваючы,— зноў у яго заблішчалі вочы.

Андрэй распісаўся, стаяў, не адыходзячыся, і глядзеў у акно — у гарод. Пад варыўнёй на цвёрдую ўтаптаную дарожку нацерушыла дробнага снегу, як інею. Аднекуль узяўшыся, з дарожкі ўзляцела варона, змахнуўшы крыллем снег, як венікам. Ён падумаў, што цяпер ужо і вароны не застрэліш... Пачуў пасля, як Фарафонаў гаварыў ля стала:

— Зарубі сабе на носе... — і ляпаў даланёй па ружовай паперыне.— Глядзець на вас, зладзееў, не хочацца. Ну, што прыліп? Як там твая баба? — Фарафонаў, здалося, раптам памякчэў.

— Ды памрэ баба... — сказаў Андрэй, усё яшчэ гледзячы ў акно.

— Во-во... Яшчэ адна бяда ў хату ідзе, а ён што думае... Страляе па лесе. Добра. Чорт з табой. Бяры сваю ламачыну... Схавай толькі з вачэй, каб людзі не відзелі.

Як сціхне ўсё, хоць зайца калі падстрэліш. А так — прададуць яе ў скупачным за паўцаны. Думаеш, Фарафонаў дык ужо... Афармлю. Толькі калі што пачую... Адвеціш у два разы. Больш я нічым не памагу. Прыеду, забяру і ламачыну і цябе разам. Ну? Глядзі бабу, Вялічка... — Фарафонаў узяў са стала ружовую паперку, дзе распісаўся Андрэй, і паклаў яе недзе на дно ў сумку. Пасля запхнуў туды карандаш і выйшаў адразу з хаты, стукнуўшы дзвярыма.

Андрэй зноў згледзеў, як з дарожкі ля варыўні ўзлягела варона.

Вот і думай пра Фарафонава як хочаш...

Трэба было прыстрэліцца. Не страляў жа ад лася. Дагэтуль магла і мушка дзе аб сцяну збіцца, ды і ў самога недзе ўжо і вочы, і рука не тыя. Але дзе станеш страляць?.. З вёскі далёка чуваць...

Андрэй узяў двухстволку і наставіў у акно — на Выганчык. У канцы вузенькай цьмянай дарожкі між рулек убачыў мушку — прыпаянае макавае зерне. Згледзеў адразу, што з Выганчыка ідзе чалавек — выйшаў з кустоў з балота і спускаецца ўніз да маста.

«Балюта...» — пазнаў ён і як спужаўся ўсё роўна. Падумаў, што дрыжыць рука. Левая... Мусіць, ад пляча: плячо баліць, не сціхае ніяк.

«З'ездзіўся... Не стралец ужо, калі рука дрыжыць...»

Дачкі дома не было, але ў печы яна ўжо выпаліла: з-за засланкі пахла прыгаркамі бульба. Есці яму не хацелася — блажыла.

«Добра, што дзяўчыны няма. Будзе думаць, што я на ўчастку. Не дзіцячая гэта забава...» — падумаў ён і ціха закінуў двухстволку на плячо — рулькамі ўніз. Адпусціў спражку — пабольшыў дзягу, каб не тырчаў высака прыклад.

Наверх ускінуў паддзеўку; пазасоўваўшы рукі ў рукавы, зашпіліўся на ўсе гузікі — адной рукой: левая сягоння балела, і ў паддзеўцы цяпер было цесна.

Шапку ён яшчэ трымаў у руках і, надзеўшы, агледзеўся на хату. Убачыў парваныя абоі на перагародцы ля дзвярэй у другую палавіну. Разбівалі дошкі, калі выносілі Верку ў дамаўі: цесна было прайсці мужчынам. І цяпер яшчэ не прыклеілі абоі, збольшага прыляпіла тады дачка варанай бульбінай.

Горача зрабілася ўсяму, і ён адчыніў дзверы.

«Каб хаця не спаткацца з дачкоі...» — падумаў ён у сенцах.

На дварэ было чырвана, як ад пажару. Заходзіла сонца — схавалася за нечую страху далёка ў вёсцы — страха была як усё роўна ў агні і здалёку здавалася зусім маленькай, з засланку ў печы. І неба ў тым канцы над усёй вёскай было чырвонае, як жар; воддаль, на Загуменні пад Лазу, у небе стаяў высокі, роўны з асверам на ферме, жоўты слуп. Ад сонца, здавалася, аж перасыпаўся ўвесь, як сухі пясок...

Ціха было і ў вёсцы, і на Загуменні, і на двары. Ля студні хадзілі куры, высака падымаючы ногі — там блішчала здалёку вада. Таўклі мак камары, дзвюма кучамі: ля хлева і над трасочнікам на дрывотні.

Калі ён адчыняў вароты ў гародчык, убачыў, як пад прызбай пайшла расці чырвоная крапіва — дробненькім лісцем; палез з зямлі хрэн — белымі трубачкамі. Учора яшчэ пад прызбай было гола.

Пералезшы ля варыўні цераз плот, ён выйшаў на леташняе бульбянішча і, адышоўшыся, убачыў сонца. Яно, круглае, чырвонае і вялікае — па грудзі чалавеку, было над самым лесам на Загуменні і, здавалася, цяжкое — не пакаціў бы адзін. Стаяла доўга і не збіралася заходзіць, пасінела толькі па краях, і на яго можна было глядзець не хаваючыся.

На бульбянішчы ля самага сосніку хлюпала яшчэ пад нагамі гразь, у барознах блішчала вада, і ён, беручы вышэй, пад жоўтыя калгасныя капцы з бульбай, думаў, што трэба было б пайсці з участка, як і ўчора.

Ён лучаў нагамі на белае каменне. Згледзеў, што выцягвае ботамі чорную вільготную зямлю з белым доўгім карэннем.

За бульбянішчам пачыналася пасека і цягнулася пад самыя Доўгія. Яе карчавалі ля вёскі за соснікам, перад самай ужо вайной: першы раз тады тут пасеялі жыта.

І цяпер на пасецы было пасеяна жыта — у вочы кідалася рунь жоўтымі пляйстрамі: сапрэла ў гразі пад снегам.

Зіма летась клалася на гразь.

Дарога вяла цераз самую рунь. Яе вытапталі яшчэ ўвосень — ездзілі пад Доўгія па атаву: ля ракі на лагу было гразка.

На пасеку аж да дарогі заходзіў бярэзнік — шэры, разгаты, яшчэ зусім малады. У бярэзніку стаяла вада, пенілася на зямлі, як сок у карыце. Падняўшыся наверх, у

ёй плавала чорнае леташняе асінавае лісце, як разапрэлыя падасінавікі ў поліўцы, і дробнае растапыранае сасновае шылле. З вады тырчалі старыя сасновыя пні, паказваліся галоўкі доўгага белага моху і багульніку.

На дарозе хадзілі шпакі — жменькай, забягалі адзін аднаму наперад, вялікія, чорныя. Падымалі галовы, глядзелі на яго, Андрэя, і зноў беглі адзін за адным — не баяліся. Андрэй убачыў, што паточана дарога, як рэшата. У дзіркі пад нагамі асыпаўся пясок, белы, дробненькі, што мука з-пад падсітка.

У падсмяглых калдобінах зелянела вымытае ў паводкі белае карэнне — трава яшчэ не пайшла расці. Леташняя ляжала на самай зямлі, прыбітая капытамі, сівая, жоўтая. Падсохла і шастала пад нагамі.

На пасецы яму зайшло сонца.

Неба зрабілася чыстае, ядранае.

«На пагоду...» — падумаў ён.

За соснікам была відаць вёска — сівыя, як сухое асінавае лісце, хаты.

Запахла гарэлым, як дымам з коміна. Ён падумаў, што ветру няма, дым з вёскі сюды не дойдзе, стаў і круціў галавой. Праз бярэзнік на балоце пад Вешкамі згледзеў дым, сіні, як туман. Падумаў, што гарыць Падбалоцце: падкінуў нехта агню ў сухі сівец. Пачуў, што ёсць вецер, маленькі, дыхае з таго боку, несучы гар. Вецер пад ноч можа ўсхадзіцца, і тады і лог і балота будзе касіць агнём, як касой. Пастаяла сонца, абвеяла ветрам сівец, і ён цяпер што порах.

Пачало гарэць за ракой, за балотам, высака на лагу, і адгэтуль быў відаць агонь — бегаў, як у каго далёка ў Вешках па страсе.

Адышоўшыся, Андрэй у прагал убачыў, што дым заслаў увесь лог — гарэла там, мусіць, даўна, толькі ў вёсцы не было чуваць гару.

Дым слаўся нізка, па самай зямлі, збіраўся ў кутках на балоце і поўз на Доўгія.

Калі Андрэй спусціўся ў лагчыну, балота ўжо не было відаць. Усюды стаяў дым, што ад пажару, густы, ліпкі, кіслы, як усё роўна гарэла мокрая салома,— ад яго аж пяршыла ў горле.

Пасля Андрэй убачыў, што і ў канцы пасекі, дзе рос малады сасоннік, збіраецца дым маленькімі вузкімі палоскамі. Калі Андрэй, сышоўшы з руні, пайшоў пасекай па старым леташнім белым сіўцы, дыму ўжо быў повен

кут, якраз як і тады, калі яны ў блакаду, адступіўшы з Камена, ляжалі ў вырытых на пасецы ля сосніку акопах. Дыму тады была поўная пасека; па іх немцы лупілі і лупілі з мінамётаў, і ад мін гарэў сівец.

Як усё роўна з таго часу нічога не змянілася, як усё роўна кожную раніцу возчыкі і не разбіраюць на ўчастку коней, не выводзяць іх за аброці з праварын і не ўспіхаюць ім на галовы вынесеныя з сушылкі распараныя цёплыя хамуты. Нібыта кожную раніцу не крычаць браты Канэцкія на ўсю канюшню; нібыта і не ляскочуць па карэнні за кузняй калёсы, калі раз'язджаюцца возчыкі, паганяючы коней; нібыта і ён, Андрэй, выправіўся не на Доўгія, а ідзе пасекай у акопы, і на плячы ў яго не двухстволка, а вінтоўка, без шомпала, з самаробным белым прыкладам, якую яму далі адразу, калі ён прыйшоў у лагер, і якая б'е ў плячо, аж зубы сціскаеш — трэба страляць, кожны раз баючыся.

Як усё роўна нічога і не змянілася за гэтулькі гадоў... — зноў падумаў Андрэй. Толькі цяпер ён ля коней; пайшоў у канюшню на ўчастак, бо пасля таго, як яго паранілі ў плячо і як ён вярнуўся з горада, дзе рабіў адразу пасля вайны, адсыхала рука. А без яе не пойдзеш ні з тапаром, ні з пілой. Нікуды не годны: ні ў возчыкі — трэба з зямлі падняць дрэвы за камель; нават сукі церабіць не пойдзеш — што ты там нацярэбіш адной рукой. Добра яшчэ, што сена можа нанасіць коням за драбіны і разнясці ў кармушкі з кладоўкі авёс. Авёс ён носіць у адной правай руцэ, а калі разбаліцца плячо — носіць адной правай рукой і сена: бярэ ахапачак пад паху, як гуляе ўсё роўна...

Не-е, многа чаго змянілася за гэтыя гады... Толькі ён астаўся падзяўбаны і балючы, і зямля — уся пасека, як і ён, у ямах ад мін аж цяпер яшчэ. Ямы пааставаліся, што ўсё роўна пасля карчоў, неглыбокія, жоўтыя ад пяску, у іх нацерушылася ўжо роўным пластам сасновага шылля з лісцем, і на дне пачаў расці сівы мох і дробненькі верас...

Пашчапаныя мінамі пні нанава патачылі чэрві і падзяўблі дзятлы. Пні даўно ўжо не пахнуць гарам; гар астаўся толькі ў яго, у Андрэя, на душы. Пасля засыплюцца і ямы ад мін — будзе кожны год патроху абрывацца з берагоў зямля; а там, калі раскарчуюць пасеку да самага лесу і пусцяць плугі, стане роўнае поле. Бароны павыцягваюць наверх хвасты ад мін; круглыя і чырвоныя, яны бу-

дуць ляжаць на полі, што бульба. Іх пазбіраюць дзеці, паносяць у вёску і стануць качаць па вуліцы і па дварах, гуляючы, аж пакуль не ўтопчуць дзе пад хлевам у гразь — схаваюць з вачэй наўсягды.

Зямля зраўняецца. Ямы астануцца толькі ў яго на целе — спераду і ззаду на левым плячы, неглыбокія, чырвоныя яшчэ, як нядаўна апечаныя. Хоць ты і не знімай ніколі з сябе кашулі, хоць ты і не хадзі з рабочымі мыцца ў лазню на ўчастку...

Забалела плячо пад ружжом... Ён сціснуў зубы, як і кожны раз, і пайшоў памалу, чуючы, як цвярдзей ступае нагамі па зямлі. У душы раптам ачулася трывога, як і ў той дзень, калі яго клікаў да сябе Унук...

Знаў жа Унук, што лася забіў Падбярэцкі, цяпер гэта ўжо ведаюць, а крычаў жа: «Цябе ўжо судзілі...» А нашто гэта разумнаму чалавеку?..

Вобыск Фарафонаў рабіў і ў Падбярэцкага ў Вешках — нічога не знайшоў... Відаць, нехта падгледзеў, калі Падбярэцкі ганяў лася. Ад людзей не схаваешся.

Ён, Андрэй, толькі памог тады Падбярэцкаму ўзагнаць лася на Доўгіх ля затокі на лёд. Увосень ліў дождж, затоку затапіла, пасля адразу пацісную мароз. Падбярэцкі падбіў лася раніцай пад Вешкамі і ганяў, не баючыся, з сабакам цэлы дзень, не даючы рады. Паклаўшы лася нанач, прыйшоў да Андрэя, каб Андрэй заўтра додніцай зайшоў ад Мсціж: лось, паранены, дае кругі і ідзе ў вёску — да людзей. Не будзеш жа яго дабіваць на Выганчыку за ракой на вачах... І сабака дурны як бот — ніякай помачы...

Калі лось усходам сонца выйшаў з Доўгіх, Андрэй толькі заступіў яму дарогу: выбег з бярэзніку да затокі.

— На лёд яго... На лёд!.. — крычаў ззаду за ласём Падбярэцкі.

Лось пайшоў на лёд — лёд быў прысыпаны сняжком — і распластаўся адразу.

— Не страляй... Не страляй... На сярэдзіну яго, на сярэдзіну... — Падбярэцкі сам бег па лёдзе, як дзіця, дробненька ступаючы нагамі. Яхкаючы, яму наперад забег сабака.

Лось устаў на ногі, панюхаў лёд, прабег трушком, рассыпаючы капытамі снег, і скочыў быў з месца метры на чатыры — думаў, мусіць, што міне затоку,— і зноў грукнуўся з усіх чатырох... Лёг, што мёртвы, спусціўшы галаву на снег.

— Не страляй... Шуму наробіш... Вон, псіна, з-пад

ног... — Падбярэцкі ўскінуў двухстволку дзягай на шыю, як зачапіў за пень, і махнуў нечым кароткім на сабаку, што ўсё роўна палкай. Андрэй убачыў у яго ў руках тапор з белым новым бярозавым тапарышчам. Тапор быў чорны і вузкі — калун з кузні.

Падбярэцкі быў смялейшы за сабаку. Падскочыў да лася, размахнуўся і сякануў па галаве — між рагоў. Лось нават не страпянуўся, асеў толькі ніжэй на снег, раз'ехаліся ў бакі па лёдзе пад ім ногі...

Андрэй зглёдзеў, што лёд чырвоны ад крыві пад нагамі, як нацягнуў усё роўна ад зямлі. Стоячы блізка, бачыў яшчэ, як чырванее снег у лася ля галавы і растае, хутка, нібы ад цёплай вады...

Андрэй падумаў, што лось падласы, што ён такога ніколі не бачыў. Заднія ногі ў лася былі белыя; белая палаза ішла цераз усё падбрушша да барады. Барада адрасла доўгая, у локаць, густая і жаўтавая... І пярэднія ногі былі белыя па самыя пахвіны і ўпырсканыя ў кроў...

Кішкі яны адцягнулі да ракі і спусцілі пад лёд, прасекшы тапаром пролабку. Спусцілі і шкуру, разрэзаўшы на два кавалкі,— павёў нажом Падбярэцкі ад шыі да хваста... Знясе вада ў паводкі, дзе Макар козы пасе...

Лось ляжаў на лёдзе ў затоцы цэлы дзень. Пайшоў вечарам снег. Андрэй сядзеў воддаль у бярэзніку, пакуль з цямном не пад'ехаў на развалках Падбярэцкі.

— У вёсцы ціха... А снег засыпе ўсё на свеце... — больш ён нічога не сказаў.

Лася прывязлі да Андрэя на двор і з развалкамі зацягнулі ў хлеў на праціўню. Накрылі сенам.

— Хай паляжыць. Мароз якраз. Паслухаем, дзе што. На каня я сяду конна, а па развалкі ніхто не прыйдзе. Ламаныя ўзяў ад кузні... — сказаў, ад'язджаючы, Падбярэцкі.

А заўтра раніцай прыехаў Фарафонаў. Андрэй нават і не зглёдзеў адкуль. Адчыніў вароты і адразу ў хлеў. Зайшоўся пасля ў хату, вылаяўся ў парозе, як усё роўна дзеля гэтага і заходзіў, і сказаў нікуды не адлучацца. Укуліўся ў вазок і прывёз Унука і старшыню калгаса Дзярызямлю — маладога рослага хлопца. Старшынёй ён стаў нейк нядаўна, Андрэй яго яшчэ не ведаў. «Ага... Ага...» — гаварыў той, усё падтакваючы Фарафонаву.

— Ну-у... Хто яшчэ з табой?.. — аж гарэлі чырвоныя круглыя шчокі ў Фарафонава і blішчалі вочы, як ад агню.

— Ніхто. Сам. І страляў, і прывозіў...

— Ну-ну... Пакрываеш?! — Фарафонаў крычаў, тупаючы нагамі ў парозе.— Я з вас з усіх шкуру спушчу...

— Ай, хлопец, хлопец... Ну што ты нарабіў?.. — Унук толькі цмокаў языком, ходзячы па хаце ў доўгім чорным кажусе аж да пят... Андрэю здалося, што ён быў сказаў: «Ай, хлопцы, хлопцы... Што вы нарабілі...»

Андрэй змоўчаў пра Падбярэцкага; Фарафонаў доўга не мацюкаўся. Склаў акт, загадаў падпісацца яму, Андрэю. Пасля падпісаўся Унук і старшыня. На двары Фарафонаў прывязаў за аглоблі разваткі да свайго вазка. Разам з ім паехаў Унук са старшынёй...

Прапалі пасля гэтага і развалкі. Ніхто іх не шукаў...

А тады прыслалі павестку ў суд... Поштай...

Другі раз ужо зносілі паводкі лёд з Доўгіх з затокі, а ў вачах усё яшчэ стаяць чырвоныя плямы на снезе. І стол у судзе, накрыты чырвоным сукном...

Андрэй падумаў, што чырвоныя плямы будуць, мусіць, стаяць у вачах усягды, нават калі ён ужо ў Вулі стане палучаць чыстую зарплату. А калі стане палучаць... «Далі» тры круглыя... Бяруць кожны месяц працэнты... Ён не помніць, колькі аддаў, трэба будзе спытацца ў Шуры ці ў Вулі. У іх запісана...

У Падбярэцкага чырвоныя плямы ўваччу стаяць не будуць... Клікаў кожны раз да Федзі ў магазін, калі Вуля прывозіў зарплату... А цяпер і клікаць перастаў. Усё забываецца...

У бярэзніку пачынала цямнець. Пахла сырой зямлёй і мохам. Пад ногі лучалася вада, стаяла доўгімі цьмянымі лужынамі ў калдобінах. Пад вадой было карэнне ад старых сасновых пнёў, і Андрэй высака падымаў ногі.

Па шчоках стрэпала дробненькае вострае бярозавае галлё, пакідаючы чорную густую сажу,— ён сціраў яе даланёю.

За Доўгімі пачарнеў лес: там была ўжо ноч. Пачакаўшы, над імі заружавеецца неба, як і ўчарашнюю ноч: узыдзе поўня.

Азваліся дразды, пырхнулі цераз дарогу; ззаду, у вёсцы, забрахаў сабака. На ўчастку гудзелі машыны.

У небе была пырснула зорка і адразу схавалася з воч. Пад нагамі пабольшала вады.

За бярэзнікам пачаліся Доўгія — пацягнуліся вузкай жылінай ля ракі да самага лесу. У кутку на жыліне, дзе ляжаў Сібірак, было сіне ад дыму.

Выйшаўшы на чыстае, Андрэй убачыў, як за ракой га-

рыць Падбалоцце. Занялося шырака і гарыць чырвоным агнём — калышацца, нібы па ім ідзе хто вялікі і зыбае нагамі. Полымя падымалася ўгару высокімі палосамі — там, дзе ў кустах гарэла няскошаная леташняя сухая трава і выпетралы за зіму чарот...

Агонь ішоў на тым баку ракі пад самыя Доўгія. Было ўжо чуваць, як трашчыць трава, калі падымалася полымя.

Ад дыму зрывала нос. З рота ішла пара, што зімой на марозе.

Ужо ў самай жыліне Андрэй падумаў, што хоць і ўзыдзе поўня, у такім дыме нічога не будзе відаць. Але ў дыме і звер не так чуе чалавека — смялей.

Пачуў, што спацеў — змокла пад пахамі кашуля. Зняў з пляча двухстволку, узяў у левую руку і пайшоў, не зашпіляючыся, жылінай каля самага бярэзніку, асцярожна выбіраючы, каб не лучаць у ямы з вадой. Гразнеш па калені...

А можа, звер не пойдзе — пабаіцца агню. Можа, зусім збяжыць за Вешкі ў пушчу. Нехта добра зрабіў, што падпаліў балота...

Толькі хто ведае, што ў звера ў галаве. Закідаўшы каня, ён доўга чакаў. Аж у аўторак толькі, пазаўчора ноччу, прыйшоў і выгрыз кумпякі — да самых касцей. Ішоў з кутка, з жыліны,— знаць было па слядах — і назад пайшоў па тым месцы. Якраз дзе летам ходзяць з вёскі на Доўгія, калі пачынаюць касіць.

Назаўтра раніцай, у сераду, Андрэй прайшоў быў далекавата следам — да самай ракі ў жыліне. След па гразі быў шырокі — не закрыць ботам — хадзіў самец. Звер пераплыў раку і на дзень пайшоў пад Вешкі ў пушчу.

Андрэй знаў, што цяпер звер не прыйдзе суткі да каня — будзе спаць. На другую ноч можна і не ісці ў засаду. Звер наглы, але ходзіць толькі ноччу: баіцца. Вечарам і раніцай не пойдзе: чуваць машыны на ўчастку і ў вёсцы брэшуць сабакі...

Але на Доўгія ў жыліну Андрэй хадзіў нанач учора, не чакаў сутак.

Можа, звер ляжа спаць, а можа, і не. Ён цяпер яшчэ галодны, хоць і еў. А калі звер галодны дарвецца да падлы — да яго падыходзяць бліжэй: не чуе, заняўшыся. А бліжэй падыдзеш — можна напавал... На дварэ ноч. Хоць і відна ад месяца, а мушкі ноччу не відаць... Цэліцца трэба ў божы свет, як у капейку...

З серады на чацвер звер не прыйшоў. Андрэй чакаў

яго ад заходу да ўсходу сонца, калі ўжо на пасецы забалбаталі цецерукі і на ўчастку загудзелі машыны.

Можа, спаў, наеўшыся, а можа, падышоўшы, пачуў яго, Андрэя. Мядзведзь дрэнна бачыць, але нюхам ловіць здалёку. Пацягне носам з-за ракі і перш пазнае, што ў яго, Андрэя, пахне потам паддзеўка, а тады пачуе падлу. І ісці і сядзець трэба толькі пад вецер. Добра, што сёння поўна дыму.

Учарашнюю ноч ён прастаяў ля вываратні — ля камля. Яловая вываратка з густым пераплеценым карэннем падняла з зямлі мох, сухую асаку і цвёрды, збіты ў груду сіпак, белы, як снег.

Вываратка захінала яго, што сцяной, была вышэй за чалавека, і ён стаяў, паклаўшы на яе перад сабой двухстволку, як схаваўшыся. Спераду крокаў за трыццаць — больш не будзе — ляжаў на зямлі пад верхаллём у пад'ялеўцавым кусце Сібірак... Як схаваны. Каб не ведаў — не пазнаў бы. Аж не верылася...

Андрэй глядзеў у жыліну, стоячы плячыма да вёскі.

За ўчарашнюю ноч ацяклі ногі, і ён пачуў, як яны зноў забалелі пасля дарогі: галёнкі да самых калень. Мусіць, назызалі, бо цесны рабіўся абутак.

Ля вываратні Андрэй доўга аглядаўся кругa, пакуль стаў на ўчарашняе месца. Стаўшы ў вытаптаныя сляды — у яміны ў сіпаку, ён адсапнуўся і паклаў ружжо на вываратку. Зашасцела сухая асака. «Трэба рабіць усё асцярожна...» — падумаў ён, гледзячы ў жыліну ў самы кут.

У жыліне было поўна дыму: агонь цяпер калыхаўся збоку — справа за ракой; здалося, паменшаў.

Цямнелася; у небе высыпалі зоры. Пахаладзела; з жыліны бліжэй падпоўз дым — сіне было і над ракой, і на лагу ад вёскі.

Ацiхла: не гудзелі на ўчастку машыны, не брахалі ў вёсцы сабакі і не трашчаў на балоце за ракой агонь.

За плячыма прабег шорах. Андрэй падумаў, што ўчора страху не было: толькі ацяклі ногі... Не пойдзеш жа хадзіць, каб угрэцца... Ён толькі кратаў плячыма і цёр рукой шчокі...

Ззаду раптам трэснула, як у каго сук пад нагой.

Андрэй, крутнуўшыся, наставіў ружжо ў бярэзнік, прыцiснуўшыся спіной да вываратні. Стаяў доўга і не дыхаў, чуў, як стукае ўсярэдзіне сэрца, аж рука, здаецца, падскоквае ўгару ад стуку.

Зноў стала ціха. Ён уздыхнуў — як гара з плеч звалі-

лася,— павярнуўся ў жыліну. У жыліне ад дыму было бела, як ад снегу. За ракой на балоце закалыхалася полымя; ад яго ля ракі пачырванеў туман.

Андрэй падумаў, што мядзведзь не прыйдзе...

Над Доўгімі ў кутку пажаўцела неба. Пасля там адразу паказалася поўня — чырвоная і сухая, як на марозе.

Яшчэ больш зрабілася ціха; было чуваць, як шваргоча рака і сыплецца пад ногі з вывараткі пясок.

Павіднела. Азвалася недзе блізка малінаўка — не спала. У дыме ў жыліне закрычаў сыч — вылецеў лавіць мышэй.

Андрэй слухаў, выцягнуўшы шыю, аж пакуль не пачынала звінець у вушах. Балелі вочы, недзе глыбака, пад лобам.

Поўня была ўжо высака над лесам, паменшала; здавалася, свяціла толькі ў жыліну.

Загудзелі самалёты, недзе ззаду, над самай вёскай. Ляцелі высака ў небе, як некалі ў вайну. Калі ён глянуў уверх, убачыў Млечны Шлях — шырокую няроўную белую паласу праз усё неба. Яна была далёка-далёка, чыстая, як свежы іней... На поўначы, збоку ад Млечнага Шляху, дрыжала ядранымі зоркамі Вялікая Мядзведзіца, якраз над самым участкам.

Зноў зрабілася холадна ўсяму, як учора пад раніцу, і ён падумаў, што зоркі дрыжаць, як зімой у маразы... І поўня такая ж млявая і свеціць з-за туману, як і тады ноччу, калі ён страляў на ўчастку ваўкоў...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Было гэта ў першы год, калі ён пайшоў на ўчастак,— у сорак шостым.

Яшчэ з восені — восень тады была гразкая, снег выпаў рана, на нявыбраную бульбу,— пачалі дохнуць коні. Адзін за адным. Лезе на сцяну цэлы дзень, дастае нагамі аж да драбіны, а ноччу яго ўжо і няма — загавеў. Чапляй раніцай пастронкамі за ногі і адцягвай на пасеку ў Агульніцу. Ветэрынар пасля нават іх не ўскрываў і скуры не лупіў. Ахвотнікаў лупіць скуру з дохлага каня не находзілася, хоць і плацілі — у Вулі трэба было за скуру распісвацца ў асобнай ведамасці,— і коней зарывалі адразу ў зямлю. Спачатку закопвалі глыбака, пасля — збольшага: за гэта не плацілі нідзе, не было такой расцэнкі; плацілі толькі за скуру, і ніхто не хацеў дарма рабіць: на каня

трэба было выкапаць яму дай бог, трэба было пакідаць пяску... Скора коней пачалі адкопваць сабакі, а тады падышлі, пачуўшы, ваўкі.

Ветэрынар не вылазіў з участка. Прыязджалі і дырэктар леспрамгаса, і раённае начальства, і аж з вобласці камісія, і з ветлячэбніцы машына з бочкамі... Коням рабілі ўколы, а яны ўсё дохлі. Менінгіт. Тады пра яго першы раз пачулі ў Мсціжах...

У тую восень выцягнулі на пасеку ў Агульніцу адзінаццаць коней.

Калі пачалася зіма, коні сталі дохнуць менш. Іх ужо не закопвалі — хто гэта будзе грызці груду? — адцягвалі за дарогу на пасеку, кідалі і адразу забываліся: зімой не смярдзела пад нос.

Маразы тады пяклі — як у саракавым годзе ў фінскую вайну. Пачаліся яны пасля Новага года і ціснулі ўвесь месяц запар. Стала на пагодзе. Неба было чыстае ўсе дні; раніцай і вечарам рабілася чырвонае, як агонь; ноччу на ім высыпалі ядраныя зоркі і пырскалі, як вуголле з печы. Ноччу яшчэ падымаўся туман — нічога не было відаць, зверху сыпаўся іней, густы, як снег. Заінела ўсё на свеце; па лесе без аддухі страляў мароз.

Завылі ваўкі. Пачыналі звечара і вылі ўсю ноч. Спачатку недзе далёка, у Курачовых Цянях, пасля падыходзілі пад самы ўчастак.

Насталі месячныя ночы — бралася пад поўню, з акна з канторы было відаць, як ваўкі бегалі на пасецы за дарогай. Падыходзілі пад поўнач па два, па тры да падлы, доўга стаялі воддаль, тады падбягалі да яе, рвалі зубамі і адразу ж знікалі з воч — не ўгледзець. Пасля смялелі, сядзелі ля падлы, нават чуваць было, як вурчалі адзін на аднаго, што сабакі. Да падлы яны прыходзілі кожную ноч. Не баяліся, што блізка былі людзі, што пахла дымам, і ў канюшні, пачуўшы іх, фыркалі і грукалі драбінамі коні.

Апошняга каня паклалі адразу за дарогай, ля сосніку. Метраў за дваццаць ад лазні. Лазня стаяла далекавата і ад сушылкі і ад кузні, пад самым ляском за лесапілкай. Была невялікая, але добрая: з чосанага бярвення, з ладнымі сеначкамі і з падлогай. Ваду ў лазні грэлі каменнем, як і ў вёсцы. Мыліся ў ёй усе з канторы, нават сам Унук — любіў хвастацца з рабочымі на палку аж двума венікамі: у адной руцэ венік і ў другой; мыліся і самі рабочыя: хто хацеў, той і паліў у лазні, дроў на ўчастку хапала.

У лазні было аж два акны: у сенячках — вялікае, на дзве шыбіны, і ў самой лазні проці печы — меншае, на адну шыбку. Яго Андрэй адставіў — адагнуў цвікі і выняў знадворку — яшчэ днём і заткнуў з сярэдзіны мехам, прынёсшы з канюшні з кладоўкі.

Схадзіў дамоў, павячэраў, надзеў кажух, валёнкі, узяў двухстволку, карцеч з дранкулькамі — хай будзе і тое і другое — і вярнуўся на ўчастак. У лазню зайшоў і зачыніўся яшчэ завідна, калі ў кантору хадзілі людзі. Акна адразу ў самой лазні не адтыкаў — каб не выпусціць дух, нядаўна палілі: акалееш за ноч, не захочаш і ваўкоў,— і сядзеў спачатку, пакуль не сцямнела, у сенячках ля акна, працёршы пальцамі дзірку на шыбіне і хукаючы на яе, каб не замярзала.

На дварэ ціснуў мароз. Трашчалі ў лазні вуглы, як ад стрэлу; усюды высыпаў іней: на клямцы, на вушаках, на падлозе ля дзвярэй, заінела рама ў акне і ўся сцяна ад дарогі — адтуль пацягнула сіверам.

Ваўкі не вылі: іх не было чуваць каторую ўжо ноч, як сталі хадзіць да падлы.

Узышла поўня, была відаць з-за лесу. Цьмяная, жоўтая, знаць толькі адзін круг — неба зацягнулі сівыя, як пясок, хмары.

Пасыпаўся снег, рэдкі, падаў паволі, як нехаця: сняжынкі доўга кружыліся ля зямлі.

Андрэй перайшоў з сеначак і зачыніў за сабой дзверы: было холадна. Выцягнуўшы мех, адаткнуў акно, тады паклаў у аканіцу на сцяну рукавічыну — пад ружжо, каб не грукнуць знянацку. Сеў на шырокую бярозавую калодку і, прыставіўшы прыклад да пляча, паглядзеў у аконца. Убачыў за лесам цьмяны жоўты круг, соснік за дарогай і ля яго шэры бугор — каня яшчэ не зацерушыла снегам.

«Цемнавата...» — падумаў ён.

У аконца гнала снег, і ён падаў на калені і на падлогу. Адразу пабялела каменне зверху на печы — выступіў іней. Зайшло ў пальцы. Андрэй сціснуў пальцы ў кулак і схаваў руку ў кішаню ў кажух.

У лазні пахла цёплымі сценамі і распаранымі бярозавымі венікамі. Мусіць, ад вады, якую вылівалі з бочкі кожны раз пад ногі.

Ён думаў, што з лазні з адаткнутага акна недзе будзе чуваць далёка дух. Вецер-то з-за дарогі, але ваўкі могуць змікіціць: тыя ночы такога не было. Трэба было даўна адставіць гэта чортава акно, не прыйшло ў галаву... Можа не

памагчы і конскі гной, якога накідаў удзень ля лазні і па дарозе.

Ваўкі прыйшлі не адразу. Ён сядзеў пасля таго, як узышла поўня, гадзіны са тры. Хацелася піць: дома на вячэру Верка прынясла з варыўні агуркоў да бульбы. Цяпер хоць ты што рабі. Ён зграбаў снег з падаконніка. Снег раставаў у пальцах; ён ніяк не мог занесці яго ў рот. Напіраў яшчэ кашаль, як на злосць.

Воўк спачатку паявіўся адзін, стары, высокі, добра быў відаць з лазні. Выйшаў з сосніку адразу ля каня і ніяк не мог устаяць на месцы, усё роўна як у яго што круціла ў задзе.

Конь ляжаў галавой да лазні, і воўк стаяў якраз бокам да аконца — танцаваў у каня ля жывата. Пасля рвануў зубамі і адразу скочыў аж у соснік — знік з вачэй...

Андрэй асцярожна адвёў куркі дзвюма рукамі: спачатку адзін, пасля другі. Споўз з калодкі і сеў ціха на калекі. У проразі не было ўжо відаць жоўтай поўні: яна стаяла высака над пасекай, якраз угары над аконцам.

«Трэба чакаць...» — падумаў ён. Пачуў, як настылі куркі і ліпнуць да пальцаў: да аднаго і другога — відаць, спацела была рука.

Пасля з сосніку паявіліся адразу аж тры ваўкі. Адышліся ўбок, да старой падлы, пад кузню, як чулі што. Але старой падлы не зачапілі; падскочылі раптам усе трое да каня і сталі рваць з жывата... Пакладаліся на зямлю, і іх нават не было відаць. Тады адбегліся ў соснік — адзін за адным.

На мушку ён не злавіў ніводнага — ваўкі што ўсё роўна коўзаліся па чым слізкім і расплываліся. Было цемнавата.

Ён зноў чакаў, не чуючы пальцаў на правай руцэ. Прыняў іх з жалеза, паднёс да рота, пахукаў. Падумаў, што робіць горш: прыліпнуць пальцы.

Пацямнела. Пайшоў снег, густы, ціхі. На пасецы зрабілася шэра: адразу пабялела ля кузні дарога.

За трэцім разам ваўкі пасмялелі. Выйшлі з сосніку аж чатыры, не скакалі з месца на месца, але не спяшылі і падыходзіць. Адзін, высокі, ішоў наперадзе воддаль ад усіх, усё круціў галавой — азіраўся. Падышоў да самай дарогі, пабегаў ля яе, нюхаючы зямлю,— чуў свежы конскі гной, перш, відаць, гэтага тут не было чуваць,— вярнуўся да каня і стаў рваць яго за жывот. Да яго тады падбеглі ўсе трое — стаялі, пакуль ён бегаў ля дарогі.

Цяпер было відаць, што яны не скора адыдуцца: вурчалі адзін на аднаго.

Андрэй пачуў, як на пасецы нешта ляскае, што лучына аб лучыну на печы, аж ідзе рэха. Здагадаўся: воўк цягне за жылу і пускае... Падла яшчэ не змерзлася.

«Асмялелі...» — ён пачаў лавіць на мушку самага большага, таго, што падбягаў нюхаць да дарогі. Ён стаяў бокам самы першы, хаваючы сабой астатніх.

Злавіў яго якраз пасярэдзіне...

Стрэлу зусім не пачуў —стрэл увесь пайшоў на пасеку. Убачыў толькі, як цьмяна бліснуў з двух ствалоў агонь... Яму яшчэ моцна стукнула ў плячо, ён аж адхінуўся ад акна.

На пасецы ён нічога не ўгледзеў: там толькі падняўся ўгару снег, што пыл...

Ён доўга яшчэ сядзеў і глядзеў у акно. Пасля, перазарадзіўшы двухстволку — у адным патроне дранкулька, у другім карцеч,— выйшаў з лазні. Падышоў, пастаяў ля дарогі. На тым баку ля каня нічога не было відаць.

Убачыў, як у Шуры ў канторы загарэўся агонь: пачула стрэл. Пасмялеў, перайшоў за дарогу. Пасля, узяўшы ружжо ў дзве рукі, пайшоў да каня.

Ззаду за канём, галавой да лазні, ляжаў на баку воўк. Вялікі, як цяля...

Андрэй згледзеў адразу, што ў ваўка не відаць вушэй — прыціснуты назад да шыі...

«Жывы яшчэ...» — падумаў ён і, прыцэліўшыся ў галаву, стрэліў з аднаго ствала, дранкулькай...

Згледзеў пасля, як у ваўка падняліся вушы, як усё роўна натапырыліся...

Ваўка ён прыцягнуў у кантору да грубкі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Поўня зрабілася белая — на ёй былі добра знаць чорныя пісягі — і паднялася высака над Доўгімі; вісела якраз у тым баку, дзе нядаўна за ракой гарэла балота. Бралася пад поўнач.

Андрэй не чуў пад сабой ног. Здаецца, вытрываў бы што хочаш, каб не ногі. Яны пачыналі ныць ля калень, як туга чым перацятыя...

Выпаліць бы на ўчастку лазню, папарыць іх добра ў ражцы з вадой, апусціўшы туды аж два венікі...

Ногі пачалі балець нядаўна, з леташняга, калі ўжо ляжала ў бальніцы Верка. Ён пачуў, што доўга не можа вы-

стаяць ля коней. І калі клаўся спаць, ногі пачыналі ныць аж да калень. Нылі доўга, іх, здавалася, аж круціла,— ён тады падымаў іх высака на брыж, кідаўся на ложку і ніяк не мог заснуць. Пасля ногі сціхалі, не балелі, і ён, забыўшыся на іх, зноў тупаў ля коней увесь дзень.

Цяжкая стала раптам галава, шумела, што пасля чаду. Захацелася спаць. Ён доўга цёр пальцамі вочы. Здалося, і поўня над балотам сонная і млявая, як сонца летам за рэдкімі хмарамі.

Звер не прыйдзе...

Завылі раптам ваўкі. Ён аж уздрыгнуў.

Падумаў адразу, што яму здалося: як усё роўна дзе далёка за ўчасткам загудзела машына, беручы пад гару...

Калі зноў завылі ваўкі, ён падумаў, што яны выюць не за ўчасткам, а бліжэй — ля Агульніцы.

Ідуць сюды: пачулі падлу.

«Да вёскі вярсты дзве...» — падумаў ён, аглянуўшыся. Усунуў руку ў кішаню ў паддзеўку. Намацаў нож — «кінжал». «Кінжал» ляжаў у кішані ад учарашняга. Быў доўгі і вузкі — зрэзаўся. Яго яшчэ да вайны купіла Верка ў Востраве. Ён быў тады шырокі і бліскучы, з чырвонымі драўлянымі тронкамі. Ім шаткавалі ўвосень капусту — пазычалі ў Веркі ўсёй вёскай; калолі і разбіралі парсюкоў, а зімой — усю вайну — ім шчапала Верка дома лучыну.

Па спіне прабег шорах...

«Ваўкі прыйдуць, калі пачулі. Не пабаяцца...»

Падзьмуў з-за ракі вецер, пахаладнела; ля месяца павіліся белыя круглыя воблакі — плылі адно за адным над балотам.

Андрэй падумаў быў, што трэба вярнуцца дамоў, пакуль цэлы. Збягуцца ваўкі з усяго лесу — у лазню не схаваешся...

Ваўкі больш не вылі. І калі яны раптам азваліся зусім блізка на пасецы, недзе на руні, ён зноў уздрыгнуў — не чакаў так скора. Утаропіўшыся, убачыў, што ў жыліне як усё роўна калышацца туман — усё бліжэй і бліжэй...

«Позна дамоў...» — падумаў ён і адвёў куркі.

Здалёку мядзведзь быў малы, і Андрэю спачатку здалося, што гэта воўк. І скакаў ён лёгка, як воўк, толькі высака падкідаў угару зад, усё роўна як цераз што куляўся. Ішоў жылінай, з самага кутка ля ракі — па старой сцежцы...

Холадна зрабілася ўсяму...

Мядзведзь выбег з туману, як з палыну, і быў ужо блізка, крокаў за пяцьдзесят — якраз паміж ім і Андрэем, на сярэдзіне, ляжаў у пад'ялеўцы Сібірак,— скакаў як немаведама куды. Здавалася, нікога няма больш на Доўгіх: ні ваўкоў, ні Андрэя за вывараткай, толькі ён адзін на ўсім свеце. Звер быў наглы...

Андрэй пачуў, што супакоіўся — радзей стала стукаць у грудзях,— і прыцісніў да пляча прыклад. Задрыжала рука — левая...

Мушкі на проразі ён не ўбачыў...

Шатун быў чорны і доўгі, куляўся і куляўся, але яго не было чуваць, усё роўна як ён і не датыкаўся да зямлі.

«Трэба толькі, каб не забыцца... Каб страляць, калі ён стане есці...» — зноў пачало часта стукаць у грудзях.

Дабегшы да падлы, звер адразу стаў на заднія лапы — выцягнуўся ўверх вышэй пад'ялеўцу, зрабіўся шырокі, як начоўкі, пакруціў галавой і зафорскаў, што конь. Пярэднія лапы ў яго былі адстаўлены ўперад і матляліся, як перабітыя. На іх добра былі відаць кіпцюры; жоўтыя, яны аж блішчалі ад месяца: былі мокрыя.

Стаўшы на заднія лапы, ён адразу пайшоў да вывараткі — мінаў каня... Забразджалі кіпцюры, як усё роўна ён што выпусціў з лап...

Андрэй злавіў вокам чорныя грудзі паміж жоўтых кіпцюроў... Пачуў адразу, як ад стрэлу заклала вушы і дыхнула цяплом...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## 7

Звініць у галаве, тонка і несціхана, нібы камары заляцелі ў хату і не могуць ніяк знайсці ў акне пабітай шыбіны, каб выціснуцца на двор...

Пасля пачынае шумець высака пад столлю ў парозе, дзе на шастку Верка кожны раз на зіму вешае вянкі цыбулі. Яны доўга вісяць свежыя і жоўтыя, тады, недзе пасярод зімы, чырванеюць, і калі кранеш іх — з шастка цярусіцца на ўслончык, дзе стаяць збанкі, тоненькае, лёгкае шалупінне; ляціць, як пер'е.

Нехта без аддухі кратае і кратае вянкі на шастку: шась... шась...— аж шорхае ў галаве. Гэта Верка, стаўшы на ўслон, дастае цыбулю: будзе садзіць у агародзе ад рэч-

кі — акапала ўжо грады. Яна кладзе вянкі з цыбуляй у рэшата, адразае нажом, седзячы на маленькім услончыку, сухое націнне, сплеценае лыкам, і цярэ рукамі галоўкі ў рэшаце, што ўсё адно мые пад вадой бульбу. Выбірае пасля галоўкі і кідае ў вялікую міску, дастаўшы з-за судніка: дзын... дзын... Пасля зразае нажом вяршкі ў галоўках, перакідаючы іх у другую міску: дзын... Цыбуляй пахне аж тут, у запечку, дзе, здаецца яму, ляжыць ён, Андрэй... Цыбуля лезе ў вочы Верцы: яна трэ іх рукавом; тады Андрэй чуе, як і яму есца пад павечкамі, аж рэжа. Ён ніяк не можа адкрыць павечак: цяжкія і ўсё роўна як прыліплі — не адарваць.

Верка шастае і шастае цыбуляй, не сціхае — абрэзала галоўкі і збірае ў талерку вяршкі. Вяршкі яна абразала нізка, тоўста браўшы на нож — нашто лішняе садзіць у зямлю, гусцей абыдзе цыбуля. Цяпер яна ачысціць вяршкі ад шалупіння, ссыпле ў місачку, пасоліць, наліе алею з чорнай вялікай бутэлькі, прынёсшы з сенцаў з шафарні, накрые місачку талеркай і занясе на вілачках, якімі бяруць малыя гаршкі, у печ — у дух... Пасля, калі цыбуля пастаіць за засланкай у духу, яны будуць яе есці з хлебам.

Шась... Шась... Гэта Верка вешае вянок назад на шост, не хоча садзіць усю цыбулю — да маладой далёка, цэлае лета наперадзе.

Зноў пахне цыбуляй у запечку, і Андрэй чуе, як яна лезе яму ў нос, глыбака, недзе аж у горла, і ад яе займае дыхаць... Тады пачынае ўсё балець: вочы, горла і грудзі — нізка, да самага жывата... І пячэ, як чым нагрэтым, у левае хворае плячо, не выцерпіш. Рукі як усё адно яму хто дзяржыць, наваліўшыся немаведама з чым; і ён зусім не чуе ног — не кратаюцца. Хоча крануць, а іх што ўсё роўна зусім няма, як распаўзліся. І сам ён, здаецца, увесь распаўзаецца, як смала ў агні...

Падварочвае пад грудзі блага... Не дае толькі вырваць: ён ніяк не напнецца, лежачы на спіне. Хоць захлыніся... Круціцца ўсё на свеце: і Верка ля стала, і печ, і шасток угары пад столлю з цыбуляй... Здаецца, каб вырвала, хоць бы на мінуту стала б лягчэй... Трэба занесці ў рот пальцы... Скласці два пальцы і занесці...

Ён падымае руку — хватае яе як усё роўна з агню... і тады яму як нехта касой рэжа па грудзях... Ён чуе, што крычыць на ўсю хату, як толькі можа, і пасля адразу робіцца ціха... Цяпер пачынаюць распаўзацца рукі. Ён чуе

яшчэ, як гаворыць з чужымі людзьмі Верка, з мужчынамі, недзе далёка, што ўсё роўна на гародзе за хатай,— мусіць, панясла садзіць цыбулю. Пасля гавораць мужчыны, як крычаць за што на Верку:

«Маску! Закісь!..»

«Даю».

«Ёд... Зажым...»

«Даю».

«Пульс? Спакойна. Нічога страшнага».

«Камфару...»

Шась... Шась... Зноў ціха шастае цыбуля. Здаецца, недзе далёка-далёка...

«Лігатуру...»

«Даю лігатуру...» — немаведама што стала гаварыць з мужчынамі Верка...

«Тампон... Лігатуру...» — галасы далелі, пасля зусім сціхлі — Верка некуды сышла з гарода...

Доўга было ціха, як цэлую ноч; тады зноў пачало звінець у галаве: дзын... дзын... што ўсё роўна на дрывотні піла. Пілу вынесла з сеначак Верка, дастаўшы з-за шафарні: яны ноччу рэжуць на двары пад варыўнёй дровы: тоўстае сукаватае палена, яловы камель, які яны чуць паднялі ўдваіх на сталюгу. Пад пілу лучаюцца сукі — трэба рэзаць па метцы ад тапара, каб выйшлі роўныя калоды і каб дровы ўлезлі ў печ за засланку,— і тады піла дырчыць і звініць на ўвесь двор. Чуваць недзе аж у вёсцы.

Ціха. У небе над самай варыўнёй вісіць круглы, белы, аж сіні, месяц, сцёрты, як сшараваны пяском,— пайшло на апошнюю квадру.

Адпелі першыя пеўні — няскора будзе яшчэ додніца. Яны з Веркай часта ўставалі зімой першымі пеўнямі, калі яшчэ да вайны Верка рабіла на ферме. Ішлі ў пуню да кароўніка, расчыніўшы насцеж дзверы,— на дварэ было відна ад месяца, траслі каровам струшанку і насілі за драбіны — такая доўгая ноч, з год... Пасля далёка яшчэ да додніцы пускалі кароў да ракі...

Калі адвальваецца калодка, знаць ад месяца на палене, дзе хадзіла піла, прарэзаныя сукі — доўгія, чорныя і крывыя, што баранні рог. На ўвесь двор пахне смалой пілавінне. Яно сыпецца з-пад пілы на ногі — на боты — і абсыпае іх па калені, што снегам. На трэсках на дрывотні знаць ад месяца белы іней — выпаў першую ноч. Восень была сухая і доўгая; папераворвалі бульбу, чакаючы зімы, а марозу яшчэ не было.

Іней ляжыць і зверху на камлі, і, калі ўпіраешся ў яго даланёй, каб не краталася пад пілой сталюга, холадна ў руку...

Верка не заснула з самага вечара, а ён быў звёў вочы і прачнуўся, калі пачуў, што яна апранулася і пайшла з хаты. Схадзіла да каровы ў хлеў — скрыпалі дзверы,— пасля доўга тупала па двары. Прыйшоўшы ў хату, пастаяла ў парозе, паслухала, ці спіць дачка, тады падышла да акна, села ля стала на ўслон і стала глядзець у гарод — у гародзе было відна ад месяца. Ён тады запытаўся, чаму яна не спіць,— яна нічога не сказала, уздыхнула толькі і ўсё глядзела ў гарод. Тады ён устаў, надзеўся. Падышоў, сеў упобачкі на ўслон, і яны ўдваіх глядзелі ў гарод пад раку і маўчалі. У гародзе было відаць белае ад месяца каменне і доўгі чорны плот — цягнуўся далёка на лог — пад раку.

Ён зайшоўся дамоў толькі пераначаваць — у вёсцы стаіць іхні атрад — і заўтра пойдзе пад Камена: пачынаецца блакада... У другой палавіне, дзе спіць на ложку дачка, ляжыць на куфры яго «сэвэтэ» і зялёная, старая сумка з патронамі...

Верка глядзіць цяпер не ў гарод, а на яго, і маўчыць. Святло падае якраз ёй на галаву — яна без хусткі і валасы ў яе ад месяца белыя, што лён. На іх блішчыць ражок алюмініевага белага грэбня... Яна глядзіць на Андрэя, як некалі на хворага, што ўсё адно хоча наглядзецца апошні раз. Яму захацелася пагладзіць яе па белых валасах... Падумаў: калі яны доўга будуць маўчаць, Верка не вытрывае, заплача.

Ён глядзеў спадылба на яе, тады адразу зірнуў на хату — пад самым сталом убачыў белую вузкую паласу ад месяца. На ёй відаць была сукаватая дошка, нож з драўлянымі тронкамі, скінуты са стала, і падагнутыя босыя Верчыны ногі, сівыя ад святла, што ад пылу... Пасля Верка кранула іх з месца, пасунуўшы па падлозе, і схавала пад услон.

Ён пачуў, што яму самому робіцца горача ў грудзях...

— Абуйся,— сказаў ён.— Пойдзем парэжам дровы. Што так глядзіш? Вунь што зрабілі б, каб адразу ўзяліся, як я прыйшоў. Парэжам самыя тоўстыя, з-пад варыўні. Можа, лазню тады імі выпалім, калі будзем варочацца...

— Што б мы зрабі-і-лі...— сказала яна і ўздыхнула: — Варо-очац-ца... Лазню я і сёння яшчэ ўспею выпаліць. Да

додніцы далёка... А додніцай памыешся, ноччу ж вы не пойдзеце з вёскі. Сподняе зменіш. Што так мяняць без лазні — на чорныя плечы.

Верка ішла пасля вуліцай да Балюцінай лазні, сагнуўшыся аж да зямлі, і ён, падымаючы галаву, бачыў ахапак белых яловых дроў у яе на плячах. Ахапак быў вялікі і з'язджаў у Веркі з плеч: яна забрала адразу ўсю пашчапаную калодку, адрэзаную з камля, перавязаўшы новым, яшчэ сівым, пяньковым пастронкам. Яна станавілася ля плота і, паклаўшы дровы на жэрдку, паддавала сама сабе — вышэй. Але дровы ехалі ўніз, і Верка тады згіналася крукам. І нашто ёй было браць адразу гэтулькі — ён бы, Андрэй, схадзіў яшчэ, але Верка такая: «Нечага валакчыся вуліцай поначы лішні раз — людзей будзіць. Цабэркі яшчэ трэба занесці...» — сказала, як адрэзала. Што шкадуе яго ўсё роўна.

Калі яна паварочвае галаву і аглядаецца, відаць тады, як з'ехала ў яе з галавы аж на шыю старая шэрая пяньковая хустка і з-пад яе вылезла на шчаку пасма валасоў. Андрэй думае, што ў яе яшчэ на дрывотні расплялася каса і валіўся з-пад хусткі на трэскі белы алюмініевы ражок грэбня — яна падымала яго з зямлі. Цяпер касу недзе прыціснула на плячах пастронкам.

Верка ідзе наперадзе, ужо аж ля Балюцінай ямы. Цяжка, дык і пайшла, спяшаючы.

Андрэй узяў аж дзве калодкі; сам, выбіраючы па палену і беручы горшыя — у лазні ў печы згараць,— накладаў на пасцілку, якую Верка разаслала на зямлі, загнуўшы на рог — прынесла з ложка, з запечка. У пасцілку можна было чорта забраць... Калі ён узяў пасцілку за рагі, Верка паддала яму на плечы. Пасля ўзяла сама з зямлі, ён і не справіўся згледзець, сваю ношку і пайшла наперадзе адчыняць вароты. Сказала яшчэ яму, каб ступаў памалу і глядзеў пад ногі.

Дровы рэжуцца і праз пасцілку. Андрэй тады адпускае яе за рагі — пасцілка мяккая, едзе між пальцаў — і вязка з дрыўмі ссоўваецца на паясніцу. Дровы рэжуцца яшчэ горш — мусіць, палена павярнулася вострым бокам. Андрэй зноў падцягвае за рагі пасцілку; чуе, як задраўся, сабраўшыся ззаду на спіне, суконны пінжак. Такога пінжака, чорнага, доўгага, з чатырма кішанямі, у іх не было. Яго пакінулі летась увосень партызаны, як спалі ў хаце на падлозе ля куфра, калі ён, Андрэй, быў яшчэ дома, не ў атрадзе. Мусіць, пінжак ляжаў у некага пад га-

лавой, бо як быў складзены ў чатыры столкі, так і астаўся: усталі додніцай партызаны і пайшлі, не вярнуліся.

Пашчапаная елка пахла смалой. Калі Андрэй падцягваў вышэй пасцілку, з-за плячэй церусілася пад ногі дробненькае белае пілавінне.

Ля вуліцы ў Балюцінай яме — нізкім месцы ў гародзе за плотам — на траве было бела ад інею. Ад месяца іней блішчаў, як бітае шкло.

Паліць у лазні яны ішлі да Балюты. Яна жыла блізка, у іхнім канцы. Да вайны, яшчэ калі стаяла за ўчасткам ля Віліі пагранзастава, у Балюты забралі мужыка, і яна жыла адна. Калі прыйшлі немцы і нашы адступалі на Бегамля — ішлі кучкамі, па адным, па два,— у Балюты астаўся ваенны — Рукалееў. Маленькі, чарнявы, ціхі і добры — усягды ўсміхаўся,— ён гаварыў неяк дробненька, што гарохам сыпаў. У вёсцы ён нікому не хацеў надта паказвацца на вочы, поркаўся ўсё ў Балюты на двары ля варыўні — перасыпаў; доўга спачатку хадзіў у ваеннай форме, не баяўся, што яго могуць застаць немцы.

У партызаны Рукалееў пайшоў ужо разам з Андрэем, пражыўшы ў Балюты дзве зімы.

Рукалееў і скідаў у Балюты ў аселіцы пад ракой лазню з адных круглякоў, навазіўшы іх з-пад Курачовых Цянёў з гатовай шліхты, якіх да вайны панастаўляў леспрамгас. Лазню Рукалееў рабіў адзін: сам скабліў дрэва — не прасіў памагаць нікога; сам падымаў наверх круглякі, не даваў Балюце; сам заразаў вуглы ў адну руку.

Сеначкі нават прыкінуў да лазні з танчэйшых круглякоў — не пазіў дрэва, проста слаў белы з імшары з-пад Доўгіх мох, густа, па жмені, і клаў на яго круглякі. Мох тырчаў у сценах каслаўкамі — з сухой травой і журавіннікам...

Лазня была без страхі. Нацягалі толькі на столь на мох тоўста пяску — насілі кошыкамі з гарода — і ўтапталі яго нагамі. Па баках на столі круглякі абмазалі глеем. На лазні адразу пачалі расці лебяда і макрыца — наняслі з пяском; зямля на столі ўлежалася, патрэскалася ад сухаты, і, калі палілі ў лазні, было відаць, як праз шчэлкі ідзе белы дым.

Сеначкі былі без столі і без дзвярэй: Рукалееў збіраўся дарабіць іх, калі ўжо быў у партызанах...

Андрэй убачыў, як Верка павярнула да Балюты ў гарод: скінула ў спрaзе верхнюю жэрдку і пералазіла цераз

плот з дрыўмі на плячах. Пастаяла была пасля, пачакала яго і пайшла гародам, не азіраючыся.

Верка, калі ён сек дровы на дрывотні, хадзіла да Балюты пытацца лазні — доўга драгала ў дзверы, было чуваць аж дома на двары...

Вязка рэзала плячо, і ён чуць пералез цераз плот у спразе ззаду за Веркай...

Есца ў вочы дым, рэжацца пад павечкамі — доўга не хочуць угарацца дровы. Пасля ад агню кладзецца жоўты водсвет на сцены ў сеначках і праз дзверы на стаптаную траву ў аселіцы, далёка, аж пад дарогу да маста. Калі Андрэй ідзе з вядром ад рэчкі — носіць ваду ў кадзь, бачыць, як з лазні падымаецца ўгару роўны слуп белага дыму — няма ветру — і на ім кратаюцца шырокія чырвоныя палосы...

З вёскі прыбеглі аж тры партызаны з аўтаматамі. Пазналі яго, Андрэя; закурыўшы, пасядзелі ў сеначках на парозе...

Ён доўга носіць адным вядром ваду з ракі — аж перавясла рэжа ў пальцы.

Круціцца ў галаве; есца ў вочы ад дыму... Яшчэ ў печы галавешкі — трэба было выкаціць і заліць іх у сеначках, а ён ужо грэе ваду ў кадзі: скора додніца. Выкочвае качаргой — прынесла з дому Верка — чырвонае каменне і кідае ў кадзь, узяўшы з жару драўлянымі кляшчамі — дзвюма яловымі круглымі палкамі, збітымі цвіком. Клешчы гараць сінім агнём, пакуль не апусціш іх у ваду, і ад дыму есца ў вочы...

Ён ніяк не можа іх адплюшчыць... Тады яму хочацца падняць руку і сарваць з вачэй анучу...— нехта іх туга завязаў... Але ён не можа падняць рукі, бо ў клешчах цяжкі кавалак жалеза ад трактара — ад плуга... Плуг даўна валяўся на ферме, пакуль яго не развінцілі і не расцягнулі — хто што. Кавалак крывога чыгуну з дзіркамі, да якога прыкручваўся нарог, нават і не нагрэўся добра ў печы, пачырванеў толькі збоку, хоць ты яго і не нясі ў кадзь — ваду расплёхаеш толькі.

Ён у дзве рукі падымае клешчы спачатку на калена, тады, напяўшыся, даносіць да кадзі і апускае ў ваду. Вада шыпіць, булькае, закіпеўшы; дрыжыць кадзь, ходзячы хадуном, хаця б не лопнулі абручы.

Вар з кадзі пырскае аж на шчокі...

Тады ён, кінуўшы клешчы, закрываецца рукамі... Па-

сля, калі прымае рукі, уваччу робіцца бела — якраз угары над ім...

Ён здагадаўся, што ляжыць на ложку і ўгары белая столь. Толькі дома ў запечку не такая белая столь, і дома над ложкам у галовах бэлька...

Ён тады паспрабаваў узяцца рукамі збоку за ложак — пачуў, што варушыць толькі правай рукой, левая як усё адно сціснута ў абцугі, каб і хацеў — не кранеш... І ніяк не павернеш набок галавы, каб паглядзець: не дае ў шыі...

Узяўшыся правай рукой за халоднае жалеза — ложак дома драўляны — ён напяўся: хацеў падняцца. Пачуў адразу, як разанула спераду ў грудзях і кальнула вострань-ка, што іголкай, у патыліцу... Вывалілася з рукі халоднае жалеза, і ён паляцеў немаведама куды, не могучы ні за што зачапіцца... Пасля ў яго зноў пачала рабіцца вялікая галава і сам ён увесь пачаў расплывацца, як раставаць у чым гарачым... Столь угары зрабілася чорная, што ў лазні над палком... На твар — на вусны — яму пырснулі гарачай, што вар, вады, і недзе блізка загаварыла Верка:

— Крывяточыць... У аперацыйную...

Дыхнула ў твар, што гарачым ветрам. Верка, стоячы ў лазні ў парозе ля печы, лінула з вядра вады на каменне аж да самай сцяны... Каменне трашчыць, сакоча, аж падскоквае на печы; шыпіць, пеніцца, бярэцца бурбалкамі па каменні вада, што ў лужыне ў вялікі дождж, і валіць угару сівая пара, падымае, здаецца, столь... З палка відаць, як нагрэлася на печы каменне: чырвонае аж пад верхам.

Палок адразу робіцца сухі і гарачы, не даткнуцца, і Андрэй палівае яго халоднай вадой з вядра — вядро стаіць збоку на палку: бярэ прыгаршчамі ваду і плёхае на дошкі. Нагрэўся размяклы ў цэбры венік, падсох у духу і стаў шорсткі, як хвашчанка. Запах маладой бярозай, што лес вясной.

Сушыць, аж апякае горла,— не дыхнуць ротам, і смыліць скура на плячах і на спіне. Ён не выцерпеў, лёг на палку: ніжэй. Падумаў, што дух яшчэ пахне дымам: не ўсе, мусіць, заліў галавешкі, а можа, дзе затлелася сцяна. Ён крыкнуў Верцы, каб яна лінула вады каля сцен...

Гарачае лісце на веніку, не кранi спіну, гарачая ручка — награецца, і Андрэй памінутна мачае яе ў халодную ваду. Здаецца, адзін ратунак — вядро з халоднай вадой. Ён прынёс ваду з ракі і паставіў на палок. Белае вядро, з якім Верка хадзіла даіць карову, нагрэлася ад духу



На семінары творчых работнікаў. Злева направа:
Уладзімір Юрэвіч, Васіль Вітка, Іван Пташнікаў,
Барыс Сачанка, Ніл Гілевіч,
Першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў,
кампазітар Анатоль Багатыроў.
*Нарач, 1972 г.*

зверху — не даткніся: ён чуе рукой, калі чэрпае ваду, каб спаласнуць твар. І вада ў вядры мякчэе, не чуваць нават, што халодная,— злецілася адразу, і гараць, гараць агнём плечы і грудзі, здаецца — сячэш іх венікам аж да касцей. Займае дыхаць, адразу морышся, як немаведама за якой цяжкой работай...

Жах... Жах... Чуць падымаеш руку з венікам...

Ён просіць тады Верку, каб яна адаткнула акно: выцягнула з дзіркі ў сцяне пасцілку, у якой ён прыносіў дровы, бо ён не дасць рады — уцячэ з палка. А не — то хай піхне дзверы ў сеначкі і сама выйдзе на двор дыхне, як толькі трывае, і, божа барані, не дае больш духу.

Але Верка не слухае: не адтыкае акна і не адчыняе дзвярэй. Ён бачыць, як яна ходзіць па лазні, нават не сагнецца — Верка не баіцца духу, перасядзела б на палку любога мужчыну з вёскі. Падышла ў куток да дзвярэй, дзе на калодачцы стаяла газоўка, і саставіла яе на зямлю — газоўка ў духу можа патухнуць, аж хліпае...

Праз пару яму не відаць газоўкі — у кутку толькі дрыжыць цьмяны жоўты круг, як дзе далёка месяц, і Андрэй ледзь пазнае Верку: калышацца тонкая і высокая, аж пад столь. Верка не распраналася, у сукенцы. Старая чорная сукенка змокла на ёй, абляпіла ўсю і бліпчыць дробнымі кропелькамі, што пасыпаная інеем.

— Нічога я не буду расчыняць... Кладзіся на жывот... Зусім знядужаў ужо, як стары...— Верка падыходзіць да палка і бярэ ў яго, Андрэя, з рук венік.— Галаву аблі вадой і ўніз спусці, калі так ужо млосна...

Яна мочыць спачатку венік у кадзі, нясе яго на печ, на каменне — каменне адразу шыпіць і шваргоча,— пасля варочаецца да палка і пачынае хвастаць яго, Андрэя. Хвошча спачатку рэдзенька, пачынаючы з плячэй, пасля сячэ па ўсім целе аж да пят: па спіне, па сцегняках, па лытках — махае і махае венікам, не шкадуючы, і калі Андрэй паварочвае галаву — бачыць, як яна трымае венік адною рукой перад сабой, усё роўна як трапло, калі трэпле лён... Цела гарыць, як пасыпанае прыскам, і Андрэй пачынае кратацца і крактаць. Тады Верка нагінае вядро і ліе яму на галаву ваду; бярэ венік у дзве рукі і пачынае церці спіну. Ён звесіў галаву з палка — змогся; не кратае ні рукамі, ні нагамі; чуе толькі, як скрыпіць венік на плячах і на спіне сухім ядраным скрыпам, што сані па цвёрдым мёрзлым снезе...

Самлела ўсё цела... Не хацелася злазіць з палка, не

хацелася ісці з дому некуды ў белы свет, адкуль ці вернешся, ці не. Змарыў сон, і калі Верка вадзіла венікам па спіне, Андрэй чуў, што яна можа сцягнуць яго з палка дужымі рукамі.

Калі Верка адышлася мачаць у кадзь венік, ён убачыў, як у яе прыліп да калень падол сукенкі і на яго набралася мокрага бярозавага шырокага лісту ад веніка. Яму раптам мігнулася ў вачах, як яны раз, перад вайной яшчэ, хадзілі дажджом у бярэзнік пад Жоглаўку з мехам у рыжыкі... Тады ў Веркі ад расы быў мокры падол, і на яго напаліпала бярозавага лісця і смаўжоў...

Пасля ёп падумаў раптам, як апомніўшыся, што ў вёсцы ж не мыюцца мужчыны з бабамі... Каб хто згледзеў... Бабы на языкі як падхапілі б...

Верка апаласкала яму спіну вадой з вядра — лінула аднекуль зверху — ён аж падскочыў. Тады яму раптам стала смешна, сам не ведаў чаму. Можа, што на яго глядзела, стоячы, Верка: уставай, адхвастала, часу няма ляжаць. Калі яна падышла бліжэй і кранула рукой за плячо, у яго прабег халадок па спіне, як мурашкі...

— Уставай, пайдзём... Я пасля прыйду, калі вы пойдзеце... Дзяўчыну памыю. Прыйду, паплёхаюся...— сказала яна, выціраючыся рукамі.

Ён тады адразу сеў на палку́ і сказаў, каб яна прынесла яму з сенцаў зменку — ляжыць у кутку на дрывах. Падумаў, што ўсё праз Рукалеева: не захацеў ісці мыцца. Пайшоў бы той — не асталася б Верка... Падумаў зноў, што нікуды не хочацца ісці пасля лазні... Верка стаяла ля яго і не краталася, каб пайсці ў сеначкі. Глядзела недзе на сябе, на мокрую сукенку.

Ён тады злез з палка, ловячы нагамі падчосаныя кругלякі ў падлозе, каб не спатыкнуцца, і, узяўшы на рукі, падняў Верку на палок. Пачуў, як яе мокрая, уся ў бярозавым лісці сукенка прыліпае яму да грудзей. Падумаў яшчэ, што ў лазні аселі дзверы, упіраюцца ў зямлю, і калі хто будзе ісці — не скора адчыніць...

Калі ён пасля адчыніў сам дзверы ў сеначкі, па двары была ўжо додніца. Цьмяна свяціў белы месяц над вёскай — над тым канцом.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Запахла свежа-свежа — інеем з аселіцы ля лазні, і ён адплюшчыў вочы...

Ляжаў, сціснуты, і баяўся крануцца. Высака ўгары

над столлю гарэла лямпачка — не выключылі, і ён не мог глядзець: рэзалася ў вачах.

Віднелася. У акне, якраз проці яго, былі відаць сінія шыбы.

## 8

Яны адразу падышлі да яго. Калі яны яшчэ былі ў парозе, ён убачыў, што ідуць да яго ложка. Ішлі з подбегам — абое ў белых халатах, з белымі каптурамі на галаве. Наперадзе махала рукамі невысокая жанчына, як усё роўна схаваная з галавой пад каптур,— мусіць, сястра. Яна вяла мужчыну — доктара, падумаў Андрэй. Доктар быў высокі, як Унук, і з плячэй нават быў падобны на таго. Ішоў, нагнуўшыся ўперад,— глядзеў на Андрэя з парога, упіўшыся вачыма. Падышоўшы да ложка, яны абое сталі ў нагах і зноў глядзелі на яго, усё роўна як пазнавалі.

— Пульс...— спытаўся высокі, падобны на Унука, доктар.

— ...

— Угу.

Андрэй не пачуў, што сказала сястра ў вялікім каптуры.

— Тэмпература?

Андрэй зноў не пачуў, што гаварыла яна.

— Павесіць таблічку...— загадаў ёй высокі, падобны на Унука, доктар і падышоў да Андрэя ў галовы. Андрэй бачыў цяпер толькі яго белы халат — халат закрываў акно і сястру ў вялікім каптуры.

— Мінутачку...— сказаў доктар нейкім другім голасам, не такім, якім гаварыў да сястры, блізка, над самым вухам, мусіць, нагнуўшыся. Пасля пальцамі пачаў расхінаць павечкі, шырака, як раздзіраць — угары над галавой закалыхалася белая столь, пайшла кругамі. Тады ўзяўся пальцамі за нос, халоднымі, як з двара, неяк усёй жменяй, і адразу адпусціў. Андрэй пачуў, як у доктара ад рук запахла ўсё роўна што белым сухім карандашом з драўлянай маленькай круглай жоўтай пушачкі. Карандаш ляжаў дома ў куфры ў прыскрынку — усю вайну, цяпер недзе яшчэ ляжыць унізе ў шафе. Яго даставалі нюхаць, калі дома хто хварэў, прастыўшы. Калі ў Веркі балела галава, яна нават націрала лоб белым карандашом з пушачкі. Карандаш усыхаўся, але востра пахнуў, і ад яго лёгка было

дыхаць. Карандашом яшчэ ўсягды пахлі ніткі і грошы, калі іх даставалі з прыскрынка,— ляжалі разам.

— Гарыць? — спытаўся доктар, адступіўшыся і паказваючы на плячо.

Андрэй пачуў: нічога не можа сказаць, горача стала ў роце, як ад агню. Язык зрабіўся сухі і горкі, што палын.

— Не трэба... Пацярпі...— Пасля доктар загаварыў зноў, змяніўшы голас: — Будзем жыць... Раз пражыў двое сутак у нас, то... будзеш жыць...— ён зноў стаў у яго ў нагах. Падсунуў вышэй з ілба на галаве каптур і зрабіўся зусім не падобны на Унука. Быў за яго маладзей, і ў яго былі русыя густыя валасы... Побач з ім зноў стала сястра — прынясла «таблічку» і вешала ў нагах зверху на брыж — бразгала бляхай.

— Дайце мне ваш пульс...— доктар зноў вярнуўся да Андрэя ў галовы, асцярожна падняў руку і доўга трымаў, сціснуўшы ў пальцах. Павярнуўся і глядзеў недзе пад сябе, у падлогу. Тады асцярожна паклаў руку на ложак, выпрастаў пальцы і доўга гладзіў, ціснучы зверху... Падняў бровы, і белы каптур палез у яго яшчэ вышэй, на макаўку.

Да яго падышла сястра, стала ззаду. З-за доктара быў відаць толькі белы высокі каптур. Андрэй згледзеў у яе спераду на каптуры вышыты чырвонымі ніткамі маленькі крыжык; у доктара крыжыка не было.

Пасля доктар нешта ціхенька сказаў сястры; яна адхінулася, і ён хуценька перайшоў на другі бок ложка і асцярожна ўзяўся за левую ўбінтаваную руку — за пальцы. Андрэя як кальнула чым у плячо, і ён таргануўся па ложку. Забразджэла ў нагах «таблічка».

— Добра...— доктар злазіў у кішэні ў халат абедзвюма рукамі, але нічога не дастаў. Пастаяў, гледзячы цяпер усё на ўбінтаваную руку, і загадаў:

— Пакратайце пальцамі... Не-не, на левай...— паказаў ён рукой.

Андрэй пакратаў пальцамі.

— Вы добра чуеце, што кратаеце пальцамі? — спытаўся доктар пасля, як не верачы яму.

— Добра...— Андрэй застагнаў. Запякло ў плячо і ў руку, нібы яе апусцілі ў вар.

Доктар павярнуўся і паглядзеў на сястру.

— Капельніцу...— сказаў ён.

Андрэй зноў не пачуў, што гаварыла сястра,— гаварыць, як шэпча.

Ад ложка доктар пайшоў хутка, шырокім крокам, як

спяшаўся куды, і ўсё нешта загадваў сястры — яна ішла за ім з подбегам. На парозе ён азірнуўся назад — з-за пляча.

Капельніца стаяла ля самага ложка ў нагах — паставіла сястра — якраз перад вачыма. На высокай круглай сасновай вышараванай рукамі палцы, як на грабільне, візела, павешаная ўверх дном, доўгая бутэлька і бліпічала са дна. Бутэлька аж да горла была поўная крыві, як усё роўна соку. Кроў, здалося Андрэю, недзе халодная-халодная, можа, таму, што запацела бутэлька.

Ад бутэлькі да невялічкай шкляначкі цягнулася жаўтаватая гумовая трубачка, перацiснутая як усё роўна тупымі пожніцамі, бліскучымі, з дзвюма вялікімі дзіркамі для пальцаў. Шкляначка была чыстая, бліпічала ад акна, і на яе не было як глядзець.

Прыплюшчыўшыся, Андрэй бачыў, як зверху, з перацiснутай пожніцамі жаўтаватай трубкі, капае ў вузенькую шкляначку кроў: кап, кап — па маленькай кропельцы. Усё роўна як вясной раніцай са страхі капеж, калі пачынае раставаць снег і на яго свеціць, узышоўшы, здалёку сонца. Кроплі тады ля самай страхі чырванеюць, як усё адно наліваюцца чым, адрываюцца і, чырвоныя, падаюць уніз...

Калолася ў здаровую руку зверху ля локця іголка, нібы ён, Андрэй, паклаў руку дома на ложку на свежую, добра не засланую салому, прынесеную з хлева. Цвёрдая жытняя саломіна вылезла з-пад пасцілкі...

Андрэй памалу падняў руку — іголкі ў руцэ зусім не відаць: прыклеена зверху пластырам, беленькім, вузенькім, што кавалачкам добрага кужэльнага палатна. Сястра ніяк не магла знайсці вену — калупалася ў руцэ.

Ён падумаў, што рука ў яго белая, як папера, і жоўтыя пальцы, па самыя костачкі; недзе і сам ён увесь белы, аж страх на яго глядзець...

Закруцілася ў галаве, ён асцярожна апусціў руку — паклаў побач.

Суха было ў роце, хацелася піць; здаецца, глынуць бы чаго, хоць бы з макавае зерне. Гарыць усё ўсярэдзіне, гарыць плячо і пачынаюць балець грудзі — недзе глыбака, не крануцца. Пахне ёдам і яшчэ нечым вострым і сухім — аж пяршыць у горле. Тады пачынае зноў круціцца ў галаве і падступае блага.

Кап... Кап...

Плюшчацца вочы, і ён бачыць недзе далёка, як згле-

дзець, чырвоныя кропелькі — расу... Яны падаюць на зямлю з высокай, нагнутай мятліцы — махні толькі касой. Раса халодная, як лёд, і ад яе холадна ў босыя ногі...

Кап... Кап... Раса збіраецца і капае з касы — з носа — буйнымі кроплямі, цячэ цененькімі цурочкамі пад ногі — кропля за кропляй,— калі ён падымае вастрыць касу...

— Пі-і-іць...

Яго ніхто не чуе.

У палаце ён адзін. Па баках, злева — ля сцяны, і справа — у кутку ля акна — два парожнія ложкі, засцеленыя белымі прастынямі. Чаму яго паклалі пасярод?

— Пі-ць...

Здалося, дома ў парозе ля печы бразнула аб вядро конаўка — яе павесіла на дрот Верка — і з конаўкі капае ў вядро на дно вада.

Адчыніліся дзверы — да яго ішла сястра.

Кап... Кап...

У акне чыстыя шыбы, што шклянка ў капельніцы. За шыбамі — кавалак сіняга неба, адмераны на высокае вузкае акно. Сонца не відаць, знаць толькі, што яно ўзышло і свеціць на дварэ з-за страхі на край сцяны. Сцяна жоўтая, як ад агню.

У самым акне чорны востры рагач — сук ад тофеля. Тофель пачаў пукацца, пад вуглом цёпла — павылазіла жоўтае востранькае лісце і блішчыць ад смалы на сонцы. Ля парожняга ложка, мусіць, не зачынена акно: пахне з двара свежай, халоднай з начы зямлёй...

Свежай зямлёй пачынае дома пахнуць з гародчыка рана, калі яшчэ толькі асядзе снег і пад прызбай ля хлева і ля тыну ад вуліцы пакажацца сівая пасля зімы леташняя трава — кавалак абчарсцвелай на сонцы мяжы. У адлігі і ў паводку, калі расквасіць дарогу і вуліцай паплыве рака, не залезці ў гародчык з рыдлёўкай, каб пракапаць у снезе канаву. Тады на ўвесь двор пахне кіслы ля вуглоў ля хлева снег, і зямля пад ім робіцца гразкая і ліпкая, што ўсё роўна размешаная, як цеста, і пахне гноем. І вада, якую гоніць ад лесу дарогай, дзе за зімуператупала немаведама колькі коней, патыхае кіслёй.

Зямля пахне зямлёй, калі яе схопіць адразу сонца, калі вясна ідзе без слаты... Днём тады па вуліцы і па двары бягуць, шваргочучы, ручаі — вузенькія, маленькія, цераз іх, не баючыся, ступаюць куры; нанач яшчэ больш апагоджваецца, робіцца зусім чыстае неба; на захадзе, дзе хавалася сонца, гарыць чырвоная, як жар, зара, шырокая,

на ўсю вёску. Пасля неба гусцее, робіцца цёмнае, як зімой, і ў ім загараюцца зоркі. У вёсцы з комінаў высака ўгару падымаюцца слупамі дымы — пахне прыгарэлай бульбай і альховымі дрыўмі,— і ціха снуецца на Выганчыку па снезе туман, пойдзе ў вёску, блізка, аж на аселіцы. Цісне ноччу мароз; хрумшчыць пад нагамі лёд — вада ў ямах вымерзла аж у дно; скрыпіць снег — узяўся шэранню — ядрана, дзяркатa, не ступіць нагой. Скачуць нават зоркі, як зімой, і шчыпле за шчокі і за вушы; бялеюць ад інею бровы і каўнер у кажусе. Дарога адразу бярэцца лёдам: яе сякуць коні вострымі гака́мі. Стукаюць сані палазамі, завальваючыся ў цвёрдыя, як камень, глыбокія з зімы калдобіны, па якіх днём бегла да ракі вада. Высыпае яшчэ на зямлю іней, мяккі, дробненькі, і на дарозе тады адразу знаць растрэсенае днём сена — робіцца белае. Грукаюць ноччу ў хлеве, як зімой у калядніцу, драбінамі каровы; мычаць адсаджаныя цяляты, што паявіліся з тыдзень,— просяцца пад цёплае вымя і мяккі слізкі мацерын язык.

Додніцай бывае ціха, і чуваць, як пад Жоглаўкай балбочуць цецерукі. Да ракі ідзе скаціна — пад нагамі аж звініць, разлятаючыся, свежы нядужы лёд. Скаціна чуе зямлю і нюхае дарогай чорную, апырсканую вадой груду.

Усходам сонца прылятаюць пад хату на тофель шпакі: адзін, другі, трэці — і падаюць голас... Ядрана, смела, хлопаючы крыллем,— аж станеш і глядзіш на іх. Пасля доўга сядзяць, павярнуўшыся галовамі на двор, і глядзяць на сонца — яно, чырвонае і халоднае, падымаецца з-за сіняга лесу пад Жоглаўкай, як з дыму,— тады скачуць на тофелі, па суках ля старой, збітай яшчэ ў вайну з дошак, шпакоўніцы. Пачакаўшы, ляцяць за раку ў альшэўнік на балота і не варочаюцца цэлы дзень. Шпакі паявіліся рана, а можа, гэтыя зусім не адляталі: шпакоў бачылі на крыніцы за Жоглаўкай зімой, калі звозілі з балота стагі.

Яшчэ не грэе сонца, а ўжо капае са стрэх: б'ецца, як ценкае шкло, у сухіх калдобах белы лядок — адвальваецца сам ад беражніцы і рассыпаецца на дробненькія вострыя, абцярушаныя спаднізу інеем, што мукой, друзалачкі.

Чорны, з саломай і трасочнікам ля хлева, ён трашчыць і лопаецца — палосамі, калі на яго ступіш; з-пад ног пырскае высака аж на рукі халодная жоўтая вада.

Скрыпіць асвер; пасля начы здаецца лёгкі, як высах, і вядро само ляціць у студню; скрыпяць дробненька вароты, адчыняюцца аж да частаколу ў гародчыку; моцна браз-

гае ў сенцах у дзвярах клямка, стукаючыся аб сцяну; кудакчуць на ўсё горла падцыглястыя лёгкія куры, высыпаўшы з хлева: клююць ля сенячак пад нагамі жвір; здаецца, пашырэў пасля ўчарашняга двор, пасвяжэла знадворку хата, пабольшала — за дзень асеў снег.

Лёгка дыхаць, і чуваць, як з гародчыка з-пад прызбы запахла зямля, пацямнела, змокшы зверху,— адтала; пахла, як ускапаная на граду, калі Верка збіраецца сеяць расаду; пахне з хлева ўзбітае сена — у каровы з-за драбіны, як летам з Верхвозера; пахне з коміна дымам ад сухіх альховых дроў і свежымі ячнымі блінамі — чуваць аж з двара, як Верка ў хаце ля прыпечка бразгае скаварадой: адчынены дзверы ў сенцах.

Ад гарачых бліноў горача ў рукі. Андрэй сядзіць на маленькім зэдлічку ля ўслона. Услон Верка прынясла з другой палавіны ад стала, паставіла ля печы, накрыўшы абрусам,— перакінула цераз верх, склаўшы ў дзве столкі. На канцы ўслона ля самай печы пад рукамі ў Веркі стаіць маленькая белая дзежачка з цестам — у ёй учыняюць бліны. Верка памінутна бярэ дзежачку ў рукі, падносіць да прыпечка і вялікай драўлянай лыжкай сіляе рашчыну.

Рашчына шыпіць на скаварадзе пад лыжкай на ўсю хату. Ад агню з печы Верцы горача ў рукі — пачырванелі па локці — і слепіць вочы: яна прыплюшчылася і, не зміргнуўшы, глядзіць у печ, каб не падгарэў ад агню блін.

Бліноў повен услон. Ляжаць, стынуць, ад іх ідзе пара. Калі яны астынуць, Верка тады кідае печ і ідзе складаць бліны «ў стог».

Скрыпнулі дзверы. У хату зайшоў, павітаўшыся, Дурас; гнаў коней да ракі — паіць: Дурас у калгасе за конюха. Шырокі ў плячах, з круглым тварам і з маленькімі рыжымі вусікамі пад носам, падпяразаны па суконным кароткім павалаканцы новым белым пяньковым путам. Забегся прыкурыць. Верка выгарнула качаргой на прыпечак вуголле. Дурас, не баючыся, бярэ ў голую руку чырвоны вугаль, круціць яго па далані — вугаль адразу цямнее,— тады, ушчаміўшы яго ў пальцы, прыкурвае папяросу. У хаце чуваць дым ад махоркі. Відаць пасля, як ён цягнецца адразу ў печ у чалеснік.

Калі ў Дураса свабодныя рукі — кінуў вугаль на прыпечак,— Верка здымае з вялікай скаварады нажом гарачы ячны блін, кладзе на яго лыжку масла.

— Давай рукі...— падае яна блін Дурасу.— Пагрэйся. Што тая папяроса на холадзе...

Дурас топчацца ў парсзе, тады дастае з рота папяросу, кладзе на лаўку пад суднік і адразу здымае з галавы шапку. На галаве ў яго блішчаць сівыя валасы, абстрыжаныя пад машынку.

— А бадай цябе... Суседка... Ніколі не думаў. Каб ведаў — не забягаўся б. Што ты...

Дурас бярэ блін дзвюма рукамі, круціць у далонях, як гарачы вугаль, задраўшы бакі, каб не сцякло масла, і пачынае есці — кусае з краю, спяшаючыся: горача. Есць і, нагнуўшыся, глядзіць у акно за плот да ракі — на коней.

— Ну-у... Дзякуй... Сагрэўся, чэснае слова...— Дурас надзяе шапку — хавае кароткія сівыя валасы — і адчыняе дзверы. Тады варочаецца да судніка і бярэ з лаўкі папяросу — забыўся.

Чуваць яшчэ, як ён гаворыць у сенцах на ўвесь голас: хваліць.

Андрэй усміхаецца, глядзіць на Верку і мажа гарачы блін маслам — бярэ масла лыжкай са сподачка. Блін гладкі, аж блішчыць, зверху ў маленькіх дзірачках ад соды, і пахне пірагом на ўсю хату. Андрэй бярэ яго халоднымі з двара рукамі — грэе рукі, як і Дурас,— адрывае прыпалены зверху, у кропачкі, як пасыпаны макам, край і нясе ў рот, падставіўшы падніз даланю, каб не капнула на грудзі масла. Горача ў пальцы на руцэ, горача ад бліна ў роце... Горача ўсяму ад печы — угарэліся дровы, і полымя аж у чалесніку ліжа сажу. Высака ў коміне — відаць з зэдліка — загарэлася сажа: скача агонь дзвюма кучкамі, рассыпаецца, і зверху на прыпечак падаюць іскры. Андрэй хоча сказаць Верцы, каб яна змяла мокрым венікам сажу з чалесніка і адсунула качаргой дровы ў печы ў кут, і не можа павярнуць языком. Пасля бачыць, як у дзверцах ад юшкі блішчыць агонь — дзверцы добра не зачыняюцца — і пырскаюць востранькія, што іголка, іскры. Сажа даўно ўжо гарыць у коміне. Трэба выбегчы паглядзець на двор і злазіць на гару абмацаць комін, але яго ўсяго сцяла сухая гарачыня... Уваччу скачуць гарачыя іскры і колюць недзе глыбака, дастаючы аж у патыліцу. Як усё роўна развалілася надвае хата і Верка з белай дзежачкай у руках стаіць далёка, аж на двары ля студні... Ён, Андрэй, астаўся адзін ля шырокага услона, накрытага ў дзве столкі белым абрусам...

Пасля яго адпусціла, і ён зноў згледзеў у нагах вузкае

і высокае акно. Ляжаў, адплюшчыўшы вочы і не могучы крануць здаровай рукой — у ёй была іголка. Ляжаў і думаў, што бачыў Дураса, як жывога... А яго ж няма, забіў конь адразу пасля вайны — трафейны Пярун, маленькі, чорны, дужы і злосны, як звер: ударыў дзвюма нагамі ў жывот...

У акне зноў тырчаў чорны рагач з пупышкамі і жаўцелася ад сонца сцяна на дварэ. На сцяне былі знаць бурыя звілістыя пісягі — цякло зверху — і чорная саржавелая бляшаная труба — крывая, выгнутая. Над ёй ля самай страхі стаяла як усё роўна шырокае бляшанае вядро. Уверсе над трубой на страсе цямнеў кавалак абгародкі — у дзве пярэчкі. Крывыя, пагнутыя жалезныя пруткі былі падобны на расцягнутую старую вяроўку. Верхняя пярэчка ля бляшанага вядра была зламаная, і са страхі ўніз звесіўся жалезны пруток.

Калі Андрэй адплюшчваў вочы, бачыў цяпер толькі жалезны пруток ад пярэчкі; прамы, з загнутым канцом і жоўты ад іржы, ён, здаецца, лез у акно, дастаючы да шыбы...

Рабілася зноў блага і пачынала круціцца ў галаве... Ён думаў, што не вытрывае... Каб, здаецца, хоць не стаяла ў вачах паламаная пярэчка і жоўты пруток. Лягчэй было б...

Жалезны пруток расплываўся разам з пярэчкай і хаваўся з воч... Тады над страхой у акне было відаць толькі неба — чыстае і далёкае. Ніколі ён яшчэ не бачыў, каб так далёка было неба... Ля самай страхі яно жаўтавае, як абпаленае, недзе блізка свяціла сонца, а ўгары, у верхніх шыбах,— з блакітам, светлае, аж белае, як летам раніцай у касьбу.

Раніцай у пагоду беглі з вёскі грэбляй людзі разбіваць сена на лог пад Луськае. Верка, Балюта, Ганька, Змітрок Юбіцкі, што цяпер у Мсціжах за брыгадзіра, з жонкай, Тумаш з Тумашыхай, якія жылі праз вуліцу ля Юбіцкага. Андрэй чакаў Верку на лагу, накасіўшыся ад самай доднiцы, мокры па калені ад расы, увесь у моху і наліплым белым насенні ад мятліцы. Яны станавіліся з Веркай побач на пакосах і ішлі ад дарогі аж да кустоў да рэчкі. Ён трымаў у руках касільно касой уверх; каса блішчала і сцёбала сонцам па вачах, як белым ручніком з прэнзлямі, калі ён махаў касільном, раскідаючы па скошаным калючым лагу белую доўгую мятліцу і густую, як мох на балоце, белую дзяцельніцу. Верка ўзяла граблі ўверх зубамі і,

калі пачынае махаць, чапляе на плячах хустку. Тады яна вешае хустку на куст — кідае здалёку і лёгка ідзе наперадзе, махаючы грабільном і пазіраючы на яго, Андрэя, спадылба. Пасля пачынае гаварыць не сціхаючы, пакуль не даходзіць да рэчкі і не хаваецца з граблямі за кустом.

На лагу бела ад хустак, гамоняць бабы; у лагчыне за дарогай — ля саду — звіняць яшчэ косы і крычаць мужчыны: «Гэ-гэй!..» На грэблі тарахцяць калёсы — нехта едзе з вёскі, паганяючы каня...

Ціха, без ветру; пачынае грэць у плечы сонца, паказаўшыся з-за саду, і тады чуваць, як робіцца млосна ўсяму — ныюць натруджаныя за раніцу на мурагу рукі і хочацца піць. Хочацца сваёй вады — дома са студні. Халоднай, каб аж у галаву калола.

Ля ракі ў густым высокім альшэўніку цень, сыра, і пахне зрэзаны ўчора касой кмін. Андрэй нагінаецца з берага і дастае з ракі жменяй вады — пад рукой у рацэ разбягаецца ў бакі рыба — сяляўка. Вада цёплая, пахне балотам, Андрэй толькі палошча ў роце.

На беразе мокры з начы альшэўнік блішчыць на сонцы. Кранеш плячом — з лісцЯ пырскае на грудзі і на рукі халодная, густая раса, белая на сонцы, як пабітае дробна шкло.

Яшчэ горш хочацца піць...

Ад ракі трэба ісці пад сонца. Яно б'е ў вочы, не даючы глядзець; павернеш галаву — доўга яшчэ ўсюды цёмна: і на скошаным белым лагу, і на балоце за садам, дзе чуваць мужчыны...

З густога пакоса пырскаюць конікі... На касільно наваліпала вузенькага доўгага лісця — чырвонага дзікага шчаўя, высака, аж ля пальца, па касільне бегаюць, як шалёныя, мурашкі. Жоўтыя на сонцы, яны мітусяцца на зямлі на чорных, абрэзаных касой курганах — нясуць немаведама куды перад сабой доўгія, большыя за сябе, белыя яйкі...

Ён ступае шырэй — абыходзіць курганок з мурашкамі.

Пахне з-пад ног сырой ускапанай зямлёй — торфам, пахне крынічай прыжоўклая спаднізу густая трава; пахнуць канюшына і кмін; здалёку з-за саду патыхае вільготным полем — сохне на жыце раса.

Ад сонца ўсюды бела: і лог, і дарога, і поле, і людзі на лагу, здаецца, белыя; на дарозе, што падымаецца з грэблі ад маста на гару да могілак, стаіць белы пыл —

за пагоду высах пясок, зрабіўся, як мука; у пыле відаць белыя шыны на колах — на іх скача сонца, што на касе. І сонца само, здаецца, белае, і неба ад яго белае, як папера; калі паварачваешся да ракі, здаецца — і альшэўнік увесь белы. Увачавідкі вяне трава, знаць усюды на лагу вобаратнік — ляжыць пакручаны, белы, усё роўна як перавярнуўся, каб быць да сонца ніцым бокам, каб не так пякло.

Горача ісці пад сонца; чуваць, як на лбе выступае пот. Ліпне да плячэй кашуля; горача ў шчокі, як ад агню; гарачае ў руках касільна, нагрэлася — не ўзяцца; горача ўсяму і зноў хочацца піць. Скарэй бы завярнуцца да ракі: на бугры ля дарогі, здаецца, сохнеш, як сівец; хутчэй бы зачэрпнуць жменяй хоць цёплай вады...

Верка завярнулася назад, зайшла за кусты — ідзе пакосам, як з подбегам; з-за кустоў відаць толькі белая рашотка ад грабель: махаецца ўніз-уверх, як павешаная на суку.

Хочацца піць... Здаецца, не дай яму вады — абсунецца на зямлю, што мех. Не глыне — згарыць увесь на вугаль...

— Ва-ады... Піць...— ён просіць на ўсю палату, але яго ніхто не чуе. Каб можна было павярнуць галаву набок, ён крыкнуў бы ў дзверы... Пачулі б...

Ён маўчыць, не можа больш крычаць.

За дзвярыма ціха, толькі чуваць, як недзе далёка тупаюць нагамі.

Кап... Кап... Капае ў капельніцы ў шкляначку кроў, і ад таго яшчэ больш хочацца піць. Высахлі вусны, ніяк іх не змочыш языком...

Ён глядзіць у акно на белую ад сонца сцяну. Каб хаця не тырчаў адламаны пруток ад пярэчкі. Аж вочы баляць...

Ён доўга ляжыць, гледзячы ў акно,— у верхнія шыбы на белае ад сонца неба, каб не бачыць зламанай пярэчкі. Пасля ловіць сябе на тым, што думае пра людзей, якіх ужо няма ў вёсцы. Ні Веркі, ні Тумаша з Тумашыхай... Многа людзей няма ўжо ў вёсцы, каго ён помніць... Тумаш з Тумашыхай жылі па гадоў дзевяноста, Верка добра знала, каму колькі было. Жылі адны, у новай сыновай хаце па нямецкі вугал, што стаяла ў садзе ля вуліцы. Самі глядзелі за ўсім, ходзячы кожны раз удваёчках. Недзе летась пад восень памерла Тумашыха — сівенькая была зусім і сухенькая. Прыйшла з двара, села на ўслон ля стала, прывалілася да сцяны, і Тумаш яе ўжо не да-

клікаўся. Праз тыдзень памёр і Тумаш. Во як у прыродзе ўстроена: увесь час разам, і на той свет пайшлі разам. Не захацеў чалавек жыць адзін...

Ён падумаў неяк адразу, што і яму, відаць, гэтак прыйдзецца... Не спужаўся і не ўздрыгнуў... У вайну быў пасечаны ўвесь на рэшата, і цяпер собіла... Праўду казаў Падбярэцкі, што ў такога звера трэба страляць адзін раз... Калі і выжывеш, то... Паламаны скабы і крапуты лёгкія... З парванымі лёгкімі многа не нахлінаеш... Які ўжо з яго жылец. Не жыць, відаць, яму... А калі і выцыўкае, то не хочацца жыць у вёсцы...

Нехта яму гаварыў, калі хавалі Верку, што з год яму будзе цяжка, з год толькі будзе помніць, а тады ўсё забудзецца... Ён лэвіў цяпер сябе на тым, што першыя дні яшчэ мог цярпець, а пасля сцінала ўсяго і падкошваліся ногі: ці ён ступіць у хаце, ці на двары — усё перад вачыма. Далей — горай. Астанецца жыць — возьме з сабой дачку і з'едзе. Свет вялікі, на людзях забудзешся. Пасля падумаў, што з вёскі можна збегчы, а ад сябе не ўцячэш. Дачка вунь як падобная на Верку. Уся. І валасы светлыя, і твар такі ж даўгаваты, і нос яе, і вочы... Калі Верка ляжала разам, бывала, з дачкой на ложку, ён кожны раз думаў, што ў іх адны і тыя ж вочы — хоць мяняй... Успомніў, што Верка яму сама пра гэта гаварыла... Гаварыла, што дачка ўся ў яе, вушы толькі ў дачкі розныя. Адно матчына — прамейшае і прыціснутае да галавы, другое — яго, бацькава — круглае і адтапыранае. Андрэй тады смяяўся, хацеў паглядзець на даччыны вушы і ніколі не глядзеў.

Дзе цяпер дачка? Дома?..

Сядзіць недзе адна за сталом, абапёршыся на рукі і гледзячы ў гарод пад раку — на грэблю...

Трэба будзе перадаць Падбярэцкаму, хай завядзе яе да Верчыных сясцёр, бо калі ён, Андрэй, яшчэ вернецца...

Ён ляжаў, думаў пра дачку і пра Верку, і ў яго раптам перамянілася ўсё ў галаве. Думаў ужо, што калі і выжыве, то нікуды не з'едзе, што яму цяпер цяжка і адпаўзці ад вуглоў. Бо ля хаты пад прызбай у гародчыку знаць яшчэ Верчыны сляды ад гумовых ботаў — у крывую палоску — Верка хадзіла ўвосень, нямогучы, па гразі перад марозам. Зямля сцялася, і асталіся сляды. Знаць цяпер пад прызбай і ў гародчыку ля хлева — далёка ад хаты Верка ўжо не магла адысціся. Пад прызбай у пяску капаюцца куры, а ў гародчыку сляды доўга будуць знаць, пакуль не ўскапаюць зямлю на грады.

На частаколе ля хлеўчыка вісіць, зачапіўшыся, Верчына старая байкавая нажутка. Ён помніць, калі яе куплялі ў магазіне ў Федзі. Сіняватая, палінялая і зношаная, з латамі на рукавах, яна служыла дома пасля за анучу. Перазімаваўшы, выбеліўшыся на марозе і высахшы на сонцы, яна цяпер чыстая і мяккая, што новая, і ад яе пахне, як ад бялізны, калі яе знімаюць з гары. Нажутку на частаколе кратае вецер, адганяючы далёка на двор рукавы з чырвоненькімі гузічкамі ў манкетах. Нават чуваць, як гузічкі востранька стукаюць па сухім частаколе...

Ён не мог адразу, калі сагнала снег, хадзіць па двары. Ішоў скарэй на ўчастак, а прыйшоўшы — не мог і там знайсці сабе месца; пасля работы спяшыў дамоў. І калі здалёку яшчэ, з-пад Бацяновых соснаў, бачыў, як вецер ганяе на частаколе рукавы ад Верчынай нажуткі, у яго падгіналіся ногі...

Баляць вочы, калі доўга глядзіш у шыбы; акно расплываецца на ўсю сцяну, і сцяна робіцца яркая, як неба ад сонца.

Зноў падступае гарачыня, ідзе з-пад плеч і разліваецца, як вар, па ўсім целе...

— Ва-ады...

Дома ў парозе ля печы вісіць на дроце вядро з вадой. Вядро толькі што ад студні, яно стаяла на зямлі, і да яго знізу наліпла снегу. Растае снег, і з вядра капае на жоўтую падлогу вада: збіраецца ў вялікую, з арэх, кроплю і, адрываючыся, ляціць уніз. Каб, здаецца, падставіць жменю...

Як хочацца дамоў... Хоць бы ўзяцца за клямку... Хоць бы адчыніць у хату дзверы... Здаецца, і вады б не піў, каб толькі далі яму зайсціся ў хату... Пастаяў бы ў парозе, і ўсё...

Як хочацца жыць...

На дварэ высах на сонцы жоўты жвір, яго навазілі летась увосень «перад Акцябрскай», пад асверам і ля хлева пазасыпалі ямы, каб не было гразі. Калі ступаеш па ім, ідучы ад варот, скрыпіць пад нагамі, як усё роўна снег зімой у мароз; пад прызбай на двары, куды не дастае сонца, ён яшчэ мокры, пазліпаўся ў камячкі, на ім знаць свежыя курыныя сляды; ля гародчыка пад вуглом, дзе была вада, пясок зняcло; на дне ў мокрай шырокай канаўцы ляжаць дробненькія жоўтыя каменьчыкі, як на дне ў рацэ, і блішчаць...

— Жы-ыць...

Ён намогся ўсёй сілай і глянуў у дзверы — дзверы былі адчынены.

Убачыў у нагах капельніцу і доўга глядзеў на маленькую бліскучую шкляначку, як успамінаў.

Кап... Зверху з бутэлькі, з-пад бліскучых ножніц, у шкляначку капнула, відаць, апошняя кропля і расцяклася адразу па шкле. Ён чакаў, калі з бутэлькі капне яшчэ, але шкляначка доўга была чыстая, і ён раптам уздрыгнуў, убачыўшы бутэльку... Бутэлька была парожняя, і зверху на ёй стаяла раса — дробненькія, як макавае зерне, кропелькі...

Яму стала горача — аж, здаецца, захлынешся. Не было чым дыхаць.

— Жы-ыць...

Ён падняў руку, каб сарваць з грудзей бінт — гэтак цяжка дыхаць...

Рука адразу стукнула костачкамі аб падлогу, здалося — аб шорсткае каменне дома на двары пад прызбай.

Адразу паявілася сястра ў высокім каптуры. Падышла, дастала з рукі іголку, памазала нечым зверху па скуры. Узяла ў нагах капельніцу, паставіла яе далёка ў кут — да самых дзвярэй, і зноў выйшла.

Ён заплюшчыў вочы. Ляжаў, намагаючыся падняць на ложак руку, і не мог. Рука вісела, як ануча, дастаючы да падлогі, і ён чуў, што падлога сухая і цёплая — нагрэў, мусіць, сам — даланёй...

Пачуў пасля, як яго нехта ціха ўзяў за локаць, падняў руку і паклаў на ложак — збоку на простыню. Пашукаў вачыма — ля яго ў галовах стаяла Балюта ў белым халаце, без хусткі. Чорныя валасы ў яе былі растрэпаны і хавалі вушы.

«Балюта? — здзівіўся ён.— Чаго яна тут, і чаму яна без Волькі?»

Балюта загаварыла, ціха, усё нечага ківаючы галавой — бедавала, мусіць. Ён пачуў, што яна прывязла з сабой Вольку. Плача тая дзень-ноч, седзячы ў яе, Балюты, на ўслоне ля акна на каленьках і гледзячы на грэблю... Упрасіла і доктара. Не пускалі, але яна ўпрасіла. Такую даль ехалі, трэсліся, і такое гора ў дзяўчыны: толькі што маці пахавалі, а тут нà табе... Пусцілі на пяць мінут, халаты далі. Хай гляне на бацьку, знебылася зусім. Не есць нічога. Так і з кругоў сысці можна, у галаву ўзяўшы...

— Відзіш...— гаварыла яна ўжо да Волькі,— будзе жыць. Відзіш — убінтаваны. Калі я раніцай прыбегла на

Доўгія і знайшла яго, што карча, ля пасекі, не думала, што будзе жыць. Поўз дамоў, аж па пасеку выпаўз, пашто жваканы, кроў на снезе знаць была здалёку. Снегу пад раніцу найшло, помню. У кантору я тады додніцай пайшла, калі дачка твая прыбегла да мяне. Але на ўчастку цябе не было. Дачка як чула ўсё роўна. І ведала, мусіць, куды пайшоў бацька. Паказвае з двара рукой на Доўгія, а сама дрыжыць, гаварыць не можа. О-ха-ха... Добра яшчэ, што машына на ўчастку начавала з аўтакалоны... Укруцілі ў пасцілкі, укінулі ў кузаў на сена, накрылі кажухом і павязлі грузчыкі. О-ха-ха... Во набедаваліся. Гэта ж трэба... Самахоць... Гэта ж падумаць!.. На такога звера рашыўся адзін пайсці. Калі гэта ў нас хто хадзіў. Я дык яго ніколі і не відзела, і ніхто ў Мсціжах не відзеў...

Ён падумаў — чаму яна гэтак многа гаворыць? Дзе ж Волька? — шукаў ён вачыма. Калі згледзеў — ужо не слухаў, што гаварыла Балюта. Дачка стаяла ў яе за спінай, уся ў белым з ног да галавы. Згорбілася, паднясла кулачкі да вачэй, маленькія, чырвоныя ад холаду, яшчэ, відаць, не сагрэлася з дарогі,— здавалася, і не глядзіць на яго.

— Волька...— паклікаў ён яе ціха і сіпата.

Яна тады выбегла з-за Балюты, нагнулася над ложкам, тады прысела і стала цалаваць яго ў руку... Хто яе так вучыў?

— Дачка...— зноў клікнуў ён. Хацеў пагладзіць яе па галаве і не мог падняць рукі.

Дачку адразу адвяла ад ложка сястра ў высокім каптуры.

— Я-ткі знала, што слёз не абярэшся. Усё... Яго не трэба трывожыць. Ідзі, дзіця...— сказала яна дачцэ мякчэй, як субожыўшыся.— Бацька прыйдзе дамоў, нідзе не дзенецца. Ідзіце і вы,— кіўнула яна галавой Балюце.— Пускалі на пяць мінут.

— Мы ж яшчэ яму і мёду прынеслі, і масла слоічак...— Балюта, сагнуўшыся, застрэпала рукамі ў карзінцы. Карзінка стаяла ў яе ля ног на падлозе.

— Прынеслі дык прынеслі. Пакіньце. Яму яшчэ не скора спатрэбіцца. З лыжачкі паілі гэтыя разы.

Дачка заплакала яшчэ горш, пачуўшы.

Згледзеўшы ў руках у Балюты слоікі, ён падумаў: «Ведай жа, што знайшла Балюта... Бегала шукаць...» Пасля падумаў, што зусім перамянілася дачка. Успомніў,

як яна прывяла раз аднекуль старога сабаку. Прынясла была, зганяўшы ў поле, гадзюку ў бутэльцы. На дачку крычалі, а яна сваё. Знайшла недзе на Выганчыку падбітую варону. Гняздо зрабіла на ложку ў запечку.

«Сама не буду есці... Маё аддавайце ёй...»

Непаслухмяная была, а цяпер плача.

— Я-ткі знала, што слёзы будуць...— зноў сказала сястра.— Ідзіце. Прыйдзе ўрач — мне ўляціць.

Ён убачыў яшчэ, як дачка аглянулася з парога, дзержачы кулачкі ля вачэй. Ішла ззаду за Балютай.

Сястра ў высокім каптуры зачыніла за імі дзверы.

## 9

Вечарам, на заходзе сонца, яму стала горай.

Ён бачыў у нагах у акне чырвонае, як жар, неба, бачыў, як яно мітусілася і пералівалася, што ў агні, тады пацямнела, застыла і доўга стаяла малінавае, пасля пачало сінець і расплывацца.

Ён пачуў, як у яго зноў большае галава. Нават, здаецца, аж відаць, як яна расце: кругамі, нібы абруч адскоквае ад абруча — і распаўзліся рукі: парабіліся шырокія, па лапаце, на якой у печ садзяць хлеб, і белыя, што вата.

Схавалася адразу малінавая паласа ў акне — яе сцягнулі, што ўсё роўна пасцілку на двары з плота, каб не змачыў дождж,— і цёмна стала ўваччу...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Калі над імі зароў самалёт, са звонам, Андрэй стаў глядзець уверх, павярнуўшыся на бок і высунуўшы галаву з акопа. Угары былі відаць сосны; густыя ў верхаллі, яны краталіся ад ветру, махаючы лапкамі, пасля калыхаліся з боку на бок, нібы і не былі тоўстыя ў камлі, як абхапіць рукамі. Зверху сыпаліся жоўтыя сасновыя іголкі, клаліся на рукавы, на грудзі і на зямлю, на мох, перад самым носам. Недзе там цыльгікаў дзяцел, кароценька і дзярката, усё далей і далей, як ад каго ўцякаў.

Андрэй круціў галавой, ведучы вачыма ад прагалу да прагалу ўгары між верхалля, дзе, скрывіўшыся набок, заварочвалася чорная, збітая, як вароты на дзве пярэчкі, шырокая нямецкая «рама». «Рама» заварочвалася нізка, над самым лесам,— праз яе быў відаць кавалак неба на шыбіну, як дома ў варывеньцы,— і раўла, прарэзліва і густа, здалося — аж гнецца на зямлі ягаднік.

У акопе было цесна, і Андрэй згледзеў, што пассоўваў з беражніцы локцямі мох, і цяпер відаць збоку ля яго жоўты пясок — пясок недзе можна згледзець і з «рамы». Ён стаў закладаць яго мохам — жменя да жмені: пясок быў сухі і сыпаўся з-пад рук струменьчыкамі, як проса праз дзіркі з мяшка. Высах за двое сутак, як яны ляжаць тут, у акопах ля Віліі пад Каменам; пачарсцвелі нават вырваныя мох і ягаднік — шапочуць пад рукамі, што сена.

«Рама» гудзе цяпер далёка за ракой, над Каменам, і Андрэй бачыць, як злева, збоку ў яго, з акопа паказаўся Рукалееў — вылез па пояс, паклаўшы перад сабой аўтамат з ражком, абіваецца ад пяску, мацюкаючыся, крычыць, што «рама» засекла іх, што з «рамы» відаць нават мурашкі на зямлі, не схаваешся і ў лесе, і што цяпер немцы ўдараць з мінамётаў... Міны дзяруць зямлю, што курыца кіпцюрамі,— гэта табе не снарад, калі ўверх ляцяць асколкі,— трэба сядзець у акопах, як мышам. Рукалееў ваенны, ведае.

Андрэй тады кладзецца ў акоп на жывот і, сцішыўшыся, чакае. Але доўга не чуваць ні мін, ні стрэлаў з Камена, і ён, падняўшы галаву, слухае. Нідзе — нічога: шуміць толькі ўгары над галавой лес — у акоп шум даходзіць глуха, як з двара ў будыніну, і лаецца Рукалееў: папраўляе акоп, ці не капае глыбей. Андрэй глядзіць у яго бок, але Рукалеева нідзе не відаць.

Гудзела яшчэ, калі прыслухацца, недзе далёка за Каменам, тады і там аціхла. «Рама», мусіць, паляцела ў Буслава — там аэрадром.

У лесе і за ракой, у Камене, было сёння ціха ад самай раніцы, і Андрэй пачынаў баяцца цішыні. Калі немцы падыходзілі з Камена логам да ракі, да броду, і, прыкрываючы іх, з вёскі секлі па лесе кулямёты, Андрэй не баяўся. Ведаў, што рабіць. З акопа быў відаць увесь лог за ракой і на ім шэрыя людзі — меншыя толькі, з ваўкоў, бо ішлі далекавата. Але Андрэй іх добра бачыў з лесу — глядзеў, як усё роўна з хлева на двор, дзе свяціла сонца,— і цэліўся ў іх, як у ваўкоў, з «сэвэтэ»: у аднаго, у другога, не падцягваючы да сябе прыклада. Думаў толькі: добра, што затвор у «сэвэтэ» ходзіць сам, націскай адно на курок. «Сэвэтэ» стаіць на зямлі на магазіне, як на ножках, пакручвай толькі; страляючы, нават назад не б'е...

Калі ён, цэліўшыся, прыплюшчваўся, немцы за ракой на лагу рабіліся меншыя за ваўкоў, але добра былі відаць — на іх свяціла сонца. Нават цень ад іх бегаў па зям-

лі за кожным — маленькі, чорненькі, нібыта немцы што цягалі ззаду за сабой.

Шумеў ад стрэлу лес, аж стагнаў, і Андрэй не чуў тады свайго стрэлу. У акоп пырскаў толькі пясок, аж за шыю пад расшпілены каўнер.

Першы раз ён бачыў немцаў так блізка і так зблізку па іх страляў. Проці яго быў якраз вузенькі і зялёны ад атавы лажок у канцы Камена. Праз лажок, мусіць, цякла да ракі крыніца, бо здалёку на ім блішчала вада, і калі яны ў першы дзень раніцай займалі ў лесе абарону — на лажку хадзілі коні. Ля крыніцы рос кустамі малады нізкі альшэўнік. За ім можна было схавацца ад вока, і немцы, высыпаўшы першы раз на лог, узялі лявей, да крыніцы. За кустамі яны — ён не помніць колькі — ляжалі не баючыся, і Андрэю было лёгка цэліцца ў іх.

Калі немцы ў першы дзень папаўзлі назад, у каменскія гароды, хаваючыся за вуглы і за платы, ад крыніцы з-пад кустоў не крануўся ні адзін. Яны ляжалі ўвесь дзень, як усё адно пахаваўшыся ў альшэўнік — блішчалі толькі нечым на сонцы. Андрэй налічыў сямёх. Высунуўшыся з акопа, ён згледзеў, што немцы блішчалі і збоку на рудым лагу па адным, несамнога, чалавекі, можа, тры.

Па іх з лесу ніхто не страляў.

Забітыя...

Ён не верыў, што мог адзін адразу забіць гэтулькі многа людзей — тых семярых, што ляжалі цяпер ля крыніцы на зялёнай траве. Аж спужаўся і доўга баяўся вылазіць з акопа. Перасохла ў роце, не крануць было языком. Ён азіраўся ўсё назад — здавалася, нехта тоіцца за плячыма, аж пакуль да яго не падышоў Рукалееў і не падаў у акоп руку.

І калі Рукалееў плюнуў пад ногі і паказаў за раку на лог: «Маць іх так...» — Андрэй падумаў, што на лог за раку і ў кусты страляў ён не адзін, страляў з лесу ўвесь узвод, сек з трох ручных кулямётаў... Можа, нават ён, Андрэй, ніводнага і не забіў — мала што зялёная крыніца якраз проці яго і яму сама лепш было цэліцца з акопа — напрамую. І Рукалееву было добра цэліцца пад крыніцу, далёка ён тут ляжыць збоку... Стаіць цяпер перад ім, Андрэем, паказвае на Камена: «Успелі дабегчы...»

Рукалееў ваенны. Яму гэта не першыня.

І калі назаўтра додніцай на лагу і ў кустах ля зялёнай крыніцы ён не згледзеў немцаў, то падумаў, што, можа, зусім там нікога і не было. Але яму крыкнуў Рукале-

еў, што немцы ноччу пазносілі пабітых... Ноч была шэрая, з віднатой, паказваўся разы са два месяц, але за ракой на лажку вісеў туман. Рукалееў яшчэ крыкнуў яму раніцай, што ў яго, у Андрэя, добрае «сэвэтэ»...

«Рамы» не чуваць, ціха. Немцы на другі дзень не пайшлі. Секлі толькі ўчора вечарам з кулямётаў па лесе, аж трэскі зверху сыпаліся з дрэва,— згледзелі, мусіць, як краталіся партызаны. З-за ракі ў бінокль недзе ўсё добра відаць. Чакалі ўжо, што яны пойдуць ноччу — выставілі наперад, аж на чыстае, пасты з ручнымі кулямётамі; разведчыкі падышлі да самай ракі, на буй. Але ноч прайшла ціха; маўчалі і ў Камене, як вымерла там усё; толькі далёка, недзе за Аношкамі, раўлі машыны. Машын Андрэй даўно не чуў — рабілася жудасна.

Ціха было да самай раніцы. Додніцай вярнуліся назад пасты. Узышло сонца; немцы маўчалі, не адзываліся. Здавалася, яны кінулі Камена. Самае горшае, калі яны дзе пралезлі за ноч праз абарону і зайшлі ў спіну,— але ззаду нідзе не было чуваць стрэлу.

Калі Андрэй, прыплюшчыўшыся, доўга глядзеў у Камена, бачыў, як там, на гародах пад самай ракой і за вёскай, аж на полі, калі выбежыць з-за воблакаў сонца, блішчыць на зямлі як усё роўна пабітае дробна шкло. Так блішчыць на сонцы начышчанае сухое жалеза...

...«Рамы» не чуваць, але Рукалееў перадае каманду з акопаў не вылазіць, і Андрэй, павярнуўшыся чуць на бок, абапёрся на локаць і глядзіць на лог за раку, што ўсё роўна праз адчыненыя дома дзверы з хлева далёка на гарод і на Выганчык. Зверху ў акоп валіцца мох і сыплецца пясок, не крануцца. У пяску рубашка і падсцеленая падпіз ватоўка; пяску насыпалася за каўнер, і цяпер ён, мокры і калючы, муляе, сабраўшыся пад дзягу. Трэба падняцца, расшпіліць штаны і вытрасці пясок... Нылоць рукі і ногі ў каленях, здаецца — вылез з глыбокай ямы, капаўшы яе на бульбу цэлы дзень: трапілася гліна, і трэба было доўга дзяўбці рыдлёўкай. Пяску набілася — гэта калі ён, выкапаўшы яму, цёрся спіной аб сцены, раўняў пасля рыдлёўкі, каб яны ў яме былі гладкія і цвёрдыя, каб не сыпаўся і не адставаў слаямі пясок.

Ад пяску пад дзягай ліпкае і шорсткае цела, нібы не мыўся цэлы век... І Андрэй, зноў лёгшы на мох, успамінае лазню і Верку. Пасля лазні ён адразу днём лёг у вырыты сыры ад моху і зямлі акоп... Было ўсяго двое сутак назад, а здаецца — не помніць ужо калі. Здаецца, што немцы

стралялі і стралялі, і ўчора, і пазаўчора, і тады, калі ён з Веркай мыўся ў лазні, і год назад, і ўсё жыццё. Другога, мусіць, і не было дагэтуль на свеце: толькі немцы і стрэлы з водгаласкамі, далёкімі, доўгімі, якія ідуць начамі на край зямлі.

Можа, ён ужо і не ўбачыць Верку. Ні Верку, ні дачку: немцы будуць біць з мінамётаў, пасля пойдуць на прарыў... Гэта ён ведае...

Трэба сказаць Рукалееву, каб Верка тады ішла разам з Балютай, калі што якое, на Палік. Пачынаецца блакада, і ніхто не ведае, чым яна кончыцца, ведаюць толькі, што з Княгінева са станцыі ідуць рэгулярныя часці. А ім поперак дарогі ніхто не стане: ні ля ракі, ні за ракой.

Доўга ўсё ціха. Сонца бярэцца пад паўдня і пачынае грэць — чуваць, як пацяплела ў лесе. Гэтыя дзве ночы нават не выпаў іней, халодная толькі была на ягадніку раса, што лёд. Восень сёлета сухая, цёплая і доўгая,— здаецца, вось так пастаіць па цяпле, перабудзе і скруціць зіму. Можа, скруціць і блакаду; пастраляюць толькі цераз раку, і зноў немцы вернуцца ў Княгінева на станцыю, а ён, Андрэй,— у атрад, у Ямскае за Мсціжы, адкуль будзе зноў прыходзіць дамоў кожны раз, калі будуць пускаць.

Але зіма ўжо чуваць: халодная зямля. Летам яна не такая халодная, летам можна па ёй пераляжаць ноч, нічога не падсцілаючы.

Збоку на ягаднік свеціць сонца, і відаць, як з-пад яго падымаецца ўгару пара — сохне мох. На сонцы блішчаць брусніцы: буйныя, белыя, пабурэлі толькі зверху — усягды стаіць цень,— яны тырчаць з-пад ягадніку, як зросшыся ў шышку. Сашмаргні — поўная жменя. Па бруснічніку расце рэдкі дробны верас, нібы яго хто паторкаў рукамі, сіні, як бэз, увесь на цвеце. Па сагнутай ажыне з чырвонымі ягадамі — па галіне — поўзае пчала, тоўстая, валасатая, калючая; доўга перабірае ножкамі, тады застыне, як спіць. Адрываецца, валіцца далоў на зямлю, пасля зноў паўзе на калючую дудку, растапырыўшы крыльцы — чорная ў жоўтыя плямы.

Пахне сырым мохам і багуном — недзе блізка імшара, і тады хочацца піць.

Па «сэвэтэ», па прыкладзе, поўзаюць мурашкі, маленькія, жоўтыя. Знаць, як яны парылі ў дзірачкі свежы жоўты пясок пад мохам. Мурашкі не любяць жалеза: мусіць, халоднае, ці, можа, пахне порахам. Па затворы яны бягуць, крыла ўразаючы...

Грэе ў спіну сонца; спаднізу, высыхаючы, пахне ватоўка: упрэлым кіслым цяплом, што ўсё адно спягнуў дома з гарачай печы.

На сонцы добра знаць у Камене за ракой хаты — маленькія здалёку, шэрыя, хоць дзе з новымі шчытамі ў стрэхах. Шчыты жоўтыя, як бераг. Бераг за ракой ля Камена невысокі, падыходзіць аж да платоў пад гароды. Гароды кожную вясну ў Камене, разліваючыся, затапляе вада, дастаючы аж да вуліцы. Вуліца відаць коса, але знаць здалёку: жоўтая.

За Каменам адразу пачынаецца поле. Па ім цягнецца белая ад пяску дарога, далёка, аж пад Аношкі, глыбокая, як разараная ўроскідку плугам баразна. Там, дзе яна хаваецца з вачэй, за Аношкамі відаць вострая вежа ад царквы ў Даўгынаве. У Даўгынава ён ездзіў з Веркай да вайны на базар...

На базар збіраліся ўсёй вёскай. Ехалі і шлі нацянькі праз лес да старой пагранзаставы, якая стаяла на самым беразе ў лесе, высака над Віліёй. Цераз Вілію не было маста, і ехалі логам да Цыбульскага броду, пад самае Забыліна. Брадоў у Віліі было многа, Цыбульскі быў самы мелкі.

Шырокі, з чыстай вадой — у вадзе быў відаць жоўты пясок,— у ніцай лазе з аднаго і другога боку,— летам ён зусім мялеў, і цераз яго, абмінаючы ямы, можна было перайсці падкасаўшыся.

У Цыбульскім бродзе было цвёрдае дно, і цераз яго смела ехалі ў калёсах — кіруй толькі на змыты бераг, на абсмарганы куст лазы, і паганяй каня, не давай нагінацца піць пасярод ракі, каб не занясло колы.

Каня Андрэй паіў кожны раз з берага пры ўездзе.

Пераехаўшы і перайшоўшы на другі бок, людзі мылі ў рацэ ногі, абуваліся, седзячы на беразе,— да ракі ішлі босыя, у лесе па пяску і на лузе па траве мякка ступаць; паласкалі рукі і, беручы ў прыгоршчы, пілі з ракі ваду. Вада ў рацэ была халодная, як у крыніцы, не пахла нават балотам.

Пасля ракі свежа было нагам, нібы і не ішлося аж пяць вёрст па лесе з дому...

Вясной, на згон зімы, Вілія разлівалася, выходзячы з берагоў, і затапляла ўвесь лог да заставы. Ад самага лесу аж да поля па той бок ракі, як акінуць вокам, было сіне ад вады.

Вясной у Даўгынава ішлі на Камена — кругом. Далей у два разы, чымся на заставу,— вёрст з чатырнаццаць.

Ля Камена вада ў разводдзе ішла ў лагі, у самай рацэ было няглыбака — пасярэдзіне добраму мужчыну займала па пахі, і можна было, раздзеўшыся дагала, перайсці на той бок.

Пераходзіць было боязна: чорная, што дзёгаць, вада пякла, як лёд. На тым баку, на гародах, пасля вады зусім не чуваць было ног. Яны пасля, пад Аношкамі, калі ўграваўся ад хады, гарэлі як агнём.

Пасярод ракі, дзе глыбей, ваду гнала вірам і зносіла ўбок; трэба было яшчэ, несучы клунак з адзежай на галаве, лавіць і адпіхаць у вадзе бярвенне, якое, намоклае, цяжкае і слізкае, пёрлася, што шалёнае. Дрэва ішло густа, кругляк за кругляком — вясной змывала шліхты.

У Даўгынава разводдзем хадзілі толькі каму было пільна трэба; лезці ў вір рашаўся не кожны.

У Камене былі лодкі, але ў самае разводдзе, калі ракой гнала лёд і дрэва, ніхто з таго берага не прыязджаў, хоць ты было крычы, аж разарвіся, махаючы рукой. Людзі хадзілі па гародах, відаць былі і лодкі, ляжалі на дварах, але тры рублі не ўсягды даражэй за сваю душу.

На лодках перавозілі ў Камене пачакаўшы, ужо калі вада спакайнела, спадала з гародаў і па рацэ пераставала гнаць дрэва.

Адумысла ў Камене Андрэй ніколі не быў — праходзіў толькі праз яго — праз канец вёскі, калі ішоў раз да вайны на базар і калі сёлета на згон зімы ехалі з атрадам браць гарнізон у Даўгынаве.

Ад сонца вёска за ракой робіцца чыстая, як памытая. Калі прыгледзецца, знаць бярозавае няскобленае жэрдзе ў платах і новыя жоўтыя подрубы ў хатах. Па гародах ходзяць белыя куры. Каб дзе хоць чалавек — як вымерлі ўсе: і людзі ў вёсцы, і немцы...

За вёскай на гары, дзе на чорным перааараным полі круціцца дарога, зноў пачынае блішчаць бітае шкло. Адразу тады за плячмі бегаюць мурашкі... Андрэй пачынае ўглядацца за вёску. Можа, там, праўда, блішчыць бітае шкло. Мала б'юць пасуды дома на двары і вывозяць шкло з шуметнікам вясной на поле, і яно астаецца ляжаць у зямлі? Вывараецца плугам, адмываецца на дажджы ад пяску, сохне на сонцы і блішчыць тады на раллі, як начышчанае.

За дарогай пад Аношкі роўнае шырокае чыстае поле;

здаецца, калі глядзіш з акопа, яму няма краю. Здаецца, што за Каменам няма нідзе ні Аношак, ні Даўгынава — толькі чыстае поле, як хапіць вокам. Ад сонца яно робіцца сіняе, як ад туману, цёплае і ціхае, як спавітае сном. І такое будзе ўсягды — вечна. Вечная і дарога на ім, што цягнецца немаведама куды, і Камена, і Аношкі з людзьмі... І курганы, што відаць за Даўгынавым, і дым, што падымаецца над імі высака ўгару, і цёмны ад лесу край неба, далёкі, як згледзіць вокам, і жоўтае воблака над ім, выцягнутае вузкай паласой...

Блакада мінецца, не стане і немцаў у Аношках і ў Камене, а поле за ракой будзе такое ж далёкае і сіняе ўвосень і вясной — год за годам...

І гэтак па ім будзе цягнуцца немаведама куды ўбітая адвеку дарога і блішчаць на сонцы павыварванае з зямлі каменне і шкло...

З боку ад дарогі, пад самую Вілію — Забыліна: хутары. Цагляныя, пафарбаваныя зверху глінкай, белыя, што ўсё адно печы дома ў хатах перад святамі, яны добра відаць з-за ліп — з-за саду, калі высунешся з акопа. Відаць яшчэ, як з комінаў ідзе густы чорны дым, што ад смаляных дроў. Дымам пахне аж тут, у акопах,— мусіць, адтуль цягне ветрам.

Дым відаць і ў Аношках, падняўся клубамі — там нешта гарыць.

Усюды ціха — не страляюць; шумяць толькі ўгары ад ветру сосны, калі слухаеш, і чуваць, як падаюць на мох і на ягаднік, на лісце, іголкі — шапчаць. Ад цішыні пачынае ныць у грудзях — чакаеш немаведама чаго. Чакаюць і ўсе — увесь атрад, залёгшы ў лесе ў акопах ад самага Забыліна аж да Камена — берагам ракі. Ля Забыліна, ля хутароў, немцы прарывацца не будуць — за ракой балота. Пад канец Камена балота яшчэ горшае — не сунешся. У немцаў машыны і матацыклы, немцам трэба брод і дарога. Яны будуць ісці толькі на Камена — у раку, калі не звернуць з Даўгынава на Цыбульскі брод, у другім месцы іх і чакаць не трэба. Але і на Цыбульскім бродзе ціха — усе дні, з самага пачатку. Там, ля заставы, на высокім беразе ў абароне акапаўся другі атрад. Адтуль прыходзяць людзі — сувязныя да камандзіра атрада — ідуць сцежкай за акопам... Часта, на дзень па некалькі разоў.

Пачынаюць балець плечы і спіна ў крыжы — ад лежні. Колецца пад павечкамі, як ад пяску; робіцца цяжкая

галава, цягне ўніз, хоць ты кладзі на зямлю. Сушыць у роце, хочацца піць; здаецца, уся зямля пахне імшарай і смалой...

Крычыць Рукалееў, перадае каманду «ўстаць»: гэтулькі не вылежыш.

Каб вылезці з акопа, не згаіўшы мох, трэба спружыцца, як змяі.

Аж дыхаць, здаецца, лягчэй, калі стаіш, прыпёршыся да елкі...

У акоп на ватоўку сыплецца зверху пясок; падымаецца пад нагамі прытаптаны ягаднік.

Зноў падае каманду Рукалееў — не пастаіш. Зноў пад носам у акопе сухі мох, зноў за ракой, за Каменам, блішчыць шкло...

«Рама» гэты раз ляцела над ракой, зайшоўшы з Цыбульскага броду, нізка, ніжэй, чымся раніцай,— ззаду за ёй нават быў відаць дым: палоскамі. Нахіліўшыся набок над самым Каменам, яна паўзла ўсё ўніз і ўніз — здавалася, урэжацца на лагу ля лесу ў зямлю. Над логам яна крута пайшла ўверх, дугой, як усё роўна зачэрпнуўшы з ракі вады і пёрлася ў неба. Падымаючыся, натужна раўла, аж звінела, закладваючы вушы.

Другі раз яна зноў зайшла ад Цыбульскага броду, ляцела бліжэй да лесу, спусціўшыся яшчэ ніжэй. Уверх паднялася цяпер аж у канцы Камена, над балотам...

Трэці круг яна зрабіла над акопамі, як і раніцай, здавалася — над самай галавой, зноў заварочваючыся і падымаючыся ўгару ля Камена над балотам і заходзячы з Цыбульскага броду. Калі раптам закрычаў Рукалееў, Андрэй, падцягнуўшы за прыклад да сябе «сэвэтэ», высунуўся з акопа.

На полі за ракой адно густа блішчала шкло, па ім скакала сонца, і ён, стаўшы на калені, глядзеў туды, міргаючы вачыма і счышчаючы з прыклада пясок.

На дарозе, што вяла з Аношак у Камена, паказаліся людзі. Спачатку іх было мала — кучка, і пайшлі яны далей. Пасля яны адразу як заслалі поле — сыпалі і сыпалі дарогай з Аношак, заходзячы аж на чорную раллю, дзе блішчала шкло. Людзей было многа, і Андрэй падумаў, што ў Аношках на хутарах гэтулькі не збярэш. Мусіць, немцы выгналі ноччу ўсіх з Камена, а цяпер варочаюць назад.

Людзі разыходзіліся па полі памалу, ішлі як не сваёй хадой: нібы зморапыя варочаліся з далёкай дарогі.

Былі знаць адны белыя хусткі: мужчын у грамадзе ішло мала.

На хутарах у Забыліне засакатаў раптам кулямёт і адразу сціх. Стралялі цераз раку па лесе — разрыўнымі. Кулі рваліся блізка збоку — на імшары ў лазе.

Людзі на полі ля Камена былі сталі, тады зноў крануліся ісці, спускаліся з гары на лог да ракі. Паблiжэлі, быў відаць пыл, што падымаўся ў іх з-пад ног, і дзеці — ішлі разам са старымі.

Угары раўла, не сціхаючы, «рама», як упівалася ўсё роўна ў плечы — заходзіла і заходзіла з Цыбульскага броду...

Андрэй убачыў, як з акопа высунуўся Рукалееў і круціў галавой, мацюкаючыся на чым свет стаіць...

Немцы за людзьмі паказаліся не адразу — пазней. Ішлі воддаль ззаду, густа, кучкамі, у руках у іх былі відаць кароткія аўтаматы — бліскалі, як бітае шкло.

З гары немцаў сышло чалавек трыццаць. Тады зноў пайшлі бабы з дзецьмі — відаць былі белыя хусткі — і за бабамі адразу немцы: яшчэ чалавек трыццаць з аўтаматамі. Напасле зноў ішлі бабы — несамнога, жменька, і за імі ўжо адны немцы. Спускаліся з гары, збіўшыся ў кучу і падняўшы пыл: шэрыя, цёмныя, як авечкі. Ад іх, здавалася, калышацца поле.

У Забыліне зноў засакатаў кулямёт; за Аношкамі загудзелі машыны; недзе пад Даўгынавым груканула, мусіць, гаўбіца, два разы. Снарады разарваліся далёка ззаду, пад Мсціжамі — па лесе пайшло рэха.

Пачуўшы ў Забыліне кулямёт, людзі на лагу былі сталі. Пасля ўзышлі на жоўты пясок — ішлі якраз проці броду.

Андрэй пачуў, як у Камене нехта нема закрычаў — галасіў. Пасля ўбачыў, як і вуліцай з Камена на лог ішлі немцы, сагнуўшыся, беручыся рукамі за жэрдзе ў платах. Было відаць нават, як яны гразлі ў белым пяску, выцягваючы ногі, што з балота.

Ззаду за акопам па сцежцы, дзе днём хадзілі сувязныя, прабеглі два партызаны з ручным кулямётам, здаецца, не з іх атрада, ён не пазнаў — згледзеў толькі іхнія спіны і шырокую чорную, вышараваную да белага па краях талерку ў аднаго на плячах... Партызаны беглі ўніз у імшарыну да ракі, пад Забыліна.

— Чакаць каманды!.. Без каманды не страляць!..— перадаў Рукалееў. Ён усё круціў і круціў галавой, пад-

цягнуўшы блізка да сябе аўтамат, як схаваўшы пад паху. Адной рукой дзёр збоку ў сябе мох і абкладаў спераду акоп — хаваў пясок.

За ракой на жоўтым пяску сышліся людзі і немцы, і там падняўся ўгару пыл, хаваючы з вачэй вуліцу і платы на гародах...

Людзі, што ішлі наперадзе, былі ўжо добра відаць: у чорным, у белых хустках, яны, пабраўшы за рукі дзяцей, ступалі адзін ля аднаго цяжка, натруджана, спатыкаліся, валіліся на зямлю, падымаліся, падымаючы за рукі дзяцей і выцягваючы з жоўтага пяску босыя ногі...

Андрэю здалося, што на беразе за ракой адны толькі босыя ногі — хаваюцца ў пясок, пасля зноў відаць: ступаюць і ступаюць, як немаведама куды.

Немцы цяпер ішлі адразу за людзьмі, абагнуўшы іх крыва, з аднаго боку, ад Камена, што полазам.

Стала раптам зноў ціха, аж не верылася. «Рама» болей не вярнулася ад Цыбульскага броду — далела, ныючы недзе над Забылінам. Людзі ішлі памалу, чуць цягнучы ногі, як з поля, нажаўшыся за дзень.

Здавалася, не аўтаматы блішчалі ў немцаў у руках, а ў людзей на плячах краталіся павешаныя зубамі на адзежу вышараваныя за лета аб тачыла і аб жытнюю салому белыя сярпы. І жоўтыя ад сонца хаты на гары за ракой у Камене — гэта мэндлікі, вялікія — па дванаццаць снапоў, з высокімі, як дастаць з зямлі рукой, шапкамі, і стаяць яны шчыльна адзін ля аднаго і на загонах, і ў барознах — урадзіла жыта. І далёка за імі — белае ад іржышча поле і белае над полем ад воблакаў неба. Неба белае і над берагам, над людзьмі, здаецца — яно зусім нізка над імі, над самымі галовамі. Воблакі густыя, цяжкія, як налітыя малаком; варушацца, спаўзаючыся ў адзін доўгі гарбаты туляг. Туляг кратаецца і паўзе да ракі, куды ідуць людзі.

У Забыліне з саду вылецела зялёная ракета; цьмяная на сонцы, яна заблішчала толькі высака ўгары, як шкло. Андрэй нават пачуў стрэл.

І тады адразу за акопам, блізка, мусіць, на сцежцы, рванула зямлю. Азірнуўшыся, Андрэй убачыў ля самай сцежкі голую ў камлі, без кары, сасну і вывернуты з зямлі свежы жоўты пясок. Пясок быў выкінуты набок, у адну кучу, што накапаны рыдлёўкай. На пяску ляжаў зялёны ягаднік з белым карэннем, і з яго ішоў дым. Яшчэ Андрэй згледзеў, што ля сцежкі пазграбаны мох: ляжыць буграмі і дыміць, як затлеўшыся.

Запахла нечым едкім, што ўсё адно з коміна, калі гарыць сажа...

Другі раз рванула далей, па сцежцы проці Рукалеева. Зверху ў акоп насыпаўся пасечаны ягаднік і жоўтая сасновая кара — ласкутамі.

«Міны...» — падумаў Андрэй, павярнуўшыся на бок і прыціскаючыся да сцяны ў акопе. Глядзеў спачатку ўгару, як усё роўна можна было згледзець, адкуль ляціць міна. Па твары сыпанула калючым чэрствым пілавіннем — мусіць, з-пад асколка, што зачапіў недзе блізка сасну. Запахла смалой, як з-пад пілы дома на дрывотніку. Ён закрыў даланёй твар, пасля пачаў выціраць пальцамі вочы.

Міны ўжо рваліся па ўсім лесе: і злева, на імшары над Забылінам, куды пабеглі былі партызаны з ручным кулямётам, і справа, у сосніку проці Камена, дзе акапаўся ўвесь атрад. Гручэла толькі зямля — здавалася, па ёй несціхана білі вялікімі і цяжкімі жалезнымі ба́бамі, якімі забівалі ў раку дома ў Мсціжах па̀лі, калі ставілі мост, перад вайной.

У Забыліне хлебястаў кулямёт. Стралялі адтуль па імшары цяпер ужо не сціхаючы. У Аношках угару падняўся чорны дым — грыбам.

— Глядзець за берагам! Без каманды...— крычаў Рукалееў. Яго цяжка было пачуць. Андрэй згледзеў, як Рукалееў высунуўся з акопа і паказвае на бераг. Мурзаты, укачаўся ўвесь у пясок.

Азвалася «рама». Зноў зайшла з Цыбульскага броду. Пачалі біць кулямёты з Камена — з гародаў.

Міны рваліся цяпер збоку ў Рукалеева, у сосніку. Чуваць было, як яны суха трашчаць па самых акопах, нібы дзе валяць з пня лес. За ракой у Забыліне як усё адно гудзе малатарня: гу-у-мм... гу-у-мм... Сціхае, тады зноў гудзе, аж захліпаецца.

Стала сіне ад дыму — у сосніку ля акопаў загарэўся сівец. Дым слала па зямлі, і не было чым дыхаць.

— З шасціствольных. Душу вынюць!..— крычаў з акопа Рукалееў.

Тр-рах!.. Відаць, як зусім блізка спераду ля акопа ідзе з зямлі дым.

— Адразаць немцаў ад людзей! — Рукалееў зноў паказвае рукой на бераг, прынікшы да аўтамата. Нават не чуваць, як ён страляе. Відаць толькі ля акопа, дзе ствол,

маленькі жоўты агеньчык, у адным месцы, як хто ўсё роўна чыркае сярнічкай па карабку.

Андрэй высунуўся з акопа, каб толькі можна было зноў згледзець бераг на тым баку, і ўпёр у плячо прыклад, моцна, у дзве рукі.

Пачуў адразу, як яго падняло ўсяго і кінула аб зямлю, аб бераг у акопе... Затрашчала блізка, над самай галавой, і аднекуль збоку дыхнула сухім агнём... Здалося, у лазні на печ, на чырвонае нагрэтае каменне, лінулі вядро вады...

Тузанула за левае плячо, моцна — здалося, вырвала руку ў лапатцы і перакуліла на спіну.

Горача стала ў плячах. Пасля ў паясніцы зрабілася мокра і слізка, і ён пачуў, што пачынае апаўзаць у акоп на дно.

Абапёршыся на правую руку, ён перавярнуўся на жывот. Убачыў, як за ракой на тым беразе над людзьмі і над Каменам збоку ля белага туляга стаіць у небе жоўты прамы слуп. Высокі — ад самай зямлі аж у неба. Падумаў, што такі слуп рэдка бывае ўдзень, што людзей ужо не відаць — спускаюцца недзе з берага ў раку, ідуць у ваду. На тым беразе адны немцы...

Закруцілася ў вачах зямля, зрабілася чырвоная, што жар. Зноў зараўла «рама», і закрычаў Рукалееў над самай галавой — выстаўляў рукі...

Патух над ракой у небе жоўты слуп, асыпаўся ўніз, што пясок. Аж чуваць было, як зашумела ў рацэ вада...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ноччу, недзе ўжо, мусіць, пад раніцу, яго адпусціла. Калі ён адплюшчыў вочы, убачыў, што ля яго сядзіць сястра ў высокім белым каптуры на галаве — узлеглася на тумбачку і паклала на рукі галаву: спала. Каптур у яе з'ехаў на патыліцу і прыткнуўся верхам да сцяны. Сястра цяжка дыхала, аж сапла.

Цьмяна гарэла недзе ззаду лямпачка, у кутках вісеў цень, палосамі.

Ён убачыў збоку фіранкі, жаўтаватыя ад агню. Фіранкі не былі шчыльна сцягнуты, і ў акне блішчала зорка, ядраная і калючая, як зімой.

Ён падумаў, што ў яго круціцца яшчэ ў галаве... Са сцяны едзе некуды акно, пасля варочаецца назад, і відаць яркая зорка, аж мігціць.

Звініць у вушах; здаецца, недзе цурчыць у бляшаную

пасудзіну вада... Але яму стала, мусіць, лепш; лепш глядзяць вочы, як памытыя халоднай вадой...

Каб толькі хто ўзяў зацягнуў фіранкі... Няма як глядзець: сіняя зорка коле аж у мазгі... Рассыпаецца на іголкі і коле.

Ён заплюшчыў вочы — зноў закруцілася ў галаве і зблажыла...

Тады ён, намогшыся, клікнуў сястру: застагнаў, ціха і сіпата. Сястра не пачула, храпла. Ён клікнуў другі раз...

У галовах на тумбачцы зазвінела шклянка з вадой і лыжачкай; сястра ўздыхнула і перастала храпці. Дыхала роўна і ціха, яе аж не было чуваць.

Зноў паплыло са сцяны акно, убок, да самых дзвярэй у парозе, вярнулася назад, хуценька, як згледзець, і зноў заблішчала зорка...

Ён убачыў вузенькую палоску сіняга неба, здалося — халоднага, як лёд. Неба дрыжала разам з зоркай, што ў мароз, калі на двары трашчалі платы і зрубы ў студнях. Якраз як той зімой, перад апошняй блакадай, калі ён вёз Рукалеева ноччу з лагера ў вёску да Балюты. Неба тады было сіняе, і з яго пырскалі зоркі. Ад марозу раўлі па снезе палазы; ад інею зрабіліся белыя і лес, і конь. Зліпаліся павечкі, не было як глядзець.

Рукалеева скінуў тыф... Тыф быў у атрадзе ў лагеры і ў вёсцы. Рукалеева аддалі дамоў — у зямлянцы было холадна, а ён ужо з тыдзень ляжаў без памяці. У Рукалеева — Андрэй і цяпер помніць — краталіся зубы: возьме, паверне пальцамі ўверх — яны выварочваюцца ўсе да аднаго. Ніхто так, як Рукалееў, не хварэў.

Рукалеева папрасіла дамоў Балюта...

Ён зноў жыў у яе, пакуль не паправіўся. Каб не перавязлі яго ў цёплыя вуглы, каб не папрасіла Балюта, загібеў бы тады Рукалееў...

Андрэй павярнуў набок галаву. Зорка свяціла цяпер праз занавеску, цьмяна, як праз туман.

Рукалееў выцягнуў яго, Андрэя, тады, у блакаду ля Камена, з акопа і вёў, узяўшы пад паху, цераз імшары пад Краснае: партызаны ад Камена адступалі лесам на Палік. Па дарозе ў Мсціжы ўжо ішлі, прарваўшыся ў бродзе, немцы.

Зноў цурчыць недзе ў парозе ў пасудзіну вада, і рассыпаецца на іголкі ў акне сіняя зорка — рэжа вочы, як сухое асцё...

Ён зноў стогне на ўсю палату — кліча сястру.

Сястра, прачнуўшыся, падае яму з лыжачкі вады. Лыжачка горкая, што ад альвасу; горкая вада, як невядома якое зелле. Ён сціскае губы — вада цячэ за шыю, цёплая, што пот.

— Зараз прыйдзе ўрач...

Сястра ўжо аж у парозе — папраўляе на галаве высокі белы каптур.

Андрэй закрыў рукой вочы.

«Скарэй бы днела... Не дачакаешся...»

## 10

Акно цяпер было ў галовах: яго, Андрэя, раніцай перакацілі на ложку ў самы кут. Цяпер перад вачыма стаялі пафарбаваныя набела высокія цяжкія дзверы з крывой выгнутай бліскучай ручкай. Ля ручкі чарнела круглая пляміна з аладку — вымазалі, піхаючы дзверы.

Дзверы шчыльна не зачыняліся, і праз іх былі відаць у калідоры белыя халаты: там мітусіліся людзі.

Пасля нехта стаў у дзвярах: як усё роўна завесілі прасцынёй. Стаяў доўга, не адыходзіўся.

Калі Андрэй глядзеў з кутка на дзверы, яму здавалася, што ён іх ужо недзе бачыў. І цёмную круглую пляму, і прарэх у калідор...

Калі яго перакацілі ў кут, на яго месца, расчыніўшы на дзве палавіны дзверы, два маладыя мужчыны ў белых расхрыстаных халатах адразу ўнеслі і паставілі нікеляваны шырокі ложак — у Андрэя быў сіні, фарбаваны і вузкі, не пакладзеш, адхінуўшы, руку — і наверх на сетку паклалі тры шырокія выгабляваныя і збітыя знізу планкамі жоўтыя дошкі, упёршы ў нагах у брыж. У палаце запахла смалой, як нацiраннем на шкіпінары, якое ў іх дома стаяла ў парозе на судніку ў куточку.

Двое расхрыстаных мужчын — ён не бачыў іх у твар, яны стаялі да яго плячыма — прывязвалі збітыя дошкі да брыжа сінім ценкім кабелем. Доўга пасля кратaлі рукамі і дошкі і ложак.

Пасля іх прыйшла сястра ў высокім каптуры і заслала дошкі прасцінёй, склаўшы ў дзве столкі.

Рамана няслі галавой уперад, і Андрэй адразу яго пазнаў: галава была нізка апушчана з насілак, і Андрэй бачыў яе, як усё роўна з вады, перавернутую дагары. На насілках яна дрыжала і падскоквала, нібы ў рацэ, калі па вадзе ідуць кругі. Андрэй згледзеў адразу нос — доўгі,

з горбікам пасярод — і поўныя шчокі. Вочы ў Рамана былі шырака раскрыты, аж павылупліваліся, і, здалося, ад таго парабіліся блакітныя, як у фарбе. Ён і пазнаў яго па носе і па вачах.

Раман быў родам са Мсціж — у Мсціжах у яго жылі цяпер маці і сястра. Малады яшчэ, можа, меў трыццаць, а можа, і не — у такім вяку хлопцам перастаюць лічыць гады, і чалавек жыве, як усе мужчыны: адбыў даўна салдаты, ажаніўся, і ў вёсцы ўжо забываюцца, у якім годзе ён нарадзіўся, аж пакуль той не састарэе.

Вярнуўшыся з арміі, Раман пайшоў у леспрамгас, рэзчыкам на ўчастак. Там ён сышоўся з катлапунктшчыцай з аўтакалоны Нінкай. Нінка, збоку гледзячы, дзяўчына была маладая, але ўжо бывалая. Жыла яна ў Найдорфе за Вастравам, куды з'ехаў і Раман.

Нінка яго то кідала аўтакалону, то зноў варочалася; была стала на работу ў буфет у сталовую, растрацілася, пайшла пасля ў дарожніцы, пахадзіла, кінула і сядзела, мусіць, дома. Толькі Раман не кідаў пілы: спачатку рэзаў лучком, тады стаў бензапілой, гэтай зімой перайшоў на электрапілу.

Летам кожную раніцу Раман ездзіў на веласіпедзе з нікеляванымі белымі абадамі з Найдорфа на ўчастак каля Андрэя. Абады блішчалі на сонцы на вуліцы за частаколам, аж сляпіла ад іх вочы. Пад'язджаючы да варот, Раман кожны раз, падняўшы галаву, глядзеў на двор і вітаўся з усімі...

У Рамана мёрлі дзеці: народзіцца і памрэ — і, можа, ад гэтага ён зрабіўся ціхі і працавіты, а пасля палучкі, бывала, многа піў.

Рамана ўнеслі тыя расхрыстаныя мужчыны, што ўносілі ложак. Падышлі да ложка, пастаялі, паклалі памалу Рамана з насілак наверх на засланыя простыняй дошкі, зноў стаялі і глядзелі на яго.

Раман стагнаў, ціха і цяжка, як натруджаны ў возе конь.

Адразу за імі прыйшоў доктар — малады, высокі, той, падобны на Унука, і прозвішча ў яго было падобнае на Унукава: Крук, і ўбегла сястра ў высокім каптуры — Жолудзь. Андрэй іх ужо ведаў. Доктар загадаў мужчынам пасунуць Рамана ў галовы. У Рамана зноў звісла з дошак галава, як з насілак, нізка, па маленькую белую падушачку, што ляжала ля самага брыжа на голых спружынах.



Іван Пташнікаў з Рыгорам Барадуліным,
сакратаром ЦК КПБ А. Т. Кузьміным і Барысам Сачанкам.
*Нарач, 1972 г.*



Іван Пташнікаў і Алесь Асіпенка (злева)
у адным з канструктарскіх бюро г. Мінска.
*1973 г.*

Расхрыстаныя мужчыны пайшлі з палаты; доктар стаў сам яшчэ больш убінтоўваць Раману шыю, асцярожна, мацаючы пальцамі; убінтоўваў доўга, акручваючы бінт і ля шыі, і ля галавы, чапляючы пасля за рукі пад пахамі, як усё роўна прывязваў галаву, каб яна не адарвалася. Сястра ў высокім каптуры стаяла ля яго, падняўшыся на пальчыках,— раскручвала ў яго пад рукамі шырокі белы бінт, як усё роўна палатно з трубкі. Раман стагнаў і кашляў; доктар тады падымаў на сястру галаву, і тая адразу выцірала Раману рот кавалкам парванага бінту; белыя ніткі цягнуліся ў яе за рукой і ў Рамана па шчацэ.

Пасля доктар мацаў дошкі і ногі ў Рамана; пастаяў, зірнуў здалёку на Андрэя — кінуў вачыма, выйшаў і адразу прывёў дзеўчынёху ў чорнай сукенцы і ў чырвонай крамнай хустцы. Загадаў ёй надзець халат — яна трымала яго перад сабой у дзве рукі, як вандзэлак. Дзеўчынёха не магла ніяк лучыць рукамі ў рукавы, і ёй памагла сястра ў высокім каптуры. Тады доктар пасадзіў дзеўчынёху на табурэтку ў галовах ля Раманавага ложка, паляпаў па плячы і пайшоў з палаты. З дзеўчынёхай асталася сястра — стаяла, нагнуўшыся над Раманам. Калі Раман стагнаў, яна брала чайнай лыжачкай ваду са шклянкі і падносіла яму.

— Глядзі, што я раблю, дзяўчына...— гаварыла яна моцна, на ўсю палату.— Будзеш паіць. І не плач, гэтым не паможаш... І многа не давай... Мачы вусны... І хустку адвяжы... Горача...

Калі сястра выйшла і дзеўчынёха ўстала з табурэткі — павярнулася тварам да Андрэя,— ён пазнаў яе. Гэта была Раманава сястра — Галя. Такая ж, як і ён, з доўгім, вузкім унізе тварам і ценкім носам з горбікам. Глядзела яна некуды пад сябе, як усё роўна нікога не бачыла.

Андрэй клікнуў яе, і яна спалохалася: пазнала па голасе.

— Дзе ж гэта яго дачка, га?..

Яна адразу заплакала і стала даваць Раману ваду з лыжачкі, разліваючы: у яе дрыжала рука. Раман стагнаў, аціхаў, тады зноў цяжка дыхаў і стагнаў.

— Зламаў... І спіну ў паясніцы зламаў, і шыю. Можа, і будзе жыць, пакуль мозг у спіне не высахне. Мозг у спіне, мусіць, разліўся... Я сама чула, як гаварыў той, што з Мінска... Аж з Мінска дактары прыляталі...— яна зноў заплакала і стала выціраць пальцамі вочы.

— Не гавары пры ім, дачка...

— Каб жа ён чуў... Ён, відаць, не чуе і нікога не пазнае. І нагамі не кратае... Толькі рукі яшчэ жывыя. І ўсё праз яе... Праз тую... Што ім — мала было? Гэтулькі ён палучаў...— яна, мусіць, гаварыла пра Раманаву жонку.— Пад сасну папаў... З пілой...

Раман застагнаў, і яна зноў заплакала. Пасля паднясла яму ў лыжачцы вады. Вада пацякла ў яго па шчацэ і закапала на падлогу. Раман сціснуў зубы. Яна заплакала яшчэ горш.

— І так ён будзе ляжаць... галаву адвесіўшы... пакуль шыя не зрасцецца... Ён жа крануцца не можа...— яна сціхла, не плакала. Стаяла і выцірала Раману шчокі хусткай.

«Не кончылася дабром для Рамана...— падумаў Андрэй.— Яно і не магло кончыцца... На адну сасну, выбраўшы, нахіляюць штук пяць-шэсць, колькі тая ўдзержыць, тады скідаюць яе з пня. Падаюць разам усе шэсць, ці колькі там... Спраўляйся толькі ўцячы. А Раман не ўцёк... За такое з лесу гнаць трэба, а ім яшчэ бензапілы ў рукі, прагрэсіўку, прэмію... Начальства крычыць на сходах за гэта, не дазваляе... Інжынеру шыю мыляць. Але ж у лесе над каркам у кожнага інжынер не будзе стаяць. Дабром не кончылася...»

Раман сціх, не стагнаў — заснуў. У палаце зрабілася ціха. Нагнулася да самага ложка Раманава сястра — грудзьмі. Андрэй бачыў, як у яе зліпаюцца вочы — не спала недзе ўсю ноч. На дварэ, выйшаўшы з-за страхі, ядрана свяціла сонца — ад яго ў палаце было бела. У галовах, за акном, былі чуваць галасы; недзе далёка гудзелі самалёты — несціхана, што ўсё роўна кіпела ў катле. Андрэй падумаў, што гэта шуміць у яго ў галаве. Плячо балела востра і суха, не перастаючы, нібы яго толькі ўчора параніла ў акопе пад Каменам. Нібы ён сядзіць у балоце на Паліку пад бамбёжкай галодны і ные і ные плячо — загнаілася і пачало пухнуць. І як тады выжыў? Рукалееў усё. Каб не Рукалееў... І каб не пайшлі адразу на прарыў на Беразіне...

Загаіўшыся, плячо не балела. І вясной, у апошнюю блакаду, і пасля вайны, калі ён рабіў у горадзе. Недзе аж да зімы, нешта з паўгода. Пасля зноў разбалелася, ужо на ўчастку: пачалі выходзіць асколкі. Паклалі былі ў раёне ў бальніцу. Летась зімой, пасля лася, зноў адняло́ся зусім плячо, але асколкі не пайшлі. Колькі іх там

яшчэ сядзіць?.. Як ідуць — маленькія, па макаваму зерню...

Пра мядзведзя ён не думаў. Ніхто ў яго і не пытаўся. Але цяпер ён успомніў яго раптам, калі ўбачыў Рамана і яго сястру са Мсціж...

Раман, мусіць, памрэ. Не будзе жыць. З-пад сасны, як з-пад мядзведзя, жывому цяжка вылезці. Летась Каюту з Вешак сукамі ўсяго распарола. Пажыў яшчэ трохі. І Раман пажыве...

Ён, Андрэй, можа, і будзе жыць, а Раман... Два разы ўжо, выходзіць, шанцуе яму, Андрэю: з-пад міны вылез і з-пад звера.

А Раман — ці вылезе з-пад сасны... Не пашэнціла яму. Хай бы жыў. Такі малады і дужы.

Калі Андрэй думаў, што Раман памрэ, яму больш думалася пра тое, што і сам ён ці будзе яшчэ жыць — невядома. І сам ён можа яшчэ памерці. Хаця яму ж зрабілі аперацыю... А як жа тады дома дачка? А хата? Як гэта — яго няма ў вёсцы? Усе ёсць, а яго няма...

Ён падумаў зноў, што і Раману ж зрабілі аперацыю, што і ў Рамана ж ёсць хата, жонка... Дзяцей толькі няма...

Раман памрэ... І жонка да яго не прыйшла. Сястра сядзіць ля ложка.

Кінула ўсё і сядзіць крукам. Сястра — не жонка. А якая гэта радня — жонка? Хаця якая сястра і якая жонка...

Раманава сястра не спала. Сядзела, заплюшчыўшы вочы і падпёршыся рукамі. Калі Раман пачынаў стагнаць, аж падскоквала ўся на табурэтцы, напужаная. Папраўляла, падымаючы, Раману рукі і гладзіла па лбе, ціхенька, асцярожна, аднымі пальцамі. Пасля абціскала ў сябе на плячах халат — ёй было холадна, зноў падпіралася рукамі і зводзіла вочы. Твар у яе асунуўся, стаў яшчэ даўжэйшы. Быў цёмны ад ранняга загару на ветры і, здавалася, яшчэ горш пацямнеў — можа, ад таго, што ў палаце было бела ад сонца. Чорныя валасы распляталіся з караткай тоўстай касы; вочы блішчалі ад слёз.

Андрэй аж здрыгануўся: калі Раманава сястра зводзіла вочы і апускала галаву, рабілася падобная на Верку... Недзе з ілба і з носа...

Яму зноў здалося, што ён недзе бачыў белыя дзверы з бліскучай ручкай і чорнай плямай ля яе... І ложак, шырокі нікеляваны, з нізкімі прамымі брыжамі — той, дзе

ляжаў Раман... І палата, вузкая і доўгая, і выбеленая бела, як дома печ перад святам.

Пасля яму здалося, што і ён сам быў ужо тут, сядзеў ля акна. А на ложку ў кутку, дзе ён ляжыць,— ляжала Верка, калі яе апошні раз завязлі з дому ў бальніцу...

Яму стала цяжка ў грудзях; на шчоках ля носа выступіў пот — ён выцер яго пальцам, асцярожна падняўшы здаровую руку. Падумаў: не можа такога быць — гэта ў бальніцы ўсе палаты роўныя, і дзверы ўсюды з бліскучымі ручкамі і з чорнымі плямамі: часта адчыняюць. Ды і ў палаце цяпер кладуць мужчын, а тады ляжалі тры бабы. Адна ў самым парозе, ля дзвярэй з плямай, другая — дзе цяпер ляжыць Раман, і ў самым кутку, тут, пад акном — Верка... Ён аж павярнуў галаву і паглядзеў на ложкі. Тры, у парозе адзін парожні, засцелены бела, і ў галовах дзве маленькія падушачкі — адна на адной. Дагэтуль ён яго не бачыў...

«Ну і што, калі тут цяпер кладуць мужчын...— падумаў ён пасля.— Мужчыны часцей трапляюць і пад сосны, і пад машыны. І кладуць іх дзе ёсць месца. Можа, цяпер з такой хваробай, як у Веркі, нікога ўжо і няма... Можа, гэта для той хваробы і была палата... Слабодная цяпер».

Андрэй зноў павярнуў галаву.

Раман ляжаў, адкінуўшыся на белую падушку, як неживы. З-пад бінта ў яго было відаць вуха, усё роўна як жоўтае. Жоўты быў і нос. Толькі на шчацэ гарэла пісяга, нібыта Раман прыйшоў у хату з марозу.

Ён доўга глядзеў Раману ў ногі на канцы дошак. Падумаў, што дошкі падклалі Раману пад спіну, каб не ўгіналася сетка.

У Рамана ў ложку старая сетка, нават знаць, як абвісла: многа на ім ляжала людзей.

Ён тады ўспомніў, што і ў Веркі ўгінаўся ложак. І сетка была расцягнута, якраз як пад Раманам...

Каб падняўся ды паглядзеў, падышоўшы да Рамана... З левага боку ў нагах павінен быць доўгі ржавы болт... Ён, Андрэй, укручваў яго тады ў жалезную шыну, нацягваючы сетку. Болт было заклініла — пайшоў наўкос, знаць недзе і свежыя сляды ад абцугоў, не паржавелі яшчэ...

Тады, калі ён, завёзшы Верку сюды ў бальніцу, прыехаў першы раз да яе праз тыдзень, Верцы стала лепей. Не балела нага. Толькі сама Верка высахла за тыя дні, зрабілася ўся белая, як цяпер Раман,— і лоб, і шчокі, і нос, і рукі... Вочы ў яе пабольшалі, сталі вялікія, чыстыя і бла-

кітныя, як неба,— што ўсё роўна чым вымытыя. Ніколі ў Веркі не было такіх вачэй — ён не помніў. І глядзела Верка яму проста ў вочы, недзе глыбака, аж у душу; сумна, са плачом, як усё роўна шкадавала і яго, Андрэя, і ўсё на свеце... Ад яе пагляду ў яго дрыжала ўсярэдзіне і падгіналіся ногі: Верка рабілася нейкая чужая.

Ён тады прысеў у яе ў нагах на ложку.

Верцы дрэнна было ляжаць. Пад ёй выцягвалася сетка, і Верка як усё роўна завальвалася. Прасіла яна і доктара, і сясцёр падняць сетку; нехта нават прыходзіў да яе ў палату з ключам у руках, але не даў рады, і Верка ляжала, як у яме. Яна прасіла цяпер яго, Андрэя, паправіць ложак. Ён прыехаў да яе яшчэ раз — назаўтра. Прывёз з сабой два ключы і пласкагубцы, новыя, яшчэ бліскучыя,— узяў у Падбярэцкага ў кузні.

Круціў за болт, адхінуўшы ў нагах на ложку матрас — новы, у сінія шырокія палосы, ён яшчэ пахнуў магазінам, круціў спачатку пласкагубцамі — было зручней, тады націскаў ключам. Болт ішоў у раму накасую, круціўся з піскам — рэзалася сухое жалеза, аж крошкі сыпаліся на падлогу. Андрэй укруціў яго чуць не да канца — было нават відаць, як нацягнулася сетка; націскаць больш пабаяўся.

Верка сядзела ў галовах, адсунуўшы да сцяны падушкі, і глядзела на яго сваімі чыстымі вачыма. Дзякавала, як усё роўна чужому, як бытта ён зрабіў ёй немаведама што, і ад гэтага сама рабілася што чужая — раней такога не было. Ён тады зноў аж уздрыгнуў. Яму не хацелася выходзіць з палаты, а Верка прасіла ехаць дамоў: і дачка, і хата, і карова адны. Ёй тут добра; было дрэнна, а цяпер ён падцягнуў сетку, і ёй добра ляжаць, не завальваецца. Яна прасіла яго прыехаць па нядзелі ў аўторак. Гаварыла і глядзела чыстымі вачыма... Ён добра помніць, што яна прасіла прыехаць у аўторак. І дачку прывезці — каб сабрацца ўсім... Ён зноў тады аж спужаўся: што яна гаворыць? Стаяў доўга ў парозе ля дзвярэй, а яна паказвала яму здалёку рукой — неяк смела і спрытна: ідзі. І глядзела ўсё на яго, як учапіўшыся сваімі чыстымі вачыма...

Выйшаўшы з бальніцы, ён доўга стаяў на двары. Не хацелася ісці адсюль, хоць забі.

Пайшоў ён, калі пачуў, як за бальніцай шумяць сосны: вечарэла, і ўсхадзіўся вецер.

Назаўтра раніцай пазванілі на ўчастак: Верка памерла. Ноччу. Ён паехаў — яна і памерла...

Чаму яна не далася рабіць аперацыю? Ён сам вінаваты — не настояў...

Аднялі б ёй нагу — вышчалукнулі бядро, як гаварыў тады хірург,— і Верка жыла б. Глядзела б яе дачка, і сам бы ён глядзеў. Работы хадзячай рабіць не магла б, але жыла б. Пабаялася аперацыі, а ён не настояў... Каму гэта хацелася астацца без нагі... Думалі, што вылечаць...

З ложка ў Рамана звесілася рука, і ён закратаў пальцамі. Андрэй раптам успомніў, што Раман гэтак іграў на гармоніку — у Мсціжах ён быў музыкантам. Пакладзе галаву на гармонік — рассыплюцца на рад доўгія светлыя валасы, іграе і пяе пад музыку, аж хата разлягаецца:

> Тана-тана — не смятана,
> Тана-тана — не тварог...
> Як увіджу я мілога —
> Уцякаю праз парог...

Раману прынянслі парашкі — прынясла сястра ў высокім каптуры.

Парашкі давалі і Верцы — апошні раз перад бальніцай... Выпісалі ёй тады, і ён ездзіў у аптэку аж два разы — ніяк усё не маглі зрабіць. Доктар сказаў прывезці Верку яшчэ раз праз дзесяць дзён. Верка лічыла дні па парашках: «Па парашочку тры разы ў дзень выпісалі... Кончацца — тады адвязеш мяне. Якраз трыццаць штучак...»

Ён падумаў: Верка наперад усё ведала, калі лічыла дні па парашках...

Раман выпіў парашок з лыжачкі. Стагнаў і ўсё кратаў пальцамі, як перабіраў па гузічках у гармоніку:

«Тана-тана — не смятана...» — стаяла ў Андрэя ў вушах.— «Вып'ю парашочкі — тады адвязеш мяне...»

Андрэй заплюшчыў вочы.

Паклаўшы галаву на гармонік, зноў закратаў недзе далёка пальцамі Раман. Тады паявілася Верка... Раман і Верка...

Рабілася цяжкая галава, зноў пачынала расці. Вачам не давала глядзець. Здаецца, учора ўжо такога не было...

«Тана-тана — не смятана...»

Раман пеў, паклаўшы галаву на гармонік. Рассыпаліся доўгія валасы, лучалі пад пальцы, і ён прыціскаў іх разам з белымі гузічкамі...

Раман, як жыў у Мсціжах, не пераехаўшы яшчэ ў Найдорф, кожную суботу іграў вечарынку і кожны раз пеў «Тана-тана...».

Гэта была даўняя вясковая песня. Яе пелі і калі Андрэй быў малы.

«Тана-тана...» — бегаюць па белых гузічках у Рамана пальцы... У Андрэя ў хаце за сталом, ля акна, пад ходзікамі...

У Веркі на белай сукенцы бліскучыя гузікі... Спераду, аж да пояса, гусценька, у радок, і ззаду, на каўняры ля шыі, маленькія зусім, як канапелькі. На галаве ў Веркі белы вэлюм. Яна падабрала яго, і ён вісіць у яе на лакці, прыціснуты...

За сталом ля акна — не Раман, а Сівец з Дзераўна са сваім вялікім белым гармонікам. Колькі тады Раману было, калі Андрэй жаніўся? Можа, стаяў дзе ў сенцах на вяселлі разам з дзяцьмі, а можа, і не...

«Тана-тана...» — за сталом пяе Сівец, расцягваючы гармонік.

— Расступісь!.. Для маладых... Дарро-огу!..— крычыць Падбярэцкі на ўсю хату. На вяселлі ён ад Верчынай радні.— Вальц! У нас усягды з вальца маладыя пачынаюць. Польку побаку, маць яе барабан... Трасціся будзеш пасля ўсю жызню...— Падбярэцкі быў п'яны.

З парога адразу паняслі на двор стол. Піхнулі ззаду ў сенцы два ўслончыкі — іх падхапілі на рукі дзеці. У хаце адразу параскашнела.

Яму з Веркай не было як выйсці з кута, і ім рассунулі сталы.

Музыканты сядзелі ля акна ад вуліцы пад самымі ходзікамі. Натапырыліся адразу; з куфра за стол перадалі на руках цымбалы — Жуку; Сівец сядзеў увесь час з гармонікам на каленях. На вяселлі ў Андрэя ігралі двое: Сівец з Дзераўна і Жук з Краснага...

Сівец — высокі, вышэй усіх за сталом, шырокі ў плячах, з белымі валасамі, белы з твару, і гарэлка не брала — адразу расцягнуў гармонік на ўсе рукі, дзе толькі і месца знайшлося. Адхінуўся да сцяны, каб пакласці на каленях цымбалы, маленькі, чорненькі, кучаравы Жук з Краснага. Ён быў круглы з твару, падбародак і маленькі нос у яго задзёрліся ўгару, як і ад цымбалаў кручкі, якімі ён біў па струнах — сыпаў, што гарохам, як чортведама дзе выўчыўшыся.

Звінела ў вушах, і не было чуваць, як у хаце гаварылі людзі.

Андрэй ішоў наперадзе, ведучы Верку за руку на ся-

рэдзіну хаты, як і кожны раз на вечарынцы, калі хадзіў да яе ў Вейна.

Лёгка круціць вальс — няёмка толькі неяк, што ў сваёй хаце і глядзяць усе на іх на адных. У Веркі блішчаць вочы, яна ўтаропілася адно на яго, усё роўна як чаго баючыся,— мусіць, ён шыбка круціў, а яна стамілася і за дарогу, і за «маршы» за сталом; блішчаць гузікі ў яе спераду на сукенцы пад вэлюмам; бліскае пасуда на стале — белыя талеркі і сінія ад агню бутэлькі з гарэлкай; блішчыць гармонік на каленях у Сіўца, і пераліваюцца агнём чорныя шыбы ў вокнах. Пасля пачынаюць круціцца ззаду за імі, як даганяючы. Бягуць доўгай шырокай паласой па ўсёй сцяне, знікаючы ў парозе з воч. Круцяцца дзве новыя лямпы з чыста вычышчанымі шкелкамі, паднятыя высака на дроце, аж пад бэльку, каб іх не зачапілі галовамі,— ляцяць немаведама куды разам з жоўтымі, шырокімі, як растапыраныя матылі, агнямі; круціцца лабатая, выбеленая нядаўна і закопчаная ўжо спераду печ; лётае зубатая чорная паласа на чалесніку, як адламаны кавалак пілы з няроўнымі зубамі — малымі і вялікімі; лётаюць суднік з пасудай, цыбуля высака на шастку ў парозе пад бэлькай; лётаюць ходзікі на сцяне над музыкантамі — даўно не падцягвалі гіру, як селі за стол, і яна дастае Сіўцу аж да галавы; круцяцца, як бегучы адзін за адным, і сталы, і лавы, і людзі... Белыя рубашкі і сукенкі зліваюцца ў адно з белымі абрусамі ў шырокую паласу. Здаецца, што гэта круціцца за фермай ля Лазы на полі грэчка на цвеце, калі едзеш у лес, паганяючы каня...

Ён не помніць, куды каго садзілі, і цяпер нікога за сталом не пазнае.

— Давай, маладыя!.. Каб век зналі!..

Падбярэцкага нідзе не відаць, чуваць толькі, як ён крычыць недзе з кутка, адкуль выносілі стол.

Круціцца пад нагамі падлога... Верка ўчапілася за яго ў дзве рукі...

Людзі ўстаюць з-за стала. Расчынілі дзверы на двор. З сяней па падлозе пакаціўся белы, як воўна, мароз. Закруціўся разам па хаце.

— Польку! Маладыя памерзнуць!.. Зэдлікі, зэдлікі пад сталы... Полька для ўсіх!..— Падбярэцкі ішоў у круг, Андрэй ніяк не мог пазнаць з кім, мусіць, з Балютай: чуваць быў у крузе яе голас. За імі ляпіліся пары — адна за адной.

Сівец скалыхнуўся за сталом, дастаўшы галавой гіру

ад ходзікаў, і рвануў гармонік; паказаў пасля белыя зубы, як быў нечага рады. Жук падняў угару заціснутыя між пальцаў кручкі, угнуў шыю, тады сыпануў па цымбалах, як градам...

Застагнала падлога. Белая пара ад марозу, здалося, пакацілася назад, у сенцы...

— За маладымі!.. У шнурок! Танцы да ўпаду!..— Андрэй не разабраў, хто камандаваў: Падбярэцкі ці хто другі.

Яны адразу пайшлі ў польку, лёгка, як і кожны раз,— толькі Верка паклала яму абедзве рукі на плечы...

Падскоквалі ўгару лямпы пад столлю і цёмныя шыбы ў вокнах ад вуліцы... Затросся за сталом высокі Сівец і здрабнеў, уцягнуўшы зусім галаву ў плечы, маленькі Жук, здавалася, растрасецца на клёпкі разам з цымбаламі і яго не збярэш...

Падскоквалі ўгару сталы, падскоквалі людзі на лавах, што не справіліся вылезці на хату, падскоквала печ у парозе ў кутку, расчыненыя насцеж дзверы і дзеці ля дзвярэй — панаходзілі з усёй вёскі і цісནуліся ў хату ад марозу.

Тра-та-та...— білі ногі ў цяжкіх ботах з падковамі. Ад ботаў ішоў звон: у хаце была добрая падлога, ляжала высака на легарах. У крузе адразу стала цесна. Зрабілася горача, з валасоў капнуў на шчокі цёплы пот — што ўсё роўна ён, Андрэй, на балоце пад Жоглаўкай нёс вязку з сенам і на твар з альшэвіны пырснула раса...

Лёгка, вунь як лёгка ішла польку Верка — здавалася, ніколі так і не хадзіла на вечарынках. Ён трымаў цяпер яе ў дзве рукі за стан і чуў, як яна аж кратаецца ўся, як усё роўна вырываецца ад яго і не можа вырвацца. Ён глянуў ёй у вочы — яны былі глыбокія і чыстыя і ўсміхнуліся яму сарамліва, як і тады, калі Андрэй аставаўся з ёй адзін. Верка, здалося, не любіць, што поўна людзей,— узялі лепш бы ды разышліся.

Белы вэлюм акруціўся ў яе ля шыі, схаваўшы бліскучыя белыя гузічкі. Блішчалі цяпер толькі вочы...

Верка яшчэ калыхала галавой, з боку — на бок. Ён пачуў, што іх пачынаюць тоўхаць, што і сам тоўхае Верку. Яны лучалі калена ў калена; калені ў яе былі цвёрдыя і пругкія, і ад гэтага яму рабілася горача і ў яго падгіналіся ногі.

Гармонік быў аціх, тады зазвінеў нанава: ля сцяны пад ходзікамі падняўся Сівец і зайграў стоячы. Жук паклаў

цымбалы на стол і сагнуўся над імі ў тры пагібелі. Ад цымбалаў, здалося, падняўся дым... Па іх забегалі кручкі, як дождж летам па лужыне ля ганка...

Сіўцу было цесна. Калі ён расцягваў гармонік — ад яго за сталом адсоўваліся людзі.

Спрадвечная ў Мсціжах полька — яе звалі цяпер «Сіўцавай полькай» — пасыпалася ва ўсе куткі.

Бразнула на падаконнік шкло, зазвінела на падлозе пад сталом — нехта высадзіў шыбіну ў падвойным акне. Людзі ціснуліся да сцен — у крузе было цесна. «Сіўцаву польку» ішлі ўсе, хто ўмеў і хто не ўмеў.

Андрэй глядзеў, як ягонай маці, худой, ценкай і прыгорбленай — яна была ў цёмнай сукенцы, на плячах у яе ляжала жоўтая хустка ў дробныя кветы — перадаў нехта са стала вялікую сінюю міску хрушчоў, накладзеную з коптарам. Хрушчы былі памочаны ў цёртым тварагу і зверху пасыпаны цукрам. Маці нясла міску ў сенцы — раздаваць хрушчы дзецям: так у вёсцы рабілася спрадвеку. Маці ішла, дзержачы міску ў адной руцэ, і азіралася на іх, па Андрэя і Верку ў крузе, як нешта хочучы сказаць.

— Бальшанкі! Бальшанкі!.. Не павярнуцца за вамі... Хлопцаў не хапае, што адна адну топчаце... Не лезьце на маладых...

— Га-га-га...

Тра-та-та....— стагнала, не сціхаючы, хата. Стукалі і стукалі нагамі ў парозе сваты з Вейна, павыганяўшы дзяцей у сенцы. Здавалася, зыбаецца пад нагамі падлога, што зямля на балоце.

Ад цымбалаў звінела ўвушшу; зрабілася горача, і пачынала круціцца ў галаве. Смяглі вусны, хацелася піць.

Сівец цяпер за сталом ля сцяны даставаў галавой аж да ходзікаў. Андрэй убачыў, што ходзікі сталі.

Раптам ён пачуў, як у яго на руках абвяла Верка — ён чуць устояў — і пачала спаўзаць уніз: у яе згіналіся ў каленях ногі. Ён не ведаў, што рабіць, падхапіў яе спопаразку пад пахі, як стармаснуў усё роўна — яна апомнілася, выпрасталася і наступіла яму на ногі. Ён спатыкнуўся, і яны паляцелі вобземлю — у тым месцы, адкуль нядаўна вынеслі стол: Верка падніз, ён — наверх, бо дзяржаў яе пад пахі, нагнуўшыся...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— ...Павярніцеся на бачок...— пачуў ён, як загаварылі над ім. Ён адплюшчыў вочы — ля ложка стаяла сястра ў

белым — маладая, тоўстая дзеўчынёха з ладнай мушкай ля носа.— Учора вы самі паварачваліся. Я ўжо шпрыц набрала...

Сястра стаяла ў нагах, падняўшы руку. У руцэ ў яе бліснула шкло.

Прыйшлі даваць уколы...

Калі сястра адышлася, яму зрабілася блага. Закруцілася-закруцілася ў галаве і страсанула ад холаду. Ён зноў павярнуўся на спіну.

Ляжаў і думаў, што Верцы тады стала дрэнна, бо яна насіла ўжо дачку. Ніхто не знаў, а ён знаў. Ён вінаваты: знаючы, гэтулькі круціў у духаце, як дапаўшы.

Думаў, што не помніць добра свайго вяселля. Верка лепш помніла. Помніла, што і куфар вязлі ў той дзень на санях наперадзе і паламалі сані; помніла, як і ходзікі зваліліся са сцяны — іх скінуў галавой Сівец, ужо калі яна з ім, Андрэем, устала з падлогі. Верка ўсё помніла...

Пасля ён падумаў, што гэта быў дрэнны знак — паляцець вобземлю на вяселлі...

Шарэла. У палаце яшчэ не палілі агню.

Падварочвала пад грудзі, і пачыналі гарэць шчокі. Раманаў ложак зрабіўся малы-малы і адсунуўся недзе далёка, як у канец вуліцы ў вёсцы. Яго як усё роўна хавала дымам. Гэта ў некага ў тым канцы палілася ў печы і па вуліцы слаўся дым — на змены.

Вечарам Андрэю зноў стала горай...

## 11

Праз акно было відаць, што на стрэхах ляжыць снег. І на бальніцы, і на дзвюх далёкіх — аж ля дарогі — доўгіх, як пуні, хатах.

У палаце зрабілася бела, як усё роўна выбелілі за ноч нанава, і Андрэй падумаў, што ён, мусіць, прачнуўся ад віднаты, бо яшчэ рана, не чуваць, каб хадзілі ў калідоры.

Зрабілася неяк лёгка ўсяму: устаў бы і пайшоў... Абапёршыся на локаць, ён падцягнуўся на ложку ў галовы і прыхінуўся да брыжа. Аддыхаўшыся, паволі спусціў з ложка ногі, паклаўшы ўбінтаваную руку на калена. Рука была цяжкая, што бярно, і, здавалася, чужая.

Пачало torгаць глыбака ў плячы, і ён падклаў пад убінтаваную руку кулак.

Раман ляжаў як пласт. З табурэткі, згорбіўшыся, нагнулася галавой яму ў ногі яго сястра. Спала; храпла ці-

ха, як саслабшы,— здавалася, пяе курню кот. Развязаўся ззаду на плячах у яе халат — віселі белыя матузкі, і з-пад яго вытыркалася вострая худая спіна: знаць былі пасярэдзіне костачкі, нібы пад сукенкай у яе ляжала ў радок па арэху.

Андрэй сядзеў на ложку бачком, і акно было ў яго якраз перад вачыма. Ён зглецзеў, што яно трасецца, як у кага ў руках, і ўсё шэрае. І на дварэ за акном шэра. Тады здагадаўся, што ідзе снег. Ішоў недзе і ўсю ноч — гэтулькі наваліла на страху, што зімой.

«Май — каню дай, сам на печ уцякай»,— падумаў ён.

Пасля доўга цёр вочы — рэзаліся ад віднаты, тады зноў пачаў глядзець у акно. Стала холадна ў плечы, але ён не хацеў кратацца, каб акрыцца.

Наляцеў вецер, і цяпер добра было відаць, як на дварэ мітусіцца цяжкі, па лапцю, белы снег — ляціць наўкос, круціцца ля самых шыб і ціха падае ўніз на зямлю.

Яснее неба — снег адразу драбнее, пасля зноў пачынае ісці па лапцю. Адлятае ад шыб; на шкле астаюцца толькі маленькія кропелькі вады, як ад імжы ўвосень. Свежыя, чыстыя, яны блішчаць, што летам раса высака па мятліцы на лагу за плотам. Ядраныя, халодныя і здаровыя, як лёд.

Здалося, што і сам зусім ужо здаровы — як і перш...

Выйдзе зараз дома на двор, устаўшы на ногі, і будзе расчышчаць ад парога да хлева сцежку: раскопваць снег шырокай драўлянай лапатай, на якой Верка, пекучы хлеб, насіла буханкі ў печ на под.

Так Андрэй рабіў кожную додніцу зімой, калі на двары было яшчэ цёмна і толькі што ўстала Верка, узбудзіўшы яго.

...Лёгка стала ўсяму. Ён пачуў, што і ногі ў яго сталі раптам цвёрдыя, і здаровая рука зрабілася пругкая, зусім не дрыжыць, як дагэтуль.

Ён апёрся ёю на брыж і стаў нагамі на падлогу...

Угледзеў праз акно, што на дварэ бела ад снегу, што снег ляжыць і на бярозах ля акна, на лісці — наліп камякамі, ад яго абвісла голле і не кратаецца ад ветру.

Закруцілася ў галаве, падкасіліся ногі, і зрабілася блага... Добра, што не выпусціў з рукі брыжа і не ступіў да акна.

Ён асунуўся на ложак.

Прачнулася Раманава сястра, падскочыўшы на табурэтцы,— мусіць, ён узбудзіў. Лыпала доўга вачыма, гле-

дзячы на Рамана, тады пачала папраўляць у яго ля рукі простыню.

Андрэй цяпер не глядзеў на яе. Ляжаў і думаў, што яшчэ зусім слабы, раз не можа пайсці. Ад снегу, мусіць, яму здалося, што ён можа цвёрда стаяць на нагах. З ім так рабілася, калі на пачатку зімы ішоў снег. Ён тады нешто ўсё роўна нанава ажываў. Здавалася, мянялася нешта ўнутры. «Мусіць, і чалавека мяняе зіма, як і звера ў лесе...»

Ён успомніў, што сёння дваццатае мая, што на двары ніякая не зіма, а зялёнае лісце і даўно ўжо цвіце яблыня.

Прападзе многа лесу... Старое, у дуплах дрэва з лісцем крышыцца ад снегу, як ад перуна. Адвіхаюцца ў бярозы і ў вольхі сукі; шчапаюцца надвае ралы. Нагнутыя да зямлі асіны выварочваюцца з карэннем. Будзе сёлета вываратак...

Яшчэ горш маладняку. Бярэзнік сагне ў дугу — пакалечыць. Дрэва тады ўстае ўсё жыццё, некаторае так і не ўстане...

Ён зноў узяўся за брыж здаровай рукой і адразу стаў на ногі. Учора яму сказалі вучыцца хадзіць. Учора ён зусім не мог.

Да акна ён дайшоў. Ступіў, нагнуўшыся ўперад, і дайшоў. Абапёрся рукой на падаконнік, тады ўзлёг усім бокам.

На бярозе за акном раставаў снег, і з лісця капала вада. Вада пачала капаць і са страхі. Было чуваць, як кроплі лучаюць на зямлі па нечым цвёрдым. Тук, тук, тук...— стукае, не сціхаючы, што капытамі коні на ўчастку, калі іх выпусціш адразу ўсіх з канюшні.

Холадна ў лоб ад шкла: стаіш, прыхінуўшыся да шыбіны. А снег ідзе, і ад яго мітусіцца ў вачах зямля. Снег зноў густы, па атопку. Вісіць доўга ўгары проці акна, кружыцца на адным месцы, павалі, ціха і спакойна, як чыя добрая доля,— здаецца, ніколі не ўпадзе на благую ад гразі зямлю. Побач, на рог страхі, ён падае наўкос адразу ўніз, як у вір галавой. Вецер нясе яго немаведама куды.

Снег ідзе і растае. На страсе блішчаць шырокія палосы, як мокрыя барозны на полі...

Пад снегам цяжка стаяць дрэвы — не чуюць ветру. На двары знаць чорныя, у рубцах, дарожкі ад машыны. Відаць на рог дому, пад ганак, і крыты «газік». Ля яго мітусяцца людзі ў белых халатах. Некага, мусіць, прывязлі ў бальніцу.

Ён згледзеў раптам, што і машына, і людзі ля яе, і белы двор з рубцаватымі чорнымі дарожкамі пачынаюць круціцца — едуць некуды да шашы, дзе відаць дзве доўгія хаты, як пуні. Пасля закруціліся бярозы, страха з барознамі і акно... Ён падумаў спачатку, што гэта ад снегу — плыве ў такой мітусяніне ўсё на свеце невядома куды...

Зазвінела раптам у галаве, недзе ў патыліцы. Яму здалося адразу, што разбілася шыба ў акне — крануў локцем. Зашумела ў вушах, скалыхнуўся пад рукой белы падаконнік...

Ён хацеў быў яшчэ злавіць здаровай рукой бліскучую ручку ў акне, але яна раптам падскочыла высака ўгару...

Падаючы, ён пачуў, як закрычала Раманава сястра, і падумаў яшчэ, што не трэба было падыходзіць да акна: ад снегу круціцца ўсё на свеце...

Пасля палудня яму адразу стала лепш, і ён зноў навабыўся стаць на ногі. Чорт не возьме: гэтак збрыдла ляжаць, а што закруцілася ў галаве, дык доктар, падзяржаўшы раніцай за руку — лічыў пульс, сказаў, што ў галаве будзе круціцца доўга, добра яшчэ, калі яна не стане балець.

— Залежаўся, брат. Вучыцца хадзіць трэба,— кіўнуў пасля доктар і больш на яго не глядзеў. Сеў на табурэтку ля Рамана.

Снег на двары растаў. Пад'яснілася неба, але сонца не было відаць. Андрэй чуў, як дзьмуў шалёны вецер, упіраючыся ў акно, што ўсё роўна дужымі рукамі. Недзе блізка на двары ганяў адчыненую фортачку; яна бразгала аб раму і звінела.

На двары недзе раўлі, не сціхаючы, машыны — мусіць, на шашы. Ля доўгіх хат былі відаць аж з ложка белыя ў цвеце яблыні. Ля іх мужчыны капалі ямы, махаючы рыдлёўкамі: ставілі белыя слупкі. Ля ямак на зялёнай траве жаўцеў плямамі пясок. Ля яго бегалі адно за адным дзеці — скакалі цераз нацягнутую вяровачку — Андрэй яе добра бачыў: белая. За яе ўчапіліся дзяўчаткі, цыбатыя, з яго Вольку. Вецер кудлаціў у іх на галовах валасы.

Захацелася зноў пайсці да акна, і ён бы пайшоў, але скрыпнулі дзверы, працяжна і сіпата, і Андрэй аж крутнуў галавой: здалося, пачуў Вулеў голас.

— Здароў, Вялічка. Ну, што спужаўся? — гаварыў Вуля, стоячы ля самых дзвярэй і думаючы, мусіць, што яго

не чуюць. Андрэй глядзеў на Вулю як не пазнаючы — не паверыў спачатку. Вуля ўсё стаяў у парозе з чорным, абшмальцаваным аб халявы старым вялікім скураным партфелем, з якім ён прыязджаў кожны раз у кантору на ўчастак выдаваць зарплату, у кароценькім, да калень, і цесным, з нечых вузкіх плеч, белым халаце. Чорную вялікую кепку ён сціснуў у другой руцэ, і здалёку блішчала яго ладнаватая лысіна між сівых, прыкладзеных гусценька ля вушэй, валасоў.

— Ну, здароў, Вялічка... Не пазнаеш?.. Багаты памру...— Вуля гаварыў сіпата, нібы ў яго балела горла.— Не пускалі нешта сягоння, доўга прасіў. А чаму не пускалі, не знаеш? — Вуля як усё роўна спаганяў на Круку злосць, падыходзячы да ложка.— Я ім сказаў, што хоць я і стары дурань, але ім яшчэ згаджуся. Паслухалі... Ну, я ім і яшчэ нешта сказаў... Хірым ёсць хірым. І там,— кіўнуў ён галавой на акно,— і тут, у бальніцы. Кажуць, прыйдзеш заўтра ці паслязаўтра... А дзе яно ў мяне, тое заўтра, калі па горла работы? Дык чаму да цябе сёння не пускалі? Хаця я стары дурань... Мог дагэтуль не адзін раз зайсці, жывучы побач, і знаць, калі да цябе пускаюць, а калі не. Не чакаць, пакуль хто напомніць. Ну, як жывеш?..

Вуля падышоў, паклаў на падаконнік партфель, не гледзячы, кінуў наверх на яго кепку і падаў Андрэю руку. Рука ў яго была халодная, як лёд. Пасля адвярнуўся і доўга глядзеў на пусты Раманаў ложак, ківаючы галавой,— ведаў, мусіць, пра Рамана ўсё, Вуля ўсягды ўсё ведаў.

— Павязлі на аперацыю ў сталіцу, знаю,— сказаў ён.— Да чаго дажыў чалавек. На самалёце возяць. Гадзіну назад самалёт на полі ля ваеннага гарадка садзіўся. Ужо недзе там... Я пытаўся, ідучы да цябе, у Крука... На шыі, кажа, зрастаюцца пазваночкі... А сярэдзіна... Спінны мозг — на нітачцы. А што такое нітачка, ты знаеш, Вялічка? Ты знаеш, што такое нітачка?.. Ой, як дарма мэнчыцца хлапец. Нітачка перасохне... Перасохне нітачка, і... А яго я знаю. Дужы хлопец быў і многа рваў. У мяне ён ішоў кожную ведамасць з прагрэсіўкай... Знаю я, як яны план рвуць. Каб у Вулі грошай больш узяць з партфеля,— паказаў ён рукой на акно.— Дык у Вулі грошай шмат. Усіх не забярэш. А забярэш — Вуля зноў возьме ў банку. Дык што, праз грошы галаву пад камель?..

Вуля азіраўся, шукаў, дзе сесці. Тады падышоў, пры-

няў ад Раманавага ложка табурэтку і паднёс, паставіў ля акна. Сеў і доўга глядзеў Андрэю ў вочы. Андрэй падумаў, што Вуля, чыста выгалены і нядаўна стрыгся, пахудзеў нечага за гэты час, памаладзеў: упалі шчокі і вытыркнуўся яшчэ больш доўгі, праз увесь твар, нос. Вуля сядзеў, адхінуўшыся да падаконніка і выставіўшы ўперад ногі. Андрэй зглелзеў, што на боты ў яго наліпла гразі, высака, аж на халявах. Гразь яшчэ не высахла — Вуля, мусіць, нядаўна вылез з машыны — і цяпер, чарсцвеючы, адстае дробненькімі друзалачкамі і падае з халяў на падлогу. На ботах ля самых калень разам з пяском прыкарэла жоўтае сасновае шыллё: Вуля нядаўна хадзіў па лесе, вазіў недзе зарплату рабочым у дзялянку...

У Андрэя аж заныла ў грудзях — захацелася дамоў... Выйшаў бы, здаецца, на дарогу і пайшоў без аглядкі...

— Ну, што, Вялічка? Жыў астаўся?.. Што так глядзіш? Дзівішся, відаць, што я прыйшоў. Ляжыш ты тут...— Вуля падумаў,— заўтра будзе два месяцы... І ляжыш у мяне пад бокам. Ты разумны чалавек. Падумай, што людзі скажуць. І грошы твае ляжаць за паўмесяца, няма каму палучыць. Была б баба... Не буду пра гэта, памаўчу.— Вуля аціх, як усё роўна спалохаўся, што так сказаў.— А ты, брат...— патрос ён галавой.— Герой знайшоўся. Я сваёй мазгаўнёй так падумаў: не на мядзведзя ты пайшоў. На Унука ты пайшоў. Ты думаеш, што ты ведаеш усё. А ты, як у нас у канторы гаворыць Кац, ведаеш усё, але трошачкі не ўсё... Ты разумны чалавек, Вялічка, і табе я кажу гэта прама... На Унука ты пайшоў... Сваё дахаваць хацеў. Быў бы цішэй — спісалі б адразу таго каня. Колькі іх дохла і будзе дохнуць... Палез ты на ражон...— Вуля зноў аціх, як усё роўна перадыхнуў. Устаў, нагнуўся над ложкам.— Ну, як рука? Віджу, кратаеш. Што ўздыхаеш?

— Чужая болька нікому не баліць...— Андрэй падцягнуў простыню і накрыў спераду ногі.— Ці наверсе яна, ці ўсярэдзіне... Дзякуй, што зайшоўся... Ка мне цяпер і хадзіць няма каму, калі няма бабы... Адляжаў гэтулькі. Устаю ўжо. Скора выпішуць. Чалавек жывучы, што кот...

Андрэй гаварыў і чуў, што яму карціць схавацца ўсяму пад простыню. Нашто, каб чужы чалавек глядзеў на яго больку. Што тут гаварыць: прынёс зарплату, аддай і ідзі. Андрэй падумаў, што ніколі яму не давялося гаварыць з Вулем. Падыдзеш два разы ў месяц да стала ў канторы ці да «казла» ў дзялянцы, дзе сядзіць Вуля з веда-

масцю, распішашся і — будзь здароў. Бывае, што Вуля на цябе і не глядзіць — водзіць толькі пальцам у графе, каб ты распісаўся на сваім месцы, не залез у чужыя лінейкі. Вулю трэба закрыць ведамасць — і ўсё. Яшчэ — каб сышлося капейка ў капейку. Дзе там сышлося... Рабочыя ніколі не бралі ў Вулі капеек... Сціснуць паперкі ў руцэ — і ў кішаню... Няёмка браць капейкі, палучаючы вялікія грошы. Вуля сваё меў. Не ездзіў бы з партфелем у машыне і ў дзялянкі, і за дзялянкі — колькі там той зарплаты ў касіра — дзеля таго толькі, што яго любяць рабочыя. Вуля, кажуць,— праўда ці не — зноў пачаў будавацца — заклаў дом аж у горадзе. Пасынку. На сельгаспасёлку. Са шлаку. Вуля не промах. Пра што з ім можна гаварыць? Ён — сабе, Андрэй — сабе. Вуля і за Унука гарой. Свой жа дом летась толькі кончыў, «каб было куды пайсці на пенсію». Недалёка ад бальніцы пабудаваўся. У сосніку пад рэчку. Дом на нямецкі вугал, шыферам крыты, вялікі, як кантора на ўчастку.

Так думаў пра Вулю Андрэй, пакуль той сядзеў ля акна ў палаце і маўчаў. Але як ты будзеш пра яго дрэнна думаць? Прыйшоў жа чалавек. Прывеціць трэба... Падбярэцкі ж ні разу не здагадаўся прыйсці, а Вуля прыйшоў.

Вуля пакратаўся на табурэтцы і зноў маўчаў. Пасля загаварыў, ціха, зусім асіпшы:

— Чужая болька, праўда, нікому не баліць... Ты, Вялічка, якраз гаворыш, што трэба. Але ты разумны чалавек і знаеш, што ў кожнага свая болька. У кожнага свая... Ты, можа, думаеш, што ў Вулі дык нічога ўжо і не баліць, адзін толькі гастрыт. Што яму — завёз грошы на дырэктарскім «казле» ў дзялянку — і дамоў. Тапаром у лесе махаць не трэба. Ні па снезе, ні па дажджы... Ведаеш ты ўсё, але трошачкі не ўсё, як гаворыць Кац. Ты ж знаеш, што ў мяне з сям'ёй? Чуў, што яе ўсю спалілі немцы?.. Вот тут, цераз дарогу, ляжаць разам з местачковымі яўрэямі — пад плітой... І жонка, і дзеці... Двое сыноў, як дунаёў. Кожны дзень я тут хаджу і езджу. Кожны дзень на вачах. Думаеш, мне лёгка, думаеш, мне не баліць?.. Ты, Вялічка, разумны чалавек... Прыйшоў я да цябе толькі прынясці грошы. Але ты тут адзін, і я табе раскажу ўсё, як было. Пра сваю больку я ніколі нікому не расказваю. Расказаў толькі раз Мані — другой жонцы, і мы больш пра гэта не ўспамінаем. Маня ў мяне разумная. Дзеці навот нашы — цяпер яны нашы, а ты ведаеш, што гэта Маніны хлопцы: Бора Бальшой і Бора Ма́лы — пра гэта не

пытаюцца. Можа, і знаюць, ад людзей не схаваешся, людзі ведаюць, але мы ім не расказвалі, ні я, ні Маня, і яны пра гэта маўчаць.

Вуля адвярнуўся, паправіў на акне кепку, падсунуў з партфелем бліжэй да сябе. На кепцы, на брылі, віселі кроплі густой цёмнай вады. Раніцай пасля снегу ішоў дождж, і Вуля недзе добра вымак. Пасля Вуля пакратаў плячыма, усё адно як яму стала холадна, і загаварыў, пацёршы рукой па шчацэ:

— Я ведаю. Ты думаеш, што Унук паслаў цябе на ражон? Добра. Калі так думаеш — лягчэй тады самому. І здаравець лягчэй. Але Унук цябе на ражон не гнаў. Ты сам палез — пра сябе не падумаў. А пра сябе трэба думаць самому. Ведаеш, што я табе скажу, Вялічка... Каб я пра сябе не падумаў — не таптаў бы зямлі. Скулу. Але лепш бы я пра сябе не думаў. Ты, Вялічка, разумны чалавек... Калі я тады пабег з калёс і па мне стралялі... што, у мяне не балела сэрца? У мяне былі хлопцы, як і ў Мані, двое. Аднаму сем, другому шэсць. І яны крычалі: «Татка, вярніся!..» Г-э-э-э... У цябе ёсць дзіця, і ты ведаеш, што такое любіць дзяцей. А як я любіў сваіх хлопцаў...

Тады мы яшчэ не верылі, што з намі гэта будзе. Прыйшлі немцы — не ўсюды адразу білі яўрэяў. Ты ж ведаеш, што я да вайны быў дырэктарам лесапілкі ў Востраве. Немцы спачатку нас у Востраве не зачапілі... Можа, з месяц, ці што. Пасля ўжо, калі паліцыі набралі... Чаму так гавару? Бо добра помню аднаго паліцая. Была якраз нядзеля — я помню, усё помню. Прыйшлі, сказалі збірацца — павязуць у раён. Сюды во, за дарогу, вязлі,— Вуля зноў кіўнуў у акно.— Думаеш, мы і тады верылі, што нас паб'юць? Ведалі і не верылі. Каму гэта хочацца верыць, што заўтра памрэш... Нас было аж дзесяць падвод. Усе востраўскія, да аднаго. Калі прыйшлі немцы, з Вострава ніхто не ўцякаў. Усе асталіся. Усіх і вязлі на падводах. Мы ехалі — сядзелі на калёсах, а яны ішлі па баках. Іх было аж шэсць чалавек. Я помню. Гаварыць нам не давалі, і мы ехалі ціха, як усё роўна вязлі нябожчыка... Думаеш, я не ведаў, куды мы едзем?.. Грукаюць па камені калёсы, на шклунках сядзяць нашы бабы ў хустках і дзеці. І на іх свеціць сонца. Проста, во так во, як усягды... І на зямлю, і на падводы, і дзецям у вочы. І вочы ў іх блішчаць — дзеці закрываюцца рукамі ад сонца, і валасы ім на галоўках гладзяць маткі. І хлопцы мае ў мяне на каленях сядзяць. На адным і на другім. І я ўзяў меншага пад

пашкі... Думаеш, што я не называю па імені ні сваіх хлопцаў, ні першай жонкі, дык я на іх і забыўся?.. Яны ў мяне ў вачах стаяць кожную мінуту. Я іх часта клічу, шапчу сам сабе... Але пра гэта не ведае Маня. Нашто ёй гэта знаць. Хаця яна ўсё відзіць наскрозь, і ў яе забілі мужыка. І ў яе ёсць дзеці, яна ведае, што такое дзеці... Дзеці на возе... На якім возе... Скаціны шкода, калі яе гоняць на бойню. А тут вязуць дзяцей... І конь храпе, махае хвастом, дастае аж мне па руцэ шорсткімі валасамі, а я дзяржу рукой пад пашкі сваійго меншага. Аж цяпер рука гарыць, здаецца, у тым месцы, дзе сцёбаў хвастом конь... Паліцай ідзе збоку з вінтоўкай на плячы, каўнер сівы гладзіць і да маёй жонкі ўсё чапляецца... Уехалі мы ў лес, за Вешкамі ўжо... Паліцай, што ішоў ля нашых калёс, зняў з плячэй вінтоўку... І другія пазнімалі. Загаласілі на возе бабы. Ніхто ж не знаў, што было загадана ўсіх нас звезці ў раён, нам жа не гаварылі. Мы думалі, што вязуць за Вешкі ў соснік.

Калі яны пазнімалі вінтоўкі — баяліся, мусіць, што ў лесе мы разбяжымся,— мая жонка забрала ў мяне дзяцей. Я іх аддаў. Яна адразу прытуліла меншага да сябе... Чаму яна так зрабіла, чаму забрала ў мяне дзяцей, я і па гэты дзень не дадумаўся — як усё роўна рукі мне развязала. Хай бы яна лепш не брала іх у мяне з калень. Э-э-э... Ты не ведаеш, як я любіў жонку і як яна мяне любіла...

Паліцай з вінтоўкай у руцэ не адыходзіцца ад воза. Зноў чэпіцца да жонкі. Крычаць пачынае на ўвесь лес, дзяцей папужаў — заплакалі. А тут яшчэ калёсы на каменне ўз'ехалі, гручыць усё на свеце. Пасля адварочваецца паліцай да мяне і гаворыць: «Бяжы...» Я вушам сваім не веру. Натапырыўся і гляджу на яго. «Бяжы, Вуля,— кажа ён мне зноў, адвярнуўшыся.— Адтуль не ўпячэш...» Я не помніў тады, што са мной зрабілася. Я саскочыў з воза і пабег. Лес быў блізка. На дарозе стралялі, але я чуў, як крычалі дзеці: «Татка, вярніся!» Я бег, а яны ўсё крычалі: «Та-атка!..»

Вуля апусціў галаву, сагнуўшыся ў крук, тады павярнуўся да акна і доўга глядзеў на двор, дзе скакалі цераз белую тасьму дзяўчаткі.

Андрэй пачуў, што ў яго пачынае круціцца ў галаве.

Вуля доўга маўчаў, пасля адвярнуўся ад акна:

— Во так во, Вялічка... Ты разумны чалавек... Калі я тады пабег з калёс і па мне стралялі — думаеш, мне нічога не балела? І калі дзеці крычалі: «Татка, вярніся»? Яны

крычалі, але не пабеглі за мной. За мной ніхто не пабег. Але чаму я не крыкнуў: «Бяжыце, дзеці»? Нашто я іх аддаў жонцы? Чаму я не пабег хоць з меншым на руках? Чаму я тады здурнеў? Можа б, хоць адзін хлапец жыць астаўся... Але я яго аддаў жонцы... Сам жыву, на зямлі хаджу, а яны: і жонка, і дзеці, і ўсе, хто тады ехаў на падводах, ляжаць пад плітой... Думаеш, мне цяпер лёгка?.. Мне было б лягчэй, каб я тады вярнуўся да калёс. Можа б, і вярнуўся, каб па мне не стралялі... Але па мне стралялі. Я ўжо не мог вярнуцца. У тую мінуту я скамянеў... Я думаў толькі пра сябе...— Вуля зноў памаўчаў.— Можа, цяпер мне трохі і лягчэй. Даўно ўжо было. У хаце ёсць дзеці. Забываешся часта, што чужыя. Думаеш, што свае. А ў вушах, Вялічка, усё роўна стаіць: «Татка, вярніся!..» Ты, Вялічка, разумны чалавек. Не ўсягды бывае лепш, калі падумаеш толькі пра сябе. Хай бы я лепш ляжаў пад плітой. Мне было б лёгка, як і ім. Іх няма, ім лёгка. А мне дзень-ноч думай. Устань і ляж — думай. Бывае час, што я сам сябе чураюся... Баюся, што пачну гаварыць не тое... Калі ўспомню, як я дзяржаў на каленях меншага пад пашкі... Часта я цяпер, калі старэю, у сваёй галаве вязу дзяцей, узяўшы пад пашкі. Во гэтай рукой...— Вуля адагнуў і падняў уверх правую руку. Не глянуў сам на яе і апусціў на калена, абапёрся.— Што так глядзіш? Я зусім зблытаўся. Гавару адно і тое. Калі я думаю пра сваіх дзяцей, я кожны раз блытаюся...— Вуля закашляўся і доўга кашляў.— Думаеш, і ў мяне здароўе добрае? Не-е... І ты, Вялічка, страляны верабей. Не можаш ты берагчы сябе... Хто на цябе настаўляў ражон? На мяне — немцы, дык я і пабег, каб цяпер дзень-ноч душа гарэла... А ты... У цябе ж ёсць дачка. Мала мы думаем пра дзяцей. Пра сябе ўсё думаем...

Вуля гаварыў паволі, часцей кратаў плячыма, як усё роўна чаго яшчэ не рашаўся сказаць. Пасля ўстаў з табурэткі, падышоў да акна, адсунуў у куток кепку і ўзяў партфель:

— Кончу тым, з чаго пачаў. Ты, Вялічка, пайшоў на Унука. А ён не такі ўжо і кепскі чалавек. Праўда, не любіць ён, калі на яго ідзеш. А хто гэта любіць? У яго — участак. У цябе — коні. У мяне — грошы ў партфелі. Мы з табой за сваё атвесцвіннасць нясём, а ён за ўсіх за нас... У яго цяпер пытаюцца, дзе конь і дзе людзі... Пасля цябе — адразу гэты з пілой,— Вуля паказаў рукой на лобжак.— Два чалавекі на адным участку. Куды глядзеў?

Гэта дрэнным пахне... А ты з ім гаварыць не стаў. Мякчэйшымі трэба нам быць, мякчэйшымі... А калі мы будзем ісці адзін на аднаго... Што так глядзіш? Думаеш, я за Унука? Ты, Вялічка, разумны чалавек, і я табе скажу другое. Унук шмат ад чаго адстаў. Горлам бярэ. Навучыўся яшчэ тады, калі і ўчастка ў вас не было. А за гэты час многа на зямлі пяску перасыпалася. Ты думаеш, нідзе не ведаюць, што ён крычыць? Ведаюць. А раз ведаюць, то доўга ён крычаць не будзе, скажу табе пад сакрэтам... Ты, Вялічка, разумны чалавек...

Вуля палез у партфель, дастаў ведамасць — вузкую доўгую разлінееную сінюю паперу.

— Да акна не падыдзеш? Распісацца... А то я ўжо забыўся, чаго ішоў. Ты сам хворы, а я — да цябе са сваёй болькай лезу.

— Падыду... Нічога...

Андрэю здавалася, што пад нагамі ўгінаецца падлога. Тоўстая, слізкая, чорная Вулева ручка не хацела пісаць, і Андрэй, цісьнучы, парваў ведамасць. Адразу вярнуўся на ложак, сеў, дыхаючы з сябе...

Вуля стаяў і глядзеў на яго, апусціўшы рукі:

— Во-о... Дык ты ўжо бегаеш... Вазьмі грошы...— усміхнуўся ён.

Андрэй не падымаў рукі.

— Скажы, дзе пакласці? — спытаўся Вуля.

— Пакінь на акне...

— Ну, папраўляйся, Вялічка...— Вуля паклаў на падаконнік тры, ці што, паперкі, зверху насыпаў медзякоў, цэлую жменю. Падышоў зноў да ложка, падаў руку.— Бегаеш ты ўжо на нагах, як конь. Будуць выпісваць — пазвані мне ў кантору. Завязём дамоў. Не будзеш лішняе мэнчыцца. Такая даль... Аўтобусы набіты людзьмі... Ну, будзь здароў, Вялічка...— Вуля сцягнуў з плячэй кароткі і цесны белы халат, перакінуў цераз руку, надзеў на лысую галаву мокрую кепку — аж відаць было, што яна цяжкая ад вады; узяў з падаконніка партфель і пайшоў, не сказаўшы больш ні слова і не азірнуўшыся. Не зачыніў за сабой дзвярэй, і было чуваць, як ён доўга ішоў па калідоры — грукаў ботамі.

Перад тым як пайсці, Вуля прыняў з-пад акна, дзе сядзеў, табурэтку, і Андрэй убачыў цяпер на падлозе камячкі шэрага, падсохлага ў цяпле пяску і скручаныя жоўтыя сасновыя іголкі.

Ён сядзеў на ложку і доўга глядзеў на падлогу, на

сасновыя іголкі. Неяк мякка зрабілася ў грудзях. Мігнуўся ў вачах высокі, шырокі ў плячах Унук — стаяў у кансоры ля шафы... Здалося, пачуў, як загрукалі нагамі коні — ішлі самі ад рэчкі...

Захацелася дамоў...

Зноў мігнуўся ў вачах Унук...

Андрэй згледзеў, што не зачынены дзверы, і відаць з ложка, як у калідоры ходзіць хірург, высокі, той, што рабіў яму, Андрэю, аперацыю. За ім туды і назад па калідоры бегаюць сёстры. Пасля ў калідоры панеслі некага на насілках...

Андрэй устаў з ложка і, апіраючыся аб сцяну, пайшоў у парог зачыніць за Вулем дзверы.

## 12

Прайшло яшчэ два тыдні...

Раніцай на абходзе яму сказалі збірацца дамоў. Доўга стукаў цвёрдымі пальцамі і па грудзях, і па плячах доктар — Крук, хірург, які рабіў яму аперацыю, пасля адразу прыйшоў слухаць галоўны ўрач — Нядбальскі, стары, тоўсты і лысы, з вузенькім сівым абадком ля вушэй і на патыліцы. Яго ўсе ведалі, калі ён быў у партызанах, ведаў і Андрэй — спаткаўся першы раз пасля каменскай міны.

Нядбальскі доўга мацаў левую руку ад пальцаў аж да пляча.

Пасля яны яшчэ раз прыйшлі ўдвух: і Крук і Нядбальскі.

Нядбальскі і сказаў збірацца. Праз якую гадзіну будуць гатовы дакументы — афармяць. Прыйдзе сястра, павядзе пераадзене і... усё.

— Учора яшчэ вадзілі на прасвет. Учора нічога не гаварылі... — Андрэй нават не ведаў, пра што адразу спытацца.

— Не гаварылі, каб спакойна спаў... — сказаў Нядбальскі.— Не забудзься зайсці па дакументы. Што? Слабасць яшчэ ў нагах? У галаве круціцца? Будзеш даўжэй сядзець у вуглах — даўжэй у галаве будзе круціцца. Дома не будзе. На вуліцу трэба... Дыхаць, дыхаць трэба... І руку дома не падвязвай... Наладзіцца скарэй...

Нядбальскі гаварыў, не падымаючы вачэй, нібы яго, Андрэя, ужо і не было тут, у палаце. Пасля завярнуўся і пайшоў да Раманавага ложка.

Рамана ўчора прывязлі назад. Ездзіла ў горад па яго з бальніцы машына; і жонка яго ездзіла, Андрэй ведаў.

Раман сягоння ляжаў адзін. Жонка, вярнуўшыся з горада, паехала адразу ў Найдорф. У бабы — дом. На работу ўстроілася на ўчастак у магазін замест Федзі — таго перавялі ў орс на базу. Жыць жа трэба ёй цяпер неяк, самой пра ўсё думай. Мужыка з пасцелі не падымеш, зарплаты не прынясе. Сказала, што прыедзе сёння, з орсаўскай машынай. Яшчэ перш, калі Рамана збіраліся вязці ў горад на аперацыю, яна стала паяўляцца часцей у бальніцы. Сядзела і плакала. Сядзела пры ім і яго сястра. Сёння яе не было — не ведала яшчэ, што прывязлі Рамана.

Ды і паспрабуй сястры выседзі ля ложка два месяцы. У самой дом, маці хворая. Раманава сястра нядаўна выйшла замуж, недзе незадоўга перад тым, як пакалечыўся Раман. Дзіцяці, відаць, ужо чакае. Сядзі тут крукам. Ды яшчэ такое на вачах. І мужык яе прыязджаў часта, сядзеў разам ля Рамана. Невысокі, шырокі ў плячах, чысты ў твары. Звалі яго Іван. Жыў ён у Раманавай сястры ў прымах і рабіў, як і Раман, у леспрамгасе.

У Рамана і на плячах і на сцегняках пролежні. Вялікія, па пятаку. Крычыць ён ад іх, як усё адно яго рэжуць. І не вылечаць іх нічым. Варочаюць з боку на бок, мажуць спіртам. Мажа сястра Жолудзь.

Жолудзь была ў партызанах разам з Нядбальскім, але Андрэй яе дагэтуль не ведаў.

У Рамана зраслася шыя, толькі галава ў яго трохі задзёрлася ўгару. Раман, лежачы, падужэў. Не такі ўжо, як спачатку, калі яго прывязлі. Над ложкам яму ўчора зрабілі пярэчкі — паклалі дзве доўгія, аскобленыя яловыя палкі, таўсцей за касільна, на драўляныя падстаўкі, высака, як дастаць рукой. Раман, ухапіўшыся за іх, падцягваўся цяпер уверх, пераварочваўся з боку на бок. Вярнуўшыся пасля аперацыі, ён гаварыў не сціхаючы: накінуўся цяпер на Нядбальскага:

— Вы ж нічога не можаце зрабіць. Нашто тады возіце, нашто тады рэжаце... Абрыдла ўсё на свеце. У мяне ўжо не толькі ногі не служаць — галава не служыць. Развальваецца. Піць, піць дайце... Сохне ў роце...

Піць яму не далі: на тумбачцы ля яго не было шклянкі. Толькі Нядбальскі падняў руку:

— Пацярпі... Прыйдзе сястра...

Раман не хацеў цярпець:

— Мучыце мяне толькі і самі мучыцеся... Паляжалі б

на дошках... Гарыць усё паднізам. Як усё роўна на гарачым вугаллі... І ніхто мне цяпер не паможа. Нічым. Чаму вы тады нічога не зробіце? Чаму не дасцё выпіць чаго?.. Думаеце, я не знаю? Знаю нават, што і прафесар сказаў, хоць мне не гавораць, хаваюць. Чаму ж мяне не пакінулі там, калі я папраўлюся? Дамоў адвязлі... Дамоў вязуць толькі паміраць...

Нядбальскі выпрастаўся ля ложка і яшчэ раз падняў угару руку — ён падымаў яе кожны раз перад тым, як што сказаць:

— Не дамоў, малады чалавек, а ў бальніцу прывязлі. На стацыянарнае лячэнне. Туды, дзе цябе і лячылі. Дамоў табе яшчэ рана. Не падскоквай на ложку. У нас усё ёсць, што і ў абласной бальніцы... І лечаць цябе правільна. Зрабілі аперацыю, прафесар рабіў. Будзем думаць, што гэта апошняя... Будзеш жыць, малады чалавек... І не падскоквай. Наскачашся яшчэ.

— Гробаная яна... мая жызня.— Раман ухапіўся за палкі ўгары, падцягнуўся і стукнуўся галавой аб дошкі з усёй сілы.— Думаеце, я не знаю? На нітачцы дзяржыцца спінны мозг. На нітачцы... Чакаеце, пакуль перасохне... Чакаеце. Не хочаце нічога даць... Чакаеце, пакуль сам здохну... Пакуль нітачка перасохне... — Раман зноў ухапіўся рукамі ўгары за пярэчкі і зноў бразнуўся на дошкі — аж зазвінелі ў вокнах шыбы...

— Сястру!.. Сястру сюды... Са шпрыцам!.. — паказаў рукой на дзверы Нядбальскі.— Усю музыку нам папсуе...

Доктар, падобны на Унука, стаяў увесь час ля ложка і маўчаў, усунуўшы рукі ў кішэні,— не сказаў ні слова. І цяпер ён павярнуўся паволі і, не дастаючы рук, пайшоў памалу да дзвярэй, нібы тут нічога і не было.

Нядбальскі загаварыў, як узлаваўшыся, падышоў да ложка ў галовы і ўзяўся рукой за пярэчку... Аж зачырванелася ў яго шыя — стаяў ён цяпер плячыма да Андрэя.

— Супакойся... Бо адразу забяром к чорту гэтыя палкі... Будзеш зноў ляжаць на спіне і глядзець у столь... Герой... Галавой аб жалеза стукае... Яго тут дзень-ноч... А ён... Супакойся, а то прывяжам... Ты знаеш, што ты нам усё псуеш? Ты знаеш, якую табе аперацыю зрабілі?.. — Нядбальскі хацеў узяць Рамана за рукі, але той вырваў руку і цяпер ужо адной рукой учапіўся ўгары за палку, падцягнуўся і стукнуў галавой аб ложак. Зазвінелі спружыны... Тады Нядбальскі адскочыўся ў ногі і загаварыў цішэй ужо, без злосці: — Бі... Дурной галавы не шкода...

Раман падняў угару абедзве рукі — хацеў зноў учапіцца за палкі... Але рукі ў яго павіслі ўгары, як навязаныя, не дастаўшы да пярэчак... Тады сагнуліся ў локцях, абвялі і ўпалі яму на жывот. Раман суцішыўся, пасля было чуваць, як ён зачмыхаў носам — заплакаў.

Андрэй не чуў, каб, лежачы тут, плакаў калі Раман. Зусім выбіўся хлапец з баразны, калі плакаў... Падумаў, што хлапец жа ведае ўсё. Гавораць, мусіць, дактары між сабой, а іх чуюць сёстры. Пасля і сёстры гавораць. Людзі ёсць людзі. Расказвала яму, Андрэю, Раманава сястра. Сама. І пра нітачку гаварыла. Гаварыла яшчэ, што хірург сам сказаў, што мучыцца хлапец і ўсіх у бальніцы мучыць, што чакаюць, пакуль спінны мозг перасохне... Андрэй ведаў, што людзі ад сябе могуць дабаўляць што захочуць. Але ж чаму пра гэта пра ўсё ведае Раман? Сястра сказаць не магла. «Жонка недзе сказала,— падумаў Андрэй.— Жонка скажа. Тая скажа... А можа, і не жонка... Сёстры ходзяць. Дзяжураць пры ім, бывае, суткамі. У злосці, можа, якая сказала... Замучыў ён усіх... Ды і дзверы ж усягды насцеж. Раман мог пачуць, што і ў калідоры гавораць. Людзі ж гавораць, што трэба і што не трэба...»

Прыбегла сястра ў вялікім каптуры. Адразу зрабіла Раману ўкол у руку. Пасля прынясла, паставіла на тумбачку ля Рамана вузенькі графін з вадой і шклянку. Раман доўга піў са шклянкі, падняўшы галаву. Пасля ў палату прыйшоў Крук і прывёў з сабой зусім маладога хлапца ў белым халаце. Малады хлапец сеў адразу ў Рамана ў нагах на табурэтцы. Нядбальскі і Крук сталі ў яго ззаду. Нядбальскі нахінуўся да брыжа, Крук не вымаў рук з кішэнь — прывычка.

Сястра ў высокім каптуры — Жолудзь — закасала ў Рамана на нагах да калень шырокія ў палоску штаны. Малады хлапец у халаце паглядзеў на яе і загадаў зняць у Рамана штаны зусім. Яна здзела іх спрытна і хутка — адным махам.

У Рамана былі доўгія, худыя белыя ногі з чорнымі дробненькімі валаскамі. Ляжалі выцягнутыя, як дудкі, і не краталіся, хоць ты іх рэж, хоць не рэж. У Андрэя, калі ён глянуў на ногі, забалела-забалела недзе глыбака ў плячы...

Малады хлапец у халаце пачаў торкаць Раману іголкай у ступні і па галёнцы... Андрэй пачуў, як у яго па хворай руцэ пабеглі мурашкі...

— Баліць? — хлапец у халаце торкаў у адну ступню

іголкай, у другую і ўсё пытаўся: — А тут баліць? А тут? — і глядзеў, варочаючы галавой, на Рамана. Раман маўчаў.
Пасля хлапец у халаце пачаў загінаць у Рамана на нагах вялікія пальцы. Загінаў з усёй сілы і загадваў:
— Не давай мне гнуць. Не давай... Чуеш?
— Нічога не чую... Нічога мне не баліць... — Раман ляжаў, адкінуўшы галаву, і толькі соп. Змарыўся, кідаючыся аб ложак.
Хлапец у халаце тады пачаў цёрці яму рукамі ногі, што меў сілы,— адну, пасля другую.
— Чуеш ногі? — спытаўся ён, зморшчыўшыся.— Баліць?
— Баліць левая нага... э-э-э... — застагнаў Раман.
— Дзе баліць? — спыталіся адразу ўсе трое мужчын у халатах.
— Левая баліць. Вялікі палец баліць...— Раман, узяўшыся рукамі за пярэчку, намагаўся глянуць, што яны там зрабілі з яго нагамі.
— Ляжы-ляжы...— сказаў хлапец у халаце, зноў сеўшы ля ложка на табурэтку.— Паспрабуй кратаць нагамі... Левай нагой... Ну-ну...
— Адубеў увесь... Яны ў мяне як дуб. Не чую іх зусім, ні зверху, ні падыспадам... Ад паясніцы. Не чую. Як амярцвела ўсё... Ляжыш, што ўсё роўна цвікамі прыбіты да дошак... Што ўсё роўна там, паднізам, чужое цела... — паказаў Раман рукой у ногі.
Хлапец у халаце, устаўшы з табурэткі, зноў пачаў торкаць Раману іголкай у левую нагу — зверху па галёнцы і ў вялікі палец. Тады яшчэ раз пачаў гнуць вялікі палец на левай назе.
— Баліць? Чуеш нагу?.. Паспрабуй пакратаць пальцам... Вялікім пальцам... Не давай мне гнуць палец, не давай...
— Баліць палец... Як усё роўна недзе глыбака ные. А так — нічога не чую... — Раман спацеў ад натугі і цяпер выціраў абедзвюма рукамі лоб.— Нічога не чую... Усё маім нагам... Халэмус...
— Ну-ну, запеў... Віш ты яго... Разбіраецца лепш за нас... — Хлапец у халаце адагнуўся ад ног, схаваў іголку ў кішэню і паправіў на галаве маленькі круглы белы каптурык.
— Цярпі, малады чалавек... — загаварыў Нядбальскі, ляпаючы рукой па белай яловай пярэчцы.— Ты знаеш, што гэта такое — палец баліць? Чуў ты перш, каб ён ба-

леў?.. Значыць, нешта ў нас у парадку... Значыць, недарма мы цябе каталі на самалёце... Трэба цяпер нам, каб уся нага забалела. Уся... Ад пальцаў да калена... Да крыжа... Адна і другая... Старайся не рукамі кратаць цяпер, а нагамі... Чуеш, малады чалавек, што кажа неўрапатолаг? Мы яшчэ будзем бегаць... Адной нагой і другой... — Нядбальскі зноў паляпаў рукой па белай пярэчцы... — Ну, малады чалавек... Толькі каб больш мне такога не было... Нагамі бі аб дошкі, калі ты такі дужы, а не галавой... Будзем мы яшчэ бегаць, калі захочам...

Ідучы да дзвярэй, Нядбальскі ўсё яшчэ глядзеў на Рамана.

Хлапец у белым халаце памог сястры надзець Раману штаны, накрыў простыняй ногі, высака, да пояса, і пайшоў, пусціўшы наперад сястру, з палаты. Андрэй чуў, як ён гаварыў ёй: «Масаж, масаж... Вы віздзелі?..»

Толькі Крук не сказаў і цяпер ні слова. Стаяў, адышоўшыся да акна і схаваўшы рукі ў кішэнях. Глядзеў і, здавалася, нікога не бачыў. Пайшоў ён з палаты пасля ўсіх, нічога так і не сказаўшы...

Грукнулі ад дужай рукі дзверы, і ў палаце адразу стала ціха. Гаманілі ў калідоры — некага клікалі, і на дварэ далёка, недзе, мусіць, на шашы, гудзелі машыны. Пасля загрукала — якраз на доўгія хаты: загрымеў, мусіць, гром.

Раман ляжаў, заплюшчыўшы вочы, як усё роўна заснуў...

Зноў загрымеў гром, і Андрэй падышоў да акна. Акно было расчынена, і з двара пахла дажджом — дождж ішоў перагонамі, з тулягоў. З раніцы ён ужо справіўся прайсці разы чатыры, цёплы і, здавалася, зялёны, што луг з кадзі... Ад яго аж было відаць, як пачала расці трава.

«Бульба ўжо недзе будзе абыходзіць. Сёлета сеяліся рана...» — падумаў Андрэй. Абапёршыся на падаконнік, ён убачыў, як з рамы звісае вялікая кропля, з бабіну́. Цёпла было на дварэ — здавалася, што і кропля цёплая і зеленаватая, што ўсё роўна вісела на зялёным лісці на веніку ў лазні... Пасля Андрэй здагадаўся, нагнуўшыся бліжэй, што ў кроплі відаць увесь тофель з гародчыка — маленькі толькі і востры ўгары, як іголка. І зялёны, аж уваччу рэжа...

На зямлі, у траве пад тофелем, блішчалі вымытыя жоўтыя кветы — цвіў адуванчык. Буйны дождж пабіў на

тофелі лісце, і яно абвісла, што пасцябанае пугай. Перавернутае, было белае, як папера.

Неба ўгары над страхой стала чыстае і высокае. Далей, на доўгія хаты, над шашой, расцягнуўся буры туляг — пісягамі аж да самага лесу — і поўз сюды, на бальніцу. Пісягі былі рэдкія, свіціліся ў тым месцы, дзе за туляг заехала сонца. Ніжэй, пад тулягом, бегла з ветрам рэдзенькая сівая хмара. За ёй азваўся дробны гром, што гарох.

З зямлі, з двара, падляталі ўгару ластаўкі. Падымаліся высака, як згледзець вокам, хаваліся ў шэрай рэдзенькай хмары і бурых пісягах, пасля варочаліся і трапаталіся над самым дваром.

Зноў загрымеў гром над доўгімі хатамі, пайшоў густы касы дождж, прыпусціў з рэдзенькай сівой хмары. Андрэй зачыніў акно.

Сястра яшчэ не прыйшла, і ён хацеў зноў вярнуцца на ложак, але, павярнуўшыся, згледзеў, што Раман ляжыць, адплюшчыўшы вочы, і глядзіць на яго. Вочы ў Рамана былі вялікія, і глядзеў ён не міргаючы, як што нагаючыся ўспомніць. І яны ў яго парабіліся чыстыя, як былі ў Веркі, калі ён, Андрэй, бачыў яе астатні раз. Ён аж спужаўся...

— Зямлёй запахла... — загаварыў Раман. Глядзеў усё ў вочы, каб зміргнуў, аж жудасна было.— Дождж пайшоў, і зямлёй запахла. Не зачыняйце акно. У лесе цяпер недзе слізка. Дажджом я ніколі не кідаў з пня, баяўся. А вот ... посуху кінула вобземлю, што і не ўстанеш. І зямля была сухая, і сасна сухая, і піла... І ў роце ў той дзень, здаецца, суха было. Хоць калі, бывала, добра браў і раніцай. На ўчастку, у магазіне, на карандаш... А ў той дзень не. Ну, так, трошкі. Вот і знай... На роўнай дарозе... Адскочыцца не паспеў. Пілу ўсё, пілу хацеў выхапіць... А дзе ты яе хопіш, калі сасна круціцца... А на яе, знаеш, колькі я навешаў?.. Не помню... Мусіць, пяць ці шэсць... Добрае месца было. Стаялі густа. Усё было б і добра, каб сасна не пачала круціцца... Якраз па піле!.. І піла на кавалкі, і я... Пакуль яшчэ рабочыя пачулі... Хай бы яны мяне лепш не пачулі... Вы вот дамоў, а я... А мне ўжо ўсё.

Андрэй хацеў загаварыць — падумаў, што не можа. Ніяк не варочаецца язык — хай бы не глядзеў гэтак Раман, хай бы хоць зміргнуў. Пасля ён пачуў, што ніяк не ступіць ад акна, як прырос. Холадна стала ў плечы. Папямне-

ла на дварэ і ў палаце, ядрана былі знаць кароценькія і крывыя бліскавіцы нізка над шашой.

Каб так гаварыў калі Раман, Андрэй не чуў. Перш ён думаў, што Раман памрэ, а сам не верыў. А цяпер... Чаму ён так загаварыў? Можа, што ён, Андрэй, збіраецца дамоў? Каму гэта не хочацца дамоў?

— Мне ўжо ўсё... — зноў сказаў Раман, уздыхнуўшы цяжка, на ўсе грудзі, што кавальскі мех. Дрэнна было, відаць, яму ляжаць, адкінуўшыся.— Хай тут,— паказаў ён угару рукой,— хоць і яшчэ сотню палак прывяжуць, я ўжо не падымуся... — Ён памаўчаў.— А-ат... Духам я не падаю... Дошкі дома ў Найдорфе ёсць... — усміхнуўся ён, паказаўшы зубы.— Ляжаць у хлеве на гары пад леташнім бульбоўнікам, каб карове цяплей было. Перабіраю ў памяці — то якраз будзе до. Прыедзе Нінка, забярэ адгэтуль... Намэнчылася і яна, да мяне ездзячы. Усім хапіла: і ёй, і сястры, і матцы... А хочацца жыць... Як успомніш, калі летам вечарам заходзіць у канцы вёскі за лесам пад Каменам сонца і ад ракі з аселіцы пахне сенам... Ваўком бы выў... Хаця цяпер я ўжо і мала нюхаў сена, у леспрамгас пайшоўшы. Сваёй толькі карове які воз накасіць... Смалой цяпер я ўвесь пахну. І ў лесе смала, і ў хаце, і на дварэ... Адзежа ўся пахне. Заплюшчыш вочы, то ўжо не сонца заходзіць у канцы вёскі, а сосны ўгары круцяцца. Круцяцца і валяцца на зямлю. Я ўжо рабочы стаў зусім... А вот, знаеш, што скажу... Паляжаў я на ложку — на сосны забывацца пачаў за гэтыя месяцы. Зноў сенам пахне... З-пад Луськага з логу. І зямля... Недзе цяпер дома бульбу пасеялі: і на Загуменні ля Белай дарогі сваю, і ў калгасе пад Агульніцу за фермай. Думаеш, хочацца ўміраць? Вот так ляжыш усю ноч, як на ражнах. Адзін на ўвесь свет, здаецца, ляжыш... Ты храпеш, а тут — хоць гвалт крычы... А калі чуць-чуць абырышся — думаеш, жыў бы, хоць і так... Каб толькі жыць. Так пахне сена... І смала пахне... Ад гэтых пярэчак пагабляваных...

— Ды будзеш ты жыць... — сказаў Андрэй, як усё роўна скінуўшы з плячэй цяжкі мех... — Што гэта ты?..

— Не-е-е... Я на хірурга гляджу... На высокага, чорнага. На Крука. Ён мяне першы складаў, калі прывязлі. Галаву сам да дошак прывязваў, каб шыя зраслася. Я на іх на ўсіх за гэтыя месяцы нагледзеўся. Нядбальскі... знаю. У гэтага: эх, эх, малады чалавек, усё ў парадку. Станем на ногі і пойдзем. А я на Крука гляджу. Ён ніколі нічога не гаворыць. Маўчыць. Вачэй не хоча падымаць. Ён

больш ведае за іх за ўсіх. І за прафесароў абласных. Ён мяне складаў. Хоць бы раз ён сказаў, што буду жыць. Гэта ў Нядбальскага — дык хоць сёння бяжы... Шкода толькі, што жызня так склалася... — Раман памаўчаў. Аддыхаў.— Ты ж ведаеш, што дзеці ў нас мёрлі. Радасці ў мяне вялікай не было і ажаніўшыся. Але і Нінкі шкода. Дзяўчына яна добрая, без мух. Але што ёй цяпер асталося рабіць? Прыехаўшы, надзяваць гумовыя пальчаткі і даставаць усё з мяне. І так — кожны раз. Каму гэта трэба... — Раман памаўчаў.— І сястры шкода. Мэнчыцца ля мяне, а ў яе сваё. Матка наша зусім хворая. Прыехаць нават сюды не можа. Добра, што яна мяне не відзіць. І матка намэнчылася. Помніце, пасля вайны, калі з голаду пахлі? Той год... Прайшло ўжо многа. Каб не вайна ды тыя гады — здаровая была б яшчэ матка. Яна ж у нас не старая. Эх ты, жызня... Хацеў я вам расказаць, вот, збіраўся ўсё, ды не выпала... Ніяк не рашаўся — баяўся, мусіць. Думаю, прыйду некалі з бутэлькай, дзябнем, тады і раскажу. Дык і выпіць з вамі не ўдалося ніколі. А расказаць хацелася. Цягне за язык. Мусіць, так устроены чалавек: не можа, каб не паспавядацца...

— Пачакай тады, хоць я сяду ля цябе. А то і сам замэнчышся і мяне замэнчыш. Расказвай, і без бутэлькі абыдземся.

Раман маўчаў, ляжаў, ляпаючы даланёй па пярэчцы над галавой...

— Помніш... Пасля вайны адразу. Я ўжо сам не помню — у сорак якім годзе. Помню толькі, што якраз недзе такой парой. Бульбу былі пасеялі ўжо... — Раман пачаў расказваць, кашляючы. Прыняў руку з пярэчкі, цёр даланёй лоб.

Андрэй сядзеў цяпер на табурэтцы ў яго ў нагах і бачыў, як ён пачаў надаўга заплюшчваць вочы, што ўсё роўна не хацеў ні на каго глядзець.

— Тады я быў зусім смаркач, матка яшчэ дзягі давала... — паказаў зубы Раман, зноў усміхнуўшыся.— Але малы есці больш хоча, чымся стары. Старыя, відаць, цярпяць. Маці апохла: ногі як вадой налілісе, пасля і ўся апохла, а цярпела. Бульбы кошык у Даўгынаве сто рублёў. Адну бульбіну здзярэ на тарку, памыўшы толькі ад пяску, дабавіць да сухога стоўчанага лісця ад ліпы. Якая яшчэ зацірка выходзіла...

Цёпла было ў тую ноч. Цёпла і ціха. І месяц вісеў за гародамі над соснікам ціхі і шэры, як у попеле. Усюды шэ-

ра, і ў вачах — шэра. Попел. Да сосніку мякка было ісці па раллі — калгас бульбу пасеяў у канцы вёскі. Аж цяпер помню, як ногі лезуць у раллю і костачкі чапляюцца аб каменне. Ямы ад бульбы былі, помніце, тады ў сосніку, з прыходу. Цяпер, калі дарога на ўчастак пайшла, пазасыпаліся. Вы тады якраз днём даставалі бульбу. На калёсах мяшок прывязлі, надта не паказваючыся. Але ж мы відзелі... Маці праз акно відзела — стаяла і глядзела, за шалёўку ўзяўшыся. Нас толькі адагнала, каб не глядзелі на мех з бульбай,— крычала нават.

Каб вы не закрывалі добра яму — ніхто б не пайшоў. А раз вы закрылі яе, як і перш, то я і малы здагадаўся. У вёсцы ніхто парожнія ямы так не закрывае. Сама боязна было капянуць першы раз рукой — да зямлі даткнуцца. Капаў я рукамі — рыдлёўкай можна было стукнуць аб камень. Да вёскі ж блізка. Можа б, і не палез тады, пакапаўся б, і ўсё, каб не валялася на ямах старая драбінка ад калёс. Паламаная была, кароценькая, схавалася ўся ў яме. Але я дастаў да яе нагамі.

Бульба была ў пяску, прысыпаная. Спачатку падумаў, што яе няма зусім, голае дно. Але голае дно — цвёрдае ў яме, а тут — мяккі пясок, ногі лезуць. Ад вока бульба была прысыпана. Раскапаў пясок рукамі — цёмна, нічога не відаць, капаеш і локцямі ў сцены стукаеш — жвір на дне, далоні агнём гараць. Дакапаўся да бульбы і баюся, што з ямы не вылезу. Сэрца аж разрываецца, і рукі віснуць. Аддыхаюся і зноў — насыпаю прыгоршчамі ў мяшок. Бульба цвёрдая, з храсткамі — парасла ўжо. Храсткі, вострыя і белыя — відаць нават у цемнаце, колюцца ў пальцы, як калючкі. У яме запахла сырой зямлёй і гародам, аж у галаве закруцілася. Капустай яшчэ пахла гнілой — высадкі, мусіць, стаялі.

Насыпаў я тады ў мех кошыкі два.

Як падняў на плечы, не помню. Наверх з ямы дык падымаў перад сабой па драбінцы: падыму мех — калені падстаўлю. А наверсе... Па зямлі ж не пацягнеш: знаць.

Помню яшчэ, што баяўся з ямы вылазіць. Падлез, выкаціў мех, а сам сяджу і гляджу кругам. Цёмна... Здаецца, што і вы стаіцё ля ямы.

Дамоў не ішоў па раллі. Соснікам, а тады па мяжы, дзе цвёрда, каб слядоў не было знаць. Як тады данёс мех... Страх, мусіць, гнаў. Каб не баяўся, што зловяць, ніколі б не данёс... А маці крычыць: «Назад нясі! Бандзіт, што нарабіў...» Чакала мяне, як знала, куды пайшоў. А як паня-

сеш? Ногі баляць. Днее... Баюся, што будуць відзець людзі... Вёскай жа трэба ісці. Маці зноў крычыць, што заўтра вам сама аддасць. А як аддасі? Не знойдзенае. Пасля і маці аціхла. Людзі будуць знаць, што зладзеі. А калі мы што ў вёсцы кралі? Сядзім ля мяшка з маткай у хлеве на памосце... Сена жменя з зімы асталася, мяшок пад сенам ляжыць... Сядзім, матка плача, смаркаючыся і выціраючы вочы хусткай. Хустку ў руках жмакае...

Раман аціх, уставіўшыся вачыма ў акно. Зноў яны зрабіліся ў яго белыя і шкляныя. Глядзіць — не зміргне.

Па акне — па ніжніх доўгіх шыбах — сек дождж, што жарствой, дробненькі, востры. Зрабілася цёмна, што ўсё адно вечарам. Загрымеў над самым дваром гром — чуваць было, як задрыжалі сцены...

— Во прарвала... — узяўшыся за пярэчкі, Раман падняў галаву.— А матка нічога вам ніколі не расказвала? Не? Баялася, мусіць, каб людзі ведалі, што я краў. У вёсцы помнілі б... Пасля, калі я пайшоў у прамгас, за адну прагрэсіўку гэтай бульбай засыпаўся б... Маці вам яшчэ раскажа. Папытайцеся. Не думаў я, што гэтак цяжка ўкрасці... Ідзеш, бывае, ля ям, на ўчастак, і як успомніш — аж станеш адразу.

Раман сціх. Доўга маўчаў, павярнуўшы галаву і гледзячы яму, Андрэю, у вочы. Глядзеў ціха і балюча, як усё роўна чаго просячы...

«Чаму гэта ён спавядаецца?.. — падумаў Андрэй.— Што ён гэта?..» Пасля падумаў: бачыць жа хлопец, што ён, Андрэй, збіраецца дамоў... Пойдзе, і, можа, наўсягды...

Захацелася ўстаць, падысці да яго ў галовы. Не, не ведае ён, Андрэй, нічога... Ніякай бульбы. І яма тая даўно засыпалася... Помніць толькі, што яна была там, ля дарогі, пасля вайны. А так... бульба, здаецца, усягды была цэлая. Не помніць ён, Андрэй... Але ж Раман не здумляе... Андрэй сагнуўся, падпёр галаву. Горача зрабілася ў грудзях... Ён заплюшчыў вочы. Адразу аднекуль паявілася Раманава маці, поўная, і ногі ў яе поўныя — напухлі. Стаіць, апусціўшы рукі, у яго, Андрэя, на двары ля сенечак раніцай, і мяшок у яе ля ног з бульбай — адняслa. І ногі яна напухлыя хавае за мяшок, каб відаць, мусіць, не былі... Каб на іх людзі не глядзелі... Не-е. Помніцца. Не забылася ніяк... Верка тады і бульбу назад да іх занясла... І жыта пазычыла. Рэшата...

Андрэй пачуў, як гарачыня падымаецца з грудзей — душыць... Дзярэ ў горле — згінь ты, благое...



Іван Пташнікаў (злева)
з рэжысёрам Віктарам Карпілавым
і артысткай Маяй Булгакавай у час здымкаў тэлефільма «Тартак».
*Мінск, 1974 г.*



Іван Пташнікаў (злева)
з жонкай Валянцінай Іванаўнай,
сынам Сашам і дачкой Таняй у час наведвання
мемарыяльнага ансамбля Саласпілс.
*1976 гг.*

Ён адразу тады ўстаў з табурэткі і ступіў да Рамана ў галовы:

— Ды пайшоў ты... Што ты перада мной спавядаешся? Ты што? Здурнеў? Мы яшчэ з табой і перап'ём не гэта, і... бульбы гэтай капец пераядзім... Перажывеш ты, хлопец, усё і жыць будзеш доўга. Ды пайшоў ты... Гаварыць не буду. Ты што гэта? Што ты так глядзіш? У самом-та дзеле, як гаворыць Падбярэцкі...

Раман зноў схапіўся рукамі за пярэчкі і пачаў біць галавой аб дошкі. З тумбачкі саскочыла шклянка з вадой і пакацілася па падлозе.

— Сястра! — закрычаў Андрэй, бегучы ў калідор.

На двары зноў загрымела. Аглянуўшыся ў дзвярах на Рамана, Андрэй убачыў у акне, як над хатамі за шашой па небе перабегла доўгая, як расцягнутыя лейцы, бліскавіца.

Сястра падвяла яго адразу да высокіх белых незачыненых дзвярэй. Падышоўшы, Андрэй прачытаў на дзвярах: «Галоўны ўрач». Літары пад шклом былі бялейшыя за дзверы, на іх аж не было як глядзець.

Сястра сказала: «Пачакайце тут»,— схавалася за дзвярыма і не выходзіла. Андрэй стаяў пасярод калідора, баючыся прыхінуцца плячом да белай сцяны, і чуў, як ные недзе глыбака паясніца. Ён падумаў, каб дзе сесці, але ў калідоры ля дзвярэй нічога не стаяла.

Вярнулася сястра, зачыніла за сабой, стукнуўшы, дзверы, сказала: «Ідзіце сюды»,— і павяла яго назад у шырокі, сівы ад пафарбаваных сцен, калідор. Падвяла ў самы кут да крэсла — крэсла жоўтае, новае, яшчэ бліскучае, стаяла тут адно, як усё роўна нарыхтаванае,— і зноў сказала: «Пачакайце. Паклічу». Сама падбегла спачатку да маленькага акенца ў дзвярах проці, пастукала карандашом — яна ўвесь час насіла ў руцэ тоўсты чырвоны карандаш,— пасля Андрэй нават не згледзеў, дзе яна дзелася. Павярнуўся — і няма. Мусіць, ёй адчынілі дзверы з акенцам.

Ён доўга сядзеў у крэсле, абапёршыся галавой на здаровую руку — прывык так сядзець на ложку ў палаце,— і глядзеў на падлогу. Пасля ўбачыў, як у яго ссохліся кірзавыя боты. Як усё роўна былі вымыты ў вадзе — намоклі, мусіць, калі ён поўз пад вёску: каля самай падэшвы жоўтая вузкая шорсткая палоска — на адным боце і на другім. І насы зморшчыліся і пазагіналіся ўверх. Ён пакратаў нагамі — боты загрукалі, як капыты: былі цвёр-

дыя. Пачуў, што рэжа зверху пальцы: у адным носе і ў другім.

«Як жа дапаўзці дамоў? — падумаў ён.— Скалечышся. Каб доўга не цягнулі — справіўся б на другі аўтобус. З Вострава дайшоў бы босы».

На Вулю ён зусім забыўся — выпусціў з галавы.

У калідоры пачалі бегаць сёстры, як падумаў ён. Прыходзілі, распраналіся, самі вешалі верхняе на вешалку і бралі халаты. На хаду завязвалі ззаду на паясніцы матузкі, падбягалі нечага да акенца, некаторыя нават нічога там не рабілі — проста каб падбегчы; адшпілялі і зашпілялі партфелі, невядома што адтуль дастаючы — не згледзіш, і ішлі цішэй у доўгі калідор. Пазіралі ўсе ў яго бок. І старыя і маладыя. Ён згледзеў, як, зірнуўшы на яго, яны папраўляюць на галаве белыя каптурыкі, запіхаюць пальцамі пад іх пасмы валасоў, гладзяць рукамі спераду па халатах і бягуць далей. Некаторыя нават спыняюцца, як спатыкаючыся.

Ён падумаў, што глядзяць усе на яго: пасадзілі тут, як на пікеце.

Тады паглядзеў кругом сябе — у кутку ўбачыў люстэрка. Высокае, вузкае, у жоўтай рамцы, яно стаяла на шырокім новым століку.

«У люстэрка і глядзяць...» — усміхнуўся ён і крануўся на крэсле. Закраталася было і люстэрка: пад крэслам угіналася падлога. Ён нагнуўся ніжэй і глянуў у люстэрка на самога сябе. Худы, жоўты, як новая рамка, чалавек натапырыўся і, што ўсё роўна хочучы скарэй схавацца, вырачаў нястрыжанай галавой — на вушах ляжалі, падымаючыся ў бакі, сівыя валасы. Шыя была зусім ценкая, што ўсохлася, і на ёй збоку тырчаў дробненькі кадык.

«Як дудка ад макаўкі...» — падумаў ён на шыю.

Доўга яшчэ пасля глядзеў на сябе, баючыся, што ў яго жоўтыя вочы,— аж пот выступіў на лбе. Хаця дактары ж нічога не гаварылі. Тады ён падумаў, што і рукі зверху як усё роўна жоўтыя.

Пасля ён стаў глядзець у люстэрка толькі на балючую руку — усё баяўся вачэй. Першы раз рукі ён і не згледзеў: падвешаная на шырокім белым бінце, яна была схавана пад паху. Ён падумаў, што можа і без начапкі абысціся, калі ўсунуць руку ў кішаню ў фуфайку. Хадзі, як з цацкай, каб усе бачылі.

Ён пакратаў пальцамі на балючай руцэ — заныла ў плячы...

«Прасіць людзей трэба будзе, каб бульбу пасеялі. І каб гной капалі... Вілкі ў рукі не вазьму...» — падумаў ён, адвярнуўшыся ад люстэрка. Не глядзеў ужо ні на сясцёр, ні на тое, як яны падбягалі да яго ў кут.

«Дамоў скарэй бы... З аднаго ложка споўз... Скарэй бы на другі».

— Вялічка! Ідзіце за мной...

Сястра ў вялікім каптуры бегла аднекуль з двара. Устаўшы, Андрэй пайшоў за ёй, азіраючыся на люстэрка.

Калі ён увайшоў у кабінет — у той, да якога яго перш падводзіла сястра, убачыў, што Нядбальскага няма. За сталом сядзеў адзін Крук і пісаў. Сястра паклала перад ім на стол паперы, пакінуўшы ў руцэ чырвоны каранадаш, і, ні слова не сказаўшы, выбегла ў калідор. Спяшалася, не ўсё недзе зрабіла.

— Садзіцеся... — паказаў на крэсла ля стала Крук. Быў ён без белага каптура на галаве, і ў яго рассыпаліся на рад густыя валасы — звісалі наперад і хавалі чорныя акуляры. На шырокіх, як ва Унука, плячах у яго вісеў раскошны белы халат, новы яшчэ зусім — не гнуўся.

Крук пісаў і не глядзеў на Андрэя.

Доўга яны сядзелі так адзін проці аднаго. Андрэй нават пачаў круціць галавой: зірнуў на шафу з кнігамі, што стаяла ўперадзе стала, на два белыя, аж сінія, ручнікі, якія віселі ў парозе, закрываючы хвастамі жоўты бліскучы кран.

У кабінеце было ціха, і ядрана бразгала вечка ў жалезнай скрынцы — яго памінутна адчыняў Крук. Даставаў пячатку, хукаў на яе, паднёсшы да самага рота, як усё роўна грэў пальцы ад холаду, тады стукаў па стале па сініх паперах — у адным месцы, у другім... Падсунуў пасля да сябе паперы, якія паклала яму, зайшоўшы, сястра.

— Адышка? — спытаў ён адразу, не падымаючы галавы.

— Адышка...

— Пройдзе. Рэнтген добры... Мала хадзілі... Двара сталі баяцца... Лёгкія цэлыя. Можаце сапці, як кавальскі мех.

— Рука-а...

— А нашто яна вам адразу здаровая? Зноў на мядзведзя ісці? Хай аддыхне і рука. І сам аддыхнеш...

— Вочы, доктар...

— Што вочы?..

— Жоўтыя...

— Глаза — не коза, в лес не побегут... У вас усё ў норме...

Крук пісаў, не падымаў галавы, і Андрэй падумаў, што Крук многа сягоння гаворыць. І голас у яго густы, мяккі і добры, са смехам. Слухай — і хочаш вер, хочаш не вер.

— Залатыя ў вас рукі, доктар... Каб не вы... Не ведаю, як тут сказаць. Ніхто другі, відаць, мяне не сшыў бы. Чым я расплачуся...

— Знаеш што, Вялічка? — Крук усё яшчэ не падымаў галавы, пісаў.— Чай з варэннем любяць маладыя шымпанзе... Але іх трэба карміць з бутэлечкі — соскай... — Сказаў, адразу падняў галаву і глядзеў на яго, Андрэя, адхінуўшыся ад стала, як усё роўна ўбачыў першы раз.— Гм... Ну, вот... бюлетэнь... — падаў ён блакітную спісаную паперку і ўстаў з-за стала.— У аконцы ў вестыбюлі зарэгіструеш. І... Ну, вот... Ногі дужыя? На шашу да аўтобуса дойдзем?

— Ды хто яго ведае. На шашу то дайду. А там... Па сваіх сцежках...

— Ад Вострава? Дойдзеце. Калі я пускаю, то дойдзеце. І да аўтобуса і ад аўтобуса. Другі раз, як будзеце збірацца на якога там чорта з рагацінай, клічце нас. Даўна не быў у лесе...

Крук падаў руку. Яна ў яго была шырэйшая, чымся ва Унука.

Андрэй адышоўся да дзвярэй і стаў: нядобра адразу пайсці, так і не сказаўшы нічога чалавеку за дабро.

Крук зноў сядзеў за сталом і пісаў.

— Чакайце, Вялічка...— згледзеўшы Андрэя ў парозе, ён зноў устаў.— Ідзіце сюды. Забыцца мог.— Сам падышоў да шафы з кнігамі і дастаў адразу з-за дзвярэй маленькую, як чарачка, шклянку. На дне ў ёй, здавалася, ляжалі тры калівы гароху.— Ідзіце бліжэй. На мінуту. Дык дзе гэта вас? — Крук паказаў рукой сабе на плячо.

— Як дзе? — Андрэй не мог даўмецца.

— Ну-у... На якім фронце былі ў вайну? Параніла дзе?..

— А-а...— аж паскроб патыліцу Андрэй.— Гэта мяне ў партызанах... Мінай у блакаду... На фронце я не быў...

— Угу... Ну, бярыце на памяць... — ён падаў шкляначку.

Андрэй узяў яе асцярожна ў пальцы і адразу высыпаў на далоню — на балючую руку — тры чорныя, як усё роўна пакусаныя зубамі, гарошыны. Адна з іх, большая, была

плоская і доўгенькая, як фасоліна. Андрэй пачуў на далоні, што яны цяжкія.

— А-а-а... Аско-олкі... — здагадаўся ён і паднёс руку да вачэй. Шкляначку паставіў асцярожна на стол.— Яны ў мяне выходзілі і перш. У бальніцу клаўся, калі пачыналі ісці. Ад болю спасу не было...

— Ну, што ж, можаце гаварыць, што іх у вас больш няма. Дастаў не я. Другі хірург. Лапай... — усміхнуўся Крук.— Дарагой, праўда, цаной. Бярыце на памяць. Бярыце, бярыце... З прабіркай... — сказаў ён, згледзеўшы, што Андрэй хоча іх пасыпаць з рукі на стол.

— Ды ўжо ж... Вазьму. Толькі без шкляначкі. Закручу ў паперку. А то расцісну яшчэ шкло. Людзей у аўтобусе кожны раз поўна. Дзякуй, доктар... Глядзі ты...

— Няма за што. Шчасліва... — Крук зноў сеў за стол і стаў пісаць.

Андрэй тады спытаўся, асмялеўшы:

— Скажыце, а што будзе з Раманам?

Спытаўся і чакаў. Крук маўчаў, як і ўсягды ў палаце. Нічога не сказаў, пісаў.

Андрэй павярнуўся ад стала і ціха, каб не стукаць ботамі, пайшоў да дзвярэй, дзержачы ў хворай руцэ калючыя асколкі — сціснуў у жмені.

## 13

Пад нагамі ля бруку крышылася зямля — дождж змачыў яе толькі зверху,— адставала камякамі і пляскалася ў ваду. Сабраўшыся, вада ў гэтым месцы хлынула на дарогу, размыла пясок, і цяпер якраз там, дзе ўсягды таптаціся на крыжаватцы людзі, галасуючы, цёк, шваргочучы па каменні, ручай: уніз, цераз дарогу да маста ў раку. У ручаі збіралася белая пена, дрыжала на вадзе, плывучы, чаплялася за берагі і круцілася разам з вусікамі дробнай маладой травы і жоўтай шырокай квятай, адтаптанай недзе ля дарогі.

Ля самых ног у Андрэя відаць было чырвонае сплеценае карэнне ад травы і белыя дробненькія, як гарох, каменьчыкі — прыліпалі з зямлёй да ботаў.

У ручаі па вадзе скакала сонца; стаяла яно высака на чыстым небе, над самым пасёлкам,— павярнулася з паўдня. Грэла — было чуваць, што ад яго горача ў плечы аж праз фуфайку, хоць ты скідай; на шчоках выступаў пот, ліпкі, як у лазні ад духу. Дзьмуў густы, мяккі і цёплы

вецер — недзе з поля. Лёгка было дыхаць; з-пад прысад пахла асыпанымі і падсохлымі яшчэ да дажджу тафялёвымі пупышкамі — шалупіннем. Яны намоклі ў цёплай вадзе, што ў гарэлцы, і ад іх, як ад тафялёўкі, зрывала нос.

Неба было чыстае над усім пасёлкам і, здавалася, аж блішчала ад сонца. Ад сонца блішчалі і бляшаныя стрэхі на дамах — на школе і на нарсудзе; блішчаў брук на дарозе і далёка на вуліцы ў пасёлку, ля пошты; блішчалі прысады на ўвесь пасёлак, трава пад нагамі і шкляныя кубачкі на тэлефонных слупах. З кубачкаў на зямлю капала вада, пад самыя ногі: не абсохла яшчэ ад ветру. Не баючыся, ля самых ног хадзілі чорныя, бліскучыя, як аблізаныя, шпакі — торкалі дзюбамі ў траву.

Другі аўтобус у Вострава пайшоў перад самым носам, падабраўшы людзей на крыжаватцы,— Андрэй спазніўся і цяпер стаяў на шашы адзін. Доўга стаяў — балелі ўжо ногі, глядзеў усё на дарогу, на гару пад пошту — можа, хто будзе ехаць. А не — то трэба ісці на вакзал і чакаць трэцяга аўтобуса да вечара. Ад Вострава тады пакуль дойдзеш, нямогучы, дамоў... Ацямнееш... Хоць ты варочайся ў бальніцу. У леспрамгасаўскую кантору ісці не хацелася — далёка, на самай аўтабазе за пасёлкам. Пакуль дацягнешся... Да маста пры выездзе тады бліжэй. З аўтабазы калі і ішла машына на ўчастак, то раніцай. Машыны рассылаюць раніцай. А калі і будзе ісці, то да маста нідзе яна не праедзе.

З гары ад пошты спускаліся прычэпы, адзін за адным, але ўсе паварочвалі на аўтабазу. Андрэй нават не падымаў рукі. Адышоўся далей ад крыжаваткі, каб не дражніцца, і глядзеў усё на гару да пошты. Там далёка блішчала дарога, і за пасёлкам над лесам віселі, сплыўшы, хмары.

Азіраючыся назад, Андрэй ішоў да маста. Хацеў скінуць фуфайку, але падумаў, што баліць плячо, расшпіліў толькі на грудзях гузікі.

Да маста ён не дайшоў. Пачуў, адышоўшыся ўжо далёка ад крыжаваткі, што ззаду гудзе машына, цяжка, з натугай. Ехала «будка», абцягнутая брызентам. Валюхалася з боку на бок на балотцы ля смалакурні — адгэтуль добра былі відаць дзве чорныя, у дзёгці, вялікія бочкі і пахла шкіпінарам — нёс вецер. Нехта ехаў з аўтабазы напрамую — паляніўся аб'язджаць балота аж ля тарфянога склада — далёка.

Андрэй сышоў са сцежкі на брук і чакаў. Вырваўшыся

на шашу, шафёр, было чуваць, стукнуў дзверцамі і пераняніў скорасць. «Будка» зараўла і рванула з месца. Андрэй падняў руку, але «будка» ныла і ныла, не сціхаючы: яго не думалі браць.

Андрэй цяпер пазнаў машыну — стары ГАЗ з аўтакалоны, на якім вазілі прадукты ў магазін на ўчастак. Пазнаў здалёку праз шкло ў кабінцы і шафёра — Арціста. Той сядзеў якраз з гэтага боку, дзе стаяў Андрэй, без кепкі, стрыжаны пад ярша, з вялікім белым лобам, як лысы, і з закасанымі па локці рукавамі. З ім сядзела ўпобачкі жанчына з чырвонай хусткай на шыі.

У Андрэя аж замлелі ногі — доўга стаяў на адным месцы, выцягнуў руку,— і ён сышоў з бруку.

«Будка», відаць было, і не думала станавіцца: не пазнавалі. Калі яна мінула яго, ён пастаяў, тады пабег за ёй ззаду трушком, сам не ведаючы чаму, пакуль не спатыкнуўся аб каменне. Задыхаўся, здзеў з галавы кепку, пачаў выцірацца ад поту.

Калі Андрэй прыняў ад вачэй кепку — «будка» стаяла ўперадзе, з'ехаўшы ўбок, і ля яе хадзіла жанчына з чырвонай хусткай на шыі. Ён здагадаўся: Раманава жонка, Нінка. Арціста відаць не было — не вылазіў з кабінкі, чакаў.

Андрэй зноў пабег трушком, грукаючы ботамі па бруку, забыўся нават збегчы на сцежку.

— Добра, што я вас пазнала... Мігнулася ўваччу, што чалавек з нашага боку... Я ўжо думала, што вы дома. Вас жа, Раман гаварыў, раніцай выпісалі.— Нінка вярнулася да кабіны, узялася рукой за адчыненыя дзверцы і паставіла нагу на падножку.— Ды гэта ж Вялічка. Я-то пазна́ю... — гаварыла яна Арцісту, аж крычала. Андрэй убачыў, што на нагах у яе бліскучыя чорныя гумовыя боцікі, заляпаныя рэдкай прысохлай граззю. Другой рукой яна папраўляла чырвоную хустку на шыі — закідала рагі назад за плечы.

— А мне сказаў Раман, што вы недзе ўжо дома,— павярнулася яна да яго, калі ён падышоў да кабінкі.— Я была ў Рамана, заязджалася. Астацца сягоння хацела. Не глядзіць ніхто за такім... Сястры яго няма, дык... — яна павяла языком па фарбаваных у чырвонае вуснах, як усё роўна хацела піць, падняла бровы.— Дык астанешся тут... — гаварыла яна паволі, нехапя варочаючы языком,— калі людзей трэба карміць і паіць. Не накорміш, дык Унук не толькі з работы скіне, а і галаву з плеч...

Звязалася з гэтым орсам. На хлеб цяперака трэба самой зарабляць. Мой не заробіць... Пайшла ў магазін, калі Федзя ў орс перайшоў... — гаварыла яна ўсё роўна як сама сабе.— А цяпер хоць ты зноў кідай: пры маім сядзець няма каму. І кіну, відаць... Дык тут кінь. Рэвізія зноў трэба.

Арціст засігналіў аж два разы — не цярпелася, і Нінка палезла ў кабіну. Андрэй падбег да дзверцаў — убачыў зноў стрыжаную пад вожык галаву з белым лобам. Галава кіўнула назад — лезь у кузаў.

Учарэпіўшыся здаровай рукой зверху за борт, Андрэй падцягнуўся, лучыў ботам далёка пад кузавам на нешта круглае. Зачапіўшыся за борт локцем, ён падцягнуўся яшчэ вышэй, чуючы, як чапляюцца штаны за балты на дошках на кузаве. Устаўшы з калень у кузаве за бортам, ён адразу ўтарапіўся вачыма ў кут да кабінкі, дзе быў складзены хлеб, пасля доўга дзяржаў за локаць хворую руку... Не давала дыхаць, як хто душыў... Ён глядзеў і глядзеў у кут на хлеб...

Арціст не ехаў, ляпаў усё дзверцамі. Нарэшце ззаду за машынай паказалася яго стрыжаная пад вожык галава — Андрэй яшчэ стаяў і адразу згледзеў яго. Арціст, здалося, памаладзеў за гэты час, пакуль Андрэй яго не бачыў. Пахудзеў, нос і шчокі ў яго бурыя ад сонца і ветру — загарэлі, толькі лоб і маладая лысіна белыя — паласой. Арціст, мусіць, нядаўна скінуў шапку. Стаяў ён, узяўшы рукі ў бокі, перагнуўся ўвесь у паясніцы назад і глядзеў знізу, як адкуль з ямы: быў кароткі. І прозвішча ў яго было кароткае — Жук. Звалі яго Арцістам даўна ўжо, як толькі ён паявіўся ў леспрамгасе. Спачатку ён ездзіў у аўтакалоне на чугрэі з прычэпам, на кузаўным МАЗе — цягаў «метры», доўга рабіў на «казле» — вазіў дырэктара леспрамгаса і Вулю, пасля, недзе летась, перасеў у «будку» — возіць на ўчасткі рабочых і прадукты з орса.

— Здароў! Ну, што тут у цябе? Жывы выйшаў?.. — сказаў ён, варочаючы галавой убок і цыркаючы дробненька слінай.— Падкінь фуфайку пад сцягно на бочку. А то — прыткніся з краю на мех з мукой. Куль стандартны, не развяжацца. Што, рука не служыць? Лепш табе ў кабіне было б, але паспрабуй высадзіць гэту. Намазалася. Да мужыка паехала. Мужык ёй такі ў галаве... Каб хацеў, дык я б яе на складзе на мяхах...— Арціст гаварыў цішэй, асцерагаўся, мусіць, каб не пачула Раманава жонка. Нагнуўся, пасля спрытна склаўся, як складаны ножык, падымаючы нешта з-пад ног з зямлі:

— На, парассыпаў, узлазячы. Не будзе з чым у магазін прыйсці.— Выцягнуўшы руку, Арціст падаў яму дваццаць капеек — старыя, цёмныя з двух бакоў, як толькі ён згледзеў іх на бруку ля машыны. Андрэй падумаў: не помніць, ці былі ў яго якія капейкі — можа, і ляжалі ў кішані ў штанах з зімы... Арціст склаўся яшчэ раз, сцёр пальцамі з брызентавых жоўтых паўбацінак гразь і сказаў:

— Ну, глядзі, каб бутэлькі не паадтыкаліся... Дарога — госпада ў яму... Прычэпы пасля снегу з лесам хадзілі. А цяпер калоціць так, што зубы сыплюцца.— Ён патрос рукой, усё роўна як яшчэ дзяржаў у жмені дваццаць капеек, і схаваўся за кузавам — пайшоў да кабінкі.

Андрэй сеў на мех, асцярожна сагнуўшыся,— фуфайкі не здымаў — і ўзяўся за борт здаровай рукой. Забалелі адразу, задраўшыся ўгару, калені, і ён выпрастаў ногі — яны ўпёрліся ў скрынку ад гарэлкі. Скрынка была збіта з тонецькіх дошчачак — бойся, што паломяцца.

«Спрытны...» — падумаў ён пра Арціста. Успомніў, як той ездзіць на веласіпедзе, не дзержачыся за руль, і на вуліцу ў вёсцы бягуць тады дзеці глядзець; як ідзе барыню на вечарынцы: становіцца на рукі, выгінаецца, што вуж, і куляецца цераз галаву... Расказвалі, што Арціст быў у Германіі — забралі немцы ў блакаду. Там і вучылі «хадзіць на галаве». Насыпалі на зямлю пілавання, каб мякчэй было, і вучылі... Можа, і праўда была, можа, і смяяліся: рабочыя выдумаюць, толькі за гэта, што ён умеў «хадзіць на галаве», яго і звалі Арцістам.

Вецер біў за плячыма ў стары, выбелены, як палатно, брызент; брызент напінаўся, даставаў да плячэй, і з-пад яго вострым і калючым струменем свістаў у шыю холад.

Машына была нагружаная, не трасло, толькі на выбоінах падкідала высака ўгару разам з мехам. Ззаду за машынай круціўся вецер, і ў вочы з-пад ног нясло пясок і пацяруху ад сена — дробную, сухую; здзімала з мяхоў — мяхі ляжалі ў самым праходзе — муку і сыпала на штаны, на калошы, і яны зрабіліся белыя аж да калень.

Андрэй пачуў пасля, як пахне хлебам — печаным хлебам, што прывозілі з орса, мяккім, свежым, з падсушанай жоўтай скарынкай зверху на буханках. У магазін усягды прывозілі свежы хлеб — палучалі адразу з пякарні; ён быў яшчэ хоць калі цёплы — не рэзаў нож. Са свежым хлебам Андрэй любіў есці салёную траску. Яна здавалася лепшая за селядзец: бярэш, рэжаш на скрылі, як добрае сала; ясі — пахне хлеб, пахне рыба, пахнуць рукі

смалой, соллю і потам... Піць адразу не хочацца; сасмяг-неш пазней, калі наносішся коням ў праварыны і сена, і аўса... Ходзіш і ходзіш тады да бачка ў калідор. Шура кліча піць да сябе ў кантору: там у яе стаіць на стале графін. Але нялоўка ісці да Шуры, ды і колькі ў тым графіне вады; паднясі толькі яго пасля рыбы да рота — нічога і не астанецца.

Апошнім часам, калі яшчэ жыла Верка, яны не пяклі свайго хлеба — так, рэдка калі, каб кісля ў дзяжы не звялася,— жылі з магазіна. Прывыклі, і ён, і Верка... І да хлеба з пякарні, і да траскі. Лягчэй. А то — купляй яшчэ гэту муку. Мясі... У печы палі. Верка толькі не любіла надта салёную траску — мачыла ў вадзе.

Хлеб склалі ля самай кабінкі на брызент — нагрузілі гару вышэй кузава, аконца нават у кабінцы схавалі. Ля хлеба — скрынкі з рускагоркай. Стаяць аж у чатыры рады — адна ля адной. Падскокваюць угару, распаўзаюцца, тады зноў збіваюцца ў рад — бразджаць толькі несціхана бутэлькі — увушшу шуміць. Калі вецер нясе ў вочы пыл з мяхоў, са скрынак востра і свежа пахне рускагоркай, аж крупіцца ў галаве.

«Будка» мінула мост, паднялася на гару і ўехала ў лес — ззаду з абочын уцякалі немаведама куды старыя, з шэрымі камлямі елкі і кусты пад'ялеўцу. Дарога ў лесе была роўная і прамая — машыну толькі калыхала; шафёр налёг на газ, і з-пад брызенту падзьмула яшчэ горш. Ходадна цяпер было і ў шыю, і ў плечы, і спераду ў ногі — у каленях. Ён падумаў, што зябне ўвесь, як і тады, зімой, калі вёз дамоў Верку.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Нанач тады ўзяўся мароз, было зялёнае ад маладзіка неба, і ўгары ядрана блішчалі зоркі. Снег перастаў вечарам, дзёрла толькі ветрам з поля сухую белую муку, змяшаную з пяском, і гнала на дарогу, заносячы ў лагчынах у калена.

Арціст ехаць не хацеў. З'ездзіў днём у рэйс аж пад Полацк — вазіў рэзчыкаў, намучыўся як досыць. Толькі што прыгнаў машыну на базу. Ноч наперадзе, стане ў полі — тады што? Вострава не блізкі свет...

Машына яго, крытая брызентам, стаяла на базе ля самых варот... Арціст хадзіў круга і стукаў па колах вялікімі — не з нагі — цвёрдымі, падшытымі лямцам валёнкамі. З валёнак адвальваліся скрылькі прытаптанага снегу — было відаць ад месяца.

— Ты ж мяне знаеш... Рад памагчы табе, чалавек... А на полі?.. Так нясе... Па першае чысло... Ну, што я зраблю? Сядзем — адубеем за ноч.

Арціст доўга хадзіў круга машыны, то адчыняў, то зачыняў дзверцы: стукаў. Не мог, відаць, рашыцца.

— На чым жа я яе павязу... Заўтра толькі паштовая да Вострава паўднём пойдзе. Паштовая мяне не возьме. Не лавіць жа мне чужых людзей на дарозе. Не падумаў я. Пазванілі — я скарэй у Вострава на паштовую і ў бальніцу. Не верыў. Ажно праўда. Каб жа я падумаў — на кані б ехаў. А так... Хоць ты дамоў едзь заўтра на той самай паштовай, а там бяры каня. Па такой дарозе з канём... Выручы, брат... — Андрэй гаварыў і чуў, як бярэ мароз — аж у грудзях, здаецца, пячэ.— І Унук званіў... Прасіў начальніка яшчэ ўдзень...

— Ды пайшоў ты са сваім Унукам... Знаю. Званіў. Перадалі. А што ён мне — падпіхаць прыйдзе, Унук твой?

Арціст бразнуў дзверцамі і падышоў да Андрэя, да самых варот. Пад валёнкамі ў яго хрумшчэў снег, што жарства.

— Тут можна каня пашукаць... За ноч будзеш аж дома... — сказаў і адразу аціх. Доўга глядзеў за вароты ў цемнату, тручы рукавіцай шчаку. Тады павярнуўся да яго, Андрэя, і аж закрычаў: — Нос!.. Нос тры снегам!.. Белы... Змарозіў к чорту мацеры... Пастаіш яшчэ — зусім здубееш. Рукі апусціў. Чорт бы яго ўзяў, і мароз, і снег... Добра, паеду... Нагледзеўся я гора за жызню... Ведаю. Тры нос і бяжы ў дзяжурку. Хай вароты стары адчыняе.

Хапіўшы рукой дзверцы, ён скочыў у кабінку, што кот.

Сцямнелася: схаваўся маладзічок. Брызент на машыне ад інею быў увесь белы, як палатно. І Верку вынеслі з бальніцы ўсю ў белым, закручаную ў простыню,— няслі ўдваіх з Арцістам. Памагала яшчэ санітарка, выйшаўшы забраць простыні,— старая зусім жанчына ў доўгім чорным паліто да пят. Памагла падняць Верку ў кузаў, памагла надзець на плечы Верцы кажух, завязала хустку. Андрэй надзеў толькі Верцы на ногі валёнкі. Чуць патрапіў у цемнаце. Арціст, стоячы на зямлі, паліў сярнічкі: свяціў. Сярнічкі шыпелі і адразу тухлі. Яшчэ горш рабілася цёмна.

— Хай ёй, добры чалавек, зямля будзе пухам... — сказала санітарка, выціраючы вочы.— Вясёлая яна была ў нас. Усю палату весяліла... Не хацела толькі, каб пасля

смерці ўскрывалі... Ведала, бедная, што памрэ. Яны многія ведаюць, чуюць... Прасіла ўсіх нянечак і мяне прасіла, каб адразу наказаць... Каб адразу забралі... Дактароў не прасіла, нас прасіла, нянечак... Добра, што вы і прыехалі адразу, добры чалавек... Хай ёй там будзе добра, на тым свеце...

Санітарка доўга не магла злезці з машыны — не даставала нагамі да зямлі, памог Арціст. Андрэй падаў ёй з машыны прастыні: адну, тады другую, і нават нічога не сказаў — не ведаў, што гаварыць. Глянуў толькі ўслед... Яна адразу схавалася ў бальніцы за дзвярыма.

— Ну, як ты там? — спытаўся ціха знізу Арціст. Гаварыў ён мякчэй, не так, як ля варот на базе.

— А што я? Паедзем... Такая дарога... Такая бяда...

— Тут, брат, нічым не паможаш. А ты што? У кузаве будзеш?

— Паедзем... Буду з ёй...

— Глядзі-і... Здубееш. Ты што? У кузаве? Брызент, брат, не сагрэе...

— Паедзем. Буду з ёй... Апошні раз пабуду з ёй. Калі я яшчэ пабуду? Заўтра прыйдуць людзі. Ты ўжо надта не гані. Каб надта не трасло...

Арціст нічога не сказаў, чуваць было, уздыхнуў і пайшоў да кабінкі. Мусіць, закурыў — бліснула ў кабіне сярнічка, было відаць праз аконца. Машына доўга не краталася, гудзела ціхенька, як баючыся. Андрэй падумаў: не чуў дагэтуль, што гудзе машына...

Арціст усё яшчэ бразгаў у кабіне — шукаў нешта пад сядзеннем. Андрэй памалу падышоў у кузаве да самай кабінкі, да жоўтай лавачкі з дошкі, і стаў мацаць кішэні, пакуль не знайшоў сярнічкі.

Сярнічка загарэлася адразу, і ў кузаве зрабілася відна, як ад лямпы...

Верка была худая і белая з твару — ён убачыў яе першы раз нежывую — вочы заплюшчаныя і ўваліліся, нос зрабіўся востры і доўгі... Падобная цяпер на сваю стрыечную сястру з Вешак... Ляжала ў доўгім жоўтым кажусе і чорных валёнках з галошамі — у чым прывозілі ў бальніцу. На галаве была завязана вялікая карычневая пянькова хустка з сівым шлякам...

— Верка... — клікнуў ён тады, як спужаўшыся. Патухла ў пальцах сярнічка.— Верка... — клікнуў ён яшчэ і асунуўся ля яе на калені.

Застагнаў, чуючы, як горача робіцца ўсярэдзіне, што

ад агню... Падумаў: у Веркі халодныя рукі, як лёд, і не гнуцца. Складзены на грудзях адна ля адной... Санітарка іх складала, тая старая жанчына...

Затраслася машына... Выязджала з двара...

Брызент быў высака падняты на жалезных выгнутых шынах, і з кузава шырака была відаць цёмная ноч — чорнае неба ляжала нізка над белым снегам. Здавалася, цемната цісне зямлю, цісне машыну, цісне плечы, як камень, не павярнуцца, не ўстаць...

Машына раўла, напінаючыся і напінаючыся,— шафёр не злазіў з газу — выехалі на поле. Чуваць было, як яна буксавала на адным месцы — круціліся па снезе колы, тады адсядала ўзад і зноў раўла. Калі пачынала кідаць з боку на бок, Андрэй хапаўся за шыну — рука прыліпала да жалеза і гарэла, як ад агню: была, мусіць, мокрая. Тады ён лавіў рукамі дошку пад сабой і ўпіраўся нагамі ў падлогу. У цемнаце добра бачыў на сене Верку — жоўты кажух і белы, як жменька снегу, твар. Верку тармасіла з боку на бок, і ён тады зноў апускаўся на калені на сена і дзяржаў Верку за рукі. Калі машына вырывалася на роўнае і не кідала, ён даставаў з кішані з паддзеўкі карабок і паліў сярнічку. Сярнічка гарэла над самай Веркай, і ён бачыў, як у Веркі адматалася ля шыі хустка і пад хустку схавалася ўся галава, нібы Верка сама закрылася ад марозу...

Ён падцягнуў Верку вышэй на сена, узяўшы пад пахі, і абаткнуў хустку ля шыі. Хустка зноў адразу раз'ехалася, схаваўшы зусім і нос, і шчокі.

Машына стала. Калі ён, нагнуўшыся, глянуў у аконца, Арціста ў кабінцы не было. Далёка ўперадзе ў цемнаце свяцілі на снег дзве вузкія белыя палосы ад фар. На ім былі знаць пакрышаныя друзалкі лёду: ветрам з гары выдзімала ўсё на свеце.

— Гэй, ты там... Лезь у кабіну. Здубееш зусім, так цісне... Праскочылі, здаецца, тут будзе лягчэй. Лезь... — загаварыў Арціст ззаду за бартом з зямлі.— Ты што, не чуеш?

Андрэй маўчаў.

— Агонь паліш, віджу... Курыш? Лезь у кабіну...

— Пабуду з ёй... У ногі толькі зайшло... Дзе мы?

— Ля Гарадка... Цыстэрны на гарэ відаць... Сем кіламетраў праехалі.— Арціст зноў уздыхнуў, пастаяў, памаўчаўшы, тады пайшоў уперад да кабінкі. Вярнуўся ён адразу.

— На, вазьмі, раз так... Лаві... — Ён кінуў нешта мяккае якраз на сярэдзіну кузава на сена.— Ватні капот. Ускінь на ногі. Тут машына без капота мерзне, а ён... Чуеш? — Арціст цяпер нават не чакаў, што скажа Андрэй: вярнуўся адразу ў кабінку.

Капот быў цёплы, Арціст зняў яго з машыны, і Андрэй, стаўшы на калені, накрыў ім Верку зверху па кажусе — схаваў голыя рукі.

Падумаў, што Верка ніколі не баялася холаду ў рукі — і ў маразы хадзіла па ваду да студні без рукавіц, і адзежу паласкала зімой на дварэ.

Горка зрабілася ў роце, як ад палыну, што рос на мяжы ў гародзе ля плота — высокі, аж да пах, і белы. Верка ніколі не пойдзе яго жаць. Ні палын, ні пырнік, ні бульбоўнік не зачэпіцца ў яе за серп...

Тарканулася машына; пад лаўкай у кутку зазвінела вядро — дагэтуль ён не чуў і вядра.

Ён заплюшчыў вочы...

Вядро тады бразнула дома ў сеначках аб гліну на падлозе і, барабанячы, пакацілася пад дзверы ў хату. Калі ён выбег у сенцы, Верка ляжала ніц на мокрай гліне. Выйшла ў сенцы яшчэ сама, дзяржачыся за сцяну, а сесці на вядро не магла — аслабла ўжо зусім. Назаўтра тады ён павёз яе ў бальніцу...

Ён убачыў, што ў Веркі зноў голыя рукі. Машыну кідала ў бакі, і ватні капот з'ехаў яму пад ногі. Рукі ў Веркі былі халодныя, што лёд, і цвёрдыя — падубелі.

— Рукі... рукі... — закруціў ён галавой.

Абмацаўшы ватні капот, ён зноў накрыў Верцы рукі.

Ныла і ныла ў занесеных калдобах машына. Ззаду калыхалася чорная ноч і сівы, як палын, снег. На руках мерзлі вялікія пальцы; ён зусім іх не чуў. Дастаў, успомніўшы, з кішані з паддзеўкі рукавіцы...

Да Вострава было яшчэ далёка.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ад маста ў лагчыне, драўлянага і вузенькага, «будка» паднялася на гару, на стары шэры роўны брук, які пачынаўся перад самым ужо Востравам, тарканулася была — Арціст бразнуў дзверцамі, азірнуўся, відаць, на заднія колы — і зноў у кузаў з шашы сыпанула дробнай жарствой. На гары не кідала, і здавалася, што машына стаіць на адным месцы, чуваць толькі было, як шэпчуць па бруку колы.

Ззаду заблішчала зялёнае поле. Бегла і бегла за кана-

вай, як усё роўна ўцякаючы ад машыны; далёка ад дарогі пад лесам пачынала круціцца і дрыжаць. Запахла вільготнай і цёплай зямлёй пасля дажджу і зялёным жытам з поля — Андрэй зняў з галавы кепку. Згледзеў, што высокае ўжо жыта ля дарогі — у пояс, густое і цёмнае, і пад ім відаць чорная, змочаная дажджом зямля і сохне на сонцы белае каменне. Жыта было ля дарогі з абодвух бакоў. Андрэй падумаў, што полю ля Вострава няма канца — яно цягнецца да Найдорфа, а там, дзе за бярэзнікам відаць сад,— падыходзіць пад самыя Мсціжы. Ён падняўся быў на мяху, абапёршыся здаровай рукой на борт. Там, дзе за садам былі Мсціжы, сінеў далёка лес, як ад дыму, і да лесу цягнулася поле з жытам. Ён падумаў, што жытам засеяна ўсё на свеце...

Ціха зрабілася на душы. Захацелася скарэй дамоў...

«Будка» на гары павярнула на шырокую небрукаваную дарогу — схаваліся з вачэй мост і далёкі сад на полі. Андрэй здагадаўся, што паехалі ў самое Вострава. Ён тады стаў крычаць. Але яго не чулі; машына памалу калыхалася па калдобах — было відаць, як ззаду за коламі сцякае ў ямы чорная вада, ліжучы пясок. Устаўшы з меха і ўчапіўшыся здаровай рукой за жалезную шыну пад брызентам, Андрэй лёг жыватом на скрынкі з гарэлкай:

— Стой! Чорт бы цябе ўзяў. Растрасеш зусім... Чаго мне ў тое Вострава? Стой!..

Гэты раз яго пачулі. «Будка» выехала на сухое і стала. Падбег Арціст, узяўся рукой за борт:

— Што такое? Бутэлькі?..

— Якія бутэлькі... Чаго мне ў тое Вострава?.. Расраслі зусім. Не падняцца. Рука-а... Злезу. Тут ужо блізка. Цераз поле...

— А-а-а... — закрактаў Арціст.— Як хочаш. Ды мы і не ў Вострава. У Найдорф. Дамоў яна хоча заехацца. Мукі два мяхі ўзяла. Можна было б завязці, назад едучы, але ж пакажы на ўчастку муку... Баіцца. Давай тады ў кабіну, я яе выганю.

— Не-е... Што ты, пайду. Пакуль вы ў Найдорф і назад, я буду дома. Не магу больш, косці ўсе баляць, такая дарога. І так ты мяне, брат, выручаеш. І тады, і цяпер... Не знаю, чым і аддаць...

— Пустое... Злазь тады скарэй, памагу... — Арціст задзёр угару рукі.— Лучай нагой на крук. А то той ужо не цярпіцца, рвецца.

Андрэй пачуў, як у кабінцы сігналіла Раманава жонка.

# 14

На дарозе былі поўныя калдобы жоўтай ад глівы вады; абмытыя сцежкі абапал яе ў траве ля самага жыта парабіліся цвёрдыя, як убітыя нагамі, і Андрэй, мінаючы гразь, пераходзіў з аднаго боку дарогі на другі, ступаючы па шорсткай намочанай жарстве.

Пахла сырой зямлёй: густая, мокрая ад расы маладая мятліца на дарозе прылягла да зямлі і парылася на сонцы. Па мятліцы, па высокіх жоўтых дудках, поўзалі пасля дажджу дробныя чорныя бліскучыя мушкі, якіх ён, здавалася, ніколі не бачыў.

Зялёнае жыта было ўсыпана белымі квятамі — рана зацвіла падбярозка. Кветы былі дробненькія, сiняватыя — распусціліся нядаўна, можа, нават раніцай перад дажджом.

Жыта расло густа, і падбярозка ішла ўверх, круцілася каля дудак, што ўсё роўна фасоль на градах каля дубцоў, каб не сцяліцца на зямлі. Там, дзе жыта радзела, падбярозка круцілася адна за адну, каб устояць, і паўзла ўгару да сонца.

У жыце і на траве на дарозе было густа наслана сівога павучыння — нізка, ля самай зямлі. Павучынне не баялася дажджу, і на ім цяпер блішчала раса. Раса блішчала і на падарожніку на сцежцы — ніхто яшчэ не хадзіў, і на жыце, што насеялася на дарозе. Пагнутае, пацёртае нагамі і коламі, яно пасля дажджу зелянела і падымалася ўгару — расло.

За жытам, недзе ў лагчыне, зарзалі коні — Андрэй стаў і доўга глядзеў туды. На шашы ішлі машыны, хаваючыся ў лагчыне ў жыта і грукаючы па мосце: паварочвалі ў Вострава.

З дарогі, з гары, добра было відаць Вострава. Шэрыя хаты з белымі новымі стрэхамі стаялі ў шар недалёка за шашою. Яны былі знаць і аж ля лесу, дзе з Вострава ішла дарога ў Найдорф. Вострава разраслося за гэтыя гады: увесь кавалак зямлі, які абышла збоку рака, быў усыпаны новымі хатамі. Хаты будавалі ўжо на гары, пад дарогу ў Мсціжы.

Неба зацягнула рэдкай жоўтай смугой, і праз яе, схіліўшыся з паўдня, слепа свяціла белае сонца. Улёгся вецер, і ўсюды было ціха — сакаталі толькі ў жыце дробненька конікі, усё роўна як з радасці, што паявіліся на свет.

Зноў зарзалі за жытам коні, і ён, ідучы, азірнуўся назад. Спускаўся ўжо з гары ў Бярозы — у лагчыну, глыбокую, як усё роўна з берагамі. Некалі тут, мусіць, цякла рака, абыходзячы Вострава з другога боку. Лагчына ішла далёка, аж пад лес — пад Найдорф.

Сюды цяпер з поля пасля дажджу сцякала вада — шваргатала, як вясной, у разводдзе. Ён угледзеў здалёку белае каменне на дарозе і белую пену на вадзе. Пена ляжала ў жыце, ля сцежкі на пяску, на зялёнай траве, густа, як снег. Ён падумаў, што і вада блішчыць здалёку на сонцы, як лёд.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У тую ноч Арціст давёз Верку толькі да Вострава. У Мсціжы машыны не хадзілі: не было дарогі. Ранейшыя зімы, калі ў Мсціжах стаяла аўтакалона, дарогу чысцілі трактарам. Цяпер ездзілі толькі на санях.

У Вострава ўжо быў з канём Падбярэцкі — даўна іх чакаў. Пачуўшы машыну, выйшаў ад некага з хаты — толькі там у Вострава гарэў агонь, адзін на ўсю вёску,— і стаў адразу заварочваць каня. Конь стаяў збоку ля дарогі, накрыты пасцілкай, перад носам у яго ляжала сена — чорнае на снезе. Падбярэцкі ўвесь час маўчаў. Спытаўся толькі, ці прывязлі з сабой хлеб, трэба будзе садзіць людзей за стол, а на ўчастку не купіш: не ходзіць машына. Калі не прывязлі, то заўтра ён ушчэміць каня і пад'едзе сюды, у Вострава.

Арціст адчыніў борт і ўскочыў у кузаў. Андрэй з Падбярэцкім перанялі Верку і, паднёсшы да развалак, асцярожна паклалі галавой назад, да новай белай драбінкі.

Закурылі, чакалі, пакуль завернецца на дарозе Арціст. Завярнуўшыся, той быў вылез яшчэ з кабіны, падбег, пастукаў ззаду кулаком па борце, тады ляпнуў дзверцамі і адразу налёг на газ. Запахла халодным дымам — аж горка было дыхаць. Пасля агню ад фар доўга было цёмна ўваччу — Андрэй не бачыў дарогі. Яны стаялі з Падбярэцкім і маўчалі.

— Ну, брат, пакратаемся...— пачакаўшы, паківаў галавой Падбярэцкі.— Ноч цёмная. Пад нагамі ўсюды бела, не відаць выбоін. Аднаму трэба ісці ззаду і глядзець, каб не перакуліліся сані. Да Бяроз. Да лагчыны.

Андрэй пайшоў ззаду за развалкамі, нагнуўшыся і ўзяўшыся рукамі за новую драбінку. Верку яны накрылі вялікай суконнай васьмінітовай пасцілкай: прывёз Падбя-

рэцкі — пасцілкі Верка выткала яшчэ пасля вайны — і Веркі зусім не было відаць на санях. Падбярэцкі сядзеў у перадку, звесіўшы далоў ногі — сунуў па снезе.

Усюды было ціха і цёмна, цемната лягла на зямлю, на самы снег. Андрэй падумаў, што ні ў кога ў Востраве не відаць агню — якраз недзе поўнач. Калі прывыклі вочы, Андрэй убачыў уперадзе белую ац інею грыву ў каня і парэзаны палазамі снег на дарозе. Снег ляжаў высокімі гурбамі: нагнала з поля.

Ногі правальваліся ў выбоіны па калені. Андрэй пачуў, што цяжка дыхаць і што робіцца мокра за плячыма: пачаў уграваецца. На нагах балелі пальцы: калі ён сядзеў у кузаве, прымерзлі да ануч. Гарэлі ад ветру агнём шчокі. Зверху сыпаўся рэдзенькі снег, клаўся на паддзеўку, на плечы і на рукавы, лучаў у вочы.

Хроп, цяжка ступаючы па снезе, конь, з рота ў яго ішла пара. Калі дзьмуў вецер, пахла аднекуль мяккім дымам ад сухіх альховых дроў. Недзе палілася ў печы, можа, у Востраве, ззаду, а можа, ветрам нясло смурод аж з Луськага: зімой дым далёка чуваць.

На дарозе ля лагчыны панамятала гурбы, і сані часта падалі зверху ўніз, як у яму,— Андрэй тады хапаўся ў абедзве рукі за новую драбінку...

Стукалі палазы аб цвёрдую дарогу; скрыпеў снег, хроп без аддухі конь, накрыты пасцілкамі, і маўчаў, седзячы ў перадку, Падбярэцкі, каб хоць слова сказаў.

У лагчыне ў Бярозах нахінуліся набок развалкі, Андрэй забег збоку па калені ў снег і, упёршыся рукамі ў драбінку, ішоў доўга, пакуль не пачаў задыхацца. Пачуў, што ў ботах поўна снегу — холадна ў галёнкі.

Усцягнуўшы з лагчыны на гару развалкі, конь стаў. Падбярэцкі яго не кратаў — даваў адсапнуцца. Стаўшы ззаду на палазкі, Андрэй паправіў на санях пасцілку. Намацаў рукамі пад хусткай цвёрды Верчын лоб...

Пастаяўшы, конь пайшоў сам, і Андрэй доўга ехаў на палазках. Пасля, калі конь пачаў храпці, злез і ступаў, і ступаў ззаду за санямі, выцягваючы ногі са снегу і дзержачыся абедзвюма рукамі за драбінку.

Зноў пачалася роўная, замеценая за дзень дарога — выехалі на поле; пайшоў гусцейшы снег — сабраўся ўжо зверху на пасцілцы на санях; сцямнела яшчэ горш, не відаць было наперадзе каня.

Холадна стала ў плячах; падгіналіся ногі, ён хацеў

яшчэ раз пад'ехаць, але не мог злавіць нагамі палазкі... На іх намерзла лёду, і слізгаліся боты.

І ён зноў пайшоў за развалкамі, дзержачыся за спінку.

Дамоў яны прыехалі пад дзень — у вёсцы крычалі пеўні. Здалёку, аж з гары ад могілак, ён згледзеў у Мсціжах агонь. Адзін на ўсю вёску — у сваёй хаце ў акне. У цемнаце агонь быў яркі і востры, калоў у вочы, як іголкай, і скакаў то ўніз, то ўверх.

Калі яны пад'ехалі да варот, у сенцах бразнулі дзверы, і на двор, на снег, хлынула палоска агню, такога ж яркага і вострага, як у акне. Дзверы ў сенцах адчыніла Балюта, ён пазнаў яе, калі яна адышлася да студні — давала дарогу каню. За ёй ззаду выбегла ў адной сукянёшцы дачка і кінулася да саней. Закрычала на ўвесь двор... Пасля падбегла да яго, абхапіла рукамі, як усё роўна прыліпла.

Андрэй тады ўчапіўся за частакол...

Верку яны ўнеслі ўдваіх з Падбярэцкім. Паклалі ў запечку на ложак...

Калі ён спарадкаваў каня: адпрогшы, завёў у хлеў, наскуб са сцірты сена (на ўчастак не пагнаў: Падбярэцкі раніцай паедзе ў Вострава па хлеб) — і вярнуўся ў хату, Верку сабраліся мыць і яму сказалі выйсці.

Пасля, калі яго клікнулі з двара, Верка ўжо ляжала прыбраная ў другой палавіне на дзвюх ссунутых і засланых белым абрусом лавах. У светлай, чуць чырванаватай нажутцы — на грудзях зверху складзеныя рукі — і ў чорнай спадніцы. На нагах у яе былі надзеты чорныя, растрыжаныя чуць-чуць спераду тапачкі — былі цесныя. На галаву ёй завязалі белую ў дробны гарошак хустку, яна ўсягды любіла такую насіць. Ён успомніў, што Верка прасіла Балюту — яшчэ перад тым, як паехаць у бальніцу — набраць і на нажутку, і на спадніцу; каб доўга не ляжаць нямытай. Пакуль ён з'ездзіў цяпер у бальніцу і пакуль прывязлі Верку — Балюта пашыла ёй усё на машыне.

«Гардзін жа няма...— адразу стукнула яму ў галаву. Ён успомніў, што Верка прасіла накрыць яе гардзінай.— Трэба будзе не забыцца, каб хаця не забыцца... сказаць Падбярэцкаму. Хай ён купіць у Вострава гардзін... На ўчастку ў магазіне можа не быць...»

Распрануўшыся і павесіўшы паддзеўку ў запечку на цвік— паддзеўка ўпала, і яе падняла Балюта, ён падышоў да Веркі і стаў упобачкі.

Верка цяпер была і не худая, а такая, як усягды, што жывая... І зусім не падобная на стрыечную сястру...

Доўга стаяў, гледзячы на яе, пасля адышоўся да стала, адсунуў зэдлік, сеў і, паклаўшы галаву на рукі, заплюшчыў вочы...

У першай палавіне гаманілі жанчыны — ён пазнаваў па голасе, хто прыйшоў з вёскі,— і плакала дачка: на ўсю хату...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пад ногі лучала вострае, як усё роўна бітае, каменне — ляжала тут крушнямі, яго нагнала сюды, мусіць, вадой,— яно краталася пад ботамі, выслізгвала, мокрае, і Андрэю здавалася, што кратаецца зямля. Ён аж замахаў быў рукамі... Пачуў раптам, што рэжацца ў даланю. Адагнуўшы пальцы, згледзеў у здаровай руцэ кавалак шэрай старой газеты, складзены ў некалькі столак.

Раскруціў адразу газету — у яе ўпіліся тры дробныя кавалачкі жалеза, цёмныя, у маленькія жоўтыя ржавыя кропачкі, як каменьчыкі ўсё роўна на зямлі пад нагамі.

Ён зусім быў забыўся, што дастаў з кішані асколкі і нясе ў руцэ...

Здалося, як усё роўна ён ідзе не дамоў, а адступае ў блакаду з партызанамі з Камена на Палік... І яго, Андрэя, узяўшы пад паху, вядзе Рукалееў. Увесь час, да самай Беразіны... І плячо баліць цяпер якраз як ад асколкаў. І трэба ж было тады выжыць... Калі яны пайшлі ад Беразіны на прарыў, у Андрэя была гарачка, ён нічога добра не помніць. У тую ноч над нямецкімі акопамі ў лесе было відна, як удзень: ад ракет і ад кулямётаў. Яго цягнуў ззаду за ўсімі Рукалееў, узяўшы пад пахі...

І трэба ж было тады выжыць, калі асталіся з іхняга атрада лічаныя... Не зачапіла, можа, таму, што яны былі ззаду за ўсімі.

Плячо пасля, калі прарваліся з акружэння, лячылі самагонкай, мазалі ёдам — нямецкім, знайшлі ў забітага ў сумцы.

Калі прыйшлі нашы, яго — Андрэя, пусцілі дамоў, не ўзялі ў рэгулярную армію — не прайшоў камісіі. Дактары доўга тады ківалі галовамі...

Рукалеева ўзялі — сам прасіўся. З арміі прыслаў ён Балюце толькі адно пісьмо — з Гродна. Пасля вайны яна шукала яго — пісала ў ваенкамат. Прыйшло звяшчэнне, што Рукалееў забіты ва Усходняй Прусіі...

Андрэй склаў кавалак газеты ў тры столкі, як усё роўна на цыгаркі, і схаваў з асколкамі ў кішаню ў фуфайку — пад паху.

«Каб хаця іх усе дасталі... Каб ужо больш не ныла плячо. А то як возьмецца на дождж — здаецца, любое другое перанёс бы...»

Запахла палыном, што ўсё роўна дома з гарода з мяжы, і свежай травой, як з-пад касы.

Ён мінуў стары, вымерзлы яшчэ перад вайной, сад ля дарогі — у ім асталіся толькі ліпы і дзічкі — і выйшаў да бярэзніку на полі. Ля бярэзніку быў жоўты пясок і ляжалі шэрыя, ачарсцвелыя ўжо на сонцы пасля дажджу, валуны, старыя, плоскія, абсыпаныя зверху зялёным мохам. Іх пасцягвалі сюды гадоў некалькі назад, калі ачышчалі поле. Ён прыхінуўся да крайняга ля дарогі каменя, стаяў і доўга глядзеў на поле пад дом. Не мог яшчэ многа хадзіць. Балелі ногі, цяжка было дыхаць — напіраў кашаль.

Выйшаўшы за бярэзнік, ён адразу згледзеў новыя могілкі. Іх пачалі на гары, побач са старымі, якраз ад дарогі. Ля самых могілак расло жыта, збоку ля іх былі відаць за грэбляй Мсціжы — шэрыя хаты стаялі ў доўгі роўны шар — ад логу аж да лесу. Ён падумаў, што Мсціжы вунь як высака стаяць, вышэй грэблі, што грэбля ў лагчыне...

Тады ён убачыў на новых могілках блізка ад жыта жоўты пясок і спопаразку стаў. Задрыжалі рукі і холадна стала за плячыма, як зімой...

Ён стаяў і глядзеў здалёку на жоўты пясок, а па жыце бег цёмнай паласой цень ад воблака — хавалася сонца.

Ён падумаў, што ідзе да Веркі сюды першы раз і ідзе з пустымі рукамі. Ён хацеў быў спачатку нарваць жменю жыта; пасля ўбачыў ля шырокага, як пліта, каменя ля самай дарогі верас. Зялёны, з леташнімі яшчэ, падсохлымі кветкамі — шэранькімі вочкамі. Калі ён, нагнуўшыся, зламаў дзве доўгенькія галінкі, вочкі пырснулі ў траву — асыпаліся. Ад верасу пахла зямлёй.

На новыя могілкі з дарогі ён падымаўся якраз тым следам, дзе зімой рабіў дарогу бульдозер.

Пад снегам тады, мусіць, была не ўмёрзшы добра зямля: бульдозер паздзіраў зверху курганне, пакінуўшы на сіўцы след.

Андрэй ішоў і думаў, што там, дзе праехаў бульдозер і дзе вязлі за ім ззаду на санях Верку, не расце трава...

Зашчапіўшы за сабой на кручок вароты, Андрэй доўга стаяў, як усё роўна баяўся ісці дваром.

Двор увесь зарос падарожнікам, густым, цёмным: па ім ніхто не хадзіў; толькі, калі прыгледзецца, знаць была

ад студні да варот па траве сцежачка — насіць, мусіць, Ганька ваду.

На паркане ля студні сохла памытая Верчына вялікая паркалёвая хустка ў чырвоныя кветы.

«Ці дома дачка?» — падумаў ён і пайшоў дваром ля хаты, апіраючыся здаровай рукой аб частакол,— білася сэрца, аж, здавалася, выскачыць...

На дзвярах у сенцах на клямцы вісеў круглы замок, задзёрты ўгару.

Андрэй падумаў, што дачка кідае хату адну, не замкнёную: ад гэтага замка ў іх не было ключа. Ён выняў з прабоя замок і, адчыніўшы ў сенцах дзверы, паклаў яго зверху на шафарні. Па прывычцы вобмацкам знайшоў клямку ад дзвярэй у хату...

Зачыніўшы дзверы, доўга стаяў у парозе... У хаце было ціха, як у вушку, і неяк надта моцна цікалі ў другой палавіне на сцяне ходзікі... Дыхнула духам, цёплым, жылым — ад печы.

Раздзеўшыся, сеў у першай палавіне на зэдлік ля стала — проці акна ў гарод пад раку. Сагнуўшы ногі, пачуў, што мокрыя калені: памачыў у расу, калі ішоў ля жыта да Веркі...

За акном у гародзе пад хатай парос хрэн — густа і шырака, як лопух на балоце,— над ім лёталі белыя матылі.

Гарод пад раку быў увесь зялёны ад пырніку. Пасярод гарода размыла баразну, глыбака, да жоўтага пяску, мусіць, яшчэ вясной, у паводку, калі з вуліцы гнала ваду. У баразне было відаць белае каменне і блішчала пасля дажджу пад лог вада. Там хадзілі белыя куры — чужыя.

«Нясеяны гарод... Не было каму пасеяць...» — падумаў ён і пачуў, як у яго аж засвярбелі далоні.

На вуліцы загудзела машына. Ён нагнуўся да акна, да самай шыбіны: ехала «будка» — павязлі хлеб на ўчастак.

Андрэй устаў з зэдліка: захацелася есці, аж забалела ў жываце. Ад раніцы ён нічога не еў; трэба было папрасіць у Раманавай жонкі з сабой буханку хлеба. Не ісці ж адразу на ўчастак у магазін, ліха яго бяры...

Ён падышоў да печы, адчыніў засланку. У печы, збоку за пічакой, стаяў маленькі гаршчэчак. Ён дастаў яго рукой, не браў нават у парозе вілак. У гаршчэчку — ён адразу пазнаў па паху — быў звараны гарох з бульбай і забелены малаком: зварыла, мусіць, дачка сабе на палудзень. Гаршчэчак быў не накрыты, і ў яго насыпалася сажы — плавала дробненькімі лёгкімі камячкамі.

За суднікам віселі ўсе тры лыжкі, як і перш: яго, Верчына і даччына. Ён выбраў сваю...

Падсцяліўшы на стале надзежнік пад гаршчэчак, ён зноў сеў проці акна ад гарода і стаў есці адразу з гаршчэчка. Гарох быў яшчэ цёплы і салодкі: разварыўся, і ад яго пачарнела бульба. Андрэй еў і думаў, што яшчэ можна пасеяць гарод. Позна, але яшчэ можна, бульба вырасце, хто ведае, які будзе год. Еў і баяўся, каб хто цяпер не прыйшоў у хату: стукне што на двары — аж уздрыгне...

З-пад ложка скочыла на падлогу падласая котка, падбегшы да Андрэя, закурняўкала і стала церціся аб нагу: пазнала. Андрэй нагнуўся на хату — пад ложкам стаяў новы, сплецены летась увосень, шырокі белы каранёвы кошык. З яго была відаць чорная адзежына — рукава.

Пад'еўшы і паставіўшы гаршчэчак на лаўку пад суднік, Андрэй падышоў да ложка, сагнуўшыся, падцягнуў да сябе кошык. У ім ляжала вялікае рабое кацяня. З парога прыбегла котка і ўхапілася лапамі за край кошыка, што чалавек рукамі за калыску.

«Кожнаму дарага сваё дзіця...— паківаў ён галавой і зноў падумаў: — А дзе ж дачка? Далёка недзе пайшла ад дому, калі павесіла замок...»

Захацелася піць. Вада ў вядры блішчала аж на дне, і ён, зняўшы яго з дроту, пайшоў да студні. Кругa зруба на зямлі парос густы падарожнік; усярэдзіне на чорных мокрых плашках прыляпіліся жоўтыя грыбы, звесіўшы галовы... Ён цягнуў вядро са студні, думаючы, што ўсюды ўсё расце, і бульба ў гародзе будзе расці, толькі трэба яе адразу пасеяць, заўтра ці паслязаўтра, не цягнуць. Вывезці гной і пасеяць. На ўчастку папрасіць каня ці, можа, у калгасе ў Юбіцкага.

Пакінуўшы на зрубе вядро з вадой, ён пайшоў расчыніў у хлеў дзверы. На памосце ў кутку ляжала яшчэ ладнае леташняга сена з аселіцы, і ў ім тырчалі вілкі. Узяўшы іх, ён зайшоў за тын, дзе стаяла ўсю зіму карова. Гной быў некрануты, і на ім ля сцен пайшла расці трава.

«Усюды ўсё расце...— зноў падумаў ён і ўсміхнуўся сам сабе: — Адной рукой нічога не ўкапаеш і не пасееш. Трэба ісці прасіць людзей. А дзе ж дачка?»

Ён стаяў пасля на двары і глядзеў на ферму, на дзядзінец, на старыя Бацяновы сосны. На гняздзе кратаўся белы бацян: сартаваў галлё.

За фермай на пасецы ля лесу хадзіла скаціна. Адтуль, махаючы хусткай, бегла дарогай у вёску дачка, ён пазнаў.

«Зглядзела на двары...— падумаў ён.— Ці, можа, ёй наказалі...»

Ён яшчэ раз зірнуў на сасну ля фермы.

За бацяном, высака ўгары, недзе над самым участкам, вісеў вялікі і цяжкі жоўты туляг, хаваючыся краем за лес.

# Частка другая

## 1

Лета было гарачае і, здавалася, доўгае — не настане канца.

Жнівень падышоў да сярэдзіны; раніцай на лагу ўжо выпадала густая з начы раса, халодная, аж калола ў ногі. Ночы пачаліся ціхія, вільготныя і цёмныя. У цьмяным, як вокны здалёку ў хаце, дзе гарыць сляпая лямпа, без хмар небе, нізкім, навіслым, як старая дзіравая страха над вялікай пуняй, рэдка і скупа, што праз туман, мігцелі зоркі. Млечны Шлях рабіўся сівы і расплываўся ўгары над усёй вёскай.

Кожную ноч падалі зоркі. Зрываліся над самым дваром і ляцелі аж на лес, пакідаючы за сабой жоўценькую вузенькую нітку, нібы хто хуценька шоргаў сярнічкай па чорным ад сажы чалесніку ў печы. Ад іх рабілася відна на небе — у адным месцы і адразу ў другім: круці галавой, пакуль зловіш вачыма. Яшчэ і цяпер, бывае, здаецца, што ля Вострава страляюць немцы і ў небе ляцяць кулі з агнём.

На лагу і далёка за ракой на Выганчыку кожны вечар лягаў сівы туман. Паяўляўся адразу на захадзе сонца, спачатку ля самай ракі, пасля вышэй, на лагу. Слаўся вузкімі сінімі палосамі, адна на адну, высака над зямлёй, упоравень з платамі. Калі глядзець з двара на грэблю, можна было ўбачыць, як пад ім ідзе з поля, з Выганчыка, да маста скаціна.

З туманам у вёску за скацінай цягнуўся густы руды пыл ад сухога, збітага нагамі і перацёртага калёсамі на муку торфу. Падымаўся над грэбляй клубамі, як дым; буры, афарбаваны сонцам, ён доўга вісеў угары, тады пачынаў паўзці ў канцы вёскі на лог — пад Белую дарогу.

З туманам пачынала на дварэ пахнуць дымам — за лета высахла скошанае балота, ля Жоглаўкі і пад Вешкамі гарэў торф. Яго тушылі ўсё лета па нараду і не маглі патушыць — тлеў глыбака ў зямлі, не дакапацца, не заліць вадой.

Падбалоцце пад Вешкамі зрабілася сівое ад попелу, і па ім — уначы было відаць з вёскі — бегаў агонь: дагаралі высушаны альшэўнік і ніцая лаза, што раслі высака на куп'і.

Усюды пахла дымам: і ў лесе на Белай дарозе пад Курачовымі Цянямі — у старым сасновым з падсочкай бары; і ў полі за фермай ля Лазы на ржышчы, высокім, жытнім, абвітым старой рудой падбярозкай і стаптаным скацінай: пасля жніва сюды адразу пагналі на пашу; пахла і ў канцы вёскі на лагу ля крыніцы, дзе стаялі стагі — рудыя зверху ад сонца, як мурашнікі; пахла на двары ля студні, у хлеве, дзе ляжала на памосце на пярэкліцы свежае сена, і за тынам, дзе стаяла ненавязаная карова; пахла ноччу ў хаце — не было як спаць: дым гнала праз вокны.

Калі вецер заходзіў з-за ракі з балота — і адзежа ў шафе пахла дымам, і вада, і хлеб на стале; здавалася, што няма ўжо на свеце другога паху — адзін дым ад торфу...

Дым стаяў кругам вёскі ўсё лета.

Толькі ў ціхія ночы пад раніцу, калі ападала раса і туман засцілаў усё на свеце, аж не было відаць платоў за хатамі і высокага, як дастаць рукой, гарбатага, што мядзведзь, сланечніку ў гародчыку, рабілася свежа і сыра. Тады на дварэ пахла гуркамі і кмінам...

Выйшаўшы на двор, Андрэй сядзеў на ўслончыку ля частакола, акрыўшыся фуфайкай. На поўначы, якраз за фермай, над участкам стаяла зеленаватая зара, ружавеючы над лесам на Ямах, дзе хавалі на зіму бульбу,— бралася на доднічу. З хлева пахла свежым сенам; з поля, з-пад Агульніцы, дыхала ячменем, сухім, згарэлым на сонцы. Ячмень жалі бабы ўвесь дзень. Ён скорчыўся ў тры пагібелі — асцё глядзела ў зямлю; зрабіўся белы, як старая жытняя салома. Дробны і кароценькі — на лепшых загонах у паўкалена, няма як узяць у жменю,— ён лез пад сярпом з пяску з карэннем, хоць было не жні, толькі сашчыквай каласы.

Так патыхала ў хаце ячменем, калі Верка ў вайну перад жорнамі сыпала яго сушыць на голую печ.

Пад раніцу пахла змочаная расой зямля, і здавалася,

што чуеш зямлю першы раз, як нарадзіўшыся на свет...
Пахла з гарода з-за вуліцы горкім бульбоўнікам і палыном з мяжы, і чуваць быў мазут з дзядзінца з фермы: ля кароўніка стаяў камбайн — прыгналі з Луськага дажынаць ячмень на Загуменні.

Над вухам звінеў камар — сонны, лянівы: ад яго хацелася спаць; за ракой у тумане адзываліся гусі; краталіся на сасне ўгары над хлевам бацяны: сядзелі ўсе трое ўцясне́ — прылятаў яшчэ нанач на гняздо.

Бацяны сёлета адразу варажылі на сухое лета: паскідалі з гнязда малых — аж двое. Іх прынясла з-пад сасны котка і паклала ля сенцаў на пясок пад дзверы. Бацяны былі з курчат, голыя, на іх толькі тырчаў густы сівы пух, шорсткі, як валасы на галаве.

Бацяны ўгадваюць, што будзе сухое лета. Можа, па тым, што сухое лета чуюць і змеі і жабы і спаўзаюць адусюль з лагоў немаведама куды ў балота, а бацянам тады клопат? Бацяны чуюць голад і скідаюць малых, бо як іх тады пракорміш...

Бацяны сёлета пакінулі сабе толькі аднаго малога. Малы быў позні — яшчэ вучыўся цяпер лётаць: скакаў з самай раніцы на гняздзе — старых ніколі днём не было, лёталі немаведама куды — і махаў чорным крыллем. Доўга і настойна — раз за разам. Пасля пачаў злятаць з гнязда за гароды на лог пад раку. Ківаўся, летучы,— здавалася, зваліцца ў баразну на ржышча. На бацяна тады з гарода махала копыкам яго, Андрэева, дачка — рвала ўсягды ў гародзе траву. Ногі ў бацяна былі яшчэ цёмныя і цёмная дзюба. Ён хадзіў па лагу, торкаючы дзюбай у сухую траву, пасля доўга разбягаўся, каб узляцець з зямлі.

Ён не мог адразу лучыць у гняздо і вісеў угары, махаючы крыллем.

Вечарам на гняздо варочаліся старыя бацяны. Двое. Адно за адным. Ляцелі над Загуменнем з Белай дарогі — з Курачовых Цянёў: здалёку. Плылі ўгары роўна, цяжка, было чуваць на двары, як у іх шастае крылле. Смела спускаліся ў гняздо, ціха клекаталі, як ад радасці, і браліся карміць маладога. Спачатку адзін, пасля другі. На гняздзе тады пачыналася валтузня, і ўсе збіваліся ў адну кучу...

Ноччу ў небе, недзе там, дзе свяціўся Млечны Шлях, усягды гудзелі самалёты. Андрэй доўга ўзіраўся туды, кожны раз, але ноччу іх ніколі не бачыў. Холадна толькі рабілася за плячыма. Такімі пагоднымі начамі перад

апошняй блакадай прыляталі самалёты з-за фронту і кідалі, лучаючы на агні ля лагера, парашуты. Самалёты нізка лёталі над лесам — здавалася, зачэпяцца за сосны.

Начамі ўсё лета ныла плячо, як і перш — не давала спаць. А гэтай ноччу разбалелася, хоць ты было крычы. Можа, на дождж. Андрэй не знаходзіў у хаце месца і, акрыўшыся фуфайкай, выйшаў на двор. Хоць дыхаць лягчэй. А боль ён выцерпіць.

Ён сядзеў ля частакола аж да раніцы.

Раніцай вёска ўся схавалася ў тумане — сіва зрабілася за плотам на вуліцы і нават на двары — у кутку ля хлева. Зверху сыпалася мяккая, дробная, што мак, халодная імжа — ад яе пакрэплі рукі.

Ноччу ў хаце за сталом, пакуль выйсці на двор, ён быў звёў вочы на якую адну мінуту, паклаўшы галаву на рукі. Ён цяпер часта так спаў: прывык. Задрамаў быў і на дварэ, прыпёршыся плячом да частакола. Узбудзіла яго Ганька — ішла на двор па ваду ў студню і бразнула кручком у варотах — і ён, узяўшы з плеч пад паху фуфайку, пайшоў у хату.

Ганька была маладая, намнога маладзей за Верку. Жыла з дачкой — і дачка была маладзейшая за яго Вольку. У Ганькі летась памёрла маці, зімой быў год. Андрэй успомніў, што гэта Ганька гаварыла яму: «Год будзеш думаць пра Верку, тады абырышся. Забудзешся...»

У яе быў недзе на свеце і муж, Васіль, вастраносы, з чырвоным тварам; хадзіў усягды ў вёсцы ў белай рубашцы і цыркаў праз зубы. У прымы да Ганькі ён прыстаў у той год, калі пачыналі асушку за Курачовымі Цянямі,— рабіў экскаватаршчыкам. Хацеў спачатку ажаніцца з Ганьчынай сястрой Анютай — сястра была лепшая, але Анюта за яго не пайшла, і ён ажаніўся з Ганькай. Дачка ў іх паявілася скора — Васіль тады яшчэ рыў канаву за Курачовымі Цянямі. Пасля ён перайшоў на дрэнаж — там больш можна было зарабіць, равёўся на Палік і не вярнуўся. Ганька спачатку ездзіла да яго сама, доўга, нешта з год, вазіла з сабой дачку, тады перастала, махнула рукой і адсудзіла на дачку аліменты.

Ганька ніколі пра свайго Васіля не гаварыла — Андрэй не чуў. Яна любіла дачку, купіла «ёй» веласіпед, «дамачку» з сеткай на заднім коле над спіцамі, з ручным тормазам і фарай наперадзе пад рулём, і ездзіла сама: дачка была малая, нядаўна пайшла ў школу; купіла пасля швейную ручную машыну, доўгае, з лісіным каўняром па-

літо — навырост. Усё дачцэ. Дзень і ноч старалася дзеля яе — нават пер'е збірала на лагу за гусьмі «дачцэ на падушкі». «Прымакі» больш яна не чакала: «Дзе яго возьмеш? Трэба жыць як набяжыць»,— і кожную раніцу цэлае лета, пакуль ісці на работу ў калгас, бегала з касой і палкай за раку ў лучкі: да каровы пусціла яшчэ і цяліцу. На двое ўдвая трэба і сена. Касу яна кляпала сама — кожны вечар, з цямном, калі паробіць усю работу. Пасля, як у касе зусім зразаўся клёп, прыходзіла да яго, Андрэя: «Адцягні касу, а я адзежу прыйду перамыю. У дачкі яшчэ слабыя рукі...»

Зноў бразнуў кручок у варотах — Андрэй праз акно згледзеў Ганьку: ішла босая па двары з касой у руках.

Ён выйшаў на двор. У тумане над парканам ля дрывотні калыхаўся яшчэ асвер; ля сцяны, ля сеначак, стаяла Ганьчына каса з новым белым касільном. Ганькі нідзе не было відаць — вярнулася, мусіць, дамоў. Ён падумаў, што не спіцца бабе, пасля махнуў рукой: баба як баба. І ён па кустах ходзіць з касой, толькі не носіць сена на плячах, бярэ ў леспрамгасе каня. І Ганьцы ён можа прывязці сена, толькі яна ніколі не ставіць копы, а нясе траву ў пасцілцы і сушыць на двары ці ў гародзе ў канцы град на мяжы.

У шырокую сасновую калодачку ля сенцаў была ўбіта бабка, зверху бліскучая, вышараваная ад іржы касой — Андрэй кляпаў касу на ёй усё лета. Ён адсунуў яе далей на двор, вярнуўся ў сенцы, узяў малаток.

Каса была сухая, клёп зрэзаны бруском — Ганька не ўмела вастрыць касу, і Андрэй доўга ляпаў па пяце, стараючыся адцягнуць клёп. Каса крышылася пад малатком: пырскалі і ўпіваліся ў руку дробненькія кавалачкі белай сталі. Андрэй тады пляваў на малаток.

Стукаючы, ён разбудзіў у гняздзе пад страхой ластавак. Гняздо было над самай галавой — старое, леташняе, белае, як з глею. Толькі там, дзе лазілі ластаўкі, ля дзіркі была знаць чорная палоска — нанава налеплена свежай гразі. «Як усё роўна ў старую хату ўставілі новыя дзверы»,— падумаў Андрэй.

У гняздзе былі маладыя ластаўкі. Старая прылятала да гнязда, і тады маладыя пішчалі, як усё адно канаючы. Перш, з тыдзень назад, старыя ластаўкі яшчэ лазілі самі ў гняздо — дзеці былі малыя. Цяпер старая ластаўка прылятала толькі пад страху, махала крыллем, як з перапуду, чаплялася шэрымі цененькімі ножкамі за чорную паласу

ў гняздзе, перагіналася ўся, усунуўшы ў дзірку дзюбку і паказваючы белую спінку з-пад крылцаў. У гняздзе старой было ўжо цесна: падраслі дзеці. Дзеці хутка растуць.

Павіднела, за парканам на небе паявілася жоўтая паласа. Зверху пасыпалася гусцейшая імжа, было чуваць пад рукамі, як намокла каса. Цямнеў угары туман і плыў нізка над дваром, чапляючыся за варыўню.

Андрэй стукаў і стукаў малатком без аддухі, аж забалела рука. Пачуў, што з'ехала накінутая на плечы фуфайка і ляжыць цяпер ззаду за калодачкай на зямлі. Ад расы мокне рубашка і холадна ў плечы.

«Згарэла б яна, такая каса... Не ў бабскія рукі ёй, такой сухой, трэба было папасціся...»

Ганька прыйшла адразу, як ён скончыў стукаць,— відаць, чакала, слухаючы. Павіталася, павяла на яго коса вачыма. Босая, у чорнай суконцы, у сівым расшпіленым са́чаку.

— Дзе ты брала такую?..— падаў ён ёй у рукі касу.— Сухая і тоўстая, як падоска. На тачыла трэба нясці здзіраць. І клёп не зразай бруском. На сухую касу на балоце спябачкі хопіць...

— Э-э-э... Сама выбрала такую. Хто ж мне выбера...— зноў скоса зірнула на яго, усміхнуўшыся. Ён згледзеў, як у яе пакруглелі шчокі.— А спябачку згубіла. Не помню дзе. Шлындаешся па кустах усё лета. У магазіне не прадаюць, а сама не зраблю, прасіць трэба. Ці цябе, ці Гладкага, дык усё «праз магазін». Ступіць раз нагой — стаўляй...

Ён хацеў сказаць, што дасць сваю, знойдзе старую, ляжыць недзе, заваліўшыся, за шафарняй, але яна не давала яму гаварыць:

— Павыгарала ўсё ўсюды сёлета. Таго не хопіць, што далі на працадні. Іржышча пасля камбайна не ўгрызеш. І сівец па кустах як дрот... Што я зраблю? Вам добра. Вы мужчыны. Накасіў, прывёз. І зблізку і здалёку. За вамі не ўгонішся... Ці ў калгасе, ці ў прамгасе...

Ён змоўчаў. Пасля спытаўся:

— А куды ты цяпер ходзіш з касой?

— Пад Курачовы Цяні. На Кладкі.

— На Кладкі? Там жа крыніцы. І такая даль... Здурнела...

— На крыніцы я не лезу. А ля самых Кладак сёлета не гразка. Сёлета і на Курачовых суха. Трава толькі доўгая. Смычка такая, хоць вешайся. Елка пракідваецца. Ха-

ця, з'есца, калі за драбінай зімой будзе пуста, дзе яно дзенецца. Лепшага ж няма. А што далёка — не бяда. Вынесу на бор, за бутэльку нехта прывязе...— сказала яна, памаўчаўшы і абапёршыся на касільно.— Толькі гадзюк многа. Паўзуць з сухога да крыніц. Пацягнеш касой, чуеш — на касе цяжка. Мы з бабамі, калі валілі далей на чыстым калгаснае ў валы, па дванаццаць штук у дзень забівалі. Аж страсае ўсю, як успомніш...

Ён выбіў малатком бабку з калодачкі, падняў з зямлі фуфайку — сабраўся ісці. Тады яна склала пальцы ў кулачок і пастукала па касе. Каса глуха зазвінела — касільно было ўпёрта ў зямлю.

— Параўняў бы ўжо і лопаўкі,— сказала яна, кратаючы касу рукой за нос.— Спасу няма ад іх. Брусок скача, як па частаколе, калі вострыш, пальцы парэзала,— пагледзела яна сабе на руку.

Ён зноў паклаў на зямлю фуфайку, кінуў на яе малаток і бабку.

— Малаток не памог, біў і па лопаўках. Папробую яшчэ аб касу. Бывае, памагае... Толькі, відаць, тваёй нічога не паможа. Як падоска...

— Папробуй. А то без пальцаў астануся...— яна глядзела яму ў вочы і не міргала.

Ён тады ўзяў у яе з рук касу і пайшоў да хлева. Адчыніў дзверы, дастаў з бэлькі сваю, упёр касільном у зямлю пад памост, пад сена, носам у гліну на праціўні, ажаргаў і доўга вадзіў Ганьчынай касой зверху па прутку, націскаючы. Бачыў толькі, як хліпаюць лопаўкі. Калі падняў вочы — ля яго стаяла Ганька, прыйшла ззаду аж у хлеў. Ён спачатку зглеðзеў на праціўні яе босыя ногі, мокрыя, мусіць, у расе — Ганька недзе справілася за додніцу аббегаць паўсвету,— поўныя і круглыя калені, чырвоныя ад халоднай расы, ямачкі і сінія жылкі ў ямачках пад каленямі. На каленях у яе ляжаў падол чорнай суконкі — і ён быў мокры ад расы. На яго наліпла дробнае сівое насенне ад мятліцы.

Насення ад мятліцы наліпла Ганьцы і на калені...

Ён пачаў адгінацца — памалу-памалу...

Ганька глядзела не на яго, а ўніз на касу, міргаючы часта вачыма. У яе былі круглыя шчокі і круглыя вушы. І валасы яна зачасала роўна ўверх і заклала за вушы. І твар у яе быў чысты і жоўты — загарэў за лета. Ганька стаяла і зашпіляла на грудзях сівы суконны сачак, хуценька, аднымі пальцамі, як хавалася.

— Такі туман. Днём зноў будзе пячы. Бульба ў гародзе згарыць. Зямля — як попел. Ад дарогі ўчора бульбоўнік зусім палёг... Без бульбы астанёмся, душа баліць...

Яна павярнулася бокам — зашпілялася ўсё, і ён зноў згледзеў ямачкі пад каленямі і сінія дробненькія жылкі...

Адставіў тады да сцяны косы: спачатку Ганьчыну, пасля сваю.

«Ішла б яна скарэй адсюль...— падумаў быў ён.— Прыгоніць жа...»

Але Ганька не ішла, гаварыла ўсё і гаварыла. Калі ён зноў глянуў на яе — убачыў, як ходзяць у яе ноздры ходырам: Ганька часта дыхала.

— Бяры касу і ідзі...— сказаў ён.

Ганька як гаварыла, так адразу і сціхла. Падняла вочы — вялікія, круглыя, здалося, вільготныя, як са слязьмі.

Пасля яна адразу перамянілася ўся, усміхнулася і ступіла да сцяны — да касы, спрытна, босай нагой. Шырака — мокрая сукенка абцягнула нагу вышэй калена...

...Ён заступае ёй косы і адразу хапае яе на рукі; пад плечы і пад калені.

Яна трапечацца пад ім на сене, як птушка ў сіле, і ён сціскае яе ў дзве рукі, каб яна не вырвалася...

...Ён аж здзівіўся, што так падумаў пра сябе і пра яе.

— Бяры касу і ідзі... Нечага...— сказаў ён ёй яшчэ раз.

Яна ўсё стаяла і скоса глядзела на яго. Глядзела і ўсміхалася.

— Вышчарае зубы...— сказаў ён тады, выпраставўся і, махнуўшы рукой, пайшоў з хлева. Шырака ступаў па двары — спяшыў, як хаваўся.

У хаце на сцяне ад вуліцы чыкалі ходзікі — яму здалося, што ён яшчэ ўсё клепе касу: чык-чык...

Ён хадзіў па хаце і чуў, як у яго стукала сэрца.

Удзень, калі на двары і ў вёсцы ўсё ацiхла ад гарачыні і не было чым дыхаць у хаце, ён перайшоў проці хлева па пяску вуліцу і пайшоў дзядзінцам да лесу — на ўчастак.

«Трэба думаць пра сваё... Восень ідзе. Нечага бабам косы кляпаць. Рука такая, відаць, і будзе — угару не скора падымеш...»

## 2

— А што ты рабіў дагэтуль?..

Унук вылез з-за стала, зачыніўшы плячыма дзверцы ў шафе,— яны заскрыпелі і стукнулі, падышоў да акна да тэлефона, відаць, хацеў некуды даўна званіць, ды яму перашкодзіў, прыйшоўшы, ён, Андрэй. Пасля заклаў рукі ў кішэні ў галіфэ і стаў хадзіць па канторы з кутка ў куток. Пад ім угіналася і скрыпела вымытая дажаўта сасновая падлога. Падлогу мылі, мусіць, сёння раніцай, бо ад яе пахла вільгаццю. Ля дзвярэй у калідор ляжала яшчэ мокрая, складзеная ў дзве столкі ануча — падраны мех, і на ёй знаць быў жоўты пясок, ляжаў палоскамі: рабочыя, заходзячы, выціралі ногі. Унук пасля стаў хадзіць ад шафы ў парог — заварочваўся ля самай анучы, чапляючыся за яе хромавымі, у пыле, ботамі. Быў ён сёння ў старым чорным суконным галіфэ, цесным у каленьках, у сівой суконнай доўгай рубашцы са стаячым каўняром і з вялікімі кішэнямі на грудзях, падпяразанай шырокай чорнай дзягай з жоўтай выгнутай уперад спражкай. Ля шыі ў яго былі расшпілены тры жоўтыя і бліскучыя, як у ваеннага, гузікі. Гузікі блішчалі і на кішэньках зверху. Унук пацеў, даставаў, ходзячы, з кішані з галіфэ вялікую скамечаную вішнёвую хустачку і выціраў шыю — бразджэлі жоўтыя гузікі, чапляючыся адзін за адзін,— і вялікую лысіну. Сонца стаяла на паўдні, і нават тут, у канторы, за сценамі, было горача. Праз адчыненыя вокны пахла сухім мохам, сасновай смалой з сосніку і дымам, як усё роўна дзе гарэў лес.

Унук глядзеў пад ногі — скрыпела падлога і хромавыя боты: высахлі — і кусаў ніжнюю з чорнай плямкай вусну:

— Што маўчыш? Чым ты займаўся ўсё лета?

— У калгас хадзіў, стагі клаў. У мяне карова, а карове трэба сена. А сена не дадуць, калі не вырабіш працэнты... Сёлета з сенам цяжка. Усё выгарала...— аж цяпер сказаў Андрэй.

— Відзіш, як ты чапляеш адно за другое. Карова, сена, працэнты... Дык што ты хочаш? Хадзі ў калгас, раз пачаў хадзіць. Чаго вы ўсё баіцёся калгаса? З калгаса ж вы ідзіцё да нас. Што, не хочаш назад?

— Не,— Андрэй пакруціў галавой.

— І я не абавязан табе шукаць работы. У нас так: ёсць месца — бяром, няма — не бяром... А ты ўсё ходзіш



Іван Пташнікаў (справа)
з Алесем Савіцкім і дачкой Таняй.
*1977 г.*

і ходзіш... Колькі разоў ужо... Сукі церабіць я не пашлю цябе з такой рукой. А коней — ты ўжо знаеш — у нас няма. Пад Полацкам,— Унук хадзіў і хадзіў: ад акна да дзвярэй, як усё роўна не мог устояць.— Цяпер ужо ўсё. Коням крышка. Прыйшлі тралёвачнікі... Цяпер у лесе ўжо не калода. Хлыст. Пасля пілы робім хлыст. Трактар і хлыст цяпер у нас у дзялянцы. Не трэба шмуляць уручную і браць на жывот, каб ускінуць калоду на цялежкі. Жываты цяпер у нас аддыхаюць. І жываты і коні. Хоць гладзь рукой — і адно і другое. Трактар бярэ хлыст і цягне да эстакады. Схадзі паглядзі...

— Хадзіў...

— Ну, ты не маленькі, і я табе байкі баяць не буду. Коней пагналі пад Полацк, там яшчэ такога пакуль няма, як у нас. Дзялянкі там толькі пачынаюць. Работы там хопіць надоўга, і коням і трактарам. Хочаш — едзь туды разам з коньмі. Я пазваню, пагавару. А ў нас цяпер толькі жарабяты, пакуль канюшня асталася. Ды і канюшню забяруць пад Полацк. У нас скора. Падгонім аўтакалону — за адзін раз: і стрэхі, і сцены. Во-от... Чакаем з дня на дзень. Мог бы я цябе да жарабят паставіць, дык іх хлапец Канэцкага пасе. Я ж не прагоню яго. Няма за што. Эстакаду вартаваць?.. Дык і там ёсць чалавек. Ну, скажы, што я яшчэ магу даць? Хоць я і не абавязан табе, Вялічка, я работу, і лёгкую, даў бы. Толькі што?.. Да дарожніц цябе паслаць, да баб? Дык як ты будзеш дзяржаць рыдлёўку ў адной руцэ? Што галаву падняў? Адной жменяй пясочак насіць будзеш? За́баўкай займацца, як дзеці?

— Ну, ты мяне не дзяцінь...— Андрэй пачуў, як яму робіцца горача. Хоць бы вокны пазачынялі, хоць бы дымам не пахла: няма чым дыхаць.— А ты прыёмшчыкам мяне пастаў. Якраз работа на адну руку.

Цяпер яны хадзілі па канторы ўдвух: Унук і Андрэй. У парозе гатовы былі спопаразку стукнуцца адзін у аднаго.

— Я інвалід... І за гэта палучаю пенсію кожны месяц. Але пенсіі не хапае... На мяне і на дачку не хапае... А ў мяне яшчэ па суду... Мне расплаціцца скарэй з судом трэба... Што я вінаваты, што ў мяне рука... Што ў мяне асколкі і цяпер яшчэ дастаюць... Праз гэтулькі гадоў...

— Ну-ну... Ты, брат, тут не кіпі. На мяне табе нечага злаваць. Не кіпі...— Унук стаў гаварыць цішэй і цішэй ступаў па падлозе.— Усе мы ваявалі. Ва ўсіх раны баляць...

— Трэба яшчэ, каб і душа балела... За людзей...
— Ты пра што? Ты так пра мяне?.. Не-е-э... Так, брат,
не пайдзёць... Не-е-э... А за мяне тады ў каго душа ба-
лець будзе? Можа, я і не так думаю, але табе скажу так...
Папрывыкалі, каб за іх у некага душа балела. За саміх
хай у сябе перш душа баліць. А то самі віяк не разбяруц-
ца... Адны на ражон лезуць самахоць, другія, напіўшыся,
пад сасну з пілой... А ў мяне за іх — душа балі... Дык ду-
ша з вас вон, колькі я за вас цяпер стану...— Унук аж за-
бегаў па канторы, сціх, не дагаварыўшы, што ён цяпер
стане рабіць. Ступаў мякка і лёгка, што кот, пад ім нават
перастала скрыпець падлога.— А тое, што з-за вас, аднаго
і другога, душу ў мяне вынімалі і дырэктар леспрамгаса,
і... сам знаеш, яшчэ хто... дык гэтага ніхто не знае... Так
што давай дагаворымся: начальніка з мяне над сабой не
рабі. Ты чалавек справядлівы. Я на ўчастку, і ты на ўчаст-
ку. У цябе душа ёсць, і ў мяне ёсць. Дык чаму ў мяне па-
вінна за ўсіх балець, а ў цябе толькі за сябе? Толькі таму,
што ў мяне большы аклад, чымся быў у цябе? Дрэнна, што
мы занадта дзелім: большы аклад, дык і не спі, хай баліць
у цябе на душы і дзень і ноч. І за сталом ля тэлефона, і ў
пасцелі ля жонкі. А ў цябе меншы — дык ты ўжо і пра ся-
бе думаць не хочаш. Я павінен — я больш палучаю...
Не-е... Людзі цяпер роўныя... І ран ва ўсіх пораўну, калі
ты ўжо загаварыў. І прыёмшчыкі ў мяне на ўчастку ёсць.
Роўна па штату. Едзь пад Полацк. Толькі запомні — лю-
дзі цяпер роўныя...

— Роўныя, ды не зусім. А чаму ты не пускаеш мяне з
тапаром у лес? Я і не хачу лёгкай работы. Коней гля-
дзеў — бо люблю скаціну. Не бярэш прыёмшчыкам — не
трэба. А вот сукі церабіць ты мне не забароніш. Давай да-
гавор. На хлысты стану. Хоць адной рукой, а рабіць буду.
Не маеш права пакідаць без работы рабочага. А можа, я
тут прывык. І да людзей, і да...

Унук раптам аціх, стаў пасярод канторы і доўга гля-
дзеў пад ногі. Андрэй убачыў, што там, куды ён глядзіць,
поўзаюць на падлозе па жоўтай дошцы чорныя дробнень-
кія мурашкі: вылазяць з-пад бярна пад акном і бягуць ні-
ткай да сцяны, дзе магазін. Праз вокны пахла дымам,
хоць нос затыкай,— падзьмуў аднекуль сухі вецер. На
стале пад жоўтым вялікім партфелем — Шурыным, яна з
ім хадзіла заўсёды — падняліся белыя паперы: разлінее-
ныя ведамасці. Андрэй падумаў: добра, што няма за ста-
лом Шуры — ніхто не чуе.

Унук маўчаў, тады пераступіў цераз мурашак і падышоў да акна:

— Кініць лес... Кожны дзень... Такая суш. Вецер яшчэ ўсчынаецца. Пад Каменам усё выкаціла... І старую сасну і маладняк. Смала... Гарыць — як порах... Людзей з дзялянак здымаю кожны дзень на пажар... Будзе дождж ці не? Скажы. Ты знаеш, што гэта робіцца? — Унук зачыніў акно, зноў пераступіў цераз мурашак і падышоў да Андрэя. Выцер лысіну вялікай хустачкай.

— Відаць, я трошкі не так з табой гавару. Сядзь, пасядзі. Калі ж у нас усе гарачыя. Усім скарэй справядлівасць давай. Вот — даставай са стала з шуфляды і давай... Я ім часта і даю, не сумнявайся...— Унук усміхнуўся, паказаў рукой на крэсла проці стала. Хацеў сесці сам, але зазваніў на акне тэлефон. Унук тады нагнуўся на стол — лёг жыватом, прыціснуўшы жоўтай спражкай спісаныя пад капірку кароценькія цэтлікі, дастаў трубку і, яшчэ не паднёсшы да вуха, закрычаў: — Якога чорта мне галаву марочыш! Я табе раз сказаў, рускім языком... Я пакуль яшчэ начальнік участка... Я адвічаю... Хто даў каманду? Я даў каманду... Я не крычу... Можна і па-дзелавому...— Унук быў памаўчаў: слухаў, то адшпіляючы, то зашпіляючы жоўты бліскучы гузік на грудзях у кішэньцы. З кішэнькі быў відаць кароценькі кончык цененькага чырвонага карандаша.— Хочаш па-дзелавому,— стаў гаварыць ён цішэй,— прыязджай. Сам паеду на бераг, што тыя мне прыёмшчыкі. Толькі ведай — я не дурны...— Унук зноў пачынаў крычаць у трубку.— Я ўжо сказаў: хочаш па-дзелавому... Ага... Ага... Не застанеш на ўчастку, я — у дзялянцы... У трыццаць сёмым... Ну, будзь. Толькі храновіну мне не пары... Ну, будзь...— перагнуўшыся зноў цераз стол, Унук паклаў трубку на апарат.— Сплаўкантора...— сказаў ён і зноў пачаў хадзіць.— І тым давай справядлівасць. Не сходзіцца ў іх... Нічога, сыдзецца. Мяне не абдурыш. У мяне кубатуру не прыпісвалі на ўчастку. Нікому. Баяліся. Мяне баяліся... Я, брат, спісаў быў аднаму скуру... Каб другія відзелі... А ты гаворыш... І я за справядлівасць... А яны ўсе заліваюць вочы, а тады ідуць шукаць справядлівасці. Бы гэта я іх цвярозых не разбяру... Вот я сказаў: баяліся. А ты думаеш, яны мяне баяцца? Думаеш, начальніка аўтакалоны ці дырэктара леспрамгаса баяцца?.. І рэзчыкі, і грузчыкі, і шафяры...— Унук пачаў гаварыць пра шафёраў, нібы яны перш пра гэта і гаварылі з Андрэем, нібыта сваёй у іх гутаркі і не было.—

Начальства ў леспрамгасе многа: начальнік участка, начальнік аўтакалоны, інжынер, дырэктар, а яны — адразу на ўсіх... І, ты думаеш, што зробіш? Ты слухай. Знаеш, дзе гэта п'янка ў мяне цяпер сядзіць пасля чэпэ з пілой? А яны? Мяне і на адно бюро, і на другое... А яны што? Прыходзім з начальнікам аўтакалоны раніцай да іх, вясной было, яшчэ не падсохла добра, калона, во, за дарогай ля кузні стаяла,— паказаў ён рукой у акно.— Зубро — сукін сын, і цяпер п'е, нічога не памагло — п'яны. Аж з машыны чуваць, што п'яны... Каб мая воля — закрыў бы гэты б...ак,— паказаў ён рукой у калідор — на магазін...— Ну, я, нічога не кажучы, Зубро тады за каўнер і вон з машыны. Нічога, ідзе. Угнуўся, як усё роўна баіцца, што буду біць, а ідзе. Начальнік аўтакалоны толькі ззаду цяляпаецца, маленькі, Зубро ён не возьме... Павылазілі ўсе з кабінак, глядзяць. А тады віджу — ззаду ідуць. Ідзіце, думаю, клікаць лішні раз не трэба будзе.

Прывёў я яго ў кантору і — сход. Прафсаюзны сход. Начальнік аўтакалоны на месцы — ён па леспрамгасу мясцком. Шура на месцы, запратаколіць. Назбягалася поўна кантора: і рэзчыкі, і грузчыкі. Шафярня зубы скаліць. Кожны такі ж самы, як Зубро. Але ж кожнага не пасадзіш перад сталом. Іх многа. І — што б ты думаў? Іх многа — яны і рашылі. Указаць... Начальнік аўтакалоны са скуры лез, дапякло і яму: не даць прэміяльных, гнаць сукі церабіць з тапаром, за рулём каб і не смярдзелі п'яніцы. Крычыць за сталом, але ж трэба ставіць на галасаванне. Ну — ён, я, Шура, яшчэ нехта ў парозе руку падняў, а яны маўчаць. «Хто будзе гаварыць?» Маўчаць, у рот вады набраўшы. Падміргваюць за стол. «Ну, дык што ж рабіць будзем? Так далей не пойдзе...» Уносяць сваё: указаць. Начальнік аўтакалоны — кулаком аб стол... А яны — не стукай! І прагаласавалі: указаць. Усе, акрамя нас. Вот і ваюй за справядлівасць. Бо яны ўсе за сваю справядлівасць. Кожны думае: сёння Зубро папаўся, заўтра — я. Заўтра і мяне. А паспрабуй перад імі што не так, дык як збяруцца... Усе граматныя, законы знаюць адзін лепш другога. Ну, дык што ты хочаш? — Унук зноў стаў пасярод канторы.— Ты сядзь... Калі ўжо адкрыць сакрэт — дык і прыёмшчыка аднаго трэба скарачаць. Пашлю пад Полацк. Ну, дык што?

— Я ўжо сказаў... І я — не Зубро. Не п'ю.— Андрэй адышоўся яшчэ далей ад стала, ад крэсла.— У кожнага справядлівасць свая і павінна быць. Ты мне дай работу.

І ў калгас не гані. І яго я не баюся. Я хачу рабіць... І там — дзе хачу. Няма закону, каб не давалі рабіць, дзе хочаш... А што ў мяне рука, дык вайну вініце. Яна вінавата, а не я. Маёй віны няма, што я цяпер сухарукі... У мяне дзіця яшчэ ёсць, і яго трэба адзець-абуць...— Андрэй закашляўся: «Хай бы Унук надумаўся зачыніць і другое акно. Задушышся ад дыму».

— Зачыні акно...— сказаў Унук, як усё роўна здагадаўшыся.— І сядзь, не тырчы. І, знаеш, што я табе скажу: ідзі дамоў. Што ты абіваеш парогі? Мы ж не дзеці ў цацкі гуляць. Адвічаць за цябе не збіраюся. Таму і не вазьму на хлысты. Ёсць інжынер, вун, дырэктар леспрамгаса... Можаш ім на мяне... Тут, во, за гэтыя чэпэ яшчэ не адчытаўся. Добра ж, калі хлапец выжыве. Ды якое там выжыве. Званю, во, пытаюся. Далёка хадзіць не трэба, тэлефон на акне...

Калі Унук загаварыў пра Рамана, Андрэй сеў. Зрабілася неяк цяжка ў нагах, ад мокрай памытай падлогі запахла бальніцай...

— Я ж не на электрапілу прашуся... Думаеш, я ў калгасе з адной рукой разгуляюся... У поле гнаць скаціну — дык зіма ідзе. Зімой у поле не ганяюць,— Андрэй раптам пачуў, як яго пачынае браць злосць на гэтага тоўстага і лысага чалавека. Горача яму ад сала, пот пацёк. Уся і работа — што ад поту выціраецца...

— Дасі работу, душа з цябе вон...— Андрэй падхапіўся з крэсла і закашляўся... Кашляў доўга, не сціхаючы. Унук зноў расчыніў акно — далейшае, высунуўся на двор і з некім гаварыў — ад кашлю не было чуваць, пра што. Пасля на двары бразнула ля студні вядро — студня была побач з канторай, старая, расчышчаная, з устаўленым новым зрубам. Тут некалі жыў ляснік — даўна ўжо, яшчэ да калгасаў. Вада ў студні была халодная, але пахла гніллю, Андрэй не любіў.

Унук прасіў праз акно піць.

Пасля калі Андрэй сціх, Унук адагнуўся ад акна:

— Не даюць рабіць, хоць ты што...— падняў ён руку.— Там дзялянка, тут сплаўкантора, тут ты, а яшчэ і ваўкі. Не чуў, што сказалі... Двух жарабят... З начы... Аднаго кінулі, зарэзаўшы. А другога ніхто не знайшоў... Зноў акты, зноў на Унуку скура гары. Вот ты мне скажы... Ты не крычы. З тым я ўжо рашыў. Не вазьму. Ну, што глядзіш... На, пішы... Во папера... Вун трубка... Звані. Думаеш, не знаю, што ты думаеш? Можа, я і храновы

начальнік, але да такога яшчэ не дажыў, каб... Ну, сам знаеш... Не вазьму... Ты не дзіця... Тут не такіх во — дзе дзяваць? Не сёння-заўтра ўчастак закрыюць,— скажу табе яшчэ адзін сакрэт. Дзялянак новых ужо не адвялі. Распарадзіліся без нас з табой. Не вазьму. Ты што? Дамоў ідзі...

Андрэй падняў вочы, але ніяк не мог злавіць Унука. Унук зрабіўся шырокі і сівы — расплываўся, хаваючы плячыма шафу. Не відаць ні вострых, як у звярка, вачэй, ні чорнай плямы знізу на вусне. Раз'ехалася толькі цьмяная белая лысіна недзе далёка на ўсю сцяну.

Ён тады павярнуўся — лысіна мігнулася на сцяне і знікла, як паласа ад сонца,— і пайшоў у парог. Пачуў, як ля дзвярэй зачапіўся нагамі за мокрую анучу.

У доўгім вузкім калідоры было цёмна, толькі проці адчыненых на ганку дзвярэй — адтуль ішло святло — блішчаў на сцяне на завале новы замок. Магазін быў закрыты другі дзень: Нінка паехала да Рамана — званілі ёй па тэлефоне.

Выйшаўшы на ганак, Андрэй зноў закашляўся. Доўга стаяў, узяўшыся рукой за вушак. На дварэ быў вецер — дзьмуў на ганак — сухі, свежы, аж холадна стала ў грудзі. Вецер зганяў дым.

«Чуць не здох у канторы ў дыме...— падумаў ён.— А той пабаяўся сказаць, што я калека... Што ён калек не бярэ... Што ў яго не дом інвалідаў. Ён мяне ўжо спісаў... А сам? Участак разганяюць. Участка не будзе. Тут скасіў і — гола! Пні! Няскора атава парасце. Трэба пачакаць... А ўчастка не будзе — не трэба і начальнік. Астатнія дні дажывае ў начальніках, а — сваё. Мяне ён ужо не бярэ. І сукі церабіць не бярэ. А мы з табой заўтра роўныя... І табе трэба тапор у рукі браць, і мне. Або — у калгас. Я дык і скаціну ў поле паганю, а ты? У калгасе начальства сваё. Месца занята... Хаця я пад Полацк магу і не паехаць. А ён паедзе. Знойдзе месца. Баіцца спатыкнуцца. Вазьмі чалавека «без рукі»... А калі тапор сашмыкнецца. А тады спытаюцца: чаму браў? Знаў і браў?.. А гэта ўжо фальч. Не гадзішся. Нічога. Я як да чалавека ішоў. Ногі хай лепш адсохнуць, колькі я да цябе яшчэ раз пайду...»

Неба зацягнулі высокія рэдкія белыя палосы, і сонца праз іх свяціла, як праз туман. За кузняй над лесам віселі дзве цёмныя хмаркі. Адтуль, з Агульніцы — з пасекі,— быў вецер. Андрэй стаяў ля ганка і доўга глядзеў туды:

можа, варожыць на дождж? Збоку, над самай канторай, суха шумелі сосны. Недзе высака ўгары хлыстала па дрэве ценкая, як папера, карына. Трашчалі сукі і покалі на зямлю. З-за дарогі, з пасекі, пахла пылам і дымам.

Пад нагамі быў гарачы пясок — Андрэй пачуў, як стала адразу цёпла ў ступні аж праз гумовыя боты; трашчалі перамяшаныя з іглiцай павышчараныя жоўтыя сасновыя леташнія шышкі. На пяску ля самага ганка і далей, на дарозе, былі знаць адны сляды ад веласіпедаў: прамыя, наўкос цераз дарогу, улукаткі, адзін цераз адзін, нібы тут людзі і не хадзілі ніколі... Нібы толькі ён, Андрэй, топча ботамі і пясок, і шышкі, і сухую траву, падымаючы пыл...

— Слухай, ідзі сюды...— пачуў Андрэй ужо на дарозе і, стаўшы, агляну́ўся.

Унук адчыніў насцеж акно ад двара, высунуўся ў гародчык; над дробнымі жоўтымі квятамі ад юргінь, што раслі пад прызбай, была відаць яго вялікая белая лысіна.

Андрэй пастаяў, мяняючыся з нагі на нагу.

Унук махнуў рукой, як усё роўна ганяў на лысіне мух.

Андрэй ішоў назад і думаў, што ў чалавека нешта кранулася ў душы, калі кліча, што і таму не лёгка, мусіць, і ў яго хваробы гэтай хапае: бярэцца рукой за грудзі, не загарэў зусім такім летам, белая галава, як папера: на сонца яе і не паказвае. Падумаў яшчэ, што пад акном ля канторы растуць добрыя кветы, не баяцца і засухі. Шура, пасадзіўшы іх, відаць, усягды палівае — студня блізка...

— Слухай... Ты знаеш што...— Унук нечага ніяк не рашаўся сказаць.— Ты чуў, што збіраецца аблава?..

— Якая аблава? — Андрэй падышоў да самага гародчыка, узяўся хворай рукой зверху за счэсаную нізкую частаколіну. Глядзеў у акно на белую лысіну.

— Ён не ведае якая... Не мух жа збіраемся біць.— Унук кратаўся ў акне: зыбаўся на руках, абапёршыся на падаконнік.— Чуў, што ваўкі даробляюць?

Андрэй маўчаў, і Унук яшчэ больш высунуўся ў акно:

— Падбярэцкі ўзяўся. А ты ж ведаеш, што я яму не давяраю. Увідзе бутэльку — і самога ваўкі сцягнуць... А тут людзі чужыя будуць. Званю ўжо цэлы тыдзень. Людзей трэба пераняць. Ну, і лесу яны не знаюць. Адным словам, трэба распарадзіцца. І ў загон прыедуць рабочыя — дагаварыўся. Не дзяцей жа з вёскі ставіць. Не мух жа будзем біць. Асцярога — і ўсё такое... Вазьмі ў свае рукі. Падбярэцкі, яно... знаеш. Я з ім сам пагавару. Хай памагае табе...

Унук сціх, надняў у акне вышэй галаву — белая лысіна схавалася ў канторы.

— Што, цяляты язык ад'елі?

Андрэй маўчаў, і ў акне зноў паказалася белая лысіна:

— Ваўкі не дурныя... Знаеш, колькі яны за лета жарабят пацягнулі? Да восені ўсіх падбяруць. Не будзе чаго і пад Полацк пераганяць. Колькі яны мне крыві папсавалі. Хітра ідуць. З-пад Курачовых Цянёў. Белай дарогай. Дзе прычэпы лес возяць. След вядзе... Мы іх, калі ўдасца Булку сазваніцца,— да аднаго. І скарэй трэба. Маладыя выйшлі з гнязда. Лета сухое, пяройдуць з Курачовых Цянёў — цалуй тады пад хвост. Трэба асачыць хады. Падумай, заўтра прыйдзеш. А я з Падбярэцкім пагавару. На цябе я, брат, як на каменную сцяну...

Андрэй пачуў, як яму неяк холадна зрабілася ўсяму. Спачатку ён ніяк не мог злавіць, пра што гаворыць Унук; тады ўсміхнуўся. Чалавек гаварыў, як усё роўна быў зусім другі, нібы перад гэтым і не крычаў у канторы на ўсё горла, нібы лепш за ўсіх прыяе яму, Андрэю...

Унук лёг жыватом на падаконнік:

— Ну, што? Пачакай, я да цябе выйду...

Андрэй прыняў хворую руку з частаколіны — рука неяк сама апусцілася ўніз.

— А пайшоў ты к чортавай мацеры!..— ён плюнуў пад ногі, крутнуўся на пяску і падаўся сцежкай да канюшні: там выйдзе на дарогу. Пачуў, як у яго цячэ па шчацэ пот. Зняў кепку, выцерся даланёй.

«Чалавек, які аб'ядаецца, не чуе ўжо, відаць, як пахне чорны хлеб... Не чуе...» — падумаў ён аж ля канюшні пра Унука.

Дзверы ў канюшні былі расчынены насцеж; відаць было, што яны расчынены і ў другім канцы: свіціўся лес. Недзе ў сярэдзіне канюшні, глыбака, як дзе ў яме, зарзала жарабя, што ўсё роўна яго пачуўшы.

«Пararанenae... Запёрта. Не пускаюць з усімі...»

Ён хацеў зайсці, але не мог — нешта сціснула грудзі... Пахла сухім гноем. Ля канюшні было чыста падмецена: падмёў вецер. Пад паветкай ля дзвярэй яшчэ ляжала летняе сена і патруха — вецер круціў яе і гнаў у вочы. Пад страхой, пад паветкай, тырчалі жоўтыя клешчы ад хамута. Іх заткнуў ён, Андрэй, не помніць толькі калі.

Збоку пад канюшняй, там, дзе павяў жоўты бульбоўнік і палёг на голы пясок,— Андрэй не ведаў, хто тут сёлета насеяў бульбу,— пад самай страхой рос на кучы сухога

гною высокі, у пахі, шчавук, цёмны, з жоўтым дробным насеннем на голых дудках. Пад шчавуком разраслася крапіва. Са страхі дажджом усягды лілося як з вядра; пад гноем і цяпер хапала вільгаці.

Жарабя больш не адзывалася, і ля канюшні было ціха. Недзе на страсе ныў вецер, як у мятліцы дома, у гародзе за плотам, і ганяў дзверы ў другім канцы канюшні. Яны скрыпелі і бразгалі аб вушак моцна і суха.

Тады Андрэй убачыў, як у канюшню на гної — на праход — вецер гоніць пясок і сасновыя жоўтыя іголкі — замятае ўсё нядаўняе...

На дарозе на пяску ён зноў убачыў крывыя сляды ад веласіпедаў.

Сосны ля дарогі былі чэрствыя, у пыле; пахлі смалой і палыном.

Крычалі ў некага ў вёсцы пеўні, і «бухалі» хімгасаўцы недзе пад Луськім — вецер нёс рэха аж на Белую дарогу. У небе між доўгіх сівых пісяг сінелі прагалы, і адтуль сляпіла ўсё на свеце маленькае белае сонца — не падняць вачэй. Ззаду за ўчасткам стагналі самалёты — за лесам іх не было відаць.

Па гумовых ботах, па халявах, скроб сухі верас, абсыпаны, абдзёрты калёсамі. Пад ногі лучалі нерасохлыя сасновыя шышкі.

Ля парожніх сілосных ям пахла сухім гноем і дымам. Пад Жоглаўкай гарэў торф.

Доўга стукалі дзверы ў пустой канюшні — ён аж агляда́ўся назад.

### 3

Калі ён прыйшоў з участка, дома на двары на сталюзе ля дрывотні сядзеў брыгадзір: чакаў. Брыгадзірам у Мсціжах быў Змітрок Юбіцкі, малады зусім, калі прыгледзецца, чалавек. Звалі яго ў вёсцы — невядома за што — Са́каў. Брыгадзірам Юбіцкага выбралі адразу пасля вайны, калі той вярнуўся паранены перш за другіх мужчын з Васточнай, як ён гаварыў, Прусіі, і рабіў ён аж дагэтуль. У яго было прастрэлена левае плячо — у двух месцах — і зрабілася ніжэйшае. Левай рукой ён цяпер падымаў усё, праўда, не надта выстаўляў яе ўперад, як і вярнуўшыся з фронту,— засоўваў часта ў кішаню ў пінжак, і тады крыло ў пінжаку ў яго калыхалася, калі ён ішоў, адцягвалася ўніз, нібы ў кішані ляжала што цяжкое. Юбіцкі быў невысокі мужчына, шырокі і круглы ў плячах і ў твары. У со-

рак чацвёртым, калі прыйшлі нашы, у армію яго забралі зусім маладога — толькі падышлі гады, малады ён і вярнуўся дамоў. З твару ён і цяпер быў як хлапец, і смяяўся дробненька і часта, што дзіця: гі-гі... дзе трэба і дзе не трэба, хоць у яго ў самога было ўжо трое дзяцей — сыноў, што гарбузоў у градах: адзін аднаго меншы.

За Андрэя Змітрок Юбіцкі быў намнога маладзей, але, выпіўшы — любіў самагонку і хадзіў па хатах, ззаду бегла жонка гнаць дамоў,— усягды падыходзіў да Андрэя, калі толькі згледзіць, і, падымаючы ўгару руку і белыя маленькія вочкі спадылба — быў ніжэйшы, ляпаў па хворым плячы рукой:

— Мы з табой... хазяіны́... Я хазяін...— ківаў ён галавой, як качар.— У нас ёсць з табой што сказаць адзін аднаму. Мы з табой... цярпелі... у-у-у...— ён заплюшчыў вочы і пачынаў круціць галавой — ад пляча да пляча.— Мяне навылёт і цябе... І цябе гэта самае...

Роўнымі іх рабіла вайна.

Устаўшы са сталюгі — Андрэй згледзеў: пад сталюгай выкапана, мусіць, абпасам, ладная яма, чалавек, відаць, доўга чакаў,— Юбіцкі падышоў адразу да Андрэя і паляпаў, як і кожны раз, па плячы:

— Трэба, брат, схадзіць на лён. Да Лазы. Пастаіш на санях. Снапы бабы пададуць. Камандуй, хай кідаюць пад ногі. Хоць ты гвалт... Не хапае рук. Падыдзі. Трактар на ферме...

— Дай ты вады схадзіць у хату напіцца. Адразу ажаргаў...

— Ды яно хоць ты і з сабой бяры піць на Загуменне. Пыл у вачах увесь дзень, свету не відаць. Толькі ж і сядзець пад варыўнёй на сталюзе ў цяні... Я ў цябе ўсю ваду выпіў з вядра... Падыходзь... Стаім доўга...— Юбіцкі пераступіўся з нагі на нагу і ківунуў яшчэ галавой: падыходзь.

З хаты праз акно Андрэй убачыў, як той падымаўся дарогай на ферму па пяску, сагнуўшыся, і махаў перад сабой рукамі: лягчэй ісці.

...«Націк» трашчаў, аж закладала вушы, і, здавалася, дыхаў агнём. Агнём дыхала і зямля — шырокае, пустое, жоўтае да самага лесу, да Лажкоў, Загуменне. Сонца звярнула з паўдня, неба зрабілася чыстае і белае. Ля Лажкоў над полем дрыжала густая, як туман, смуга; яна дрыжала і над трактарам, над выхлапной трубой, усё роўна што перасыпаўся попел, і тады Андрэю здавалася — трасецца падыспадам зямля.

Ён стаяў высака на снапах на валакушах, як некалі на возе пад парубень, калі вазілі яшчэ на калёсах снапы, і яму была зверху добра відаць дарога на Загуменні — ля яе некалі стаялі гумны проці кожнага гарода; відаць былі ўсе Мсціжы з белымі, новымі стрэхамі на хатах, з ліпамі і старымі грушамі-дзічкамі ў гародах. Гумны ад дарогі папрынімаў пасля вайны ўжо калгас, калі будаваў на полі пад Луськам ля саду вялікі ток. На Загуменні асталася толькі адна пуня з паднавесам — пуня старога Юбіцкага; ён яшчэ і цяпер жыве, не чуе толькі. Збудаваў ён яе ў вайну, калі пачалі жыць аднаасобна, купіў і пусціў малатарню з прыводам. Малаціць да яго вазілі ўсе ў вёсцы: снапы пад парубень — і ў гумно. Ён браў фунты з капы. Пуня з паднавесам гарэла, калі Мсціжы ўвосень, як выбіралі бульбу, бамбілі нямецкія самалёты: лучыла ў вугал шашка. Тады якраз малацілі, і мужчыны, Андрэй помніць, пачалі тушыць агонь. Тушыў і ён: сыпаў прыгоршчамі з гарода пясок, а ў гародзе зусім блізка ля ног у радок падалі белыя шашкі, вялікія, з літровую бутэльку. Упадзе — залезе ў цвёрдую раллю да сярэдзіны, трэсне, як пераламаўшыся, і зверху ў яе з чорнага хваставаліць сіні дым, як усё роўна з мокрай галавешкі, а ля яе круга гарыць і пырскае ў бакі зямля вострым, праціўным белым агнём, аж рэжа ў вачах. Агонь цяжка было патушыць — гарэў і ў пяску. Калі патухаў — на зямлі аставалася куча рассыпанага белага попелу ў камяках, што ад касцей, і ляжаў убаку чорны, пафарбаваны нечым бліскучым, ладны, у пядзю, хвост, як чортведама ад чаго: не здагадаўся б ніколі.

Пуню тады адразу атушылі: яшчэ не баяліся самалётаў. Цяпер у ёй калгас ссыпае кожную зіму ўгнаенне, возячы з раёна.

Якраз проці пуні за вёскай, далёка на балоце, відаць, як гарыць торф: стаіць сіняя густая паласа, нізка, ля зямлі.

Запахла гарам... Раптам успомнілася кантора. У канторы поўна дыму — найшло праз адчыненыя вокны з лесу — і за сталом ля шафы лысы Унук... Выціраецца ад поту вялікай хустачкай:

«Ну, ты не кіпі. Ва ўсіх раны баляць...»

Пасля пахла сухая зямля...

Пахла ячным іржышчам ад Лазы, ад дарогі; сухім лёнам — кастрой, што старой леташняй жытняй саломай; пахнуў перастаялы дурнап'ян — пырскаў са снапоў дроб-

ным чорным гарошкам; пахлі запыленыя дробныя васіль-
кі, шорсткі ржавы пырнік: зачапі нагой — ідзе руды пыл;
пахла дзяцельніцай, мятліцай, зялёным конскім гугалем —
ёлкай, свірэпкай — спелай, у струках; грыбамі — дробны-
мі, дзікімі — парасл ў барознах пад лёнам; пахла з-за
дарогі з-пад лесу жоўтым лубінам, як мёдам, і Андрэй ужо
нічога не мог адлучыць: здавалася, перамяшалася ўсё на
свеце і пахне едкім пылам нават белае каменне на полі, і
ў яго, высака на валакушах, круціцца толькі ў галаве і
горка ў роце. На вусны цёк пот — рабілася яшчэ гарчэй.

Пасля зноў з ветрам пахла жоўтым лубінам, як мё-
дам,— здалёку, аж ад лесу: давала дыхнуць.

Тады ён паварочваўся да лесу і доўга глядзеў на жоў-
тае ад лубіну поле. Жоўта рабілася ўваччу; знізу, з зямлі,
пачынала клікаць Балюта: валіліся назад снапы.

«Як пахне сена... І зямля...» — стукнула яму ў галаву.
Ён успомніў Рамана...

Захацелася махнуць рукой на ўчастак, на Унука, на
ўсё на свеце, зноў вярнуцца і хадзіць кожны дзень на по-
ле... Па пыле, па прытаптанай на дарозе калясьмі траве,
па калючым іржышчы, па чэрствым каменні...

Трактар цягнуў сані аж да лубіну, і збоку па загоне
ішла Балюта, кідаючы з зямлі яму, Андрэю, пад рукі сна-
пы. Ля лубіну яму зрабілася горача ўсяму: ён скінуў тады
далоў, на дарогу на траву, кепку. Без яе стала горай, га-
рэў агнём лоб ад сонца і сляпіліся вочы. Горача было ды-
хаць; гарачыя снапы, як з лазні з палка, дзе іх сушылі
ўсю ноч, грэлі далоні...

Лён на Загуменні парос у пахі; абівалі яго на полі як
папала: пранікамі і качалкамі, беручы з мэдлікаў. Снапы
чапляюцца не адсечанымі яшчэ галоўкамі адзін за адзін,
бяруцца за рукавы, лучаюць, счэпленыя, пад ногі, аж спа-
тыкаешся; колюцца сухімі камлямі, як дротам,— паздзіраў
усе рукі. Валакушы шырокія, рабілі пад торф і сена, сна-
пы на іх трэба класці аж у чатыры рады — хадзі, сартуй,
як бацян на гняздзе галлё дзюбай...

Балюта кідае і кідае снапы з зямлі ў дзве рукі без ад-
дыхі, не глядзіць надта куды — не падымае галавы. Лучае
ў грудзі, у шчокі, хоць ты стой ды закрывайся ад яе ру-
камі. Трашчыць «націк», і яна не чуе, што ёй крычыць
зверху Андрэй. Ён тады хапае сноп і кідае далоў — на яе.
Балюта адгінаецца, падымае галаву, думае, што не дакі-
нула; бярэ пасля з-пад ног сноп і зноў падкідае высака на

сані — яму, Андрэю, у самыя грудзі, падбіваючы пад камель рукой, як усё роўна дае плескача.

— Згінь ты, благое... Цьфу, баба!..— ён крычыць, выплёўваючы з рота мякіну, але Балюта не чуе: зноў не падымае галавы, падкідае толькі і падкідае ўгару снапы. Ён ловіць іх, згінаючыся і адгінаючыся высака на санях, бачыць, як калышацца за дарогай пад лесам жоўтае — аж гарыць на сонцы — поле з лубінам: уніз-уверх... Зноў пахне з зямлі перацёртай гавылой і круціцца ў галаве, здаецца — не ўстоіш на нагах...

Балюта ў шэрай у клетачку паркалёвай тонкай сукенцы з кароткім рукавом і з выразам на грудзях і ззаду на плячах. Рукі ў яе вышэй локця аж рудыя — загарэлі за лета: увесь жа час на полі, з сярпом; уперадзе на грудзях і ззаду на шыі скура аж чорная. І сама Балюта з твару чорная, толькі вочы блішчаць, круглыя і вялікія, як у дзяўчыны, калі глядзіць на яго — угару. Бровы ў Балюты чорныя, доўгія, як вуглем усё роўна навяла; шчокі поўныя і круглыя. Ад іх і твар увесь здаецца шырокі — тады, калі яна смяецца, паказваючы верхнія дробныя белыя зубы. На лоб Балюце нацерушылася пацярухі, што маку; пабы. На лоб Балюце нацерушылася пацярухі, што маку; паналіпалі паплюсканыя галоўкі лёну; схавалі маршчыны і барадаўку збоку над брывом. На галаве, на чорнай, закручанай у куклу на самай патыліцы касе, насыпана сухога лісця дурнап'яну і нейкага дробнага насення, як усё роўна галовак маленькіх бацянкоў з доўгімі вострымі дзюбкамі.

На нагах у Балюты сінія прарызінкі, старыя, зношаныя — збоку, відаць, павылазілі мезеныя пальцы на адной і на другой назе. Тапачкі зрабіліся сівыя ад пылу; сівыя ад пылу і ногі да калень. Ён бачыць зверху яе ногі, калі яна нахінаецца браць з зямлі з кучы снапы: загарэлыя, жоўтыя, паколатыя аб іржышча за лета — у чорных драпінах; збіта на левай назе аб камень, мусіць, костачка: знаць, ідзе кроў.

Калі ён глядзіць, як бегаюць па загоне яе ногі ў тапачках, думае, што яна вунь якая яшчэ маладая — гэтулькі спрыту. Зграбная і ў стане, і ў грудзях — зачэпіцца яшчэ мужчынскае вока. Ён думае, што яна за яго маладзей, можа, на год, не помніць: гэта Верка ўсё помніла. На вечарынкі Балюта намнога перш пайшла за яго, рана выйшла замуж.

Не шэнціла ёй на мужыкоў: першага не стала ў трыццаць сёмым, адразу недзе пасля вяселля — Аляксандрам

звалі, брыгадзірам быў у калгасе — нават дзяцей пасля сябе не пакінуў. Але ў Балюты быў сын, Саша — пайшоў ужо ў армію. Нарадзіўся ён у яе ў трыццаць дзевятым, мусіць, годзе: ездзіў тады да яе начальнік заставы, і яна на заставу ездзіла. Але заставы ў трыццаць дзевятым не стала — нашы пайшлі за Вілію. Жыла Балюта пасля з сынам і маткай — зусім ужо старой Антунінай. У вайну ўжо ўзяла сабе «прымаку» — Рукалеева... І зноў асталася адна. Тры мужыкі былі, а баба ўвесь час адна — усё сваё жыццё, лічы. Якое яно тады для бабы жыццё ў чорта...

Воз ужо быў высокі, і Балюта спачатку, узяўшы снапы за галовы, падносіла да самай валакушы — цягнула па загоне па зямлі, тады па адным падкідала ўгару, перакідваючы яму цераз галаву на другі бок...

— Згінь ты, благое!.. — зноў крыкнуў ён ёй уніз.— Каб, бабай будучы, такую сілу мець.

Яна стаяла, паклаўшы на галаву сноп, і ўсміхалася яму, паказваючы дробныя белыя зубы. І вочы ў яе блішчалі з-пад растрэсенага снопа, як усё роўна раса дзе ў лісця на лопусе, сабраўшыся за ноч. Кароткія рукавы ў сукенцы ў яе закасаліся, і ён згледзеў пад пахай валасы. Аж сумеўся быў, апусціўшы рукі...

— Ну, ты там... Разваявалася!.. — крыкнуў ён яшчэ.— Так любога ўходаеш. У мяне, вунь, вада стаіць за плячыма, а ёй хоць бы што. Дарвалася, як усё роўна ніколі не рабіла. Канчаць будзем. Дай бог з такой гарой ля Ям аб'ехаць.

Яна паказала рукой: падасць толькі тое, што паднясла,— і стаяла ўсё са снопам на галаве, задраўшы рукі,— хавалася ад сонца.

Ён тады падумаў, што ў яе недзе вунь якія дужыя рукі і плечы, і сама яна недзе ўся дужая. Успомніў раптам, што да яе прасіўся ў пастаяльцы Падбярэцкі, даўна, як толькі пачаў хадзіць з Вешак на ўчастак, і яна яго не пусціла. Ён і яшчэ пасля прасіўся не раз, расказваў...

Апошнія снапы Андрэй падкінуў пад ногі — стаяў пасярод воза; яны ўтапіліся, што ў яму, задраўшыся ўверх камлямі, і калоліся праз штаны ў калені. Ён яшчэ доўга сартаваў іх: звязваў зверху воз. З аконца з кабіны высунуў галаву Рускі — крычаў. Калі Андрэй зірнуў на яго, той паказаў рукой, што паедзе загонам аж на Загуменне, да Лазы не будзе выязджаць. Ён яшчэ паказваў, мусіць, што воз на адзін бок. Чорт з ім, паедзе, трэба толькі выбраць месца сесці якраз пасярэдзіне.

Зазвінеў, напяўшыся, трактар, тузанула валакушы, Андрэй не ўстаяў і ўпаў на калені, учапіўшыся за снапы.

Уперадзе было сіне ад дыму, і пад ім, недзе далёка ўнізе, краталася рудая зямля: з боку на бок...

Ён азірнуўся — ззаду падскоквалі ўгару снапы: трактар тузаў воз. Балюта сабралася ісці пехатой — звярнула па загонах на дарогу да Лазы; пойдзе Загуменнем ззаду за трактарам на пасеку, а можа, пабяжыць дамоў — справяцца без яе, дарогу ведаюць, а вярнуўшыся з пасекі на поле, пачакаюць. Прыбяжыць, пачуўшы: блізка. Ён замахаў рукой і крыкнуў ёй зверху:

— Даганяй і лезь на воз! Станавіся на дошкі, на канцы, падам руку. Згарадзілі печ, рассунецца ўсё ля Ям к чорту матары без вяроўкі. Пагнаўся за табой. Будзем тады па снопе збіраць на дарозе...

— Многа гаворыш! — крыкнула і яна яму з зямлі.— Мог узяць вяроўку ў свірне на ферме, знаў, куды ідзеш...

Яна подбегам дагнала валакушы — адразу ўскочыла ззаду на канцы белых дошак, стала на ручку ў санях і падала яму ўгару руку... Рука ў яе была цёплая, цвёрдая і шорсткая — у дробненькіх белых пісягах.

На возе сядзелі плечы ў плечы; прыціснутыя снапы падымаліся па баках уверх камлямі, хаваючы з вачэй і жоўтае ад лубіну поле пад лесам, і Загуменне, і стрэхі ў вёсцы. Над ім было толькі сонца, маленькае, жоўтае — сышло ўніз з паўдня,— і неба, густое, сіняе ад смугі, і расцягнутымі белымі і мяккімі, як чосаная воўна, доўгімі воблакамі. Воблакі віселі і за вёскай, над полем ля Луськага і ля Жоглаўкі над балотам.

Кратаўся на загонах воз — краталіся ўгары над вёскай сонца і воблакі за ракой над Луськім, кратаўся лес у купе за жоўтым ад лубіну полем на Белай дарозе; паказваліся, як з ямы, стрэхі на Загуменні.

Ён чуў цвёрдае Балюціна плячо; ад пляча пахла цёплым потам і дурнап'янам. Пасля яму здалося, што на возе ўсё пахне дурнап'янам: снапы, абабітыя, пакудлачаныя і прыціснутыя, жоўтая сухая свірэпка ў снапах; пахне пыл з загона з-пад ленты ў трактара, не дыхнуць... Зноў круцілася ў галаве...

«Мусіць, нагрэла на сонцы...» — падумаў ён.

Павярнуўшыся, згледзеў, што Балюта завязвае на галаву касынку, белую, рэдкую, як бінт,— знайшла недзе, як з-за пазухі выцягнула. Балюта была загаварыла да яго, але гудзеў трактар, як якая напасць, і ён нічога не па-

чуў — павярнуўся толькі да яе бокам. Ён не папытаўся, што яна сказала,— не асмеліўся крычаць у вуха і сядзеў ціха, абапёршыся на яе. Варочаючы галавой, бачыў яе чорную ад загару шыю і чорныя валасы на патыліцы, падбраныя ўгару і схаваныя пад касынку. Шыя ў Балюты была доўгая і крутая, і плечы ў яе былі шырокія і крутыя. Ён падумаў, што так ніколі не сядзеў з Балютай...

Балюта маўчала, і яны доўга сядзелі ціха, абапёршыся адно аб аднаго. Ён падумаў пра сябе, што вунь як намарыўся на такой гарачыні — ныюць рукі і балючае плячо. Пасля падумаў, што намарыўся, відаць, не сёння, а з самай вясны, калі пахаваў Верку і адлежаў у бальніцы, што зморany абапёрся на чужое плячо, на такое ж натружанае і балючае ад работы, якому самому няма ў жыцці апірышча... Яму закарцела тады адсунуцца на возе ўперад... Зрабілася няёмка, што ён глядзіць на яе шыю і плечы, мокрыя ад поту і зацярушаныя патрухай.

Ён зноў павярнуўся да яе спіной і нагнуўся ўперад. Пачуў, што і яна хіліцца разам з ім. Ён тады азірнуўся і клікнуў яе — загаманіў над самым вухам. Яна маўчала, ківалася толькі ўзад-уперад, калі торгаў трактар. Ён пакратаў яе рукой за плячо — першы раз за ўсё жыццё ў вёсцы,— яна маўчала, як прытварыўшыся. З пляча яму зверху на руку насыпалася семя і чорнай патрухі.

Ён падумаў, што ў яе мокрае ад поту і халоднае плячо,— і клікнуў яе яшчэ раз... Яна маўчала.

«Спіць. Гэтак скора заснула...» — яму зрабілася раптам шкода яе. Дзень у дзень бабе, ад зары да зары... Устань, парабі ўсё дома, тады — нарад. Нарад пішуць кожную раніцу, і зімой і летам,— спраўляйся. А зімой яшчэ вазі дровы, летам — сена карове накасі. Гэта ўжо без нараду, сама ўпрагайся і ў пілу, і ў касу.

Балюта сядзела, нагнуўшы галаву; на шыі ў яе вытыркнулася круглая костачка, з арэх... Андрэй пачуў, што ў яго на лбе выступае пот, і выцерся рукавом — павёў два разы.

Ехалі Загуменнем да фермы. З воза быў відаць за свірнам задзёрты асвер ля студні — уровень з Бацяновымі соснамі; капюшня, старая, доўгая, залатаная зверху па шчапе новымі жоўтымі дошкамі; воддаль стаялі два новыя высокія кароўнікі з незабітымі шчытамі: на гары бялелася салома. За гародамі з жоўтым бульбоўнікам стаялі хаты: яго, Андрэева; Ганьчына — наўскасяк цераз вуліцу; воддаль, за вялікай старой ліпай ля Гладкага,—

Балюціна высокая хата. У тым канцы вёскі здалёку была відаць новая жоўтая хата Юбіцкага з высокай жэрдкай — антэнай.

Дарога ад фермы ішла ў самы канец вёскі — пад Баціяновы сосны, там заварочвалася па пяску да Ям; па ёй ехалі на пасеку.

Андрэй крыкнуў Алёшу, Рускаму, як звалі яго ў вёсцы,— той высоўваўся з кабіны да паясніцы і глядзеў некуды на зямлю, пад сані, былі відаць яго плечы ў новай ваеннай гімнасцёрцы: Алёша прыйшоў нядаўна з арміі,— каб той павярнуў наўскасяк па дзядзінцы да Ям, мінуў ферму і канец вёскі. Будуць стаяць у вёсцы і глядзець, як у яго, Андрэя, на плячах едзе Балюта, хоць ты вазьмі ды саскоч з воза. Пусцяць па языках. Дагэтуль у вёсцы было ціха.

Але Рускі не чуў: тросся толькі на сядзенні ў кабіне і, высоўваючыся, зноў глядзеў на зямлю пад сані.

Схаваліся за свіран, з'ехалі з дарогі на дзядзінец, на высокі запылены падарожнік, і сталі ля самай студні. Заглох матор, зрабілася ціха, і калі Андрэй кранууўся на возе, адразу прачнулася Балюта: страпянулася, адсунулася ад яго і стала папраўляць на галаве касынку.

— Здурнела баба, глядзі... Недаспала, як усё роўна некалі, у дзеўках будучы... Танцы ў галаве... — усміхнулася яна.

— Дождж пойдзе, калі баба ўдзень спіць,— сказаў ён, гледзячы на дзядзінец, на сівы ад пылу падарожнік.

Рускі, скочыўшы на зямлю, падбег да студні і схапіў у дзве рукі стары чорны, абслізганы ў далонях бліскучы вочап. Асвер адразу задзёрся камлём угару, высака, аж пад пустое шэрае бацянова гняздо на сасне. Было чуваць, як звініць у студні, чапляючыся за зруб, парожняе вядро і сыплецца на ваду пясок, як са жмені...

Рускі піў доўга, зняў вядро з крука і паставіў на зруб. Піў і ўсё азіраўся на воз, на іх. Тады сагнуўся ўпоравень са зрубам, як усё роўна стаў на калені, нагнуў вядро і пачаў ліць ваду на галаву, на плечы, за каўнер — пасядзі такой гарачынёй у кабіне ў трактары... Рады не дасі... Падняўся пасля і, фыркаючы, што кот, з подбегам, як на пажар, паднёс вядро да валакушы і падаў ім на воз — Андрэю ў рукі. Запахла мокрым гнілым дрэвам — старым зрубам. Вядро было халоднае, што лёд.

Пілі — спачатку яна, апчапіўшы растапыранымі пальцамі драўлянае вядро з бакоў і схаваўшы за яго га-

лаву; тады — ён, уволю, спраўляўся толькі глытаць і чуў, як коле ў зубы і бразгае ля вуха перавесла. Агледзеліся, што абліліся: яна змачыла ўсе грудзі — пацямнела і прыліпла да цела сукенка, ён наліў вады спераду на штаны, на сцёгны...

Ён усміхнуўся, а яна, узяўшы ў дзве рукі за сукенку на грудзях, пачала атрасаць — тузала без аддухі, як хацела ўсё роўна сарваць з сябе... Пасля глядзелі адно на аднаго і смяяліся. Крануўся воз — скінулі вядро на дзядзінец, і яно пакацілася па сівым ад пылу падарожніку да самага зруба. Рускі паказваў ім з кабіны, каб дзяржаліся.

Андрэй справіўся згледзець, як у гародзе ля вуліцы, ля нізкіх, упоравень з хлеўчыкам, азяродаў — трох сасновых сукаватых вярхоў, счэпленых угары ў адно, на якіх сушыўся кожную восень бульбоўнік,— стаяла Ганька, склаўшы голыя рукі на грудзях. Цераз плячо ў яе была перакінута пасцілка.

Ён падумаў: бачылі з Балютай на возе... Успомніў, як у вёсцы пра яго гавораць бабы, што пасля Веркі ён ужо ні на што не здатны... Смяюцца, што трэба вязці да шаптуноў... Ганька расказвала. Сама, можа, і пусціла гасла... Бабы ўсё зробяць, калі не па іх.

Ён падумаў пасля, што і сам не ведае, на што цяпер здатны; згінь ты, благое, прападзі...

Рассоўвацца воз пачаў ля Ям...

Ямы былі ў вілах, перад пасекай,— дарога адгэтуль дзялілася і ішла на ўчастак і ў Вешкі. Ад дарогі на Вешкі вяла яшчэ трэцяя — на пасеку. Месца ў вілах ля лесу звалі Ямамі, відаць, таму, што тут, збоку ад дарогі, за вёскай, здавён хавалі людзі на зіму бульбу. Старыя ямы асыпаліся, зарасталі травой і соснікам, густым, шырокім — слаўся па зямлі. Ямы кожную восень нехта капаў новыя, цеснучыся і на поле, на пні на пасеку, і да дарогі: ля дарогі глыбака не было гліны.

У самых вілах ля Ям капалі яшчэ жвір — усёй вёскай. Жвір тут быў жоўты, што афарбаваны, шорсткі і буйны, як добрая грэчка, і яго капалі гэтаксама здаўна ўсёй вёскай — вазілі ў Мсціжы на двары да хлявоў і пад ганкі да хат, насыпалі высака ля студняў, каб пасля дажджу не цякла ў ваду зверху з двара гразь; сыпалі на вуліцы ля варот і засыпалі кожны проці сябе лужыны: у Мсціжах было гразка.

Глыбей у зямлі жвір быў драбнейшы і белы, і яго капалі перад святамі, вясной і ўвосень, пасыпаючы на два-

ры ля хат сцежкі. У раскапаную ля дарогі старую шырокую яму цяпер звозілі з вёскі шуму, трасочнік, сцягвалі з поля каменне, ламаччо з фермы і ад кузні: іржавае непатрэбнае жалеззё ад плугоў, каб не валялася на траве на дзядзінцы пад нагамі; паламаныя драўляныя восі з пазадзіранымі ўгару вышмараванымі падоскамі, чорныя ад дзёгцю і рудыя ад іржы; голыя клешчы ад хамутоў, крывыя, тоўстыя, самаробныя,— ляжалі ж недзе яшчэ — з кавалкамі вераўчаных супоняў, што тырчалі, зачапіўшыся на вузле ў прапечаных шылам дзірках,— выбеліліся на дажджы і на сонцы, блішчаць, як шоўкавыя; ляжаў нават стары кузаў з паабломванымі вузенькімі дошчачкамі, з драўлянай кабінай — кузаў першай калгаснай машыны, якая нядаўна адслужыла сваё, ніколі, відаць, не думаўшы, што знойдзе сабе тут месца. Спакойна гніць ёй не давалі дзеці: збіраючыся з усёй вёскі, бразгалі ў яме цэлы дзень, выбіваючы з кузава старыя ржавыя балты і ўсё, за што чапляліся рукі.

Проці старой ямы з другога боку дарогі, што ішла на пасеку, летась увосень пачалі капаць новую, прыгнаўшы і паставіўшы экскаватар — вазілі машынамі жвір у вёску і на грэблю: падвышалі і вуліцу, і дарогу, каб не было гразі. Тады ў вёсцы дзень і ноч раўлі цяжкія, кароткія лабатыя самазвалы і стаялі ў хаце студэнты-хлопцы, аж трое. Прыехала іх цэлая машына выбіраць у калгасе бульбу. Андрэй іх не хацеў пускаць у хату: Верка не магла ўжо хадзіць, глядзела іх нямогучы.

Новая яма з другога боку дарогі была доўгая і глыбокая — устая́. Вясной пачала асыпацца. Аб'ехала і асунулася ў адзін бок дарога, на ёй павыбіваліся глыбокія калдобіны: сухі жвір цёк з-пад калёс, як слізкае проса, у той бок, дзе ніжэй.

Месца гэта можна было абмінуць, праехаўшы далей па дарозе, што ішла ў Вешкі, але абмінаць Ямы ў Мсціжах ніхто не любіў, не любіў і Рускі — ехаў, дзе ўсе.

На калдобінах воз з'ехаў яшчэ больш набок і рассоўваўся надвае — узад і ўперад. Андрэй згледзеў, як ад яго ад'язджае Балюта і пад ёй падымаецца ўверх сноп — камлём.

— Давай руку! — крыкнуў ён, распластаўшыся на возе.— Сюды давай, а то ўсё к чорту матары... Панясло яго нячыстае... Па снопе будзем збіраць...

Яна перакруцілася адразу на возе, неяк бачком, лёгка і вёртка, як маленькая дзяўчынка, і ён схапіў яе, да-

стаўшы, за пальцы; падцягнуўшы вышэй, узяўся за рукі ля костачак.

— Ногі, ногі не падгінай!.. На той бок вярні... Не пускай з-пад сябе снапы... Каб яму галаву звярнула... — Андрэй зноў закрычаў, тады сціх і ляжаў пластом, як прыбіты. Больш не кідала з боку на бок: трактар мінуў ямы. На зямлі відаць было ржышча — выехалі на поле. Ён пачуў, што ляжыць цвёрда на снапах, і тады яшчэ больш сціснуў Балюту за рукі: пад рукамі ў іх рабілася яма — воз яшчэ больш рассоўваўся.

— Не цягні, адарвеш... І не цісні, рукі мне даражэй, чым воз!.. — закрычала цяпер і Балюта, злуючы, і закашлялася, наглытаўшыся сухога пылу. Яны ляжалі адно проці аднаго, расцягнуўшыся, як дзе на зямлі, і ён бачыў яе блізка ля сябе: рудыя загарэлыя рукі з ямачкамі на локцях; чорныя валасы ў касе, чорныя бровы, руды ад загару лоб у дробных густых маршчынках і шэрыя, як лубін, вочы. Яны блішчалі ад слёз — закашлялася; парабіліся вялікія, па яблыку: ад страху...

— Не бойся, не выпушчу... — сказаў ён цішэй: пачуў, што цвёрда ляжыць на возе і яе не выпусціць; яна, злаўчыўшыся, падсунулася да яго і сама ўхапілася яму за рукі. Цяпер ён узяў яе ля самых лакцей і чуў, як яна дыхае: часта і з сябе. Ад яе пахла памадай, мяккай і далікатнай,— дыхнула, як ветрам. Яна глядзела ўніз пад сябе, у яму, дзе рассоўваліся снапы; калі зірнула на яго, падняўшы галаву,— усміхнулася. Тады і ён засмяяўся:

— Ну, дзяржыся, баба...

Яна зноў закашлялася.

— Цяпер дацягнем. Не брыкайся толькі. Снапы ззаду пасыпаліся, мне адгэтуль відаць... І не адпускай рук... — сказаў ён і ўбачыў, як яна круціць галавой: выцірае з ілба пот аб кароткія паркалёвыя рукаўцы ў сукенцы. Ён пачуў, што і з яго градам цячэ пот, стала горача і няма чым дыхаць. З ямы, якая была цяпер паміж імі на возе, дзьмула горкім пылам ад лёну, як ад палыну, і пахла дымам ад трактара.

— Цярпі, баба, а то ўсё распаўзецца... — сказаў ён ёй яшчэ.— Скора ўжо...

Спускаліся з гары, пад бярэзнік. Паехалі па траве — чулі толькі, як недзе ўперадзе хлябешча трактар і іх калыша з боку на бок. Паднізам, пад локцямі, трашчаў у снапах лён, крышыўся.

Далёка ззаду была відаць ферма — стрэхамі,— і ля яе

стаялі Бацяновы сосны. Схаваўся з вачэй соснік ля Ям; пачало падкідаць на старых пнях — уз'ехалі на пасеку. Некалі тут быў сасновы лес, яго выразалі яшчэ да калгасаў; перад вайной, мусіць, у трыццаць дзевятым, на пасецы падзёрлі трактарам карчы і пачалі сеяць. Але на жоўтым пяску пад лесам на ладным кавалку жыта не пайшло расці, і пасеку запусцілі. На даўніх загонах — яны яшчэ хоць дзе былі знаць — цяпер рос кароценькі, дробны зялёны сівец, мох і верас.

На сіўцы аж да самага лесу ляжаў раскіданы гэтымі днямі лён — яшчэ не пачыналі слаць.

Рускі пагнаў трактар ля снапоў з форсам. На завароце яма на возе адразу пабольшала, воз захліпаў, і Балюта, выпусціўшы з рук яго, Андрэевы рукі, схавалася адразу ў снапах. Ён падумаў толькі: «Хаця б не падчапілі валакушы...»

Трактар стаў, хлябешчучы без сціханага, і Андрэй убачыў, што Балюта падымаецца з зямлі ззаду за саньмі, скідаючы з пляча сноп. Ён скочыў зверху са снапоў на сані, на дошкі, пасля да яе, на зямлю. Падняў толькі ўгару кулак — паказаў Рускаму. Той паціснуў плячыма: не бачыў жа нічога, нават не адвярнуўся глянуць у акно ўсю дарогу ад фермы. Чорт з ім, з Рускім... Даехалі — і добра. І Андрэй пачаў адразу браць у Балюты з-пад ног з кучы снапы і кідаць на пасеку, на зялёны сівец, каб іх не трэба было разносіць некаму нанава — перарабляць работу. Ён гэтага не любіў.

Балюта адышлася — папраўляла сукенку і, вярнуўшыся, стала сама хапаць снапы з кучы — адной і другой рукой — і кідаць іх з-пад сябе, далёка на пасеку. На яго, Андрэя, не глядзела — рабіла работу, як усё роўна будучы адна на полі.

На пасецы раслі маленькія, у калена, шырокія сасонкі — слаліся па зямлі, укрываючы жоўты пясок. За іх чапляліся снапы і стаялі стаймя.

Ногі лучалі на нізкія гнілыя пні-асяродкі; лускала сухая даўнейшая кара — ляжала зверху ў жоўтым пяску, не пагніла; трапляла цвёрдая, што каменьчыкі, смала, скачаная ў круглы гарошак: белая, жоўтая, чыстая, як лёд, і ладная, што маладая бульба. Ля пнёў валяліся бляшаныя доўгія крывыя скобы ад падсочкі, як ласіныя вушы. У такія выгнутыя скобы збіралі некалі смалу: падсочвалі стамескай дрэва — палосамі, падніз уганялі скабу. У яе сцякала смала і застывала. Ён, Андрэй, такіх скоб

на дрэве ўжо не застаў. Як помніць, дык яны валяліся на зямлі. На соснах былі ўжо бляшаныя варонкі, і вялікія, і малыя, з вострымі пяткамі, як лейкі. Варонкі круцілі адразу, мусіць, з такіх бляшаных вуш. Пасля ў лесе былі чырвоныя варонкі з паленай гліны: іх вешалі на доўгенькіх бярозавых калочках — калочкаў, бывала, у лесе ля Белай дарогі валяліся цэлыя кучы. Перад самай вайной папвіліся тарніткі — варонкі з шыферу, ці што. Лучыць у агонь — страляе, як з вінтоўкі. Дзеці, адбываючы поле, бухалі з іх усю вайну. Пасля вайны вярнуліся тыя ж самыя гліняныя «лейкі»...

У яго раптам заныла ў грудзях; ён стаяў і доўга глядзеў на сіні край лесу за ўчасткам: выражуць, і нехта праз гадоў сто знойдзе на тым месцы гліняную варонку — вытапча нагамі з зямлі...

Ён стукаўся Балюце галавой ў плячо, калі згінаўся да зямлі; чапляў снопам за падол — тады Балюта станавілася і, не гледзячы на яго, абцягвала сукенку ў паясніцы.

Нылі рукі ў плячах, і ён падумаў, што Юбіцкі ўсватаў яму сягоння работу... Раскідаўшы з-пад ног снапы, яны сталі і глядзелі адно на аднаго. Тады глядзелі ў неба, дзе высака ў нежывых белых палосах кратаўся канюх, як чорны кавалачак раллі. Крычучы на ўсё горла, ён залятаў з-пад Жоглаўкі аж сюды, на перагрэтую пасеку, дзе ўсё крышылася пад нагамі ад сухаты і гатоў быў загарэцца пясок пад трактарам ад іскры.

Гледзячы на Жоглаўку, Андрэй раптам падумаў:

«А што, як Балюта скажа: «А я цябе вунь дзе знайшла — за жоўтым бярэзнікам. Ляжаў на снезе».

Ён утаропіўся на яе і доўга міргаў вачыма...

«Каб не яна, пáрыў бы зямлю...» Ён пачуў, што яго як усё роўна хто цягне за язык — хочацца напомніць ёй насамому... Падумаў пра сябе: прыйшоўшы з бальніцы, ныват парог да яе не пераступіў. А яна цягнула яго нежывога... Баба. З мужчынам працей; бутэльку на стол — і ніхто нікому не вінен. А тут... Касу кляпаць усё жыццё, як Ганьцы? Ён усміхнуўся сам сабе і заплюшчыў вочы: «А-а-ат... Неяк будзе...»

— Пасядзі дзе на пні... — сказаў ён раптам ёй: прыйшло ў галаву.— З саней я сам раскіну. Аддыхні.

Убачыўшы, што яны ідуць да валакуш, Рускі ўскочыў у кабіну — сядзеў увесь час на зямлі на верасе. Зноў за-

хлебястаў трактар, але Балюта пачула, што сказаў Андрэй, і ўсміхнулася:

— Відаць, вернешся назад у калгас. Мужчына, ды каб так прыяў бабскай рабоце...

На сані яна ўскочыла першая: падняла падол у сукенцы і — аж на дошках. Яму давялося скакаць на хаду: Рускі адразу рвануў з месца.

Зноў ён маўчаў — стала няёмка, махаў рукамі, кідаючы снапы, і стукаўся Балюце ў плячо. Дыхаў сухім едкім пылам з-пад снапоў і кашляў, хапаючыся рукамі за грудзі. Бачыў тады, як сані гнуць пад сабой, рвучы з зямлі, маладыя зялёныя сасонкі з верасам, крышаць старыя пні, вываротваючы наверх з жоўтым сырым пяском, і рыюць за сабой дзве глыбокія баразны. Уся пасека была ў баразнах ад саней і ўся — аж да лесу, да акопаў, дзе партызаны ў апошнюю блакаду займалі абарону,— была закідана снапамі. Ён і Балюце нічога не сказаў на «бабскую работу»; згінаўся толькі і адгінаўся, дастаючы з кучы з саней снапы і кідаючы іх наводмаш на пасеку. У вачах калыхаўся сіні край лесу за дарогай ля ўчастка — уверх-уніз — і жоўты бярэзнік пад Доўгія. Густы, малады і гонкі, ён цягнуўся ўздоўж ракі ад самай вёскі. За ім было відаць сіняе ад дыму балота; пахла тарфяным гарам, больш, чым на Загуменні.

Яму яшчэ горш рабілася няёмка, хоць ты вачэй не падымай на яе: сказаў жа, знайшоў што — аддыхні... Ён падумаў — калі яна цяпер загаворыць да яго, ён нічога не скажа: яго раптам узяла злосць. Вот жа. Як усё роўна Балюта вінавата, што відзела тады яго на балоце нежывога, вінавата, што ківаецца цяпер побач з ім на санях, што жыве адна, не выйшаўшы пасля Рукалеева замуж, што да яе сваталіся і што ў яе дагэтуль ніхто не быў — у вёсцы знаюць, у вёсцы не схаваешся. Знаюць і як да яе прасіўся ў пастаяльцы Падбярэцкі і яна яго не пусціла...

Ён падумаў быў, што Падбярэцкі жывёла і ён яго не любіць. Але хто іх там, баб, разбярэ... У баб свае законы. У вёсцы ведаюць толькі, што яна не пусціла Падбярэцкага, і не знаюць, калі пускала. Падбярэцкі мог зайсці і з другога боку. І яна ж не дурная... — падумаў ён зноў са злосцю на яе, нібыта яна і тут была вінавата перад ім, што да яе мог прыйсці Падбярэцкі.

Яму было б лягчэй, каб яна пускала да сябе пасля Рукалеева каго хочаш,— ён бы цяпер пра яе не думаў: жыла як хацела і жыві як хочаш. Пры чым тут ён...

Снапы яны раскідалі з саней хутка — як усё роўна спяшаліся адно перад адным. Апошнім снопам, доўгім, як венік, яна падмяла на санях дачыста дошкі, змахнуўшы галоўкі ад лёну і патруху.

— Вецер усчанецца — поўныя вочы будуць... Садзіся, чалавек. Тузане сані... Зверху не паляцеў, дык з парожняга...

Яна кінула на зямлю сноп, атрасла спераду ў сукенцы падол і, дастаўшы з-за пазухі касынку, стала выціраць шыю. Угрэлася, як у лазні; ад яе, здавалася, ішла пара: пацямнела ззаду на плячах сукенка.

Акруціўшыся, Рускі адразу павярнуў цераз пасеку на дарогу, што вяла з Вешак; не хацеў другі раз ехаць ля Ям. На пнях пачало падкідаць сані, і Балюта стаяла, растапырыўшы рукі — у адной была касынка — і махала, як курыца крыллем на плоце. Ён тады крыкнуў Рускаму: «Куды рвеш?» — пачакаў, пакуль яна сядзе на калені на дошкі, тады перайшоў і сеў на другім баку, звесіўшы далоў ногі.

Яна нешта сказала; ён не пачуў і паказаў на трактар. Тады яна адразу ўстала і села ўпобачкі, звесіўшы, як і ён, ногі.

— Расхрабрылася... Пні па пасецы. Калекай астанешся...

Яна тады села вышэй, падкорчыўшы ногі пад сябе і выставіўшы калені — вялікія, круглыя, у сініх жылах. Калі ў лагчыне крывіліся набок сані, яна хапалася яму за плячо ўдзве рукі:

— Гарыць усё на свеце. Гэта ж падумаць, якое лета... Так варыць... Хоць бы вецер падзьмуў, задыхнешся. Змарнацілася ўпаўдні над Доўгімі, сам жа відзеў, і зноў дождж сарвала... — чуў ён, як яна гаворыць у яго над самым вухам.— Я дык не помню, каб так усё гарэла пад восень. І мама не помніць, не расказвала, а сем дзесяткаў зжыла. Як пагібель якая найшла. Ячмень згарэў, грэчка пакорчылася. Бульбоўнік палёг, папёкся на пяску, жоўты ўвесь. І ў калгасе за фермай пад лесам і дома ў сваім гародзе. Жаць не будзе чаго, як ад марозу, дудкі адны тырчаць. І атавы не ўкосіш, не расце.

Ён маўчаў, нічога не сказаў, і яна загаварыла мацней:

— Хлябешча на ўвесь лес,— махнула рукой на трактар.— За дзень дык аж чарапы ад яго трашчаць. Не люблю я гэтых трактараў. Злезла б і пайшла. Пагаварыць, во, давялося раз, дык... пагаворыш надта. Другі раз бы

і зайшлася калі, дык жа вачэй не падымеш, нібы ў чым я вінавата. Сам жа не прыйдзеш і на вуліцы на лаўцы разам не сядзеш, я-то знаю... Па мне рабі што хочаш. Я пра тваю дзяўчыну думаю. І мой жа без бацькі рос, знаю. Вярнуўся б ты назад. Няўжо ўсё-такі паедзеш з участкам пад Полацк? Многія збіраюцца... А дом як?

Ён бы і цяпер змоўчаў, але з ім так ніхто не гаварыў. Ён думаў і рашаў усё дагэтуль сам, адзін, і сказаў цяпер, гледзячы на пасеку:

— А што я буду рабіць у калгасе з адной рукой? Снапы раскідаць? Бабская работа, я табе скажу... Не пражывеш...

— Коней глядзець можна і ў калгасе... — сказала яна.

— Што ты, сляпая? Коні ўжо вывеліся. І ў леспрамгасе, і ў калгасе. І тут і там — жменя. Паеду пад Полацк прыёмшчыкам. Нялёгка на лёгкае месца, многа ёсць такіх, як я, але возьмуць.— Ён памаўчаў.— А дома што? Зноў на лёгкае месца ў старшыні прасіцца? Дык жа ад баб стыдна... І там я прывык. Не адзін год хадзіў. Прывык. Паеду хоць пад Полацк, хоць за Полацк. Дачку возьмуць у інтэрнат. Гады якраз тыя. Што я ёй? Усё адно без маткі дзіця.

— І хату забіць? Дзверы, вокны забіць? Каб пуста было ўсюды? І на двары, і ў хлеве?..

Яна зноў спусціла з саней ногі і села ўпобачкі з ім: выехалі ў лесе на дарогу. Пыталася ўсё, павярнуўшы галаву і гледзячы яму ў вочы.

Ён маўчаў. Не слухаў ужо, што яна гаворыць яму без аддухі. Думаў: не ведае яшчэ добра сам, што цяпер зробіць... У душы перавернута ўсё, што зямля на дарозе, і калі стане на месца, ліха яго ведае...

Яна гаварыла, а ён маўчаў, гледзячы на дарогу. Тады сціхла і яна.

Яны цяпер удваіх глядзелі пад ногі. На санях было нізка сядзець, і яго гумовыя цяжкія запыленыя боты цягнуліся па зямлі, рассоўваючы сухі глыбокі пясок. Яе прарызінкі лучалі ззаду ў канаўку, дастаючы да зямлі наском з жоўтай саломінай: залезла недзе саломіна яшчэ на возе ў дзіравы прарызінак.

«Аднаму мне рассоўваць пясок. Ёй-то што?» — падумаў ён ужо аж ля Ям.

Пасля агню доўга было цёмна ў хаце.

На сцяне ад вуліцы чыкалі ходзікі, часта, як спяшаю-

чыся. Пасля высака на печы застагнала дачка, моцна, на ўсю хату. Ён аж крутнууся на ложку — усё роўна як на печы была Верка: голас такі.

Ён ляжаў, заклаўшы рукі за галаву і гледзячы на белую ў цемнаце печ. Чуў, як у грудзях стукала сэрца і ныў недзе над сталом ля абажура камар. Пасля сціхла, не кідалася на печы дзяўчына і зляцеў камар. Зноў было чуваць, як чыкалі ходзікі.

Сон не ішоў, і Андрэй доўга ляжаў, спішыўшыся. Калі заплюшчваў вочы — хлебястаў трактар і распаўзаўся воз на валакушах...

Свярбелі паколатыя аб снапы, аб камлі, рукі; ён чуў, што яны пахлі дурнап'янам, сухім ветрам і полем, як Балюціны валасы...

Ён павярнууся на ложку; згледзеў, што паадставалі ад сцяны абоі. Відаць у цемнаце пад імі сівая глінка. Ён пацяў рукой — глінка была халодная; пальцы чапляліся за вострыя кавалачкі бітага гаршка, якія наганялі ў паз, каб дзяржаўся глей. Глей насілі кошыкамі з ракі — насіў ён з Веркай, вясной, той год пасля вяселля. У рацэ яшчэ была вялікая вада — хадзілі якраз разводдзем. На лагу ўжо рос лопух, а на мяжы з-пад плота, з-пад жэрдкі, лезла чырвоная крапіва, як сёння помніць. Глеем тады замазвалі пазы і шчыліны ў сценах, пасля, калі глей высах, бялілі купленай глінкай. Бралі шчотку ў рукі і бялілі з вядра.

Ён падумаў, што сцяна пахне глеем — адсырэў — і Веркай: Верка спала ад сцяны...

Ссунуўшы ў ногі пасцілку, ён сеў на ложку, звесіўшы ногі долкі; упёрся локцямі ў калені і абапёр на рукі галаву. У хаце было цёмна, сінелі толькі, як дзе далёка, вокны. Ён глядзеў з ложка ў акно ад гарода і думаў, што помніць нават, як Верка была надзеўшыся тады, калі насілі з рэчкі глей,— у чорным сарафане з шырокімі шлейкамі і ў белай нажутцы... Ён кіўнууся на ложку і доўга сядзеў ціха; тады пачаўківацца ўзад-уперад, гледзячы пад сябе ў падлогу.

«Ніколі не кончыцца... Паеду пад Полацк. Хоць сабак карміць. І дачцэ не трэба будзе мэнчыцца. Дагледзяць. Не адна яна такая...»

Зрабілася горача, ён дыхаў з сябе, што хворы.

«Трэба ж было так натапіць і самой наверх палезці... Прывыкла да печы, як усё роўна ў хаце месца іншага няма...» — падумаў ён пра дачку. Устаўшы з ложка, па-

дышоў расчыніў акно ад гарода — піхнуў рамкі абедзвюма рукамі. Ноч на дварэ адразу запахла сухой халоднай зямлёй з гарода і дзічкамі з-пад яблыні. У цемнаце яблыня здавалася вялікай і разгатай — даставала да акна. Пасля запахла тарфяным гарам, полем і лёнам.

«Вокны забіць?.. Каб пуста ўсюды было?..»

Яму здалося, што зноў пад ім распаўзаецца воз. Замахала рукамі Балюта, раскідаючы снапы па пасецы...

«Аднаму мне рассоўваць пясок... Ей-то што...» — падумаў ён зноў, як і тады, на санях. Пасля адцягнуў ад сцяны лаву і, пераступіўшы, сеў на яе, аблакаціўшыся на падаконнік.

З дзічкі на зямлю ў канаторжнік і сухое лісце ўпалі яблыкі — адзін за адным; за Луськім высака ўгару ўскочыў слуп белага агню — ад фар — і адразу патух, лёгшы на зямлю. Усюды было мякка і ціха, з гарода, здалёку ад град, пахла спелым кмінам.

Ён сядзеў, глядзеў на лог за раку і, калі прыгледзеўся, убачыў далёка на Выганчыку туман — доўгую сівую сагнутую паласу...

Яго пабудзіла дачка, калі ўжо ўзышло сонца, і зачыніла за ім акно. За ноч наляцелі камары: была поўная хата.

## 4

На мяжы пад дзічкай пахла свежым сенам — прыбітая і зблытаная трава высахла на гарачым сонцы. Андрэй варушыў яе нагамі — чапляўся ботамі за палеглы жоўты падарожнік і ржавы доўгі пырнік, які сплёўся з сухімі натапыранымі дзядамі і зялёнай доўгай падбярозкай, скручанай на зямлі ўдвая і ўтрая, як суканыя на калаўроце суравыя ніткі. Калі ён падымаў з-пад ног яблыкі, кратаў падбярозку рукамі, і тады ўгару ішоў густы і едкі пыл, аж пяршыла ў горле. Яблыкі былі жоўтыя, круглыя, з добрую цыбуліну, у буграватыя ўдоўжкі палосы — ведама, дзічкі — і паточаныя чарвякамі. У кожным яблыку збоку ля пяты жоўты бугарок. Абатры — дзірка. Такой сухатой чэрві стачылі дзічкі, як разакі дрэва; дзічкі сыпаліся зверху на мяжу, як з кошыка. Яблыня была разгатая, на ёй сёлета, калі ён вярнуўся з бальніцы, ад завязі не было відаць лісця. Ён тады доўга цмокаў, што не дайшлі рукі яе прышчапіць. Укапаў у гародзе перад самай вайной, думаў кожны год, калі цвіла: «Ну — налета зраб-

лю, дух вон»,— а яблыня расла. Была ўжо роўная з хатай. Рабілася ўсё ў яго, выходзіць, на скорую руку, на тандэт: убачыў у лесе, выкапаў, прынёс і ўткнуў на мяжы ў гародзе пад раку, і грушу пад хатай ад вуліцы тады недзе разам садзіў. Грушу выкапаў ля Ям у сосніку — зялёная была, густая, маленькая, у калена; корань выдзер з зямлі — лёгка пайшоў з жоўтага пяску, на выцягнутыя рукі, метры два. І то — корань адарваўся, не вылез увесь: далёка ідзе дрэва ў зямлю, каб жыць. Дзе яго было садзіць дома — рыць такую яму. Ат, калнуў у штых у гародчыку пад прызбай рыдлёўкай, дастаў адразу да чырвонай цвёрдай гліны, скруціў корань у кружок, як лыка, каб утоўпіўся ў яме, уткнуў самы канец — белы, абдзёрты зверху — у дзірку, прадзёўбшы ў дне, і, уціснуўшы кружок у яму, прысыпаў глінай з сухім пяском і каменнем. Прытаптаў зверху нагамі. «Прыжыве — зраблю прышчэп,— падумаў ён.— Не прыжыве — за верх і вон з гародчыка, нечага ля яе карпець: дзіцячыя гулі. Што іх — есці калі будзеш, грушы тыя?» Усё рабілася да часу. Пра заўтрашні дзень не думалася. Вайна, тады Верчына хвароба... І цяпер біся як рыба аб лёд... А груша вырасла. Вышэй хаты, і яблыню абышла. Дала цвету летась, што на двары было бела пад нагамі, як ад снегу,— Верка якраз тады хварэла, хадзіць не магла. А вось за хатай мала сонца, і вецер за спяну не даходзіць. І пчол блізка ні ў кога няма, у Юбіцкага толькі ў другім канцы вёскі.

«Няма, вот, каб было гэтак у нас, як у дрэва,— падумаў ён зноў пра грушу пад хатай.— Яно глыбака карэнне пускае, наперад пра сябе думае. А тады — ці ссячы вазьмі, ці мароз, як у фінскую вайну,— атожылле пусціць. Зноў пачынае жыць, нанава... З зямлі...»

Ён адносіў кошык з яблыкамі ў хлеў на праціўню, высыпаў іх у вялікую чорную дубовую капусную кадзь: карова з'есць замест бульбы, не гніць жа ім пад нагамі; варочаўся зноў у гарод, садзіўся пад прызбу на калодачку — мусіць, дачка сюды выкаціла з дрывотні — і доўга глядзеў на лог за раку. Пасля зноў назбірваў поўны кошык — вялікі, пудовы, стары, у які Верка любіла выбіраць бульбу — і нёс у кадзь.

«І тады рабіў пустую работу, як садзіў... — зноў ён думаў, седзячы пад прызбай.— І цяпер... Прышчапіў бы яблыню — толк хоць быў бы... А так...»

Ён ківаў галавой і глядзеў на пусты кошык ля ног з выслізганай сухой, жоўтай, як касцяной, яловай ручкай:

«Верка ўсягды насіла. Аж ручка блішчыць ад яе рук. А цяпер дык і кошыка няма каму насіць. Яна б і дзічкі ўпарадкавала, месца знайшла б. У баб яно выходзіць, а тут — пагніюць у кадзі, забудзешся на іх...»

Вечарэла, і ўсюды было ціха. Сонца пякло ўвесь дзень і сягоння — і сягоння Змітрок Сакаў прыходзіў, каб ісці «на лён», але ў Андрэя пасля ўчарашняга разбалелася плячо, круціла, аж выварочвала, руку ў лапатцы, і ён астаўся дома. Нічога Змітраку Сакаву не сказаў: астаўся дома, і ўсё. Той і другі раз прыходзіў, крычаў, што дакладную напіша на праўленне, «усадзьбу» адрэжуць па вуглы. Андрэй і другі раз нічога не сказаў. Хадзіў толькі па хаце, сціснуўшы зубы,— так балела рука. «На дождж, мусіць, круціць...» — думаў ён увесь дзень. Пад вечар плячо памякчэла, але Андрэй баяўся кратаць руку, і яна вісела збоку, як цэп.

Дажджу так і не было. Пасля паўдня падняўся вецер, гонячы па полі на Загуменні сухое, стаптанае скацінай іржышча і пыл. Вецер падмятаў вуліцу ля варот і двор як венікам, горнучы шуму і пясок пад вуглы; на двары пад нагамі хрумшчэў жвір — буйныя вострыя каменьчыкі, адзін у адзін, як перабраныя. На Доўгіх засівелася неба, зрабілася ціхае, млявае; высака ўгары там паказаліся круглыя жоўтыя воблакі; віселі доўга, пасля пачалі сінець і схаваліся з воч — як і не было. Улёгся вецер, неба зноў стала чыстае і белае ад густой смугі. Запахла тарфяным гарам з балота. Над ім быў відаць свежы белы дым — разгарэлася пасля ветру. З балота праз Выганчык ішлі да маста бабы ў хустках — закрываліся ўдзень ад сонца,— яму добра былі відаць аж адгэтуль, з гарода, з прызбы, белыя хусткі, што каптуры на галовах у бальніцы ў сясцёр...

І нехта недзе пеў у тым канцы вёскі, на Зурэччы пад Луськім... Дзяўчаты, мусіць,— ціха, працяжна, перастаючы, пасля пачынаючы зноў і цягнучы без аддухі. Ён доўга слухаў седзячы, тады ўстаў, як усё роўна хацеў угледзець, хто там, на Зурэччы. Далёка за ракой, у самым куце, хадзіла скаціна; пад Выганчыкам і за вёскай, нізка, над самым лесам, расцягнуліся доўгія белыя палосы — недзе там і чуваць была песня...

Зашчымела глыбака ўсярэдзіне, зрабілася горка, аж абвялі рукі: так усягды пела Верка. Пела на пасецы ля Ям, на Загуменні пад лесам ля Белай дарогі, калі хадзіла з бабамі жаць; пела і на Выганчыку вечарам, калі граблі

сена; якраз такой парой, на захадзе, як усюды было ціха і маркотна... Ён чуў і з двара, і з лесу, і з поля Верку кожны раз — пазнаваў па голасе. Верка добра пела — свае песні, з Вейна; мсціжаўскія не любіла, не прывыкла яшчэ; мсціжаўскія не такія былі працяжныя. Верка пела і дома ў хаце, калі абразала на вячэру бульбу ці шыла на швейнай машыне. Сядзе за стол ля акна ад вуліцы пад ходзікамі, накладзе швіва ля сябе цэлую гару, круціць за ручку ў машыне, аж, здаецца, рука ў яе не свая — як толькі спраўляецца падгінаць швы,— і пачынае пець. Спачатку ціха, сама сабе, падымаючы галаву — на ложку ля печы ляжыць ён, Андрэй — тады забываецца на ўсё на свеце: круціць за ручку і пяе... І тады, калі ён ляжаў на ложку і слухаў, яму здавалася, што круцяцца хата, і гарод у акне, і лог далёка за ракой — усё некуды плыве разам з песняй... Пасля здавалася, што ён адзін ідзе па вялікім-вялікім полі, ідзе невядома куды, дзе яшчэ ні разу не быў... Ён ніколі ёй нічога не гаварыў, і яна, мусіць, не ведала, што ён любіць яе песні...

На Зурэччы пад Луськім сціхла песня, і ён доўга яе чакаў. Пасля песні яшчэ горш зрабілася ўсюды ціха. Скаціўся з-пад прызбы ў баразну ў бульбоўнік парожні кошык — уверх дном, за ім пасыпаўся сухі, перацёрты, як попел, сівы пясок.

«Паеду пад Полацк... На любую работу. Не вытрываеш. Яно, відаць, душа ў чалавека ёсць, калі так горка робіцца.. Пайду зноў да Унука. Яшчэ раз. Паеду — кім хоча. Хай пасылае. Калі і бадзяцца прыйдзецца па вёсках — цяпер гэта не страх. А як возчыкі і грузчыкі... Усю жызню па чужых хатах. На раскладушках, на падлозе... Усю жызню па сталоўках, па катлапунктах. Нагледзеўся, не першыня...»

— Хазяін...— пачуў ён, як яго клікалі на двары. Клікаў мужчына. Атросшы з сябе пясок, ён пайшоў у вароты, між варыўнёй і сеначкамі. На двары ўбачыў трох мужчын — ішлі ад варот; самы меншы, у жоўтай шоўкавай рубашцы з кароткім рукавом, стрэпаў белай палачкай па частаколе. На вуліцы проці самых варот стаяў «казёл» з брызентавым шэрым верхам.

— Дома ёсць хто? Хазяін!.. — клікаў пярэдні, стары на пагляд мужчына, старэйшы за яго, Андрэя. Быў ён у чорным шырокім пінжаку, пад гальштукам і пры белай рубашцы, у жоўтым старым саламяным капелюшы — верх аж пачарнеў. На нагах у мужчыны былі высокія гумовыя

боты, бліскучыя, з адкасанымі ля калень халявамі — відаць было белае новае палатно. Мужчына быў вясёлы, загарэў, усміхаўся вялікімі сіняватымі выцвілымі вачыма, паказваючы белыя густыя зубы; ля носа ў яго збіралася скура ў маршчыны.

— Гэта ты хазяін? — ён кіўнуў галавой, паздароўкаўся.— Нясі, брат, вядро да студні. Аж дыхаць не дае, так у роце перасохла.

Андрэй вярнуўся ў хату, вынес вядро і зялёную паўлітровую конаўку — паставіў на зруб. Апаражніў вядро, зачапіў на крук — і палез па ваду. Стаяў пасля збоку, адышоўшыся аж на дрывотнік да сталюгі, і глядзеў, як яны п'юць, усе трое. Адзін сіляе конаўку, аж цурчыць з яе вада на пясок пад ногі, другі, падняўшы рукі, чакае.

«Усмяглі...» — падумаў ён.

Апошні піў малады зусім хлапец. «Шафёр»,— падумаў пра яго адразу Андрэй. Той узяў конаўку з рук у другога мужчыны неяк скоранька, абедзвюма рукамі, як галодны. Другі быў маладзейшы за першага і ніжэйшы, з чорнай галавой, з чорнай шырокай, круглай, кароткай барадой і ў чорных — ад сонца — акулярах. У раскошнай рубашцы ў чырвоную клетку. Зняўшы акуляры, круціў іх у руцэ і глядзеў усё па двары.

— Ну, хазяін... — сказаў старэйшы,— як усё роўна вылечыў...

Мужчыны стаялі і не ішлі на вуліцу да машыны. Глядзелі цяпер на яго — усе трое, аж было няёмка: пераводзяць вачыма з галавы да ног і нічога не пытаюцца. Ён узяў вядро з конаўкай са зруба і хацеў ужо ісці.

— А мы да цябе, хазяін... — сказаў старэйшы.

— Да мяне-е?.. — ён падняў вочы на старэйшага, пасля змераў паглядам усіх, як і яны яго: шукаў, можа, каго ведае.

Старэйшы зноў пачаў усміхацца, як хітры.

Андрэй падумаў, што мужчыны вясёлыя і што яны чужыя, недзе здалёку — хто і адкуль? У добрай пакамечанай адзежы і ў гумовых высокіх ботах, адзін шафёр у брызентавых паўбацінках. «Што там у іх у машыне?» — падумаў ён пасля і сказаў:

— Калі да мяне — пайдзём у хату...

Ён нёс вядро і чуў, як мужчыны тупаюць у сенцах — выціраюць ногі.

— Ну, чым частаваць будзеш, бацька? — загаварыў

цяпер да яго адразу ў парозе маладзейшы з чорнай круглай барадой.

— Вада ў вядры яшчэ асталася... — сказаў Андрэй, і яны ўсе засмяяліся. І сам ён засмяяўся з імі.

У хаце на памытую падлогу — аж у парог — свяціла сонца з акна ад вуліцы: жоўтай шырокай, адсечанай зверху наўкасяк паласой — мужчынам пад ногі. Яны не рашаліся ісці ў другую палавіну — стаялі ў парозе.

Андрэй павесіў вядро на дрот і паставіў конаўку на стол на край.

— Праходзьце далей... Прысядзьце... — ён падумаў быў, што, можа, гэта з леспрамгаса хто новы, можа, з-пад Полацка з участка. Хто б другі заехаўся...

Мужчыны ўсё тапталіся ў парозе. Малады хлапец, шафёр, падышоў да дзвярэй у другую палавіну, глянуў за перагародку.

— То сядзьце хоць тут,— Андрэй выцер даланёй услончык ля стала: на яго накапала з конаўкі вады.

— Няма калі сядзець,— сказаў старэйшы, у капелюшы.— Ды і дарога наперадзе вялікая, насядзімся... Вешаеш што, хазяін? — ён зноў усміхнуўся.— Ты цяпер свабодны?

Андрэй падняў галаву, зірнуў на аднаго, на другога.

— Не бойся, бацька, не звязём,— сказаў маладзейшы, з круглай чорнай барадой.

«Не звязём?..» — Андрэй крутнуўся ў парог і глядзеў цяпер на маладзейшага.

— А хто вы такія? — спытаўся ён, і яны засмяяліся.

— Мы ад Падбярэцкага,— паказаў стары рукой на Ямы, адкуль яны прыехалі.— Падбярэцкага ведаеце?

— Ад Падбярэцкага? З леспрамгаса? Ну, дык што? Я ж не начальнік участка...

— А мы начальства і не шукаем.

— Дык хто вы?

— Калі сказаць праўду, мы, хазяін, золата шукаем.

— Якое золата?

— Чорнае, бацька...

— Ага... Чуў пра гэта. Садзіцеся,— Андрэй пасунуў на стале далей конаўку, як усё роўна яна каму замінала.— Чорнае, кажаце?

— Ты, бацька, карацей,— зноў пачаў круціць у руцэ чорныя акуляры малады з барадой.— Заняты ці не? На адзін вечар...

— А што вы дзе робіце?

— Гэта, бацька, доўгая песня,— сказаў малады з барадой.

Стары падышоў і сеў на ўслончык. Глядзеў у акно пад дзічку.

— А ў нас і жоўтае ёсць... золата... — сказаў маладзейшаму Андрэй.

— Ну-у?.. — маладзейшы аж выцягнуў шыю.

— Яшчэ мой бацька расказваў. На гары, пад Віліёй. Сасняк там, пясок жоўты. Дык там камень знайшлі залаты з кулак.

— А калі гэта было?

— Калі было? Даўна было. Майму бацьку расказваў яго бацька...

— Ты, стары, на багатым месцы жывеш... — малады з барадой падышоў і стукнуў яго па балючым плячы, моцна, з размаху.

У Андрэя аж іскры пасыпаліся з вачэй.

— Ты што, здурнеў? Я ад вайны яшчэ ўвесь балючы...

— Радзі бога, бацька... Даўно вайна была... А па вас не скажаш...

— А дзе цябе? — спытаўся старэйшы ад стала.

— Тут. Дома. Мы далёка нідзе не былі. Тут на свет паявіліся, тут раслі, тут і ваявалі. Усё тут, дома, усю жызню,— кіўнуў Андрэй на маладзейшага,— як ён кажа: на багатым месцы. А што — Падбярэцкі?

— Ён толькі сказаў, дзе вас знайсці... — маладзейшы пацерабіў чорнымі акулярамі бараду.

— Прыехалі — дык прыехалі. Шукайце — што хочаце. Стаяць можна і ў мяне. Другая хата пустая. Дзяўчына спіць на печы. Няма толькі ў мяне бабы, хто вам варыць будзе. Зімой, во, не стала. Не дачакалася і цяпла. Адзін цяпер, што пень. Дачка яшчэ малая... Так што хата свабодная. А я думаю — чаго гэта ім трэба?.. Аставайцеся. Скора я адгэтуль зусім з'еду, з участкам. Хоць хаты забіваць не буду. Аставайцеся. Што тут вам надта варыць трэба? Бліны ж пячы не будзеце? Зварыце і самі, без бабы. Гэтыя дні дачка варыць будзе. Пакажаце. У мяне яна...

Яны слухалі яго, апусціўшы вочы.

— А ружжо ў цябе, бацька, спраўнае? — спытаўся маладзейшы з барадой.

— Ружжо? А нашто яно вам, маё ружжо? — Андрэй адышоўся і стаў у дзвярах у другую палавіну, узяўшыся рукой за дошкі ў перагародцы ля цвіка, дзе вісела на ма-

тузку паркалёвая сіняя ў кваты занавеска, як спужаўшыся ўсё роўна, што яны пойдуць і возьмуць ружжо, якое стаіць у другой хаце ў шафе за Верчынымі сукенкамі.

— Ружжо нам не трэба... У нас свае ёсць. Ляжаць у машыне. На вуліцы ля варот... — маладзейшы з барадой падышоў да перагародкі і зірнуў здалёку ў акно ад вуліцы — яму, Андрэю, цераз плячо.— Касачыкаў толькі нехапае.— Ён так і сказаў: «касачыкаў», круцячы ўсё ў руцэ чорныя акуляры.— Другі вечар круцімся. Знаеш, колькі мы аблазілі, бацька? Пад'язджалі аж да Віліі, да старой заставы...

— Касачыкаў... Куры, вун, у мяне пад яблыняй у гародзе. Злажыўся і... Не трэба і на Вілію машыну ганяць, свет калясіць... А я думаў, вы стаяць шукаеце дзе... — Андрэй адышоўся да акна і глядзеў у гарод: баразнамі да град ішлі куры — з-пад яблыні.

Тады, устаўшы з услончыка, да маладзейшага з барадой падышоў старэйшы ў капелюшы і паклаў руку на плячо:

— Ідзі лепш, хлапец, у машыну...

Той адышоўся ў парог і апёрся плячом аб вушак — не паслухаў.

Маўчалі. Было чуваць, як капае з вядра на падлогу вада. Хлопец у жоўтай шоўкавай рубашцы з кароткім рукавом падышоў да стала, узяў конаўку і, зачэрпнуўшы з вядра вады, піў — другі раз.

— А-ат... — загаварыў цяпер да Андрэя старэйшы.— Маладыя. Гарачыя. Ім падавай адразу на стол печанага, як у рэстаране...

— Не адказаўся б, таварыш начальнік,— маладзейшы з барадой паказаў ля вушака белыя зубы.— А то ўчора вечарам сядзелі, сёння раніцай сядзелі... І ніхто не паднёс... І Падбярэцкі, ці як яго там, разам сядзеў. Хоць бы сарока хвастом махнула.

— А адкуль вы знаеце Падбярэцкага?

— Вешкі якраз на маршруце. Спыталіся, хто ў лес са стрэльбай ходзіць, нам і паказалі,— зноў гаварыў старэйшы.

— І аж на Вілію яго вазілі?

— Сядзеў наперадзе з шафёрам...

— Хе-хе... Падбярэцкі? А вы яму ставілі?

— Нядобра неяк адразу, не ведаючы чалавека. Ці ў вас тут усё толькі за бутэльку? А каб мы вам адразу бутэльку на стол — бух?

— Стол бы не зламаўся... Хе-хе... Не паверу, каб Падбярэцкі з вас не сарваў. І на Вілію ён недзе ехаў і нюхаў, чым пахне ў кабіне. Свіння ён, Падбярэцкі. А што гэта ў вас за маршрут цераз Вешкі?

— Разведка. І ўсё-такі Падбярэцкі адправіў да вас.

— Я не браў у рукі сваёй ламачыцы ад вясны. І вы азірайцеся, ходзячы па лесе. Іх няма, яны і ёсць. Падыходзяць з Паліка, з пушчы. Тут недалёка. Некалі ў нас у вёсцы гаварылі: ёсць у лесе маліны — будуць і мядзведзі.

— Ну-у, бацька... — закрактаў маладзейшы з барадой ля дзвярэй.— Напужалі цябе. Падбярэцкі нам расказваў...

— Падбярэцкі свіння, хоць вы і чужыя людзі... Пра гэта ён не расказваў? Не раскажа. А касачыкі па мне будуць жывы... Павезіцё і мяне ў машыне? Лавіць буду вам і навязваць?.. Я не Падбярэцкі... Наязджаюць такія, як вы, часта. Я вас не знаю, але я па лесе хаджу. Ідзеш — і смурод здалёку, падлай пахне. Ад ляся. Панаядаліся ўжо і ласіны. Задушаць жывёлу і толькі кумпякі бяруць, у мех, каб схаваць. А ўсё другое гніе. Ваўкі кішкі цягаюць па лесе. Цьфу, поскудзь... Дажылі... Каб раз укусіць, тону мяса ў шор пускаюць...

— Ты, хазяін, усіх у адным супе не вары... — цяпер ужо старэйшы хадзіў па хаце, узад-уперад.

— А што вы? Асобая якая стацця? Падбярэцкі вось такіх і наводзіць на след. За бутэльку. Чужы чалавек не схопіць адразу ляся за рогі. Не стаяць яны на дарозе, лоб выставіўшы. А мяне на гэтым спяклі, Падбярэцкі ведае... Ідзіце — адкуль прыйшлі... Я думаў — і праўда людзі жыць дзе шукаюць...

Яны цяпер хадзілі ўсе па хаце, і ў парозе было цесна. Маўчалі, тады старэйшы зноў усміхнуўся, зняў з галавы стары саламяны капялюш, хацеў пакласці яго на край стала і не адважыўся — дзяржаў у руках:

— Слухай, хазяін. Давай тады прама. Тут яно не так павярнулася...

— Што, бутэльку ставіце? Не таргуюся. Не прадаю — ні сябе, ні ласёў...

— Ды дай ты хоць слова сказаць...

— Нечага.

— Ды слухай ты. Мы ж відзім, што ты чэсны чалавек.

— Відзіце... Усё відзіце... Вочы б мае такіх не відзелі...

Маладзейшы з барадой зарагатаў у парозе на ўсю хату:

— Ну, што, таварыш начальнік?.. Можа, і вы пад'язджалі сюды з мехам? Можа, ён і праўду кажа?

Цяпер ужо смяяўся і «начальнік».

«Вот тут-то не трэба было вам смяяцца...» — падумаў Андрэй.

— Ну, што ж, хазяін... — старэйшы, усміхаючыся, надзеў на галаву капялюш.— Дай тады хоць раз яшчэ напіцца. Вада ў цябе добрая ў студні. Ды і сам ты добры, па табе відаць. Дрэнна, што другія ў цябе ўсе благія... — ён узяў са стала конаўку і доўга піў — сіляў з вядра аж два разы. Павярнуўся пасля на хату.— Калі б так быў устроены свет: на аднаго добрага тры такія, як мы, зладзеі, то што б тады было на зямлі?.. — Зноў ён усміхнуўся нема-ведама чаго.— Жыві багата. Э-э, чорт... Ну, ладна, будзь здароў...

Малады з чорнай барадой не мог доўга адчыніць дзверы, і яны стоўпіліся ў парозе; пасля выйшлі з хаты неяк кучкай, адразу ўсе трое.

— Вучыць тут яшчэ мяне сабраліся... Добрыя такія... На лбе ў вас не напісана... — сказаў ён ім услед, калі яны былі ўжо ў сенцах.

Доўга стукалі на двары ля акна ногі, пасля стала ціха.Ківалася толькі вядро з вадой у парозе на дроце, чапляючыся аб печ, і чыкалі ходзікі. З сенцаў — дзверы былі адчынены, мужчыны не зачынілі, думалі, мусіць, што ён пойдзе ззаду на двор,— прыбегла котка і сунулася пад лажак. Ён падышоў зачыніў дзверы — ляціць вечарам у хату машка́ — і сеў ля стала на ўслон.

«Прынясе ж нячыстая... Змарыўся, гаворачы,— падумаў ён.— Вярнуўшыся з бальніцы, стаў як падагрэты. Да трох не гавары... Перш гэтага не было...»

Бачыў праз акно, як зноў пад яблыняй у гародзе хадзілі куры, дзёрлі нагамі мяжу, там, дзе ён узварушыў; на лагу ля ракі бегалі раздзетыя дзеці — купаліся. Рака ля вёскі абмялела, і дзеці самі зрабілі застаўку — цяпер боўтаюцца ў гразі цэлы дзень, сабраўшыся з усяго канца. І дачка недзе там. Карова скора прыйдзе з поля. Самому кожны раз вароты адчыняй. Даўна не браў дзягі ў рукі. Самая тая дзеўчынёха, каб усё ўжо зрабіць...— падумаў ён пра дачку.— Гулі знайшла. У вадзе цёпкаецца. Сам зноў вячэру вары, бульбу абразай...

Ён сядзеў, абапёршыся на падаконнік, і ў яго стукала ў вушах. Пасля пачуў з Выганчыка песню... Стала зноў горка ўсярэдзіне. Ён устаў і доўга хадзіў па хаце. Тады

падышоў да шафы, высокай, жоўтай, што стаяла ў галовах ля ложка, і адчыніў дзверцы.

На белых бярозавых вешалачках віселі ўсе Верчыны сукенкі — у куточку, прыціснутыя адна да другой: дачка спарадкавала. Запахла зноў вільготнай глінкай са сцяны... Ён выцер даланёй з ілба пот.

За сукенкамі ў кутку стаяла двухстволка — відаць была чорная рулька і дзяга. Двухстволку прынясла з Доўгіх тады Балюта, і дачка схавала ў шафу: шафа замыкалася на замок. Ён падумаў, што бярэ двухстволку ў рукі пасля Доўгіх другі раз. Першы раз браў, калі вярнуўся з бальніцы і чысціў.

Двухстволка, здалося яму цяпер, пацяжэла: даўна не падымаў.

Адчыняў двухстволку памалу, як баючыся — падпіраў рукой рулькі, каб не падалі... Са стволоў пахла кіслай меддзю. Ён успомніў, што гільзы тады выцягнуліся адразу, былі жоўтыя, нават не пацямнелі. Ён паклаў тады гільзы на шафу. Падняў цяпер руку, палапаў пальцамі зверху па шафе — гільзы бразнулі адна аб адну. Ён дастаў іх, усунуў у кішаню ў штаны. Паглядзеў у ствалы, наставіўшы на акно ад гарода, дзе святлей,— іржы не было. Дастаў з пярэдняй пячуры ў печы, дзе ляжалі сярнічкі і рукавіцы і зімой і летам, драўляны шомпал, скруціў. Уцягнуў у дзірку кавалак белага крамнага рукава ад кашулі — у яго быў укручаны ў пячуры шомпал. Седзячы на ложку ля акна ад двара, доўга шараваў шомпалам у адным і другім ствале, туга накруціўшы крамнага рукава — сціраў старую змазку. Анучкі ад рукава былі жоўтыя, і тады ён зноў доўга глядзеў у ствалы, наставіўшы на акно: шукаў іржы. Пасля шараваў і шараваў ствалы насуха, пакуль анучкі не былі белыя; змазаў ствалы маслам — дастаў з шафы з шуфляды бутэлечку і, адаткнуўшы, нюхаў: у такой бутэлечцы недзе стаяла масла ад швейнай машыны: баяўся зблытаць. Вільготнай анучкай доўга цёр зверху па ствалах. Спускаючы куркі, падпіраў даланёй, каб не пстрыкнулі, як баяўся, што яго пачуюць. Паставіўшы двухстволку зноў у шафу да сцяны за Верчыны сукенкі, раскруціў шомпал, падышоў у парог да печы і кінуў у пячурку на рукавіцы — зашасталі ў карабку сярнічкі.

Пачуў раптам аж у парозе, як на вуліцы ля варот гамоняць мужчыны.

Падумаў, што не помніць: паехала машына ад варот ці не — не паглядзеў.

Падышоў да акна ад вуліцы, нагнуўся да шыбіны. Ля варот стаяў «казёл» на тым самым месцы, дзе і перш,— відаць быў праз зялёнае галлё ад бэзу шэры брызентавы верх.

«Здурнелі, ці што? Стаяць яшчэ...»

Ён выйшаў на двор і пайшоў, спяшаючыся да варот — як усё роўна збіраўся прагнаць людзей і з вуліцы. Убачыў, перагнуўшыся цераз вароты, як на лавачцы ля гародчыка сядзелі ўпобачкі двое: «начальнік» і маладзейшы, з чорнай круглай барадой. На каленях у іх была расхручана шырокая карта, як цырата на стол — у чырвоныя палосы. Маладзейшы, з барадой, тыцкаў у яе бліскучым карандашом. Воддаль, на бугры, на падарожніку пад плотам, ляжаў жыватом уніз хлапец у жоўтай рубашцы і дзёўб нагамі цвёрдую зямлю.

«Сядзяць. Па карце на ласёў ездзяць, ці што? — Андрэй задумаўся.— І праваднікá не трэба. Самі лучаць. Чорт яго знае,— падумаў ён пасля,— можа, яны і праўда геологі. Можа, што і шукаюць. Знай, што ў іх наўме».

Ён вярнуўся ў хату, сеў ля акна ад вуліцы і глядзеў на іх. Яны і не думалі ехаць. Вечарэла. Чуваць было, як пайшлі ад застаўкі на аселіцу да маста дзеці — крычалі. Тады ён зноў выйшаў на двор, адчыніў ціха вароты і стаў проці машыны.

Мужчыны ўсё сядзелі, убіўшыся насамі ў карту.

## 5

На Белай дарозе, на цвёрдых паабапал яе сцежках у траве, лезлі наверх мухаморы, цэлымі кучамі, уздзіраючы вільготнымі чырвонымі галовамі прыбітую зямлю. За мухаморамі было не ступіць, і яны, усе трое, ідучы адзін за адным, таптáлі іх нагамі, аж пырскала на дарогу, на сівы пясок, і далёка ў бакі, на мятліцу і верас, дробная белая, як накрышаны свежы сыр, мяздра.

Моклі ад густой расы гумовыя боты на нагах — адмываліся дачыста, як у рацэ, і блішчалі. Было холадна ў нагі, што ўсё роўна ішлі балотам. З высокай мятліцы і сіўцу раса пырскала аж у вочы. Сонца яшчэ не ўзышло — зачырванеўся толькі ззаду за плячыма лес. На пасецы і на старых бульбяных ямах было сіне ад туману. Туман пасля ночы вісеў яшчэ над полем і далёка над вёскай. Пахла смалой і кіслым сырым балотам з-пад Курачовых Цянёў.

На Белую дарогу яны лучылі ў канцы Сядзіб — яна

ішла за Курачовы Цяні па старым сасновым бары за вёскай. Ля ўчастка Белая дарога выходзіла пад поле, да Сядзіб, пасля крута заварочвалася ад вёскі на поўнач і вяла да Віліі. Па ёй сёлета з самай вясны, калі яшчэ ляжаў снег, і ўсё лета хадзілі леспрамгасаўскія прычэпы — бралі лес за Курачовымі Цянямі з бору. Уся аўтакалона была на ўчастку — цэлымі днямі ішлі і ішлі прычэпы з дрэвам — доўгай, жоўтай, у абхват сасной, дрыўмі-метрамі, даўжком і рудстойкай... На дарозе з глыбокіх, выбітых у зямлі каляін усё лета пахла мазутам.

Ля Белай дарогі, справа на гары ў маладым сосніку, былі некалі бульбяныя ямы — сюды, на пасеку, вазілі сыпаць бульбу ў вайну з другога канца вёскі. Цяпер ямы аб'ехалі, асыпаліся, у іх нарасло маладога сосніку, у пахі чалавеку, ён зацерушыў пад сабой жоўтымі растапыранымі іголкамі ўсё на свеце: жоўты жвір, чырвонае — у гліне — каменне, дробны сівец, разгаты верас і кусты астарэлага за лета сону — сівой касматай травы з сухімі, як іржышча, высокімі дудкамі.

На сухім пяску, на ямах, дзе не расла трава, знаць былі сляды — кругленькія абсыпаныя ямкі — хадзілі маладыя барсукі, адбягаліся ўжо, відаць, далёка ад нор...

Трэба было, абышоўшы ямы, падняцца на гару па Белай дарозе, пакінуўшы справа пад Курачовымі Цянямі Імшару. На яе яны лучаць, зайшоўшы ззаду цераз пасеку і цераз жыліну. Імшара, вялікая і ўсягды халодная ад вады, высахла гэтым летам, высмягшы аж пад самыя Курачовы Цяні: пажаўцеў, стаў асыпацца ўсюды багун, краві толькі нагой, ступіўшы; асунуліся купіны з белым мохам — мох парудзеў, палёг, на ім вісеў журавіннік, рэдкі, голы, з дробнымі ягадамі, як усё роўна суравыя ніткі з вузламі. На Імшары раслі рэдкія старыя сосны, з круглымі шырокімі вярхамі, як макаўкамі; пад імі быў услалы бліскучым брусьнічнікам сухі зялёны мох. Брусніц было многа, яны віселі на куп'і шышкамі, як авечыя хвасты, бурыя ад густога сонца; астаўшыся ад лета, сохлі на дудках, як дома на печы, чарніцы, і іх, знаць было, клявалі маладыя глушцы — на зямлі валялася дробнае пер'е і буйны белы, як гліна, сухі круглы «гарох». Ля сосна́ў, ля карэння на цвёрдай зямлі, былі выбіты неглыбокія круглыя, як на качан, ямкі — сядзелі курчаты.

Ад ям Імшару аддзяляла пасека, доўгая, вярсты на дзве — ішла паласой. Па ёй да Імшары было бліжэй, чымся Белай дарогай, але на пасецы з маладога сосніку аж

капала раса — не ткніся. Тут выразалі лес перад вайной. Тады яшчэ так блізка не было сплаву: па Віліі ішла граніца, пасярод ракі быў убіты калок — палавіна наша, палавіна польская,— і прычэпы ішлі праз вёску на Вострава — дрэва вазілі ў горад. У вёсцы, Андрэй помніць, усё лета і восень стаяў пыл — не паткнуцца на вуліцу; бразгалі ланцугі і звінелі, падскокваючы за машынай на калдобінах на грэблі і ў лесе на карэнні, прычэпы — ад іх доўга стукала ў галаве, пакуль не прывык. Зімой, у ядраныя дні, калі на зацярушаны інеем белы лес і белую вёску свяціла з чыстага чырванаватага, як падпаленага, неба нізкае сонца — стаяла над самай грэбляй над альшэўнікам — і ціснуў, узяўшыся, мароз — трашчалі вуглы і крышыліся ў руках напільнікі, гаварылі, што было больш сарака,— на ўсёй вуліцы стаялі чугрэі, дымячы печамі,— не заводзіліся, і шафёры грэлі маторы, закрываючы радыятары новымі чорнымі ватнімі капотамі, праштабнаванымі, як фуфайка.

Над вёскай тады падымаўся сіні дым, станавіўся ўгары слупамі, і на ўвесь канец густа пахла гарэлай бяростай ад чурак з печаў, аж цяпер, здаецца, дым стаіць ля носа. У тыя вялікія маразы, на захадзе сонца, калі яно, чырвонае, круглае і вялікае, у пахі чалавеку, вісела ў канцы Зурэчча над альшэўнікам, калі за гумнамі чырванеў увесь край неба, і лес, і снег — глянь толькі вокам у той бок, абцёршыся ад інею,— пад вёску ўсягды прыляталі глушцы. Ляцелі з Імшары ў голы бярэзнік пад Доўгія на высокія старыя бярозы, прылiпалі да сукоў чорнымі камякамі і сядзелі, не кратаючыся, як усё роўна грэліся на сонцы. Садзіліся яны, калі сонца было яшчэ над альшэўнікам, і чакалі вечара; рабіліся чырвоныя разам з бярозамі, гарэлі з добрую гадзіну, зноў чарнелі, як вугаль, і расплываліся ў шэрым сутонні. Рабіліся яны вечарам лянівыя, цяжкія, не спяшаліся зляцець і схавацца ў снег, зусім не баяліся, і да іх можна было блізка пад'ехаць на кані — не даваліся толькі, каб падыходзіў. Аж цяпер уваччу стаіць, як на лагу на снезе блішчаць іскры — відаць з двара ад студні,— а чорныя камякі гараць на сонцы... У вайну выразалі стары бярэзнік ля вёскі на дровы, цяпер там гола. Бывае часта зімой, калі ля Луськага ў мароз заходзіць сонца, заманецца глянуць на бярозы — на пустое месца. Заные тады ўсярэдзіне, стаіш, глядзіш на белы снег, на лес, які далёка цяпер ад вёскі — чорная крывая паласа, як дуга,— і думаеш, што многае ўжо прайшло і

не вернецца назад. І шкода тады таго, даўняга; і ўспамінаеш сябе малога з бацькам і з мацерай... Як усё роўна яны пайшлі туды, на Доўгія на балота, ззаду за саньмі — паехалі па сена — і могуць зараз вярнуцца: бразне кручок у варотах, заскрыпіць пад палазамі снег на ўвесь двор, зафорскае конь, пачуўшы цёплы хлеў і ваду ў вядры ля студні, зашапоча, тручыся аб сцяну, сена ў возе, і загавораць бацька да мацеры...

Бацькі не стала разам з Балюціным мужыком... Рэабілітавалі і бацьку, і Балюцінага першага мужыка. Маці ён хаваў сам. Яна памёрла зімой, як і Верка. Той год, калі ён пайшоў у партызаны. Хварэла доўга, недзе ад таго, як пачалася вайна,— у яе балела, не сціхаючы, галава, і ніхто не мог памагчы. Пасля, перад самым ужо канцом вайны, пад вясну, памерла і яго, Андрэева, першая дачка — ад запалення. Сціснула і не дало дыхаць. А чым лячылі? Клалі на лоб халодную кужэльную анучку, памачыўшы ў вадзе, і мёрзлыя, як костачкі, журавіны, у вушы, дастаўшы з гары з начовак у конаўку. Помніць, паставілі былі банькі, прынёсшы ад Балюты,— сваіх не было; Верка сама ставіла на карасіне — не памагло... У вайну многа хто памёр у вёсцы — людзей не лячылі...

Белай дарогай, дзе яны ішлі, зімой, у калядніцу пад вёску падыходзілі ноччу ваўкі — выць. Блізка, аж на Загуменне да фермы.

Выць ваўкі пачыналі яшчэ звечара на Белай дарозе. Падавалі голас па адным — збіраліся ў кучу з Курачовых Цянёў і з Імшары, пачакаўшы, пачыналі ўсе разам... Старыя ваўкі бралі густа, цяжка, на два калены, як усё роўна цягнулі што з зямлі, натужыўшыся ўсім нутром і задыхаючыся; ваўчыцы галяшылі вышэй, танчэй і, здавалася, даўжэй за ваўкоў, нібы яны былі больш за іх галодныя, нібы ім больш за другіх трэба было; з ваўчыцамі блыталіся пераяркі: пачыналі выць яшчэ танчэйшымі галасамі; і як усё роўна брахалі маладыя, сёлетнія, ваўкі, што сабакі... Лес тады рабіўся далёкі-далёкі, і поле невядома якое шырокае і белае, аж рэзала ў вачах; і месяц, маленькі, кругленькі, падымаўся недзе высака-высака — здаецца, ніколі ён так высака ўгары не быў... Чуваць было, як ідзе за плячыма шорах і падымаюцца на галаве валасы.

Белай дарогай на поле ў Сядзібы падыходзілі кожны раз увосень дзікі — у авёс і ў бульбу. Цёмна-бурыя, вялікія і цыбатыя кабаны з густой і шорсткай, як стары сівец

на бугры, шчэццю, з задзёртымі доўгімі лычамі, на якіх бялелі загнутыя ўгару клыкі, былі добра відаць пры месяцы; меншыя і даўжэйшыя свінні з драбнейшымі клыкамі, якія ў іх не выходзяць з рота,— яны не сякуць імі, як кабаны, здабычу, а, паваліўшы, прыціскаюць да зямлі пярэднімі нагамі і рвуць зубамі; вёрткія, як мышы, парасяты, па пяцёра на кожную свінню, не менш, ішлі, калі пачынала цямнець, з Імшары на поле... Рыючыся ўвесь дзень у зямлі, дастаючы карэнне ад папараці, збіраючы асыпаныя арэхі пад ляшчэўнікам, не зладзіўшы маладога казляняці і не знайшоўшы на зямлі якой падлы — не кожны дзень дохне ў лесе што годнае, яны прагаладаліся, у іх аж падцягнула бакі; не напхнеш жа жывот аднымі чарвямі: трэба перарыць увесь лес — і ідуць усёй чарадой пад вёску. Ідуць смела, не баючыся, латашыць авёс і грэчку, бо здалёку чуюць чалавека. І ўвосень іх страляць цяжка, нават калі стаяць і круцяць хвастамі — ядуць. Не ўсягды ж лучыш пад лапатку ці пад вуха. Ад'еўшыся, за лета, яны сытыя, сала бывае на мужчынскую даланю, і дранкулька далёка не зачэпіць. Дзік тады варочаецца туды, адкуль стралялі...

Андрэй забіў толькі аднаго дзіка, у Сядзібах, каля калгаснага капца ўвосень, калі браўся ўжо нагалец мароз. Было гэта перад самай вайной, ноччу, на Акцябрскую... Дзік прыйшоў з чарадой, стары, і Андрэй страляў па ім ажно тры разы...

Па Белай дарозе пераходзілі з Курачовых Цянёў на Доўгія да Жоглаўкі ласі, летам, калі было суха і высыхала, як сёлета, Імшара. Іх бачылі тады нават удзень — ішлі, як коні да вады, адзін за адным. Блізка ля вёскі, дзе цяпер участак,— другім месцам не было якраз дзе перайсці пад Доўгія: голая пасека.

Пасля вайны ласёў адразу было менш, і іх бачылі толькі пад Вешкамі. Цяпер яны зноў паявіліся і сталі хадзіць парамі па Курачовых Цянях. А летам сёлета, калі пачало сушыць, яны зноў пераходзілі ля Ям на Доўгія да Жоглаўкі, як усё роўна гэта былі тыя, што хадзілі тут перад вайной і добра ведалі дарогу — помнілі дагэтуль...

За бульбянымі ямамі падняліся на гару і сталі, бо стаў Андрэй — ён ішоў наперадзе. Яму аж упёрся ў плячо «начальнік», Васіль Васілевіч, як ён сябе назваў учора вечарам на вуліцы ля машыны,— той старэйшы, што ўсё ўсміхаўся ў хаце. Ён і цяпер круціў галавой і ўсміхаўся сам сабе. На плячы ў яго вісела рулькамі ўверх новая

двухстволка — здавалася, пахла яшчэ магазінам. Яны стаялі і глядзелі, як за імі ззаду, астаўшыся, падымаецца на гару, цяжка ступаючы па сівым глыбокім пяску, той маладзейшы, з чорнай круглай барадой, малады чалавек.

Андрэй падумаў, што начальнік не назваў таго па імені і ўчора вечарам, калі яны вячэралі ўдвух за сталом — елі салодкае малако з хлебам поўнымі конаўкамі — ім падала на стол два збанкі дачка — і сёння не назваў ні разу за ўсю раніцу, адно — малады чалавек.

І ў маладога чалавека была на плячы двухстволка, толькі старая, з абшарпаным прыкладам, старэй, чымся яго, Андрэева.

«Бацькава недзе»,— падумаў пра яго Андрэй. Пасля падумаў, што той і праўда зусім, здаецца, малады — можа, таму, што ў лесе на шырокай дарозе і здалёку. У хаце ён быў старэйшы.

Не было на дарозе толькі хлапца ў жоўтай рубашцы — шафёра. Астаўся дома, спіць яшчэ недзе ў машыне. Начальнік з маладым чалавекам спалі на яго, Андрэевым, ложку — Андрэй пайшоў у хлеў на сена, дачка — да Балюты. А шафёр, як адчыніў учора вароты — адцягнуў аж да частакола ў гародчыку, як загнаў машыну задам на двор пад асвер, так і не вылез, не пайшоў нават вячэраць, хоць па яго і выходзіў начальнік. Хлапца ўсё цягнула ўніз: і на траве качаўся пад асверам, і ў хаце, калі быў, апіраўся на брыж на ло́жак у запечку, і на вуліцы ляжаў на зямлі. Начальнік з маладым чалавекам і сёння раніцай яго не краталі. Андрэй, лежачы ў хлеве высака на сене, чуў, як той хроп у машыне ўсю ноч, хроп і доднічай, калі Андрэя разбудзілі куры — саскоквалі, кудакчучы, з бэлек і падцісkаліся пад дзверы на двор.

Яны ўсё стаялі: стаяў Андрэй, слухаў. Тады пачалі слухаць і яны, гледзячы здалёку на Імшару.

Ля самай дарогі на цвёрдай зямлі па траве слаўся ажыннік доўгімі, выгнутымі жоўтымі дудкамі з сівым перавернутым лісцем і чырвонымі ягадамі; чапляўся калючкамі за штаны — здавалася, поўз пад ногі, як жывы, на сівы, біты вякамі дажджом, калясьмі і машынамі сіпак. На дарозе ля ажынніку ляжала калючая скура ад маладога вожыка, сплюшчаная, з жаўтаватымі кароткімі іголкамі — вожык лучыў пад прычэп. За ажыннікам ля пнёў рос малады пад'ялевец; з жоўтага моху лезлі высокія ружовыя кветы. Цвіў ля бульбяных ям шалфей, і ад яго пахла на ўвесь лес мёдам. Адсюль, з Белай дарогі, з гары

было відаць, як на пасецы, дзе не было сасняку, пачынаў цвісці верас — ад квят было бела, усё адно як з начы нацерушыла рэдкага снегу.

Ядранела ў лесе; пасека, здавалася, заліта дымам — лес рабіўся сіні ля самай зямлі. Неба над участкам пачало пералівацца яркімі, як жар, палосамі; уверсе было чыстае, аж белае — скора ўзыдзе сонца. Чуваць было, як у вёсцы брахалі сабакі, пелі пеўні — далёка і глуха; над вёскай стаялі дробненькія жоўтыя хмаркі, бялеючы ўвачавідкі і не кратаючыся з месца. Ракатаў без аддухі трактар, ціха, як злавіць вухам,— мусіць, на полі пад Луськім.

Чуваць было, як азвалася, прачнуўшыся, жаўна — дырчала на ўсю пасеку; стукаў над галавой у сасну дзяцел, пішчалі дробненька сініцы, стрэпаючы па кары. Зазвінела пчала, не дачакаўшыся сонца...

Пастаялі, можа, мінуты дзве, тады зноў пайшлі дарогай: ён, Андрэй, наперадзе, яны, начальнік і малады чалавек, ззаду, ішлі ўпобачкі. Не спыталіся ў яго ні слова, як выйшлі з двара. Начальнік толькі ўсё пераводзіў вачыма з ног да галавы, што ўсё роўна сачыў. Гарой яны пайшлі скарэй, баяліся, што сонца застане ў дарозе.

У Мсціжах ніхто не страляў ні цецерукоў, ні глушцоў — можа, толькі калі даўней. Ружжо было ў аднаго Андрэя, і Падбярэцкі прыносіў з сабой з Вешак. Але і Падбярэцкі на іх не хадзіў: «Адаб'еш ногі за гэтым сухім крылом. Набою шкода на пустое». Падбярэцкі знаходзіў што страляць... Андрэй іх біў разы з чатыры, калі хадзіў Белай дарогай на Курачовы Цяні ў канец Імшары ў чарніцы. Тады яшчэ магла хадзіць Верка... Цецерукі ўзляталі з зямлі вывадкамі: старая цяцерка і маладая з ёй — штук пяць, а то і восем. І не ляцелі далёка ў Імшару, як усё роўна дражніліся. А то садзіліся дзе блізка на сасне на сук па двое і сядзелі, сцюцюрыўшыся. Ён тады страляў па іх. Адзін раз прынеслі з Веркай дамоў аж тры курчаці. Верка скубла і смаліла іх вечарам у печы на маленькіх вілачках — ад гаршчэчка, у якім гатавалі малако. Два апошнія леты перад Верчынай хваробай хадзілі сюды, пад Курачовы Цяні, у чарніцы і кожны дзень узганялі цецерукоў. А бывала — і глушцоў. Вялікіх, чорных, як індыкоў... Ён ведаў, што яны ёсць цяпер у лесе. Ведаў дзе — вяліся ў адным месцы: пад Курачовымі Цянямі ў бары — у жыліне. Бацька яшчэ, калі быў жывы, хадзіў на іх сюды адумысла...

Дарога навярнула над Імшару і пайшла па чыстым сасновым бары. У лесе зноў пацямнела, як усё роўна звечарэўшы, і высака ўгары па дрэвах, як дастаць, жаўцелі засохлыя смаляныя плямы ў доўгія глыбокія палосы, як усё роўна мядзведзь пакідаў знак лапай у час вяселля, каб паказаць другім, які ён дужы,— у бары была свежая падсочка, першы год.

Ішлі па каляі, па абмалочаным машынамі лясным доўгім падарожніку; на прыбітай зямлі было насыпана насення, буйнога, як проса.

Блізка была Імшара: ля дарогі рос бярэзнік, высокі, тонкі, як на жэрдзе, сагнуты ў дугу, мусіць, вясной, вялікім снегам. Лучаўся верас, белыя порхаўкі і старыя па лапцю чарвівыя казлякі. Мяккую, як раллю, зямлю ў каляі за ноч парылі краты. Запахла вільгаццю — прэлым мохам і гнілым дрэвам; зазвінелі над вухам камары — дробныя, жоўценькія, з балота. Пачалі трапляцца сухастоіны з абдзёртай карой — кара ляжала на зямлі, як скінуты з плеч кажух; ля яе параслі жоўтыя варушкі, кучамі, як увосень на пасецы ля пнёў. На карэнні і на моху было нацярушана жоўтай дробненькай трухі, як пілавіння,— дрэва тачылі жукі.

Не дайшоўшы да брадка — брадок быў уперадзе: блішчала здалёку вада і была відаць высокая зялёная асака,— яны ўзялі яшчэ правей, павярнуўшы назад, пад дом — чырвоная зара на ўчастку за бульбянымі ямамі біла якраз у вочы — і выйшлі ў жыліну — доўгую вузкую прагаліну, парослую высокім дурнічнікам. Не гаварылі адзін з адным, ступалі асцярожна, каб не трашчалі пад нагамі сукі. Адразу запахла багуном, востра і кісла. На дурнічніку высака віселі буйныя, доўгія сівыя ягады; з ягадніку, з лісця, пырскала на шчокі раса. Андрэй пачуў, як у яго адразу змоклі штаны, вышэй калена, што ўсё роўна зайшоў у раку. Стаўшы, ён паказаў рукой: разысціся, прыйшлі... Убачыў, як начальнік і малады чалавек адразу адлучыліся ад яго, падаўшыся краем жыліны — адзін з аднаго боку, другі з другога. Ішлі адзін проці аднаго, несучы ў руках двухстволкі. Ступалі цяжка, вязнучы глыбока ў мох; нагнуліся ўперад, што ўсё адно цягнулі рэчкай бродзень, заняўшы ад берага да берага. Андрэй астаўся пасярод жыліны — у самым ягадніку: нічога не відаць перад вачыма, хоць расхінай рукамі.

«Цяпер трэба было б пусціць сабаку...» — падумаў ён і адразу пачуў стрэл: адзін, пасля другі — там, дзе ішоў

начальнік. Пасля пачуў, як блізка, недзе ўперадзе, нешта цяжка чвякнула на зямлю ў мох, як цвёрды качан у кадзь зверху на шаткаваную капусту. Андрэй выцягнуўся, глядзячы туды з-за багуну і дурнічніку,— у вочы закалола жоўтымі доўгімі, праз усю жыліну, іголкамі: узыходзіла сонца. Закрыўшыся рукой, ён убачыў, як над жылінай узняліся і разляталіся ў бакі маладыя чорныя глушцы. Лапаталі крыллем, аж гудзела жыліна; ляцелі нізка — як у хаце пад столлю.

Бах-х...— страляў цяпер малады чалавек: адзін, другі раз; пасля, счакаўшы, яшчэ два разы. Андрэй, выбегшы з багуну, убачыў, як і з другога боку жыліны падняліся глушцы — тры, чатыры, чорныя, што вароны,— і, як усё роўна не ўмеючы лётаць, падаліся крыва на сярэдзіну жылы, нібы іх там ніхто не мог дастаць. За імі бег ззаду малады чалавек, мецячыся на хаду, але не страляў: далёка. Тады пабег і Андрэй — пасярод жылы. З-пад ног у яго адразу выскачыла і паднялася на крылле старая глушыца, вялікая, у белыя кропкі ля хваста. Пасля ён убачыў, як кратаецца спераду багун: з зямлі ўзляталі курчаты і, як усё роўна не маючы сілы падняцца ў лёт, бралі нізка, над самай зямлёй. Андрэй застыў і выцягнуўся ўперад з двухстволкай, пасля, згледзеўшы курчат, падумаў, што старую біць рана — малыя зусім дзеці. Хацеў адразу страляць па курчатах, але тыя, як усё роўна ведаючы, дзе іх ратунак, ляцелі нізка, а наперадзе бег, якраз проці, малады чалавек, падняўшы ўгару двухстволку і махаючы рукой, як ад каго адбіваючыся. Начальніка відаць не было, Андрэй чуў толькі, як у тым баку, дзе першы раз стрэліў начальнік, разляргліся яшчэ на ўвесь лес два стрэлы, пасля зноў адразу два. Андрэй здагадаўся: начальнік, забіўшы матку, дабівае курчат. Курчаты адны далёка не ляцяць, падымаюцца і садзяцца знізу на сасне на суках, сцюцюрыўшыся і папрыкараваўшы да дрэва, думаючы, мусіць, што пахаваліся. Па лесе ад стрэлу далёка ішло рэха; калі яно сціхала, Андрэй чуў, як у вёсцы рыкае скаціна — гналі, недзе, у поле. Калолася ў вочы сонца, не давала глядзець: зайшлі няўдала, якраз пад яго; трэба бегчы бокам, як малады чалавек, тады сонца не так колецца з-за дрэў. Бегучы ззаду за маладым чалавекам, Андрэй думаў, што вун як зарасла за гэтыя гады жыліна, носа не ўткнуць; што яны паднялі, мусіць, аж тры выводкі, што немаведама, колькі тут іх ёсць у гэтай жыліне — развялося. Прабегшы, ён хацеў стрэліць па курчатах — яны, удваёчках, ляцелі на-

зад, акруціўшыся ў канцы жыліны,— мусіць, шукалі матку, але наперадзе мітусіўся малады чалавек, расхінаючы рукамі высокі дурнічнік,— шукаў, мусіць, падбітых, тады, адагнуўшыся, пачаў мецікца ўгару. Бег і страляў, пакуль, мусіць, не згубіў з вачэй курчат. Падбег да Андрэя, нагнуўся над купінай, паглядзеў, усміхнуўшыся, спадылба, і зноў пачаў расхінаць адной рукой багун і дурнічнік, задраўшы высака ўгару другую руку са старой двухстволкай — шукаў немаведама чаго.

Стрэліў яшчэ два разы начальнік, недзе ў самай жыліне, і ўсё сціхла. Шастаў пад нагамі ў маладога чалавека сухі ягаднік, рыкала на Загуменні скаціна, і ракатаў без сціханага за вёскай пад Луськім трактар.

— Гэ-эй! — крычаў на ўвесь лес начальнік, клікаў.

Андрэй з маладым чалавекам вылезлі з ягадніку і пайшлі борам туды, дзе быў начальнік. Малады чалавек, мокры ад расы аж у пояс, маўчаў, не загаварыў ні разу, толькі соп і, падняўшы ў руцэ старую двухстволку, азіраўся ўсё назад у руды высокі багун, круціўся, як падбіты.

Начальнік стаяў у высокім ягадніку, хаваючыся ў ім па грудзі. Зняў з галавы стары капялюш і выціраўся беленькай хустачкай — як усё роўна сціснуў у руцэ белую квяту ад юргіні. Расчырванеўся, што выйшаўшы з лазні... Ля ног у яго быў абламаны рукамі ягаднік, і Андрэй згледзеў старую глушыцу: матку. Убачыў адразу ногі, задзёртыя ўгару,— матка ляжала, мусіць, у ямцы — яны былі абросшы доўгім шэрым пер'ем аж да самых пальцаў; пер'е хавала цёмныя вялікія кіпцюры, у якіх было заціснута па маленькай жменьцы свежага доўгага белага моху з Імшары. Пасля ўбачыў дзве чорныя касы на хвасце; жаўтаватыя з белым бліскучыя палоскі ўпоперак на распушчаным крыллі — на іх якраз свяціла сонца праз ягаднік — і чырвоную блеклую пляму ля вока — галава ў глушыцы ляжала якраз да Андрэя доўгай, загнутай уніз, як у каршуна, дзюбай. Дзюба была раскрыта, з яе ў глушыцы цякла сліна з чырвонымі пузыркамі, як усё роўна глушыца наклявалася спелых брусніц і ёй не далі глынуць.

«Чвяк...» — стаяла ў галаве.

Андрэй аж заплюшчыў вочы, успомніўшы, як яна падала ў мох,— старая глушыца была цяжкая. Неяк апусціліся рукі, і ён паклаў на купіну, на ягаднік, двухстволку, якраз там, дзе ляжалі маладыя курчаты, шэрыя, жаўтаватыя, як лісце на багуне. На крыллі ў курчат дробнымі плямкамі пачынала расці бліскучае чорнае пер'е.

— Шэсць штук? Увесь вывадак? — спытаўся Андрэй, і яны загаварылі ўсе адразу, намаўчаўшыся за раніцу.

— Браў адразу матку... Кіло пяць, падымі... А навошто ж малых адных кідаць? Я ніколі не кідаю...— Начальнік схаваў у кішаню ў пінжак белую хустачку, надзеў на галаву стары саламяны капялюш і стаяў, усміхаючыся; паказваў рукой пад ногі на глушыцу: падымі. Другую руку з кішані не даставаў, шастаў сярнічкамі: збіраўся курыць.— Адным вывадкам стала меней. Толькі адным...— сказаў ён пасля.

— Іх тут было аж тры... Аж тры...— не даў яму гаварыць малады чалавек, як усё роўна шкадуючы, што начальнік узяў толькі адзін.

— Тут іх, малады чалавек, не тры... Трэба было бегчы ззаду і пужаць, не тры яшчэ б узагнаў. Ну, што? Ні аднаго? Ты ўсягды не так бярэш... Колькі разоў я вучыў... Бачыў, як яны падымаюцца? Знізу ўверх... Лятуць пад вуглом. Не помніш, як трэба браць, калі б'еш на ўзлёт?..

— Не можа быць. Браў на ўзлёт... Пракляты багун. Што ты тут знойдзеш? Я ж не сабака... Думаеце, вы ўсіх пазбіралі? — малады чалавек, расшпіліўшыся, церабіў грудзі.

— Думаю, што ўсіх.

Яны гаварылі не сціхаючы: адзін усміхаючыся, другі — не ведаючы, куды дзець рукі.

«А мне дык і злажыцца не даў...» — зноў падумаў Андрэй пра маладога чалавека. Ён глядзеў начальніку пад ногі на маладых глушцоў, якія ляжалі, раскіданыя хто дзе, і чуў, як у яго кранулася зайздрасць — ён ніколі гэтулькі не страляў, нават не ведаў, што можна гэтулькі адразу настраляць,— відаць, трэба добра ўмець. Чуў ён, як глыбака недзе ў душы была ў яго і віна: каб не ён, ніхто б не знайшоў гэтай жыліны, каб не ён — жыла б і старая матка і курчаты...

«Чвяк...» — стаяла ў галаве, не праходзіла.

Ад сонца ў жыліне было ўжо цёпла; хацелася піць. Ён сморгаў жменяй халодныя з начы і мокрыя дурніцы і сыпаў іх у рот — яны былі мяккія і кіслыя і пахлі багуном. На дурнічніку, зверху, на бліскучым ад расы павучынні, краталася дробнае шэрае пер'е.

«Чвяк...» — стаяла ў галаве.

У канцы жыліны пад самымі Курачовымі Цянямі крануўся туман — падымаўся памалу ўгару. Зверху пачала церусіцца імжа, драбней маку.

Начальнік сказаў збірацца, і Андрэй падумаў: калі яны будуць варочацца дамоў, падымецца ўжо высака сонца. Загуменнем стануць ісці на работу людзі. Будуць глядзець, як яны нясуць з лесу глушцоў: і старых і малых. І Балюта будзе глядзець...

Не, Загуменнем у вёску яны не пойдуць, пойдуць цераз участак. Падумаў, як і ўчора вечарам, што паедзе пад Полацк. Цяжка было рашыцца... А цяпер паедзе...

Ужо ідучы назад, Белай дарогай, ён думаў, што глушэц ніколі нікуды не адлятае. Дзе жыве, там і памірае. А глушэц — птушка з сілай. Вылупіцца з-пад скарлупкі на свет — яшчэ шалупіна ў яго на хвасце прыкарэўшы — а ўжо бяжыць за маткай...

«Глушцы любяць жыць на адным месцы...» — падумаў ён зноў і махнуў рукой.

Калі яны выйшлі на пасеку, над імі ўгары застукаў крыллем бакас. Рабіў круг над самымі бульбянымі ямамі — прыляцеў пасля стрэлу аж з Курачовых Цянёў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дома на двары ў машыне спаў шафёр, на вуліцы, на лаўцы ля частакола пад старым бэзам, сядзеў Змітрок Юбіцкі, чакаў. Яны адразу, як учора, пайшлі да вядра з вадой, што стаяла на зрубе на дашчаным вечку. За імі ззаду на двор пайшоў і Юбіцкі.

Сонца стаяла ўжо высака над варыўнёй, і чуваць было, як яно суха бярэцца за шчокі.

## 6

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Ляжаў, заплюшчыўшы вочы, у кладоўцы...

— Бо работа збоку ляжала. Каб бутэлька стаяла — шырэй бы глядзеў...

— Га-га-га...

Андрэй, ціха адчыніўшы дзверы, пайшоў ля самай сцяны, сеў з краёчку на доўгай вузкай лаўцы ззаду за ўсімі і адразу стаў слухаць. На яго ніхто нават не падняў галавы з-за стала, каб глянуць. За сталом — ён згледзеў яшчэ з парога — гаварыў, стоячы, старшыня калгаса Дзярызямля — малады зусім чарнявы хлапец з зачасанымі ўгару блішчучымі ад белага агню з-пад столі валасамі. Прысланы: у Мецівжах і каля блізу ні ў кога такога прозвішча не было. Быў ён у новай белай рубашцы з расшпіленым

каўняром; чорны пінжак вісеў у яго ззаду, накінуты на крэсла. Збоку ля старшыні сядзеў русы хлапец у чорным касцюме, пад гальштукам, і ўсё ківаў галавой — парторг. З другога боку ля яго, адсунуўшыся, пісаў на газеціне заатэхнік, гэткі самы малады і чарнявы, як старшыня, толькі драбнейшы і вастрэйшы з твару — у калгасе ўсе звалі яго Заўцехнік, рэдка калі па бацьку, як старшыню,— тады, як што вялікае трэба было. Заўцехнік вёў пратакол. На сходках кожны раз пісала Надзя Жарская, худзенькая чарнявая дзеўчынёха з Луськага; пайшла, мусіць, у «дэкрэт»: ужо чуць хадзіла.

Ля Заўцехніка, падпёршы галаву і ўзлёгшы на стол, усміхаўся ўсё, калі гаварыў старшыня, калгасны эканаміст Гіра, хлопец, маладзейшы за ўсіх і прыгожы — з вялікімі сінімі вачыма. Ён гады два назад скончыў у Востраве дзесяць класаў, нікуды не паступіў — не прайшоў па конкурсе,— і калгас паслаў яго на дзесяцімесячныя курсы. Хлопец вучыўся добра яшчэ ў школе. Добра скончыў і курсы, не ўлягаў надта за гарэлкай і за дзяўчатамі ў вёсцы — кульгаў на адну нагу: не гнулася ў калене ад роду. Сядзеў ён кожны дзень у канцылярыі, і ўсё ў яго было ў галаве на паяўку: нават у каго колькі працадзён за месяц — меў добрую памяць. Кожную раніцу ён ездзіў па брыгадах са старшынёй, а то і адзін на старшынскім «казле» — сам навучыўся сядзець за рулём; поле вялікае, на дарогах не часта хто трапляецца, а круціць руль не такая ўжо і хітрая навука. Старшыня, калі адлучаўся надаўга — вучыўся завочна ў наргасе ў горадзе,— пакідаў яго за сябе. У калгасе нічога не мянялася: кожны дзень Гіра сядзеў у канцылярыі, пераходзіў толькі ад рахункавода ў старшынёў кабінет — цесную квадратную бакавушку ў канцылярыі з вялікім жоўтым пісьмовым сталом, засланым старымі газетамі. Здавалася, пераходзіў толькі каб памяняць у старшыні на стале рудыя газеты: кожную раніцу гэтаксама, як і пры старшыні, ён ездзіў па брыгадах, толькі, можа, седзячы за рулём, падымаў вышэй галаву, калі хто спатыкаўся з ім, і вітаўся, нагінаючыся ніжэй, чымся пры старшыні. У калгасе яго любілі, ён быў мяккі і добра гаварыў з кожным; калі каму што было трэба, ішлі да яго, а не да старшыні, і ён — памагаў. Што ён рабіў, гаварыў са старшынёй ці не, а — памагаў. Памагаў нават і яму, Андрэю.

— Што ж тут смяяцца? Спіць. Усю вясну спаў і лета...— старшыня гаварыў, гледзячы адразу на ўсіх, і гла-

дзіў рукой валасы ля вушэй — выціраўся ад поту.— Спаў у кладоўцы. А каровы пасля асемянення цяпер — пад бык-кі. Я выношу — зняць зарплату... Асемяніцель, называецца. Два месяцы на курсах яшчэ дзяржалі. Я вам скажу... Дзе гэта было... Зіма скора на дварэ, а каровы пад быкі... І ў Мсціжах, і ў Вешках...

— А я што зраблю? — крыкнуў спераду з лаўкі мужчына, моцна, на ўсю канцылярыю. Андрэй пазнаў: Гладкі — асемяніцель. Пераехаў Гладкі ў Мсціжы недзе пасля вайны, купіўшы хату. Іхнюю вёску спалілі немцы, і ён не стаў будавацца на старым месцы. Меў пяцёра дзяцей, як бобу, адно другога меншае. Усе хлопцы. Цяпер падраслі, адзін у арміі, адзін вучыцца ў горадзе, трэці памагае ўжо бацьку на ферме — ездзіць з ім кожны раз са Мсціж у Вешкі на матацыкле, сядзіць на заднім сядзенні, падкінуўшы пад сябе фуфайку і ашчапіўшы бацьку за плечы.— А што я зраблю? — Гладкі крычаў: успомнілі зарплату. Яму налічалі працадні і плацілі яшчэ сорак рублёў у месяц, «за летні перыяд», як гаварыў ён сам. Ён крычаў, крataўся на лаўцы, ёрзаючыся, зняў з галавы новую карычневую кепку, купленую ў сельмагу ў Востраве: такія кепкі прывязлі нядаўна, недарагія, іх раскупілі і насілі цяпер па вёсках — кожны другі. Зняўшы кепку, Гладкі быў падняўся, каб гаварыць стоячы, як старшыня, тады, як чаго адумаўшыся, азірнуўся назад на ўсіх і сеў: ямчэй, відаць, было яму крычаць з грамады. Андрэй падумаў, што Гладкі і ў новым пінжаку, пагаліўся, чысты з твару і поўны. Загарэў за лета — мусіць, спаў не ў кладоўцы, як гаварыў старшыня, шчокі і лоб у яго былі бурыя і мяккія, здалёку блішчалі белыя зубы, калі ён скаліўся, хітра і пядобра. Гладкі быў яшчэ маладзён: так, за сорак, рослы, шырокі ў плячах, прыгожы з вачэй. Смяяліся па вёсцы, што ў кладоўцы ён валяўся часта не адзін: былі маладыя даглядчыцы. Калі яму пра гэта гаварылі ў вочы, ён хітра скаліўся, паказваючы зубы: «Ля мукі апылішся... Работа такая...»

— А што я зраблю? — крыкнуў ён трэці раз, сеўшы.— Што зраблю, калі ў мяне апарат такі?

— Га-га-га...— страсануліся адразу ўсе лаўкі ў канцылярыі.

— Знасіўся!..

— Не прызнавайся! Баба цябе бязрукага карміць не будзе...

— Га-га-га...

Мужчыны сталі курыць: нехта пачаў адзін, дастаўшы з кішані пачку «Беламора» і пусціўшы па руках.

— Цішэй!.. Члены праўлення, цішэй, я прашу. Не зводзьце ўсё на смех. Дайце сказаць Гладкаму. Хай апраўдаецца: за што грошы браў? — за сталом не смяяўся толькі старшыня: стаяў і круціў галавой ад сцяны да сцяны. У яго толькі блішчалі вочы, надзьмуліся шчокі і трасліся дробненька плечы. Заўцехнік — дык той адваліўся аж да сцяны і задзёр уверх галаву. Адагнуўшыся ад стала, пакратаў плячыма і ўсміхнуўся, як стары, сам сабе эканаміст Гіра; пасля павярнуўся на крэсле і стаў глядзець на ўсіх: шукаў вачыма Гладкага.

Андрэй падумаў, што за сталом — адны маладыя. Старэйшыя мужчыны, брыгадзіры, члены праўлення і ўпаўнаважаныя з брыгад — як многіх у вёсцы цяпер звалі — сядзелі хто ля сцяны, хто ля расчыненага акна, а хто ў грамадзе пасярод канцылярыі на лаўках.

«У калгасе адно маладое начальства,— падумаў зноў Андрэй.— Можа, і добра, ніхто дрэнна пра яго не гаворыць, толькі што надта ўжо яно любіць дзісціпліну».

Канцылярыя ўсё яшчэ краталася ад смеху; знімаў з галавы і надзяваў новую карычневую кепку з цвёрдым брылем Гладкі; старшыня зноў выціраў рукой шчокі і лоб. Андрэй пачуў, што і ён спацеў: мокра за плячыма. Ішоў усю дарогу да Вешак, угрэўся, а ў канцылярыі была духата, хоць і стаялі парасчыняныя і дзверы і вокны. На вуліцы — Андрэй сядзеў якраз проці адчыненага акна — было цёмна: вісела ноч, чорная, як пераараная ўвосень зямля. Недзе далёка на грэблі трашчаў дробненька і глуха матацыкл — там бліскала вузкая палоска агню; у расчыненыя вокны ляцелі шэрыя матылькі — на агонь; садзіліся на рукі — мяккія, абсыпаныя мукой. З вуліцы пахла сухім цёплым пылам — усё яшчэ стаяла днём гарачыня, і здавалася, што сядзіш не на лаўцы ў канцылярыі, а ззаду на калёсах, звесіўшы далоў ногі,— едзеш па сена на лог пад Луськае — і цябе трасе на каменні і сыпле пяском з-пад колаў аж на калені. Недзе на вуліцы ў Вешках гаманілі; бразгалі вёдры ў некага ля студні, і рыкала скаціна. Пасля ён пачуў, як з двара з гародчыка пахне гуркамі, кропам і сухім бульбоўнікам. Можа, сох дзе, зжаты, пад сцяной на прызбе — у Мсціжах і Вешках так рабілі: жалі і ставілі бульбоўнік на прызбу пад страху на сонца. З бульбоўнікам пахла сена, мусіць, у некага з хлева, і ма-

зутам: за дарогай на выпаленым буі стаялі машыны і цыстэрна.

Старшыню паслухалі няскора: усё смяяліся. Смяяўся разам з імі і Гладкі — відаць, думаў, што горшае міне: пагавораць і сціхнуць. Было... Старшыня, пакуль смяяліся, адсунуў далей да сцяны крэсла, на якім вісеў пінжак, і падаўся ўперад, як усё роўна хацеў пайсці з-за стала. Загаварыў зноў.

— І каб хоць заатэхніку дакладваў... А то — не. Ты што? Такое схаваць хацеў? — пытаўся ён цяпер у Гладкага, перагнуўшыся цераз стол.— Пастухі кожны дзень у канцылярыю ходзяць... І да зімы будуць хадзіць пры нашым разгільдзяйстве... Калі тады мы будзем чакаць налета ацёлу? Ты ж адзін і мяса, і малако ўсё наша наперад угробіў...

— Не трэба было здаваць быкоў... Выдумалі чорт ведае што... Без быкоў думалі ўжо ферму дзяржаць...— нехта з грамады заступіўся за Гладкага, але старшыня яго не слухаў.

— Я вот што выношу,— сказаў ён, адагнуўшыся ад стала і адсоўваючы рукой яшчэ далей да сцяны крэсла з пінжаком: — З работы зняць. Хай ідзе па нараду. Працадні і грошы, што палучыў, хай астаюцца яму: дзяцей шкода. Выношу: за апошні месяц грошы не выдаваць... Гэта ж — прыйсці толькі да галавы па розум... Мы тут плануем, рашаем, думаем, што ўсё ў нас у парадку, а тут восень прыйшла, і трэба пачынаць усё спачатку... Я выношу на галасаванне. Галасуюць члены праўлення і ўпаўнаважаныя...

Галасаваць адразу не даў Гладкі — ускочыў, сарваўшы з галавы кепку, і закрычаў, ужо стоячы:

— І Заўцехніка знімайце! Я, выходзіць, вінаваты? Адзін? А што я вінаваты, што пакуль гэту гадасць прывязеш у бачку з раёна, дык яна перабоўтаецца на сыроватку... Па інструкцыі гэта не паложана. Заўцехнік знае. Разам ездзілі... Далёка... Даюць машыну — едзь, я і еду. Што я — пехатой, можа, за такую даль пайду? Можа, яшчэ вам... Летась, вун... Што вы ад мяне хочаце? Я ўсё па інструкцыі рабіў... Я ж не бык...

Цяпер ніхто не смяяўся, і яму не далі гаварыць ужо з грамады:

— Як самагонку носіш і возіш, дык яна ў цябе ніколі ў сыроватку не перабоўтаецца!..

— На смех ўсё зводзіць... Зубы паказвае...

— Язык распусціў... Разумнік. Мы ж табе, можа, не скаціна...

— Пункт спецыяльны для яго зрабілі. Дык ён — гарэлачку... І Заўцехнік вінаваты. Відзіў, мог раней знаць.

— Усё-такі па-старому яно лепш. Бык ёсць бык. У яго не перабоўтаецца...

— Ды сціхні ты. У другіх, вун, і каровы, і авечкі... Па-новаму. На быках плана ніколі не выцягнеш...

— Ну дык вот вам Гладкі даў план...

— Даў? І мы яму дадзім: мешалкай пад задніцу...

— Цішэй... Будзем галасаваць. Цягнем, як за хвост...— старшыня пачаў зноў гладзіць валасы.— Хто за тое...

Усе да аднаго, хто сядзеў на лаўках і ля сцяны ля акон, паднялі адразу рукі: то ўперад, то ўгару, а то проста паднеслі сабе да вуха, задзёршы локаць. Паднялі рукі і ўсе за сталом.

Гладкі ўсхапіўся і, надзеўшы кепку ў дзве рукі, хацеў пайсці з канцылярыі, але старшыня сказаў з-за стала, што хоча пагаварыць з ім яшчэ сам пасля ўсяго. Гладкі адразу паслухаў, вярнуўся з парога; на сваё месца не пайшоў, сеў упобачкі з Андрэем на задняй лаўцы. Бумчэў сабе ціха пад нос — лаяўся.

«А хто тут яшчэ са Мсціж?» — падумаў Андрэй і, падняўшы галаву, згледзеў на пярэдняй лаўцы брыгадзіра Юбіцкага, Ганьку і Алёшу Рускага. Рускі не галасаваў, не быў упаўнаважаным: відаць, нечага паклікалі. Больш са Мсціж нікога не было; на лаўках сядзелі праўленцы з Луськага і з саміх Вешак.

У Андрэя раптам як што адарвалася ўсярэдзіне: гэтак скора ўсе прагаласавалі. Ніхто нават і не заступіўся за Гладкага. Яму стала горача ўсяму — ведаў жа, чаго клікалі. Падумаў, што на праўленне і на сходкі ў калгас не хадзіў колькі ўжо гадоў і сядзеў сёння што чужы. Хадзіла адна Верка: і на работу, і на сходкі. І пасля вайны ў свой калгас, у Мсціжы; тады, як злучылі Вешкі, Луськае і Мсціжы ў адно,— ездзіла ў Вешкі, ад брыгады. Калі што трэба было прасіць у калгасе, ішла яна і прасіла, яму было нязручна: прамгасец; яна гэта ведала і ўсягды бегла сама, смеючыся, што баба скарэй даб'ецца. Яму здалося, што гэта ён за Верку прыехаў на праўленне ў Вешкі — кожны раз ездзіла сама, а сёння ён прыехаў за яе. Пасядзіць, паслухае...

«Добра, што расчынена акно,— надумаў ён.— Няма чым дыхаць».

Яго, мусіць, клікнулі з-за стала — старшыня, ці хто, і ён не пачуў, бо ўбачыў, як усе на лаўках павярнуліся і глядзелі на яго. За сталом усё яшчэ стаяў старшыня: і ён глядзеў на яго, Андрэя.

— Падымайся...— таўхануў тады яго ў бок локцем Гладкі — у руцэ ў Гладкага была карычневая кепка.— Цяпер цябе будуць скабліць. Хаця чаго табе баяцца. Ты іхняга нічога не сапсаваў...

На лаўках зноў усе засмяяліся і загаманілі. Але Андрэй не слухаў — устаўшы, глядзеў за стол на старшыню.

— Ну, дык дзе мы цяпер, Вялічка? У калгасе ці ў прамгасе? — старшыня спытаўся і чакаў. Маўчаў і Андрэй. Тады старшыня не выцерпеў:— Тут у мяне дакладная,— сказаў ён, але не паказаў дакладной.— На работу не то ходзім, не то не ходзім. Цяпер у нас не так. Гэта раперш так было. Цяпер у нас нарад кожны дзень. І на работу мы ходзім, як усе людзі. Ну, дык што: у калгас будзем варочацца ці ў прамгасе астанёмся?

Андрэй маўчаў: ну, хоць што рабі — язык не хоча кратацца. Што ён, Андрэй, скажа, калі і сам не ведае. Праз гэта ў душы гарыць. Усё лета. Бываюць мінуты, што адразу б сабраўся і пайшоў не толькі пад Полацк, а куды вочы глядзяць. Пасля выйдзеш на вуліцу, а з вёскі павдзьме вецер, гонячы ў вочы пясок і дым з комінаў. Чуваць, як крычаць дзеці,— стаіш і пазнаеш чые; дыхнуўшы — здагадаешся адразу, у каго якімі дрыўмі паліцца ў печы і што ў каго ляжыць у гаршку, зірнеш на гароды — ведаеш ужо, чаго хто пайшоў на Загуменне... Пасля гамоняць на ўсю вёску бабы — ідуць вуліцай з граблямі на Доўгія пад Жоглаўку. Пойдуць каля самай хаты — будуць пералазіць цераз плот у гарод з вуліцы, ісці ля самай прызбы на лог да ракі, баючыся патаптаць бульбоўнік, і, здаецца, будуць клікаць Верку: «Бяры граблі. Даганяй...»

Чорт бы ўзяў і старога чалавека: хочацца тады плакаць... З хаты пайсці лягчэй, цяжэй пайсці з вёскі...

— Ну, дык хто мы цяпер? — Андрэй падумаў, што старшыня гаворыць з ім мякчэй, чымся з Гладкім.— Маўчыш? Ну, дык я табе памагу

— Інвалід ён — вот хто! — крыкнуў збоку Гладкі, але

на яго толькі падняў галаву за сталом Гіра і нехта сыкнуў з грамады.

— З Унукам я гаварыў...— старшыня глядзеў на яго праз усю канцылярыю.— Ён мне нічога не сказаў. Рабочы то ты яго, але ж ты і да яго не ходзіш на работу. Я, Вялічка, коратка буду... Вернешся назад — то скажы ўсім, не мне адпаму. Не хочаш варочацца — гаварыць будзем пА-другому. Нам рукі трэба, разрываешся тут, а ён, такі мужчына: мядзведзі, качкі... Страляе па лесе... Ну, дык як: вернешся?

Старшыня чакаў. І ўсе чакалі, павярнуўшыся зноў да яго.

— Не,— сказаў тады Андрэй адразу і кашлянуў: суха было ў горле. Каб старшыня не зачапіў мядзведзя, ён, Андрэй, можа б, прастаяў увесь вечар і не сказаў бы ні слова; што рашылі б людзі, тое і было б. Без яго... Андрэй пачуў, як заныла глыбака ў плячы.— Не,— сказаў ён яшчэ раз,— не вярнуся. Паеду пад Полацк з участкам.

Сказаў і хацеў сесці, але побач сядзеў Гладкі, нешта бумчэў, не сціхаючы, і Андрэй не сеў: стаяў і выціраўся рукой ад поту, як старшыня.

— Тады ўсё ясна...— Андрэй пачуў, што старшыня пачаў гаварыць з ім, як гаварыў з Гладкім: — У Вялічкі шэсцьдзесят сотак. Выношу: адрэзаць і вярнуць у калгас зямлю, калі чалавек не хоча варочацца. Тут крычалі, што інвалід. Гэта мы ведаем, ён палучае пенсію кожны месяц. За пенсію не пражывеш, але ж зямля, таварышы, не яго. Калгасная зямля. Хадзіла Вялічка ў калгас, калі жыла, ніхто і слова не сказаў. Рабіла баба... Але ж, памёршы, яна табе, Вялічка, не пакінула зямлю ў спадчыну. У нас калгас. Што будзем рабіць, члены праўлення? Я думаю так: пяцьдзесят сотак у яго за вуліцай ля фермы, дзесяць ля хаты пад раку. Па вуглы не будзем рэзаць, інвалід, а паўгектара забяром. Што там у яго пасеяна, Юбіцкі? — Андрэй не пачуў, што сказаў Юбіцкі.— Бульба? Ну, бульбу хай выбера, раз пасеяў... І к налеццю правясці па шнуравой кнізе... Можа, што хочаш сказаць, Вялічка?

Андрэй маўчаў, і ў канцылярыі загаварылі адразу, усе, хто быў:

— А ці маем мы права?

— А калі чалавек пойдзе? Ён жа хадзіў летам на сена.

— Бо самому трэба было на карову.

— Не збяднее калгас па гэтых сотках, а-ат... Зямлі мала, ці што?

— Ён і не ідзе нікуды, бо аднаму з паўгектара можна пражыць.

— Ён жа наш, вясковы. Ды і не пагаварылі з ім добра. Так ужо адразу... Людзей гонім з вёскі... А самі крычым — не хапае...

— Што гаварыць. Чалавек сам сказаў... Не чулі? Сам ясна сказаў...

— Што ён там сказаў. Цягнуць за язык — нешта ж трэба гаварыць. Ён яшчэ не ачухаўся пасля Веркі...

— А можа, ужо каго другога чухае? Адкуль ты знаеш?

— Га-га-га...

— Стыднік ты, Гладкі. Па сабе ўсіх мераеш. Баб паўважаўся б...

— Цішэй... Як гусі, цэлы вечар. Гагочуць. У чалавека, вун, усё рашаецца...

Андрэй пачуў, што гэта сказаў, устаўшы, Юбіцкі. Цяпер яны стаялі ў канцылярыі ўтрох — старшыня, Юбіцкі і Андрэй. Юбіцкі ўзяўся правай рукой за левае плячо, тады пачаў гладзіць, як націраў усё адно чым: даўняя прывычка, ад вайны.

— Я ўсё-такі... Можа, мы проста пагаворым з чалавекам... Не так ужо... Калі папросіш — ідзе...

— Што значыць: папросіш? Ты што: кожнага ходзіш і просіш? Шапку знімаеш? У калгасе ёсць нарад. Ну, дык як, Вялічка? — старшыня адсунуў стул яшчэ далей да сцяны, некуды ўбок, і цяпер пачаў хадзіць за сталом — узад-уперад.

— Не вярнуся... Паеду пад Полацк...— зноў сказаў Андрэй і зноў кашлянуў.

— Усё, таварышы. Стаўлю на галасаванне. Што ты яшчэ хочаш сказаць, Юбіцкі?

Юбіцкі маўчаў: націраў плячо.

Яны стаялі цяпер у канцылярыі на хаце адзін проці аднаго — Юбіцкі адвярнуўся ад стала. Двое, сагнутыя ў плячах, падбітыя на вайне — адзін у Прусіі, другі дома, пад Каменам,— падобныя адзін на аднаго, яны глядзелі цяпер адзін аднаму ў вочы. І той і другі хацелі неяк заступіцца адзін за аднаго. Андрэй падумаў: «Юбіцкі тут ні пры чым, чаго на яго крычыць старшыня?» А Юбіцкі адвярнуўся зноў да стала і сказаў — усім, хто там сядзеў:

— Што гэта вы яму адно і тое... Адно і тое... Забраць, адрэзаць... Да чалавека, можа, з другога боку падысці трэба. Што ён — не чалавек? І ці законна гэта? Інвалід...

— Ты, Юбіцкі, сядзь, калі нічога талковага сказаць не

можаш. Што тут заступацца? Законна: у яго трэцяя група. Ды і па вуглы мы ж не рэжам. Пакідаем гарод. Там і не дзесяць сотак, а ўсе пятнаццаць — глянуўшы, я табе скажу. Рабочым, вун, у саўгасе больш не даюць... Мне людзі трэба, і я чалавека вярну. Можа і пастухом пайсці, а не — дам учотчыка, кладаўшчыка дам. З ключамі лягчэй, чым з тапаром. Ну, дык як, Вялічка?

— Не-е... Паеду пад Полацк...

Юбіцкі глянуў на Андрэя неяк як на чужога, махнуў рукой, прыняўшы яе з пляча, і сеў.

— Угу-у...— сказаў старшыня, сачыўшы за Юбіцкім.— Стаўлю на галасаванне. Хто за тое...

Андрэй пачуў, як пад нагамі зыбнулася падлога; стол, за якім махаў рукой старшыня і здалёку Гіра гаварыў нешта парторгу — заступаўся, відаць, за яго, Андрэя,— адсунуўся недзе далёка, і людзі за ім зрабіліся маленькія, як намаляваныя, пасля зусім зніклі. Ён, Андрэй, як усё роўна стаяў цяпер дома на вуліцы — перад ім быў гарод ля фермы, які збіраліся адразаць, жоўты ад пасохлага за лета бульбоўніку, у адных дудках, як пасля марозу ўвосень, калі бульбоўнік не справіліся зжаць і цяпер трэба ісці з касой, збіваючы чорныя дудкі... Гарод прапаў сёлета — позна быў пасеяны, пад самую засуху. Бульбоўнік даўна пагарэў, і даўна была відаць на гародзе адкрытая, жоўтая ад пяску пляма — ля самага плота ля дзядзінца. Жоўтая паласа на гародзе за вуліцай не заворвалася ніяк колькі ўжо гадоў — ад самай вайны: там быў партызанскі дзот. Партызаны — ён і цяпер помніць якія: «Жалязняк», чацвёрты атрад — чакалі немцаў з Луськага і рылі ў вёсцы па гародах і пад раку ў аселіцах акопы. У яго на гародзе зрабілі дзот у тры накаты, вырыўшы глыбака яму — дакапаліся да дробнага і белага, як соль, жвіру. Было гэта ў апошнюю блакаду...

Калі партызан ужо ў вёсцы не было — адступілі ў Краснае, ішлі на Палік — і калі вёску бамбілі нямецкія самалёты, у дзоце на гародзе за вуліцай хавалася Верка. З дзота, як яны разбіралі яго пасля з Веркай, пахла пляснівай саломай — усё роўна што даставалі вясной з ямы ля лесу насенную бульбу...

— Хто за тое...— пачуў Андрэй зноў і, як спужаўшыся, уздрыгнуў. Падняўшы галаву, правёў вачыма па канцылярыі. За сталом, задзёршы высака руку, як галасуючы дзе ля маста на дарозе, стаяў старшыня. Гіра, устаўшы і перагнуўшыся цераз стол, гаварыў усё нешта парторгу:

рук яны не падымалі. Падняў руку адразу за старшынёй толькі Заўцехнік; кінуўшы пісаць, ён сядзеў цяпер і вачаў галавой: лічыў галасы на хаце. На хаце рукі падрочаў галавой: лічыў галасы на хаце. На хаце рукі паднялі не ўсюды; людзі павярнуліся і зноў глядзелі на яго, як усё роўна чакалі: што ён будзе рабіць.

У вачах у Андрэя раптам стала бела, нібыта ўсю канцылярыю пасыпалі пяском, адтуль, з гарода з-за вуліцы...

— На гародзе быў дзот...— сказаў тады Андрэй раптам.— Ля самай мяжы, на пяску...

Усе павярнулі да яго галовы — глядзелі як немаведама на каго.

— Што? — папытаўся старшыня, як не дачуўшы. Стаяў усё з паднятай рукой.

— На гародзе быў дзот. Партызанскі...— Андрэй сказаў неяк зусім глуха і закашляўся. Падняў руку, нібы сам хацеў галасаваць проці сябе, і стаў выцірацца ад поту.

— Ну дык што? Музей на тваім гародзе зробім?..

Цяпер усе глядзелі на старшыню. Старшыня злаваў:

— Нешта я ніяк не злаўлю, што ты гаворыш, Вялічка. Вернешся ці не?

Андрэй маўчаў. Няўжо гэта ён сказаў пра дзот і ўсе ў канцылярыі пачулі?

— Не будзем смяяцца, таварышы... Час позні. Хто за тое...

Андрэй згледзеў, як за сталом цяпер усе паднялі рукі. Пасля ўсе паднялі і на хаце ў канцылярыі. Не галасавалі толькі Юбіцкі і Гладкі. Гладкі ёрзаўся на лаўцы, круціў галавой і гаварыў нешта сам сабе.

— Таварышы... Таварышы... Што гэта вы як разыходзіцца сабраліся. Загаварылі ўсе ў адно... У нас асталася яшчэ дарога...— уціхамірваў з-за стала старшыня, зноў падсунуўшы да сябе ад сцяны крэсла з пінжаком: збіраўся садзіцца.— А ты што, Юбіцкі, шуміш? Рашыла праўленне. Прагаласавалі. І ты чалавек разумны. Думаю, знаеш, што нам не прыйдзецца нічога адразаць. Вернецца Вялічка, магу даць галаву на адсячэнне. У нас яму будзе лепш у два разы... Хай падумае... Цішэй, таварышы, я прашу...— На Юбіцкага старшыня ўжо не глядзеў.— Скора восень. Мы павінны скончыць дарогу да Луськага, пакуль пойдуць дажджы...

— Калі яны сёлета ў чорта пойдуць...

У канцылярыі гаварылі ўжо не пра яго. Андрэй, павярнуўшыся, пералсаргнуў лаўку і ціха пайшоў да дзвярэй. Ішоў ля самай сцяны, як усё роўна баяўся, што яго

могуць зглядзець. Пад нагамі скрыпела падлога, рассохлася: была новая, нядаўна пафарбаваная. Ля сцяны раз'ехаліся дошкі, у дзірках між імі тырчалі хоць дзе жытнія каласкі з зярнятамі — асцём уверх — нядаўна тут стаялі, мусіць, снапы. Андрэй выбіраў, каб не ступіць на іх...

Дзверы ў сенцы былі расчынены.

У канцылярыі гаварылі пра дарогу.

## 7

Пакуль Андрэй вярнуўся з Вешак, узышоў месяц. Вялікі, чырвоны, сцёрты знізу, як зношаны — пайшло на апошнюю квадру,— ён выплыў з-за лесу і ціха павіс над Доўгімі.

Дзверы ў сенцы не былі запёртыя, і Андрэй, прыйшоўшы ў хату, згледзеў адразу месяц у акне і на ложку ля печы дачку. Дачка ляжала, не раздзяваўшыся: у сукянёшцы і ў сачаку — як сядзела недзе на вуліцы на лаўцы, чакаючы яго, так прыйшла і лягла на ложак. Храпла, змарыўшыся і набегаўшыся за дзень, пакуль яшчэ ўправілася з каровай вечарам... Ён падышоў да ложка, паправіў даччыну руку — звесілася далоў; дачка нават не пачула — храпла ў нос ціхенька і рэдка, што нямогучы. У галовах на бліскучым нікеляваным брыжы гарэла жоўтая пляма ад месяца; Андрэй падумаў, што ад месяца светла ў хаце і відаць на падушцы круглыя даччыны шчокі і заплеценая каса з белым капронавым бантам. Дачка ноччу была падобна на Верку: і валасы, і шчокі... Днём гэта не так кідаецца ў вочы... Яму зрабілася шкода дачкі. Ён даўна збіраўся пагаварыць з ёй, ды не рашаўся. Пра што спытаешся і што скажаш? Малая... Яму захацелася адразу пабудзіць яе і сказаць, што ў іх сягоння адрэзалі гарод за вуліцай; пасля як хто таўхануў у плячо, і ён апусціў руку: напужаеш толькі...

Яму карцела цяпер гаварыць; маўчаў у канцылярыі, маўчаў усю дарогу, ідучы дамоў, а цяпер ныла ўсярэдзіне і як хто цягнуў за язык. А што скажаш, разбудзіўшы дачку? Пра гарод можна не гаварыць, каму ён цяпер трэба, гарод... Яны спачатку прададуць карову — павядуць на базар, а можа, праз калгас здадуць на мяса, усё адно ж трэба збываць, не павязеш з сабой пад Полацк... Прадаўшы карову, паедуць з дачкой у раён. Зробяць дакументы ў Востраве і пададуць у інтэрнат. Пасля заб'юць хату — яе скора не прадасі, купцы адразу не знойдуцца. Хату

можна будзе прадаць і прыехаўшы з-пад Полацка. І дачку можна будзе завезці, прыехаўшы. Карову толькі трэба адразу прадаць. Сена мучыўся дабываў балючымі рукамі. Усё мяняецца. Тады яшчэ ніхто добра не ведаў...

Ён зноў паправіў даччыну руку — дачка не кранулася. Ён пачаў хадзіць па хаце. Ад ложка да акна: паглядзіць на месяц і ідзе назад да дачкі...

— Волька, устань...— паклікаў ён яе нарэшце ціха, як баючыся. Пасля клікнуў яшчэ раз, мацней.

Дачка храпла, звесіўшы зноў з ложка руку.

Ён сеў ля стала і доўга сядзеў, падпёршыся. Пачуў, што пачаў гаварыць сам сабе. Устаўшы, узяў са стала конаўку — і конаўка блішчала ад месяца,— падышоў да вядра, зачэрпнуў са дна вады. Вада была цёплая, злецілася ў хаце, і ён цадзіў яе праз зубы. Выцерся пасля, падумаўшы, што з яго верне пот: пёрся, мусіць, з Вешак, як сарваўшыся. Помніць толькі, што стукаўся нагамі аб каменне на дарозе і з травы на грудзі скакалі конікі... І цяпер узяў бы і пабег куды вочы глядзяць.

На грэблі затрашчаў трактар...

Павесіўшы конаўку на дрот — конаўка бразнула аб вядро,— Андрэй пастаяў яшчэ ля ложка ля дачкі, тады вярнуўся ў парог, злавіў рукой клямку і асцярожна адчыніў дзверы. Стаяў у сенцах, слухаў — магла прачнуцца дачка,— пасля ціха выйшаў на двор.

Месяц падняўся вышэй, пажаўцеў і яшчэ больш, здалося, сцёрся знізу. Трактар хлебястаў ля самага маста, павярнуўшы на аселіцу,— паехаў у вёску. Відаць, Рускі павёз Юбіцкага з праўлення. На аселіцы доўга скакалі два сляпыя агні ад фар — уніз-уверх, пакуль не патухлі: трактар схаваўся за хаты. Ад яго цяпер стагнала ўся вёска.

Андрэй выйшаў на вуліцу і стаяў, пакуль аж на тым канцы вёскі не заглух трактар. Было чуваць, як там пасля гаварылі мужчыны.

Бразнулі ў хаце ў Ганькі дзверы. Вярнулася і яна з праўлення — ехала недзе з Рускім на валакушах. Андрэй прыхінуўся да вушака ля варот — не хацеў, каб яго хто згледзеў. Сціхлі ў вёсцы мужчыны, загарэўся і патух у вокнах у Ганькі агонь — Ганька адразу лягла спаць. У вёсцы стала ціха, было чуваць, як ззаду ў хлеве карова жве жваку.

«Пайду да Юбіцкага...— крануўся ён ісці.— Хоць яму ўсё выскажу...»

Ён адышоўся аж да Ганьчыных варот, тады падумаў: а што ён выскажа? Што кіне ўсё і паедзе пад Полацк? Дык яны гэта ўсе ведаюць. Ці ў Юбіцкага, ці ў Гладкага — пайдзі, дык цяпер будзе адно: бутэлька. Яшчэ суцяшаць пачнуць. А ніць яму не хацелася, не хацелася, каб і хто суцяшаў,— проста карцела пагаварыць.

Вярнуўшыся да сваёй лаўкі, ён абапёрся на плот і глядзеў пад раку, дзе па лагу тупалі і храплі коні.

Недзе на Доўгіх пад самым месяцам чыркалі, што ўсё адно шасталі трысцём, дзікія качкі. Закрычала сава ці, можа, заяц, якраз на пасецы, дзе ён з Балютай раскідаў снапы. Ён падняў галаву і слухаў — крыку больш не было. За Луськім, на Вострава, занялася белая зара; шырокая, ляжала ля самай зямлі — ад электрычнага агню. Там недзе бегалі па небе белыя палосы — з-пад Камена на Вострава хадзілі, мусіць, машыны. Ззаду, як усё роўна за плячыма, азваліся раптам ваўкі — завылі разы два, брэшучы: маладыя.

«На Белай дарозе...» — падумаў ён і, адхінуўшыся ад плота, пачаў глядзець за ферму на лес. Успомніў раптам Унука: перагнуўся ў расчыненае акно і выціраецца хустачкай...

Ён пастаяў яшчэ ля плота — ваўкі больш не адзываліся, вярнуўся да варот, зачыніў, узяўшы іх на зашчапку, і, перайшоўшы па пяску вуліцу, пералез цераз спрагу ў гарод і пайшоў баразной да фермы. Чуў, як па нагах шастае сухі бульбоўнік і на боты абсыпаецца зверху з гранкі пясок, і яму здавалася, што ён ідзе зімой па снезе — па сцежцы...

Сцежку занясло, не знаць ужо, дзе ішла на ферму Верка. Верка каторы ўжо год пасля вайны глядзіць на ферме скаціну. Пайшла сёння па палудні і не вярнулася яшчэ — прымае ацёл. Было ўжо цёмна, у вёсцы ўсюды гарэлі агні. Замураваныя ад марозу верхнія шыбы ў вокнах пачалі адтаваць, і праз іх было відаць як мяце па двары снег — дзярэ са страхі. Андрэй запаліў вялікі калгасны ліхтар — выдалі Верцы з кладовай, пачысціў паперай шкло — ад ліхтара было відна ў хаце, як ад лямпы, прыкруціў агонь — меншы не так патушыць вецер — і пайшоў на ферму, пералезшы цераз спрагу.

На ферму яны кожны раз з Веркай хадзілі цераз свой гарод. Летам вытоптвалі баразну проці спрагі ў бульбе — у разоры, зімой ішлі напрамую па снезе — рабілі сцежку.

Прынёсшы Верцы ліхтар, ён сядзеў з ёй на ферме, бы-

вала, усю ноч, пакуль не ацеліцца карова. У маразы Верка наказвала бабамі яшчэ з ліхтаром браць пасцілку. У пасцілку яна завязвала цяля і паддавала яму, Андрэю, на плечы. Сама ішла наперад з ліхтаром — свяціла яму, а ён асцярожна ступаў па гурбах у сваім гародзе, каб не паляцець з ног. Ішоў і бачыў, як змярзаюцца, лубянеючы, полы ў кажусе ў Веркі,— змачыла іх, круцячыся ля каровы — і бялеюць ад інею і наліплага снегу. Дома цяля клалі ў запечку на падлогу, падсцілалі сена — ён прыносіў з хлева. Цяля не хацела ляжаць, брыкалася і білася аб падлогу, і яны сядзелі ля яго ўсю ноч, прыкруціўшы ліхтар: не клалася Верка, і ён не мог заснуць. Калі ён выходзіў на двор і з дзвярэй з-пад ног белымі, што вата, клубкамі каціўся па падлозе ў запечак мароз, Верка крычала на яго, што ён здурнеў, астудзіць хату, што не трэба было тады і нясці малое на плячах з фермы...

Помніць, адну зіму — гэта было перад самай Верчынай хваробай — яны не спалі ноччу цэлы месяц: узяліся маразы, а каровы цяліліся адна за адной...

Шастаў аб ногі бульбоўнік, а Андрэю ўсё здавалася, што ён нясе ў руках ліхтар і чапляецца за сухія дудкі...

Сцежка вяла гародам якраз на ферму да студні. Ён пералез цераз плот проці зруба і доўга стаяў, не адыходзячыся: глядзеў за кароўнік на Белую дарогу. Ваўкоў не было чуваць. Ён тады абапёрся на верхнюю жэрдку ў плоце і глядзеў з фермы на свой гарод. У канцы яго пад месяцам была добра відаць шэрая хата, хлеў і чорны высокі асвер — тырчаў з двара, задзёршыся высака ў небе, вышэй месяца...

Ён падумаў: калі прадасць карову — яшчэ нічога. Менш за ўсё па ёй галава будзе балець. Вось калі завязе дачку — то ўжо няма дому. Пуста ў хаце — і няма дому. Успомнілася, што ён ужо не першы раз кідае вёску. Кідаў і ўсё варочаўся. Першы раз — адразу пасля вайны. Вярнуўшыся з партызан, паехаў у горад: дома галадалі. У горадзе рабіў з паўгода, палучаў грошы. Верка прыязджала да яго па хлеб, а то і пехатой прыходзіла з бабамі з вёскі: бабы — хатулі на плечы, па другія суткі і ў горадзе. Дзе заробіш на дарогу? Каб і прыйшлося, дык усё адно гэтымі рукамі і плячамі... Ён бы і астаўся ў горадзе — работа была нядрэнная — не захацела Верка, дамоў цягнула. Прывычка. У бабы яна большая... Паехала б тады, можа б, усё па-другому было?

Вярнуўшыся дамоў, ён не пайшоў ужо ў калгас: жыў

жа дагэтуль на грашах. У леспрамгас лёгка было ўстроіцца: на ўчастак шукалі людзей, і не трэба было прасіцца ў калгасе, каб адпусцілі.

Гэтулькі гадоў прайшло... Ні Веркі, ні ўчастка. Былі — і няма. Як абманіў хто ўсё роўна. І з зямлі звёў... Чалавек прывыкае да ўсяго. Прывык і ён ужо да ўчастка.

Ён падумаў, што тады яго не пусціла з вёскі Верка, цяпер ужо, відаць, з'едзе наўсягды...

З фермы ён пайшоў круга гарода, ля Бацяновых соснаў па дзядзінцы. Ад дарогі зусім не парасла бульба — бульбоўнік нават не закрыў гранак летам, а на белай паласе на пяску, дзе быў некалі дзот, зусім прапала. Белая паласа добра была знаць ад месяца, як удзень; на ёй густа бліскалі халодныя іскры, што воўчыя вочы ў цямне,— свяціла бітае шкло, якое гадамі вывозілі з гноем з двара на гарод — кожную вясну. Некалі на тым месцы, дзе цяпер белая паласа, добра расла паспешка — яны сеялі яе на адным месцы. Верка падкопвала паспешку раней усіх у вёсцы — яшчэ не пачыналі жаць,— прыносіла ў прыпале з гарода, каб надта ніхто не бачыў, і высыпала ў сенцах на падлогу — вялікую, па курыным яйку. Доўга трасла пасля яе ў кошыку на дрывотні ля студні, паліваючы зверху вадой з вядра,— бульба адразу рабілася белая, і яе не трэба было скабліць: кладзі ў гаршчок і налівай адразу вады, каб не парудзела. Пасля Верка сыпала ў гаршчок лыжку солі і клала кроп. Паспешка з-за вуліцы з першага разу трэскалася ў гаршку — пачынала разварвацца і, высыпаная на стол, на чысты надзежнік, пахла кропам на ўсю хату... У другія разы так ужо яна не пахла...

Ён зноў стаў проці варот на вуліцы і глядзеў цераз спрагу ў гарод — слухаў. На Белай дарозе было ціха. Калі ён доўга слухаў, пачынала шумець увушшу. Тады яму здавалася, што вясной у паводкі бяжыць з гарода вада. Гарод быў вышэй вуліцы, і вада, сабраўшыся ў ім, сцякала у ніжэйшае месца да спрагі і праз жэрдкі ў пл[illegible] вырывалася на вуліцу. Цякла і шумела, размываючы над сабой снег і дастаючы да самай зямлі. Мяжа пад вадой адразу рабілася голая — на ёй было відаць шэрае каменне, прыгнанае з гарода, і зялёная дробная трава. Праз некалькі дзён вада размывала мяжу пад спрагой да гліны: раставаў у гародзе снег, чарнела абмытая зямля, толькі доўгай шэрай паласой ляжаў у баразне лёд — там, дзе хадзілі зімой на ферму. На ім была знаць жоўтая ўмерзлая салома. Лёд

на сцежцы ў гародзе ляжаў доўга; ужо нідзе не было снегу, а ён блішчаў здалёку і пеніўся, як малако.

Шумела ў вушах, і Андрэю зноў здалося, што бяжыць з гарода на вуліцу ў спрагу вада, ён чуе, як яна шваргоча, аж з двара з дрывотні.

Надвячорак. На дрывотні над трасочнікам таўкуць мак камары — будзе цёпла; дома паліцца ў печы; адчынены дзверы, і ў сенцах, і ў хаце, і чуваць, як Верка мые ў пагрозе падлогу — шаруе гальнікам. З коміна валіцца ў гародчык пад хлеў дым, сцелецца па зямлі... Пазнаеш, як у печы зверху ў гаршку прыгарае бульба...

Яму здалося, што азваліся ваўкі прама на кароўнік — у Курачовых Цянях. Ён глядзеў туды — якраз на Бацяновы сосны. Ціхія, з пустым гняздом угары, яны пад месяцам здаваліся белыя і халодныя, што зімой ад інею.

Зноў зашаптала на Доўгіх дзікая качка. Месяц паменшаў, стаяў ужо высака над ракой, жоўты, як спелы,— адзін над усім светам.

Андрэю здалося, што ў вёсцы, недзе ля маста на аселіцы, загаварылі. Ён пастаяў і пайшоў сцежкай ля плота ў вёску. Дайшоўшы да Балюцінай ямы — гарода, падумаў: не ведае, куды ідзе — мусіць, толькі каб не быць дома. Успомніў, што якраз такой месячнай ноччу насіў з Веркай дровы ў лазню да Балюты — перад самай блакадай. Як усё роўна ўчора...

Тады была ўжо восень, пачаўся мароз. Скора і цяпер прыйдзе восень.

Ён падышоў да плота і глядзеў у гарод да ракі, дзе некалі стаяла Рукалеева лазня. Лазні цяпер не было. Круглякі з-пад Курачовых Цянёў згнілі без страхі за гэтулькі гадоў, і Балюта павазіла іх на дровы.

Балюта даўна ўжо недзе спіць. Больш пра яе нічога не думаў — не ішло ў галаву. Падумаў пасля: у вёсцы, як што каму пільна трэба, людзі ідуць адзін да аднаго і стукаюць у вокны. Не глядзяць — ночы-апоўначы...

Зноў загаварылі недзе блізка на аселіцы, як усё роўна ішлі сюды, у гэты канец вёскі, і ён стаў чакаць. Галасы бліжэлі, але мужчыны — іх было двое, ён не пазнаў хто — пайшлі ў той канец, гаворачы. Мусіць, нехта з леспрамгаса: гаварылі пра бальніцу — пра Рамана.

Ён перайшоў вуліцу і стаў ля Балюціных варот. Падумаў, што пад нагамі многа пяску і цяжка ступаць, аж млеюць калені. У акне ў Балюты згледзеў месяц — жоўтую, вузкую, выцягнутую ўдоўж паласу.

14 Зак. 2[illegible]2

Ад месяца блішчала ўсё акно, як лёд.

Ён ціха адпчапіў на двор вароты і зачыніў адразу за сабой.

Калі ішоў ля паркана па двары, бачыў, як у акне скача вузкая жоўтая паласа і бяжыць убок, як уцякае з дарогі. Вялікі Балюцін двор з пустой цёмнай дрывотняй быў ціхі і халодны. На «дзядах» ля паркана высака на лісці стаяла раса — мачыла рукі.

Ён падышоў да ганка і, ступіўшы на высокі, круглы, як ад жарон, камень ля парога, падрагаў за дзверы. І клямка была халодная і мокрая ад расы. Пачуў, як халодна зрабілася за плячыма — пабеглі мурашкі.

Усюды было ціха. У канцы двара ў студні капала на дно вада.

Балюта не адзывалася, і ён стаяў пад дзвярыма. Тады сашмыкнуўся з каменя і, каб не ўпасці, хапіўся рукой за клямку. Зноў драгнулі дзверы. У акне ад двара ў другой палавіне хаты адразу адсунулася белая фіранка, і Балюта прынікла да самай шыбіны. На яе свяціў якраз месяц, і яна добра была відаць: жоўты твар і зачэсаныя назад чорныя валасы.

Пасля яна выбегла ў першую палавіну хаты — ён чуў, як яна шлэпала па падлозе босымі нагамі, падышла да дзвярэй і шмарганула засаўку. Адхінула дзверы аж да сцяны — дзверы адчыняліся ў хату — і стала на парозе, сагнуўшы ў локцях рукі; босая, у той жа ў клетачку паркалёвай сукенцы, у якой была, калі вазілі снапы.

— Што ў цябе там, кажы? Бяда? З дачкой што? Напужаў, стукаючы...— яна памалу апускала ўніз рукі.

— Пусціш — скажу...

— Ідзі... Бо-о...— яна ступіла з парога ў бок да дзвярэй.— Мог даўна прыйсці, калі што трэба...

— Ды вот такая бяда... Маніць не буду. Нажыў на сваю галаву. Раніца скора. А раніцай я паеду...

— Раніца? — яна здзівілася і стала глядзець на двор на вярбу ў яме, над якой свяціў месяц.— Сплю як пшаніцу прадаўшы. Дык што ты рашыў?

Ён падумаў, што яна ўсё роўна як ведае ўсё, хоць ніколі ёй нічога не гаварыў.

— Ды само рашылася,— сказаў ён, падымаючыся з каменя на парог. Яна стаяла збоку ля дзвярэй, чакала.— Пад Полацк паеду. На новы ўчастак. З аўтакалоны ёсць машына. Сяду і — там...

Яна зачыніла за ім ззаду дзверы на клямку і адышла-

ся да стала, як усё роўна давала праход у другую палавіну. Агню не бралася паліць, можа, таму, што ў хаце ад месяца было відна, як удзень.

Ён стаў, і яна забегла яму наперад — шлёпала босымі нагамі па падлозе:

— Не стой... Ідзі ў другую хату. Што глядзіш пад ногі? Чысціня тут така-ая...— яна махнула рукой.— Ідзі. Што ж гэта я агонь не палю...

Ён усё стаяў, і яна, пераступіўшы цераз парог, пайшла ў другую палавіну. Ён чакаў, пакуль яна ўключыць агонь. Калі загарэлася лямпачка, асвяціўшы белыя сцены, яму стала цішэй на душы. Ён перайшоў у другую палавіну і стаў у парозе ля грубкі. Убачыў вялікі стол, засланы белым абрусам, на стале доўгі прыёмнік — прыязджаў з арміі ў водпуск Балюцін сын — купіў; крэслы ля стала і дзве доўгія лавы ля сцен: ад двара і ад гарода.

Андрэй падумаў, што лавы ў хаце толькі замінаюць. Каго яна на іх садзіць?

— Дык ты ўжо, суседка... Плата адна...— сказаў ён, не адыходзячыся ад парога.— Жывучы, неяк разбяромся. Волька зноў астаецца... Пакуль зраблю дакументы. Прыйшоў пагаварыць. Не бойся, што позна. Часта як падпячэ, дык ноччу цяжэй, чымся ўдзень. Удзень усюды людзі. А ноччу адзін...

— Ты нейкі не такі сягоння. Хадзіў дзе, ці што? — яна стаяла ля стала, як не ведала, куды адысціся.— Ідзі сядзь, чалавек. Ля стала, на крэсла...

— Ды не... Пастаю. Чаго ўжо ты так шчырыш...— ён памаўчаў.— Дачка з тыдзень які пабудзе дома... Ды і ўсё дома астаецца: карова... Сама ведаеш. Дачка з усім не справіцца. Ты ж знаеш, як было, калі я ляжаў. Цяжка гаварыць, за тое яшчэ нічога табе на стол не паклаў, але стану рабіць...— ён зноў памаўчаў.— Ды і хата ж... Аб'яўлю купцам... Мяне не будзе, скажу, каб да цябе людзі пасылалі.

— Ды ідзі ты сядзь, стаіш, як на пікеце ўсё роўна...— яна падышла і ўзяла яго за руку. Тады ён сам пайшоў, гледзячы пад ногі, да лавы ад двара і сеў з самага краю — пачуў, як з другога канца лава падымалася ўгару: пераважваў. Балюта тады прынясла ад стала крэсла і паставіла ля яго збоку, але ён не перасеў — пасунуўся толькі далей на лаве.

— Ну, вот... і ўсё,— сказаў ён.— Пайду.

— Пасядзі, чалавек...— яна глядзела яму якраз у во-

чы, і ён падумаў, што яны ад агню ў яе чорныя, не такія, як удзень. І сама яна дома не такая, як на людзях ці на рабоце. Меншая, можа, што босая, паўнейшая ў плячах і гаворыць мякчэй, як усё роўна са сваім.— Пасядзі ўжо...— яна адышлася ў парог да грубкі, па тое месца, дзе ён перш стаяў.— Гэтак рэдка ходзіш. Пры Верцы дык хадзіў, а з бальніцы прыйшоўшы, дык ты ж ні разу ў мяне ў хаце і не быў. На вуліцы дзе слова скажаш, як усё роўна для прыліку. Я часта думаю, што, можа, я што не так зрабіла, калі на мяне стаў глядзець другімі вачыма... За гэты час гэтулькі ўсяго было, што не спомніш. А я так думаю ўсягды: добра, што жывы вярнуўся, а...

— Ды што ты, суседка, такое гаворыш... Я пайду...— перабіў ён яе.— Мне цяпер... Сама ведаеш. Куды я хаджу...

— Ведаю. Уся вёска гаворыць, што жалобу зацягнуў. А жыць жа трэба. Мне ты можаш не гаварыць. Не намнога я за цябе маладзей. Пажыла, пабачыла. Параўла, прызнаюся, але нос ніколі не вешала на людзях, нават бабай будучы...

Андрэй нічога не сказаў, і яна маўчала. Пачакаўшы, ён глянуў на яе — яна стаяла ля грубкі ў парозе, склаўшы рукі на грудзях, не адыходзілася: не пускаць сабралася, ці што? — тады зірнуў на хату. Чыста вышараваная падлога была жоўтая ад агню і роўная — рукой вадзі: ні сучка, ні шчылінкі на стыках.

«Старая хата, і старыя дошкі ў падлозе,— падумаў ён.— Са старой сасны, добра высушаныя і пакладзены як сабе. Жыта толькі сыпаць на такую падлогу...»

Хата была вялікая і парожняя, хоць бяры спраўляй вечарынку. Ён падумаў: забыўся, што ў Балюты такая вялікая хата, не помніў добра ўжо, калі нават і быў тут... І сцены ў хаце былі гладкія, што ўсё адно атынкаваныя лучынай, а не памазаны глеем — добра пачасалі некалі бярвенне. Бяліліся яны нядаўна, можа, сёлета вясной.

«Яшчэ недзе бярэцца глінка»,— падумаў ён і адхінуўся на лаве ад сцяны, азірнуўшыся. Збоку на сцяне зглездзеў картачкі, устаўленыя ў шэры кардон. Андрэй пасунуўся на лаве і нагнуўся да сцяны. «Сынавы»,— пазнаў ён. На картачках і сядзеў, і стаяў Балюцін сын — Саша. У шынялі; у гімнасцёрцы з пілоткай, а то і без пілоткі, з прылізанымі кароткімі валасамі і доўгім носам; адзін і пасярод двух, падобных на яго, салдат — пазнаеш толькі па носе; са шлеямі на грудзях і з вялікім, набухлым ззаду

за ім белым парашутам: на зямлі ўжо, хапаецца рукамі за парашут; у самым нізе стаіць адзін блізка ля вялікага брухатага самалёта, а ўбаку — салдаты, выраўненыя ў шнурок. Андрэй нагнуўся бліжэй і зачапіўся рукой за нешта цяжкае на лаве. Падумаў, што можа скінуць гаршчок з вазонам, але гаршчок з бальзамінкай быў далей, ля стала,— збоку пад рукой стаяў вылеплены з гліны «чалавек» — па грудзі. «Чалавек» быў невялікі, на пядзю ад лавы, з шырокім лобам, доўгім, як у Балюцінага сына, носам, з кучаравымі валасамі аж на шыю, пафарбаваны нечым сівым і бліскучым — як усё адно новы алюмініевы гаршчэчак. Андрэй ухапіўся за яго ў дзве рукі, каб не скінуць, божа барані, на падлогу. «Чалавека» ён не пазнаваў. Можа, які ваенны? Нагнуўшыся — з лавы яго баяўся падняць — ён прачытаў: «Пушкин Мами от Саши».

— Сам зрабіў, пісаў у пісьме, а цяпер, як быў,— прывёз. Вясной прыязджаў, ты якраз ляжаў у бальніцы. Занятак знайшоў. Вучыцца не хацеў, дык гаршкі, во, ляпіць будзе, як з арміі вернецца...

Андрэй нічога не сказаў, адсунуў толькі далей ад сябе на лаве «чалавека». Балюта адышлася ад парога і села за грубкай на ложак, склаўшы на грудзях рукі. Нікеляваны ложак спераду быў зацягнуты вышыванай — чырвонае па белым — занавескай. Андрэй спадылба кінуў вокам на ложак. «Колькі гадоў жыве адна, без Рукалеева...» На ложак ён больш не глядзеў. Крануўся, каб пайсці... Толькі трэба было спачатку нешта сказаць, тады пайсці, але яны маўчалі цяпер абое. З акна ад вуліцы скочыў кот і пабег у парог — у першую палавіну. Там недзе адразу забразгалі міскі. Балюта сядзела, не крапулася нават, тады ўздыхнула на ўсю хату: «Э-ха-ха-а...» Відаць, пра нешта доўга думала.

— Ну, дык я пайду...— сказаў ён скоранька, як абрадаваўшыся, што яна загаварыла, і ўстаў з лавы...— Толькі...

І яна ўстала з ложка, зноў сагнула рукі ў локцях, як і перш, і чакала, што ён скажа яшчэ.

— Толькі, можа, напіцца дасі... Перасохла ў роце.

Яна забегла яму наперад, ідучы ў першую палавіну.

— А божа мой... І вады, відаць, няма ў вядры. Але ты нешта ад мяне хаваеш: не гаворыш. Мне ты можаш усё сказаць.

Ён зноў ёй нічога не сказаў. Стаяў у першай палавіне ў цемнаце. Пад ногі на падлогу падала святло, з двара ад месяца — слалася белай паласой якраз на стол, на край.

Усюды было шэра. Вядро з вадой стаяла на табурэтцы ля сцяны. Балюта, падышоўшы, бразнула перавяслам:

— Збегаю свежай прынясу...

Ён стаяў бліжэй да парога:

— Куды ты пойдзеш босая поначы. Давай схаджу сам, калі не баішся, што вядро ўпушчу.

Яна плюхнула з вядра ваду ў белы тазік, што стаяў ля табурэткі.

— Хоць раз за гэтыя гады мужчынскія рукі вядро вады ў хату прынясуць...— сказала і засмяялася.— Пачакай. У цемнаце клямку не знойдзеш. Дай я адчыню.

На дварэ было відна, як удзень. На Загуменні, на полі за фермай ляжаў туман, хаваючы з вачэй пуні. Прама на Лазу, над Курачовымі Цянямі, на небе стаялі рэдкія белыя воблакі — кучкамі; ля іх, якраз над дарогай на Загуменні, расцягнулася шырокая белая роўная паласа — сунулася на вёску.

«Захмурэе, мусіць,— падумаў Андрэй.— Перапаліла зямлю, як цэглу ў печы».

Студня была за варыўнёй, насярод доўгага паркана. Паркан, крывы ад старасці і абламаны зверху, цягнуўся ад самай вуліцы, упіраючыся ў студню, у чорны, абраслы ля зямлі травой зруб, і паварочваў да хаты Гладкага, пад вугал. Па ваду ў студню хадзілі і з другога боку паркана, ад Гладкага — знаць вытаптаная ў траве вузенькая сцежка. Андрэй падумаў, што з вядром да студні ходзіць недзе і сам Гладкі, і тады яны стаяць з Балютай нос у нос... Не такім парканам трэба адгароджвацца бабе ад Гладкага...

Лучыўшы канцом асвера на паркан, ён ніяк не мог выцяць са зруба вядра і, нагнуўшыся, дастаў яго рукой. Студня была цёмная і глыбокая, і ад яе пахла крыніцай. Несучы вядро, ён чуў, як плюхаецца вада яму на нагу,— поўнае, трэба было адліць на зямлю. Ужо ля ганка пачуў, як на Белай дарозе зноў азваліся ваўкі. Стаяў на круглым камені пад дзвярыма з вядром у руках і глядзеў на Загуменне ў туман, аж пакуль не адчыніла Балюта. Беручы вядро, яна ўзялася яму за руку, і ён падумаў, што рука ў яе крамяная і цёплая. Згледзеў, што яна справілася змяніць сукенку, была цяпер у зялёнай з гарошкам, у якой хадзіла ўсягды на ўчастак у магазін. Змяніўшы сукенку, змянілася і сама. Зачасала назад гладзей валасы — мусіць, ад гэтага патаўсцела на патыліцы каса; зрабілася зграбная ў стане, як дзеўчынёха. Здаецца, у яе пабольшалі вочы і пачарнелі. Ён убачыў яшчэ, што яна спра-

вілася засцяліць ложак, паклала падушкі адна на адну і накрыла іх нечым вышываным. Ён цяпер сам пайшоў у другую палавіну, забыўшыся нават, што хацелася піць. Аддаў толькі вядро ёй у рукі, каб паставіла. І яна не напомніла яму, не падала коnаўкі. Ён стаяў ля самага парога, блізка ля яе, глядзеў у вочы і чуў, як у ім самім нешта раптам перайначваецца. Зрабілася лягчэй стаяць на падлозе, і ён разагнуўся — выпрастаўся, можа, першы раз за ўсе гэтыя гады. Ад вядра цягнула яшчэ ўніз рука, і яму раптам здалося, што ён дома на двары ля студні... Вясной...

Бела ўсюды ад снегу. Снег пайшоў нанава, яго ўжо было сагнала ўвесь, хлюпала толькі пад нагамі на двары і на вуліцы гразь. Але вецер зайшоў з Курачовых Цянёў, насыпаліся спачатку ў гразь дробныя крупы, тады зямля пачала сохці і бялець, браўшыся зноў у груду, і пайшоў снег — вясну яшчэ не пускала. Снег быў белы, чысты, свежы, ад яго аж сіне рабілася ў вачах, і пахла халодным полем і мяккай вільгаццю з лесу. Снег, здавалася, нанава схаваў усё на зямлі: сляды ад людзей, саней і жывёлы, і гразь, па якой гэтулькі прыйшлося хадзіць за сваё жыццё... Усюды было чыста. Ён, Андрэй, падняў дома, на двары ля студні, з зямлі вядро — хадзіў па ваду. На снезе знаць ад іх чорныя кругі — вёдры праціснулі снег да зямлі. Большыя з меншымі — вёдры няроўныя — кругі чапляліся адзін за адзін, як усё роўна ля студні гулялі дзеці, паставіўшы іх на снезе...

...Балюта была блізка ля яго ў парозе, ён глядзеў ёй у вочы і чуў, што яму робіцца цяжка дыхаць.

Калі яна, ступіўшы, прыхінулася яму да грудзей, адразу, як стаяла, уся, лёгкая і нейкая добрая, што свая, ён злавіў яе, як усё роўна дзе на ляту, каб яна не ўпала...

У вачах у яго пайшлі кругі ад вёдзер. Чорныя на белым снезе...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Усюды быў туман: на гародах за платамі, ля маста, у аселіцы, на грэблі; густы, белы, ён лёг на самую зямлю, і за ракой на Выганчыку нічога не было відаць. Туман сінеў і ў другім канцы вёскі на вуліцы. За Выганчыкам, нізка над Луськім, вісеў месяц, вялікі, жоўты, у смузе — здавалася, што ён на зямлі.

Над участкам выплыла з-за лесу зялёная зара.

У тым баку быў Полацк і Андрэю здавалася, што ён ідзе недзе туды, пакінуўшы ззаду ўсё на свеце...

Па выбітай сцежцы на вуліцы ля плота лёгка было ступаць. Стаптаная падсохлая трава пад нагамі падымалася ўгару — расла ноччу, мокрая ад расы. Раса ляжала зверху на пяску на вуліцы цёмнымі плямамі; наліпла на плоце на жэрдках дробнымі густымі кропелькамі, што мак. Возьмешся за жэрдку рукой — капае з пальцаў.

Зябка рабілася за плячыма, было чуваць, як холадна ў рукі. Зноў паказвала на пагоду. Воблакі не пайшлі на вёску з Загумення — сплылі на Курачовы Цяні. Белая паласа стаяла ўжо над самым лесам.

Недзе ў тым канцы вёскі загаляшыў певень; скрыпнулі блізка вароты; у Луськім, у тумане, загудзела і сціхла машына; за ракой над Вешкамі азвалася дзікая качка, зачыркала густа і ядрана — краталася, прачынаючыся додніцай, зямля...

Андрэй пастаяў яшчэ ля сваіх варот, гледзячы на Луськае.

«Сціраецца месяц,— падумаў ён.— Апошняя квадра...»

Дома ў хаце ён адразу падышоў да ложка да дачкі. Абапёрся рукамі на брыж у галовах. Дачка спала, спусціўшы з ложка руку. Ён доўга глядзеў на яе, тады заплюшчыў вочы... Забалела-забалела ўсярэдзіне...

Пасля ён падышоў і паправіў даччыну руку. У другой хаце, не распранаючыся, адразу паваліўся на ложак, чуў, як чыкалі на сцяне ад вуліцы ходзікі, і яму здавалася, што шэпча на вуха Балюта: «А чаму ты нічога не пытаешся?..»

Ад сцяны, дзе ўсягды спала Верка, запахла вільготнай глінкай...

Ён сціснуў галаву рукамі...

## 8

Ісці на ўчастак Андрэй сабраўся рана, пабудзіўшы дачку.

Ужо ля Бацяновых соснаў ён убачыў, што вёска ўся ў тумане; зверху сыпалася халодная імжа — чуваць было на руках. Над лесам у бурым дыме ад торфу бегла за раку ў Вешкі сонца, нізка, чапляючыся за сосны. У вёсцы нехта кляпаў касу і брахалі сабакі, пабуджаныя стукам.

Ён падумаў, што зусім не спаў. Калі павярнуўся дома на ложку на бок і паклаў пад шчаку рукі, каб заснуць,— у акне ад гарода якраз быў відаць месяц: блішчаў, лезучы ў вочы.

Андрэй так і праляжаў давідна, гледзячы на месяц — на самы ўжо беражок.

Туман быў і на ўчастку: вісеў ззаду за канторай над рудой кучай старога пілавіння, дзе перш была лесапілка, і за кузняй — за дарогай, дзе стаялі, павярнуўшыся дышлямі да канторы, аж чатыры парожнія прычэпы. Ён пастаяў, паглядзеў на іх.

«Пад Полацк пойдуць, на новы ўчастак. Там уся аўтакалона...» — заныла ў яго ўсярэдзіне.

У такую рань Унук ужо быў на ўчастку — сядзеў на двары ля канторы на лавачцы пад жоўтымі дробнымі юргінямі.

«Справіўся прыехаць... А можа, і зусім не ездзіў, начаваў у канторы»,— падумаў Андрэй.

Унук быў у адной рубашцы, расшпілены. Свежы, чырвоны з твару — памыўся нядаўна халоднай вадой — і вясёлы: паздароўкаўся яшчэ здалёку. Праз акно з канторы паказала галаву з расчэсанымі на рад валасамі Шура; пасля — бліскучыя металічныя зубы: павіталася і яна.

— Ну, што ў цябе, Вялічка, так рана? — сам спытаўся адразу Унук.— Садзіся,— і адсунуўся на лаўцы: у гародчыку за частаколам пабольшала юргінь.

— Паеду, начальнік, пад Полацк. Хоць сукі церабіць, хоць коней...— сказаў Андрэй, закашляўшыся.

— Коней, брат, і без нас з табой выцерабілі,— Унук засмяяўся і яшчэ далей адсунуўся на лаўцы.— Садзіся.

Андрэй стаяў, і Унук, сціхшы, зірнуў на яго сваімі калючымі вачыма — змераў знізу ўверх, як усё роўна першы раз бачыў, прыжмурыўся, нешта думаючы, тады зноў усміхнуўся — дыхнуў глыбака з грудзей:

— Дык мы ж, брат, дагаварыліся. Паедзеш. Думаеш, дарма цэлую гадзіну языкі часалі? Паедзеш. Толькі пасля аблавы. У нядзелю аблава, дзень які астаўся, пацярпіш. Паедзеш ў панядзелак. Разам паедзем. Паглядзім, пагаворым. Хто там яго знае? А буду я — уладзім.— Ён памаўчаў, адвярнуўся, паглядзеў у акно — Шуры не было відаць — і стаў гаварыць цішэй: — А гэты п'яніца,— кіўнуў ён галавой на кузню,— сарве мне ўсё. Думаеш, ён умее спаткаць людзей? Думаеш, ён у вёсцы з кім гаварыў? Думаеш, папрасіў каго ў загон ісці? Хоць ты сам — з хаты ў хату... Пабразгае малатком аб жалеза, а тады ідзе зубамі аб шклянку бразгаць. Начуў, што кузню забіраюць, дык... Што тут ніць? Усё скора забяруць. Сваё мы тут за гэтыя гады зрабілі. Бяда наша, што мы тут прыраслі,

як мужыкі да зямлі. Работа наша гэтага не любіць. Прырос — дык у калгасеаставайся. Любіш нашу работу — ідзі, брат, за ёй ззаду. У нас, у рабочых, гэтак. Што галаву апусціў? Падбярэцкага шкода?

— Яно, і яму трэба дом кідаць...— сказаў Андрэй.

— А я яго не шкадую. Яго я самога б дома пакінуў. Як воўк: галодны можа быць доўга, а п'е кожны дзень. Далей бы яму ад магазіна. Прападзе... Але ж і нам у кузні рукі трэба. Як жа я яго праганю? Ад прылаўка дык адганяў, як сабаку. І не яго аднаго. Ніхто ні слова... А тут жа чалавеку жыць трэба. Дзеці. Ён вун там, бразгае,— кіўнуў Упук зноў на кузню.— Хочаш, сюды клікну, а то сам зайдзіся. Хай паможа: і павабіць — ён гэта ўмее, і людзей расставіць. Застаўляй.— Упук гаварыў без аддухі, тады доўга маўчаў.

Андрэй пераступаў з нагі на нагу — таптаў на пяску сляды ад веласіпеда. Пасля Упук устаў і зноў паглядзеў у акно, чакаў адтуль нечага.

— Ваўкі яшчэ на маю галаву. Не да іх цяпер. Мяне, можа, і не будзе. Пeратурбацыя гэта — знаеш? Сядзіш толькі на званках і на паперах. Тое давай, тое не давай. Гэта перадай, гэта пакінь. Здурнееш, пакуль у новае дрэва ўрэжашся. І я, брат, як мужык. Прывыкаю... Ты, брат, глядзі і, калі мяне не будзе, камандуй. З людзьмі дагаварыліся, свіннямі каб не астацца. Хаця я буду. Я, брат, здохну, калі за лета ні аднаго ваўка не ўшчуну. Ты ведаеш, колькі я за сваю жызню іх аблажыў? У леспрамгасе я ўжо... Да вайны гэтулькі гадоў ды цяпер... І жыць я ім не даваў кожнае лета. Многа іхніх гнёздаў перататаў. Работа такая: валіш, бывала, з пня, а яны тут на зямлі ў яме качаюцца — маладыя такія, круглепькія, з мокрымі мордамі. Ваўчыца збегла — нарабілі гэтулькі стуку, а яны адны. Прывык я іх з лесу насіць малых. Двухстволку пасля купіў. Ты ведаеш, якія мы аблавы да вайны рабілі? Да вайны іх, ваўкоў, было-о... Сядзіш пад загонам, а яны на цябе, як сабакі дзе з двара: адзін за адным. Спраўляйся толькі... Пасля вайны, праўда, адышлі ваўкі, падала іхняя граніца. Да вайны было больш. Але больш ці менш — звер зверам. Не люблю я, брат, гэту поскудзь. Малы яшчэ, высадзіш з меха на хату, а ў яго ўжо вушы тарчаць, як у старога, рот разявіць, гатовы на любога... Звер, брат, зверам. Звера трэба апасацца. І дзяды нашы апасаліся. Не люблю я, брат, звяроў. А калі праўду казаць, то не надта далёка ад іх мы і цяпер жывём. Развя-

лося іх ужо шмат, плодзяцца... Ноччу як завыюць, надышоўшы,— здасцца, за вуглом. Шорах па спіне, каб ім костка ў горла... Жарабё яшчэ адно ўзялі. Чацвёртае. Тут, брат, хоць ты сам гэтых жарабят на дарогу ды гані пугай пад Полацк. А ваўкі скора з гнёздаў выйдуць, многія, як я слухаю раніцай і ноччу, выйшлі. Жарабяты адны, без коней,— канцы. Тут ці мы іх, ці яны — жарабят...

За кузняй загудзелі машыны: адна, пасля другая. Над дарогай падняўся дым; над ім бегалі шафёры. У акно з канторы высунулася Шура з чорнай тэлефоннай трубкай у руцэ — выцягнула руку, як усё роўна надавала трубку на двор — Унуку.

— Тут не надта пастраляеш...— Унук, як стаяў, дык і пайшоў адразу ў кантору, топчучы вялікімі ботамі сляды ад веласіпедаў на пяску, як і Андрэй. На ганку крутнуў галавой на хаду: — Ну, глядзі. Паедзем у панядзелак. Раніцай... Пачакай яшчэ...

Андрэй пачуў, як Унук крыкнуў у калідоры: «Скажы, што іду...» Мусіць, Шуры, каб не падганяла.

Ад кузні адзін за адным пайшлі прычэпы. Андрэй бачыў, як яны заварочваліся на пасецы, падскокваючы на пнях, і бразгалі ланцугамі — выязджалі на дарогу. Ззаду за імі падымаўся пыл і поўз на ўчастак.

«Да паўдня будуць пад Полацкам»,— падумаў Андрэй.

У кузні Падбярэцкі быў адзін. Стаяў у дзвярах і глядзеў на дарогу. Падаў адразу руку і, адышоўшыся, сеў на кавадла, шырокае, белае і пляскатае, склаўшы рукі на грудзях; тады перайшоў на горан — на кавадле было холадна ў зад — усеўся блізка ля агню, звесіўшы далоў ногі і адваліўшыся да чорнай сцяны. Кірзавыя боты ў яго былі працёрты па баках ля костачак — адзін і другі,— і з дзірак вылазілі белыя крамныя анучы. Падбярэцкі махаў нагамі і свістаў на ўсю кузню.

— Што раблю? — спытаўся ён пасля, кінуўшы свістаць і гледзячы ў дзверы.— Апошнюю заклёпку стаўлю Унуку... Х-хе-хе...— Ён засмяяўся і паскроб лысую патыліцу — пастрэпаў ногцямі, як па сцяне.— Ланцугі варыў на прычэпы. Нормы гоняць — рвуць як вяроўкі... Ланцужкі кляплю... Заклёпачкі стаўлю... Цьфу, т-тваю маць...— ён вылаяўся і плюнуў, павярнуўшы галаву, у агонь, на чырвонае вуголле.— У нас ужо работы няма. Ні калёс, ні атос, ні падкоў. У самом-то дзеле... Усё мяняецца... У машынах жа я не разбіраюся — тупы. Што я, у матор палезу? Я ж не механік. Заклёпачкі буду ставіць, пакуль не

звязуць к чортавай матары маю гэту спіжарэньку... Ржа толькі на зямлі астанецца, там, дзе цяпер стаіць маё кавадла...

Андрэй згледзеў, што ля шырокай чорнай дубовай калодкі з кавадлам, абгарэлай зверху, насыпалася жоўтай іржы, высака, горкай, як мурашнік ля пня.

— Што, едзеш? — спытаўся пасля Падбярэцкі і зноў паскроб патыліцу.

— А ты адкуль знаеш? — Андрэй падышоў бліжэй, прыпёрся да кавадла.

— Зямля дыша. А цяпер яшчэ ўчора цябе абджыпджырылі па вуглы... Хаця ты нічога не згубіў. Месяц адпусціш на бульбу — больш купіш, чым у тым гародзе вырасце.

— За месяц не купіш...— сказаў Андрэй.

— Ну, не за месяц... Ну... сам ты ведаеш, галава па карку. Значыць, едзеш. А я — дык чорт яго ведае. Паеду — бульбы гэтай на гародзе не згублю, баба ў калгас ходзіць. Не адчэпяць... Толькі яна мяне не пускае ад дому. Далёка. Ды і кідаць усё і бадзяцца па чужых хатах... Валяцца пад старасць на казённых раскладушках... Я ўжо, відаць, не вырвуся. І ў самога імпэту таго няма. Заработкі толькі дома, калі астацца, будуць меншыя. Вот жа ўстроен чалавек: крые гэтыя заработкі матам, а без іх не можа. Пакажы — бяжыць! І нашто яно ўсё гэта трэба? Жыць жа можна і дома. Людзі жывуць. Дык не-е... Бяжыш, во, за свет. Пад Полацк, за Полацк, кату пад хвост. За які лішні рубель. А я табе скажу, што ўжо скора і бегаць не будзе куды. Ну, пад Полацк яшчэ можна, не так далёка, а тады... Хаця ўсе мы ўстроены так: надта далёка ад сваіх вуглоў не адыдземся. Я, вот, прыкідваю сабе: гады два-тры яшчэ, пакуль лес блізка, пайсці паразаць. Ну, ці і ў кузні гэтай самай пастукаць. У запас. А там — далей ужо не паеду. А пад Полацк можна. Новы ўчастак, заработкі будуць. Помніш, як у нас пачыналі? Уручную яшчэ, з лучком. Я ў месяц па старыя па пяць тысяч, а то яшчэ з гакам, выганяў. Прагрэсіўка, прэмія-надбаўка... Пасля ўжо знімалі, нормы павялічвалі. Ты — дык колькі там быў у лесе: рука. Да коней пайшоў. А я са сваіх рук тады — і хату і ў хаце... І прыёмнікі, і веласіпеды. А ўжо ж і ў магазіне Федзю пакідаў... Даваў орсу ўтаргаваць. Пасля ўжо электрапілы пайшлі, прэмію-надбаўку далоў, лучок у хлам — ідзі, ківайся з тапаром, сукі церабі. Пайшоў у кузню. Менш, затое... Ды я ўжо і ахвоту збіў тады... А цяпер,

калі ў новай дзялянцы стаць па крыжоўку... Рукі яшчэ ў мяне свярбяць...

Падбярэцкі саскочыў з горана — ззаду за ім на зямлю пасыпаўся попел — і пачаў хадзіць па кузні, тручы даланёй аб далапю, як усё роўна грэўся, змёрзшы:

— Відаць, рызыкну. Ты добра робіш, што едзеш.

— У панядзелак і паеду. З Унукам.

— Раней лепш. Пакуль там яшчэ суматоха: гэтага пяма, гэты не паехаў, пайшоў назад у калгас — месца добрае знойдзеш. Табе з рукой... А што Унук? Зробіць? У яго хірым. Мудрэй Вулі зараза.— Падбярэцкі ўсё хадзіў па кузні.— А і ў самога ў яго — тое, што ў нас. Ты з ім не гаварыў? Я гаварыў. Думаеш, хочацца ехаць пад той Полацк? Зробяць там яго яшчэ начальнікам ці не — хрэн яго знае. А тут было. І сытна і аплавітна... Хату такую — на ўсё Вострава адну — падняў. Ашаляваў, пафарбаваў. Гэ-гэ... Участак блізка, свой конь, летам брычка, зімой вазок... Кожную раніцу і вечар пратрасціся, яно няблага, па камені. Памагае пасля абжорства... А не хочаш поначы дамоў — дождж там ці мароз вялікі — начуй па ўчастку. Шура пад бокам. Х-хе-хе... Гм... Забярэ яе з сабой пад Полацк ці не? У самом-то дзеле... Дурная баба, пры грашах, магла б, гэтулькі гадоў жывучы тут, сярод адных мужчын, хоць і крывая, замуж выйсці. Хоць за такога крывога, як і сама. І нашага брата вайна таксама пакрывіла многа. Дык не... Прывыкла, відаць, да гэтага здаравілы, ды і ён прывык. А што — дачок ён павыдаваў, а Шура за жопку ўдвая маладзей. А ногі... Дык яны... ногі гэтыя...— Падбярэцкі зноў махнуў рукой — высака быў падняў, аж за вуха.— А-ат... Чалавек жывучы. Прыстроіцца яна яшчэ лепш за нас. Значыць, рашыўся?

— Рашыўся, а, вот, аднаму табе скажу,— нечага ўсё баюся. Як у блакаду: ідзеш — і думаеш, што пад нагамі міна. Як пераступлю ўсё гэта, тады ўжо плюну на ўсё...

— Ну-у-у, запе-еў... У самом-то дзеле... Мала мы па свеце ездзілі: і ты, і я?..— Падбярэцкі падышоў да горана і сыпнуў на агонь дробнага вугалля — зачэрпнуў прыгоршчамі, як бульбу з кучы. Пасля схадзіў на двор і прынёс два ланцугі, тоўстыя, белыя, вышараваныя аб пясок. Ланцугі цягнуліся па зямлі, грабучы ад парога жменю дробнага жытняга ржышча і стружку — падымалі пыл. У кузні запахла сухім дубам і дымам — угаралася вугалле.

Андрэй чакаў, пакуль Падбярэцкі падыдзе бліжэй:

— Ты паедзеш — вернешся дамоў. А я калі паеду —

на маім месцы будзе пуста. Хату похта забярэ, яшчэ не старая, купяць. У нашу вёску надта ніхто цяпер не пабяжыць, лепшыя наўкола. Гладкі адзін пасля вайны прыбіўся, дык тады было другое — ад стужы каб схавацца. Так што калі я паеду — на маім двары парасце лебяда. Вярнуцца мне ўжо не будзе куды.

— У самом-то дзеле... Ты, брат, прыкарэў, цяжка адарвацца. Яно, калі наўсягды едзеш, то чуеш, што прыкарэў. Баішся. Не ведаеш, што наперадзе будзе. Меншы ці большы страх. Я дык цяпер пра гэта не думаю, у мяне, можа, і другое, як ты гаворыш, а табе, вот, скажу. Баішся ехаць, бо ззаду ў цябе невялікі страх. Ззаду ў цябе ўсё цяпер ціха. Прайшло. Ну, жонка... Ну, была... Ну... Ні ты, ні я — ніхто таго не верне. Зямля, яна і цябе і мяне ў любы час прыме — нічога не зменіш. Так што я на тваім месцы даўна б ужо ўсё перахрысціў і перашарсціў. Ззаду ў цябе цяпер ціха. Калі ззаду страх — наперад тады не баішся. У мяне, брат, было не так. Ты, вот, успомніў пра бляскаду. У мяне было не так...— Падбярэцкі ўсё яшчэ трымаў у руках ланцугі. Тады паднёс іх і кінуў на зямлю ля кавадла. Ланцугі глуха бразнулі і ляжалі, расцягнуўшыся, як гадзюкі.— У мяне, брат, і ззаду быў страх, і наперадзе. Ніколі не забудуся. I я пайшоў, бо ззаду мяне гнаў большы страх, а наперадзе... Я тады ішоў і думаў, што наперадзе, можа, таго страху і не будзе...

— Пра што гэта?

— Х-хе... Ты-то не ведаеш. А каб і ведаў, то дагэтуль забыўся б. На чужое, яно, забываешся, сваё толькі помніш. Тваё плячо нікому не баліць... А ў мяне — дык і потым таго: ніякай і болькі не было, каб людзям паказаць. А я помню. Што рабілася ў душы — помню. Пайшоў я тады і выжыў. А каб не пайшоў — у зямлі б ужо згніў. Аж цяпер, здаецца, чую, як халоднае жалеза тарканулі пад лапатку. Немца ўжо забыўся, расплылося ўсё ў памяці за гэтыя гады, а халоднае жалеза помню. Нікому я не расказваў і ніхто дагэтуль не ведае ў нас у Вешках, што тады было. Відзелі толькі, як я з баронамі ўжо з лесу ехаў. Ніхто нават не спытаўся. Мала што: ад немцаў, можа, дзе хаваўся, з поля ўцёкшы...— Падбярэцкі сціх, стаяў, глядзеў праз дзверы на дарогу ля кузні і абіваў ад іржы руку аб руку. Тады пайшоў, прыткнуўся да горана. Ззаду ў яго трашчала на агні сухое чорнае, бліскучае ад растопленай смалы вуголле. Ён гаварыў, азіраючыся на агонь, як усё роўна агонь яго мітрэнжыў, не даючы гаварыць.— Я тады

паехаў баранаваць на шнур, пад маяк. Рана выехаў, з усходам сонца: стаяла гарачыня, як цяпер. Папар трэба было пацягаць пад мешань, недзе такой парой было, пад восень, можа, раней. Туман такі ж быў раніцай, торфам гарэлым пахла. Помню, як ад расы было холадна ў босыя ногі. Конь — тады ў мяне быў Смык, высокі, худы, гнедаваты — храпе ад пылу і ўсё назад, пад вёску, азіраецца, аж лейцамі трэба шлеіць. Сонца ўжо выскачыла высака над лесам, прыграваць стала, а ён усё азіраецца — хамут рэжа ці яшчэ што? Які там у чорта хамут. Жывёла, відаць, лепш за чалавека чуе і бяду, і жуду. Агляпуўся я, а ззаду немец з аўтаматам. Стаіць на шнуры, на пабаранаванай раллі, блізка, як праз хату. Каска на галаве гарыць ад сонца, аўтамат спераду на грудзях блішчыць, і яшчэ нешта палыскаецца збоку, доўгае і белае, як вышараваны аб зямлю нарог.

— Бістро... кабыла... тваю маць...— помню, закрычаў немец; махаў рукой, выцягнуўшы яе далёка наперад.

Я адразу акруціўся і пад'ехаў з бараной да немца. Немец паказаў, каб я зачапіў яшчэ адну барану збоку ля сваёй. Другая барана ляжала якраз на Піліпёнкавым шнуры на загоне, новая, яшчэ белая. Знаць было, як у сухой бярозе прапякалі дзіркі, каб пазаганяць зубы. У дзве бараны я ніколі не баранаваў: чорт яе ведае, дзе зачапіць. Немец паказаў: стаў нагой ззаду на барану на правы край. А чым яе зачаплю... Тады немец мне халодным жалезам пад лапатку. Я адразу ўспомніў, што ў мяне дзяга на паясніцы. Зрабіў пятлю, зачапіў за крук Піліпёнкаву барану. Немец паказаў мне ехаць пад вёску, да дарогі. На дарозе я ўвідзеў, што ў вёсцы поўна немцаў: на вуліцы, на платах, на дзядзінцы, аж у лагчыне за вёскай — стаяць і ляжаць. Я здагадаўся яшчэ тады, калі немец загадаў прывязаць другую барану, куды трэба збірацца ехаць. На дарозе я праседзеў да паўдня.

З вёскі немцы выйшлі ў паўдні. Да мяне зноў падышоў той, што прыгнаў з поля і паказаў ехаць пасярод дарогі — да лесу, тарkануўшы пад лапатку халоднае жалеза. Гэта было ўжо ў другую блакаду, ты ўжо быў у партызанах — ведаеш, што, адступаючы, партызаны мініравалі дарогі...

Не помню, як я ехаў. Помню толькі, што ззаду, блізка, як, вун, да дарогі, па баранаваным ішоў немец, адзін. Запомніў яшчэ, што ўсё скакала ўваччу: і барана, і конь, і немец. Астатніх немцаў я не бачыў: ззаду толькі блішчала зямля. З-пад бараны ішоў пыл, мяне біў кашаль і вары-

лася ўсё ўсярэдзіне. Іду, барана скрабе зямлю, чапляецца за карэнне ля лесу, трэба ж згінацца падымаць. Так я і праўшоў тады з бараной праз усю дарогу. Ля Ям, ля Сырніцы, праз Жукаўшчыну, дзе ўсю жызню ездзіў з плугам і вазіў гної на поле. Баранаваў немцам дарожку. А яны далёка ішлі за мной ззаду: па адным, па два баранаваным следам... Думаў — будуць гнаць мяне да Выгар, а там возьмуць каго другога... Ажно — ведаеш, куды я тады даехаў? Аж у Горна. Цераз раку, праз лес і аж да брукаванай дарогі. Адтуль пусцілі... Дванаццаць вёрст баранаваў дарогу па лесе. І каб дзе адна міна. Хоць бы на смех трэснула... Х-хе-хе... І смешна і грэшна. Іду за бараной, конь храпе, пылу наглытаўся з-пад ног, мокры ўвесь... У лесе ціха, як ноччу, аж у галаве стукае, калі ступаеш нагой на зямлю. І птушкі... Пішчаць на ўвесь лес дзяркатая і ядрана, аж мароз ідзе па скуры... Ніколі такога не чуў, колькі жыў. А барана як заскрабе зямлю — валасы дыбам. Назад ехаў, дык і птушак тых нідзе не было. Страх, ён і птушыным голасам можа скрыпець. І птушынага голасу станеш баяцца. Каб ім ні дна ні пакрышкі... Аж цяпер яшчэ сню — Смыка і барану. Як заскрабе — з пасцелі ўскокваю. І ўсё на хваробу сню. Як пабарануюдарогу — то ўжо з ложка хоць і не ўставай. Пасылай па доктара. Каб ім дагэтуль скуру баранавала. Цьфу!.. Многа часу прайшло, я табе скажу, але ж душа не суконка... Прачнешся, бывае, а яна і заные. І ўсё ноччу. Думаеш: а дарожку ж чысціў... А не паедзь я тады... Мне — зямля. Другога б знайшлі... Вёска вялікая...

Падбярэцкі адышоўся ад горана і зноў пачаў тупаць па кузні, лапаючы рукамі за кішэні: шукаў закурыць.

— Так што... у цябе страх толькі наперадзе. А ў мяне быў і ззаду... Ну-у... Задумаўся...

— Песня, брат, доўгая...— сказаў Андрэй, і Падбярэцкі адразу падняў галаву — відаць, не ведаў, пра каго сказана: ці Андрэй гаворыць пра сябе, ці, можа, пра яго, Падбярэцкага.

— Усякая бывае жызня, усякія бываюць і песні... Тут Упуку пелі, а паедзеш пад Полацк — новаму некаму трэба пець. Наша жызня, яна — у іхніх руках.

— Трэба было сваімі рукамі бараніцца. Пайшоў бы ў партызаны — не ездзілі б немцы конна...

— А-ат... Партызаны... Па гэтым жыць можна: быў ці не быў...— Падбярэцкі закурыў і, пускаючы дым цераз плячо, падышоў да горана, узяўся шырокай рукой з тоў-

стымі, як адсечанымі, кароткімі пальцамі за жоўтую вышмальцаваную палку ўгары над галавой і пацягнуў уніз. Зашыпеў мех, над горанам высака, аж пад столь, падняліся чырвоныя іскры, лёгкія, як пер'е. Паддзімаў Падбярэцкі нядоўга; кінуўшы, павярнуўся, узяў з зямлі ля кавадла лапцугі і паклаў іх на горан з самага краю.— Па гэтым жыць можна... Унук там ці які другі сук...— адвярнуўся ён зноў ад горана і загаварыў, адразу забыўшыся на партызан.— Дрэнна, брат, вот, што ў цябе дом пусты. Без бабы. З бабай было б табе прасцей, ты думаў пра гэта? Без бабы — яно не жыццё. Без бабы і на Унука глядзіш тады, як на ваўка. Без бабы і начальнік дрэнны. Сам ты сябе, па-моему, мэнчыш. Акруціцца трэба. Да старасці ты ж не думаеш адзін дажыць, па ўсім відаць...

Андрэй падняў галаву і паглядзеў на Падбярэцкага: што ён ведае? Пачуў, як горача робіцца ў шчокі.

— Яно, калі на тое пайшло...— Падбярэцкі хацеў нешта сказаць, але памаўчаў і махнуў рукой.— Хаты б я не прадаваў. Ну, колькі ты яшчэ выцерпіш без бабы?.. Х-хехе... Хаця калі пярэйдзеш да Балюты, то... Грошы за хату — Балюце, дачку — Балюце, ну, а сам... Ну, калі і па свеце паездзіш... Дык паехаў і вярнуўся. Ёсць куды.

Андрэй падумаў, што Падбярэцкі адразу сказаў пра Балюту, нібы яны пра яе гаварылі ўжо не раз, нібы Падбярэцкі ведае пра яго, Андрэя, больш, чымся ён сам. Андрэй пачуў, як горача робіцца ў вушы, зверху.

— А чаму да Балюты? — спытаўся ён і кашлянуў. Хацелася піць, і ён паглядзеў у вядро з вадой, што стаяла на зямлі ля кавадла.

— А дзе лепшую знойдзеш? У самом-то дзеле...— Падбярэцкі павярнуў галаву і прыплюшчыў падслепаватае вока, усміхнуўся.— Лепшай, брат, не знойдзеш. Што — Ганька? Ды кінь ты... Бутэлька на адзін раз. Я табе магу, брат, на пальцах пералічыць усіх баб у тваёй вёсцы і ў сваёй. Многа іх адных, але лепшай не знойдзеш. Ёсць яшчэ ў мяне адна ў Крывазнаках. Але гэта за Віліёй, далёка, ты не захочаш. Пажывеш на адным участку, на другім. Свет вялікі, апытаеш некага. Але лепшага нічога не знойдзеш, яшчэ раз скажу. Гэта каб адразу пасля вайны, так, у сорак пятым ці сорак шостым. Тады яшчэ яны былі ўсюды адны. І плугі самі на сабе цягалі, і ўсё на свеце. Тады ад іх і адбою не было, ад любых. Паяўляўся які свежы мужчына ў вёсцы — упаўнаважаны з раёна прыязджаў ці фінагент прыходзіў з партфелем, дык... Помніш, Ко-

рань такі быў, худы, аблавухі, плюгавы... І на фронт яго не ўзялі. Цяпер ён конюхам робіць на смалакурцы... Гэты ж не па адной вёсцы хадзіў. Плюгавы то плюгавы, а мог, відаць... Ат... Даўна ўжо ўсё гэта было. Дзеці ўжо ў тых баб павырасталі, жаніць пара...

Падбярэцкі выплюнуў надногі акурак, шмаргануў па зямлі ботам і выцер пальцамі пад носам:

— Тады, яно, брат, і выбраць можна было што. А цяпер... Семнастовак жа мацаць не будзеш у нашых гадах? У самом-то дзеле...

— Слухай, чаго ты прыстаў з Балютай? — спытаўся Андрэй і зноў закашляўся.— Балюта ды Балюта. Як бы на ёй адной свет у клін сышоўся. Ну... памагала баба ў бядзе... Любы памог бы... Куды ўжо тут пераходзіць. Скора нас — Аўрааму на піва...

— Х-хе-хе... Знаем. Не прыбядняйся са сваім півам. Ад людзей не схаваеш. Вазіў жа лён? Вазіў. Мог дзе і перакаціцца на спапах дагэтуль. На гэта многа часу не трэба. Калі ўжо ты носам круціш, то і я табе прама скажу. Не хочаш — знойдзем лепшую. У Крывазнаках, вун... А гэта... Падношаная, брат. Што ты, не ведаеш? Я і то ведаю, далёка ад вас жывучы. Перад вайной, калі ў яе не стала мужыка... Помніш, вёска ў тым канцы ноччу загарэлася? Казалі тады, што з пагранічнікамі на прызбе агню закінула з папяросы — курыла. І хлапец жа ў яе ад той пары вырас. Пасля з Рукалеевым сышлася. Ты думаеш, ён бы астаўся ў яе? Не-е... Кончылася б вайна, дамоў бы вярнуўся, а не да яе. Думаеш, у яго жонкі не было? Была-а... Ва ўсіх у іх жонкі былі, у гэтых пленных-загуменных, што па вёсках асядалі. А-ат...—Падбярэцкі нечага махнуў рукой.— Не глядзі ты на тое, што я яе хвалю. Дабро не вялікае. Я думаў, што ты, можа, і праўда збіраешся перайсці. А калі не, то... Баба-то яна хлёсткая, адбою ад мужчын у яе і пасля вайны не было. Але ж баба — бабай... Не ад усіх адбівалася. Плюгавых, як Корань, яна не падпускала... Бо сама тады была, брат, як мак. Цвіла. Каля блізку, дык нікога б такога і не знайшлося, каб... А-ат... Баба — бабай, я іх усіх гэтых ведаю. Можа, ты і добра робіш, што плюнуў на іх...

Падбярэцкі нагнуўся над горанам і пакратаў куртатай чорнай качарэжкай чырвонае вуголле на агні. Падцягнуў бліжэй да агню ланцугі.

— Усе яны, гэтыя бабы... З Крывазнак вун, Юлька. Ты яе, можа, і ведаеш. Мудрэй за Балюту. Мужык на вайне

лёг. І дагэтуль не выйшла. Адна. Чорт яе ведае чаму. Дык тая, брат,— з немцамі. Нават ужо ў апошнюю блакаду. Кругом усё гарыць, смыліць, немцаў поўна вёска. А яна... Мужык у яе музыкантам быў. Пайшоўшы ў армію, гармонік дома пакінуў. І сама яна ўмела трохі іграць. Выйдзе на вуліцу пад прызбу, гармонік на калені і — «Залатыя горы...». Немцы каля яе кругам, а яна ім выдылінгавае... У хаце цесна ўжо было, на вуліцу выходзіла. Каб усе відзелі. У-у-у... курва. Хай ужо са сваімі, а то з немцамі. Сваіх ужо мала было. Сядзіць, вун, цяпер адна. Можа, за гэта ніхто яе і не ўзяў пасля вайны, чорт яго ведае. Так што плюнь ты і на тую, мала што я табе гавары́ў. А-ат... Што, на гэтых дваіх свет сышоўся? Знойдзем...

У горане ўгарэлася вуголле, запахла дымам, як дома з печы ад смалякоў, калі падпальваеш дровы. Падбярэцкі рассунуў вуголле качаргой у бакі і паклаў у агонь два ланцугі — канцамі. Зверху пастукаў качаргой.

— Паможаш. Падзяржыш у клешчах ланцуг. Раніцай шафяры памагалі. Малатабоец ужо з месяц як збег. У калгас пайшоў, пачуўшы, што звязуць кузню. Выкручвайся цяпер адзін, як вуж...— Падбярэцкі зноў пацягнуў за ручку ўніз — зашыпеў мех, цененька і сіпата, як гадзюка, паляцелі ў бакі дробненькія, па зярняці, іскры, далёка, аж да кавадла.

— У самом-то дзеле...— Падбярэцкі выпусціў раптам ручку ад меха — мех перастаў гудзець — і павярнуўся зноў да кавадла.— Я думаў, што і праўда ты рашыўся да Балюты... Людзі гавораць, ды і сам ты ўпобачкі на санях ездзіў. Блізка сядзеў. Цябе яна не адкіне. Прыбегла, вун, у бальніцу адразу. Ты яе нечым цягнеш... Калі ўжо на тое пайшло, то я табе скажу... Ну, брат, і гарачая баба... Душа з цябе вон... Даўна гэта было, гадоў ужо многа назад. Зімой. Тады пад Курачовымі Цянямі валілі з пня лес. Мароз, мяцеліца і дзень і ноч, гудзе ўсё на дварэ, а план давай. Сані трашчалі пад дрэвам, як лучына. Работы ў кузні па самую глытаўку. Дамоў хадзіць, таптаць снег — згарыць яно агнём. Абрыдла і валяцца ў канторы на падлозе ля грубкі — не хапала раскладушак. Папрасіўся я тады да гэтай Балюты на кватэру. Пусціла. Сала ў торбу — і пайшоў. На другую ж ноч я яе згроб. Назаўтра ж і прагнала. Ляцела мая торбачка з салам за парог у снег, як не ведаю што. Але ж і было... У самом-то дзеле, лепш ты, брат, не пападайся. Астануцца толькі рожкі ды ножкі... Было-о... Ёсць што ўспомніць. І чорт іх, брат, баб, ведае:

-то хапае цябе, як ваўчыца, то прэ воп без аглядкі, як невядома каго. Даўна, брат, было, а ёсць што ўспомніць. І яна помніць, аж дагэтуль вачэй на мяне не падымае...

Андрэй пачуў, як некуды вязне, як усё роўна ў мяккую раллю на полі. Задрыжалі рукі. Ён падышоў і абапёрся на халоднае кавадла. Там, дзе стаяла на зямлі, на пяску, вядро, знаць былі ад яго дробныя кругі. Іх прытаптаў нагамі Падбярэцкі...

Мігнулася ў вачах Балюціна хата з жоўтай падлогай і бліскучы ложак за грубкай... І Падбярэцкі недзе сядзеў тэтак ля стала, пасля хадзіў з вядром па ваду...

Яго раптам схапіла злосць... На Балюту... Аж сцяліся самі кулакі. Трапіла б цяпер пад руку...

Ён стаяў ля кавадла і чуў, як патрохі астывае — пачынала рабіцца холадна. Проці яго блізка тырчаў, як з зямлі, нагнуўшыся ўперад, Падбярэцкі — глядзеў, лыпаючы падслепаватымі вачыма. З-пад кепкі ў яго быў відаць гладкі лысы лоб, умазаны ў сажу.

Андрэю захацелася адразу пайсці з кузні. Скарэй бы ўжо з'ехаць пад Полацк.

«Аблаву яшчэ выдумалі, бытта без яе і паехаць няма як»,— падумаў ён пра Унука.

З галавы ніяк не выходзіла Балюта. Стаяла высака на валакушах у паркалёвай у клетку сукенцы і кідала далёка на пасеку снапы... Тады бразгала ўпацёмку дома ў першай палавіне конаўкай аб вядро — прыносіла яму піць.

«Чаму ты нічога не пытаешся?» — аж звінела цяпер у галаве.

Ён падумаў, што яна і яго магла прагнаць, як Падбярэцкага, раніцай, але не прагнала. Пачуў, што яму ад гэтага робіцца смялей і разам з тым робіцца шкода Балюты. Гэтулькі гадоў адна. Кожны мог прыйсці ці пад'ехаць на машыне да варот, бо ведаў, што яна адна. Пасля мог расказваць, як Падбярэцкі, і смяяцца... Яму яшчэ захацелася раптам пайсці цяпер да яе, захацелася сказаць, што Падбярэцкі быў свіння, і ўсе другія, хто прыязджаў немаведама чаго, былі свінні, і што больш волас з галавы ў яе не ўпадзе...

Падбярэцкі ўсё глядзеў на яго, лыпаючы падслепавата, тады адкінуў галаву назад — з-пад рубашкі выехала жоўтая шыя, упэцканая ў сажу,— і зарагатаў на ўсю кузню. Моцна, трасучы жыватом, аж з парога фыркнулі на двор вераб'і, што скакалі па стружках.

— Што гэта ты як мяшком апылены?.. Х-хе-хе-хе...

Такія штукі не забываюцца. І я помню, і яна помніць. Можа, толькі каецца, што адразу прагнала. Бабы, яны гарачыя. І там, і тут... А тады шкадуюць... Хаця дарожка да яе не зарасла. Усё яшчэ можа быць. Гара з гарой не сходзіцца... Ты што стаіш, як у зямлю ўехаў?..

Калі Андрэй схапіў Падбярэцкага за грудзі ў дзве рукі — за чорную зашмальцаваную рубашку пад жоўтай упэцканай шыяй, пачуў адразу, як рэжацца ў пальцы бляшаны гузік і баліць хворае плячо... Падбярэцкі ўпёрся рукамі яму ў грудзі і глядзеў, вылупіўшы вочы,— спужаўся. Андрэй нічога не помніў, ён толькі ненавідзеў цяпер Падбярэцкага, як сам не ведаючы каго.

Прыпёршы да горана, ён перагнуў яго і нахінаў уніз — галавой у агонь, у чырвонае вуголле. Забразгалі пад ім, паднізам, ланцугі, выкаціліся з агню і сцягнуліся па пясок пад ногі. Запахла дымам, пад Падбярэцкім гарэла адзежа.

— Ты што? — Падбярэцкі зароў, як бык.— Пусці... Здурнеў? Ды я табе...— ён выгнуўся, крутнуўся — затрашчала ззаду на плячах рубашка, але вырвацца не мог. Яны цяпер стаялі пасярод кузні, ля кавадла. Падбярэцкі, упёршыся рукамі ў грудзі, адпіхаў яго ад сябе. Андрэй пачуў, што вун як баліць плячо, што не трэба было пэцкаць рукі...

— Паску-у-да...— сказаў ён, сціснуўшы ад болю зубы.— Баранавалок нямецкі. Жыў бы ўжо, заціснуўшыся ў кутку... Думаеш, усе такія, як ты. Сваім гнілым гужам усіх мераеш. Гадасць усякая кожны раз на языку...

Пачуўшы, што ўпёрся нагамі ў парог, Андрэй, каб не паваліцца, пераступіў цераз счэсаны зверху кругляк. Стоячы на ўбітай чорнай зямлі, ён падумаў, што Падбярэцкі дужэйшы,— выпхнуў яго вон з кузні.

Падбярэцкі тупаў цяпер у кузні ля парога, гладзіў рукамі грудзі і соп, як змораны бык.

— Ніхто не відзеў... Давай так: і ты скаціна, і я скаціна. І не будзем здароўкацца...

— Хочаш быць скацінай — будзь. Я гэтага не хачу...— Андрэй крутнуўся і пайшоў па пяску на дарогу, дзе нядаўна ехалі прычэпы.

Ішоў у вёску і чуў, як дрыжаць у каленях ногі, як дрыжыць ён увесь і як нешта гаварыў ззаду ў кузні Падбярэцкі — пра Балюту.

Адышоўшыся, убачыў, што ў яго чорныя рукі — далоні і пальцы ўмазаў у сажу. Сышоўшы з дарогі, сагнуўся

і доўга выціраў рукі аб сівец. Сівец быў мокры ад расы.

Калі ён адагнуўся, пачуў, што на яго праз соснік свеціць сонца, сухое і калючае,— якраз у вочы.

«І сёння будзе пячы,— падумаў ён.— Калі гэта ўсё кончыцца?..»

## 9

Сонца заходзіла за Белай дарогай — вісела ў сасновым бары за Ямамі ў верхаллі — вялікае, прыплюснутае зверху, пераліваючыся чырвоным агнём, як жар у пячурцы, калі яшчэ рана закладаць юшку. На Ямах на пасецы, на Белай дарозе рабілася сіне, як ад дыму.

Калі Андрэй глядзеў з Загумення на сонца, бачыў, як перад вачыма таўкуць мак камары, што вясной па дрывотні. Ад сонца здаваліся чырвонымі і верхаллё ў соснах і камары — мітусіліся, як сыпаліся адкуль зверху дробныя іскры — сажа на зямлю, калі гарэла ў коміне. Ля сонца цягнуліся ўгару дзве жоўтыя, што пажмаканыя рукамі, паласы — дарожкі ад самалётаў. Самалётаў не было чуваць. Над лесам дарожкі пачыналі згінацца, распаўзаліся і чырванелі; угары яны былі прамыя, тонкія і вострыя — здавалася, чортведама якія пікі калолі далёкі свет.

З Загумення добра відаць вуліца, могілкі за грэбляй на полі і хаты ў Луськім — новыя стрэхі.

У бары пад Курачовымі Цянямі стаяць паабапал дарогі сосны — не дайшла яшчэ сюды леспрамгасаўская піла — выцягнуліся высака ў неба, туды, дзе правялі след самалёты. Усюды пахне смалой, чыстай і свежай, як у новай хаце.

Чуваць, як стукаюць, лучаючы на цвёрдае на дарозе, сухія сасновыя шышкі: у лесе яны падаюць дзень і ноч, у лесе іх пачуеш кожны раз.

Ён пастаяў і падумаў, што любіць слухаць, як стукаюць, падаючы, шышкі... Вечна б так стаяць і слухаць...

Колькі людзей перахадзіла тут: па Белай дарозе і пад Курачовымі Цянямі... Няма скончонага зямлі — няма і людзям. Людзі рассыпаюцца па зямлі, як шышкі з дрэва... Вечныя людзі на зямлі, вечныя і звяры. І вечна адзін ідзе на другога. І верх за чалавекам. Бо чалавек абжывае зямлю, звер — толькі плодзіцца... Есць і плодзіцца, каб есці.

Ля Мсціж ваўкі вяліся здаўна — Андрэй помніць, як расказвалі бацька і маці,— і за Белай дарогай, і ў Курачовых Цянях, і за Жоглаўкай пад Вешкамі. Летам прыхо-

дзілі кожны дзень на Выганчык; зімой, у калядніцу, вылі аж на Загуменні; вайной, пасля апошняй блакады, калі прыйшлі ўжо нашы, ваўкі бралі ў вёсках дзяцей. У Луськім схапілі дзвюх дзяўчынак з двара, і не маглі адабраць. І касцей нідзе не знайшлі. Людзі баяліся выходзіць на двор, не пускалі адных дзяцей, стараліся быць у грамадзе, калі адлучаліся ад дому на работу. Насілі з сабой заточаныя жалезныя пруткі — рабілі ў кузні. Так жылі да самай восені, калі пачалі ўжо выбіраць бульбу. З месяц пабыло ціха, і людзі пачалі забывацца. Пасля ўжо маразамі Падбярэцкі ў Вешках забіў адразу двух ваўкоў, на гародах: смоллю лезлі ў вёску. Гаварылі, пазнавалі тых, пашто бралі ў Луськім дзяцей, але хто гэта мог пазнаць. Пасля на іх зусім забыліся, аж пакуль яны летам зноў не прыйшлі на Выганчык.

Да захаду Андрэю трэба было зайсці пад самыя Курачовы Цяні — па імшары. Ён мінуў Ямы і падаўся напрамую па старой, парослай соснікам дарозе па Кладкі, дзе, уцякаючы ад бамбёжкі, ездзілі з вёскі людзі ў зямлянкі. Злева ад дарогі яшчэ стаяў лес — падсочка; справа яго выразалі адразу пасля вайны, і цяпер пасека парасла густым соснікам вышэй чалавека — не ўткнуцца.

Ваўкі, відаць, вывеліся сёлета ў самых Курачовых Цянях — у сухім доўгім, цераз усё балота аж на Каралінскую пасеку пад Вілію, сасновым Зашыйку: далей ад чалавека і бліжэй да вады. Зашыек быў шырокі, доўгі і глухі. Акружаны з трох бакоў балотам — аплылымі рудымі крыніцамі, ён гніў сярод лесу і вечнай смярдзючай макраты. Сосны ў Зашыйку раслі ценкія і нізкія — куртатыя, без сукоў, з густымі і круглымі, як галоўкі кропу, вяршамі. Іголкі на іх былі дробныя, растапыраныя; жаўцелі і цярушыліся на мох. Зімой, у вялікія маразы, сосны на балоце вымярзалі, сохлі — адставала рудая кара, асоўваючыся на зямлю, і сыпалася з-пад кары дробненькае белае пілавінне з дзірак — дрэва адразу тачылі чэрві. Сасняк у Зашыйку быў стары — равеснік таму, які рос на Каралінскай пасецы пад Каменам і які пасля вайны адразу рэзаў леспрамгас,— і яму пад ногі за век наслалася моху і шылля — пласт на пласт — па самыя сукі. У Зашыйку было не ступіць і на сухім — ногі лезлі ў мох на той свет. З-пад моху, як адкуль з-пад зямлі, прабіваўся ценкі, доўгі руды круглец і цвіў пад канец лета, густа атрасаючы з ветрам на мох дробныя кавалачкі ваты — яшчэ думаў пасеяцца. За круглядом цягнуўся чортведама куды — на сосны

гледзячы — багун, і, калі ён цвіў і заходзіў з Курачовых Цянёў вецер, аж па Ямах ля вёскі не было чым дыхаць. Унізе пад багуном рос дробны дурнічнік, па адной сухой разгатай галіне — выводзіўся. На ім можна было нават знайсці ягады, доўгія, як усохлая фасоль. На чысцейшым, дзе не было відаць кругляцу і дзе ўсё глушыў адзін высокі, у калена, белы мох з зялёнымі галоўкамі,— сплёўся, як немаведама чыімі рукамі паблытаны, журавіннік. Тоўсты, як аборы. Круціўся — нітка за нітку, чапляўся за кару на соснах і поўз угару — шукаў невядома чаго. На ім віселі, як начэпленыя іголкай, белыя, зялёныя, бурыя і нават чырвоныя ў сярэдзіне лета ягады; таўсцейшыя, па дробненькай маладой бульбіне, ляжалі, уехаўшы ў мох, як утаптаныя.

У журавіны з вёскі хадзілі ў Зашыек у познюю восень, калі павыбіралі і папераворвалі бульбу і ціснулі пагалец першыя маразы. У Зашыек ішлі Кладкамі — па старым, пачэсаным зверху, патрэскапым і ўсохлым паленні, пакладзеным па адным, па два ў рад цераз рудыя крыніцы. Гэта была спрадвечная людская дарога цераз Курачовы Цяні на Каралінскую пасеку і на луг да Віліі.

Пад нагамі на Кладках скрыпеў сцяты марозам мох і круглец; сарваўшыся, нага лезла пад мохам у халодную гразь — пырскала ў вочы вада: балота восенню не замярзала. Яно правальвалася нават і зімой, падапрэўшы пад снегам.

У журавіны ішлі бабы з усёй вёскі, з мяшкамі і вялікімі круглымі белымі каранёвымі кошыкамі — ішлі на ўвесь дзень, з дзяцьмі, не баючыся ўжо гадзюк. Вечарам на Кладкі падыходзілі мужчыны — неслі дамоў мяхі на плячах.

Так было яшчэ і ў вайну. Цяпер у Зашыйку пацямнеў лес, здрабнеў журавіннік, яго заглушылі багун і густая ніцая лаза з чырвоным вербалозам, які пусціўся расці як насеяны. Ягады вывеліся; Зашыек здзічэў. На сушэйшым у глыбокім імху на зямлі рабілі логавы ваўкі, выводзячы ваўчанят. Блізка былі вада і скаціна, а чалавек далёка: цераз Зашыек не хадзілі цяпер і па Кладках — на луг да Віліі ездзілі з вёскі касіць на машынах. Кладкі зарасталі мохам і асоўваліся ў балота. Па іх цяпер хадзілі па здабычу ваўкі, вытоптвалі ў высокай траве і моху вузенькія сцежкі: па Каралінскую пасеку, дзе вяліся дзікія козы і ласі, і пад вёску. Пад вёску ішлі ўжо на канец лета, калі выводзілі з гнёздаў ваўчанят. На гразі ля Кладак кожную

раніцу можна было ўгледзець свежыя воўчыя сляды — вялікія, па лапцю, і дробныя, як сабачыя,— ваўчыца пераводзіла малых з месца на месца. Робіць яна гэта кожны раз, як толькі ваўчаняты пачнуць глядзець. Аднаго гнязда ў ваўкоў ніколі не бывае. Ваўкі летам жывуць цэлым вывадкам, а маладыя ваўчаняты, падросшы, не спяць ля ваўчыцы, кладуцца асобна. Логаваў таму ў такую пару бывае вельмі шмат — свежая прытаптаная трава. Маладыя яшчэ ходзяць цямном гуляць — вылазяць па Кладках аж на бор пад зямлянкі. У бары ля самага балота знаць тады па зямлі падзёрты лапамі мох з ягаднікам, валяецца павыцягвалае доўгае белае карэнне і свежыя дробныя косці — здаволіўшыся, іх пакідалі ваўчаняты, не панеслі ў гняздо.

Адышоўшыся ў Зашыйку далей ад вёскі, ваўкі пачынаюць выць па начах. Адзываюцца спачатку толькі пераяркі недзе пасярод лета. Па іх надта не будзеш ведаць, дзе яны і ці многа. Такой вот парой, на канец жніўня, чуючы блізка вёску і скаціну, пачынаюць падаваць голас маладыя ваўчаняты — брэшуць, як сабакі На іх агрызаецца ваўчыца, не дае брахаць. Часта бывае вечарам, калі робіцца цёмна, пачынаюць выць, наеўшыся, усе разам: і старыя, і маладыя, выюць на ўсе галасы, як у калядніцу, толькі мякчэй і цішэй, што ўсё роўна ляняцца — наеліся, нагрэлі мяккі мох пад сабой поўным жыватом. Адзываюцца ваўкі на Кладках і додніцай, калі ідуць на здабычу,— больш за ўсё старыя.

Гэтым летам ваўкі вылі і вечарам, і ноччу, і раніцай, ніколі яшчэ так не адзываліся. Вылі па ўсім Зашыйку — маглі пераходзіць з месца на месца, а магло быць, што сёлета ў Зашыйку вывеліся не два і не тры вывадкі.

Калі зайшло сонца, Андрэй быў ужо ля самых Курачовых Цянёў на горцы перад імшарай, дзе ў вайну рабілі зямлянкі, калі ўцякалі з вёскі ад нямецкай бамбёжкі, і куды цяпер вечарамі прыходзілі гуляць ваўчаняты. Сасновы бор канчаўся, ля самай імшары на горцы раслі старыя густыя елкі з лапкамі аж да зямлі. За імі на балоце адразу пачынаўся белы дробны бярэзнік. У бярэзніку былі відаць старыя вольхі, высокія, разгатыя, без лісця — памерзлі ў маразы. За бярэзнікам пачыналася голая імшара — ніцая лаза і багун. Вабіць якраз добра перад чыстай пасекай ці імшарай, толькі трэба дачакацца цямна.

Шарэла ў лесе адразу: воддаль ля самай зямлі слалася цемната, рабіліся чорныя пні і кусты пад'ялеўцу; пасля ўгары стала сіне, увачавідкі згусала белае рэдкае неба.

Там, дзе зайшло сонца, пад Каменам за Віліёй — было відаць праз імшару — выцягнулася доўгая і вузкая чырвоная палаcа. Ніжэй яе снаваўся рэдзенькі белы туман, як пража на кросны — ніткамі. Зрабілася яшчэ больш ціха — было чуваць, як далёка ў вёсцы ядрана рыкае скаціна і ціиькаюць на елцы над галавой сінюкі.

Андрэй стаяў і доўга глядзеў цераз імшару ў Зашыек, не міргаючы, аж пакуль у вачах не сталі круціцца сосны. Тады ён агледзеўся, зняўшы з пляча двухстволку, сеў на пень: калі стаіш — трашчаць пад нагамі сукі. Вечарам далёка чуваць.

Цямнелася, і па спіне ішоў шорах. Андрэй зашпіліў фуфайку на ўсе гузікі. Здавалася, ён сядзіць ужо немаведама колькі. Пасля высака ўгары над самай галавой заблішчала белая калючая зорка.

Будзе пагодная ноч, пад раніцу ўзыдзе месяц.

Яму здалося, што яшчэ вайна, што ўперадзе за імшарай у Камене немцы, што сам ён выйшаў з зямлянкі і слухае, ці ляцяць самалёты. У такія пагодныя дні, як сёлета, немцы лёталі бамбіць вёскі. На Мсціжы налятаті два разы — адзін раз раніцай, калі людзі выйшлі на гароды выбіраць бульбу, другі раз пад вечар, бралася ўжо заходзіць сонца. У Рускіх тады спалілі ў вёсцы хату; згарэла гумно ў Ганькі. Бамбіць немцы пачалі недзе гэтай парой, пад канец лета, можа, трохі пазней, і бамбілі ўсю восень, да зімы, усе вёскі наўкола. Восень тады стаяла сухая, неба было чыстае, і ноччу ад месяца было відна, як удзень. Першыя дні людзі ўцякалі з вёскі ў Лазу на Загуменне і ў бярэзнік пад Жоглаўку. Пасля самалёты сталі бамбіць Лусьнае, Вешкі і Вострава. У небе кожны дзень над вёскай акручваліся самалёты. У кожнага на двары стаяў запрэжаны конь і на возе ляжалі павязаныя ў пасцілкі шклункі. Калі пачынала блізка гудзець, на калёсы садзілі дзяцей і, паганяючы, ехалі ў лес за ферму — уцякалі. Агнём ты згары! Ці ты справішся кожны раз... Людзі аставаліся ў лесе, баючыся варочацца ў вёску. Тады, у тую восень, і парабілі зямлянкі пад Курачовымі Цянямі. Збіраліся хатамі — і рабілі. Ён, Андрэй, рабіў тады зямлянку ўдвух з Рукалеевым. Выкапалі яму ў пояс, зрубілі і апусцілі зруб; зверху на матачыну клалі плашкі — пашчапаныя сасновыя калоды, на плашкі слалі мох і насыпалі тоўста, у штых, пяску. На жоўты пясок зноў слалі мох — хавалі ад вачэй. Многа хто нават рабіў зямлянкі, як партызаны дзоты,— у два ці тры накаты: лесу хапала. Зямлянкі дагэтуль па-

гнілі, знаць здалёку толькі ямы і асунутыя зрубы. У ямах пайшоў расці малінпік, густы, цёмны.

У тую восень пасля бамбёжак Андрэй пайшоў у партызаны...

Пабольшала ў небе пад галавой зорак. Схавалася чырвоная паласа пад імшарай, што карова языком злізала. Асталася белая ядрапая, як зімой на додніцы, зара. Лес зрабіўся густы, не адзываліся сіпюкі, як пазлятталі. Сцямнела. Стала ціха, што ўсё роўна аглух.

Андрэй перш падумаў, што вабіць перад заўтрашняй аблавай, можа, і лішне — звер сысці з Зашыйка нікуды не мог, крануўся яшчэ толькі, мяняючы кожны раз логава. Але па Белай дарозе ходзяць машыны; пад самымі Цяпямі стралялі часта браты Канэцкія з Выгар. Чуючы чалавека, ваўкі маглі звясці малых з Зашыйка цераз Кладкі на Каралінскую пасеку ў ельнік пад Камена. Калі ваўкі адзыўнуцца ў Зашыйку, заўтра раніцай можна будзе ачапіць яго дугой ад ракі і ад вёскі — каб толькі больш прыехала загоншчыкаў — і, падрушыўшы звера, пагнаць на Кладкі. Пойдзе: Кладкі — адна тады дарога на Каралінскую пасеку, і па іх звер хадзіў. На Кладках у лазе і на падыходах да іх расставіць трэба тады людзей — усіх, хто прыедзе. Калі ж ваўкі адзыўнуцца аж на Каралінскай пасецы — адразу пішы прапала. Ніякай аблавы не ўстроіш. Хто гэта можа ачапіць пасеку гектараў на дзвесце, а можа, і больш? Здурнеўшы толькі. Унук так і сказаў: «Застанем у Зашыйку — перадушым, як паліцаяў у Альковічах. Не — прыедзе народ, пастраляем сарок на пасецы і — к чортавай мацеры. Спазніліся. Трэба было ў гнёздах браць. Сляпых яшчэ. Ваўкі цяпер не тыя. Выкаціўся з-пад смярдзючай цыцкі — і ўжо граматны... Звер разумны стаў. Насядаюць на яго і з зямлі, і з неба — навучылі. А разумны звер — страшнейшы. На голас не адзыўнецца, а калі прыцісне яго — на любы ражон палезе, не толькі на чырвоны ласкут».

Андрэй устаў, паклаў двухстволку на пень перад сабой — жалеза было халоднае і мокрае зверху ад вільгаці — і, адагнуўшыся, зноў доўга глядзеў у Зашыек. Зашыек быў увесь белы ад туману; туман вісеў і ззаду за плячыма недалёка ад зямлянак вузенькімі палоскамі ля зямлі.

На калені ён садзіўся памалу, баючыся, каб не трэснуў дзе сук. Мох быў калючы — каголася, мусіць, сухое

сасновае шыллё; пасля адразу зрабілася цёпла ў калені спадпізу. Запахла багуном — блізка была імшара.

Андрэй зняў з галавы кепку, паклаў яе на пень зверху на двухстволку, ціха кашлянуў, закрыўшы рот даланёй, тады, пагнуўшыся ўперад да самай зямлі, склаў далоні прыгаршчамі і прыставіў іх да рота — падпёр пад шчокі, каб не паляцець носам у мох. Загудзеў спачатку ў прыгоршчы, гледзячы ў зямлю, густа і глуха — захліпнуўся быў адразу. Аддыхаўшыся, набраў поўныя грудзі халоднага паху ад багуну і, растапырыўшы ў прыгоршчах спераду далоні, завыў мацней і смялей, падымаючы галаву ад зямлі і беручы голасам усё вышэй і вышэй. Адкінуўшыся назад і даўшы сабе волю, ён доўга цягнуў на самай высокай ноце. Бачыў у небе зоркі, цьмяныя, дробныя і халодныя, як ваўчыныя вочы зімой пры месяцы. Сціхшы, адразу стаў слухаць.

І другі раз ён пачаў ад самай зямлі. Цягнуў высака, як мог, і думаў, што бярэ так, як трэба, памагаючы рукамі: то адкрываючы, то прыкрываючы прыгоршчы; думаў, што жудасна робіцца адразу самому — хай бы яны, ваўкі ў тым Зашыйку, паздыхалі без аблавы. Такі паганы звер, з такім паганым голасам. Пасля, слухаючы, зноў думаў, што воўк самы паганы з усіх звяроў: есць падлу, і з яго гнязда ад малых смярдзіць, як немаведама з якой ямы; што воўк рухавы і спрытны — хай бы ён скруціў сабе галаву; наглы, дужы і прыгожы; хітры, дзікі і баязлівы, як чорт ведае хто. Тады ён злавіў сябе на тым, што любіць ваўка, каб яно згарэла. Другога звера не любіць, а ваўка любіць. А можа, ён і не любіць яго, можа, проста любіць лес — Белую дарогу, Курачовы Цяні, Кладкі... Яшчэ з той пары, калі, баючыся, хадзіў сюды малы... У Мсціжах лес і ваўкі — адно і тое. І каб не было ваўкоў, які б тады быў лес?..

І другі раз ён доўга чакаў — ніхто не адзыўнуўся. Яшчэ больш сцямнела, паніжэла неба, толькі зоркі былі высака, як і перш. У бок Камена нехта далёка стрэліў, што ўсё роўна была вайна і там стралялі немцы.

Трэці раз Андрэй завыў тым жа голасам — на ваўчанят. Выў моцна, адным ротам, без рук, стаўшы на ногі і нават адышоўшыся ад пня, асмялеў: ваўкоў блізка няма, адазваліся б дагэтуль. Малыя звечара падаюць голас адразу.

Ваўчаняты не адзыўнуліся і трэці раз. Усюды было глуха, і ён чуў, як устае з зямлі прыціснуты каленямі мох — шапоча.

Падняўшы з пня двухстволку і кепку — сціснуў у руцэ, ён адышоўся на пасеку, да самых Кладак, бліжэй да Курачовых Цяпёў. Ля балота пасека зарасла дробным ценкім і густым бярэзнікам. Мокрае ад расы бярозавае лісце ліпла да рук. З Кладак пахла балотам і сенам — высахла на сонцы патаптаная сінюха. Нехта касіў ля Кладак і выносіў сена вязкай на сухое — на пасеку ў бярэзнік,— мусіць, Ганька. Курачовы Цяні дзялілі ўсягды на шнуры, ад Кладак аж да Зашыйка. Вузкі, на чатыры меркі, доўгі, як кінуць вокам, шнур трэба было прайсці колькі разоў туды і назад з касой па гразі аж па калені. Хапала сена і з лагоў ля вёскі, але ж вечна ўсяго было мала. Людзі ішлі з косамі, ішоў і ён, Андрэй. Абуваўся ў лапці з анучамі — ад гадзюк — і мок у балоце дзень да вечара, навесіўшы на сагнутай бярэзіне белую торбачку з палуднем. Мінаючы бярэзіну, чуў, як пахлі маладыя салёныя агуркі з торбачкі. Агуркамі пахла і тады, калі яны з Веркай насілі на шнуры сухое сена вязкамі да стажар'я. Сена ў Курачовых Цянях добра сохла — аж трашчала, калі пласцілі з вала: сярод лесу на голым усягды добра сохне сена. Яго клалі на балоце ў стагі ўсёй вёскай, і Курачовы Цяні, здавалася тады, пахлі сухой сінюхай і салёнымі агуркамі...

Ён доўга стаяў і глядзеў на Кладкі ў туман. За белымі палосамі былі відаць чорныя вярхі елак у Зашыйку.

Ля Кладак ён зноў выў на ваўчанят. Выў, заціснуўшы пальцамі нос, доўга і высака, аж пачаў перхаць. Пасля стаяў і глядзеў на Кладкі ў туман — слухаў патапырыўшыся, як баючыся. Недзе далёка над Каменам гудзеў самалёт. Ззаду, у вёсцы, брахалі без сціханага сабакі.

Ваўкі не адзыўнуліся, як усё роўна іх не было на свеце. Ён зноў падумаў, што яны сышлі з Зашыйка. Пачуў быў пасля, як у Камене брахалі сабакі. Ён не помніў, калі былі такія ціхія ночы... Можа, аж той даўнішняй зімой, калі ён пайшоў рабіць на ўчастак...

...Коні гломзаюць у праварынах сена, ля канторы скрыпіць у некага снег пад нагамі, бразгае ля студні ланцуг аб вядро — хадзілі па ваду — і зноў робіцца ціха. Не чуваць пасля скрыпу, не хрумскаюць і не храпуць коні. Відаць толькі з канюшні, як нізка над лесам мігцяць зоркі — вялікія, ядраныя; ад іх, здаецца, яшчэ больш робіцца холадна. Поўнач. Мароз — не возьмешся голай рукой у дзвярах за кручок. Трэба паліць ліхтар і раней раздаць коням авёс, не чакаць пары — хай грэюцца... У кладоўцы не дакнуцца да замка; перавясла ў вядры колецца, як гадзюка.

Раздаўшы авёс — насыпаўшы ў кармушкі — і паўзганяўшы з гною коней, каб не ляжалі, ён тушыць ліхтар і ідзе ў кантору грэцца. Пальцы ў рукавіцах парабіліся што костачкі. Няма чым дыхаць на дварэ, захлынаешся; пахне дымам ад бярозавых дроў — у канторы паліцца ў грубцы ўсю ноч — і скачуць у небе зоркі. Скачуць і блішчаць сінім святлом. Ціха, і ад скрыпу пад нагамі аж разлягаецца лес...

Ён падумаў, што не чуў, каб так было ціха ноччу, мусіць, з таго часу... Колькі гэта ён гадоў на ўчастку?..

На Белай дарозе заенчыла ліса. За ўчасткам на Жоглаўцы крычалі совы. Ваўкоў не было чуваць: ні пад Каменам, ні ў Зашыйку, ні на Белай дарозе. Ваўкі маглі пайсці на Палік. Туды яны сыходзілі многа гадоў, калі гнаў голад...

Недзе гудзела, ціха, як пад зямлёй. У Камене, мусіць, ішлі машыны.

«Гарыць яно няхай — драць горла попусту. Трэба варочацца дамоў. Можна будзе падысці з Белай дарогі падвыць додніцай».

У яго яшчэ аставалася адно — выць на старых: зваць ваўчыцу. Ён рэдка выў на ваўчыцу — трэба было пачынаць дурную гульню. Чуючы густы клік прыблуднага і галоднага самца, ваўкі з логава ўсягды бягуць адагнаць яго прэч. Звер скупы і злосны — да логава другога не пусціць і блізка, на прыблуду кідаецца з зубамі — крыві не мінуць. Можа, ваўкі звярэюць так, ведаючы, што на прыблуду ваўчыца пойдзе ўсягды — пазаві толькі. Але самую ваўчыцу яны не чапаюць — нападаюць на ваўка.

Калі паклікаць ваўчыцу — толькі каб проці ветру, каб яна не пачула гару са ствала з ружжа, гар ваўкі чуюць далей, чымся чалавека,— яна можа падбегчы блізка, як праз хату...

Ён яшчэ стаяў і чакаў. Тады цераз Кладкі выйшаў на лінію, якая адразала Курачовы Цяні ад бору. Лінія пачыналася ад участка, ад дарогі, і вяла на захад пад Камена. Ад Кладак яна ішла на Курачовы Цяні доўгай вузкай бугрынай. На бугрыне рос высокі стары ельнік — у абхват, бярозы і рабіны. Зямля там уся была ўплецена чырвоным яловым карэннем, не ступіць. На бугрыне радзілі чарніцы і падасінавікі, лісіцы ўсцілалі мох — не глянуць вокам. На бугрыне, пераходзячы на Доўгія, пад Жоглаўку, стаялі ласі. Іх часта бачылі, калі ішлі раніцай з косамі на Курачовы Цяні.

У прагале ляжаў туман, густы, астылы, і прагал здаваўся доўгай і роўнай белай дарогай, заслапай снегам.
На бугрыне Андрэй завыў на ваўчыцу, спачатку нясмела, успамінаючы, як гэта робіцца, тады, разышоўшыся, браў і браў на ўвесь голас, чуючы, што голас стаў чысты і звонкі, што лёгка выць, як усё роўна пець, распеўшыся. Ён стаяў на карэнні ў прагале і, адгінаючыся ад зямлі, закідаў назад галаву, далёка стукаючыся аб ствол ружжа, і аж заплюшчваў вочы. Рук не прыкладаў да рота — выстаўляў наперад: лавіў голас, каб ён адразу не расплываўся ў бакі. Чуў, што голас плыве лініяй праз увесь Зашыек на Белую дарогу, на пасеку, на Камена, на край зямлі... Ад натугі круцілася ў галаве, і, калі ён згінаўся і адгінаўся, здавалася, што падымаўся ў неба і апускаўся на зямлю ўвесь белы прагал. І калі ён пачуў, як адзыўнуліся нарэшце за Белай дарогай пад Луськім ваўкі — падалі голас старыя, агрызаючыся на ваўчанят,— выў усё і выў, не сціхаючы, як усё роўна ад радасці. Сціхыў, каб паслухаць, сціхлі адразу і ваўкі, тады азваліся зноў, цягнулі доўга і высака — леташнія. Пачыналі брахаць ваўчаняты, як сабакі ў вёсцы, на іх зноў агрызаліся старыя — бомкалі глуха, як дзе з ямы. Пасля ваўкі завылі за ўчасткам, на Жоглаўцы, старыя,— вылі доўга, цягнулі на два калены, сціхалі і пачыналі зноў. Ён зноў падумаў, што ваўкі адзыўнуліся далёка, што ў Курачовых Цянях іх няма, сышлі...

Калі яны адзыўнуліся ў Зашыйку, разам і старыя і малыя, як зімой у калядніцу, ён стаяў спачатку і слухаў. Ваўкі былі блізка, і ён пачаў лічыць іх па голасе. Лічыў, і ў яго на галаве падымаліся валасы.

«Не трэба было так падыходзіць...» — падумаў ён і пачуў яшчэ, як ваўкі завылі ззаду ля зямлянак, адны леташнія — ценкімі галасамі. Пачакаўшы, адзыўнуліся ваўчаняты недзе проці ўчастка, блізка, як усё роўна на самых Кладках. На галаве адразу зрабілася цесная кепка, як хто ў ёй растапырыў пальцы... Ён зняў з плячэй двухстволку, узяў у руку і пачаў бокам адыходзіцца на Кладкі... Здалося, што зашастаў бярэзнік, якраз уперадзе, куды трэба было ісці. Ён тады стаў і адразу згледзеў ваўка. Воўк стаяў блізка на лініі, перагарадзіўшы дарогу і водзячы галавой па зямлі... Нават было відаць, як у яго падцяты хвост. Пасля падняў галаву і глядзеў на яго, Андрэя. Гыркнуў, як на ваўчанят, і ляснуў зубамі.

Андрэй тады як дзяржаў у руках двухстволку, так і

стрэліў адразу з двух ствалоў — выставіў толькі рукі ўперад: лучаў у ваўка. Бегучы Кладкамі, чуў, як сашмыкваюцца з купін ногі і лезуць у гразь па калені. З-пад ног пырскала ў вочы халодная вада.

Стаў ён толькі на пасецы — перазарадзіць двухстволку. Патроны ляжалі ў кішані ў штанах і бразджэлі, калі ён бег. На пасецы ён пачуў, што зноў усюды глуха, як і перш, нібыта не было ні ваўкоў, ні стрэлу. Ён выцерся рукавом і, агледзеўшыся, пачакаў... Стукала ў галаве ад бегу. Зноў далёка над Каменам загудзеў самалёт — ноччу самалёты ўсягды хадзілі над Каменам — мусіць, там была іх лінія.

«Не трэба было страляць. Летам воўк не кінецца. Пасля бальніцы ўсё гэта...» — падумаў ён і пайшоў дарогай, падымаючыся на гару па белым прытаптаным пяску. Двухстволку нёс у руцэ.

Аж ля ўчастка ўжо, выходзячы з лесу, пачуў, як за Белай дарогай азваліся яшчэ раз ваўкі.

«Поўны лес звяр'я,— падумаў Андрэй.— Заўтра прыедуць людзі, трэба рана ўстаць. Заўтра будзе работы...»

За вёскай над Вешкамі мільгалі вострыя палосы ад фар — хадзілі машыны. На Загуменні запахла дымам — на балоце разатлеўся торф.

## 10

Прачнуўся ён ад выбуху. Ускочыў на ложку і адразу звесіў на падлогу ногі. Дзверы ў хату і ў сеначкі стаялі расчыненыя, з двара ішоў холад, і было свежа ў босыя ногі. У парог убеглі куры і сталі дзяўбці па падлозе — збіралі пад сталом крошкі, стукалі, як усё роўна град.

Ён клікнуў дачку — дачка азвалася аж на двары, але ў хату не ішла. Праз акно на сцяну свяціла сонца, было ўжо над лесам, і ён падумаў, што заспаў. Ходзікі на сцяне ад вуліцы паказвалі роўна восем.

Выбухі пачуліся зноў, адзін за адным, сухія, ядраныя — былі добра чуваць праз адчыненыя дзверы. Ад іх цененька звінелі шыбы ў акне.

Ён апрануўся і выскачыў на двор. Ля сенцаў стаяла дачка, і ён чуць не збіў яе з ног.

Неба было шэрае, у хмарах. Калючае сонца хавалася за воблакі. Парыла з самай раніцы, як перад дажджом. Выбухі чуваць былі ў Агульніцы — на пасецы, што ля ўчастка за дарогай. Падзьмуў вецер, і адтуль густа пацяг-

нула дымам, як ад пораху. Над пасекай падняўся белы пыл — высака ўгару. Выбухі аціхлі, тады пачуліся зноў, цяжкія, разляжыстыя. Ад іх ішло доўгае працяжнае рэха — шумела ў адзін бок: далёка на Белую дарогу пад Курачовы Цяні.

«Карчы рвуць... У нядзелю... Галовы б ім паадрывала».

Ён выбег на вуліцу і пачаў шукаць вачыма сляды на пяску: паішла машына з людзьмі на ўчастак ці не?

Ён зноў клікнуў дачку і спытаўся, ці ішла машына. Дачка, стоячы з вядром у руках ля сеначак, сказала, што машыны ішлі ў лес усю раніцу, «і прычэпы, і так...». Ён падумаў, што машыны ішлі даўнавата: па следзе ля варот пахадзілі ўжо куры.

Вярнуўшыся ў хату, ён адрэзаў кавалак хлеба, укруціў у газету і паклаў у кішаню ў фуфайку. Зверху па штанах зашпіліў шырокі брызентавы патранташ з патронамі, як дзягу. Дастаючы з шафы двухстволку, падумаў, што, прыйшоўшы ноччу, чысціў яе збольшага, што не трэба было ўчора страляць. Дачцэ сказаў, каб нікуды не адлучалася з дому цэлы дзень.

Машына з людзьмі яшчэ не пайшла — дагнала яго ў лесе ля Ям. Андрэй здалёку пазнаў Арціставу «будку» — белы, выгаралы брызент — і Унука ў кабіне побач з Арцістам: блішчала на сонцы праз шкло яго лысая галава — Унук ехаў, зняўшы кепку. Арціст затармазіў, і Андрэй, перабегшы на другі бок дарогі, ускочыў на падножку ля Унука. Унук апусціў у дзверцах ніжэй шкло, сядзеў і выціраў шыю.

— Не чулі?! — закрычаў у кабінку Андрэй і кіўнуў галавой на Агульніцу.— Карчы лупяць...

Унук нічога не чуў. Можа, зверху на машыне чулі — паказаў ён рукой назад. Андрэй убачыў, як напінаецца на машыне нацягнуты белы брызент: у кузаве было поўна людзей.

— А даўна пачалі вухаць?

— Ды вот з паўгадзіны назад. Цяпер маўчаць. Парашок засыпаюць.

— Мы былі тады яшчэ за Луськім. Машына гудзіць — не пачуеш. Падысці б да іх — што яны, падурнелі? Усю абедню сапсуюць.

Зноў пачуліся выбухі — тры, адзін за адным. Блізка, цераз дарогу, на пасецы падняўся ўгару пыл. Па лесе далёка пакацілася рэха...

З кабіны выскачыў стрыжаны Арціст, забег наперад машыне і стаяў, узяўшыся ў бокі і гледзячы ў лес. З ку-

зава з-пад брызенту павылазілі галовы — мужчыны смяяліся.

На пасецы аціхла, чуваць былі толькі людскія галасы.

— Рабочых прывязлі? Не ішла машына? — спытаўся Унук, адчыняючы дзверцы. Андрэй саскочыў на зямлю, на сухі сівец.— Мусіць, не, іхняга следу не знаць. Ну і работа...— Унук паказаў на пасеку.— Найшлі месца. Ля вёскі. Дзяцей пужаць.

— Як у вайну,— сказаў, не аглядаючыся, Арціст.

— У вайну было не так...— Унук вылез з кабінкі і стаў на падножку.— З віду я выпусціў. Не мог дагаварыцца з карчадраламі. Падбегчы трэба...

— Думаеш, паслухаюць? Там Белы з Прохарам. З-пад Найдорфа перайшлі. У іх план.

— До-обра... Хрэн з імі...— Унук выціраўся хустачкай, стоячы на падножцы.— Хацеў бы я ведаць, якія цяпер у ваўка планы, калі ён пачуў пад бокам бамбёжку? Гэта ж бамбёжка... Міны і тыя цішэй рвуцца. А тут — як у бамбёжку, я вам скажу...

— Запланіравалі б ваўкі, колькі ім сёння на мушку папасціся...— выскаліўся Арціст, ідучы назад да машыны. Андрэй падумаў, што бачыць Арціста першы раз пасля таго, як той падвозіў з бальніцы. Арціст яшчэ больш загарэў, стаў аж чорны і, здавалася, паменшаў. Лёгка ўскочыў назад у кабінку.

— Як гэта хто будзе планіраваць проці сябе? Дурны ты, чалавек, ці што? — Унук зноў садзіўся ля Арціста: — У ваўкоў планы не дурней нашых... Калі малыя ў гняздзе — воўк бяжыць па авечку за дзесяць вёрст. Каля сябе нічога не зачэпіць...

— Во-во,— зноў выскаліўся Арціст, беручыся за руль і не даючы гаварыць Унуку.— Воўк дзе жыве — не бярэ. Не тое, што мы. Нам калі трэба даць план, дык мы бліжэй ля сябе з пня валім. Ля самай вёскі. Да сасны. А тады ў дровы людзям трэба будзе, як таму ваўку, за дзесяць вёрст ехаць... Добры паляўнічы так не робіць. Б'е толькі ваўчанят, ваўчыцу не чапае. Нявыгадна. Налета не будзе прыплоду. А так — кожны год запланіраваны чырвонцы за скуру...

— Ну, ты, хлапец, ярунды не гарадзі. Пасля піва, відаць. Выпіў бакал — па носе знаць, ад мяне не схаваеш. Не пабаяўся, што і людзей вязеш. Хаця ты недзе рабочых і возіш так? Хто вас калі злавіў ды праверыў? Чаго не люблю, дык не люблю. І ў ваўках ты не разбіра-

ешся. Цяпер і ваўчыцу б'юць. За яе і даюць больш. Хочаш ссекчы дрэва, дык у камель тапаром, у камель. Не будзе ваўчыцы — цішэй на свеце будзе. Зверу не трэба даваць пладзіцца. Паедзем, хлопцы, чорт вазьмі. Я ўсё думаю, хаця б прыехалі грузчыкі... Хто тады ў загон пойдзе? Можа, я з табою, Вялічка, падкасаўшыся?

Хлопнулі дзверцы. Андрэй ускочыў на падножку.

На ўчастку пад'ехалі да самай канторы, да сеначак.

Андрэй убачыў здалёку, як з двара ўцякала Шура — кульгала, апіраючыся рукой на палку. Над частаколам у жоўтых юргінях матлялася яе чырвоная касынка, завязаная на галаве на самай макаўцы. Ужо саскочыўшы з падножкі, Андрэй згледзеў, як з-пад частакола з лаўкі падняліся браты Канэцкія з Выгар. Абодва чарнявыя, шырокія ў плячах. Адзін толькі ростам быў ніжэйшы, а так — як дзве кроплі вады. Абодва былі перш возчыкамі. З самай вясны сёлета перайшлі на бензапілы і цяпер паехалі пад Полацк. Рабілі абодва на эстакадзе, кожную суботу прыязджалі вечарам дамоў — рабочых развозіў Арціст у крытай машыне. У Канэцкіх былі за плячыма двухстволкі, і ў кожнага цераз плячо вісела кірзавая сумка — як усё роўна сабраліся на работу. Да іх падышоў Падбярэцкі — паявіўся з-за кузні, і яны сталі махаць рукамі і паказваць на пасеку.

Андрэй глядзеў, як вылазяць з машыны людзі: падаюць адзін аднаму ружжы, апіраюцца на плечы, саскокваюць аж зверху з барта, бразгаючы патронамі, здымаюць на зямлі з галоў кепкі, прычэсваюцца пяцярнёй, атрасаюць са штаноў жоўтую пацяруху ад саломы і даюць адзін аднаму закурыць... Стаяць купкамі, другія сыходзяцца і акружаюць Унука. Апрануты ўсе ў фуфайкі: чорныя, сінія, ваенныя — новыя, першы раз надзетыя — мусіць, прыехалі і афіцэры з гарадка; у гумовых ботах з высокімі паадкасванымі халявамі. Ваенныя, як падумаў Андрэй, з новымі двухстволкамі, аж знаць яшчэ на іх свежая бліскучая фарба. З прыезджых Андрэй пазнаў адразу Булку — высокага, худога, з выгаралымі, як салома, светлымі валасамі. Рабіў ён у раёне ў ларку — прымаў скуры. Яго ведалі ў кожнай вёсцы — прыязджаў лавіць ваўчанят. Над паляўнічымі ў раёне ён быў старшы: правяраў білеты, прысылаў позвы. Андрэй у раён па позвах рэдка ездзіў, але Булку ведаў добра, яшчэ да вайны. Булка быў ужо стары, але рухавы. Ніколі не маўчаў і цяпер усё расказваў нешта, круцячы рукамі сюды-туды перад сабой, як усё роўна руль...

У новых зялёных фуфайках было пяцёра. Андрэй падумаў, што Булка прывёз усё-такі ваенных, што аблава будзе гарачая. З Булкам прыехалі і яшчэ чэцвера: Альшэўскі, кульгавы стары мужчына, прыёмшчык з аўтабазы; Левановіч, высокі, вышэй старэйшага Канэцкага з Выгар, такі ж, як ён, чарнявы, з загнутым уніз, як кручок, носам (рабіў Левановіч пасля вайны ветэрынарам у Востраве, пасля перавёўся ў раён); настаўнік з Вострава, чорны прыземісты хлопец, служыў у флоце — цяпер насіў цяльняшку, расшпіляў у рубашцы верхнія гузікі, каб усе бачылі. Настаўнік — Андрэй забыўся, як яго зваць,— быў ужо ў гадах, не ажаніўся, хадзіў на вечарынкі нават у чужыя вёскі з астраўскімі хлопцамі, танцаваў ад пачатку да канца ўсе танцы, беручы лепшых дзяўчат. Гаварылі, што настаўнік з Вострава добра страляе.

Чацвёрты быў Фарафонаў — участковы. Вылез з Арціставай будкі самы апошні, падаўшы Булку ружжо. Саскочыў на зямлю і пачаў атрасацца больш за ўсіх, выбіваў далонямі ад пацярухі сіняе галіфэ з чырвонымі вузенькімі канцікамі. На галаве ў яго была фуражка з бліскучым чорным брылем — з'ехала набок. На плячах вісела раскошная паношаная, сівая з сінім, фуфайка з адтатураным крыл лем. На шырокай дзязе збоку ў яго быў відаць пісталет у старой чорнай кабуры. Сагнуўшыся, Фарафонаў счысціў пацяруху нават з хромавых бліскучых халяў, нібыта і не збіраўся ісці ў лес у балота,— прывычка. Растаўхаўшы ваенных, ён стаў пасярод у крузе і паляпаў Унука па плячы:

— Ну-у?.. Заплачуць, брат, сёння твае ваўкі. Выгадаваў ты іх недзе, я табе скажу, у такой роскашы жывучы...— паказаў ён рукой у лес пад Курачовы Цяні.— Ты, брат, стары ваўчатнік. Дзела знаеш туга...

На пасецы за кузняй зноў вухнула і падняўся пыл. Здалося — адтуль дыхнула цяплом... Унук адразу крутнуўся і, паказаўшы на пасеку, сказаў Фарафонаву:

— Ідзі арыштуй... Яны нам усю аблаву абкакалі...

Ваенныя засмяяліся, засмяяўся і Фарафонаў: паказаў зубы і паправіў збоку пад фуфайкай чорную кабуру — адсунуў далей, аж за спіну. Усе цяпер павярнулі галовы і глядзелі на пасеку пад Агульніцу. Там, пачынаючы ад дарогі, як усё роўна па адной лініі падымаліся слупы пылу і чуваць былі — адзін за адным — ядраныя выбухі, каціліся па зямлі.

Выбухі сціхлі неяк адразу, і Андрэй пачуў, што звініць у вушах.

— Бамбяць...— вылаяўся ля частакола Падбярэцкі, стоячы з братамі Канэцкімі.— А нам што астаецца? — махнуў ён да сябе рукой.— Толькі злажыцца і адкрыць агонь па пасецы... Якая тут цяпер, у чорта, аблава. Што, ваўкі без галавы? І сляды іх недзе астылі...

Ваенныя зноў засмяяліся. Фарафонаў павярнуўся да Унука і паклаў яму руку на плячо — пачаў зноў гаварыць пра сваё. Усе яшчэ глядзелі на пасеку, чакалі. Андрэй папачуў, як там стукалі тапаром.

«Цяпер уціхаміравца. Накідалі — будуць цэлы дзень шчапаць і складаць у шліхту»,— падумаў ён.

Над пасекай радзеў і асядаў на зямлю пыл. За лесам было відаць яркае сонца. На яго сунуўся з-за Доўгіх круглы руды туляг, па краях белы, як снег. З Курачовых Цянёў паплылі па небе дробненькія чорныя воблакі, нізка над лесам. Угары за імі распаўзаліся белыя палосы, цягнуліся недзе назад, на Белую дарогу. З-пад Курачовых Цянёў з лесу дыхнуў вецер, пасля адразу рвануў ля зямлі, цёплы, густы, свежы і вільготны. Закруціўся ля кантары ля сеначак віхор — пясок з шыллём і сенам; закраталі галовамі юргіні ў гародчыку; па твары секанула дробным жвірам. Запахла аднекуль дажджом — мокрай памытай зямлёй.

Людзі разышліся: сталі хадзіць ля частакола; далёка ля студні; стукалі ботамі на ганку; падыходзілі калідорам да дзвярэй да магазіна — на дзвярах была відаць аж з двара чорная шырокая завала і вялікі новы бліскучы замок — варочаліся назад на двор. Падносілі да вачэй рукі — глядзелі на гадзіннікі, тады падымалі галовы ўверх — прыплюшчваліся на белыя ад сонца воблакі.

— Хлопцы, памоча...— Унук пакінуў ля ганка Фарафонава, зайшоў наперад машыне аж на дарогу.— А дзе ж рабочыя? Прасіў жа. Страляць жа збіраемся, а не гарэлку піць. Мусіць, каб і на вайну, дык гэтак бы цягнуліся...

— А яны вайны не баяцца. У партызаны пойдуць...— выскаліўся Арціст, і зноў засмяяліся ваенныя.— З базы Вярбіцкі выехаў раней за мяне. Думаеце, лёгка кожнага раніцай падняць з пасцелі пасля ўчарашняга? Учора вечарам згружалі, во, з гэтага кузава,— Арціст паказаў на сваю будку,— як дровы. Моцны народ, па нагах чуць стаяць, а адзін аднаго зносяць. Спачатку першага, пасля другога... Апошняга мне даводзіцца ці ў хату весці, ці кідаць на вуліцы пад плотам. Гэта ўжо як каго і як мне захочацца. А вы, начальнік, у мяне на носе, гэта самае, угледзелі... Са мной яшчэ жыць можна. Мяне руль дзержыць.

А ім трэба было аб'явіць, што дасі спачатку па бутэльцы на пахмелле. Папрыбягалі б доднїцай пад дзверы ў магазін... Хе-хе-хе... Хе-хе-хе-хе...— Арціст засунуў рукі ў кішэні ў штаны, адкінуў галаву і смяяўся доўга і дробна.

— Ты, хлапец, наколькі разумны, настолькі і дурны. Думаеш, усё на бутэльцы так і дзержыцца. А я вось пагляджу. Пахне ад цябе — вон з лесу. Я буду сядзець, настаўіўшы ствол, а ён будзе ісці на мяне, п'яны...

— Во-во... А то і ваўкі пачуюць адразу, чым пахне. І... Хе-хе-хе-хе...

— Слухай, хлапец... Паўважайся чужых людзей. Нічога. Перакінуць вас усіх пад Полацк — мінецца. Гэта вам не ля Унука будзе — пад носам магазін, пад носам дзень і ноч піць... Жылі тут усе як ля закусачнай. Там рабіць будзеце...

Арціст сціх, падышоў бліжэй да Унука, і яны сталі закурваць. Машыны з рабочымі, якія павінны былі ісці ў загон, не было. Схавалася сонца за вузкую чорную паласу, у лесе адразу зрабілася шэра. Праз акно з канторы пачуліся сігналы, густыя, вострыя, усё роўна як глыбака ў студню капала вада. Зноў усе падымалі рукі — звяраліся.

Было ўжо дзевяць.

Машына з рабочымі паявілася праз гадзіну. Яе пераняў ля маста Гладкі і цяпер ехаў у кабіне разам з шафёрам Вярбіцкім, рыжым, тоўстым, прыціснутым да сядзення мужчынам. Машына — новы ЗІЛ — была без брызенту, тырчалі толькі над верхам выгнутыя жалезныя скабы; Андрэй згледзеў, што ў кузаве набіта людзей, не ўткнуцца. Людзі высоўвалі галовы, як вераб'і з гнязда, але не ўставалі — ведалі, што яшчэ не даехалі на месца. Гладкі, вылезшы з кабіны, ссадзіў Рускага — пойдзе са стралкамі. Калі тыя сядуць у засаду, Рускі вернецца ад Кладак і пабяжыць цераз зямлянкі на Заднія за Курачовы Цяні — дасць сігнал у загон. Рускі быў у пакамечаным шэрым картовым касцюме, у старых гумовых вялікіх ботах: стаяў і глядзеў на стралкоў здалёку.

Машыну завярнулі і адправілі адразу на Загуменне. Давязе людзей у канец вёскі, ссадзіць, і тыя пойдуць у загон — чалавек трыццаць. Зайшоўшы логам на Белую дарогу, яны абагнуць Курачовы Цяні і выйдуць на Заднія — на асушанае балота. Рассыплюцца ля канавы — павядзе іх і расставіць Гладкі, сам выйдзе аж на пасеку пад Камена, і па сігнале ад стралкоў — прыбяжыць Рускі — пачнуць загон, страляючы і крычучы, сцяўшы Зашыек у клешчы. Пад вёску на Белую дарогу звер не паверне:

пачуўшы сігнал — стрэл ад загоншчыкаў, на Белую дарогу аж пад самыя Курачовы Цяні падгоніць машыну Арціст; ад Камена зверу дарогу адрэжа Гладкі — на Гладкага ён не пойдзе, ніколі не ідзе на стрэл, і кінецца на Кладкі — будзе рваць на Каралінскую пасеку. На Кладках стане засада — ад зямлянак аж да пасекі, дзе яна сухім клінам утыкаецца ў балота, адтуль, з каменскага боку. Засада завяжа мяшок. Вецер з захаду, ад звера, на Кладках чалавека ён не пачуе, будзе ісці, не баючыся, аж пад ствол. За ноч ваўкі пасля стрэлу не сышлі. Чуваць было — адзыўнуліся раніцай галодныя ваўчаняты. Старыя тады незде пайшлі жыраваць. Вярнуліся ўжо ў гнёзды карміць маладых.

Ідучы на Кладкі, Андрэй убачыў, што зноў апагодзілася. Хмары плылі бокам: далёка за Каралінскай пасекай над Віліёй.

У небе высака ўжо ў верхаллі скакала сонца, блішчала, як вышараванае,— не глянуць. На пасецы ўгары лётаў белы пух — насенне ад чырвонай высокай травы, што расла ля пнёў. Неба над лесам было белае ад смугі, як ад малака. Над Кладкамі шалёна крычалі канюхі, чуючы дождж, але іх не было відаць за верхаллём.

Ад участка да Кладак было вярсты дзве з гакам. Ішлі кучкамі — па два, па тры. Наперадзе Андрэй з Унукам. Расставіўшы ўсіх на Кладках, пачынаючы ад зямлянак, Андрэй выйдзе сам аж на сухое — на рог Каралінскай пасекі. Адтуль да Гладкага пад Камена — рукой падаць.

За Андрэем ішлі Падбярэцкі з братамі Канэцкімі, воддаль іх — Булка з ваеннымі. Фарафонаў, Левановіч і настаўнік асталіся ззаду і ўсё пачыналі гаварыць, махаючы рукамі,— трэба было адварочвацца і здалёку паказваць, каб маўчалі. Апошні ішоў Рускі — сунуў вялікія гумовыя старыя боты па зямлі, дзеручы мох,— даганяў настаўніка.

На дарозе грукалі і грукалі нагамі па карэнні — Андрэй адварочваўся і зноў паказваў, каб ішлі ціха і каб затыкалі раты, не перхалі. І так раніцай на ўчастку было многа стуку. Воўк не дурны.

Выйшлі на пасеку ў малады густы соснік. Пад нагамі на дарозе быў мох, мякчэй стала ступаць. Здалёку заблішчаў прагал: лінія перад Кладкамі — пачалі асцерагацца.

На пасецы было зацішна і цёпла — вецер гудзеў ужо далёка ззаду. Над маладым соснікам вісела палосамі смуга. Ад духаты ўсё было мяккае і вялае. Палягла па зямлю трава, паскручваўся шырокі ліст на бярозе — чакаў дажджу. У цішыні чуваць была далёкая трывога — вось-вось

ударыць гром. У прагале свіцілася жоўтае неба над Вілёй — градавая хмара. Угары над прагалам стаяў буры туляг; прыгледзеўшыся, можна было пазнаць, як ён плыў на вёску. Недзе зноў закрычаў канюх.

Ля пнёў на пасецы ногі чапляліся за старыя пабітыя тарнікі, як за чарапкі. Сосны ля пасекі ад даўняй падсочкі пажаўцелі, парабіліся як сухастой. На абструганых стаках камлях тырчалі сівыя бляшаныя варонкі, павісшы на бярозавых палачках,ураслі за якую ноч у смалу — не выцягнеш. Ля соснаў на сівым сухім моху валялася паручаная старая стружка; на яе белымі плямамі свяціла праз верхаллё сонца. Чуваць было, як яно грэла ў плечы. Уверсе гудзелі пчолы, звінелі дробныя мухі — лезлі ў вочы. У небе зашумеў самалёт — ляцеў высака, недзе ў тым баку, дзе з прагалу паўзла рудая хмара. Ля зямлянак адзываліся дзікія галубы і шаптала лісцем асіна — блізка былі Кладкі.

Пад ногі на дарозе стала лучацца пагнутая і прытаптаная жоўтая папараць і сіне-ружовы верас. На траве валяліся вылінялыя на сонцы пачкі «Беламору» — курылі леспрамгасаўцы...

Падыходзілі да Кладак; наляцеў аднекуль з гары вецер, закратаўся ля дарогі, згінаючыся і адгінаючыся, малады ельнік, на ім задрыжала маршчыністае шэрае павучынне, пасыпанае жоўтымі сасновымі іголкамі.

Пайшлі вільготнай чорнай сцежкай; дарога павярнула на гару да старых зямлянак у другі бок на прагал — на лінію. У прагале на зямлі ляжалі сасновыя жоўтыя ламы, ля іх рос верас, высокі, густы, і зялёная лясная смычка.

На сцежцы пад ногі лучалася натрэсенае сена, сухі памёт і чырвоныя дробныя балотныя сыраежкі. Заблішчалі на нагах намочаныя гумовыя боты — пачаліся Кладкі.

Схавалася ў туляг сонца, у лесе стала сіне. З Курачовых Цянёў падзьмуў вільготны вецер.

Усе збіліся ў кучу. Першага на Кладках пакінулі настаўніка — перад прагалам і імшаркай ля зямлянак. З ім астаўся Рускі. Адыдзецца на гару на развілак і, згледзеўшы сігнал — падасць настаўнік: махне два разы рукой,— адразу пабяжыць сцежкай на Заднія. Ад зямлянак на Заднія блізка, вярсты дзве — дабяжыць скора. Рускі быў без ружжа і, здавалася, баяўся: азіраўся па баках — не хацеў адлучацца ад грамады.

У дробным рэдкім бярэзніку, выходзячы на чыстае, паставілі Леванові ча. Кладкі былі прамыя, і ад яго добра быў відаць настаўнік — стаяў, падняўшы ўгару руку. Ле-

вановіч адразу зняў з пляча двухстволку, стаў за бярэзінай і пачаў абтоптваць пад нагамі мох, каб не трэснуць сучком, калі на яго пабяжыць звер,— быў вопытны. Нос у яго, здалося, яшчэ больш загнуўся ўніз; Левановіч насупіўся, зрабіўся сур'ёзны і стаў углядацца ўперад у бярэзнік, прыкрыўшыся рукой, як ад сонца.

Фарафонава ставілі трэцім, на чыстым, перад другім прагалам, доўга не знаходзячы месца. Пасля ён сам адышоўся з Кладак назад да леташняга пустога стажар'я — не баючыся, ступаў у гразь у хромавых ботах — і прымасціўся там за вывараткай; ля самага стажар'я ляжала вывернутая з балота елка, доўгая, з разгатым карэннем, зялёная — і не думала сохнуць. Фарафонаў ружжа з плеч адразу не здымаў; адхінуўшы крыло фуфайкі, паляпаў па кабуры, паказаўшы зубы, што значыла: «Я ім дам... Хай толькі ідуць...»

Другую лінію-прагал, што аддзяляла Курачовы Цяні — балота — ад усяго лесу, дзе ўчора вечарам страляў ён, Андрэй, і ўсю чыстую лучку якраз процi сухой бугрыны і процi Зашыйка аддалі Булку з ваеннымі. Ставілі ўсіх без жэрабя. Нумаркі цягнуць з шапкі не даў Унук — счапіўся ля канторы з Падбярэцкім. Няважна, хто заб'е, важна забіць. Ён адразу ставіў усярэдзіну ваенных. «Яны — не мы. Калі мы бяром у рукі гэту ламачыну?» — паказаў ён на двухстволку. Пасля, як ужо ўсе аціхлі, сказаў, што чорт яго ведае, на каго пойдзе звер, што, можа, якраз папрэ на таго, хто будзе стаяць з самага краю, але сказанага не адмяніў: ваенныя стануць у цэнтр. Ваенныя тады маўчалі, сабраліся толькі адразу ў кучку ля Булкі. І тут, на Кладках, астаўшыся адны, яны адразу акружылі Булку: самі рашалі, дзе хто стане.

Унук стаў ля ваенных пад старой елкай з нізкімі лапкамі; падміргнуў і кіўнуў на ваенных галавой: падвучыцца... Прыхінуўся спінай да камля, выткнуўшы ўперад круглы жывот з бліскучай белай спражкай на дзязе. Падняў ружжо, узяўшы ля курка, лёгка, як сухі сук, і зладзіўся: прымяраўся, як будзе стаяць пасля сігналу ад загоншчыкаў. Андрэй хацеў сказаць, каб ён адсунуў спераду спражку, але махнуў рукой: пачнуць страляць — зверу будзе не да спражкі.

Ля Унука пакінулі братоў Канэцкіх — тыя сталі бліжэй адзін да аднаго, чымся другія, і адразу адшпілілі сумкі з патронамі. Глядзелі ўсё на неба — на хмары. Меншы Канэцкі стаяў ужо ў кустах: зноў на Кладках пачынаўся бярэзнік — падыходзіў з Каралінскай пасекі.

У бярэзніку астаўся і Падбярэцкі — на сцежцы: Кладкі ўжо кончыліся — і, павярнуўшыся да Канэцкіх, махаў ім нечага рукой. Ружжо, старую двухстволку, дзяржаў у руцэ, як і ўвесь час, калі ступілі на Кладкі. У сівой выгаралай фуфайцы, сагнуты, ён зліваўся з выцвілай леташняй травой на высокім куп'і. Не мог устояць на месцы — таптаўся. Быў сёння з самай раніцы вясёлы і рухавы — недзе ўжо справіўся выпіць, не дома: з дому ён ніколі п'яны не прыходзіў. Адлучыўшыся ля канторы ад Канэцкіх, ён падыходзіў і загаворваў з кожным. Загаварыў і да Андрэя. Нешта, мусіць, пытаўся — Андрэй не помніць, не пачуў добра і нічога не адказаў: пытаецца і глядзіць у вочы, бытта ў кузні нічога і не было...

Адышоўшыся ад Падбярэцкага, Андрэй стаў на сухім выкашаным кавалку — адскочыла ўжо атава — пад старой, шэрай ад бугроў бярозай. Уперадзе на гладкай жыле ля Зашыйка было чыста; толькі недалёка ў дробнай ніцай лазе — яе не збілі касой — відаць быў плоскі доўгі валун і блішчаў на сонцы, як ад вады. Можа, хто ляжаў на ім мокры, ды яго падрушылі, падышоўшы...

Стралкі стаялі не так ужо густа: Андрэй бачыў здалёку толькі меншага Канэцкага; Падбярэцкі, які быў бліжэй, схаваўся з воч. Каб не ваенныя і не Булка, трэба было б яшчэ вярнуцца, праверыць усіх, тады даць сігнал Рускаму, самому астаўшыся ля Кладак ля настаўніка ці пабегшы ў загон: загоншчыкаў на такі Зашыек мала. Але Булку з ваеннымі правяраць не трэба, а па другіх — хоць збоку стой: звер як ішоў, так і пайшоў — Андрэй на іх не спадзяваўся.

Падняўшы руку, ён чакаў, пакуль зноў пакажацца Падбярэцкі. Калі той, павярнуўшы галаву, глянуў у гэты бок — здалося, надта ўжо зблізку, як усё роўна падышоў, аж белая лысіна відаць з-пад ссунутай на патыліцу кепкі,— Андрэй махнуў рукой два разы. Убачыў адразу, як затраслося над меншым Канэцкім на бярозе галлё — той быў зачапіўся, махаючы; пасля ўсе як праваліліся скрозь зямлю — маскіраваліся.

На Кладках стала ціха. Ціха было і ў Зашыйку і далёка на Задніх, там ужо дагэтуль недзе разышліся загоншчыкі.

Андрэй адразу стаў чакаць, узяўшы на рукі двухстволку, хаця сігналу — стрэлу ад загоншчыкаў — яшчэ не магло быць: рана. Глуха застукала ў грудзях сэрца. Ён цвярдзей прыціснуўся да шурпатай бярозы. Глядзеў адно на чыстае — на камень — не зводзячы вачэй.

У Жыліне — як і на пасецы, калі яны ішлі,— лётаў белы пух — камячкамі. Ветрам яго гнала сюды, на Кладкі — здавалася, ішоў рэдкі снег. Схмурэла. Сонца толькі было знаць далёка за шэрымі лянівымі воблакамі — стаяла на адным месцы белая вялікая круглая пляма, зыркая — не глянуць. Над самым Зашыйкам па белых расцягнутых палосах паплылі чорныя хмары, нізкія, круглыя, як у клубках. За імі ззаду разлілася чырвань. Так бывае рэдка — на град.

Недзе ў бок Камена над Віліёй загрымеў гром, далёка, як злавіць вухам, што ўсё роўна хто гукаў, заблудзіўшыся. Андрэю здалося раптам, што ён у акопе пад Каменам і збоку ў яго не Падбярэцкі, а Рукалееў — схаваўся ў акоп з галавой: пачалі біць з мінамётаў — пойдуць немцы.

Пуста неяк стала ўсярэдзіне. Ён павярнуўся і паглядзеў на Кладкі. Нідзе нікога. Усюды было ціха, толькі пачынаў шумець у Зашыйку лес, густа, насцярожана... Збоку, недзе ў ельніку, зашапацела ад ветру асіна — як хто праехаў блізка з возам сена, абцёршыся аб кусты. Азірнуўшыся, Андрэй згледзеў недалёка ля ельніку рабіну, старую, разгатую, усыпаную ягадамі. Ягады былі жоўтыя, як афарбаваныя, на самым версе пачыналі чырванець — як жар. Запахла аднекуль уляжалымі дзічкамі, ці дзе блізка ля балота на пасецы расла дзікая яблыня, ці пахла на балоце ў гразі стаптаная трава рабінка. Яна пахне дзічкамі нават зімой, калі выцягнеш яе са жменяй сена са сцірты додніцай, даючы карове.

Вецер дыхнуў з зямлі — запахла сырой тванню і свежым наламаным бярэзнікам: яго наламалі і насцялілі ў гразь за Кладкамі. Нехта нядаўна звозіў з жылы сена — знаць яшчэ быў па траве чорны след ад калёс.

Затрашчала ў Жыліне сарока, спопаразку, як спужаная. Андрэй адразу падняў двухстволку: сарока ў лесе та́к не адзываецца. Але было ціха. Толькі шумеў глуха Зашыек, і ўперадзе за каменем краталася ад ветру высокая старая папараць, усё роўна як людзі махалі рукамі — шырокімі далонямі.

Ён падумаў, што доўга ўжо чакаюць, што за гэты час мог дабегчы на Заднія Рускі...

Зноў затрашчала ў Жыліне сарока, далей, пад самы Зашыек, і тады адразу на Задніх пачуўся стрэл. Здалося, што стралялі зусім блізка, у Зашыйку...

Рвануў вецер. У Жыліне нагнуўся аж да зямлі дробны бярэзнік і затраслася ніцая лаза. Пагнала белы пух, што з шуфля. Жыліна зрабілася белая, як у мяцеліцу. Пух

ляцеў у вочы, хоць абцірайся, чапляўся ля кустоў за сухую неабкошаную траву, плаваў, круцячыся, па вадзе ў лужыне ля ног, каліпаў на мокрыя халявы ў ботах...

Схавалася зусім сонца, і адразу сцямнела, як вечарам. Застагнаў лес у Зашыйку, зашумеў над галавой бярэзнік, лопаючы дробна лісцем. На Кладкі поўз нізкі — чапляўся за лес — руды туляг, за ім на ўсю Каралінскую пасеку расцягнулася сівая, аж белая, хмара — завесіла неба, як суравым абрусом. Бліснула ўгары над самымі Кладкамі вастранькая і кароценькая, як гадзюка, бліскавіца, і адразу недзе блізка ўдарыў пярун, як усё роўна спераду па камені. Запахла дымам, што з кузні з горана.

Вецер адразу змяніўся: стаў халодны і калючы, як зімой, калі заходзіў з Курачовых Цянёў, дзьмуў з Жыліны, і выразна былі чуваць на Задніх мужчынскія галасы. Здавалася, мужчыны крычаць па ўсім лесе. Стралялі з бакоў — ля Белай дарогі і на пасецы, куды пайшоў Гладкі.

Андрэй злажыўся і стаў чакаць, углядаючыся пад вецер у Жыліну. Бачыў перад сабой у канцы ствала шэры плоскі камень — да яго нагіналася ніцая лаза і бярэзнік, які кратаўся па ўсёй Жыліне,— зламі, дзе будзе беґчы звер... Ён доўга стаяў — на рукавы нагнала жоўтых, невядома якіх, квят і дробненькага насення ад мятліцы з пасекі, як патрухі. Зверху, калі не рваў вецер, падала зялёнае бярозавае лісце ў гразь і ў мох пад самыя ногі.

Зрабілася зусім цёмна. Здалося, зарыкала на Каралінскай пасецы скаціна: азваліся, мусіць, ля Віліі перад бурай ласі.

Ён кінуў вокам удоўж Кладак — нікога не было відаць: ні Падбярэцкага, ні Канэцкіх, як пазбягалі. Ён стаяў і слухаў, як стогне на Каралінскай пасецы хмара, як шуміць Зашыек і галяшуць на Задніх мужчыны. З ветрам панасыпалася зверху дробная, як пыл, і халодная імжа; пасля адразу зашастаў па лісці град, рэдка і моцна, як хто кіем. Руды туляг стаяў над самай галавой — што ўсё роўна круціўся на адным месцы. Зноў ударыў гром, прагрукаў над усім Зашыйкам з канца ў канец. Сівое неба палasaвалі без аддухі доўгія, як вяроўкі, бліскавіцы.

Град быў ацiх, тады сыпануў, як з шufля: зашумеў па маладой атаве, секучы яе ля ног, як касой... З цёплай зямлі пайшла сівая пара. Жыліну адразу зацягнула туманам. Шумела ўгары хмара, і крычалі недзе блізка ў Зашыйку мужчыны, як усё роўна ратуючыся ад дажджу. Здавалася, знікла, пахаваўшыся на той свет, усё жывое, толькі стаіць усюды шум: угары і на зямлі...

І тады Андрэй пачуў, як стрэлілі на Кладках. Адзін раз, пачакаўшы — другі. Пасля пачалі страляць недзе ў прагале проці Зашыйка — мусіць, ваенныя.

Сярбелі ад граду шчокі, і Андрэй, выцершы іх мокрай даланёй — цякло з рукава, зноў пачаў узірацца ў Жыліну. Яе зусім заслаў туман, як ноччу, не было відаць ні каменя, ні папараці... На Кладках воддаль стрэлілі яшчэ два разы; пасля там загаманілі і адразу сціхлі. Перасталі крычаць у Зашыйку і загоншчыкі.

Андрэй доўга яшчэ чакаў, гледзячы ў Жыліну — на плячах пачала прамакаць фуфайка. З яе цякло на штаны, і яны, халодныя, ліплі да калень. Дождж сыпаўся густы, як з рэшата, уперамешку з градам; на лужынах ля ног набухалі бурбалкі, вялікія, па бульбіне. Вецер сціх, чуваць было толькі, як шапоча па лісці град.

Андрэй падумаў, што аблаву сарвала.

На Кладках загаманілі, і адтуль узляцела ўгару зялёная бліскучая ракета — пусцілі ваенныя. Ракета высака паднялася над Зашыйкам і рассыпалася. Адбой... Значыць: разыходзіцца — так было дагаворана. Павыходзілі з засады, і ніхто не мае права пасля ракеты страляць ці бегчы, наважыўшыся, за падбітым зверам. Можна стрэлам зачапіць каго. Андрэй плюнуў: «Пякло ўсё лета, як на скаварадзе сядзелі, а тут — град. Пасек усё на свеце. Дабіў недзе і на полі тое, што яшчэ асталося, не згарэла за лета. Збярыся во так што зрабіць — ніколі не зробіш... Сарвала аблаву...»

На Кладках трубілі ў ствол і гаманілі — клікалі. Пабеглі, відаць, усе на бор да зямлянак — хавацца пад елкі. Чуваць было яшчэ, як крычалі недзе пад Белай дарогай — мусіць, загоншчыкі. Град яшчэ ішоў, то прыпускаўся нанава, то радзеў. На атаве ляжалі буйныя, па гарошыне, белыя друзалачкі лёду. Змецены ў кучкі ветрам, як венікам, моклі, набракаючы вадой і цямнелі. З-пад іх тырчала зялёная маладая атава, што ўсё роўна пусцілася расці...

Буры туляг угары распоўзся, неба ўсюды зрабілася сівое — пад'яснілася. Град перастаў, пайшоў роўны густы дождж — вылівень. Аціхлі на Кладках галасы. У Жыліне сабраўся ў кучу туман і стаяў за каменем ля ельніку, хаваючы ніцую лазу. Нізка, недзе над самай галавой, мігнула бліскавіца, белая, аж сіняя... Пацямнела ў вачах... Ударыла збоку на Кладках, дзе нядаўна чуваць былі галасы...

І тады Андрэй згледзеў, як адтуль, дзе вісеў туман,

выкаціўся цёмны, шырокі і бліскучы ад вады мядзведзь — бег якраз на камень. Прабяжыць на чацвярэньках, падымецца на заднія лапы: паводзіць галавой і зноў валіцца на чацвярэнькі і скача, падкідаючы высака зад.

Немаведама адкуль ён узяўся ў Зашыйку... Можа, атабарыўся на лета ў глухім воўчым месцы? Худы, як усё роўна змардаваны голадам ці падбіты, падрушаны галасамі і стрэламі, звер ішоў на Каралінскую пасеку, можа, каб сысці за Вілію і ніколі не варочацца ў гэты бок, дзе машыны, людзі і адны нецiхоты... Невядома — ці ляжаш на зіму і ці даляжыш ціха да вясны...

Андрэй пачуў, як пацякла спераду па грудзях пад кашуляй цёплая вада... Абмярцвела адразу, як усё роўна аднялася ў плячы, балючая рука...

Ён падумаў, што мядзведзь скача якраз гэтак, як вясной на Доўгіх — высака падкідае зад,— што гэта той самы... Не сышоў дагэтуль, ходзіць кругa вёскі... Падумаў пасля адразу, што ў ствалах буйная карцеч — па ваўках ён біў буйнай.

Калі звер, дабегшы да каменя, стаў на заднія лапы і зноў пачаў вадзіць у бакі галавой — пачуўшы, ішоў на чалавека,— Андрэй злавіў яго на мушку — лучаў між лапатак — і націснуў на куркі: на адзін і адразу на другі...

Астыла на грудзях кашуля, зрабілася што лёд...

Яго ўсяго схапіў холад...

## 11

Седзячы ў канторы на лаве ля акна, Андрэй чуў, як стукалі і стукалі ногі: на ганку звонка і чыста — высака была падлога; у калідоры, ля дзвярэй у магазін,— густа, не перастаючы: па доўгім калідоры людзі хадзілі з канца ў канец, атрасаючыся ад вады і грэючыся; у канторы — ціха і мякка — людзі асцярожна шасталі гумовымі ботамі спачатку ў парозе ля грубкі, пасля ля сцен; тады разышліся па ўсёй канторы, хадзілі з кутка ў куток, нарабіўшы слядоў ад ботаў па жоўтай падлозе — доўгіх, крывых; панасілі з двара жвіру, шылля, размоклага сена і белых галовак ад дзяцельніцы. Пачыналі гаварыць адзін з адным, крычаць на чым свет стаіць — клялі і дождж, і ваўкоў, і магазіншчыцу, якую дагэтуль не мог ніяк прывязці Арціст.

Андрэй, паставіўшы двухстволку ў парозе ля грубкі, пайшоў сеў адразу з краю на лаве ля акна ад студні. Праз акно была відаць рудая куча пілавіння — мокрая зверху, з яе ішла пара,— і па зямлі адтуль цякла, як усё роўна

ў канаве, вада, змываючы і несучы да студні ў ніжэйшае месца кару і дробныя жоўтыя трэскі.

Дождж не сціхаў, ішоў густы і роўны, прыпускаючыся, бывае, як з вядра,— тады на двары ля студні і за дагорай на пасецы рабілася шэра, з зямлі падымаўся туман, як дым з вогнішча, якое залівалі вадой... На шыбах цяклі шырокія рагалы чыстай, як спірт, вады; угары, дзе не так сек дождж, віселі на шкле буйныя, па гарошыне, кроплі. Па сцяне з двара як хто вадзіў гальнікам, абмятаючы,— пачынаў рваць вецер. Аблажыла, хмары беглі з Курачовых Цянёў, што ўцякаючы, нізкія, шэрыя, паблочаныя, як увосень.

Андрэй пачуў, як яму зноў робіцца холадна ў плечы ад акна — ніяк не можа сагрэцца.

Унук — ён сядзеў за сталом і, расшпіліўшыся, выціраўся хустачкай — клікнуў Падбярэцкага з калідора і загадаў падпаліць у грубцы.

— Выцягнеш ногі, як ваўкі, так насклеўшыся,— кіўнуў ён галавой у акно — на ганак.

Падбярэцкі адразу прысеў ля грубкі, адчыніў дзверцы і зашастаў сярнічкамі. Андрэй падумаў, што ў Падбярэцкага круглы жывот — цяжка ўжо згінацца. Пасля Падбярэцкі прынёс ад Шуры дроў, яловых, белых, зноў прысеў і, дастаўшы з кішані складаны нож, пачаў стругаць смаляк. Агонь ён расклаў адным махам — смалякі пыхнулі, як порах. Ён доўга яшчэ згінаўся ля грубкі — накладаў дроў, адтатурваючы зад, як чарвяк паўзучы. Андрэй адвярнуўся і зноў пачаў глядзець у акно.

Са стрэх цурчом лілася вада, размываючы пад прызбай усё на свеце. У вымоіне было відаць белае карэнне ад травы — глыбака пайшло ў зямлю, пускаючы атожылле. Вымытае на дажджы, яно было чыстае, як крухмал.

Андрэю раптам здалося, што ён ідзе па полі за плугам, як хадзіў даўна, да вайны... Пахне з баразны чорная вільготная зямля. На бліскучай раллі ляжаць белыя чэрві і белае карэнне ад пырніку. Зграбеш жменяй, каб скінуць дзе на абмежак у кучу — карэнне пахне зямлёй, густа і свежа, аж круціцца ў галаве...

Заўтра трэба ехаць пад Полацк — назусім...

Ён злавіў сябе на тым — першы раз, калі вярнуўся з бальніцы,— што яму не хочацца ехаць: як хто не дае. Усё роўна як ён ідзе, а яго нешта цягне назад.

Ён яшчэ раз глянуў на белае карэнне пад прызбай — яно краталася, дрыжучы, на яго лілася вада — і махнуў рукой, каб на ўсё зноў забыцца. Слухаў, як трашчаць у

грубцы яловыя дровы, як стукаюць і стукаюць нагамі ў канторы людзі, а на душы ў яго было трывожна.

Паехаць то ён паедзе... Толькі б не заўтра. Абсушыцца не справішся.

Грымеў яшчэ на двары недзе блізка гром, нехта грукаў у калідоры аб падлогу прыкладам, і гаманілі без сціханага людзі.

Андрэй пачуў, што не можа сядзець. Устаўшы, ён выйшаў на ганак.

Усюды шапацеў дождж; у лесе, ля дарогі на Курачовы Цяні, вісеў сівы туман; туман збіраўся ў кучу і ў кутку ля канюшні. Пахла свежай золлю; у гародчыку ядрана блішчалі кветы на юргіні — абмытыя дажджом, адразу паднялі галовы. Ля ганка на прыбітай рудой траве краталася шырокае свежае і здаровае жоўтае бярозавае лісце — яго нагнала з лесу ветрам. Андрэй падумаў, што ўслед за гарачынёй прыйшла адразу восень, што ля канюшні ў лесе пасля такога дажджу высыплюць баравікі — маленькія, чорненькія, яны будуць кучкамі расці ў верасе ля старых сцежак, якія вытапталі коні.

Успомніў тады, што няма ўжо на ўчастку коней, звязуць скора канюшню, і баравікі ля сцежак па верасе будзе збіраць кожную раніцу не ён, а нехта другі — дзеці з вёскі.

Ён згледзеў, як на двары ля ганка, стоячы пад самым капяжом, сцюцюрыліся хлапцы Юбіцкага — большы і меншы. Большы — гадоў сем — быў без кепкі, стрыжаны, бялявы. Моршчыўся — у вочы сыпалася імжа — і смаргаў носам. Быў абуты ў чорныя, размоклыя на дажджы чаравікі. Меншы быў у вялікай чорнай кепцы — насунулася аж на вочы; з'ехалі штаны, і на спіне свяціла голае цела — вузкай белай палоскай. Хлопцы перагнуліся цераз сырую ад вады пярэчку і глядзелі на ганак — на ваўкоў. Андрэй крыкнуў, каб беглі — чортавы дзеці! — дамоў на печ ці ішлі ў кантору: падохнуць на дажджы. Хлапцы сморгалі насамі і глядзелі на яго знізу ўверх хітрымі круглымі вачыма: нікуды ты нас не прагоніш і нікуды мы не пойдзем. Вочы ў іх абодвух былі жаўтавыя, як у самога Юбіцкага. І галовы такія лабатыя, як у бацькі, і насы — маленькія, кругленькія: маладой дробнай бульбінкай.

Хлапцы пасля крыху пасмялелі і ўзлезлі на ганку на пярэчку, атрасаючыся ад вады, што куры: глядзелі, утаропіўшыся, на ваўкоў. Ваўкі ляжалі на ганку на мокрай — заносіла дождж — падмеценай падлозе. Падмяла Шура: папрасілі, прыйшоўшы з лесу,— на падлозе знаць

яшчэ мокрыя палосы ад веніка. Тры ваўкі ляжалі збоку ля пярэчкі — іх падбілі ваенныя; ваенныя і няслі іх на плячах з лесу — капала вада цурком і ў ваенных з вялікіх круглых фуражак, і ў ваўкоў з лап.

Чацвёрты — пярэзімак,— выкачаны ў гразь, у руды торф, ляжаў ля другой пярэчкі. Яго падстрэліў невядома хто: ці браты Канэцкія, ці Падбярэцкі. Усю дарогу яны тузалі яго за ногі — цягнулі кожны сабе.

Трох ваўкоў паклалі адзін на аднаго, і добра быў відаць верхні — ляжаў, ажаргаўшы ніжніх дваіх, як усё адно жывы прываліўся жыватом дзе на сухую, выгаралую на сонцы рудую купіну.

Кароценькія, шыракаватыя вушы ў яго стаялі, натапыраныя ў кантору ў дзверы, нібы звер чакаў, што адтуль выйдуць людзі, і баяўся. У вушах у яго былі глыбокія дзіркі, усярэдзіне ў дзірках, як усё адно ў лісціне, калі скруціш, расла густая поўсць, аж круцілася ў касмакі. Вочы ў яго былі цёмныя і як усё роўна са шкла; ля зрэнак закруціліся жоўтыя абадкі — гарэлі здалёку познім асеннім бярозавым лісцем, халодным і патухлым. І каля вачэй расла жоўтая поўсць, як мох дзе па краёчках на купіне; канец носа з шырокімі дзіркамі быў чорны, як вугаль. Зубы ў ваўка былі сцяты — абвісла ніжняя пыса з рэдкімі доўгімі валасамі, і яны былі відаць — жоўтыя з чорнымі і тупыя, сцёртыя. Воўк быў стары, чорт ведае колькі яму можна было даць гадоў: можа, гэтулькі, колькі жывуць ваўкі. Можа, гэта ён, цяпер стары, укарчэлы, прадзьмуты наскрозь за сваё жыццё зімовымі вятрамі, падыходзіў з «вяселлем» да вёскі яшчэ адразу пасля вайны і падаваў галодны голас, ад якога мароз ішоў па скуры?.. Браць цяпер прамгасаўскіх жарабят ён не мог — з такімі зубамі толькі канец вяроўкі сусліць,— але ён быў стары, вопытны і вадзіў, недзе, на лог да вёскі маладых: ваўкі прыходзілі па двое і па трое. Можа, і ляжыць ён цяпер на ганку на драўлянай падлозе з тымі, з кім хадзіў на Доўгія пад Жоглаўку і на лог пад Луськае, куды ганялі з канюшні жарабят? І сёння, можа, выводзіў маладзейшую за сябе ваўчыцу і маладога пярэзімка з Зашыйка, асцярожна — не ішоў прама па лініі, а ніцай лазой — вёў на Каралінскую пасеку ад стрэлу, крыку, ад людзей і лучыў на ваенных. Карцеч секанула яму на пярэдніх лапатках — па сэрцы. З поўсці яшчэ цячэ і капае на падмеценую падлогу кроў — дробненькімі чырвонымі кропелькамі, як рэдкая вадзіца ад брусніц.

Поўсць збоку, дзе сочыцца кроў, мокрая; зверху па

хібе ўжо высахла і стаіць — што ўсё адно воўк атросся ад вады — у чорныя, жоўтыя і дробныя, як згледзець, белыя пляйстры. Круга вушэй і нізка пад вушамі ў яго стала рабіцца жоўта; пад жыватом поўсць сівела і выпадала. Хвост, доўгі, з аршын, зрабіўся што венік — на ім натапырылася поўсць, як іголкі. Канец хваста, абтаптаныя лапы і калені на пярэдніх нагах пачарнелі, як і нос. Воўк абсыхаў і, здавалася, аджываў. Падняліся над вачыма прыліплыя валасы, ашчэрыўся раптам рот, чырвоны ад крыві і сліны; пасунуліся па падлозе ўперад да дзвярэй пярэднія лапы, нібы воўк наважыўся скочыць на здабычу, як скакаў усё сваё паганае доўгае жыццё: змалку да самай старасці, калі і скочыць далёка не мог...

— Ану, дзеці, марш адсюль! — крыкнуў Андрэй яшчэ раз на хлопцаў.— Каб і духу вашага тут не было.

Хлапцы пабеглі да канюшні па дажджы: большы наперадзе, меншы ззаду.

З коміна пахла дымам ад смалякоў.

Андрэй ніяк не мог сагрэцца; цягнула да людзей. Ідучы ў кантору, ён яшчэ раз зірнуў на верхняга ваўка — здалося, воўк пасыпаны чорнай сажай... Здалёку — з калідора — здаўся бурым, што мядзведзь...

Пра мядзведзя ён нікому не сказаў. Страляў у ваўкоў — ішлі на пасеку. Адзін ці два — ліха іх ведае. Згледзь такім безгалоўем. Лучаў у аднаго і не лучыў...

Толькі чаму звера пасля стрэлу не было ля каменя? Нідзе не было. Як языком злізала. Але ж такі звер чалавека не выпускае. Ці сам ляжа, ці чалавека кладзе. А тут саступіў... Хоча жыць, відаць, ля Мсціж, раз не сышоў нікуды. Толькі яму не даюць людзі... Не дае ён, Андрэй. Нібы яму зрабілася цесна ў лесе, цесна на гэтай зямлі; нібы ў яго толькі і бяды — не даць некаму жыць, каб яно прахам пайшло. Ды па ім, па Андрэю, жывіце вы ўсе — і чорныя, і бурыя; жыццё толькі, вот, ставіць аднаго проці другога. А тады ўжо — хто каго... Раз стаў лоб у лоб — то калі не ты, дык цябе, як тады, у вайну, пад Каменам. Стралянь яшчэ, мусіць, прыйдзецца, і асколкі будуць даставаць з плячэй, свет і цяпер падзелены надвае. Толькі, вот, страляе ён ужо — дрэнь. І другі раз у звера, відаць, не лучыў... Сам падбіты, як варона. Тут трэба маладзейшым біць. У іх рука і вока — як у ваенных з гарадка. Тады і ваўкоў бітых будзе не адна куча на ганку.

Толькі куды схінуўся звер? — не выходзіла ў яго з галавы. Трэба слухаць, дзе ён ачуецца. Блізка падышоў да вёскі...

Зноў пацягнула ў грамаду да людзей.

Яшчэ ля дзвярэй у магазіне ён пачуў, як некаму ў канторы ў парозе ля грубкі расказваў пра яго, Андрэя, Падбярэцкі. Мусіць, Фарафонаву, бо той, чуваць было, кашляў, тады бубніў: «Ну-ну»,— тоўста, як у бочку.

— Вот мы тут пра гэта самае...— гаварыў Падбярэцкі.— Ну, як табе сказаць...— Падбярэцкі стаў гаварыць цішэй.— Вот я табе пра Вялічку пачаў... Прыйшлі мы раз з ім да яго дамоў, дождж такі лупіў, як цяпер, восень. Ну, ён — бутэльку на стол. Чалавек ён не скупы, хоць сам і не п'е. Ну, ты сабе не пі, а чаму гэта я так буду сядзець? Адну рубцаватую шклянку, другую... А тут Верка яго — здаровая яшчэ была — цераз парог: «Вон!» Андрэй і так і сяк: «Астынь...» А яна: «Вон, і ўсё...» І яго прэ вон разам са мной. Ну, ён як сабе хацеў, а я адразу з-за стала: па гэты раз... У самом-то дзеле... Згары ты, баба,— была скупая і здохнеш скупая. Асталіся яны адны, крычалі яшчэ нечага ў хаце. І думаеш, Андрэю што? На душу лягло. Помню, хаваем Верку, па жмені зямлі ўсе сыпнулі ў яму. Пясок са снегам ссоўваюць мужчыны рыдлёўкамі. Андрэй стаіць збоку, апусціўшы рукі. Ён-то нічога не відзіць, а я ўсё віджу. Сонца якраз над полем ля Луськага паказалася. Жоўтае такое, выехала з хмары... А ён глянуў на яго і ўсміхнуўся... Чалавек усё помніць. А бабу ён сваю любіў і цяпер яшчэ нудзіцца па ёй. Хвацкая была баба...

Андрэй памалу ішоў да дзвярэй у кантору і чуў, як у яго ўсярэдзіне кіпела. Закашляў Фарафонаў, згледзеўшы яго, падняў галаву Падбярэцкі — сядзеў ля грубкі на калодачцы і грэў ля дзверцаў рукі, растапырыўшы пальцы. Андрэю здалося, што не выцерпіць, падыдзе і зноў схопіць Падбярэцкага за́грудкі, як у кузні, не пабаіцца, што побач Фарафонаў. Ён стаў у парозе і глянуў на Падбярэцкага. Убачыў, як у таго загарэліся вочы. Тады падумаў адразу, што не стане пэцкаць пры людзях рукі, што вочы ў Падбярэцкага жоўтыя, як у ваўка, што ляжыць, астыўшы, на ганку на падлозе. Ён абышоў Падбярэцкага: ні за які стол не сядзе побач — прыедзе магазіншчыца ці не прыедзе. Той толькі і чакае, калі яе прывязе Арціст, каб набрацца за чужое. Ніколі ж не плаціў у грамадзе, не меў у кішані. Калі скідаліся, прасіў залажыць. Закладалі, рабочы чалавек добры. Пасля, калі напіваліся, збіраў парожнія бутэлькі, адносіў здаваць і варочаў грошы.

Чалавек жыў як грыб на бярозе...

Андрэй падумаў: цаніў невядома за што чалавека...

У канторы пахла дымам з грубкі і стаяў несціханы вэрхал. Пасеўшы за грубкай, курылі ваенныя з гарадка і гаварылі адзін перад адным, як куды спяшаючыся; ад іх не адыходзіўся Булка. Паклаўшы галаву на рукі на стол, іх слухаў здалёку Унук. Пасля падскокваў на крэсле і крычаў ім на ўсю кантору: «Малайцы, чэрці...» Падбярэцкі павёў ад грубкі Фарафонава да братоў Канэцкіх — тыя стаялі ў самым кутку ў канторы, дзе на падлозе ляжала звязаная ў пачкі папера,— павёў дзяліць маладога ваўка: старэйшы Канэцкі збіраўся кідаць угару пяць капеек. Паспрабуй змер дранкулькі і рану ў ваўка ля вуха — стралялі ж адразу трое: Падбярэцкі і браты Канэцкія, а адзін нехта лучыў у галаву, знайдзі хто. Лягчэй падкінуць пяць капеек. Жоўтая новая манета доўга круцілася на падлозе і лягла ўгару пяцёркай... Маладога ваўка браў Падбярэцкі. Да яго падскочылі браты Канэцкія і пачалі тармасіць за плечы — дапаганялі бутэльку. Падбярэцкі прасіў пазычыць «траячку». «Траячкі» яму ніхто не даў: ні Фарафонаў, ні Канэцкія. Да другіх ён не адважыўся падысці і чакаў, пакуль прыедзе магазіншчыца.

За Канэцкімі сачылі ваенныя з Булкам і Унук; адзін Левановіч хадзіў па канторы з кутка ў куток і свістаў, не гледзячы ні на кога. За Унукам, за плячыма, абапёрся на шафу настаўнік. Без кепкі, абмыты, з прылізанымі мокрымі бліскучымі чорнымі валасамі, ён, здавалася, зусім яшчэ быў малады.

А ў канторы не сціхалі: павыходзілі з куткоў на сярэдзіну...

— Ён спачатку схапіўся зубамі за жывот... Трэба пашукаць яшчэ адну рану. Я пад лапаткі браў...

— Ад жывата воўк ніколі не здыхаў...

— Га-га-га...

— Дурны. Бег удоўж Кладак. Адзін не асмеліўся пайсці на прарыў...

— Чуе людзей, зараза. Не так людзей, як гар са ствала. Прынёс нехта нячышчаную ламачыну на балота.

— Падбярэцкі...

— А ў таго, што Булка аблажыў, дык карак увесь выцерты. Авечак насіў... Трэба з калгаса прэмію спагнаць...

— Прэмію... Скора штраф плаціць будзеш. Чуў, што ваўкі — санітары? Лес ачышчаюць ад хворых і ад слабых? — гэта ўмяшаўся Левановіч. Стаў пасярод канторы, сказаў слова і зноў пачаў хадзіць і свістаць.

— Саніта-ары... Значыць, калі ты дужэй... Значыць, хто каго зграб, той таго і ўмурлычыў?.. Не-е... Воўк у нас — самае зло. Чэцвера жарабят за лета... Палучаецца тады, што зло і біць ужо няма як? — да Левановіча выцягнуў з-за стала руку Унук, як прасіў чаго.

— Ну-у... Зло не пераб'еш. Знішчыш адно — паявіцца другое...— стаў проці Унука Левановіч.— Там, дзе памянела ваўкоў, падышла рысь. Ведаеш, колькі рысі трэба з'есці зараз? Кавалак з курыцу — і ўжо абжорлася. А яна карову адразу рэжа. Пад хвастом выгрызае, і ёй больш нічога не трэба... Гэта, брат, страшней за ваўка. Чалавеку яна на карак скача, як жывёле, ломіць хрыбетнік...

— Запеў, брат... Страшыць пачаў. Раскажы лепш, як у садок ваўкоў лавіў, калі яшчэ рабіў у Востраве. Хай людзі паслухаюць...

— Ну, ты, Фарафонаў, з мяне зубы не скаль. Я старэй за цябе...

— Калі ты ўжо такі бяззубы воўк, дык я за цябе сам раскажу. Не махай рукой і не мазоль вочы. Падыдзі лепш да грубкі пагрэйся, калі косці старыя намачыў...

— Га-га-га...

Цяпер Фарафонаў заняў Левановічу дарогу ў канторы — хадзіў сам з кутка ў куток, заганяючы пальцамі назад за спіну фалды пад дзягай на гімнасцёрцы. Адсунуў назад і кабуру з пісталетам.

— Паставіў Левановіч садок,— гаварыў ён і сачыў спадылба за Левановічам.— Сам тут, зманіць не дасць. Падлы зад зацягнуў, прывёзшы з фермы... Прыйшоў назаўтра раніцай, у калядніцу было,— а там повен садок ваўкоў. Як забег адзін, дык за ім усе, галодныя. Уцякаў Левановіч ад садка, крыла ўразаючы, не дасць сам зманіць...

— Ну, брэша ж... Брэша...— Левановіч кратаўся ўвесь, стоячы ля стала проці Унука.

— Дай сказаць...— вадзіў пальцамі пад дзягай Фарафонаў: — Лячэбніца твая далекавата была ад Вострава ў кустах. Не клікнеш нікога.

— А што тады? — спытаўся ад акна Булка.

— Не чуў? Папрасі, хай сам раскажа. Я табе не буду...— Фарафонаў памаўчаў.— Хе-хе...— усміхнуўся ён пасля, паказаўшы пальцам да стала на Левановіча.— Сам ён не раскажа. Умеючы чалавек рабіў. Добры нюх мае на звера. Любіць гэта дзела. Яшчэ ўвосень, калі бульбу выбіралі, высадзіў ён на лажку так ганей за двое ад сваёй лячэбніцы садок з бярозавага жэрдзя. Па-кніжнаму ўсё рабіў, вычытаўшы. Дзвярэй адразу не вешаў. Косці пад-

кіне, цялё здохлае. Ветэрынар, падлы хапае... Прывучыў ваўкоў, падкормліваючы... Вот яны зімой у мароз да яго з усяго лесу...

— Га-га-га...

— Ну, а што з ваўкамі? — не цярпелася Булку.

— Што? Левановіч, брат, хітры. Хітрэй цябе. З садка трэба браць ваўка пятлёй, па-кніжнаму. Душыць трэба. Жывога ж яго за поўсць не дастанеш адтуль. Воўк такіх штук не любіць, гыркае. А што стрэл? Ад стрэлу — кроў, а кроў ваўкі чуюць. Другіх ужо сюды не загоніш і талакой. А як ты перадушыш усіх ваўкоў, калі іх аж пяцёра зайшло?..

— Не пяцёра, а тры... Брэшаш жа...— не сцярпеў ляскала Левановіч.

— Га-га-га...— мацней за ўсіх смяяўся Унук, устаўшы з крэсла.

— Ну, і як? — выйшаў на сярэдзіну з-за грубкі ад акна Булка.

— Што «як»? Прыйшлося страляць так, каб кроў не ішла...

— Як гэта?

— Пад хвост...

— Га-га-га...

Ад смеху стагнала ўся кантора... Левановіч ляскала толькі круціў галавой. Усе заварушыліся, выйшлі на сярэдзіну і ваенныя, акружылі Фарафонава. Паднялі вэрхал; здалося, на свеце нічога больш няма, толькі ваўкі. Забыліся, што холадна мокрым у канторы, што паліцца ў грубцы, што на двары сячэ па вокнах калючы дождж...

Але на двары загудзела машына, праз акно ўсе згледзелі Арціставу «будку» — яна калыхалася з боку на бок па калдобах ля канюшні — і сыпанулі ў калідор. У кабіне здалёку была відаць чырвоная касынка — Арціст усё-такі прывёз Нінку.

На ганак ніхто не выйшаў, усе стаялі ля дзвярэй у магазін, закрыўшы праход у кантору.

Нінка саскочыла з падножкі на зямлю, не баючыся дажджу. Чырвоны плашчык і чырвоную маленькую сумачку з доўгай вузенькай ручкай, скамячыўшы, нясла пад пахай. Высокая, загарэлая за лета на сонцы, з высокім лобам і моднай круглай куклай на самай макаўцы, з напамаджанымі ў чырвонае вуснамі, яна ссунула з патыліцы на шыю чырвоную касынку і ішла да дзвярэй, ні на кога не гледзячы: ні на ваўкоў, ні на людзей. Яна была прыгожая, і ўсе глядзелі на яе, нават ваенныя. Па-

дышоўшы да грамады, яна сказала «здрасце» далёка ў калідор, дзе на парозе ў канторы ззаду за ўсімі стаялі Унук з Фарафонавым, дастала з сумачкі ключ, адамкнула замок, не гледзячы ўсё ні на кога, аднесла да сцяны завалу, адціснуўшы назад у калідор мужчын. Адчыніўшы дзверы — адсунуўшы іх адной рукой да сцяны, да завалы, яна, нічога нікому не сказаўшы, убегла ў магазін, зняла з акна, саставіўшы на падлогу, драўляную застаўку, кінула на яе плашчык і нехаця пайшла за прылавак. Праўляла на маўкаўцы валасы і абцягвала ў стане чорную шарсцяную сукенку — сумачка ў яе матлялася на руцэ ля локця.

Паклаўшы сумачку на прылавак, яна стаяла і глядзела спачатку на Падбярэцкага: «І выхаднога няма праз горкага п'яніцу, едзь выдавай яму...» — тады стала глядзець на ваенных, падабрэўшы з твару: памякчэла.

Падбярэцкі першы ўбег у магазін, але да прылаўка не стаў, адышоўшыся ў куток да грубкі, дзе была бочка з рыбай,— ад яе пахла на ўвесь магазін, за Падбярэцкім адразу хлынулі ўсе да прылаўка, зноў падняўшы вэрхал: нарэшце дачакаліся, чорт вазьмі гэту аблаву і дождж, пахці можна, калі не сагрэеш душу... Давай, дзяўчына, што там у цябе...

Нінка зноў стала чэрствая, стаяла, апусціўшы рукі, і глядзела на ўсіх, нічога не гаворачы і не робячы. Усе адразу сціхлі: яна не любіла гармідару — зморшчылася, як усё роўна ў яе балела галава... Пасля сагнулася, дастала нехаця з-пад прылаўка бутэльку «Маскоўскай», чыстай, як раса, паставіла перад старэйшым Канэцкім, ляснула адным пальцам на лічыльніках — паклала цану — і чакала, пакуль старэйшы Канэцкі адшпільваў гузік у кішэньцы на грудзях. Падняла раптам галаву і стала глядзець у парог, змяніўшыся неяк адразу ў твары; у парозе паявіўся Унук, відаць была адна лысая галава. Ваенныя адступіліся, і ён падышоў да самага прылаўка. Паглядзеў на ўсіх нейкімі ціхімі чужымі вачыма, тады прыпёрся да прылаўка — нахінуўся да Нінкі.

— Ты вот што... дзяўчына...— Унук маўчаў, не рашаўся нечага сказаць.— Не пужайся... Званілі, дзяўчына... Прасілі перадаць. Я, дзяўчына, і перадаю адразу, што ж ад цябе хаваць...

Унук сціх, маўчала і Нінка, бялела толькі на вачах, тады закрычала на ўвесь магазін:

— Што з ім?! Што вы гаворыце?..

— Ды вот тое і гавару, дзяўчына. Сягоння раніцай,

сказалі... Такі хлапец быў...— Унук уздыхнуў і зноў абвёў усіх ціхімі вачыма.— Зайдзі да мяне, дзяўчына...— кіўнуў ён галавой на дзверы і, угнуўшыся, пайшоў з магазіна.

— Ідзіце, людзі, ідзіце...— Нінка выбегла з-за прылаўка і пачала выпіхваць усіх рукамі.— Ідзіце, не стойце... Мне зачыніць трэба. Ідзіце...— яна гаварыла моцна і хапалася рукамі то за сумачку на прылаўку, то за плашчык. Сагнулася неяк адразу ўся, паменшала; ссунулася з плячэй і ўпала пад ногі чырвоная касынка. Касынку паднялі і падалі ёй ваенныя — нагнуліся адразу аж двое.

Апошні з магазіна выходзіў Падбярэцкі — Нінка не глядзела на яго: круцілася з сумачкай у руках ля прылаўка, як што згубіла. Падбярэцкі, што галодны сабака, азіраўся ўсё на прылавак, дзе стаяла не прынятая бутэлька.

Нінка замыкала магазін, а ў яе ўсё валілася з рук — зноў ёй памагалі ваенныя: падымалі жалезную завалу.

Ад Унука яна выйшла адразу — ішла памалу, не чуваць было, як ступала па падлозе. У калідоры накінула на сябе плашчык і засунула глыбака ў кішаню маленькую сумачку. Глядзела пад ногі — у яе былі чырвоныя мокрыя шчокі: плакала ў канторы. На ганку, дзе ляжалі ваўкі, яна ўздрыгнула, накінула на галаву на высокую куклу чырвоную касынку, закрычала на ўвесь двор, загаласіўшы, і пусцілася на дарогу па дажджы.

Спяшалася, мусіць, у Мсціжы, да Раманавай сястры.

Ззаду за ёй выйшаў на ганак Унук і крычаў услед:

— Не дурней, дзяўчына... Падвязём... Ну, пачакай ты мінуту... Нам жа трэба сабрацца... Куды ты на такі холад, плачучы... Забылася на ўсё...

Унук стаяў і круціў галавой.

Нінка схавалася ў лесе, відаць толькі быў здалёку праз рэдкія ля дарогі сосны яе чырвоны плашчык — мігнуўся раз-другі...

Усе, прыціхшы, стаялі на ганку. На двары ля машыны бразнуў дзверцамі Арціст — не баяўся, хадзіў па дажджы. Андрэй падумаў, што Арціст хоць цяпер завядзе машыну, хай толькі кіўне Унук; што ён, Арціст, прывёзшы Нінку, не пайшоў разам з усімі ў магазін, можа, баяўся, што тут Фарафонаў, а можа, проста ён добры чалавек...

На двары пацямнела, на ўчастак насунулася з-за лесу з Курачовых Цянёў чорная нізкая хмара, як бяда якая, і зноў прыпусціўся вылівень, як пасля граду на Кладках. Арціст ускочыў у кабіну, сядзеў і гладзіў даланёй мокрыя валасы — вадзіў зверху па галаве.

На ганку ўсе маўчалі. Прыйшоў з канторы настаўнік — Андрэй успомніў, што і настаўнік не пайшоў у магазін з усімі,— прыхінуўся да сцяны і глядзеў на ваўкоў, на тых, што ляжалі адзін на адным збоку пад лаўкай. Пра ваўкоў цяпер ніхто не гаварыў, на іх неяк адразу ўсе забыліся, былі ціхія, не глядзелі адзін на аднаго, як усё роўна кожнаму было няёмка: у людзей, во, бяда, а яны страляюць па лесе, ля прылаўка выстраіліся, чалавека з'ездзілі прывязлі, а ён цяпер бяжыць па дажджы...

Не мог устояць толькі Падбярэцкі: хадзіў па калідоры ля дзвярэй у магазін, пасля выйшаў на ганак, падышоў да «свайго» ваўка, сагнуўся, узяў за пярэднія і за заднія лапы і, падняўшы з падлогі, паклаў на лаўку, прыхінуўшы спінай да самых дошак. На падлозе, дзе ляжала воўчая галава, блішчала развэдзганая чырвоная пісяга. З воўчай галавы на пісягу пачала капаць кроў — густымі кроплямі. Усе глядзелі цяпер на ваўка і на Падбярэцкага. Падбярэцкі загаварыў, не то пра ваўкоў, не то пра людзей:

— Усе яны такія... Цяпер плача. У слёзы... А перш? Калі яе Раман злёг, дудой хвост насіла. Хаця і да Рамана яна такая была, не дзіва, што і пры Рамане. А цяпер у слёзы... Не надоўга...

Андрэй не помніў, як ён размахнуўся і ўдарыў Падбярэцкага збоку па пашчэнку, калі Падбярэцкі адагнуўся ад лаўкі, ад «свайго» ваўка і гаварыў, атрасаючы рукі і ні на кога не гледзячы... Той хіснуўся ўбок, тады грукнуў задам аб падлогу і стукнуўся патыліцай аб сцяну... Падбярэцкага сагнуліся падымаць браты Канэцкія. Яго, Андрэя, схапілі за рукі ваенныя — за адну і за другую — балючую. Андрэй пачуў, як яму зрабілася цяжка дыхаць і не дае гаварыць, добра, што ваенныя адразу адпусцілі рукі.

— С-скаціны кавалак... Ды я... Ды ты хоць відзеў калі, як людзі мучаюцца? Хоць раз ты схадзіў у бальніцу да Рамана? Хоць раз ты паглядзеў, як хлапец бярэцца рукамі за драўляныя поручні над галавой, каб перакаціцца на бок?.. Паглядзеў бы, як яго, што бервяно, перакачвала з боку на бок Нінка гэта самая... Ты ведаеш, што ў яго ў нагах на ложку віселі ўсягды гумовыя пальчаткі? І Нінка ездзіла, брала пальчаткі, закасвала рукавы і даставала з яго ўсё сама... Бо сам ён не мог... Не мог... Хоча — і не можа. Ты ведаеш, што гэта такое?.. Бо ён быў як бярно... Бо ён быў чалавек, і Нінка чалавек, а ты скаціна... Быў такі, такі і здохнеш...

Падбярэцкі страсануўся — ад яго адскочылі браты Канэцкія, як трэскі, і сціснуў рукі ў кулакі. Вочы ў яго адразу пачырванелі, набеглі крывёю, як і тады ў кузні. Ён нічога не мог сказаць, толькі хрыпеў.

Між імі адразу стаў Унук і круціў галавой: глядзеў то на аднаго, то на другога:

— Свінства... У морду адзін аднаму. Ссівелі, а людзей не навучыліся ўважацца... Людзі ж чужыя. А ты, Вялічка, не забывайся, што заўтра панядзелак. Заўтра едзем... А табе што, Падбярэцкі? Не далі бутэлькі? Свет цяпер увесь пераверпеш... Не чакаў я, што такое свінства можа быць у мяне на ўчастку... Ідзіце абое з вачэй, каб вас тут і не відзелі... Згарэць ад стыду за вас можна... Горш ваўкоў... Вы на іх не глядзіце...— пачаў прасіць ён ваенных.

Канэцкія павялі Падбярэцкага ў калідор; Андрэй пачуў, як, выходзячы адтуль, загаварыў Фарафонаў — падняў руку і ківаў пальцам:

— Я, Вялічка, нічога не відзеў... Толькі ты помні, што ўжо раз сядзеў перад чырвоным сталом. Трэба быць хітрэйшым, калі ідзеш на дурня...

— Ну, хлопцы, збірайцеся. Колькі вам трэба на зборы? Абагрэліся — і паедзем. Чалавека дагонім. Далей боязна аставацца. Ружжы пад рукамі...— Унук усміхнуўся і пайшоў у кантору.

— Пагрэліся, чорт бы яго ўзяў...— азваўся нехта з калідора, мусіць, старэйшы Канэцкі.

Арціст адразу завёў машыну, і ваенныя — удвух — панасілі ў кузаў з ганка з-пад лаўкі ваўкоў. На падлозе асталіся мокрыя ад вады і ад крыві пісягі і пільсць.

Пасля ўсе сталі на ганку — закурвалі. Выстаўлялі рукі з-пад страхі на двор, як дзеці,— глядзелі, ці паменшаў дождж. Закідвалі на плечы ружжы, як усё роўна нанава збіраліся ісці на Кладкі пад Курачовы Цяні.

Атрасалі з фуфаек — з грудзей — мокры пясок, які невядома адкуль узяўся; згіналіся, даставалі да гумовых ботаў і адрывалі папрыліпалае да халяў шырокае жоўтае бярозавае лісце; стукалі нагамі, нібы баяліся нанесці гразі і пяску ў машыну. Пасля адзін за адным падышлі да машыны і сталі перакульвацца цераз борт, падаючы з рук у рукі ружжы. Фарафонаў у кузаве зноў пачаў гаварыць Левановічу пра садок і паказваў белыя зубы. Настаўнік, стоячы ззаду ля борта, пакручваў на руцэ гадзіннік. Арціст выгінаўся на падножцы, то закасваў, то адкасваў рукавы: чакаў у кабіну Унука, які забегся да Шуры — у Шурыным акне была відаць яго лысая галава.

Пад'ехалі раптам грузчыкі, тыя, што хадзілі ў загон і дагэтуль недзе сядзелі ў вёсцы. Машына ў іх была без брызенту, але яны не баяліся дажджу: пасля вёскі прыехалі ў магазін «дабаўляць», пачуўшы, што Арціст павёз Нінку. Без кепак, чырвоныя ад халоднага дажджу, яны крычалі і махалі рукамі. Пад'ехалі блізка да Арціставай «будкі». Пачуўшы, што памёр Раман і няма ў магазіне Нінкі, яны адразу сціхлі — усе ведалі Рамана,— ніхто нават не саскочыў далоў. Аб'ехаўшы Арціста, адразу завярнуліся да кузні — на шырокую дарогу.

— І гэтым трэба было ўжо вочы заліць...— лаяўся Унук, выйшаўшы ад Шуры.— Давай, Вялічка, лезь у кабіну. Паціснемся. Не хочаш? Не забудзься тады, што заўтра панядзелак. Каб мне быў як штык. З самай раніцы. Паедзем... Малатабойцы... Я вам дам...

Арціст стукнуў дзверцамі, і ў Андрэя зазвінела ў вушах. Машына адразу схавалася ў лесе, пакінуўшы ў мокрым кутку жменьку сіняга дыму.

Без людзей і без машыны зрабілася ціха, і Андрэй чуў, як густа шапоча дождж і звініць яшчэ ў вушах. Недзе ў калідоры стукнула дзвярыма Шура. Падбярэцкі, ускінуўшы ваўка на плечы, як усё роўна купленую авечку, панёс да кузні. Панадзяваўшы на галовы мяхі, як башлыкі — папрасілі, мусіць, у Шуры,— ззаду за ім пайшлі браты Канэцкія.

Па зямлі, па мокрай рудой траве без аддухі шаптаў дождж. Да кучы старога пілавіння і да канюшні поўз туман: вечарэла. На дарозе ў лесе ўсюды стаялі лужыны з белай пенай і жоўтымі іголкамі; на лужынах знаць былі дробненькія кругі — ад дажджу. На сівым пяску зеленела жыта, як рунь,— расло з растрэсеных з саломай набухлых каласоў. Пахла свежай абмытай зямлёй — здалёку, аж з поля ад Лазы.

Ужо ля вёскі, ля сілосных ям, Андрэй падумаў, што многа хадзіў па гэтай дарозе на ўчастак Раман і што ён ніколі больш не будзе хадзіць. І ён, Андрэй, не будзе...

На вуліцы патыхала адмяклым бульбоўнікам з гародаў і палыном. Лёгка было дыхаць, і ён падумаў, што нечага не хапае: не чуваць дыму з балота — вылівень патушыў недзе ўсюды торф, а ён, Андрэй, прывык за лета дыхаць гарам.

У вуліцу ад Бацяновых соснаў з гары беглі ручаі, несучы пясок і белае павымыванае карэнне ад травы. Не даючыся, яно чаплялася і чаплялася за зямлю.

Вароты намоклі і не хацелі адчыняцца на двор.

## 12

Андрэй прыйшоў на аўтобус першы, выйшаўшы з дому да ўсходу сонца, і доўга стаяў ля старога, пакляванага цвікамі слупка адзін, пакуль не прыехала з Вострава, з канца, падвода — ехала памалу, грукаючы па бруку,— і не прывезла чарнявую дзеўчынёху ў белым пакамечаным плашчыку і вялікі чамадан — не тоўпіўся ў ляжэйкі. Дзеўчынёха паставіла чамадан ля слупка, і Андрэй, адышоўшыся, слухаў, як зноў тарахцяць па бруку калёсы на жалезным ходзе — дробненька і ядрана — на ўсё Вострава.

Вострава, здавалася, пачало прачынацца пасля груку ад калёс. Недзе воддаль з рэпрадуктара пачулася прыглушаная музыка — ігралі ціхенька танец; да пошты пад'ехаў на веласіпедзе хлопец і доўга ляпаў вечкам у сіняй скрыначцы ля дзвярэй — апускаў пісьмы; ля калгаснай канцылярыі стаў «газік», з кабінкі вылезлі двое мужчын і пайшлі, гамонячы, адразу ў канцылярыю.

Зарыкала ў тым канцы Вострава, дзе ляскаталі яшчэ калёсы, скаціна — выганялі ў поле; да канцылярыі пачалі падбягаць бабы, па адной — чыталі на сцяне, на белай асінавай дошчачцы пад стрэшкай нарад. Да нарада падыходзілі і мужчыны, стаялі падоўгу, тады ішлі ў канцылярыю.

Паказалася было аж цяпер сонца і адразу схавалася ў хмары: дождж ішоў яшчэ ўчора — у панядзелак — увесь дзень, дробны і ціхі; пырскаў і раніцай, калі Андрэй выходзіў з дому. Усюды блішчалі лужыны; на траве стаяла раса, трава пачынала зелянець, як вясной. Намоклі кірзавыя боты і штаны высака ля калень — намачыў, мусіць, аб мятліцу на дарозе.

Ён хадзіў упоперак дарогі па чэрствым бруку ўзад-уперад і думаў, што позніцца аўтобус, што ў раёне можна не паспець сесці на гарадскі; не возьмеш білета — і пойдзе ўсё, як зачапіўшыся адно за адно: запознішся тут, у раёне, не вернешся тады сёння з горада.

Учора, у панядзелак, ён не паехаў пад Полацк. Сабраўся — і не паехаў, бо выклікалі ў раён Унука. Унук перадаў праз Шуру, каб ён, Вялічка, чакаў: паспее з'ехаць з дому. Шура так і сказала — відаць, Унук не гэта яшчэ гаварыў. Андрэй зазлаваў: а яму што да таго? Кожны табе камандуе: то ехаць, то не ехаць. Хацеў учора, вярнуўшыся з канторы, сам паехаць пад Полацк. Унук тут, відаць, прышый кабыле хвост. Начальніка з сябе строіць,

без яго дык і на работу не возьмуць... Возьмуць. Не прыёмшчыкам, дык якім другім чортам зробяць... Але па стале ляжаў сіні канверт — прынясла пісьманоска рапіцай з газетай — у нядзелю па дажджы не пайшла ў Вострава на пошту. У канверце была маленькая вузенькая позва — сіненькая, як і канверт. Прасілі прыехаць ва... упраўленне ў горад. Паставілі нумар дома, напісалі, які пад'езд і які пакой,— па машынцы, аж папраколвалі паперу.

Ён дагэтуль і забыўся быў і на мужчыну ў саламяным капелюшы, і на таго, маладзейшага, з барадой, які не ўмеў страляць, і на тое, як яны, ад'язджаючы, гаварылі, каб ён чакаў, бо яны яго паклічуць: і ім трэба людзі, не толькі Унуку — Унука яны ведалі. Яны яшчэ гаварылі, каб адразу прыехаў, не адкладваў і не баяўся — заплацяць камандзіровачныя, але ён тады нікуды не хацеў кратацца: рашыў ужо ехаць пад Полацк, а тут збіваюць з пуці.

Калі ён пачытаў позву, доўга хадзіў па хаце.

Вечарам у панядзелак ён яшчэ раз пайшоў у кантору, але Шура сказала, каб ён спакойна спаў: раз Унук не вырваўся сёння на новы ўчастак, то на гэтым тыдні не паедзе: заўтра будуць хаваць у Найдорфе Рамана — Унук паедзе сам; пасля недзе прыедуць забіраць канюшню. Жарабят павязуць па машынах. Акты трэба падпісваць... Так што, калі ён, Андрэй, хоча ехаць, то хай едзе з жарабятамі... Шура многа ведае, слухае ўсе званкі. Калі верыць таму, як яна падміргвае, гаворачы пра Унука, то на новы ўчастак таго возьмуць толькі цехнаруком. Ён не спаў усю ноч і ноччу ўжо рашыў ехаць ва ўпраўленне: усё роўна дождж, з хаты — нікуды...

Аўтобус быў новы, сіні, аж бліскучы, з мяккімі белымі сядзеннямі, дваімі дзверцамі — спераду і ззаду, але ён быў малы, і ў Вострава на прыпынку не маглі ўсе сесці — не ўпіліся.

У аўтобус Андрэй уціснуўся самы апошні: стаў спачатку ля задніх дзвярэй, думаў — іх адчыняць, але шафёр і выпускаў, і ўпускаў толькі праз пярэднія. А людзей набралася — не было, не было, а тады сыпнулі адразу, як пад'ехаў аўтобус, адусюль: з канцылярыі, ад пошты, ад магазіна, з хаты цераз вуліцу — пахаваліся, мусіць, былі ад дажджу. Ехалі трактарысты з калгаса ў эртээс, дарожніцы на дарогу — брукавалі за Вострававам шашу; ехалі ў раён у бальніцу старыя жанчыны: «А-ей, дзеткі, не падымуся... Гараць яны хай, гэтыя хваробы... На чорны лес». Ехалі дзяўчаты з чамаданамі — сама больш, мусіць, студэнткі; вёз мужык з жонкай прадаваць яблыкі:

«Сухата, чэрве патачыла, дзе ты тут надта што прадасі...» Ехалі настаўнікі — «на канферэнцыю».

На самым апошнім сядзенні ў кутку Андрэй згледзеў чорнага настаўніка з Вострава — той круціў, дзержачы на каленях, маленькі жоўты партфель і ні на кога не глядзеў.

Падавалі шаферу грошы — усе разам; той баяўся, «каб хаця ўсіх абілеціць: выручка»; высунуўшыся з-за перагародкі, ён на кожнага паказваў рукой, людзі бянтэжыліся, падняўся вэрхал; Андрэя — ён стаяў спераду на праходзе — прыціснулі да сядзення, бокам да бліскучай белай ручкі: нехта яшчэ лез у дзверцы. Андрэй шукаў, за што зачапіцца ўгары рукамі, не знайшоў поручня і пачуў, што валіцца дагары на некага: не ступіш жа шырэй, каб устояць,— прыціснуты ногі.

— Крэмзафіл...— упёрся нехта раптам яму рукамі ў спіну.— Крэмзафіл... Па-японску значыць: садзіся, бацька, на маё месца... А то, бацька, сам знаеш... Крэмзафіл... Па-руску: старыкам вездзе ў нас пачот...

У аўтобусе засмяяліся.

Андрэй выпрастаўся і згледзеў, як ля яго ўставаў з сядзення малады зусім хлапец, круглы і чырвоны з твару, з рассыпанымі на рад вымытымі русымі валасамі, у беленькай, як цяпер насілі, рубашцы з чорным кароткім гальштукам ля шыі. Вочы ў яго былі светлыя, добрыя і хітрыя і глядзелі вяла і сонна: ад яго пахла самагонкай. Яму цяжка было ўстаць — вылезці з-пад Андрэя — і ён апіраўся рукамі аб акно, ля якога на зграбным маленькім кручку вісеў яго чорны пінжак.

Андрэй сеў ля зусім маладой чарнявай дзеўчынёхі — ля той, што прыехала на возе і стаўляла ля слупка чамадан.

— Крэмзафіл, бацька... Па-японску значыць...

Андрэй не пачуў, што значыць па-японску. Пасля хлапец нагнуўся над ім і пачаў падымаць угару шкло ў акне. Андрэй згледзеў, што на дарозе ля аўтобуса стаіць зусім сівы нізенькі чалавек і махае да сябе рукой. Калі хлапец нагнуўся да акна, нізенькі чалавек задзёр угару палінялую старую кепку і загаварыў:

— На свеце неціхоты... Калі якая мітрэнга, дык ты, сын,— дамоў. Чуеш?

— Крэмзафіл, бацька... Па-японску значыць: усе будзем адразу дома на печы...

У аўтобусе засмяяліся, засмяяўся і сам хлапец. Стары толькі ўсміхнуўся і замахаў рукамі: а бадай цябе,—

быў рады, відаць, не таму, што абяцае сын, а таму, як ён смяшыць людзей. Пасля насунуў кепку на лоб і паскроб патыліцу:

— Дык ты, сын, глядзі!..

Дзверцы ў аўтобусе не хацелі зачыняцца — не даваў нечы прыціснуты зверху мяшком з яблыкамі чамадан, і шафёр, аббегшы аўтобус спераду, тоўхаў рукамі ў мех, крычучы ўсё: «Чый чамадан?» Сеўшы за руль, ён доўга яшчэ не ехаў — пісаў, пасля складаў білеты, пакручаныя ў кольцы, у маленькі карычневы абшарпаны чамаданчык з белымі бліскучымі круглымі канцікамі, тады адвярнуўся яшчэ раз:

— Усе з білетамі?

— Крэмзафіл...— забурчаў на яго хлапец у белай рубашцы, неўзлюбіўшы, відаць, шафёра.— Па-японску: няма толькі ў цябе ў аднаго...

Усе зноў засмяяліся, як усё роўна чакаўшы, што скажа хлапец; шафёр схаваў галаву за перагародку, і Андрэй пачуў, як ціха коціцца з гары па бруку аўтобус: пачало падкідаць на сядзенні. Зафыркаў матор, заныў на адной нізкай ноце і не сціхаў, што ўсё роўна чмель дзесь вісеў над вухам. Пабегла насустрэчу і адразу асталася ззаду доўгая школа з белай цэглы, замільгалі дробныя хаткі ў зялёным вішняку і жоўтых рабінах; мільганулі збоку сівыя парэнчы старога драўлянага маста і вялікія круглыя трубы з цэменту — ляжалі воддаль ад дарогі ў лагчыне ў вадзе, і закруціўся на полі на гары малады дробны калгасны сад: нізкія разгатыя яблыні цягнуліся роўнымі палосамі, як скінуць вокам. Над садам пад канец Вострава вісеў над зямлёй самалёт, пасля адразу знік з воч: павярнуліся і выехалі на шашу.

Схаваўся з вачэй сад, і за акном было відаць жоўтае ад іржышча поле — цягнулася далёка, пад Луськае. Над полем вісела сівое неба з жоўтымі ціхімі падпалінамі, і ад гэтага поле здавалася пустое і халоднае, як першымі зазімкамі, калі бралася ў груду зямля і ганялі на рунь скаціну... Недзе спераду ля шафёра было паднята шкло, і на Андрэя дзьмула свежым ветрам — пахла мокрай жытняй саломай і падзолістай зямлёй. Пасля ля дарогі паказаліся нязграбныя, прыземістыя сцірты пацямнелай зверху — на гарбах — саломы. Пачуўшы машыну, узляцелі з зямлі шпакі і закруціліся над іржышчам, схаваўшы з вачэй сівое неба з жоўтымі падпалінамі. Шпакі сёлета пазніліся ў вырай...

Андрэй тады неяк адразу падумаў, што ён збіраецца

пакідаць дом ужо трэці раз — цяпер то ўжо назусім...

Першы раз ён пакідаў аж у сорак першым годзе. Усяго ўжо і не помніць. Лета тады пачалося сухое, гарачае, як сёлетняе, і калі яны, мужчыны з вёскі, выйшлі за мост на грэблю, за імі ззаду падняўся пыл. Мужчыны ішлі ўсёй вёскай — па павестках у ваенкамат; кожнага праводзілі ўсёй сям'ёй. Ён помніць пыл і плач, помніць яшчэ, як нечага конна круціўся Змітрок Юбіцкі — праедзе ў канец грэблі да мастка далёка наперад, пасля вяртаецца назад — навыскачку. Юбіцкаму павесткі не прыслалі, гады яшчэ не падышлі.

Яго, Андрэя, праводзіла Верка, пакінуўшы дачку ў Балюты: з дзіцём на руках далёка не пойдзеш. Пацалаваў ён тады дачку, заплакаўшы, і ўсё азіраўся назад...

Яны ішлі, астаўшыся ад усіх. Верка няслa ў руках яго белую торбачку. Ён не ведаў, што яна паклала туды з сабой,— дакументы ён узяў у кішаню; недзе кавалак хлеба з паляндвіцай, шклянку масла, завязаную зверху крамным ласкутом, і бутэльку малака. Так яна кожны раз выпраўляла яго, калі ён адлучаўся з дому: ці на цэлы дзень ішоў касіць у калгас у Курачовы Цяні, ці гнаў у поле скаціну — адбываў ко́лею. Яна, мусіць, паклала яшчэ ў торбачку і змену бялізны — новай, мяккай, кужэльнай... Ён гаварыў, каб не клала, дадуць казённую, але назад яна не выняла: немаведама аж куды прыйдзецца ісці па такім пыле дзень-ноч...

Ішлі, мінуўшы Луськае, цераз поле. Сонца вісела за Найдорфам, нізка, над самым лесам; усюды было сіне ад смугі і трывожна. На захадзе, якраз там, дзе застыла вялікае чырвонае сонца, грукатала і грукатала, не сціхаючы, але гэта былі не грымоты: ад грымотаў ніколі не дрыжыць зямля — а то яна трасецца на дарозе пад нагамі...

Усе пазіралі туды і маўчалі.

Прыставалі дзеці, і бабы, наплакаўшыся, садзіліся ля дарогі на пыльную траву — дамоў адразу ніхто не варочаўся; далей іх ішло менш і менш, нарэшце асталіся адны мужчыны і Верка — высокая, стройная. Яна гаварыла, што пайшла б з імі, з усімі, на край свету, каб толькі быць разам. Яна адна і правяла ўсіх мужчын аж сюды, на шашу пад Вострава. Кінулася яму на грудзі, а тады да яе падыходзілі ўсе мужчыны, па адным, і адвітваліся за руку. Пасля стаяла на гары на шашы і была яшчэ доўга відаць, аж пакуль не зайшло сонца ў яе за плячыма...

Толькі тыя, каго адразу раніцай — яны ішлі ў раён усю ноч — павялі па Барысава, пайшлі за нашымі. Каго

пакінулі начаваць у ваенкамаце на двары, той астаўся: назаўтра ў раёне былі ўжо немцы.

Дамоў вярнулася якраз палавіна мужчын, што пайшлі па павестках; вярнуўся і Андрэй. І зноў у вёсцы пачалі чакаць, калі возьме астатніх мужчын вайна... Раз прыйшла, то возьме... Любую мінуту чакай. Іх яна забрала пазней — у лес пад Ямскае ў атрад...

Аўтобус стаў у лагчыне ля маста — паабапал дарогі ўсюды блішчала вада і жаўцеў панаганяны пясок. Шафёр бразнуў дзверцамі і саскочыў на брук. Да яго хлынулі з двух бакоў людзі. Шафёр стаў крычаць і махаць рукамі. Скочыўшы ў кабіну, ён хацеў быў адчыніць дзверцы: чорт з вамі, лезь, каторы, калі хочаш, каб паламалі скабы! — але дзверцы, падпёртыя з сярэдзіны вялікім чорным чамаданам і мяшком з яблыкамі, не адчыніліся. Шафёр засігналіў, каб людзі сышлі з дарогі, і зноў аўтобус заныў, як стары чмель,— папоўз ад маста на гару.

— Крэмзафіл!..— закрычаў раптам над галавой у Андрэя хлапец у белай рубашцы.— Па-нямецку значыць: хвацкіх дзевак пакінуў на дарозе. Не ўзяў... Нашы так не робяць. Нашы самі вылазяць, а дзевак на сваё месца. Крэмзафіл!..

Шафёр не адварочваўся: глядзеў прама перад сабой на дарогу.

Уз'ехалі на гару. Бліснула з-за хмары сонца, жоўтае, калючае, і зноў схавалася. Хмары паніжэлі, сталі збірацца адна ля адной — сунуліся з поля на дарогу. Пацяплеў вецер, запахла дажджом.

Насустрач ішлі машыны з прычэпамі — парожнія, бразгалі дышлямі і ланцугамі. Ішлі ўпрыцірку. Шафёр ціснуўся да абочыны.

Зноў у аўтобусе загаварылі, і Андрэй падумаў: людзі яшчэ, мусіць, не бачылі цеснаты. Яму адразу ўспомніўся маленькі сіненькі, як і гэты, аўтобус-палутарка, які хадзіў з раённага цэнтра ў горад пасля вайны. Прыходзіў адзін раз у дзень на ўвесь раён, і білет да горада быў на тыя грошы дваццаць чатыры рублі... І то гэта пазней пачаў хадзіць, а перш, адразу пасля вайны, лучаеш, бывала, каб сесці да каго наверх. Летам то яшчэ хадзілі ваенныя машыны, «студары» — вазілі з калгасаў нарыхтоўку ў горад. Увосень вазілі бульбу. А зімой?

Андрэй тады, адразу пасля вайны, пакінуў быў Мсціжы другі раз. На фронт яго не ўзялі — хворае плячо; ён паехаў у горад і астаўся ў Чырвоным Урочышчы. Будаваўся завод, і трэба былі людзі. Дамоў прыязджаў рэд-

ка — на свята; часцей да яго ездзіла з дому Верка. Толькі ездзіць было дорага, і яна хадзіла разам з бабамі з вёскі — пехатой. Больш за сто вёрст — а яны, бабы, выйдуць грамадой, каб весялей было, і — пайшлі... Не шашой, а вёскамі, напрамую: так бліжэй. Паначуюць у каго ў дарозе, а назаўтра ўжо ў горадзе. Хадзілі больш за ўсё ўвосень, пазней гэтай пары, калі ўжо была выбрана бульба і пільна трэба была адзежына якая на зіму. Ішлі на Камароўку — на базар. Няслі на продаж вясковую бесарабку і мультанку: пакручаную ў жоўтыя і зялёныя папушы — з круглай цаной наперад, падлічанай яшчэ з дому па тым, што трэба было купіць; пакрышаную дробненька вострым нажом на дэнку, на якім усягды крышылі сала, падсушаную і пацёртую ў далонях — чаплялася дробнымі нітачкамі, што фабрычная, і пахла, аж круцілася ў галаве; а больш за ўсё — тоўчаную ў ступе. Таўклі, высушыўшы на печы і ачысціўшы ад галовак зялёнае пучча — яно крышылася драбней, чымся з-пад нажа,— перасейвалі на рэдкае рэшата, тады мяшалі з пакрышаным бурым лісцем, і выходзіла махорка, што і слова не скажаш. Яе прадавалі шклянкамі і гэтаксама па круглай цане. Мультанкі дома ў іх расло цэлы гародчык на двары; яе абіралі раней — лісце чаплялі на ніткі і вешалі ў хаце пад бэлькамі; ссякалі дуддзё і насілі растрасаць на гару на мох. Пасля яшчэ да марозу адрастала атава — круглае цёмнае лісце засцілала зямлю. Высушаная ў печы на жалезнай блясе, на якой летам сушылі ліпавае лісце, калі не было чаго есці, пацёртая атава была моцная, што спірт,— ад яе захліпаліся мужчыны. Атаву з тоўчаным пуччам вазілі прадаваць пазней, калі ўжо былі маразы.

Няслі з дому на продаж не адну мультанку, няслі што «з жыроў» — урывалі ад сябе, каб хоць нешта купіць дзецям на ногі і на плечы: нямецкія фрэнчы і штаны, нашы ваенныя шапкі і шынялі, чаравікі, кірзавыя боты — усё паношанае, дзешавейшае: да добрага не было як падступіцца.

У горадзе ён пабыў адну толькі восень — капаўся з рыдлёўкай у зямлі і ў рэдкім цэменце, як у гразі,— запырсканы па вушы, каструбаваты, халодны днём і ноччу, калючы, у брызентавай спяцоўцы, як усё роўна ў яловай кары...

Астаўся б тады наўсягды ў горадзе. Картачкі картачкамі, але ж на іх давалі хлеб, цукар, крупы, рыбу — дома ж гэтага не было. Ды і прывыкаць пачаў, дамоў прыязджаючы — хваліўся. Астаўся б, калі б захацела Верка.

Але яна не захацела. Угаворваў нават, можа б, і ўгаварыў, каб сам ужо так цвёрда надумаўся, каб у самога не балела душа. Возьмеш вядро ў рукі — і здаецца, ідзеш раніцай па ваду да студні. Капаеш зямлю рыдлёўкай, валіцца зверху на дно трава і пахне, як усё адно маладая крапіва ля ракі вясной... Каб ужо быў дзе на якім складзе ў самім горадзе, каб нічога такога не бачыць, прывыкла б і вуха, і душа, а то — горад, вун ён, далёка ззаду. Гудзе толькі дзень-ноч, як у катле там што варыцца, агонь вечарам відаць здалёку, аж у вачах мітусіцца, як глянеш. А тут — лес, далей поле, скаціна пасецца, рыкае... І ціха вечарам, як дома. А лес — ён усюды лес; ходзіш, як пад Курачовымі Цянямі за Белай дарогай. А што агонь ззаду — дык здаецца — гэта вёска. Выйдзі на Загуменне і — на гародах, дома. Але калі закруцішся ў рабоце ці пастаіш-падумаеш, вёска тады недзе далёка-далёка, і баішся, што туды можаш ужо не вярнуцца. Чорт ведае, як устроен чалавек.

Не ўгаварыў ён тады Верку. А яна — не то каб ужо анінадух была, не хацелася ёй, як і кожнаму, кідаць адразу дом. Ён бы яе, можа, і ўгаварыў, але ў галаве ўвесь час стаяла, што яны добра жылі да вайны, што цяпер, калі ў вёсцы і елі ліпу, дык гэта ўсё праз вайну, што ўсягды ж так не будзе...

Не ўгаварыў ён Верку — яна тады стала яго ўгаворваць. І ён вярнуўся дамоў...

...Аўтобус вырваўся на стары даваенны ўезджаны брук, спускаўся з гары, чуваць было толькі, як шапочуць па камені колы. Праехалі ўжо з палавіну — мільгалі новыя драўляныя слупы, пафарбаваныя ў белае парэнчы на мастах, мільгалі блізка ля дарогі хаты, за імі круцілася далёкае, жоўтае ад іржышча поле, як ля Вострава, са сціртамі саломы і рабой, рассыпанай, як з рукава, скацінай... Сонца не паказвалася, спераду дзьмуў густы вецер; на шкле расцякаліся і высыхалі на вачах бліскучыя кроплі вады — перад старым брукам быў пасцябаў дождж.

Шафёр, высадзіўшы проці эртээса двух «механікаў», хлапчукоў у сініх камбінезонах, упэцканых у мазут,— дарожніц ён высадзіў перш, недзе ля новага бруку,— апытаў, хто куды «надумаўся»; усе ехалі ў раён — націснуў цяпер на газ, не сцішаючы нават на прыпынках, дзе стаялі людзі і, бачачы, што аўтобус будзе іх мінаць, махалі рукамі. Шафёр толькі сігналіў, каб не ўздумалася каму выткнуцца, асмеліўшыся, на дарогу.

Памяняўшыся на месцы, сабраліся ў кучу настаўнікі

і цяпер гаманілі наперабой адзін перад другім; над ім, Андрэем, вісеў усё хлапец у белай рубашцы, учарэпіўшыся ў абедзве рукі за поручні,— заплюшчыў вочы і дзёўб носам. Прачынаючыся, крычаў:

— Крэмзафіл! Па-французску значыць: давай на ўсю жалезку. Мне на першую змену...

З яго зноў смяяліся, але ён ні з кім не заводзіўся.

Андрэй абапёрся локцем на пярэдняе сядзенне і глядзеў у акно на жоўтае ад іржышча поле...

Веркі ён тады не ўгаварыў... Каб угаварыў — па-другому б усё склалася. Ведай жа наперад, дзе паваліішся... Можа, у горадзе і не зачапіла б яе гэта хвароба, хто скажа... А калі б і звалілася на галаву, дык у горадзе — не тое што дома. І дактары тут лепшыя, і бальніцы. У горадзе і вылечыцца лягчэй...

Андрэй, падпёршыся, доўга думаў пра Верку...

Пасёлак паказаўся яшчэ здалёку. Мост, жоўтыя будынкі ля маста, лодкі на беразе ракі і гусі — белыя, як снег, яны, здавалася, усыпалі берагі. Злева было відаць шырокае круглае возера — там нядаўна заставілі раку. Яно блішчала хмурым халодным бляскам ад лесу да лесу. На другім беразе ракі, пад возера, стаялі няскончаныя хаты — будаваўся леспрамгас. Туды паварочвала дарога на торфазавод, уся застаўленая грузавымі машынамі: абношанымі «газікамі» і доўгімі новымі ЗІЛамі. Машыны выстраіліся аж на шашы; шафёр сігналіў: уперадзе хадзілі людзі.

За машынамі парадзеў лес, і Андрэй згледзеў здалёку два белыя будынкі — бальніцу. Закруцілася ў галаве — мусіць, што ў акне беглі адна за адной сосны...

Яму здалося, што ўсё стала раптам халоднае: і сядзенне спераду, на якое абапёрся рукой; і шыбіна ў акне, якую выціраў даланёй, гледзячы ў лес за дарогу; і сосны, што круціліся на адным месцы, як дзе ў віры; і два белыя высокія будынкі з цёмнымі ямінамі ад акон...

Ён зноў, падпёршыся, думаў пра Верку... Але яго пачалі тоўхаць: чарнявая дзеўчынёха нагінала галаву, шукаючы вачыма свой доўгі чорны чамадан на праходзе, і Крэмзафіл, ачнуўшыся, даставаў рукой да акна — здымаў з кручка пінжак.

На аўтобусным вакзале ў пасёлку — на шырокім гарбатым дзядзінцы перад старым доўгім домам з пафарбаванымі ў сіняе аканіцамі — было поўна аўтобусаў; ён згледзеў іх у акно: стаялі, здавалася, дзе папала. Доўгія — адно шкло і па баках, і зверху — з парасчынянымі дзвя-

рыма: гарадскія, у іх было поўна людзей; і маленькія, такія, на якім прыехаў ён, Андрэй, і яшчэ меншыя, старыя, абшарпаныя, разбайдаваныя і апырсканыя гразёй — хадзілі па вёсках. Чуваць было, як у рэпрадуктар — вялікі, белы, ён ляжаў зверху на страсе па сеначках — крычала нешта аж два разы хрыпата жанчына — Андрэй не разабраў што.

Шафёр пад'ехаў да самых драўляных сеначак, і ўсе адразу, тоўхаючыся і распіхаючы людзей ля ганка, пусціліся бегчы ў вакзал займаць месцы ля касы — маленькага, як на шыбіну, аконца, праз якое відаць толькі адна непрычасаная галава касіра-жанчыны і нічога не чуваць — трэба кожны раз крычаць, надрываючыся, куды табе ехаць, аж пакуль цябе не стануць лаяць адтуль, з сярэдзіны: «Што за людзі? Як паглухлі. Узяў — адыдзіся. Другому дай...»

Андрэя выпхнулі з аўтобуса недзе ўжо апошняга — пакуль павыносілі мяхі з яблыкамі і чамаданы з праходу; у вакзале ён стаў аж у самым хвасце ля дзвярэй. Перад ім стаяла тая ж чарнявая дзеўчынёха з вялікім чорным чамаданам. Ля касы, ля маленькага аконца, якое то паказвалася, то хавалася за людскімі галовамі, тоўхаліся, размахвалі рукамі і крычалі, не разбярэш — хто і што: «выкінулі» білеты на «прахадзяшчы» — на той, што стаяў з расчыненымі дзверцамі,— на яго праз акно паказвалі рукамі.

— І ты, бацька, разам? — Андрэй пачуў, як яго крануў за плячо хлапец у белай рубашцы.— Стой тут і не адыходзься,— падміргнуў ён чарнявай дзеўчынёсе. Сам, кінуўшы ёй на рукі пінжак, нырнуў, сагнуўшыся, у грамаду, як у плот пад жэрдку.

Ля аконца закрычалі яшчэ горш.

— Крэмзафіл! Хто тут не мірыцца? — крычаў і хлапец у белай рубашцы — наводзіў ля аконца парадак.

Праз якую мінуту ён ужо махаў здалёку білетамі:

— Крэмзафіл, бацька! Па-французску значыць: ваўка ногі кормяць... Свет цяпер энергічны... І яшчэ, бацька, калі трэба, то трэба і вочы заплюшчыць. Ну, давай, чорная, твой чамадан, грошы ў аўтобусе аддасі, баішся ўжо, што вінавата астанешся? Расплацімся, людзі мы свае. Я цябе ўжо недзе відзеў, астаецца толькі ўспомніць... Ну і чамадан...— цмокаў ён языком ужо аж на двары ля ганка.— Якога чорта ты яго цягнула ў вакзал? Не магла адразу нясці ў аўтобус? Не магла наперад здагадацца, што са мной не прападзеш...— Ён раптам адвярнуўся і кіў-

нуў галавой: — Крэмзафіл, бацька. Па-японску: не адстанай, месцы яшчэ трэба выбіць — у білеце нічога не напісана. Цяпер свет хітры, ведаюць, што калі ты змог падтачыцца да касы, то надточышся і ў аўтобусе: там лягчэй. Давай, бацька, лезь першы. Ты — стары, табе ўступяць. Чорную я пасаджу сам, гэта — як піць даць, не трэба было тады браць і білеты. Ну, а сам, во, на чамадане, калі што... Яно, сёння, бацька, і мяне ногі не дзержаць...

У аўтобусе былі свабодныя заднія месцы, і селі ўсе трое ўпобачкі. Андрэй, нагнуўшыся, залез у самы куток, да акна.

— Крэмзафіл! — аж свіснуў хлапец у белай рубашцы.— А я ўжо ваяваць сабраўся. Не люблю вайны, бацька...

За пасёлкам доўга падымаліся на гару — пад самыя антэны ля ваеннага гарадка. Насустрач пабег лес — высокія старыя сосны, як ля Белай дарогі, і правады на слупах, цэлымі жмукамі — не злічыць. З гары па асфальце ляцелі, як усё роўна па злом галавы, і ўспаміналася нешта далёкае, як усё роўна ён з дзяцьмі калышацца ў хаце ў начоўках, падвешаных на лейцах да бэлькі...

Збоку над лесам пабялелі раптам воблакі, і між іх зірнула сонца. Праз шкло над галавой здавалася сіняе, як у фарбе. Лес, увесь у расе, заблішчаў іскрамі; на зямлі ў прагалах, было відаць, ляжаў туман.

Ля дарогі краталіся трактары з белымі, вышараванымі аб пясок гусеніцамі; салдаты з гарадка капалі рыдлёўкамі вузкую глыбокую канаву, кідаючы далёка ад сябе жоўты пясок.

Шасталі і шасталі на разміне машыны, аж ішоў па спіне холад. У аўтобусе — доўгім і раскошным — калыхала ззаду і цягнула на сон. Андрэй заплюшчыў вочы, але падумаў, што не засне: усярэдзіне як усё роўна што дрыжала. Не мог ніяк супакоіцца яшчэ ад таго, як палучыў у канверце позву. Здавалася цяпер, што круціцца ўвесь свет, як зямля за акном, за аўтобусам, круціць і яго, Андрэя, не даючы ніяк прыстапішча... Тады, калі ён сядзеў у канторы пасля аблавы і ішоў дождж, яшчэ вунь як чакаў, каб скарэй паехаць пад Полацк. Пасля ў яго стала нынь усярэдзіне, і ён пачынаў думаць па-інакшаму. Усё можна кінуць і паехаць пад Полацк, нічога не шкода, каб толькі было спакойна на душы. А хто скажа, што там будзе спакойна? Хаця можна сябе пераламаць, і ён пераломіць, калі наважыць, знойдзе сілу.

Зноў, як усю дарогу ад Вострава, з ветрам, які ляцеў

пад паднятую недзе ўперадзе шыбу, пахла зямлёй. Чым далей ад'язджаў ад дому, як наўмысля, пахла зямлёй...

У вачах стаяла белае карэнне: гоніць вадой, а яно чапляецца за зямлю... «Карэнне не баіцца,— падумаў ён.— У другім месцы прырасце. Зямля ўсюды добрая...»

Ён — паедзе...

Зноў схавалася ў рэдкія хмары сонца, і на шкло пырснуў дождж, дробнымі кроплямі, што макам.

«І на двары, як на душы. То адно, то другое...»

Калі ён цяпер глядзеў на цьмянае сонца, у вачах ішлі кругі... Ён заплюшчыў вочы, а кругі ўсё скакалі, многа, як некалі ад вядра на снезе ля студні... Адразу паяўлялася Балюта: сядзела за грубкай на ложку, звесіўшы на падлогу босыя ногі, і папраўляла на грудзях доўгую расплеценую касу. І глядзела не на яго — ён сядзеў упобачкі,— а некуды на падлогу.

— Рукі ад работы баляць за лета... Сена, цяпер лёну гэтулькі на полі... Бульбу скора выбіраць. А дома — усё на табе. Карова, хата. Аднаго ржышча тупой касой колькі трэба было надзяўбці... Дзяўбеш-дзяўбеш... Каго надта папросіш? А папросіш — бутэльку стаў. А дзе іх на ўсё набярэшся? Дарма іх не даюць — ці ў магазіне, ці так у каго бярэш. Гані сама кожны раз: на дровы, на касьбу, бульбу забаранаваць... Быў сын дома — як у бога за пазухай... А так...— Яна то заплятала, то расплятала на грудзях касу, гаварыла, не гледзячы на яго, нібы ўсё жыццё чакала, каб выказаць яму свае беды, нібы ён быў ва ўсім вінаваты.— Ссівела, а дзе яна, жызня? Адна. А тры разы замужам была. Тры мужыкі былі, а цяпер адна. Хоць бы які крывы знайшоўся да старасці разам дажыць. Думаеш, лёгка адной? Не вер ты ніводнай бабе. Штаны, здаецца, памыў бы, і то на душы лягчэй стала б: мужчына ў хаце. Дык і няма каму. А так... А так вас многа... Пакажы толькі зубы з двара, засмейся...

Ён падумаў, што пасля таго ўсе гэтыя дні не бачыў Балюты,— як усё адно дзе схавалася, як усё адно яе і не было ў вёсцы. І дачка да яе не хадзіла, сядзела дома, нібы чакала кожную мінуту, калі ён будзе ад'язджаць,— дзеці чуюць... Ціхая стала — слёз на вачах няма, а — уніз глядзіць. Не малая ўжо, ведае ўсё. Што зробіш. Не адна яна такая.

Зноў падымаліся на гару: аўтобус стагнаў, як разрываючыся; поўз, нібыта яго цягнулі. Схавалася сонца, найшлі хмары, пацямнела, і па гары, далёка на полі, была відаць белая скаціна...

«І агонь мала гарэў вечарам гэтыя дні ў яе ў вокнах...» — зноў падумаў ён пра Балюту. Але ён, Андрэй, не мог пайсці да яе — як што ўзяло стала раптам на дарозе. А калі не ішоў — рабілася раптам шкода яе, і нешта новае пачынала ныць усярэдзіне. Спачатку яму хацелася тады скарэй паехаць пад Полацк, пасля, калі ён думаў пра Балюту, на душы рабілася неяк ціха, нібы хто здымаў рукой усе беды. Ён тады думаў, што так не паедзе, што яму трэба пагаварыць з Балютай. Пра што — не ведаў сам. Пра дачку... Каб Балюта пад'язджала калі глянуць яе ў раён? Не, не пра дачку. Пра самога сябе, мусіць,— што яму рабіць, раз так выйшла. Пасля думаў, што раскіс, што яна будзе смяяцца. Дзе ён дзенецца, калі астанецца? Дзе той кладаўшчык, як гаварыў старшыня... Так ужо адразу. Па нараду трэба будзе ісці... «А калі па нараду? — падумаў быў ён цяпер. Першы раз за ўсе гэтыя гады.— Людзі ж ходзяць. Што, горш яго жывуць? Ці самі горшыя? А Балюта? Дзень у дзень. Рукі ад работы цвёрдыя, што ў Падбярэцкага, і шорсткія... Нацягалася за свой век. І пасля вайны ў галодныя гады, хоць і з сынам толькі была ўдваёчках, недаядала, як і ўсе. Хто іх, баб, разбярэ. Цяпер ёй — хоць крывога, а тады, пасля вайны адразу, калі не стала Рукалеева, не трэба было ёй і з двара зубы паказваць, дык не пайшла, ні за кога не пайшла. Цяпер-то ёй ужо ніхто так і не патрэбен — сына выгадавала, дачакаецца з салдатаў — жаніць будзе. А тады, калі ў рот не было чаго пакласці, мужык пастараўся б, як ні кажы...»

І тады яму раптам успомнілася, як хто ўсё роўна таўхануў у бок, як ён прынёс Балюце чаравікі. Не ёй — сыну. Вялікія, на сваю нагу — палучаў на рабоце сабе: са скуры, перады чорныя, касматыя, вывернутыя назнайніцу — даўжэй носяцца, не трэскаюцца; тоўстая гумовая падэшва ў круглыя пянькі прыкручана да ўсцелькі жоўтымі меднымі шурупамі без плешак — веку няма. Прынёс ён ёй чаравікі недзе ўжо ўвосень, позна — снег ляжаў на полі і на гародах і ўсюды на дарозе стаяла вада, не прайсці. Было гэта недзе тады, калі ён збіраўся кідаць работу ў горадзе і думаў варочацца дамоў — у леспрамгас. Ішоў ён з Вострава — да Вострава падвязлі ваенныя на машыне, прыязджалі па нарыхтоўку: па бульбу,— ішоў пехатой па гразі і па вадзе, цёпкаўся, як па пекле. За Луськім ужо, у самай лагчыне ля грэблі, дзе па рудой траве шваргатала вада — бегла ў раку, яго дагналі дзеці. Варочаліся са школы з Луськага — у Мсціжах школы не было, і цяпер

няма, дзеці ходзяць у Луськае, недалёка, цераз грэблю,— мокрыя па вушы, запырсканыя, расхрыстаныя... Беглі адзін за адным, крычучы і абмінаючы яго. Апошні бег Балюцін Саша — дробны, не па гадах, мусіць. Пад дзесяць яму тады было, ці што. Худзенькі, у чорных палатняных штанах, пафарбаваных у мучанічніку і ў рудзе ля грэблі, у даваеннай чорнай, выцертай, як вылізанай языком матчынай плюшаўцы, шырокай, з падкасанымі рукавамі, з палатнянай, пафарбаванай у чорнае, як і штаны, торбачкай у руках — нёс кніжкі — і ў лапцях. У новых, сівых яшчэ, зробленых з аборак — з пянькі — па яго назе, падшытых моцна і гладка гумай ад пакрышкі. Рабіла і падшывала не сама Балюта, прасіла некага: знаць мужчынская рука. У белых па штанах анучах, мокрых, запырсканых, скакаў ён, як заяц, з сушэйшага на сушэйшае і ніяк не мог дагнаць дзяцей...

Пагаварыў Андрэй тады дома з Веркай, і яна сказала: «Занясі чаравікі. У цябе ёсць, і ў мяне ёсць, а запас нам не трэба».

Ён помніць, як зачырванелася тады Балюта, замахала рукамі, пасля пачала выціраць іх аб фартух — рабіла нешта на стале: палілася ў печы,— адышлася да акна, адвярнулася і заплакала. Ён падумаў тады, што трэба было паслаць з чаравікамі Верку — стаяў у парозе і не ведаў, дзе іх дзець. Пасля паставіў на зэдлік ля стала і адышоўся да дзвярэй.

Балюта павярнулася да яго ад акна, выціраючы ўсё яшчэ шчокі рукамі — ён згледзеў, што рукі ў яе былі ў муцэ,— і сказала неяк зусім ціха, ніколі так не гаварыла:

— Вялікія, не яму... Ён жа ў іх увесь схаваецца... Ды і грошы за іх плочаны...

— У лапцях жа ён, Балюта... Памяняеш дзе, калі так. Дзіця берагчы трэба...— сказаў ён ёй тады, як цяпер помніць.

Ён падумаў цяпер, што моцныя былі чаравікі, тыя, што выдавалі ім на рабоце ў горадзе. Свае дык ён за дзве зімы знасіў на канюшні — мокры кожны раз... А Верка доўга насіла, берагучы. Нядаўна толькі іх выкінулі з сенячак з-за шафарні на двор — яны доўга віселі на частаколе ля хлеўчыка. Верх патрэскаўся, вялікія пальцы парабілі дзіркі — мышам лазіць, а падэшва была цэлая, абцасы толькі счасаліся — магла згадзіцца на што, і ён, Андрэй, ускінуў яе на гару на хату. Недзе і цяпер ляжыць, калі не знясло ветрам вясной, як драла страху...

«Многа чаго змянілася за гэтыя гады,— падумаў ён наўпасля.— Асталося толькі ў памяці... І ў душы... Наўсягды».

Заснуў Крэмзафіл. Абапёрся плячом на чарнявую дзеўчынёху, апусціў галаву, сашчапіўшы між калень рукі і скамячыўшы пінжак.

За акном круціліся прысады, дробныя, рэдкія — далёка ад дарогі.

## 13

Аўтобус ныў і ныў, не сціхаючы: зноў падымаліся на гару.

Спямнела, як вечарам. Было відаць, як чорныя хмары віселі нізка, над гарой. Ля самай зямлі ўперадзе чыркнула кароценькая бліскавіца, як хто сярнічкай па карабку; вецер пагнаў, падняўшы ўгару, белае дробнае лісце ад прысад. Зверху па цёмным шкле і збоку па акне заляпацеў дождж, буйной, чыстай, калючай вадой — з ветрам. Зазвінела недзе ўперадзе апушчанае шкло; на шчокі сыпанула імжа.

Пад'язджалі да горада: здалёку паказаліся белыя будынкі, як усё роўна выпаў і ляжаў там снег, з аднаго і з другога боку дарогі. Невысокія, прысадзістыя, нібы хаты дома ў вёсцы; вышэйшыя, як інтэрнат у раённым цэнтры, і побач, у іх за плячыма — уровень немаведама з чым: не ўгледзіш з аўтобуса верху. І над імі, і побач з імі перапляліся, як павучынне, антэны. Ля самай зямлі, ля стрэх і над стрэхамі, счэпленыя высака ўверсе ў пукі, папацягваныя на колцы, што ўсё роўна сеткі на абручы, яны падымаліся ўгару і хаваліся недзе ў нізкіх чорных хмарах. Воддаль было відаць, стаялі вышкі. Як перапляты ў каго ў вёсцы ў гародзе — падумаў ён.

За белымі будынкамі цераз дарогу пайшла высакавольтная лінія — на металічных вышках віселі чорныя цяжкія правады. Падчэпленыя да круглых талерак, яны, здавалася, не ўдзержацца, сарвуцца, упадуць на зямлю, палячы траву і плавячы пясок і каменне, як было раз ля Вострава... Лінія ішла як дзе на край зямлі, і Андрэй доўга глядзеў туды...

Дождж ішоў густы, спорны; насустрач пабеглі машыны, ківаючы спераду на шкле чорнымі дворнікамі; на абочынах хадзілі людзі з напятымі парасонамі над галовамі, у чырвоных, сініх, жоўтых зграбных плашчах. Збоку на павароце акруціўся трамвай — заблішчалі высака

ўгары густыя іскры і пасыпаліся на зямлю, што ўсё роўна ў кузні ў Падбярэцкага з горана.

Уязджалі ў горад. Аўтобус пачаў торкацца, тармосячы людзей: наперадзе станавіліся машыны. Ішлі насустрэчу адна за адной: чыстыя, бліскучыя, абмытыя «Волгі»; дробненькія, нізенькія старыя «Масквічы», высокія, над стрэхі ў хатах, МАЗы з прычэпамі, гружоныя сівымі, шырокімі і доўгімі, мокрымі ад дажджу плітамі, чырвонай і белай цэглай; аўтобусы, набітыя біткам — усё адно як яны ішлі не з горада, а з Вострава ў раён — і крытыя брызентам, мусіць, ваенныя, доўгія новыя шырокія грузавікі. Беглі трактары з прычэпамі — «беларусы», даганяючы машыны, чырвоныя, сінія; ад іх уцякалі, што ўсё роўна мышы з-пад ног, матацыклы. Пасярод вуліцы з рабой палачкай у руцэ, у бліскучым ад дажджу плашчы ішоў міліцыянер, не гледзячы ні на кога; усюды паявіліся рапам людзі: стаялі на прыпынках, чакаючы, мусіць, трамвая і аўтобуса, ішлі тратуарам, абганяючы адзін аднаго, з пустымі рукамі, з партфелямі, з сумкамі, вялікімі, напакаванымі бог ведае чым. Зазвінеў недзе блізка збоку трамвай — нейкім ядраным звонам, як званіў тады, адразу пасля вайны; замільгалі машыны: стаялі на крыжаватцы, тады адразу рванулі з месца — закруціўся, зашумеў, загудзеў адразу ўвесь горад. Здавалася, не было ні для кога дажджу, нікога не хвастаў ён з ветрам, калюча і сыра, здавалася, тут прывыклі да яго, як і да звону, груку і шуму ў галаве...

Андрэй падумаў, што ў горадзе ён быў даўна — ездзіў апошні раз з Веркай, калі яна яшчэ не хварэла,— што горад змяніўся зусім: ад таго, мусіць, што ўсюды новыя будынкі. Падумаў пасля, што ўсё мяняецца на вачах і дома, і ў горадзе, што ў Чырвоным Урочышчы, дзе ён жыў пасля вайны і ні разу ад таго не быў, нічога б ужо не пазнаў — гэтулькі гадоў прайшло... Ён злавіў сябе на тым, што ў Чырвонае Урочышча яму не хочацца...

Аўтобус торкаўся і торкаўся, тармозячы; у людзей прапаў сон, пачалі ўставаць, перастаўляць на праходзе чамаданы.

— Станаўлюся толькі ля Камароўкі!.. І на вакзале! — спераду закрычаў шафёр, баючыся, мусіць, што яго не пачуюць.

— Крэмзафіл!..— прачнуўся адразу хлапец у белай рубашцы.— Па-японску значыць: на ўсю жалезку, на вакзал. На змену спазнюся...

На Камароўцы ніхто не выходзіў.

— Крэмзафіл...— сказаў цяпер ужо яму, Андрэю, хлапец у белай рубашцы: павярнуўся і глядзеў сонна ў вочы.— Па-японску: любата! Не трэба і галаву пад кран. Выткнуў з аўтобуса і... можна ісці на змену. Так цэдзіць... Крэмзафіл, бацька... Па-японску: патоп...

Дождж ліў руччом. Аўтобус, чуваць было, ішоў па вадзе, як дзе пераязджалі раку,— у горадзе, мусіць, дождж лупіў з самай раніцы. Стаялі па вуліцы адзін за адным тралейбусы — у шар, і беглі босыя дзяўчаты, прыціскаючы да грудзей партфелікі і махаючы туфлікамі — дзяржалі ў руках. На вуліцы ўсюды стала шэра, як ад туману. На калені зверху пацякла цурчом, прарваўшыся аднекуль, вада — як з падстрэшка.

— Крэмзафіл! — хлопец у белай рубашцы нагнуўся ўперад і падставіў пад струмень ускудлачаную галаву.

У аўтобусе пачалі ўсе адварочвацца назад.

Горад зрабіўся пусты, як вымецены, і шафёр гнаў як мог.

На вакзале было пуста і ціха: звінеў толькі, плывучы па вадзе, трамвай і стаялі, заняўшы ўвесь пляц, парожнія абмытыя таксі.

Людзі адразу пачалі выходзіць з аўтобуса, і Андрэй падумаў, што дождж пераціх. Ідучы за Крэмзафілам — Крэмзафіл, спяшаючыся, нёс вялікі чорны чамадан, і за ім ззаду бегла чарнявая дзеўчынёха,— ён пачуў, што ступае па лужынах, як дома вясной па двары, і мокнуць у ботах ногі. Пад'яснілася, далёка, недзе аж за горадам, пажаўцела неба. Дождж яшчэ церусіўся, дробны, як мак. Холадна стала за плячыма.

— Крэмзафіл! — крычаў здалёку хлапец у белай рубашцы. Ён цяпер ускінуў на плечы пінжак, і белая рубашка была відаць у яго толькі на грудзях.— Па-японску: плыві, бацька, скарэй. Іду на таксі — пакажу вуліцу. Тут блізка, дацягнешся... Вун туды павернеш,— паказаў ён рукой на шэры дом, ля якога стаяла жоўтая вялікая бочка на двух колах з-пад машыны,— павернеш за бочку — і прама. Проста ў дзверы. Праплысці толькі трохі трэба... Ну, крэмзафіл, бацька. Па-японску: будзь здароў. Я цябе знаю, а ты мяне не. Ну, будзь здароў...

«Чый гэта ён з Вострава, калі знае?» — падумаў Андрэй.

Хлопец мяняў з рукі ў руку цяжкі чамадан, баяўся ставіць; да чамадана нагіналася чарнявая дзеўчынёха — хацела памагчы. З галавы ў яе з'ехала мокрая газета і расцялілася пад нагамі.

Да іх, адлучыўшыся ад усіх, пад'ехала таксі, само.

Андрэй завярнуў ля бочкі за вугал і пайшоў вузкай чыстай, вымытай вуліцай — па вадзе.

У шырокім — як яму падумалася — калідоры ён доўга таптаўся з прыходу ля дзвярэй, гледзячы пад ногі,— баяўся нарабіць мокрых слядоў. Каля яго беглі некуды наверх, адразу хаваючыся з воч, дзяўчаткі з сумачкамі, складваючы на хаду парасончыкі і атрасаючы іх ад вады; ішлі мужчыны з вялікімі і тоўстымі партфелямі, у касцюмах са значкамі на каўнярах — здалёку, як усё адно міліцыянеры,— зайшоўшы з двара, перакідвалі на рукі плашчы і падымаліся наверх, хаваючыся з воч, як і дзяўчаткі. На яго, Андрэя, ніхто не глядзеў.

Тады ён падняўся па шэрых бліскучых прыступках вышэй і згледзеў яшчэ большы і даўжэйшы калідор — у адзін і другі бок ад праходу, як дома ў леспрамгасаўскай канторы. Людзі ўсё ішлі і ішлі: і мужчыны і дзяўчаткі, і зверху і наверх, і ён, пасмялеўшы — дзе тут хто згледзіць, калі ён натопча,— пачаў хадзіць у праходзе. Калі ён астаўся адзін, да яго падышоў мужчына — было відаць, спусціўся зверху, згледзеўшы,— у форме, здалёку падобнай на міліцыянерскую. Малады зусім, белы, з выгаралымі на сонцы брывамі:

— Вам каго?

Андрэй палез тады ў кішэньку пад паху, дастаў вільготнымі яшчэ пальцамі сіні канверт — зверху расцяклося адразу чарніла: адрас на вёску,— выняў з канверта паперку і падаў у рукі чалавеку ў форме.

— Ясна. Ідзіце за мной...— чалавек у форме аддаў паперку і, павярнуўшыся, пайшоў назад — наверх, ступаючы на кожную прыступку.

Пад нагамі на зялёнай з чырванню шырокай — на ўвесь праход — дарожцы ляжала яшчэ чыстае, усё роўна як выбеленае, кужэльнае палатно, вузкай палоскай, прыціснутае зверху бліскучымі меднымі пруткамі. Андрэй лучаў ступаць толькі на палатно, баючыся сысці на дыван.

— Так...— чалавек у форме, стоячы наверсе, чакаў яго.— Да Васіля Васільевіча. Правяду...— адчыніў ён адразу збоку ля сябе дзверы з шыльдачкай і пайшоў зноў наперадзе.— Да Васіля Васільевіча...— сказаў ён дзеўчынёсе, што сядзела за сталом у пакоі ўся ў чырвоным за высокай белай машынкай — такая машынка была ў канторы леспрамгаса, Андрэй бачыў, палучаючы ў Вулі гро-

шы. Дзеўчынёха ў чырвоным паднялася адразу з-за стала, хацела нешта сказаць, але мужчына ў форме ўжо адчыніў збоку ў яе другія, ababiтыя ў чорнае дзверы і зноў пайшоў наперадзе. Андрэй толькі сціснуў у руцэ кепку, каб дзе не згубіць, і паглядаў на боты — яны пішчалі, мокрыя ад вады. Ён яшчэ баяўся паслізнуцца на бліскучай, як люстэрка, жоўтай, у елачку, надлозе з паркету.

Яны прайшлі праз пусты — без людзей, застаўлены маленькімі жоўтымі і бліскучымі, як падлога, столікамі пакой, і, не стукаючыся, зайшлі ў другі — вялікі, доўгі. І гэты пакой быў застаўлены сталамі — у шар, адзін да аднаго; да сталоў былі прысунуты блізка крэслы; крэслы стаялі і круга сцен. У самым кутку пакоя сядзеў за шырокім, накрытым зялёным сукном сталом сівы мужчына са светлымі вачыма... Андрэй здалёку пазнаў яго — той, якога вадзіў на глушцоў пад Курачовы Цяні на Белую дарогу, начальнік. Начальнік сядзеў і пісаў, не падымаў галавы — відаць, прывык, што да яго хадзілі людзі. Збоку ля яго на століку стаялі аж два тэлефонныя апараты — белы і чырвоны. Пішучы, ён падымаў руку да тэлефонных апаратаў: званілі.

— Васіль Васільевіч... Да вас...— мужчына ў форме адразу завярнуўся і пайшоў да дзвярэй.

Начальнік за сталом устаў, зняў акуляры, паклаў іх перад сабой на шкло і ўсміхнуўся — паказаў пярэднія зубы.

— Ну, Вялічка... Не чакаў я ў такую буру... Во гэта чалавек з лесу. Там вы, відаць, нічарта не баіцёся... Ідзіце сюды, садзіцеся проці мяне і расказвайце. Раз прыехалі — значыць, усё ясна. Ну, расказвайце, што там робіцца ў лесе...

Андрэй асцярожна сеў на крэсла. Сядзеў, гледзячы пад ногі,— баяўся, каб не націкло з ботаў,— і чуў, як яму аднекуль дзьме холадам у шыю. Павярнуўся — зглядзеў, што адчынена акно — адна палавіна. Праз яго было відаць, як угары бягуць шэрыя рэдкія хмары. Знізу, з вуліцы, чуваць быў шум і недзе нешта ўвесь час ціха звінела.

Андрэй сказаў адразу пра аблаву; пра Унука — зводзіць, не бярэ пад Полацк; гарод адрэзалі; дажджы пайшлі, відаць, пачнецца восень, будзе сыпацца зверху, як сёння, да самай зімы, сушыла ж усё лета — бульбу не дасць выбраць...

Начальнік сядзеў проці за сталом і маўчаў: слухаў. Тады ўстаў, прынёс з кутка скручаную ў трубку карту і разаслаў на стале, схаваўшы шкло. Пачаў гаварыць зда-

лёку, нібы каму другому, нібы Андрэя тут і не было. Пасля ўжо сказаў:

— Нам цяпер трэба чалавек... Мы ж вам тады гаварылі... Помніце? Так-так... Ведаеце, колькі гектараў адыходзіць да нас? — Ён сказаў, колькі гектараў, і паўтарыў: — Так-так... Чаго тут дзівіцца? Гляньце сюды,— нахіліўся ён над картай і павёў беленькім карандашом па рацэ — Андрэй прачытаў; пасля абвёў на карце круг на далапю — кружыў некалькі разоў.— Усё цяпер — наша гаспадарка. Усё, што ў лесе,— наша і ваша. Нам трэба чалавек, які б адразу і падлічыў — зімой, канешне,— і падлячыў звера, які б звера любіў і ведаў. І... каб не валяліся больш ласіныя скуры. Ліцэнзіі будзем купляць...— Начальнік памаўчаў.— А звера вы любіце і знаеце. Пішыце заяву: хочаце быць у нас егерам...— Ён націснуў на століку ля тэлефона кнопку, убегла дзеўчынёха ў чырвоным.— Лісток... Ага, прынеслі. Добра. Аформіце адразу.

Дзеўчынёха выйшла, стукаючы дробна па падлозе,— Андрэй падумаў, што яна баіцца паслізнуцца і стукае; начальнік нагнуўся і паклаў перад ім на стол лісток, складзены ўдвая. Такі лісток Андрэй ведаў — запаўняў тут, у горадзе, пасля вайны, пасля ў канторы на ўчастку ў Шуры.

— Вазьміце ручку, любую,— паказаў начальнік на стол.

— Я падумаю...— Андрэй, асцерагаючыся, падняўся і адсунуўся з крэслам ад стала. Пачуў, як у шыю падзьмула з вуліцы холадам. Пацямнела ў акне неба — зноў наехала хмара. Рвануў раптам вецер, бразнула акно, расчыніліся ў пакой, дзе стаялі маленькія столікі, дзверы. Па вялікіх — зверху ўніз на ўсё акно — шыбах зашапацеў дождж. Чмякнуўся ў парозе з вешалкі чорны капялюш, як падбіты глушэц пад Курачовымі Цянямі на Белай дарозе ў мох... Сцямнела, што вечарам.

Начальнік зачыніў акно, адышоўся ў парог, пстрыкнуў на сцяне белым маленькім рычажком. У пакоі стала відна ад агню, аж сіне. Андрэй прыплюшчыўся. Адразу зрабілася ціха і сумна. Ён пачуў, што баляць ногі, захацелася за дарогу есці... Здалося раптам, што вёска недзе цяпер далёка-далёка, на краі зямлі, там, куды пайшла высакавольтная лінія...

Скруцілася на стале ў трубку карта — сама — і покнула на падлогу. Зноў яму здалося, што чмякнуўся ў мох падбіты глушэц і што вёска далёка-далёка...

У Балюты такія рукі ад работы, а ён будзе хадзіць

па лесе... Яму зрабілася горача, пачуў, што гарaць вушы.

— Я падумаю...— сказаў ён яшчэ раз.

— А што такое?

— Паеду, мусіць, з участкам. Пад Полацк. Ужо рашыў.

— Зноў да коней?

— Робяць прыёмшчыкам. Коней цяпер на ўчастках не будзе.

— На павышэнне, выходзіць? Я б на вашым месцы... Адбіваць вас ад Полацка не хачу, але ж зарплату і мы дадзім, я ўжо таварыў. Нам такі чалавек патрэбен.

— Які гэта я такі? Вы мяне, вот, да ласёў ставіце, а мяне за іх судзілі. Яшчэ і цяпер па суду спаганяюць...

— Ведаем. За аднаго бітага дзесяць нябітых даюць і браць не хочуць. Не нагаворвайце на сябе, не такі вы чалавек...— Начальнік зноў памаўчаў: — Дадзім каня, будзеце ездзіць. Здайце на правы — матацыкл дадзім. Што вам яшчэ трэба? Што вам цяпер дасць леспрамгас? Каля вас лес выразалі за колькі гадоў? Ну вот. Выражуць і пад Полацкам. А ў нас вы пабудзеце егерам. Не захочаце... дык мы ж палезлі ля вас у зямлю. У вашай зямлі... Самі не зналі, на чым вы век жылі. А знаеце, што гэта такое? Знаеце, што за размах? Будзеце ў нас пасля рабочым, бяда такая... А лес — лесам. Выражуць, пакуль падымецца новы... Так-так...

Андрэй слухаў. Перад ім як усё роўна ўсё перакруцілася: здалося, і дзверы і вокны не там, дзе былі спачатку, калі ён зайшоў...

— Я падумаю...— зноў сказаў ён.

— Вазьміце лісток з сабой. Дома ўсё зробіце. Нашы людзі ў вас там кожны дзень. Заедуцца...

— Я падумаю...

— Што гэта вы ўсё?..— начальнік падышоў і паляпаў яго па плячах, моцна, як усё роўна ён, Андрэй, папярхнуўся.— Падумайце, падумайце. Падганяць мы вас не будзем. Надоўга ў горад?

— Думаў, пахаджу па магазінах, але ў магазінах няма чаго рабіць... Паеду адразу. Лье, во, не выйсці...— паказаў ён, адтапырыўшы крыло пінжака.— Там можа з'явіцца Унук. Збярэцца ехаць, а мяне не будзе...

— А-га... Ну, добра...— начальнік падышоў да століка, каб націснуць на кнопку.— Падкінем на вакзал. Куды вам па дажджы...

Андрэй устаў з крэсла і замахаў рукой.

— Добра-добра...— усміхнуўся начальнік.— А лісток усё-такі вазьміце. Вазьміце...

Андрэй узяў са стала лісток, скруціў у трубачку.

У парозе начальнік паляпаў яшчэ раз яму па плячах: «Падумайце-падумайце»,— і стаў хадзіць адразу па кабінеце ўдоўж стала.

Зверху, аж з чацвёртага паверха, лёгка было ісці па мяккіх прыступках. Андрэй пачуў яшчэ, што яму неяк усяму зрабілася лёгка.

На вуліцы зноў хлынуў вылівень, як і на Кладках у Курачовых Цянях. Па асфальце плыла бурая вада з пенай і з жоўтым лісцем ад прысад. Пахла зямлёй, як усё роўна адкуль з вялікага ўзаранага поля.

Андрэй ішоў на вакзал...

## 14

На двары нехта бразгаў кручком, ніяк не могучы адчыніць вароты. Андрэй падумаў — здаецца, шумела машына; падышоў да акна, паглядзеў зверху над фіранкай на вуліцу. Сцямнела, і было відаць, як ззаду ад машыны падае на пясок і на вароты густы чырвоны агонь.

«Легкавая...» — падумаў ён.

Па двары ўжо нехта дугаў нагамі — ішоў да ганка. Андрэй прыгледзеўся — мужчына з партфелем.

Дзверы ў сенцы мужчына адчыніў сам і пастукаў у хату: у цемнаце не мог знайсці клямкі.

Дзверы адчыніла дачка — круцілася ў парозе з вілкамі ў руках.

У сенцах быў Вуля. У сівым палатняным пакамечаным плашчы, з чорным выцертым партфелем у руках, у якім прывозіў на ўчастак у кантору рабочым зарплату. Андрэй як стаяў у праходзе ля перагародкі, дык і рукі апусціў: не чакаў.

— Здароў, Вялічка... Што спужаўся? — загаварыў з парога Вуля і ішоў да яго: падаваў руку.— Дзвярэй не магу адчыніць... Ты чуў, Вялічка? Забыўся дарогу да цябе. Не мая віна. Ты чуў, Вялічка?

Пацiснуў руку, адышоўся да стала:

— Дачка? Такую дачку маеш? Дык чаго тады бядуеш? Такую дачку меўшы...

Нядаўна сцямнела. У хаце гарэў агонь: у адной і ў другой палавіне. Было відна і ціха, толькі шасталі на сцяне ад вуліцы ходзікі і трашчалі дровы: палілася ў печы. Пахла кропам: на стале на перагнутым у дзве столкі аб-

русе стаяла міска з салёнымі агуркамі: да бульбы вячэраць.

Андрэй усё яшчэ стаяў, не ведаючы, што рабіць.

— Ну, што ты, Вялічка, не просіш сесці гасця? На няпрошанага мала трэба.

— Сцяры ўслончык...— сказаў Андрэй дачцэ.— А можа, сюды, у другую хату? — спытаўся пасля ў Вулі.

— Што ты, Вялічка? Тут жа ўжо і закуска стаіць...— Вуля ўсміхаўся, і ад агню ў яго блішчалі вочы. Ён сеў на ўслон, прыхінуўся спінай да стала і паклаў збоку ля сябе партфель. Сядзеў і ўсё папраўляў яго — мацаў рукой.— Ну, як плячо, Вялічка? — спытаўся сціха.— Зраслося? І душа зацягнецца. Павер. Зацягнецца... Ну, як жывеш?

— Ды вот, жыву, не памёр... І мядзведзь жыве... Той самы. Нікому я не расказваў, а тут раскажу... На аблаве зноў ішоў, і зноў я страляў. І зноў ён жыве.

— Слухай, Вялічка. Усе будзем жыць: і мы, і мядзведзі, дзе мы дзенемся. І ты яшчэ не раз яго ўвідзіш... Калі ты вярнуўся дамоў?

— Учора вечарам. Назад едучы, яшчэ дакументы на дачку ў інтэрнат здаваў.— Андрэй задумаўся.— А што гэта ўсе ведаюць, што я ездзіў?

— Зямля, Вялічка, дыша. А я — гэта не «ўсе».

Памаўчалі. Вуля глядзеў, як яго, Андрэева, дачка папраўляе ў печы вілкамі дровы. Андрэй пастаяў, тады памалу пайшоў у парог, узяўшы з пячуркі сярнічкі.

— Слухай, Вялічка. Я знаю, куды ты пайшоў. Можаш смела вярнуцца назад. Вуля цяпер і макавага зерня ў рот не бярэ. Не браў і перш, а цяпер... І Вуля хоча жыць. У Вулі гастрыт. А знаеш, што гэта такое?..

— Першы раз у гасцях... Яно... Павячэраем. Як гэта так? Чужы чалавек... Бульба, во, зварыцца. Хаця, што бульба... А хто ў машыне? Шафёр?

— Ты, Вялічка, многа нагаварыў. З маёй старой галавой не ўсё зловіш. Я, Вялічка, не чужы чалавек. І бульба з агуркамі — гэта самае цяпер лепшае. А шафёра я клікаць не буду: не галодны. І хай ён думае, што я выпіў. Цяпер так: калі зайшоўся да каго, дык ужо думаюць, што і ў горла і за горла наліў... Ты нічога не строй. Я — на пару слоў: забраць лісток...

Андрэй зноў як стаяў у парозе, дык і застыў.

— Ты скажы... Як усё роўна людзі адзін за адным сочаць. Павернешся — ужо ведаюць. Слухай — а чаму гэта табе лісток аддаць трэба?

Вуля пераклаў партфель з аднаго боку на другі:

— Ты, вот, Вялічка, гаворыш: павернешся. Ты не надта павернешся. На свеце за гэты час, пакуль балела твая болька, многа чаго перавярнулася... А ты не. Што глядзіш на партфель? Той самы. І зарплату я важу, як і перш вазіў на «казле», толькі я ўжо не рабочых у леспрамгасе аплачваю... Лес, Вялічка, выразалі. А тое, што асталося — агуркі па закуску,— паказаў ён рукой на стол.— У нас, Вялічка, быў з табой некалі адзін начальнік, і цяпер адзін начальнік. Так што — дзе твой лісток? І я паеду. Праз тыдзень які выдам аванс: прывязу аж у хату, калі захочаш...

Андрэй вярнуўся з парога да перагародкі, сеў на маленькі зэдлік і задумаўся. Глядзеў на Вулю і не бачыў. Вуля зрабіўся маленькі-маленькі, як усё роўна сядзеў не перад ім на ўслоне ля стала, а недзе аж за гародам на лагу. За плячыма ў Вулі чарнела шырокай доўгай плямай акно, і ў ім блішчаў дробны і халодны агонь ад лямпачкі, як воўчыя вочы.

Андрэй раптам успомніў, што Вуля, прынёсшы яму ў бальніцу зарплату, расказваў, як ён збег ад дзяцей, уцякаючы ад паліцэйскіх... Такі чалавек — праўду гаворыць Вуля — будзе доўга жыць. Усюды выжыве.

Пасля Андрэй падумаў, што Вуля і тут як усё роўна збег. Пачуў, што лесу — на закуску, і збег. Хаця яму што. Ні з пілой ён, ні з тапаром. Якая ў цябе работа — яму ўсё адно; любую аплаціць. Сваё ён за гэта мае.

Вуля, седзячы за сталом, то далеў, то бліжэў. Андрэй пачуў, што яму раптам не захацелася гаварыць з ім пра лісток... І пра начальніка.

— Што падпёрся? Агонь гарыць добра. Можна пісаць. Давай на стол лісток... Хаця чаго табе лішні раз ісці ў тую хату.— Вуля ўзяў у рукі партфель, ціхенька, як баючыся каго, адшпіліў і дастаў гэткі самы белы, складзены ўдвая лісток, які Андрэй, скруціўшы тады ў трубачку, прывёз дамоў і паклаў наверх на шафу. Ён і цяпер там ляжыць — відаць аж адгэтуль.

Пакруціўшы ў руках, Вуля паклаў лісток на стол, ля міскі з агуркамі.

— Ты толькі гавары... Я напішу сам, вочы яшчэ свецяць.

Андрэй устаў з зэдліка, пайшоў да шафы, прынёс свой лісток, раскруціў і паклаў на стол з другога боку міскі з агуркамі — лісток адразу скруціўся ў трубачку.

— Адвязіце і гэты. Я еду пад Полацк... Вернецца Унук — паеду разам.

— Ты, Вялічка, гарачы, таму і на мядзведзя пайшоў...

І цяпер яшчэ не астыў чалавек. Ты быў на ўчастку, вярнуўшыся? Быў, ну вот. Відзеў, што ад канюшні асталося? Голае месца. Прыехалі, за адзін дзень ачысцілі. Будзе так і пад Полацкам. Не сёлета — налета. Голае месца будзе. Што ў цябе, Вялічка, галавы няма на карку?.. Не ведаеш, што ля нас знайшлі? Ніхто пра гэта яшчэ надта не знае, а я знаю. Там, дзе бабы пасля вайны фарбавалі ў гразі палатняныя спадніцы... Знаеш, там што? І знаеш колькі? Гэ-э... Ты, Вялічка, усё адно цяпер рабочы. Ці там, ці тут... Толькі ты вот без галавы, я не пабаюся сказаць. Думаеш, без цябе чалавека не знойдуць? Гэ-э... Адно свісні. Толькі яны за цябе ўчапіліся, начальнік сам расказваў. Бо яны відзяць, што ты хоць і без галавы чалавек, але з галавой і чэсны. А такіх людзей цяпер усюды шукаюць... Вялічка ты, Вялічка... Паходзіш па лесе, што з табой зробіцца...

Вуля сціх, і яны зноў маўчалі.

Бразгала дзвярыма Андрэева дачка: схадзіла, зняўшы з дроту ля печы вядро, прынясла са студні свежай вады — было чуваць, як на двары доўга скрыпеў асвер; пасля вярнулася на двор, расчыніўшы насцеж дзверы,— у хаце запахла настурцыяй з гародчыка — прынясла яшчэ дроў к заўтраму к раніцы. Белыя, як сыр, яловыя сухія дровы загрукалі пад вядром ля печы. Зачыніўшы дзверы, дачка склала дровы роўненька ў кучку, узяла з-пад суднічка з лаўкі маленькі гаршчэчак і сталаналіваць у яго вады: на чай.

Андрэй зноў сеў на зэдлік. Тады ўстаў з услона Вуля і пачаў хадзіць па хаце — ад парога да праходу ў другую палавіну: не цярпелася.

— Мы з табой, Вялічка, старыя людзі...— Андрэй згледзеў, як у Вулі зноў заблішчалі ад агню вочы.— Пажылі. Пахадзілі і па дарозе, і па лесе... І думаеш, я што дрэннае раблю на старасці? Не-е... Проста ўсё перамянілася. Тады хадзілі з пілamі мы, цяпер будуць хадзіць... ну, не з піламі, з другім інструментам — іншыя... Нам ужо скора пара ні ў што не ўмешвацца. Жыві, дажывай. Можам жа мы пад канец і лёгка па зямлі пахадзіць? Што, абавязаны толькі згінацца і адгінацца? І каб пуп трашчэў? Ты яшчэ, Вялічка, не знаеш, якую табе дае начальнік работу. Цаніць трэба...

Андрэй маўчаў, і Вуля шыбчэй стаў хадзіць па хаце, шастаючы плашчом:

— Лес, Вялічка, я люблю. Скажу прама: каб не вайна, можа, і не любіў бы. Ну, што да вайны? Ты ж ведаеш, дзе я рабіў. У грыбы я не хадзіў. А тады, калі я пабег... Дзе

дзецца? Як пабег у лес — там і астаўся. Партызан яшчэ тады тут не было і лагяроў не было. Сядзеў у будцы адзін, як воўк. А тады знайшоў Маню з дзяцьмі. Я не ведаў перш. І яна з дзяцьмі на лесе... Баба, якая б яна разумная ні была, усё роўна баба. Што можа без мужыка? З малымі дзяцьмі? Зрабілі мы будку, за вамі, Вялічка, за Белай дарогай. Да зімы сядзелі. Верка твая мяне помніла добра. Пастукаю ноччу ў шыбіну — яна ўжо ведае хто. Падам бляшанку — доўгая такая была бляшанка — наліе малака. Маніным дзецям. Пастаю, схінуўшыся дзе,— не хацеў, каб людзі відзелі, за нас тады не шкадавалі,— пачакаю, пакуль вынесе з хаты. А яна падасць і скажа, каб яшчэ раз прыходзіў ці каго прыслаў... І хлеба яшчэ дасць да малака з сабой — Маніным дзецям. І ты, відаць, не ведаў пра гэта. А можа, ведаў, ды мне ніколі не гаварыў. Твая Верка была залатая баба... Цяпер такіх не знойдзеш...

Накінуўшы на плечы фуфайку, дачка — Андрэй зглядзеў — шмыгнула за дзверы: пасядзець на лаўцы на вуліцы, пакуль бульба зварыцца. На вуліцы чуваць быў гоман: сабраліся дзяўчаткі. Яны з Вулем асталіся ў хаце адны.

— Маць яго так, Вялічка... Я цяпер смела табе магу сказаць. Ну, што табе дасць Унук? На новым участку ён будзе толькі цехнаруком. Ён прывык да ўсяго старога, як і мы. На старым участку ён бы яшчэ быў начальнікам. А там не. Я-то яго знаю. Пакрычаць ён умее. Дык гэта было перш. Тады крыкам бралі. А цяпер — эстакады, электрапілы, цягачы, хлысты, машыны — разбірайся. А як ты будзеш разбірацца, калі не можаш? Ну, не ўмееш? Прышлюць новага, маладога, з інсцітутам... Цяпер, брат, і лес рэжуць умеючы. І ты, Вялічка... Пры Унуку б яшчэ і прыёмшчыкам рабіў, а пры другім не будзеш. Я ж і цябе знаю... І сістэму знаю...

Вуля падышоў да акна і доўга глядзеў па гарод у цемнату.

— Пажылі мы тады на Белай дарозе да зімы. Ціскануў мароз. У вёску ж не пойдзеш зімаваць. І зямлянку не будзеш строіць на Белай дарозе. Данясуць — як крата выцягнуць за хвост, наехаўшы. Тады яны яшчэ ездзілі... І каб не паявіліся ля Вешак парцізаны... За фронт жа не пойдзеш...— Вуля зноў хадзіў па хаце, і ў яго гарэлі ад агню вочы.— Добра, што нас пусцілі пад крыло парцізаны. Вырылі мы ля іх лагера зямлянку... Пасля ўжо і ў лагер перайшлі. Згадзіліся парцізанам і я, і Маня... Вот табе і лес, Вялічка...— Вуля ўздыхнуў.— Ён мяне ад смерці ўбярог. І Маню з дзяцьмі. Каб не лес, Вялічка... Не было б цяпер

Вулі, і ніхто б табе не дурыў галавы... Думаеш, калі Вуля табе сказаў, што душа зацягнецца, дык у Вулі яна ўжо і зажыла? А ты спытайся ў Вулі, тады што ён табе скажа? Мала што ён сам гаворыць. На языку многа чаго ў людзей пабывала... Жыць, Вялічка, трэба, жыць. Вось і душа зацягваецца... А так... Вялічка, Вялічка... Я не дурны і знаю, што ты думаеш. Думаеш, што Вуля любіць лес, бо ў лесе хаваўся ад немцаў?.. А так — Вуля любіць другое. Эх, Вялічка... І ты — не дурны чалавек. Усё перамянілася. І лесу таго ўжо няма, дзе былі зямлянкі. Выразалі, адны пні асталіся. І месца таго не пазнаеш. Едзеш на гэтым «казле», грошы ў лес вязеш, у дзялянку, а ты тут жыў... Выйдзеш з машыны, патопчашся, патопчашся, сядзеш і паедзеш далей — павязеш грошы. А што на душы робіцца... А Вуля табе гаворыць, што яна зацягнецца...

Вуля зноў доўга глядзеў у цёмнае акно — у гарод, тады падышоў да Андрэя, да самага зэдліка і пагнуўся:

— Ты, Вялічка, у галаву надта не бяры... І калі ў цябе на душы не так — не слухай, што табе гаворыць Вуля. Я табе ўсё пра сваю душу. А што ў тваёй, дык я і не пытаюся. Са сваёй лезу. Я цябе мала знаю. Знаю толькі, што вы мне з бабай памагалі. І я табе хачу памагчы. Але калі ў цябе ў галаве што другое, пашлі ты гэтага Вулю к чортавай мацеры і рабі як сам знаеш. Вуля сам так робіць. А начальніку я нічога не скажу. Не-е... Начальніку я знайду што сказаць...

Андрэй устаў і сам стаў хадзіць па хаце. Разбяры ты Вулю. То лезе да цябе ў душу, то вылазіць. То слова не дае сказаць, то сам на яго нічога не скажаш.

Раптам усплыло перад вачыма, як вада гоніць у вёску з гары вымытае карэнне. Гоніць, а яно чапляецца за зямлю...

І яшчэ паявілася Верка... Стаіць ноччу ў парозе ля судніка, дзе цяпер Вуля, з доўгай бляшанкай у руках — злівае са збанкоў малако...

Са стала запахла кропам...

Андрэй нагнуўся, узяў скручаны ў трубачку лісток і падаў Вулю:

— Завязеш. Я там сам не хацеў сказаць, а ты цяпер скажаш: Вялічка — рабочы... І па лесе хадзіць не стане... Хочаце — хваліце яго, хочаце... Ты, Вуля, хвалішся, што лес любіў. Відаць, ты праўду сказаў: была патрэба, дык і любіў. А я, Вуля, зямлю любіў. І цяпер люблю. І па ёй хаджу... І буду хадзіць... Вот што я табе скажу... І давай, Вуля, я табе лепш бутэльку пастаўлю. Бульба ўжо звары-

лася... Што мы будзем плакаць, што ў каго цяпер на душы...

— Не-не-не...— Вуля засмяяўся, замахаў рукамі. Узяўшы з услона пад паху партфель, адкасаў на руцэ плашч і паглядзеў на круглы чорны гадзіннік.— Ты, Вялічка, разумны чалевек. І хітры. Хітрэй Вулі. І знаеш што? Можа, нават разумней Вулі. Некалі я заедуся да цябе і на бутэльку... Пачакай. Вуля яшчэ паздаравее, і яму можна будзе піць... Ну глядзі, Вялічка... Будзь здароў...

Вуля кіўнуў галавой у самым парозе — здалёку ў яго яшчэ больш блішчалі ад агню вочы,— узяў партфель з адной рукі ў другую і пайшоў у сенцы, сам адчыніўшы дзверы. Было чуваць, як шастаў плашч: і ў сенцах і на двары.

Ля варот загудзела машына, бліснуў на ўсю вуліцу агонь, і закрычалі, мусіць, лезучы на лаўку, дзеці. У хату бегла дачка...

Убегшы, скінула з сябе фуфайку, дастала вілкамі з печы гаршчэчак з бульбай, адцадзіла ў ра́жку, паставіла на ўслон — на анучу.

Разаслала на край стала абрус і высыпала бульбу — адразу ўсю.

З бульбы пайшла пара, высака, пад столь. Запацела ўвачавідкі акно.

Пасля дачка рассунула лыжкай на бакі бульбу і паставіла пасярод міску з агуркамі: так усягды рабіла Верка.

— Вячэраць, дачка, і спаць. Нікуды больш не пойдзеш...— ён зачапіў дачку сумысля: збіраўся пагаварыць. Але падумаў, што нічога не зможа ёй сказаць ні пра інтэрнат, ні пра Балюту — не варочаецца язык, і ўсё...

Ён падышоў да стала, прыняў лісткі: скручаны — начальнікаў і гладкі — Вулеў, паклаў іх на падаконнік і сеў на ўслоне проці акна.

На грэблі доўга быў відаць агонь ад фар — у цемнаце бегалі белыя палосы ўверх-уніз: машынаківалася па калдобах. Пасля палосы падняліся ўгару аж стаймя і адразу зваліліся ўніз, патухшы: машына пайшла за грэбляй ля могілак з гары...

## 15

Сонца выйшла з-за лесу і стаяла над Агульніцай, дзе ўчора ўвесь дзень хімгасаўцы рвалі карчы,— вялікае і мяккае: свяціла праз туман. На ўсходзе яшчэ гарэла за лесам чырвоная зара, як разгорнуты жар далёка ў печы. Над ёй віселі сівыя вялікія круглыя тулягі. Усюды было

ціха: у Агульніцы на пасецы, дзе здалёку былі відаць густыя жоўтыя бярозы; на полі ля Лазы — шэрым, пустым і нудным: па ім можна глядзець аж у той канец вёскі, пад Белую дарогу; на Доўгіх, пад Жоглаўкай, дзе лёталі вароны — хмарай — і на шырокім, як парожны ток, участку, усланым рэдкім туманам да самай кузні, як пасыпаным попелам. З начы ўжо была халодная зямля: ішла восень.

Ужо выходзячы на ўчастак, Андрэй пачуў, як на полі ля Лазы загудзеў трактар.

За Лазой высака ўгару падымаўся туман — рудымі палосамі.

Ногі зрабіліся мокрыя ад расы; з дарогі пахла саломай і скошанай яшчэ да дажджу парудзелай дзяцельніцай — пад ёй бліпчэлі маленькія жоўтыя кветы, як вочкі. Зацвіла нанава аж тут у лесе на дарозе дробная з рудым лісцем падбярозка.

Ад сосен на сырую зямлю падаў цень; цінькалі сініцы, і звінелі над верасам і зайцавым гарохам пчолы — не баяліся расы.

На дарозе, дзе павысыхалі лужыны, ляжала назмыванае ў кучкі жоўтае сасновае шыллё. Лагчыну ля дарогі парылі краты — у верасе былі знаць высокія гурбачкі свежага — у камячках — жоўтага пяску. Краты падымалі зямлю і на сцежцы, і Андрэй, ідучы, пераступаў цераз свежы пясок — не хацеў таптаць.

Калі ён выйшаў на ўчастак, туман падалеў, адскочыўся, як заяц, на пасеку за дарогу і за кучу старога пілавіння — у шліхты, дзе былі складзены дровы-метры. Участак здаўся зблізку яшчэ больш шырокі і пусты: не было ля лесу канюшні.

Ля канторы стаяла шэрая будка; ля частакола ля жоўтых юргінь хадзіў Арціст.

Андрэй зняў з пляча мяшок, тоўсты, брызентавы, куплены яшчэ тады, калі рабіў у Чырвоным Урочышчы, з брызентавымі дзяжкамі — на плечы, з жалезнымі ржавымі спражкамі. Мех увесь час ляжаў у шафе — у яго Верка складала старую крамную непатрэбную адзежу і даставала, калі трэба было што парванае латаць,— ляжаў гэтулькі гадоў.

У мяшок ён паклаў мыла, ручнік, брытву і лёзы. Было цёпла, і ён запхнуў у мех фуфайку. Сабраўся яшчэ звечара — што там было збірацца: вытрасці з мяшка старую адзежу і вымыць на двары ля частакола мыльніцу — па-насыхала мыла.

Можа, на дзень паедзе, а можа, і на тыдзень, да суботы.

У суботу прывязе тады ў мяшку буханкі са тры хлеба — не перавязваць жа дзягай, як Падбярэцкі, і соўгаць па каленях.

Прывязе дачцэ і Балюце, каб не хадзілі ў Вешкі ці ў Вострава: магазіна ж няма па ўчастку.

Падумаў тады, што скора не трэба будзе нічога нікуды вазіць.

Учора вечарам зайшла, ідучы з участка, Нінка. Пахаваўшы Рамана, назаўтра прыйшла па работу: орс забіраў магазін — рабілі пераўчот, не далі і пабыць дома. Праз яе перадала Шура: званіў Унук — паехаў на новы ўчастак з дырэктарам леспрамгаса,— каб ён, Андрэй, быў гатовы к заўтраму. Будуць забіраць Шуру — паедзе разам.

Машына з новага ўчастка з-пад Полацка прыйшла рана. На ёй прыехаў Унук, хадзіў па ганку, гаворачы да пекага. Здалёку была відаць яго лысая галава.

Андрэй стаў і доўга стаяў ля канюшні — як прыраслі ногі. Ад самага лесу да горкі — да парожняй сушылкі з расчыненымі дзвярыма — ляжала бурая шырокая паласа, як усё роўна дзе на полі выгарала ад агню сухая трава. Ля яе была здратавана наўкола зямля; сляды ад машын паўсыхалі — канюшню забралі ў дажджы, тады, калі Андрэй ездзіў у горад,— і, здавалася, асталіся на зямлі навек.

Ён ішоў па іх, крышачы ботамі груду, тады сышоў на праход у канюшні. Ступаў памалу, не падымаючы галавы да канторы... На яго з праварын, здавалася, глядзелі коні: вялікімі чорнымі вачыма з-пад касматых, сплеценых калючымі дзядамі, грыў. Саплі насамі, нюхаючы здалёку рукі, храплі, форскалі, ірзалі ціхенька ад радасці, чакалі аўса...

У праварынах яшчэ валяліся паламаныя кармушкі — старыя дошкі, бомкі, якімі запіралі коней, кавалкі драбін з жоўтымі скабамі, рваныя аброці; у адной ляжала пагнутае старое чорнае вядро, у якім ён, Андрэй, разносіў авёс.

Засіліш у кладоўцы вядром аўса, згорнеш зверху локцем контур— роўная мерка на раз...

Пасярод канюшні, дзе была кладоўка і дзе патачылі зямлю мышы, перамяшаўшы патруху з сухім жоўтым пяском, сядзелі вераб'і — цыўкалі, падымаючы галовы на Андрэя, і ляжала доўгая, вузкая, яшчэ новая дошчачка з чорным надпісам: «Берегите лес от пожара!»

Пахла сухім, выпетралым за лета гноем, стаптаным палыном і свежай халоднай імшарай недзе аж з-пад Курачовых Цянёў...

Ён стаяў, а ў вачах плыла зямля...

Здавалася, далёка, ля сілосных ям ля фермы, ішоў ён сам... Ішоў на ўчастак: па гразі, па мёрзлай грудзе, тады па снезе; ішоў вечарам, калі ззаду гарэлі ў вёсцы агні; ноччу, калі не знаць ні зор угары, ні дарогі пад нагамі; додніцай, калі толькі зарэла, было холадна і адзываліся адны дразды — памерзлі за ноч. Пасля ён ехаў на Сібіраку да ракі, і ўсюды грукалі падкаваныя капыты па мёрзлай зямлі, аж звінела ўвушшу. Ля рэчкі і на лагу ля вёсцы ірзалі коні; ірзалі ля сілосных ям, у лесе і ля канюшні, не хочучы ісці ў праварыны — заганяй іх, трасіся попусту на Сібіраку...

Сціснула нешта ўсярэдзіне... У роце зрабілася суха і горка. Ён успомніў, што коней хоць калі прыходзіла памагаць заганяць Верка... Памагала тады і раздаваць авёс... Звінела толькі ядрана парожняе вядро аб праварыны ў яе руках...

Пасля здавалася, што коні рассыпаліся па ўсіх Доўгіх, грызучы халодную зялёную атаву, пакрытую інеем... Ля ракі ў голых шэрых альховых кустах гарацъ чырвоныя рабіны, за сівыя нізкія хмары хаваецца на захадзе сонца, і ў вёсцы з комінаў ідзе высака ўгару дым... Тарахцяць і тарахцяць, не сціхаючы, на Загуменні і на грэблі па грудзе калёсы, і гудзе трактар у тым канцы за Мсціжамі, пад Луськім...

Ён зноў пачуў, як прыраслі да зямлі ногі...

Зноў ірзалі недзе блізка, як дзе ў лесе на дарозе, коні — самі ішлі да ракі...

Ля канторы смяяўся Унук і гаманілі браты Канэцкія — выносілі на ганак стол, за якім усе гэтыя гады сядзела Шура і ўсе гэтыя гады перабірала сінія і белыя паперкі — як усё адно другога і не ўмела рабіць...

Выйшла з канторы і Шура, у чорным касцюме і ў белым берэце. Апіраючыся на жоўтую кароценькую палачку з пад'ялеўцу, падышла да машыны, глядзела, як браты Канэцкія падаюць Падбярэцкаму — той стаяў з краю ў кузаве — стол, тады адышлася, ціха перастаўляючы ногі, зірнула здалёку на яго, Андрэя, паказаўшы бліскучыя зубы, кіўнула галавой і пакраталася да кабінкі. Ад частакола адышоўся Арціст і стаў памагаць ёй лезці ў кабіну — узяў пад паху.

У канторы быў відаць Унук — зачыняў, бразгаючы, вокны. Браты Канэцкія закрывалі задні борт — стукалі далонямі па круках. Андрэй зглядзеў здалёку, што была застаўлена ўся «будка»: у самым кутку ля кабіны блішча-

лі шкляныя дзверцы ад жоўтай шафы; ля шафы стаяў шырокі Унукаў стол, і ля яго былі састаўлены абы-як сабраныя з усёй канторы крэслы. Побач ляжала яшчэ нешта, накрытае брызентам,— мусіць, усё Шурына з пакойчыка: з-пад брызенту блішчаў белы чайнік — вываліўся і прыхінуўся да Шурынага стала, які прыткнулі ля самага борта.

На ганку паказалася лысая галава — Унук зачыняў за сабой дзверы, бразгаючы ключамі, і кашляў, цяжка і глуха, як у бочку: прастыў, мусіць, на аблаве.

— Во, і лайдак прыйшоў. За ім ходзяць, за ім пасылаюць, а ён хоць бы крэсла ламанае прыбег памог Унуку на машыну ўскінуць... Во народ пайшоў. Што, думаеш, Унук па цябе заязджацца б стаў? Думаеш, без такога начальніка машына б не пайшла? Начальнікамі ўсе парабіліся. Пасылай па іх, чакай іх, а ён прыйдзе ці не — чорт ведае. І там за яго горла дзяры,— Унук кіўнуў галавой некуды ў Агульніцу, за старую кучу пілавіння,— і тут яго з печы цягні, калі прыйшлося. Што ты толькі цяпер робіш? А крычэў жа, ходзячы, на Унука, аж лес гудзеў...— Унук смяяўся, быў вясёлы.— Ну, здароў...— падаў руку, паглядзеў недзе глыбака, аж у душу, і падміргнуў хітра адным вокам, як усягды падміргваў за сталом Шуры, калі ў канторы было многа рабочых, і пайшоў да кабінкі.

Пачакаўшы, зноў загаварыў там, смеючыся, да Шуры:

— Ну, дзяўчына, вытры слёзы... Мы-то сюды яшчэ прыедзем, па вуглы, а ты — не. Калі, можа, і заглянеш, то тут ужо не будзе ні дошчачкі. Лес пасадзяць... Ну-нуну...— загаварыў ён раптам цішэй — Шура, мусіць, плакала.— Бяры, дзяўчына, ключы, аддасі, прыехаўшы, мне...

Уздрыгнула машына, скацілася з горкі, стаяла, мусіць, на тормазе, тарканулася процi акна.

У канторы было пуста, раскошна; на падлозе валялася раскіданая папера, сіняя, тая, што ляжала ўсягды ў Шуры на стале. Падзьмуў аднекуль з лесу вецер, заківала жоўтымі сухімі галовамі пад вокнамі ў гародчыку юргіня...

Браты Канэцкія ўжо сядзелі ў кузаве на крэслах: ля іх, абапёршыся рукой на стол, стаяў Падбярэцкі, у адной чорнай рубашцы, у новай карычневай кепцы — старую кінуў дома. Ад яго густа пахла самагонкай.

— Што ваўком глядзіш? — загаварыў ён з будкі: зачапіў першы пасля аблавы. Мірыўся, Андрэй знаў.— Прыгадзімся яшчэ адзін аднаму. Дарога ўперадзе вялікая, разам едзем. Ну, давай руку. Што, не выспаўся, ці шкода чаго? Не на вайну ж сабраліся. Прывязе ў суботу дамоў гэта са-

мая «будка», агнём бы яна пайшла. Косці ўсе паадбівала за жызню. Малаток так не адбіў, як яна... Ну, давай руку...

Андрэй рукі не падаў. Стаяў, не кратаючыся з месца. Зноў у вачах паплыла канюшня, коні пад Жоглаўкай, Мсціжы — доўгія, з новымі стрэхамі, выцягнутыя ад фермы аж пад Белую дарогу да лесу, жоўтае ад лубіну поле ля Лазы на Загуменні, лог у тым канцы вёскі, за якім відаць з фермы хаты ў Луськім... Ідуць на Доўгія бабы ў белых хустках і нажутках, кучкамі, з граблямі на плячах... Мігнулася недзе ў грамадзе Балюта, у паркалёвай сукенцы ў клетачку, з загарэлымі высака, аж па плечы, рукамі...

Чуваць яшчэ, як на Доўгіх пахне сухім спелым кмінам і ракой: глеем, гнілым торфам і бабком з заток...

— Ну, палезлі, хлопцы. Давай, Вялічка...— вярнуўся ад кабінкі Унук — там бразнулі адны і другія дзверцы,— узяўся абедзвюма рукамі за борт, абапёрся наском бота на фаркоп і ўскочыў у кузаў, спрытна, як малады.— Што, Вялічка, зноў цябе прасіць трэба?

Арціст засігналіў, моцна, на ўвесь участак. Андрэй згледзеў, як ад машыны пырхнулі вераб'і і селі на страху на кантору.

— Я не паеду...— сказаў Андрэй і кашлянуў: суха было ў горле.

— Як гэта... не паедзеш? — выпрастаўся ў кузаве Унук, дастаючы галавой угары аж да брызенту.— Што за штукі? Заўтра ж лес прымаць у дзялянку ісці, а ён не едзе. Што там у цябе яшчэ? Дома што?

— Не. Зусім не еду...— Андрэй сказаў смялей, падышоўшы бліжэй да машыны: дзьмуў вецер, і здавалася, Унук не чуе яго, Андрэя.

— Як гэта... зусім?.. Ты што, здурнеў, Вялічка? Там за яго горла дзяры, а ён конікі выкідвае... Давай сюды мех...

— Не паеду. Буду дома...— Андрэй загаварыў мацней, яму ўсё здавалася, што яго не чуе Унук.— Быў дагэтуль і цяпер буду...

Унук тады саскочыў з кузава, лёгка, як малады: злаўчыўся — усё жыццё па машынах і па кузавах.

— Вот дык адкалоў штуку... Слухай, Арціст, не сігналь, пачакай там... Успеем з козамі па торг...— крыкнуў ён, павярнуўшыся да кабінкі, тады загаварыў цішэй, да яго, Андрэя:

— Ну, дык што там у цябе? Чаму перш не сказаў?.. Дай, Канэцкі, я закуру...— выцягнуў ён руку назад, аж у кузава.

Старэйшы Канэцкі паклаў яму на даланю пачку «Беламору» і новенькі карабок з сярнічкамі.

Закурыўшы, Унук доўга глядзеў у зямлю — думаў.

— Ну, дык што мне з табой рабіць? — спытаў ён пасля.— Чаму перш не сказаў? Языка не было?

— Перш я і сам не знаў... А цяпер... Не паеду нікуды... Буду дома.

— Даць бы табе пад зад, каб каціўся к чортавай мацеры...— Унук паглядзеў нейкімі вялікімі вачыма, злоснымі і сухімі...— Ну, добра... Вот што, Вялічка... Няма мне тут часу разбірацца, што там у каго цяпер муляе... Калі дагэтуль не разабраліся... Даю табе падумаць да другога панядзелка. У панядзелак я буду. Прыйдзеш, скажаш. Не хочаш — дзяржаць не буду. На ўсе чатыры стараны... Вот бы хацелася табе даць пад зад, работнік быў мой, называецца... Не любіў ты Унука, прама скажы... Ну, добра... Пацыдзі ў панядзелак... Паехалі, хлопцы!..— крыкнуў ён уперад да кабінкі і сам на хаду ўскочыў у кузаў.

Яго падхапілі пад пахі браты Канэцкія.

Падбярэцкі трос яму, Андрэю, з будкі кулаком — адным, пасля другім...

З участка ён ішоў старой, зарослай дзірваном вясковай дарогай ля сіласных ям — на ферму. Парожнія сіласныя ямы абсохлі зверху пасля дажджу і здалёку былі белыя, што апырсканыя глінкай.

Выйшаўшы на поле, ён пачуў, што ад трактара аж закладае вушы. Трактар ішоў з гары ад фермы ўдоўж Лазы, акручваўся ля лесу, ля самага ўчастка, і зноў поўз пад ферму: хлебястаў на чым свет стаіць. Ззаду за ім пераварочваліся чорныя скібы і, вільготныя, блішчалі на сонцы.

Рускі мяшаў пад жыта: з кабіны была відаць яго галава — высоўваўся, азіраючыся назад на плугі.

Над трактарам і над раллёй лёталі вароны...

І пахла вільготная пасля дажджу зямля — хлебам, травой і расой.

Пахла сырой сцяной, ля якой дома ў хаце спала Верка; пахла натруджанымі Балюцінымі рукамі — лёнам і дурнап'янам...

На ферме ля студні, было відаць, стаяў калгасны «казёл» з сівым верхам; ля яго хадзіў Гіра. Пасля з-за свірна выйшаў Юбіцкі, падышоў да Гіры, і яны ўдвух сталі глядзець на яго, Андрэя,— чакалі.

З фермы сюды, насустрэчу, бег, форскаючы, рассядланы конь Юбіцкага, як Сібірак,— на спіне ў яго былі знаць цёмныя мокрыя плямы, дзе ўпівалася сядло. Юбіцкі, відаць, многа аб'ездзіў за раніцу.

Конь бег дарогай на поле, натапырыўшыся і задзёршы галаву,— чуў блізка чужога чалавека. Збегшы на старыя, зарослыя белай дзяцельніцай загоны, уступіў дарогу — форскаў, нюхаючы траву, тады ўпаў з разбегу на калені, закруціў галавой, атросся, паваліўся на бок і стаў качацца па дзяцельніцы па расе.

На сонцы блішчалі ў яго на нагах вымытыя падковы — тысцей расы.

З фермы Андрэй згледзеў на сваім двары Балюту — стаяла ў белай хустцы ля варот.

Напярэймы яму — гародам па старой сцежцы — бегла дачка.

Пасвятлела неба.

Расцягнуліся сівыя круглыя тулягі. На ўсходзе над лесам растала чырвань — усё роўна як там за гэты час абклявалі сарокі рабіну.

«Прыйшло ж у галаву...» — падумаў Андрэй.

На полі ля дарогі качаўся рассядланы конь, аж грукала цвёрдая зямля.

*1970*

## КАМЕНТАРЫІ

### Лонва

Упершыню — «Полымя». 1964, № 4, 5.

Друкуецца па кн.: Пташнікаў І. Выбраныя творы: У 2-х т. Мн.: Маст. літ., 1980.

Перакладалася на рускую, польскую і славацкую мовы.

### Мсціжы

Упершыню — «Полымя». 1970, № 11, 12.

Друкуецца па кн.: Пташнікаў І. Выбраныя творы: У 2-х т. Мн.: Маст. літ., 1980.

Перакладаўся на рускую і чэшскую мовы.

## ЗМЕСТ



**Пташнікаў І.**

П 87 Збор твораў. У 4 т. Т. 3. Аповесць; Раман.— Мн.: Маст. літ., 1992.— 512 с.

ISBN 5-340-00815-0.

Пташников И. Собрание сочинений. Т. 3. Повесть. Роман.

Трэці том Збору твораў Івана Пташнікава склалі аповесць «Лонва» і раман «Мсціжы».

Аповесць «Лонва» прысвечана пасляваеннаму аднаўленню.

«Мсціжы» — раман пра сучасную беларускую вёску. Галоўны герой рамана Андрэй Вялічка, як і спрадвеку яго бацькі і дзяды, працаваў на зямлі. любіў яе, бараніў у Вялікую Айчынную вайну, і ён не можа кінуць зямлю, бо звязаны з ёй назаўсёды.

І «Лонва», і «Мсціжы» — гэта глыбокі роздум пра зямлю і прыроду, нашу рэчаіснасць, пра самую сутнасць чалавека, пра яго жыццё ў наш час, як ніколі бурны і складаны.

П $\frac{4702120201-020}{М302(03)-92}$ 102—91 ББК 84 Бел 7

*Литературно-художественное издание*

ПТАШНИКОВ ИВАН НИКОЛАЕВИЧ

**СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ В ЧЕТЫРЕХ ТОМАХ**

**ТОМ ТРЕТИЙ**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

ПТАШНІКАЎ ІВАН МІКАЛАЕВІЧ

**ЗБОР ТВОРАЎ У ЧАТЫРОХ ТАМАХ**

**ТОМ ТРЭЦІ**

Рэдактар *М. І. Котаў.* Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін.* Тэхнічны рэдактар *Г. П. Тарасевіч.* Карэктары *І. М. Паланейчык, Л. М. Маслоўская.*

**ІБ №** 3599. Здадзена ў набор 28.03.90. Падп. да друку 18.02.91. **Фармат** 84×108$^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 26,88+0,42 укл. **Ум.** фарб.-адб. 29,40. **Ул.-выд.** арк. 30,45. Тыраж 4000 экз. Зак. 282. Цана 2 р. 50 к. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

Надрукавана ў друкарні імя Ф. Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220067, Мінск, Жодзінская, 18. Зак. 993.